


Бібліятэка Бацькаўшчыны
Міжнароднае грамадскае аб’яднанне
«Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Кніга 21

Лявон Юрэвіч

# ЖАНРЫ

Мінск
«Кнігазбор»
2013

УДК 821.161.3.09
ББК 83.3(4Беи)
Ю64

*Серыя заснавана ў 2004 годзе*

Навуковае рэдагаванне *Наталлі Гардзіенкі*

На вокладцы выкарыстаны здымак, зроблены *Янам Булгакам.*
Арыгінал здымка захоўваецца ў калекцыі БІНіМа.

**Юрэвіч, Л.**
Ю64 Жанры / Лявон Юрэвіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 528 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны ; кн. 21).

ISBN 978-985-7057-28-3.

Кніга архівіста з ЗША Лявона Юрэвіча «Жанры» (21-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») з’яўляецца своеасаблівым працягам яго папарэдніх даследаванняў, прысвечаных эміграцыйнай літаратуры. У новым выданні сабраныя тэксты (як друкаваныя раней у розных перыёдыках, гэтак і непублікаваныя), якія раскрываюць асаблівасці некаторых літаратурных жанраў. Тут прадстаўлены травелогі, біяграфіі, пераклады, гумарыстычна-сатырычныя творы, літаратурная крытыка на эміграцыі — тыя групы твораў, якім раней надавалася мала ўвагі ў даследаваннях. Кніга прапануе чытачам як новыя звесткі і аналіз асобных аспектаў эміграцыйнай літаратуры XX ст., гэтак і матэрыялы да літаратурнага побыту беларусаў у ЗША і Канадзе.

**УДК 821.161.3.09**
**ББК 83.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-28-3**

# ПРАДМОВА

*«Усё, што не проза, тое вершы, а ўсё, што не вершы, тое проза»*, цешыўся мальераўскі Журдэн. Падобна яму, большасць даследчыкаў эміграцыйнай (дый не толькі) літаратуры пішуць выключна пра паэзію ці прозу.

Насамрэч літаратура і звязаныя з ёю сюжэты нашмат цікавей, каларытней.

Сабраныя пад адную вокладку ў гэтай кнізе артыкулы — як друкаваныя раней, гэтак і новыя — працягваюць тэму жанравай разнастайнасці беларускай літаратуры, у першую чаргу эміграцыйнай. Да абазначаных раней гісторыка-міфалагічнай прозы[1], мемуарыстыкі (у тым ліку некралогаў як пасмяротных успамінаў)[2], драматургіі[3], эпісталярыуму[4], далучаюцца травелог, пераклад, біяграфія, фельетон і літаратурная крытыка.

Паколькі заяўленыя тэмы тэкстам артыкулаў аніяк не вычэрпваюцца, асаблівая ўвага нададзеная бібліяграфіі: у аглядных раздзелах — такіх, як травелог і пераклады, яна падаецца ў спасылках; у раздзелах, прысвечаных асобным сатырычным і гумарыстычным друкам і творам ды літаратурнай крытыцы, яна пададзеная асобна напрыканцы.

Чытач мусіць падрыхтавацца да значнай колькасці цытатаў, што выклікана самім характарам матэрыялу: ці то архіўным, які ўпершыню ўводзіцца ва ўжытак, ці то выдрукаваным у эміграцыйных перыёдыках і кнігах, якія з-за сваёй незахаванасці, несабранасці ды рэдкасці не дазваляюць проста адаслаць да нумара або старонкі пэўнага выдання.

---

1 Юрэвіч, Лявон. Камэнтары: Літаратуразнаўчыя артыкулы. Менск, 1999. — 301 с.

2 Юрэвіч, Лявон. Мэмуары на эміграцыі: крыніцазнаўчае дасьледаваньне. Мінск, 2005. — 229 с.

3 Юрэвіч, Лявон. Беларускі тэатар і драматургія на эміграцыі // Урачыстасьць у садзе. Мінск, 2007. С. 491–522.

4 Юрэвіч, Лявон. Шматгалосы эпісталярыум: Гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. Мінск, 2012. — 667 с.

# ТРАВЕЛОГ

## МОВАЮ ТРАВЕЛОГА[5]

*Ніколі не павінен ніводзін выяжджаць у тыя старонкі, у каторых шырэйшага эміграцкага руху ніколі не бывало, як, напрыклад, да Азіі, Афрыкі, Гонолюлю й на іншыя астравы, бо ў такой старане, пасярод саўсім чужых людзей, ня маючы жывой душы жычлівай, да каторай мог бы, як да свайго, зьвярнуцца ў большай якой бядзе, чэлавек марна згіне. Хто даўся ўгаварыць сябе да такога нейкаму агэнту або апісаньню якой кніжкі, той ашалеў хіба, бо прыгаворвае сябе на блізка што пэўную няволю або на сьмерць ад благога паветра ці непасільных варункаў працы й безьміласэрнага зьдзірства.*

«Рады для эмігрантоў, каторые едуць у Амэрыку, а такжэ размовы беларуско-англіцкіе», 1912

*Адкрываць ня ўмею ніякіх Амэрык я,*
*Хоць і дух гартаваў у трапічнай Амэрыцы.*
*Але ў тое, што Сьвет наш — яна, Амэрыка,*
*І ня верылася, і ня верыцца…*

Уладзімір Дудзіцкі

Вандроўнік, уцякач, турыст, эмігрант, пілігрым, выгнанец[6]. Кожны з іх у пэўны момант свайго жыцця — добраахвотна ці пад прымусам — апынаецца ў статусе чужынца, *іншага*, што

[5] Дзякую Змітру Саўку за тлумачэнне правапісу гэтага не зафіксаванага ў нашых слоўніках тэрміна.

Тэкст быў упершыню надрукаваны ў: Запісы БІНіМ. № 32. Нью-Ёрк — Менск, 2009. С. 8–56. Тут публікуецца з абноўленымі каментарамі.

[6] Варта адцеміць, што найноўшы расійскі слоўнік (Юдина, Т. Миграция: словарь основных терминов. Москва: РГСУ, 2007. — 427 с.) вылучае асобна турыстычную эміграцыю. Так што турыст, выглядае, ходзіць аднымі сцежкамі з эмігрантам.

заўсёды мае негатыўнае адценне. Як заўважае Юлія Крыстава, *«The foreigner is the other of the family, the clan, the tribe. At first he blends with the enemy. External to my religion, too, he could have been the heathen, the heretic. Not having made an oath of fealty to my lord, he was born on another land, foreign to the kingdom or empire»*[7]. Усе яны даволі рана, бадай ад самых першых крокаў *шляху* сутыкаюцца з аднолькавымі праблемамі: мова, настальгія, пошук сябе і сабе падобных, спроба разумення наваколля.

Вандроўка — гэта рух. Але рух не толькі фізічны — ён адначасна і метафарычны. Рух ад аднаго геаграфічнага месца да другога або ад адной культуры да іншай — інакшай. Аповед пра падобнае падарожжа, аповед пра месца і адрознасць у розных аўтараў мае тых самых герояў: *Я* і *не-Я*.

Натуральна, аўтар можа дазволіць сабе быць звычайным турыстам, падрабязна занатоўваючы маршруты каля фасадаў помнікаў з каляровых даведнікаў. Але тады метамарфозы не адбудзецца, і ён выйдзе з навабачанага горада такім самым, якім увайшоў у яго, не спазнаўшы ні тубыльцаў, ні самога сябе. Нават калі гэта будзе Святы горад.

У заходняй культуры сюжэт зыходу з Егіпта ёсць адным з першасных і па-філасофску найбольш значных падарожжаў. Як піша даследніца Бібліі Галіна Сініла, *«паводле словаў Усявышняга, кожны павінен адчуць Зыход у сваім лёсе, зразумець, што гэта ён кожны год у свята Пэсах не проста ўспамінае старажытную гісторыю, а непасрэдна пражывае той Зыход і здзяйсняе свой выхад з “дому рабства”»*[8].

Падарожжа ў Іерусалім Уладзімір Сядура[9] апісаў у напаўдакументальным-напаўмастацкім нарысе «На Сьвятой Зямлі»[10], які Арнольд Макмілін[11] невытлумачальным чынам

---

7 *«Чужынец ёсць чалавекам іншай сям’і, клану, племені. Найперш ён стасуецца з ворагам. Таксама, не быўшы вернікам маёй рэлігіі, можа стацца, што ён язычнік, ерэтык. Ён не прыносіў клятвы вернасці майму гаспадару, ён нарадзіўся на іншай зямлі, чужой каралеўству або імперыі»*. (Kristeva, Julia. Strangers to Ourselves. London, 1991. P. 95.)

8 Сініла, Г. Біблія як феномен культуры і літаратуры. Ч. II. Мінск, 2004. С. 215.

9 **Уладзімір Сядура** (псеўданім **Глыбінны,** 11.12.1910, Мінск — 14.03.1997, Трой, Нью-Ёрк, ЗША), пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг.

10 Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост. Мінск, 2007. С. 263–315.

11 **Арнольд Макмілін** (нар. 21.06.1941), брытанскі славіст, даследнік беларускай літаратуры.

ахарактарызаваў як *«надзвычай суб'ектыўны расповед пра падарожжа Святой Еўфрасінні Полацкай у Палестыну ў XII стагоддзі»*, дадаўшы, што *«нашмат цікавейшы, напрыклад, Арлоў»*[12]. Насамрэч, у гэтым творы Сядура расказвае пра ўласнае падарожжа, здзейсненае ў 1966 г., толькі мянуе сябе Усеваладам Ціхановічам:

*«Усевалад Ціхановіч, дарма, што змарыўся і ўжо ног пад сабою ня чуў, быў, аднак, дужа ўзрадаваны, што тое, што ён дагэтуль знаў адно з словаў Сьвятое Кнігі, цяпер набыло гэткіх жыцьцёвых і рэальна-адчувальных фарбаў і рысаў, што яму ўжо часінамі пачало здавацца, што ён пабываў сучасьнікам тых вызначаных на вякі падзеяў. Бліжэйшае азнаямленьне з падзеямі Хрыстовага часу гэтак уразіла яго, што, здавалася, зьляцеў ужо й напластаваны за стагодзьдзі пыл, і пад ім яны зноў зазіхацелі, набылі новае вагі й вызначальнасьці на ўсю рэшту ягонага жыцьця.*

*Па-новаму запраменіўся ягоны твар. На ім узыгралі сьляды той таемнай узвышанасьці й адухоўленасьці, якой значыліся твары ўсіх паломнікаў на гэтым сьвяцейшым з усіх сьвятых месцаў. І ён адно паскорваў свае крокі, робячы іх шырэйшымі, каб ня быць апошнім у натоўпе паломнікаў, якія сьпяшаліся пасьпець за Ўладыкаю, каб пачуць ягоныя тлумачэньні й не прапусьціць ніводнага сказу. Ён прагна лавіў кажнае слова, стараючыся распазнаць за кажнай тлумачанай рэчай глыбейшы сэнс павучальнае гісторыі сьвятога жыцьця й вучэньня, якому гісторыя чалавецтва за вякі гэтак нічога роўнага ўжо й не стварыла. І Ўсевалад бязьмежна радаваўся й пачуваў сябе як ні трэба лепш шчасьлівым і поўным новых надзеяў»*[13].

Зрэшты, трэба прызнаць: аматары падобнай прозы ёсць. Нездарма ж, абраўшы з тузіна кірункаў жыццядзейнасці героя, назву свайго агляднага артыкула Леанід Маракоў павязаў менавіта з гэтым творам[14]. Такое стаўленне, што праўда, можна зразумець. Сяргей Гаранін у даследаванні, прысвечаным

[12] Макмілін, А. Беларуская літаратура дыяспары. Мінск, 2004. С. 175. Імя Ефрасінні, што праўда, згадваецца — на самай першай старонцы твора Уладзіміра Сядуры.

[13] Адзін Госпад, адна Вера, адзін Хрост… С. 276.

[14] Маракоў, Л. Уладзімір Сядура: шляхі беларускага паломніка // Полымя. 2000. № 2. С. 189–201.

гісторыі беларускай паломніцкай літаратуры, піша, што функцыянальная прызначанасць хаджэнняў надта ж спецыфічная: гэта і павучальнае *душакарыснае* чытанне, і своеасаблівы праваднік для сапраўднага падарожжа, і сцверджанне пэўнага стылю, модусу жыцця, і нават справаздача вандроўніка[15]. Калі зыходзіць з азначэння, датычнага старажытных твораў, аповед Уладзіміра Сядуры сапраўды можна дастасаваць да жанру хаджэння[16].

Не атрымалася выйсці па-за турыстычныя межы і аўтаркам нарыса «Па Сьвятой Зямлі» — Барбары Вержбаловіч[17] і Галіне Ганчарэнцы[18]. У іх аповедзе меней прадказальнай *духоўнасці*, але ж і памер газетнага артыкула таксама меншы ў параўнанні з аповедам Уладзіміра Сядуры:

*«Сьвятая Зямля прыцягвае тысячы паломнікаў-турыстых штогод. Аўтары гэтага артыкулу наведалі Сьвятую Зямлю на каталіцкі Вялікдзень. Цяжка перадаць тую веліч пачуцьцяў, хваляваньняў і ўражаньняў, якія адчувае чалавек, упершыню ступіўшы на яе. На жаль, кароткае турыстычнае падарожжа дае нам магчымасьць зрабіць толькі беглы агляд бачанага»*[19].

---

15 Гаранін, С. Шляхамі даўніх вандраванняў: гістарычна-тэарэтычны нарыс развіцця беларускай паломніцкай літаратуры XII–XVI стст. Мінск, 1999. С. 27.

16 Дарэчы, паломніцтва як з'ява прысутнічае ў жыцці і сённяшняй эміграцыі. 5 верасня 1988 г. (падчас 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі) у прошчы паўночнаамерыканскіх пакутнікаў *(Martyr's Shrine in Midland, Ontario*, дзе ў парку стаяць крыжы ды іншыя помнікі, створаныя прадстаўнікамі розных нацыянальнасцяў — палякаў, італьянцаў, харватаў, летувісаў, немцаў, славакаў ды інш.) з ініцыятывы Раісы і Вінцэнта Жук-Грышкевічаў на сабраныя грамадою грошы паўстаў Беларускі Памятны Крыж (у форме крыжа Ефрасінні Полацкай з мемарыяльнай шыльдаю на пастаменце), высвечаны айцом Аляксандрам Надсанам, апеты пазней Наталляй Арсенневай у вершы «Крыж». Ад таго часу паломніцтвы ў прошчу адбываюцца штогод. Падрабязней: Жук-Грышкевіч, Р. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, Канада, 1993. С. 710–726.

17 **Барбара Вержбаловіч** (1901–1967), оперная спявачка.

18 **Галіна Ганчарэнка** (Грыбава, Руднік; нар. 1931, Бабруйск), грамадскакультурная дзеячка, журналістка, перакладчыца, пляменніца Барбары Вержбаловіч.

19 Б. В. і Г. Г. Па Сьвятой Зямлі // Бацькаўшчына. 1959. № 18 (454). С. 2.

І замест паэтычных развагаў у аўтара атрымліваецца адно рыфмаванае:

*Я прыбыў з турыстычнаю групаю*
*На Сьвятую Зямлю.*
*Я паволі за групаю тупаю,*
*Радасьць верай кармлю*[20].

Напэўна, наяўнасць у травелогу канфлікту *Я* ды *не-Я* ёсць адным з асноўных запатрабаванняў, каб тэкст адбыўся, але не адзіным.

У бясконцым падарожжы па Беларусі быў Юрка Віцьбіч[21] — ад аднаго з першых сваіх апавяданняў[22] у літаратурным дадатку «Вясна» бабруйскае газеты «Камуніст» — «Ян Непамуцэн»: на раздарожжы старога гасцінца і прысадаў, што вялі да палаца маёнтка, здавён стаяла статуя Яна Непамуцэна, якую гаспадары маёнтка прывезлі з Італіі. У апавяданні ідзецца пра тое, што бачыў цягам стагоддзяў на гэтым месцы Ян Непамуцэн[23], аж пакуль статую не знішчылі камсамольцы (са словаў Віцьбіча, рэдактар літаратурнага дадатка Міхась Лынькоў змяніў камсамольцаў на буй-вецер[24]). Падарожнічаў аўтар і ў аповесці

[20] Крушына Р. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 100.

[21] **Юрка Віцьбіч** (сапр. Серафім Шчарбакоў, 02(15).06.1905, Веліж Віцебскай губ. (сёння Расія) — 06.01.1975, Саўт-Рывер, ЗША), літаратар, публіцыст, краязнаўца, грамадскі дзеяч.

[22] Чамусьці ва ўсіх публікацыях, датычных творчасці Віцьбіча, паўтараецца сцверджанне, што першым апавяданнем пісьменніка было «Як загінуў Ясь» («Млынарова рука»). Сам жа Віцьбіч пісаў наступнае: *«Часапіс «Узвышша» стаўся першым беларускім часапісам, у якім у № 9–10 за 1929 год я надрукаваў сваё апавяданьне «Як загінуў Ясь» — дагэтуль я друкаваўся ў літстаронках і літаратурных дадатках розных газэтаў»* (Юрэвіч, Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 336).

[23] Што цікава пацвярджае неаднойчы выказанае Уладзімірам Арловым, аўтарам апавядання «Маналог святога Пётры», пачуццё творчай блізіні гэтага да эміграцыйнага пісьменніка.

[24] Так патлумачыў змены Юрка Віцьбіч у накідах уласнае бібліяграфіі (Архіў БІНіМу), зробленай на просьбу Станіслава Станкевіча для юбілейнага артыкула ў газеце «Беларус» (Станкевіч, С. Сорак год літаратурнай дзейнасьці Юркі Віцьбіча // Беларус. № 151. 1969. С. 3). У лісце ж да Ізыдара Гуткоўскага (23.03.1957) ён піша наступнае: *«Нават вецер паваліў у мяне й здрушчыў апяяную мной статую Яна Непа-*

«Ціхая Руба»[25], што распачынала першы нумар новага часопіса «Полымя Рэвалюцыі». Назва паходзіць ад парогу на Дзвіне, героі аповесці — плытагоны. У часе іхнае пуцявіны пададзена апісанне ўсёй ракі ад вытокаў да сутокі, ад Бокаўскага лесу да Рыгі, з усімі шматлікімі парогамі.



Р. Ф. С. С. Р.

ОТДѢЛЪ

Контрольно-пропускн. пункт.

при Оршанск. Исп. Ком.

26/VII дня 918 г.

№ 5897

г. Орша, Могил. губ.

Пропускъ въ оккуп. мѣстн.

Симъ удостовѣряется, что къ выѣзду въ Могилев

Николай Еремеев

съ моей стороны препятствій не встрѣчается, что подписью и печатью удостовѣряется.

Завѣд. отд. контрольно-пропуск. пункт.

Секретарь

*Пропуск у «акупаваную мясцовасць». Орша, ліпень 1918 г.*

---

*муцэна (апавяданьне «Ян Непамуцэн»), каб яна, прыдарожная сьведка стагодзьдзяў нашае гісторыі, ня сталася экспанатам антырэлігійнага музэю. І каб падкрэсьліць, што вінавайцам гэтага здарэньня зьяўляецца вылучна вецер, я ўзяў усё ж сымбалічнае ў дадзеным выпадку мотто з Эміля Вэрхарна: Не спаткалі часам ветру / На растанках ста шляхоў?»* (Юрэвіч, Л. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 366).

25 Віцьбіч, Ю. Ціхая Руба. Зь дзёньніка Андрэя Шабеты. (Памяці мастака Я. Загароўскага) // Полымя Рэвалюцыі. № 1. 1932. С. 7–48. Плытагоны, відаць, былі вядомыя Віцьбічу не адно з чутак; нездарма ж яны ў цэнтры аповеду «Грыміць Перагрыж» (Узвышша. № 3. 1930. С. 66–74), названым паводле самага небяспечнага парогу на Дзвіне, дзе герой у часопісным варыянце гінуў на здрушчаным плыце, а ў зборніку «Формула супраціўленьня касьцей» (Менск, 1937) ратаваўся — дзякуючы ціску рэдактара кнігі Мікульскага, ды твору «Эжэн Дэлякруа» (Полымя Рэвалюцыі. № 8. 1935. С. 91–94).

Удзельнік шматлікіх экспедыцыяў[26], Віцьбіч ведаў Беларусь не толькі з «Геаграфіі» Аркадзя Смоліча. Гэта ўжо апынуўшыся ў ЗША, ён будзе «вандраваць», амаль не пакідаючы Саўт-Рывера, невялічкага гарадка ў штаце Нью-Джэрсі — і вынікам тых падарожжаў станецца нарыс «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман»[27], у якім згадваецца больш за 500 назваў гарадоў, мястэчак, вёсак, гарадзішчаў, рэчак, азёраў, узвышшаў.

Важнасць гэтага, як назвалі б сёння, віртуальнага падарожжа з боку ідэі *нацыянальнай* была настолькі значнаю, запатрабаванасць гэтулькі вялікаю, што напрыканцы 1960-х — пачатку 1970-х гг. на радыё «Свабода» ў аўтарскай рубрыцы «Наша спадчына прамаўляе» чыталіся Віцьбічавы скрыпты, паўсталыя на сюжэтах раздзелаў нарыса, а ў газеце «Новое Русское Слово» друкавалася нізка «По городам и весям Белоруссии»[28].

Дарэчы, менавіта гэтыя рускамоўныя публікацыі спрычыніліся да ўспрыняцця Віцьбіча на Бацькаўшчыне як *«псіхічна слабога чалавека»*: *«З міфічнасці-мройнасці ён пераходзіў*

---

[26] Адна з вандровак, здзейсненая ў Крошын, знайшла свой адбітак у нарысе «Каб я каршуном радзіўся… (Да 50-годзьдзя ад дня сьмерці Паўлюка Багрыма)», надрукаваным у «Літаратуры і мастацтве» 25 студзеня 1941 г. Пра іншыя свае падарожныя клопаты Юрка Віцьбіч згадваў у лісце да архіепіскапа Васіля ад 09.07.1968: *«У часе вайны мне давялося ўдзельнічаць у аднаўленьні паруганага бальшавікамі вядомага Спаса-Еўфрасіньнеўскага жаночага манастыра ў Полацку, як і садзейнічаць перанясенью Ейных мошчаў зь Віцебску ў Полацак. Перш за ўсё мы паклапаціліся, каб да манастыра зьехаліся з усіх бакоў Віцебшчыны ягоныя старыя манашкі, што цудам захаваліся ад бальшавіцкага перасьледу. Адначасна запрасілі старога гераманаха. І калі потым маліліся ў адкрытае царкве Сьвятога Спаса, пабудаванае яшчэ дойлідам Іванам за часы Сьвятое Еўфрасіньні-Прадславы, маліліся ў часе ўрачыстага набажэнства, што адбывалася паводле манастырскага ўставу, дык не захоўвалі адзін ад аднаго сваіх сьлёзаў»* (Архіў БІНіМу).

[27] Віцьбіч, Ю. Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман. Мюнхэн, 1956. — 96 с.

[28] 1. «Запалили старый Кричев». 2. «Едэл мит зэйнэм фидэл». 3. Запрятала Витьба Еосафатов камень. 4. Плачет по своим сынам Белоруссия // Новое Русское Слово. 7 апреля 1963; 1. О чем кричат камни. 2. Нельзя уничтожить народ. 3. «Всех нас не расстреляете». 4. Там, где ревет Черт // Новое Русское Слово. 11 августа 1963; 1. Последний след дулебов. 2. Там, где боролись радимичи // Новое Русское Слово. 4 декабря 1966; 1. Почему ты не бросилось на них, Полуозеро? 2. Молитва в поруганной Белой церкви // Новое Русское Слово. 10 ноября 1969.

*у спекулятыўнасць, рабіўся парадаксальным, непрадказальным (у апошнія гады пачаў пісаць па-руску і супрацоўнічаць з рускімі эміграцыйнымі выданнямі)»*[29], піша беларускі даследнік. Бязглуздасць закідаў, аўтарская зашоранасць настолькі відавочныя, што і не патрабуюць, быццам, адказу, але ўсё ж варта зацытаваць рэцэнзію з уплывовага рускамоўнага часопіса «Современник», каб прадэманстраваць, як расійскі эмігрант успрыняў Віцьбічаву кнігу «Мы дойдём»[30], складзеную з газетных публікацыяў:

*«Небольшая книжка, которая имеет большое значение для русского читателя — так вкратце можно резюмировать общее впечатление от сборника публицистики выдающегося белорусского писателя Юрия Стукалича (1905–1975).*

*Ибо будучи проникнута глубоко национальным белорусским содержанием, чувствами, продиктованными осознанием и трогательным переживанием истории Белоруссии, ее традиций, ее литературы и искусства, книга написана по-русски, и уже тем самым Юрий Стукалич апеллирует ею в первую очередь к читателю русскому.*

*Такого рода апелляция крайне важна с точки зрения знакомства и понимания того, что является белорусской национальной идеей, даже если понимание это и не станет сразу же (в силу многих причин) отчетливо ясным до конца. Темперамент политического публициста, художественный талант, прекрасная эрудиция — качества, которые наглядно демонстрирует Юрий Стукалич, невольно увлекут читателя уже сами по себе, хотя, может быть, это и не самое главное в данном случае.*

*Главное — та могучая прививка против духа великодержавного шовинизма, которую гарантирует чтение публицистики*

---

[29] Пашкевіч А. Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры. (Проза замежжа XX стагоддзя.) Мінск, 2002. С. 113. Не магу паўстрымацца, каб не адцеміць, што да сваіх абвінавачанняў Віцьбічу — супраца з фашыстамі, антысемітызм, адсутнасць пісьменніцкага таленту, плагіят, нарэшце, п’янства — віцебскі журналіст Аркадзь Падліпскі, аўтар артыкула «Ариец с берегов Двины. О чем умалчивают биографы Юрки Витьбича» (Віцебскі Рабочы. 14 чэрвеня 1995) таксама залучае і артыкулы ў нью-ёркаўскай рускамоўнай газеце.

[30] Стукалич Ю. Мы дойдем! Очерки, статьи, фельетоны. Нью-Йорк, 1975. — 154 с.

*Ю. Стукалича. Что греха таить? Формы шовинистического сознания в нас порой очень глубоко и живут в самых причудливых модификациях»*[31].

Вяртаючыся да тэмы травелога, трэба зазначыць, што жанр падарожжаў у беларускай літаратуры, з аднаго боку, мае доўгую гісторыю (дастаткова згадаць тут некаторыя знакавыя тэксты: «Жыціе Еўфрасінні Полацкай», «Перагрынацыя, або Паломніцтва Ясна Асветленага Князя Ягамосьці Мікалая Крыштофа Радзівіла ў Святую Зямлю», «Авантуры майго жыцця» Саламеі Пільштыновай, «Мае падарожжы» Ігната Дамейкі, «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» Паўла Шпілеўскага, «Вандроўкі па маіх былых ваколіцах» Уладзіслава Сыракомлі[32]), адыграў важную ролю ў станаўленні мадэрнізму на пачатку ХХ ст.[33]. З другога боку, відавочная і адсутнасць увагі да гэтага жанру ў сучасным айчынным літаратуразнаўстве, што ў першую чаргу выяўляецца ў нераспрацаванасці тэрміналогіі.

Таму адразу адцемім, што ў прапанаваным тэксце тэрмін «травелог» ужываецца ў значэнні «аповед пра падарожжа».

Трэба прызнаць, што травелог — жанр нейкі неакрэслены, плыткі. Мы нібыта можам назваць так і мемуары, і гістарычную прозу: вандроўка ў мінулае. Фантастыка — таксама травелог:

---

[31] Дружинин А. Юрий Стукалич. Мы дойдем!: Очерки, статьи, фельетоны. Нью-Йорк, Фонд. Им. П. Кречевского, 1975 // Современник: Журнал русской мысли и национальной культуры. Торонто — Канада, 1977. С. 218–220. Зрэшты, каб даследнік эміграцыйнай прозы гэтую прозу чытаў, ён заўважыў бы, што Віцьбіч піша амаль тое самае ў прадмове да зборніка «Мы дойдем».

[32] Шырэй пра помнікі літаратуры падарожжаў: Беларуская энцыклапедыя. У 18 т. Т. 11. Мінск, 2000. С. 484–485.

[33] Як сцвярджае В. Максімовіч: *«Асаблівай увагі заслугоўвае спецыфічны жанр «хронікі», у межах якога працавалі, бадай што, усе творцы. Дастаткова прыгадаць падарожныя нататкі Цёткі, Ядвігіна Ш. […] Жанр хронік узнік у тыпалагічным рэчышчы аб'ектывісцкіх замалёвак сваёй эпохі, якія, аднак, засведчылі імкненне, цягу новага пакалення да індывідуальнага самараскрыцця. «Хронікі», як і эсэ, знаходзяцца ў цеснай карэлятыўнай сувязі з новым разуменнем чалавекам свайго месца ў свеце. Вось чаму новым «хобі» зрабіліся вандроўкі, стала відавочнай лучнасць з падзеямі, якія адбываліся не толькі дома, але і ў свеце»*. У кн.: Максімовіч В. Беларускі мадэрнізм: эстэтычная самаідэнтыфікацыя літаратуры пачатку ХХ стагоддзя. Мінск, 2001. С. 36.

THE RUSSIAN EAGLE
36 East 57th Street
New York

DINNER $2.50

Friday, November 28th, 1924

Buffet Russe — Half grape fruit

Clam chowder — Borscht
Consomme with rice

Shrimps Creole

Chicken, Chasseur
Shashlik Caucausian
Roast leg of veal

String beans — O'Brien potatoes

Salade Portugaise

Pear or apple — Russian Pastry
Chocolate, vanilla or fruit ice cream

Demi tasse — Coffee — Tea

SPECIALS

| | |
|---|---|
| Honey Dew melon | .50 |
| Royal squab, any style | 2 00 |
| Partridge, any style | 2 85 |
| Breast of guinea hen, Virginia | 1 85 |

*Меню з рэстарацыі «Рускі арол» у Нью-Ёрку. 1924 г.*

падарожжа ў будучыню. Мастацкая проза — і гэта травелог: *mind wonder*.

І ўсё ж травелог, якім ён азначаны троху вышэй, — адметны, самастойны жанр, што можа быць урэчаіснены ў форме дзённіка, эпісталярыя, нарыса, эсэ. Належыць ён да дакументальнай літаратуры, не мастацкай, хоць пэўная аўтарская вольніца прымальная, асабліва што да ўжывання асабістых імёнаў: нейкая маска ўсё ж мусіць захоўвацца. У травелогу падаюцца ўражанні ад спатканняў з людзьмі, месцамі, падзеі і здарэнні, а таксама пачуцці і думкі аўтара, выкліканыя гэтымі сустрэчамі. Істотным складнікам гэтага жанру з'яўляецца наратыў.

На эміграцыі стварылі ці мала нарысаў, зацемак, лістоўных аповедаў, якія льга аднесці да літаратуры вандраванняў і якія сёння ілюструюць крокі спасціжэння свету беларусам і сябе ў тым свеце[34]. Нездарма кнігі такіх розных і *розначасовых* эмігрантаў, як Івонка Сурвіла[35], Кастусь Акула[36], Рыгор Крушына[37], Уладзімір Сядура (Глыбінны), Аўген Калубовіч[38], Юры Весялкоўскі[39], Васіль Быкаў, Зянон Пазняк, маюць у сваёй на-

---

[34] Наследуючы такім знакавым працам пра падарожжы, як, да прыкладу, кніга Валянціна Грыцкевіча і Адама Мальдзіса «Шляхі вялі праз Беларусь» (Мінск, 1980), аўтар таксама вырашыў адмовіцца — збольшага — ад папулярызатарскага пераказу, які і спрашчае, і збядняе арыгінал, а таму наважыўся «пазлоўжываць» цытатамі (у тым ліку і іншамоўнымі). Да таго ж, цытаты ўзятыя з крыніцаў, доступ да якіх абмежаваны для чытачоў і даследнікаў.

[35] **Івонка Сурвіла** (дзяв. Шыманец, нар.11.04.1936, Стоўбцы), грамадская дзяячка, мастачка, старшыня Рады БНР ад 1997 г.

[36] **Кастусь Акула** (да эміграцыі **Аляксандр Качан**; 16.11.1925, в. Верацеі Дзісенскага пав. Віленскага ваяв. (сёння Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 29.01.2008, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч, пісьменнік.

[37] **Рыгор Казак** (псеўданімы: **Рыгор Крушына**, **Кастусь Рамановіч**, 13.12.1907, в. Бязверхавічы Слуцкага пав. (сёння Слуцкі р-н Мінскае вобл.) — 27.03.1979, Вашынгтон, ЗША), паэт, празаік, крытык, грамадскі дзеяч.

[38] **Аўген Калубовіч (**на эмігр. **Каханоўскі**, 05.03.1912, в. Ціхінічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ. (сёння Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл.) — 25.05.1987, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч, пісьменнік, гісторык.

[39] **Юры Весялкоўскі** (нар. 02.01.1924, в. Новы Сержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.)), грамадска-культурны дзеяч.

зве слова «дарога»[40]: у беларускай міфалогіі гэта сімвал сувязі з іншасветам, дзе падарожныя людзі — медыятары паміж *гэтым* светам і *тым*[41].

Даць невялікі першасны агляд травелога на эміграцыі, выявіць адметнасці, спецыфіку гэтага жанру і ёсць мэтаю артыкула.

Пасля Другой сусветнай вайны ўпершыню ў гісторыі краіны такая колькасць беларусаў *nolens volens* апынулася ў ролі вандроўнікаў. У лагерах *DP*[42] яны ў сваіх земляках напаткалі — з неразуменнем, спалохам, а часам і нянавісцю — чужых, што былі больш *не-Я* за спрадвечных насельнікаў Нямеччыны ці Аўстрыі[43]. Тыя, што выехалі, дастаўшы працу, пачуваліся па-сапраўднаму на свабодзе: *«...радуемся, што вырваліся зь лягеру «беларускага» [...]. Успамінаем аб Нямеччыне й пройдзеным-пражытым лягерным жыцьці як аб нейкай жудасьці, пасьля чаго маем супакой»*[44].

Да таго ж гэта быў не час занатоўваць уражанні ад новых месцаў, краявідаў, звычаяў, як і ў першыя гады пошуку грунту ў землях Англіі, Амерыкі, Францыі, экзатычных Аргенціны, Бразіліі, Аўстраліі, Новай Зеландыі. Бачанае калі і фіксавалася, дык хіба ў «Лістах у рэдакцыю» або ў лістах да знаёмых (тут жанр зрабіў сваё колца, бо пачынаўся ён у еўрапейскіх літаратурах менавіта з эпісталярыя), як, напрыклад, у паведамленні Пячэрскага пра падарожжа трох беларусаў з Трыеста да Велінгтана ў Новай Зеландыі, што ўзяло 1 месяц і 7 дзён:

---

40 Акула, К. Змагарныя дарогі. Таронта, 1962. — 583 с.; Крушына, Р. Дарогі. Нью-Ёрк, 1974. — 108 с.; Калубовіч, А. На крыжовай дарозе. Клыўленд, 1986. — 252 с.; Глыбінны, У. Вялікія дарогі (пра мінулае). БІНІМ, 1997. — 145 с.; Весялкоўскі, Ю. Няясна мроіліся новыя дарогі. Лёндан, 1997. — 141 с.; Быкаў, В. Доўгая дарога дадому. Мінск, 2002. — 539 с.; Пазняк, З. Дарога. Варшава — Вільня, 2007. — 430 с.; Сурвіла, І. Дарога: Стоўпцы — Капэнгаген — Парыж — Мадрыд — Атава. Менск: Радыё Свабода / Радыё свабодная Эўропа, 2008. — 140 с.

41 Беларуская міфалогія. Энцыклапедычны слоўнік. Мінск, 2004. С. 133.

42 *DP — Displaced Persons* — перамешчаныя асобы.

43 Гл. успаміны Наталлі Арсенневай у кн.: Юрэвіч, Л. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 257–258.

44 М-шка Я. Падарожжа ў Францыю // Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954). Мінск, 2004. С. 330.

*«Насельніцтва нас сустрэла вельмі добра. Усюды нас віталі, пакуль вязьлі да лягеру. Тут, у лягеры, таксама абыходзяцца з намі вельмі добра. Ежа таксама добрая — еш што хочаш і колькі хочаш. Атрымалі ўсе, хто ня меў, вопратку. Кажны тыдзень даюць кішанёвыя грошы па 2 фунты. Тут усё надта танна, напрыклад: касьцюм каштуе самы лепшы 12 фунтаў, а працоўны зарабляе 8 фунтаў на тыдзень, а ў лесе да 11–12 фунтаў, як працуе і сыботу. Кашуля пра нядзелю лепшай вартасьці 1 фунт. Дорага тут памешканьне, але толькі ў горадзе, а ў мястэчках дзешавей.*

*У лягеры нас вучаць ангельскай мове. І каб выйсьці зь лягеру да працы, трэба ведаць трохі па-ангельску. Для нас прывозяць кожны дзень кіно і раз на тыдзень ладзяць канцэрт. Учора рабілі ДП канцэрт, ад усіх нацыяў выступалі з танцамі і сьпевамі. Гэты канцэрт зьнялі на стужку і перадавалі па радыё»*[45].

Успрыняцце новых нязнаных краінаў клалася на адзіныя дасюлешнія веды — уласнай краіны, з якой усё і параўноўваецца аўтарам, і травелог гаворыць столькі ж пра яго самога і пакінутую Бацькаўшчыну, колькі пра навакольныя краявіды:

*«Наш транспарт адышоў з Аўгсбургу. За адну ноч мы праехалі Нямеччыну й апынуліся ў Аўстрыі. Цягнік пяўся штораз у гору, праходзячы шматлікія тунэлі: мы пераяжджалі Альпы на Брэнэрскім перавале на вышыні 3 тысячы мэтраў. Паабапал цягнуліся скалістыя ланцугі гор, на якіх часта «адпачывалі» хмары. Бурлівыя горныя патокі й рэкі часта крыжавалі нашу дарогу або шумліва беглі побач. Хутка ўехалі ў Італію. Краявід зьмяніўся. Горы цягнуліся таксама, аднак бакі іх былі бясплоднымі: наша сасна ня хоча на іх расьці.*

*Сёлы італійскія зрабілі на нас непрыемнае ўражаньне. Малыя з гліны, з цэглы, або з дошчак хаты, абсаджаныя вінаградам, маленькімі цытрыновымі, памаранчавымі, гарэхавымі дрэўкамі ды ўбогімі засевамі пры іх, выклікаюць пачуцьцё жалю. У мястэчках больш хат мураваных, шэрых і брудных, з плоскімі дахамі. Вялікія гарады звонку блішчаць раскошай, але побач з гэтым блізу ўсюды бруд і галеча.*

*Дзе-нідзе на палёх ляжаць радкамі снапкі (на нашую меру капы са тры) ячменю ці пшаніцы, там стог збожжа з наш*

[45] Лісты перасяленцаў. Беларусы ў Новай Зэляндыі // Бацькаўшчына. № 15 (3459). 18 жніўня 1949. С. 3.

*адзін воз, вунь, на двухкаловым высокім возе, запражаным аслом, як 3 тысячы гадоў таму ў Эгіпце, вязе гаспадар з капу снапоў, а там на полі малоцяць збожжа.*

*Тут няма ні хлявоў, ні такоў. Скаціна, калі дзе ёсьць (пераважна аслы й козы), трымаецца пад трысяцёвым дашкам або пад дрэўцам. Навокал зямля сьпечаная на попел, рэкі й ручаі зусім высахшы, расьліннасьць у гародзе і ў полі калі не паліваецца, то высыхае. Адны паўдзённыя дрэўцы ды вінаграднік трымаюць зяляніну. Лясоў тут няма. Людзі на вёсках абдзёртыя, брудныя й няхлюйныя, наўкола іхных хатаў страшэнны бруд і безладзь. У вялікіх гарадох людзі апранутыя па-эўрапейску, аднак на прадмесьцях ізноў галеча й бруд.*

*У Італіі існуюць нібы два сьветы: сьвет раскошы й пыхі, з аднаго боку, і сьвет галечы й цемры — з другога. Едучы ад Вэроны да Нэапалю, мы ўбачылі толькі пару коняў і, здаецца, са дзьвёх кароў, а ўсё толькі аслы маленькія, мулы, дзе-нідзе козы ды худыя, як жэрдкі, сьвіньні.*

*Садавіны й гародніны ўсюды шмат, аднак, апрача сьліў і гарэхаў, усе іншыя непаўнавартасныя: памідоры, напрыклад, прадчасна спаленыя сонцам, маюць ненатуральны смак. Надвор’е тут улетку сухое й цёплае, тэмпэратура да 45°. Дажджу ў Нэапалі, напрыклад, не было ўжо больш месяца й ня будзе яшчэ зь месяц. Усё перасыхае. Кажны беларус, які ўважаў свой край бедным, гледзячы на выпаленыя сонцам голыя горы Італіі, на іх карлаватыя дрэўцы, пераконваўся, які багаты яго край з морам жытніх палёў, зь непраходнымі лясамі, зь яго багатай дзікай і хатняй жывёлай, зь яго мерным і вохкім кліматам! І многія з нашых людзей, будучы ў Італіі, казалі: “Нічога не хацеў бы, каб толькі вярнуцца дамоў на сваю зямлю”»*[46].

Для сучаснага чытача, для даследніка эміграцыі падобныя падарожныя нататкі — часта адзіная крыніца інфармацыі[47] і нават простага сведчання прысутнасці беларусаў у краіне:

---

46 Малецкі. Па сонечнай Італіі. (Уражаньні з падарожжа ў Аўстралію) // Бацькаўшчына. № 15 (59). 18 жніўня 1949. С. 3.

47 На падставе падобных падарожных зацемак пазней паўставалі надзвычай каштоўныя публікацыі. Гл., напрыклад: Швэдзюк, М. Беларусы ў Афрыцы ў 1942–1948 гадох // Беларус. № 450. Студзень 1998. С. 4–5; Цяўлоўскі, Э. Пад пякучым сонцам: Беларусы ў Парагваі // Беларус. № 452. Сакавік 1998. С. 6–7.

*«Пераезд у Марока праходзіць даволі гладка, што, ясна, у вялікай меры залежыць ад разьбітнасьці праваднікa. Пераезд адбываецца ў паасобных вагонах, але даволі сьцесьнена, што асабліва вычуваецца ўначы. Сапраўднае прывольле пачынаецца на параплаве, дзе ўсе атрымоўваюць дастаткова месца, гігіенічныя ўмовы й добрую ежу. Да параплава трэ мець з сабою пэўную колькасьць ежы, бо ёсьць неабходнасьць дакармлівацца.*

*Перагляд рэчаў адбыўся толькі ў Марока пасьля выхаду з параплава, і то даволі павярхоўна. Усе прыехаўшыя наагул на гэты мамэнт ня скардзяцца. Багаж ідзе разам з пасажырам, і не было выпадку, каб згінуў.*

*Скрынкі трэба рабіць невялікія й моцныя, таму што адбываюцца частыя пераладаваньні. Асабліва моцны іспыт адчувае багаж падчас ладаваньня на параплаў і выладоўваньня. Колькасьць ручнога багажу не абмяжоўваецца, хаця на вялікую яго колькасьць адпраўляючыя ўлады глядзяць скоса. Вельмі вялікая колькасьць яго стварае невыгоду й самым пасажырам.*

*Падарожжа адбываецца хутка, бяз значных затрымак у дарозе, калі не здараюцца нечаканыя перашкоды. Праз мора з Гаўру плылі мы чатыры пары. Буры не было, таму ад гойдаўкі мала хто мучыўся. Найлепей пераносяць гойдаўку дзеці.*

*Такога гатунку эмігрантам, як Ды Пі, на параплаве даецца 3-я кляса, г. зн. агульная каюта, часта ў глыбокім труме. Незалежна ад паверху, усюды ёсьць сьвежае паветра, чыстае памешканьне, ахайную пасьцель і карэктныя да сябе адносіны параплаўчае службы.*

*Сапраўдным іспытам выхаванасьці зьяўляецца кармленьне пасажыраў у параплаўных сталоўках за агульнымі сталамі (стол прыблізна на 16 асобаў) смачнай, але строга нармаванай колькасна ежай на агульных паўмісках.*

*Паданая на стол ежа пераходзіць у поўнае веданьне прысутных за дадзеным сталом спажываючых пасажыраў, якія далей займаюцца ўжо распадзелам самі. І вось гэты «распадзел» часта зьяўляецца прычынаю зьяўленьня ў кэльнэра пры стале недвухзначнай усьмешкі, ад якой зьяўляецца моцнае жаданьне спусьціць асобу, выклікаўшую ўсьмешку, за карно.*

*З Казаблянкі аўтабусамі перавозяць Ды Пі на сталае месца пасяленьня. Жывуць у бараках. Гэта доўгія пакоі, дзе паасобныя сем'і адгароджваюцца коўдрамі або дзяружкамі. Марока перачывае так войстра жыльлёвы крызіс, што й такія*

*памешканьні зьяўляюцца вялікім дасягненьнем. Гэтак жывуць ДП у большых групах. Аднак ёсьць магчымасьці жыць на прыватных кватэрах.*

*Паволі ў Марока прыбываюць ДП розных нацыянальнасьцяў. Уладзіцца на фізычную працу вельмі магчыма, асабліва спэцыялістым, але атрымаць працу з памешканьнем ужо значна трудней. На канцылярскую працу ДП уладзіцца вельмі трудна, але, ведаючы францускую мову, працу можна здабыць і ў бюры.*

*Ёсьць ДП у Казаблянцы, Рабаце й больш глыбокай правінцыі. Дахтаром атрымаць афіцыйнае права практыкі немагчыма, дзеля гэтага неабходна атрымаць францускі дыплём і, акрамя таго, пераламаць нежаданьне тутэйшае мэдычнае палаты даваць права практыкі дахтаром-чужынцам.*

*Самы сярэдні заработак на будоўлі, які атрымліваюць ДП, гэта 9–10 тысяч франкаў месячна. Нежанаты можа жыць на гэтыя грошы зусім спакойна, сямейнаму — трудней.*

*Кажны на граніцы атрымлівае ўзамен за маркі дзьве тысячы франкаў. Грошы гэтыя трэба ашчаджаць у дарозе, бо яны тут вельмі прыдадуцца. Цэны тут наступныя: папяросы — ад 20 франкаў, амэрыканскіх папяросаў тут дастаткова, але яны каштуюць 60–80 франкаў, мяса — валавіна — 180 фр. клгр, сала 220 фр., рыба ад 20 фр., бульба 35–40 фр. клгр, буракі 25 фр. клгр, памідоры 15–20 фр. клгр, капуста 30 фр. клгр.*

*Нармаваныя прадукты: сала, маргарын, малако, хлеб, цукар, мука. Абутак і адзежа ў сотках франкаў, пачынаючы ад 200 (дзіцячы абутак). Цэны на ненармаваныя прадукты хістаюцца ў залежнасьці ад сэзону. Наагул беручы, уладзіцца й прахарчавацца тут можна лепш, чым у Нямеччыне. Галоўнае, што тут чалавек свабодны, попыт на працоўную сілу ёсьць, і доля чалавека залежыць ад яго самога, калі ён можа выконваць якую-колечы з патрэбных тут працаў. Выбар заняткаў вялікі.*

*Тутэйшы клімат для эўрапейца нічым асаблівым не загражае. Сонца грэе даволі моцна, але дзякуючы безупыннаму акіянічнаму ветру сьпёка надта не даймае. Аднак без прыкрыцьця галавы (шапак, капелюшоў або хустак) хадзіць не належыць, бо гэта канчаецца сонечным ударам, хаця й ня ў моцнай хорме. Зьмену клімату, у большай або меншай хорме, мусіць перахварэць. Аддаляючыся ад акіяну ўглыб Марока, эўрапейцу цяжэй жыць з увагі на цяжкі клімат.*



*Паштоўка Алеся Салаўя з Зальцбурга*

*У Казаблянцы ёсьць старая расейская эміграцыя, якая ў большасьці зьяўляецца «савецкімі патрыётамі». Характэрна, што ў Марока разам зь іншымі ДП трапіла пэўная група «этнічных» беларусаў, але ніякай нацыянальнай працы там пакуль што не праводзіцца дзеля адсутнасьці сьведамых і актыўных працаўнікоў. Калі й ёсьць там якія-небудзь «беларусы», дык яны поўнасьцю знаходзяцца пад расейскім уплывам»*[48].

Агульны настрой, відаць, большасці эмігрантаў у той час выказаў Алесь Салавей[49] у лісце да Вітаўта Тумаша[50]:

> *«Калісьці ў маленстве, вывучаючы геаграфію, я летуцеў аб замежных і заморскіх краінах, што паўставалі ў маіх уявах у поўнай велічы сваёй і красе, думаў пра стромыя Альпы, і найлепшым маім жаданьнем было пабачыць зманлівыя тады далёкія краіны, прыгажосьць іхнае прыроды й абвеяныя славаю помнікі іхнае мінуўшчыны. Сёньня я жыву каля тых самых, выпешчаных раней у думках, Альпаў. Але яны цяпер не прывабліваюць маёй увагі, і не цікавіць мяне краіна, у якой я жыву. Усё пахмурнае, нуднае й халоднае, і да ўсяго я абыякавы…*[51].

---

48 Шляхам жыцьця. № 11 (23). Лістапад 1947. Гл. таксама: Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 284–296.

49 **Алесь Салавей** (сапраўднае **Альфрэд Радзюк**, на эміграцыі **Альберт Кадняк**, 01.05.1922, в. Крысава Койданаўскага пав. (сёння Дзяржынскі р-н Мінскай вобл.) — 22.01.1978, Мельбурн, Аўстралія), паэт, журналіст, грамадска-культурны дзеяч.

50 **Вітаўт Тумаш** (20.12.1910, в. Спягліца, Вілейскага пав. Віленскай губ. (сёння в. Свяцілавічы Смаргонскі р-н Гарадзенская вобл.) — 27.04.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар, навуковец (скарыназнаўца).

51 Юрэвіч, Лявон. Камэнтары… С. 137.



*Кастусь Чабатар з сям’ёй*

Адмыслова напісаныя падарожныя нататкі, што пакінулі Уладзімір Сцяблевіч[52] ды Кастусь Чабатар[53], — лічаныя выняткі. Сцяблевіч, напрыклад, у прадмове да свайго травелога прызнаўся, што пісаў ён на замову рэдакцыі «Бацькаўшчыны»[54].

У параўнальна лепшым становішчы апынулася студэнцкая моладзь — у месцы, якое Эдвард Саід акрэсліў наступным чынам: *«Exile is the unhealable rift forced between a human being and a native place, between the self and its true home. […] I am speaking of exile not as a privleleged site for individual self-reflection but as an alternative to the mass institutions looming over much of modern life»*[55].

Выглядае, што і сама моладзь усведамляла тое, задумляючыся: а якія ж маюць магчымасці ў здабыцці ведаў і вандраванні па свеце аднагодкі на Бацькаўшчыне?[56] Ды і тамтэйшыя настаўнікі не забываліся нагадваць: *Le voyage forme*

---

52 **Уладзімір Сцяблевіч** — псеўданім **Уладзіміра Бакуновіча** (10.12.1926, в. Малыя Сцяблевічы Лунінецкага пав. (сёння Жыткавіцкі р-н Гомельскай вобл. — 23.05.1992, Дэтройт, ЗША), грамадскага дзеяча.

53 **Чабатар Кастусь** (20.06.1914, Даляцічы (сёння Наваградскі р-н Гродзенскай вобл.) — 1991), грамадска-культурны дзеяч.

54 У кн.: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары. Мінск, 2004. С. 342–380.

55 Said, E. The Mind of Winter: Reflections on Life in Exile // Harper’s. September 1984. P. 49, 54.

56 Запруднік, Янка. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1954 гг.). Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 2002. С. 118–119.

*la jeunesse*[57]. Для беларускіх студэнтаў эміграцыя — шэраг падзеяў і выпрабаванняў у Нямеччыне, Вялікай Брытаніі ды наогул у Еўропе — сталася адначасна метафарай і сімвалам шанцу, магчымасці, руху наперад.

Студэнты з Лювена аглядалі Лондан, Швейцарыю, Берлін, Парыж, Рым. Дзённік Янкі Запрудніка[58] цудоўна адбіў гэтае прагнае юнацкае авалоданне светам:

*«16.8.1951. Ноч у Бэрліне… да раніцы. Пачалі ад славутага начнога лякалю Resi. Formidable (надзвычайна)! Найлепшае — гэта Wasserspiel — ігра фантану пад гукі аркестру. Адзіная характэрнасьць у Бэрліне: на сцэне фантан — самыя розныя формы й камбінацыі формаў, самыя розныя колеры. На сьценах паабапал таксама паўладжаныя фантанчыкі ў залатым сьвятле. Пры кажным стале тэлефонны апарат і нумар, што відзён здалёк. Хочаш затэлефанаваць да дзяўчыны за нейкім там сталом — запрасіць да танцу — калі ласка. […]*

*31.8.51. Італія. У Міляне мусілі мяняць цягнік на Вэнэцыю. Ледзь убіліся. На сядзячае месца слабая надзея. […] Вобраз Швайцарыі яшчэ ня зьнік з вачэй, асабліва ілюмінаванае возера й горы. Гэта была запраўдная казка!.. Яе ў словы ня ўложыш, каб перадаць тое, што перажылося. Асабліва з агеньчыкамі на горах — не разьбярэш, дзе агні, а дзе зоркі. […]*

*Вэнэцыя. За дзень наладавалася столькі ўражаньняў, столькі малюнкаў і здарэньняў, што дзень гэты выдаецца цэлай эпохай»*[59].

Аўтар унікальнага дзённіка[60] «маладога эмігранта» Янка Запруднік, перачытваючы ўласныя запісы, кажа, што яны ілюструюць побытавасць тагачаснага студэнцкага жыцця, і выбудоўвае наступны ланцужок складнікаў: абставіны вучобы, грамадская праца, культурная дзейнасць ды магчымасць падарожнічаць і пазнаваць свет[61].

---

[57] Запруднік, Янка. Дванаццатка… С. 157.

[58] **Янка Запруднік** (да эмігр. **Сяргей Вільчыцкі,** нар. 09.08.1926, м. Мір (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.)), грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст.

[59] Запруднік, Я. Дванаццатка… С. 155–156, 158.

[60] Можна згадаць толькі яшчэ адзін дзённік эміграцыйнага дзеяча, выдрукаваны тым часам у нас. Гэта «Дні аднаго жыцця» Зоры Кіпель (Мінск, 2010).

[61] Запруднік, Я. Дванаццатка… С. 118.

Для вялікай жа, «дарослай» эміграцыі патрабаваўся час, каб паязджане адчулі сябе вольнымі турыстамі і пачалі занатоўваць уражанні. Бо эмігранты заўсёды няпэўныя, у які дакладна час яны выправяцца ў дарогу, у якім мястэчку знойдуць свой прытулак. Турысты ж, наадварот, плануюць, выбудоўваюць уласнае падарожжа, беручы пад увагу гісторыю і мову, клімат і час, разважліва абіраючы сабе месца *(«a place on the map is also a place in history»*[62]*)*. Найгалоўнейшае ж адрозненне ад папярэдніх падарожжаў — з Беларусі ў Нямеччыну ці Аўстрыю, з лагераў *DP* у краіны рассялення — у тым, што паязджане ведалі, у які горад павернуцца пасля сваёй выцечкі, пасля *добраахвотнага* вандравання. Бо, як піша Цветан Тодараў: *«…Movement in space is the first sign, the easiest sign, of change… Narrative is also nourished by change; in this sense journey and narrative implies one another»*[63].

Такім часам пераменаў сталася сярэдзіна 1950-х: *«Многа людзей летуціць аб тым, каб паехаць у чужую краіну, пажыць уражаньнямі падарожжа, пабачыць іншых людзей, іх спосаб жыцьця, культуру, каб пасьля павароту магчы расказваць шмат дзіваў сваім сябрам і знаёмым. Для некаторых гэтыя летуценьні так і застаюцца толькі летуценьнямі, а на падарожнікаў за мяжу яны пазіраюць з захапленьнем і зайздрасьцю. […] Бо як можа памясьціцца ў галаве беднаму нявольніку, што дзесьці жывуць людзі, якія могуць свабодна, як «вялікія дыпляматы» Грамыка ці Вышынскі, езьдзіць за мяжу? А ці паверылі б нашыя суродзічы на Бацькаўшчыне, што мы тут, на чужыне, будучы выгнанцамі, маем права езьдзіць у другія краіны?»*[64]

---

[62] Rich, A. Blood, Bread, and Poetry: Selected Prose, 1979–1985. New York, Norton, 1993. P. 212.

[63] Todorov, T. The Journey and Its Narratives // Transports: Travel, Pleasure, and Imaginative Geography, 1600–1830 / Ed. by Chloe Chard and Helen Langdon. New Haven and London; Yale UP, 1996. P. 287.

[64] Смага, М. За каналам // Месца выданьня — Парыж. Выбраныя старонкі часопіса «Моладзь» (1948–1954). Мінск, 2004. С. 318. Нежаданне савецкіх уладаў выпускаць сваіх грамадзянаў за мяжу вядома добра і наўрад ці тут патрабуе вытлумачэння. Але вось што цікава: сярод палітычных дзеячаў беларускай эміграцыі былі людзі з такімі самымі поглядамі, хоць, калі б ім такое выказалі, абурыліся б падобнаму параўнанню. І тым не менш, вось як пачынае свой артыкул «Патрыятызм ці касмапалітызм»

Мабыць, не дзіва, што першыя крокі за мяжу рабіліся не ў пошуках нязнанага; наадварот: беларусы пачалі шукаць адно аднаго і навязваць кантакты. Магчыма, такая скіраванасць на беларускасць, на пошук беларускага ў навакольным свеце і вытлумачвае адсутнасць пільнага зацікаўлення ў самім свеце.

Валянцін Акудовіч (праўда, гаворачы пра іншы аспект творчасці пісьменнікаў замежжа) выказаўся так: *«Яшчэ больш у гэтым сэнсе ўражвае літаратура пасьляваеннай эміграцыі. Ладная яе частка не адно дзесяцігодзьдзе пражыла ў буйнейшых літаратурных сталіцах сьвету, карысталася з найноўшых здабыткаў сусьветнай літаратуры, была абцяжараная сацыяльнымі й духоўнымі патрэбамі тэхнакратычных грамадзтваў, але, нягледзячы на кантэкст існаваньня, прадукавала тэксты, якія за надзвычай рэдкімі выключэньнямі [...] былі што дзьве кроплі вады падобныя да тэкстаў, напісаных савецкімі пісьменьнікамі ў рэчышчы сацрэалістычнага мэтаду»*[65].

Заўвага, бясспрэчна, слушная, але трэба адцеміць, што своеасаблівы *антэеў комплекс*[66] — засяроджанне пісьменнікаў на тэмах, павязаных з рэаліямі пакінутай бацькаўшчыны[67], — уласцівы ўсім эміграцыям без вынятку; гэта слушна і ў дачыненні такой унікальнай з’явы, як творчасць расійскіх пісьменнікаў першае паловы XX ст. Мастацкія сродкі —

Барыс Рагуля: *«Нашаму пакаленьню прыпала жыць у чарговы пэрыяд вандроўкі народаў. [...] Агульна ведамае зьявішча, што чалавек, які шмат падарожнічае, які сутыкаецца з рознымі асяродзьдзямі, новымі ідэямі, іншымі культурамі, можа падпасьці пад уплыў аднаго з гэтых асяродзьдзяў і прывязацца да яго або, адарваўшыся ад свайго, стацца, як кажуць у нас, «ні рыбай ні мясам». Гэтая пагроза зьяўляецца асабліва вялікай для інтэлігенцыі, якая дзякуючы ў першую чаргу ведам чужых моваў лягчэй зможа датарнавацца да новых абставінаў, успрыняць чужую культуру ды знайсьці сабе месца ў новым асяродзьдзі»* (Наперад. № 26. Сьнежань 1953. С. 50).

65 Акудовіч, В. Разбурыць Парыж. Менск, 2004. С. 215–216.

66 Аўтар прапаноўвае, але не настойвае на падобным азначэнні.

67 Хоць новы свет таксама знайшоў свой адбітак, галоўным чынам у паэзіі. Гл.: Кіпель, З. Амерыкана ў творах беларуска-амерыканскіх пісьменнікаў // Беларусіка=Albaruthenica. Вып. 5. Культура беларускага замежжа. Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемаадносіны. Мінск, 1995. С. 262–267.



*Антон Адамовіч у падарожжы*

за сапраўды рэдкімі выключэннямі — таксама бяруцца з прывезенага з сабою багажу[68].

Адным з першых з новага свету, сваёй новай краіны — Амерыкі — у Еўропу выбраўся Аўген Вярбіцкі[69]. Народжаны ў 1922 г. у мястэчку Краснае каля Маладзечна[70], ён стаўся зна-

---

68 Класічныя прыклады — стаўленне большасці расійскай эміграцыі, як чытачоў, гэтак і рэдакцый газет і часопісаў (фактычна — байкатаванне), да творчасці Марыны Цвятаевай і Барыса Паплаўскага. Аналагічным было ўспрыняцце паэзіі Янкі Юхнаўца — з той толькі розніцаю, што калі на вершы Юхнаўца заклікалі пляваць (Анатоль Бярозка (Смаршчок), Рыгор Крушына), то крытыкі Цвятаевай мусілі пазней апраўдвацца: *«...раз я Цветаеву упомянул, не премину сказать, что многие здесь, в том числе и я, много лет оценивали ее несправедливо. Но в петлю ее загнали все-таки не мы»* (у кн.: Русская литература в эмиграции. Сб. статей. Питтсбург, 1972. С. 11). Гл. таксама: Демидова, О. Метаморфозы в изгнании. СПб., 2003. С. 170–171. Магчыма, усё вытлумачваецца проста: эміграцыі былі палітычнымі, а не эстэтычнымі.

69 **Аўген Вярбіцкі** (1922, Краснае (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 29.06.1986 Філадэльфія, ЗША), навуковец-біяхімік, грамадскі дзеяч.

70 Беларус. № 329. 1986. С. 7.

ным біяхімікам, сябрам Нацыянальнай акадэміі навук ЗША[71], распрацоўнікам харчавання для касманаўтаў, за што пазней атрымаў у якасці падарунка кавалачак Месяца. Доктар Вярбіцкі ехаў у працоўнае камандзіраванне, але ў «Бацькаўшчыне», дзе быў выдрукаваны травелог[72], ён як заступнік старшыні Галоўнае ўправы БАЗА патлумачыў:

*«Сёлета ў красавіку мне здарылася нагода адведаць Эўропу: Нямеччыну, Бэльгію й Францыю, а галоўна — Нямеччыну. Адной з галоўных мэтаў паездкі было адведаньне беларускіх арганізацыяў у гэтых краінах, правесьці зь імі гутаркі, каб гэтым спрычыніцца да лепшага супрацоўніцтва паміж беларускімі арганізацыямі ў Эўропе й беларускімі арганізацыямі ў Амэрыцы»*[73].

Тэкст, фактычна, уяўляе сабою справаздачу аўтара аб спатканнях з беларусамі і абмеркаванні беларускіх справаў. Раздзелы так і менаваліся: *«Беларускі нацыянальны камітэт у Нямеччыне»; «Справа газэты «Бацькаўшчына»»; «Беларускі інстытут навукі й мастацтва»; «Інстытут вывучэньня СССР»; «Беларуская сэкцыя радыя «Вызваленьне»»; «Беларуская студэнцкая грамада ў Лювэне»; «Парыж»*.

Замест пераліку пабачаных цікавостак — імёны спатканых беларускіх дзеячаў і сімпатыкаў беларускае справы, што разам гучаць, як песня: Мікола Абрамчык[74], Аляксей Арэшка[75], Барат, Уладзімір Бортнік[76], Юзэфа Брэчка[77], а. Леў Гарошка[78], Сяргей

---

71 Др. Аўген Вярбіцкі абраны сябрам Ньюёркаўскай Акадэміі Навукаў // Беларус. № 156. 1970. С. 6.

72 Вярбіцкі, А. З майго падарожжа ў Эўропу // Бацькаўшчына. 1956. № 28–29 (310–311). С. 2; 1956. № 30 (312). С. 3; 1956. № 31 (313). С. 4; 1956. № 32 (314). С. 4; 1956. № 33 (315). С. 3–4.

73 Бацькаўшчына. 1956. № 28–29 (310–311). С. 2.

74 **Мікола Абрамчык** (16.08.1903, в. Сычавічы Вілейскага пав. Віленскай губ. (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 29.05.1970, Парыж, Францыя), палітык, грамадскі дзеяч, публіцыст, прэзідэнт Рады БНР (1947–1970).

75 **Аляксей Арэшка** (нар. 18.11.1923, в. Жарабковічы (сёння Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл.)), навуковец-хімік, грамадскі дзеяч, жыве ў Бельгіі.

76 **Уладзімір Бортнік** (18.01.1910, Шаркаўшчына — 16.06.1988, Мюнхен (Нямеччына), грамадскі дзеяч, выдавец газеты «Бацькаўшчына».

77 **Юзэфа Найдзюк** (дзяв. **Брэчка**, 01.02.1927, в. Мазуркі (сёння Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл.) — 19.11.2004, Пасадэна, ЗША), грамадская дзяячка.

78 **Леў Гарошка** (26.02.1911, в. Трашчыцы (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 28.07.1977, Парыж, Францыя), рэлігійны дзеяч, педагог, публіцыст.

Гох[79], праф. Дэніс, Вінцэнт Жук-Грышкевіч[80], Янка Запруднік, Сымон Кабыш[81], Аўген Каханоўскі, Рыгор Крушына, Ніна Ляўковіч[82], Станіслаў Мак[83], Аляксандр Маргові[84], Кастусь Мерляк[85], Барыс Рагуля[86], а. Роберт Тамушанскі[87], а. Аўген Смаршчок[88], Пётра Сыч[89], Юрка Сянькоўскі[90], Станіслаў Станкевіч[91], Міхась Тулейка[92], Вітаўт Тумаш, Паўла Урбан[93], праф. Фрэдэрыксен.

---

79 **Сяргей Гох** (каля 1912, Пецярбург — 30.08.1979, Оснабрук, Нямеччына), грамадскі дзеяч.

80 **Вінцэнт Жук-Грышкевіч** (23.02.1903, м. Будслаў (сёння Мядзельскі р-н Мінскай вобл.) — 14.02.1989, Беры, Канада), грамадскі дзеяч, педагог.

81 **Сямён (Сымон) Кандыбовіч** (на эміграцыі **Кабыш,** 21.07.1891, в. Старыца (сёння Капыльскі р-н Мінскай вобл.) — 27.09.1972, Мюнхен, Нямеччына), эканаміст, грамадскі дзеяч.

82 **Ніна Абрамчык** (дзяв. **Ляўковіч**, 20.03.1916, в. Шані (сёння Пружанскі р-н Брэсцкай вобл.) — 27.01.2004, Парыж, Францыя) — беларуская грамадска-палітычная дзяячка, пісьменніца. Жонка Міколы Абрамчыка.

83 **Станіслаў Мак** (да эміграцыі **Яроцкі,** 27.03.1922, каля Нясвіжа — 20.06.1983, Брадфард, Вялікабрытанія), грамадскі дзеяч.

84 **Аляксандр Маргові** (псеўд. **Алесь Галубіцкі**, 05.07.1927, Глыбокае (сёння Віцебская вобл.) — 11.11.1967, Мюнхен, Нямеччына), журналіст, грамадскі дзеяч, выдавец.

85 **Кастусь Мерляк** (25.12.1919, в. Дзетамля (сёння Наваградскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 25.11.2006, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч.

86 **Барыс Рагуля** (01.01.1920, в. Турэц Навагрудскага пав. (сёння Карэліцкі р-н Гарадзенскай вобл.) — 21.04.2005, Лондан, Канада), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч.

87 **Роберт Тамушанскі** (03.07.1940, Нью-Ёрк, ЗША — 10.12.1996, Рым, Італія), святар, культурны дзеяч.

88 **Смаршчок Аўген** (25.09.1914, м. Зэльва (сёння Гродзенская вобл.) — 05.10.1984, Антверпен, Бельгія), святар, педагог, перакладчык.

89 **Пётра Сыч** (18.01.1912, в. Батурына Вілейскага пав. Віленскай губ. (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 20.06.1964, Мюнхен, Нямеччына), літаратар, журналіст.

90 **Юры Сянькоўскі** (06.05.1926, в. Залессе (сёння Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.) — 13.02.1995, Мюнхен, Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст.

91 **Станіслаў Станкевіч** (23.02.1907, в. Арляняты, Ашмянскі пав. Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гарадзенскай вобл. — 06.11.1980, Нью-Ёрк, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, літаратуразнаўца, публіцыст, крытык, выдавец.

92 **Міхась Тулейка** (08.09.1915, Нясвіж Слуцкага пав. Мінскай губ. (сёння Мінская вобл.) — 06.03.1998, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч.

93 **Паўла Урбан** (27.03.1924, в. Закаліўе (сёння Лепельскі р-н Віцебскай вобл.) — 02.02.2011, Мюнхен, Нямеччына), гісторык, грамадскі дзеяч.

І хоць Еўропы ў зацемках Вярбіцкага няма зусім, аўтар здолеў намаляваць прывабныя характары еўрапейскіх беларусаў, закрануўшы іхнае прыватнае, побытавае жыццё, рэдкае для старонак нашых эміграцыйных газетаў:

*«Асаблівую гасьціннасьць знайшоў у Беларуса з калішніх беларускіх мусульманаў, сп-ра Базыля Бут-Гусаіма. У яго ёсьць усе выданьні беларускіх газэт; ён вельмі цэніць іх і ганарыцца імі. Гэта адзіныя курсы беларусаведы для гэтага беларускага патрыёта, які калісьці, жывучы на Палесьсі, ведаў толькі, што ён не Паляк і не Украінец, а назоў «тутэйшы» ўважаў за паніжэньне. [...]*

*Будучы ў Парыжы, рэч зразумелая, кожны Беларус шукае нагоды, каб спаткацца з Прэзыдэнтам Рады БНР, сп-ром Міколам Абрамчыкам. [...] На маё глыбейшае зацікаўленьне, а як жыве сям'я пры адсутнасьці Прэзыдэнта, даведваюся, што браценік сп-ра Прэзыдэнта, К. Абрамчык, пры ягонай адсутнасьці дапамагае сп-ні Абрамчык у працы каля дому, у чым далей я пераканаўся асабіста. Ён мае здольнасьці будаваць жылыя дамы.*

*Увайшоўшы ў дом спадарства Абрамчыкаў, у гасьцінны пакой, я знайшоў вельмі скромнае абсталяваньне, хоць мілае, у чым вялікая заслуга сп-ні Абрамчык. Далей я бачу — дом то нібы новы, але падлога із старых вынашаных дошак. На маё запытаньне, як гэта магчыма, сп. Прэзыдэнт адказаў з усьмешкай: бачыце, у Францыі, як старыя дамы разбурваюцца, дык часткі прадаюцца ў вадпаведную кампанію, дзе пазьней такія багачы, як я, іх адкупляюць. Вось паглядзіце, кажа, на вокны; яны таксама купленыя такім жа самым спосабам — адно вакно каштавала 1000 франкаў (два з палавінай даляры), тады калі новае каштуе ў шаснаццаць разоў больш. У далейшай гутарцы выявілася, што ўвесь дом каштаваў толькі 250 даляраў, бо ўсю працу сям'я Абрамчыкаў выконвалі самі. Сп-ні Абрамчык не было ў хаце. Яна якразканчала мыць бялізну на дварэ, рэч зразумелая, рукамі, а не машынай, бо ў Францыі машыны да мыцьця вельмі дарагія. На дварэ ў гэны час было вельмі холадна, і сп-ня Абрамчык увайшла ў хату з даволі зьмерзлым выглядам. На плячох у яе быў кажушок без рукавоў, такі, як калісь дома, прыпамінаю, насілі нашыя сялянкі. Ізноў, кантраст паміж жыцьцём жанчын у Амэрыцы й жыцьцём гэтае гераіні мяне вельмі ўзрушыў»*[94].

[94] Бацькаўшчына. 1956. № 33 (315). С. 3–4.

Праз тры гады пасля Аўгена Вярбіцкага ўжо з Нямеччыны ў Новы Свет прыехаў Станіслаў Станкевіч — і таксама не ў простыя адведкі: рэдактар «Бацькаўшчыны» рабіў захады, каб пераехаць у Амерыку на стала. Вынікам падарожжа стаўся травелог *«Сярод суродзічаў у Амэрыцы»*[95].

За параўнальна кароткі тэрмін (лістапад — пачатак снежня 1958 г.) Станіслаў Станкевіч паспеў наведаць Нью-Ёрк, гарадкі ў суседнім штаце Нью-Джэрсі — Саўт-Рывер і Нью-Брансвік, і Кліўленд у штаце Агаё ды склаў даволі адэкватнае ўяўленне пра стан грамадскай працы ў беларускіх арганізацыях, умовы жыцця паваеннай эміграцыі, зробленае — для палякаў і рускіх — эміграцыяй старой, што прыбыла ў ЗША яшчэ да Першай сусветнай вайны. Апісанае Станкевічам не толькі карысна што да гісторыі беларусаў у гэтай краіне: нямала з заўважанага ім слушна да сённяшняга часу.

На Нью-Ёрк Станкевіч глядзіць вачыма жыхара Еўропы з дзесяцігадовым стажам: *«Краіна кантрастаў і неабмежаваных магчымасьцяў. Гэткімі словамі часта характарызуюць Амэрыку па-за Амэрыкай. Бясспрэчна, такая характарыстыка ў васноўным правільная, аднак жа яна вымагае й некаторых удакладненьняў. Што датычыцца кантрастаў, дык яны тут вялізарныя й навапрыбыламу на амэрыканскі кантынэнт адразу кідаюцца ў вочы. Прыкладам, ува ўсім сьвеце ўважаецца, што найвышэйшы жыцьцёвы стандарт маюць жыхары Амэрыкі. Аднак навонкі гэтага зусім не відаць. У параўнаньні з убогай Эўропай, асабліва зь Нямеччынай, у Амэрыцы людзі найбядней адзетыя. Калі ехаць у любым нямецкім горадзе ў перапоўненым трамваі, дык можна заўважыць адно толькі некалькі чалавек бедна апраненых, або не заўважыць і нікога. Калі ж ехаць нью-ёрскай падземнай чыгункай, дык пабачым зьявішча зусім адваротнае: сярод некалькіх дзясяткаў пасажыраў вагону ўсяго некалькі чалавек будзе апраненых, як у Эўропе, усе ж астальныя будуць мець або да немагчымасьці зношаную вопратку, або, хаця й новую, але такой дрэннай якасьці, якую ў эўрапейскім горадзе цяжка пабачыць. На маё запытаньне знаёмых, чаму гэта так, звычайна адказваюць: Тут на гэта не*

[95] Станкевіч, Ст. Сярод суродзічаў у Амэрыцы // Бацькаўшчына. 1959. № 5 (441). С. 2, 4; 1959. № 6 (442). С. 2, 4; 1959. № 7–8 (443–444). С. 5; 1959. № 9 (445). С. 1, 3.

*зьвяртаюць ніякае ўвагі, тут форма не адыгрывае ніякае ролі, асноўнае — гэта зьмест. І часта дадаюць: не адзін спасярод гэтых бедна апраненых — гэта вялікі багатыр. [...]*

*Годнасьць чалавека тут цэніцца вельмі высока, незалежна ад таго, чым ён займаецца. Калі б, прыкладам, у Эўропе чалавек з вышэйшай асьветай зарабляў на сваё ўтрыманьне тым, што чысьціў бы ўборныя, ягоныя знаёмыя саромеліся б зь ім спатыкацца ў публічных месцах. У Амэрыцы ніякая праца чалавека не паніжае й ня ганьбіць»*[96].

Station Станіслаў Станкевіч, які ў Нямеччыне пад працу меў адразу два працоўных пісьмовых сталы, у рэдакцыі газеты «Бацькаўшчына» і ў Інстытуце вывучэння СССР, быў відавочна заскочаны ўмовамі працы творчых людзей у горадзе «вялікага яблыка»:



*Станіслаў Станкевіч*

*«Я быў сьведкам, у якіх умовах ведамая наша паэтка Натальля Арсеньнева*[97] *пісала сваю паэму «Косы», першая частка якой друкавалася ў калядным нумары «Бацькаўшчыны»*[98]. *Вяртаючыся вечарам з хвабрыкі, прыносіла з сабой цэлы жмут дробных ласкутоў паперы, на якіх падчас перапынкаў і звальненьня тэмпаў працы запісвала паасобныя думкі, выражэньні, а нат і цэлыя радкі, якія толькі прыходзілі ў галаву, каб вечарам, вярнуўшыся дамоў, скампанаваць зь іх закончаную цэласьць. Ці ж гэта не цікавая й вымоўная дэталь у пытаньні генэзы ўспомненага твору?»*[99]

Выехаўшы ў Кліўленд, пра які да таго часу Станіслаў Станкевіч ведаў хіба адзінае — што той знаходзіцца ў штаце, скуль ідзе вядомая ўсёй краіне бульба, — апісвае горад ужо як жыхар Нью-Ёрка, раўнуючы менавіта з ім, а не з Еўропаю:

---

96 Бацькаўшчына. 1959. № 5 (441). С. 2, 4.

97 **Наталля Арсеннева** (20.09.1903, Баку, Азербайджан — 25.07.1997, Рочэстар, ЗША), паэтка, грамадская дзеячка.

98 Бацькаўшчына. 1958. № 45–46 (431–432). Літаратурны дадатак. С. 4.

99 Бацькаўшчына. 1959. № 6 (442). С. 2.

*«Кліўлэнд — гэта горад тыповы для бальшыні гарадоў Амэрыкі й сваім вонкавым выглядам розьніцца ад такіх гігантаў, як Нью-Ёрк або Чыкаго. Тут, заўважым, усяго некалькі небаскробаў нью-ёрскага тыпу, якія стаяць галоўна над возерам Эры, адным з групы пяці вялікіх вазёраў, што дзеляць Задзіночаныя Штаты з Канадай. [...] Па абодвых бакох гэтае хвабрычнае даліны разьмясьціліся гандлёвыя й жыльлёвыя часткі гораду. Нягледзячы на тое, што Кліўлэнд налічвае звыш паўтара мільёна жыхароў, у ім толькі на галоўных вуліцах, побач зь дзераўлянымі дамкамі, пераплятаюцца й дамкі мураваныя. Галоўныя ж жыльлёвыя раёны гораду, хоць яшчэ зусім не прадмесьці, маюць вылучна аднаэтажныя дзераўляныя дамкі стандартнага тыпу, памаляваныя на белы колер, што каб адрозьніць адзін ад другога, трэба абавязкова помніць нумар. Пры кажным такім аднасямейным доміку знаходзіцца панадворак, а часта й невялікі агародзік. [...]*

*У вадрозьненьне ад Нью-Ёрку, дзе сканцэнтраваныя розныя слаі нашай эміграцыі, як сяляне, работнікі й інтэлігенцыя, калі так сказаць, радавая, а так жа й вышэйшая, якая мае за сабой вялікі стаж нацыянальнай дзейнасьці, у Кліўлэндзе праводзяць нацыянальную працу г. зв. простыя людзі. Гэта або звычайныя беларускія сяляне, якія прайшлі добрую школу грамадзкае працы ў беларускіх ДП-лягерох Нямеччыны ў Остэргофэне, Міхэльсдорфе й Віндзішбэргэрдорфе, а галоўна ў Остэргофэне, або людзі маладыя зь незакончанай сярэдняй асьветай, а часткова студэнты»*[100].

У Станкевіча свая — у параўнанні з Вярбіцкім — «песня», але наколькі ж падобна яна гучыць: Антон Адамовіч[101], Кастусь Акула, арх. Васіль[102], Мікола Галоўка[103], Браніслаў Даніловіч[104],

[100] Бацькаўшчына. 1959. № 7–8 (443–444). С. 5.

[101] **Антон Адамовіч** (26.06.1909, Мінск — 12.06.1998, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар.

[102] **Васіль (Уладзімір Тамашчык,** (15.06.1900, в. Вялікія Азяраны Гарадзенскага пав. (сёння Сакольскі пав. Падляскага ваяв., Польшча) — 09.06.1970, Нью-Ёрк, ЗША), рэлігійна-грамадскі дзеяч, архіепіскап БАПЦ.

[103] **Мікола Галоўка** (21.09.1926 в. Дарагляны (сёння Мастоўскі р-н Гродзенскай вобл.) — ?, ЗША), грамадскі дзеяч.

[104] **Браніслаў Даніловіч** (20.11.1906 – 29.09.2003, ЗША), грамадскі дзеяч.

а. Хведар Данілюк[105], Уладзімір Дунец[106], Міхась Казлякоўскі[107], Кастусь Кіслы[108], Даніла Клінцэвіч[109], Мікола Кунцэвіч[110], Уладзімір Літвінка[111], М. Лук'янчык, а. Мікалай Макарэвіч[112], Кастусь Мерляк, Янка Ніхаёнак[113], Аляксандр Орса[114], Наталля Орса[115], Гіпаліт Паланевіч[116], Філарэт Родзька[117], Юрка Станкевіч[118], Янка Станкевіч[119], Міхась Тулейка, К. Чэрнік, Барыс Шчорс[120].

---

[105] **Хведар Данілюк** (12.08.1887, в. Сурынка Слонімскага пав. — 29.07.1960, Нью-Ёрк), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар.

[106] **Уладзімір Дунец** (03.01.1930 – 01.01.1998, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч.

[107] **Міхась Казлякоўскі** (10.08.1933 – 27.10.2005, ЗША), грамадскі дзеяч.

[108] **Канстанцін Кіслы** (25.05.1898, г. Ленчыца (сёння Лодзінскага ваяв., Польшча) — 08.01.1980, Беласток, Польшча), грамадска-культурны дзеяч, хормайстар.

[109] **Даніла Клінцэвіч** (22.12.1905, в. Макуці Ашмянскага пав. Віленскае губ. (сёння Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл.) — 26.10.1967, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, пляменнік М. Абрамчыка.

[110] **Мікола Кунцэвіч** (02.01.1907 – 28.09.1985, Сэйнт-Пітэрсберг, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч.

[111] **Уладзімір Літвінка** (15.08.1931, в. Морач (сёння Салігорскі р-н Мінскай вобл.) — 10.01.1977, Кліўленд, ЗША), грамадскі дзеяч.

[112] **Мікалай Макарэвіч** (21.02.1908 — ліпень 1963, ЗША), святар.

[113] **Янка Ніхаёнак** (06.03.1920, Вермонт, ЗША — 04.01.1986, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч.

[114] **Аляксандр Орса** (24.07.1896, Нягневічы (сёння Наваградскі р-н Гродзенскай вобл.) — 02.11.1959, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог.

[115] **Наталля Орса** (дзявочае **Сазановіч,** 19.08.1903, в. Сланеўская Воля (сёння Наваградскі р-н Гродзенскай вобл.) — 18.01.1990, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, педагог, жонка А. Орсы.

[116] **Гіпаліт Паланевіч** (псеўданім **Няміга,** 23.07.1907, Міншчына — 24.10.1997, Нью-Ёрк, ЗША), грамадска-культурны дзеяч, педагог, гісторык.

[117] **Філарэт Родзька** (27.01.1890, в. Вераскава (сёння Наваградскі р-н Гродзенскай вобл.) — 05.03.1977, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч, педагог.

[118] **Юрка Станкевіч** (нар. 18.03.1928, Вільня), грамадскі дзеяч, журналіст.

[119] **Янка Станкевіч** (26.11.1891, в. Арляняты Ашмянскага пав. Віленскай губ. (сёння Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.) — 16.07.1976, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі дзеяч, мовазнавец, журналіст.

[120] **Барыс Шчорс** (26.06.1916, в. Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.)



*Зінаіда, Раіса і Станіслаў Станкевічы*

Сям'я Станкевічаў — Станіслаў, жонка Зінаіда[121], дачка Раіса[122] — вандравалі мо не больш за іншыя сем'і, але, як шчыльна звязаныя з друкам газетаў — спачатку «Бацькаўшчыны», пасля «Беларуса», — імкнуліся занатоўваць свае падарожжы для публікацыі[123]. І калі Зінаіда Станкевіч, абіраючы марш-

[121] **Зінаіда Станкевіч** (дзявоч. Сініцына, 02.12.1909, Магілёў — 13.11.1988, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзяячка, жонка Станіслава Станкевіча.

[122] **Раіса Станкевіч** (нар. 23.11.1941, Наваградак), грамадская дзяячка, дачка Станіслава і Зінаіды Станкевічаў.

[123] Станкевіч, З. Уражаньні з падарожжа. 1. У Лёндане. 2. У Парыжы. 3. У Мюнхэне. 4. Сустрэча з Барбарай Тапорскай. 5. У Рыме // Беларус. № 126. Кастрычнік 1967. С. 6; № 127. Лістапад 1967. С. 5; № 129. Студзень 1968. С. 5; № 130. Люты 1968. С. 5; № 131. Сакавік 1968. С. 5; Станкевіч, З. Успамінаецца мне Лёс Анджэлес // Беларус. № 286. Люты 1981. С. 4; Станкевіч, Р. Уражаньні з падарожжа ў Аўстралію // Беларус. № 263. Сакавік 1979. С. 5; Раіса. Уражаньні з паездкі ў Монтрэаль // Беларус. № 122. Чырвень 1967. С. 6–7; Станкевіч, Ст. Зацемкі з падарожжа // Беларус. № 180. Красавік 1972. С. 4; Станкевіч, Ст. Сярод суродзічаў у Эўропе // Беларус. № 199. Лістапад 1973. С. 2–3; № 200. Сьнежань 1973. С. 2; Станкевіч Ст. У вечным горадзе Рыме // Бацькаўшчына. 1953. № 5–6 (136–137). С. 7.

рут, тлумачылася наступным чынам: *«Калі яшчэ ў Нью-Ёрку некаторыя нашыя знаёмыя ізь зьдзіўленьнем пыталіся, чаму якраз выбралі гэты маршрут на Эўропу: Мюнхэн — Парыж — Рым, мясьціны ўжо нам ведамыя, чаму, прыкладам, ня Мэксыку ці Гаваі, нялёгка было адказаць на гэтае пытаньне. Вось цяпер у самалёце ставім яшчэ раз гэтае пытаньне — чаму? і спрабуем адказаць: першае, таму, што прыемна наведаць знаёмых і прыяцеляў; другое, таму, што некаторыя гарады асабліва мілыя сэрцу, прыкладам, Рым; трэцяе таму, што хочацца пабадзяцца па старых сьцежках-дарожках»*[124], то яе дачку ўжо вабяць краіны далёкія, нязнаныя і яшчэ не так даўно недасяжныя, бы іншыя планеты: *«Пару гадоў ужо насілася я з думкаю адведаць Аўстралію [...]. Але пры нагодзе вярнуся я памяцяй назад, калі нашыя суседзі Беларусы з ДП-лягеру ў Розэнгайме (Заходняя Нямеччына) выяжджалі на сталае жыцьцё ў Аўстралію. Выяжджала з бацькамі й мая найлепшая сяброўка, маленькая Ала Яцкевіч. Я таксама тады была малая, але памятаю, як быццам гэта здарылася сяньня, як я горка плакала, бо думала, што ніколі больш сваёй сяброўкі не пабачу. Гэтак далёкай уяўлялася мне тады Аўстралія, нейдзе на самым канцы сьвету»*[125].

Амаль тымі самымі еўрапейскімі сцежкамі, што і Зінаіда Станкевіч, — Лондан, Рым — прайшоў Гіпаліт Паланевіч, аўтар няскончанага травелога *«Добры дзень, Эўропа»*[126]. Ягоны аповед насычаны трывіяй гістарычных фактаў, назваў, датаў. Ад уражання пераказу турыстычнага праваднікá выратоўвае добрая іронія — да сябе і да гаспадароў: а. Льва Гарошкі ды а. Пётры Татарыновіча[127]:

*«Гатэльныя клопаты ў нас адпалі. Паважаны а. Пётра Татарыновіч замовіў для нас месца на найвышэйшым ізь сямі ўзгоркаў Рыму, на Монтэ Марыо. Трэба паведаміць яго, што мы тут. На тэлефон патрэбны спэцыяльныя жэтоны, што*

[124] Беларус. № 129. Студзень 1968. С. 5.
[125] Беларус. № 263. Сакавік 1979. С. 5.
[126] Сьвіслацкі, А. Добры дзень, Эўропа. (Зацемкі з падарожжа) // Беларус. № 149. Верасень 1969. С. 4; № 150. Кастрычнік 1969. С. 4–5; № 151. Лістапад 1969. С. 4–5; № 152. Сьнежань 1969. С. 4–5.
[127] **Пётра Татарыновіч** (02.06.1896, в. Гайнін (сёння Ляхавіцкі р-н Брэсцкай вобл.) — 03.09.1978, Рым, Італія), рэлігійны дзеяч, каталіцкі святар, педагог, перакладчык, публіцыст.

*прадаюцца ў газэтным кіёску. А як запытаць? Хіба ж не па-беларуску. Выйшла вельмі проста: «жэтонэ тэлефоно» — мілагучна й вельмі ж ужо блізкагучна. Вынік — спалучэньне, на дзіва, мамэнтальнае:*

*— Монсыньёр Татарыновіч?*

*— Сі, сі…*

*— Кіньце сісікаць, ойча, гэта ж мы.*

*— А мае ж вы даражэнькія, вы ж меліся заўтра…*

*Бедны айцец мусіў бегчы правяраць, ці ўсё падрыхтавана да прыняцьця турыстых. […]*

*Назаўтрае, пасьля сьнеданьня, аглядаем уладаньні сёстраў місіянэрак Del S. Cuore DiGesu, што месьцяцца высока над вуліцай у невялікім парку, пасярод якога ўзвышаецца галоўны беленькі будынак з крыжам над аркай галоўнага ўваходу. Навокал стралістыя таполі, пальмы, кактусы, клюмбы рознакаляровых красак, а ў суседняй сядзібе, гэтак, як калісь у нас на бацькаўшчыне, кукурыкае певень! Мільённы горад і… правінцыя»*[128].

*«Ваколіцы Рыму, што маюць таксама шмат цікавага й годнага ўвагі, узяўся паказаць нам наш Рымскі апякун а. Пётра на сваім «Фіяце». Выехалі рана, па дарозе заскочылі яшчэ па а. Канстантына Маскаліка, якому наш павадыр ня даў і пасьнедаць. Бедны а. Канстантын мусіў дагрызаць булку ўжо ў самаходзе. Імчым па Appia Nuova ў кірунку Альбано. Раптам… бзык, чорны жарэбчык а. Пётры трошкі падскочыў і ані руш далей…*

*— А мае ж вы міленькія, што ж рабіць? Выскачы, а. Канстантын, ды падапхні ад заду… — устрывожыўся а. Пётра.*

*Мы ў страху, як завязьнем на гэтай рухлівай дарозе, то бывай здарова нядзелька!*

*А. Канстантын спакойна высядае й толькі пасьпеў дакрануцца пальчыкам да «хваста» нашага «коніка», як той нечакана рвануў уперад, а за ім у падскоках а. Канстантын.*

*Далей усё ішло па-італьянску. А. Пётра, не зважаючы на ніякія дарожныя знакі (гэтак езьдзяць тут і патомкі Рымлянаў), усё гнаў аванты (уперад). Дзякуй Богу, прыбылі цэлымі ў васяродак місіянэрак «Найсьвяцейшага Сэрца Езуса» ў Арыччыа. […]*

---

[128] Беларус. № 151. Лістапад 1969. С. 4.

*Налюбаваўшыся прыгожым відам возера й наваколья, яшчэ раз заехалі ў місію. Там а 5-й вечара пачалася ў парку маляўнічая працэсія ў чэсьць сьвята «Божага цела» (наш Дзявятнік). Прыгадаліся калішнія нашыя вялікія працэсіі ад Катэдры аж да Залатой Горкі на вуліцах Менску. Цяпер ніхто там і марыць пра гэта ня можа. Няма больш ні Катэдры, ні Залатагорскага касьцёлу.*

*Варочаліся ў Рым маланкава. А. Пётра сьпяшыў, каб ня трапіць у дарожны затор, і рабіў свае аванты, як віхор. Усе прыціхлі, нават мая спадарожніца адлажыла свае спасьцярогі на пасьля ды моўчкі аберуч трымалася за бочную пяцельку ў самаходзе. Ачунялі ўсе ў рэстаране «Scoglio di Frisio», дзе нам падалі іхны адмысловы смакалык дня — «Каммэлёні а ля Фрызіо», Бог ведае, з чаго зроблены, але смаку надзвычайнага»*[129].

Грамадзянін Аўстраліі Мікола Нікан[130] — аўтар адзінага, відаць, апісання падарожжа вакол свету ў эміграцыйнай перыёдыцы[131]. Зрэшты, сам аўтар меркаваў, што тое наогул першае сусветнае падарожжа (за 75 дзён) паваеннага беларуса[132], у якое ён вырушыў з надзеяй пабачыцца з 82-гадоваю маці. І гэты факт робіць травелог Нікана яшчэ цікавейшым — як адно з першых паведамленняў пра наведванне Бацькаўшчыны з вуснаў і асадкі эмігранта пасля 1945 г.

Фінансава падобнае падарожжа сталася магчымым таму, што Нікан, адпрацаваўшы на адным месцы 17 гадкоў з гакам, займеў права на трохмесячны аплатны адпачынак.

Абраўшы маршрут (праз Еўропу ў Амерыку), Нікан за некалькі дзён атрымаў візы ў Польшчу, Чэхаславаччыну, Вугоршчыну, Югаславію, Грэцыю, ЗША, і толькі ў Беларусь, вылятаючы 7 ліпеня 1969 г., ён усё яшчэ візы не меў.

Першыя наведаныя гарады — Ганконг, Бангкок, Тэгеран, Бейрут — уразілі экзотыкаю, прыгажосцю, але дэталямі не за-

---

129 Беларус. № 152. Сьнежань 1969. С. 4–5.

130 **Мікола Нікан** (03.01.1908, Варшава, Польшча — 16.06.1999, Мельбурн, Аўстралія), грамадскі дзеяч.

131 М. Н. З падарожжа вакол сьвету // Беларус. № 160. Жнівень 1970. С. 5; № 161. Верасень 1970. С. 4; № 162. Кастрычнік 1970. С. 4; № 163. Лістапад 1970. С. 5; № 165. Студзень 1971. С. 5; № 166. Люты 1971. С. 4; № 167. Сакавік 1971. С. 4; № 169. Травень 1971. С. 4.

132 Беларус. № 160. Жнівень 1970. С. 5.

помніліся. Па-сапраўднаму адгукнулася ў сэрцы толькі Еўропа: *«Але Атэны — гэта ўжо Эўропа. Пахла Эўропай. Эўропай пахла і ў Дуброўніку, югаслявянскім старым горадзе й порце над Адрыятыкай, і ў Бялградзе, дзе раней, 4 верасьня 1939 году, вяртаючыся з Францыі дамоў, затрымаўся быў на адзін дзень»*[133]. Адтуль, праз Будапешт, пазначаны прысутнасцю савецкіх помнікаў-танкаў, 17 ліпеня прыляцеў у Варшаву, дзе нарадзіўся і жыў да вайны.

Асаблівых эмоцыяў сустрэча з родным горадам у Нікана не выклікала. Ён амаль без сантыментаў занатоўвае варшаўскія «балячкі» — праблемы з жыллём, нізкія зарплаты, адзначае вялікую колькасць добра апранутых людзей на вуліцах, але галоўнае для вандроўніка сталічнае месца — гэта савецкая амбасада, дзе ён, бавячы час з тымі, хто хацеў наведаць СССР або вярнуцца туды назаўсёды (як жа розніліся тыя групы адна ад адной! — зазначае Нікан), чакае на візу. І толькі 21 ліпеня, у дзень, калі амерыканскія касманаўты высадзіліся на Месяц, патрэбная пячатка была здабытая.

Наступны, чацвёрты раздзел травелога носіць назву «На Бацькаўшчыне»[134]. І ён сам, і аповед пра спатканых у Ваўкавыску маці з сястрою ды наведванне там жа бацькавай і дзедавай магілак выклікае пытанні што да біяграфіі аўтара, народжанага, паўтаруся, у Варшаве. Апошняя паводле часу біяграма, створаная даследнікамі, адказу таксама не дае[135]. Таму паставіўшы для сябе знак пытальніка на *боцех*, вернемся да тэксту.

24 ліпеня раніцай Нікан выехаў з Варшавы на Горадню. За вагонным вакном мільгацелі знаёмыя краявіды, якія нібыта нязначна змяніліся пасля мяжы, але ў вандроўніка *«сэрца сьціснулася, вочы самі заплакалі. Ці ж я зноў апынуўся ў Азіі?»*[136].

---

[133] Беларус. № 161. Верасень 1970. С. 4.

[134] Беларус. № 163. Лістапад 1970. С. 5. На адной газетнай бачыне з травелогам выдрукаванае прысвячэнне «Дарагому сябру Міколу — на 65 год жыцця» за подпісам Алесь. Той верш Алеся Салаўя, ахвяраваны Міколу Нікану, даследнікам творчасці паэта варта далучыць да ягонай спадчыны.

[135] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі… С. 430.

[136] Беларус. № 163. Лістапад 1970. С. 5.



*Мікола Нікан, а. Часлаў Сіповіч, Аляксандр Надсан*

Нікан падрабязна апісвае сустрэчу з сястрою, якую апошні раз бачыў 30 гадоў таму ў Крынках, з маці, стомленай даўгім чаканнем на вуліцы; аглядае гаспадарку: два невялікія пакойчыкі з старой, набытай яшчэ аўтарам травелога, мэбляю; куханька, прыбіральня ў двары, вада — з студні, тэлефон, электрычная пральня, лядоўня, піяніна і тэлевізар. І хоць у тым самым памешканні жыве яшчэ адна асоба, Нікан задаволены: у сваіх яму добра.

За дванаццаць дзён побыту, піша Нікан, пабачыў ён небагата (у Мінск ехаць не дазволілі): калгасы, з п'янымі ды старымі, нястачу тавараў; адзначыў, што хоць беларускамоўныя газеты і ёсць, і нават сваё тэлебачанне, гаворкі беларускай амаль не чуваць, скрозь толькі руская. І ўсё ж: *«Гутаркам не было канца. Гасьцявалі ад душы. Гарэлку скрозь пілі шклянкамі мужчыны й жанчыны. Сваё хвалілі й крытыкавалі, чужым цікавіліся. [...] Скажу навет, што цяпер наагул задаволеныя з жыцьця. Ня маюць яны вялікага апэтыту, іх цешыць навет маленькае палепшаньне ў жыцьці, і хаця жывуць сяньняшнім днём, маюць надзею на лепшую будучыню. Баяцца толькі вайны»*[137].

[137] Беларус. № 163. Лістапад 1970. С. 5.

Пакідаючы Беларусь, Мікола Нікан занатаваў: *«Вяртаўся ў іншы сьвет, дзе тыя самыя словы маюць іншы зьмест. Таму гэтак цяжка зразумецца... Гаворачы фармальна аб тым самым, разумееццa і ўяўляецца ўсё па-рознаму, па-свойму. Але дзякуючы розным кантактам сяньняшняга жыцьця, гэтыя розьніцы пачынаюць зьменшвацца»*[138].

Дзіўным чынам раздзел з травелога, прысвечаны наведанню Беларусі, амаль не адрозніваецца ад папярэдніх — і стылёва, і назіральнасцю, і самарэфлексіямі. Магчыма, аўтар баяўся выказаць забагата, быць канкрэтным, занадта крытычным. Мажа, з-за боязі пашкодзіць сваякам, імкнуўся пазбягаць падрабязнасцяў — і выказвання пачуццяў. Так ці інакш, травелог выразна адлюстроўвае прысутнасць унутранага рэдактара-цэнзара і фактычна нічога не дае чытачу дадатнага, што б той не мог даведацца з савецкага друку.

Гэта робіцца асабліва відавочным пры апісанні — пасля выезду з Беларусі ў Польшчу, наведвання Прагі *(«У шматлікіх вокнах былі партрэты Дубчэка*[139] *й Свабоды*[140]*, удэкараваныя чэхаславацкімі сьцягамі ды з надпісамі «Мы ўсе з вамі»»*[141]), Будапешта, Вены, Рыма — сустрэчы з аднавайскоўцамі ў Монтэ-Касіна, дзе аўтар браў удзел у святкаванні 25-х угодкаў бітвы: *«Хочацца дадаць і колькі словаў пра 2-гі Корпус генэрала Андэрса, які, як хтосьці выразіўся, як Майсей Жыдоў з Эгіпту, дзякуючы амністыі й непаўторна спрыяльным абставінам, звольненых із савецкіх канцлягераў, вывеў і тысячы Беларусаў — на Захад, на свабоду»*[142].

Пасля Італіі — Жэнева (булачкі з малаком і гадзіннікі для сябе і жонкі), Парыж, Лондан. Два апошнія раздзелы Ніканава травелога — аповед пра Амерыку (ЗША і Канаду). Вось тут ужо аўтар піша падрабязна, з імёнамі, дзень па дні — спатканні з беларусамі, служба ў беларускай царкве ў Брукліне, бедным

---

[138] Беларус. № 163. Лістапад 1970. С. 5.

[139] **Аляксандр Дубчэк** (*Alexander Dubček*, 1921–1992), чэшскі палітычны дзеяч, асаблівую вядомасць здабыў у 1968 г., пратэстуючы супраць уводу савецкіх войскаў. Быў арыштаваны і выключаны з партыі ў 1970 г.

[140] **Людвік Свобада** (*Ludvík Svoboda*, 1895–1979), чэшскі нацыянальны герой падчас абедзвюх Сусветных войнаў, пазней — прэзідэнт Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

[141] Беларус. № 165. Студзень 1971. С. 5.

[142] Беларус. № 165. Студзень 1971. С. 5.

і брудным[143], наведванне беларускіх асяродкаў у Таронта, Дэтройце, Чыкага, Кліўлендзе, і травелог робіцца падобным да тэксту Вярбіцкага: розніца толькі ў геаграфічных найменнях. У якасці культурніцкіх «пароляў» згадваюцца ньюёркаўская падземка, Ніягарскі вадаспад, кітайскі гарадок у Сан-Францыска, дзе аўтар з'еў найбольшы ў сваім жыцці банан, Дыснэйленд і Галівуд у Лос-Анджэлесе.

Адлятаючы да Ганалулу, Нікан падсумоўвае свае ўражанні, як сам кажа, найперш беларускія, і скрушна задумляецца пра расцярушанасць беларусаў[144], што ў святле толькі апісанага ім падарожжа па грамадскіх асяродках выглядае троху камічна.

Гэта была не апошняя вандроўка Міколы Нікана. З ліста да Паўлы Урбана, былога супрацоўніка «Бацькаўшчыны», з якім Нікан пасяброваў, выконваючы абавязкі кальпартэра газеты:

> *«20.06 адлятаю самалётам да Эўропы. Буду толькі 4 тыдні ў Польшчы, дзе хацеў спаткацца зь сястрою з БССР (толькі ня ведаю, ці дазволяць ёй прыехаць да Польшчы, мне адмовілі прыехаць да яе) і братам з Канады, які мае спэцыяльна таксама туды прыляцець. Хачу таксама пабачыцца зь сябрамі, якія жывуць у Польшчы, ды наведаць Беласток і «Ніву», а таксама др. Юрку Генеюша, сына Ларысы Генеюш, якую пазнаў, як 4 гады назад быў у БССР, і з таго часу зь ёю перапісваюся й высылаю ёй пачкі[145].*
>
> *З Польшчы пляную ехаць цягнікам да Лёндану, скуль адлячу да Нью-Ёрку. А паколькі ўжо маю ехаць цягнікам, бяру білет з важнасьцяй на 3 тыдні й паежджу па Заходняй Эўропе. Выскачу да Швэцыі й Нарвэгіі й буду вяртацца праз Данію, Галяндыю ды Бэльгію. Пляную затрымацца ў Кёльне, каб заскочыць да Р. Казака, потым да Мюнхэну — каб пабачыцца з Вамі, і праз паўдзённую Францыю да Гішпаніі, магчыма й Партугаліі, каб вярнуцца праз Парыж — да Лёндану.*

---

143 Ніканава азначэнне — рыхтык радок з верша Генадзя Бураўкіна: *«У брудным Брукліне ў Нью-Ёрку, дзе доля горкая жыве...»* (Полымя. 1994. № 6. С. 5). Як тубылец Брукліна мушу заўважыць, што, як і кожнае абагульненне, падобная характарыстыка далёкая ад праўды.

144 Беларус. № 169. Травень 1971. С. 4.

145 Знамянальна, што ў травелогу Міколы Нікана няма ні слова пра знаёмства з Ларысай Геніюш. Мо аўтар і яго апусціў, каб не рабіць шкоды паэтцы?

*У Амэрыцы — таксама пляную быць 4 тыдні — каля 2 у USA і 2 у Канадзе ў брата ў Лёндане, Антарыё. Зь Лёндану (Антарыё) адлятаю да Аўстраліі.*

*Так выглядае мой плян. Як будзе ў рэальнасьці, ня ведаю. Можа шмат зьменіцца ў залежнасьці ад сытуацый і магчымасьцяў. Фактычна — магу быць у дарозе даўжэй. Будзе, аднак, сумна самаму вандраваць.*

*Сябры адраджвалі ехаць. Пашто, гавораць, марнаваць грошы, якія так могуць быць патрэбнымі ў жыцьці пэнсіянэра? Вырашыў, аднак, паехаць. Апошняя мая прыемнасьць і разьвітаньне са «старым сьветам» — нашым сьветам. Як шчасьліва вярнуся да Аўстраліі, у ёй ужо буду дажываць да канца свайго жыцьця»*[146].

Мікола Нікан шчасліва вярнуўся ў Аўстралію, а вось дажываць шчасліва не атрымалася; сталася так, што з падарожжамі ў яго паядналіся і самыя чорныя моманты жыцця:

*«Выбачайце за маё маўчаньне. Праўда, два месяцы таму, пасьля свайго павароту з падарожжа паслаў Вам прывітаньні. Але за гэты час у мяне зьмянілася жыцьцё. Пэўна, ужо ведаеце з газэты*[147]*, што страціў Жонку, якая нагла памерла. Для нас усіх гэта было шокам. А для мяне асаблівым. Памерла ў маіх руках — нечакана. І хоць ад гэтага часу мінула столькі дзён, я яшчэ не вярнуўся да нормы, пачуваю сябе дрэнна. Жыву цяпер сам. А самаму — цяжка. Калі вярнуўся дадому пасьля падарожжа, так ужо цешыўся, што ўрэшце пачнем жыць больш спакойна й для сябе, што больш часу прысьвячу Жонцы, бо для яе не хапала часу. І толькі 22 дні былі мы разам, толькі пачыналі крыху жыць для сябе. І так нагла скончылася.*

*Я ведаю, што гэта чакае ўсіх. Але гэта «ўсіх» — уключна з сабою — зусім іначай значыць. Набірае значаньне толькі тады, калі датычыцца нас беспасярэдна, калі ўдарыць па нас. Ня цэнім, што маем. Пачынаем цаніць, калі страцім. Драбніцы, зусім часта няважныя рэчы забіраюць нам час і ўвагу. На жыцьцё не хапае*

[146] Ліст ад 29.05.1973. З архіва газеты «Бацькаўшчына», што захоўваецца ў архіве БІНіМу.
[147] А. К. Сьвятой памяці Лідыя Нікан // Беларус. № 199. Лістапад 1973. С. 4.




*Магіла Міколы Нікана і дзвюх ягоных жонак у Мельбурне*

*часу. Таму бяда, шкада, крыўда, калі трацім назаўсёды найбліжэйшую Асобу, Сябра, Прыяцеля жыцьця»*[148].

Мінула колькі часу, і Мікола Нікан зноў піша да Паўлы Урбана:

*«Выбачайце, што Вам не падзякаваў за Сьвяточныя віншаваньні. Зьбіраўся некалькі разоў пісаць — і не ўдалося. Калі пачынаў «будаваць» сваё новае жыцьцё — магчыма, і ня меў часу. А калі сталася няшчасьце — 2 месяца таму*[149] *— таксама ня змог. 33 дні быў у шпіталі, 22 дні ў дачкі, дзе «адпачываў», вяртаўся да сябе, каб як найхутчэй узяць сябе ў рукі. І памаленьку бяру.*

*Праўда, усё тут прыпамінае нядаўна мінулае, а перадусім тое, што мела быць, таму часта цяжка паўстрымаць і сьлёзы. Але з другога боку, тут, дзе пражыў толькі год, змушаны абставінамі, лягчэй стацца самастойным, незалежным, што так важна ёсьць у маім сёньняшнім жыцьці.*

*Ужо хаджу, нават і далей па закупы (блізка). Але ўчора паехаў цягнікам аж на могільнік, дзе крыху па-*

148 Ліст да Паўлы Урбана ад 12.12.1974. З архіва газеты «Бацькаўшчына», што захоўваецца ў архіве БІНіМу.

149 17.03.1975.

*плакаў, але й супакоіўся й вярнуўся крыху мацнейшым. Сяньня езьдзіў зь сябрам да шпіталя, каб зрабіць X-рай*[150] *левай рукі, якую яшчэ нашу на хустцы. 20.05 маю зноў быць у шпіталі ў доктара, які агледзіць мяне й скажа, што будзе далей. Баюся, каб яшчэ раз не ламалі руку, бо кепска зрастаецца. Але можа абыдзецца без апэрацыі. Даволі было турботаў.*

*З газэты*[151] *Вы даведаліся аб маім — нашым — няшчасным выпадку. Паўтараць ня буду, толькі дадам колькі сказаў «уступных».*

*Перад Калядамі прыпадкова пазнаёміўся з украінкай — Ірэнай. Муж Яе згінуў 4 гады таму ў калеёвай катастрофе, у час працы, як рабіў зь сябрам інжынэрам плян масту, які меў быць пабудаваны. Мела сына, які для Яе быў усім. Калі, аднак, ён вырашыў ажаніцца, што прыняла з радасьцю, адначасна пачала думаць і пра сябе. Нашае спатканьне — падобныя абставіны, шмат, шмат супольнага — хутка зьблізіла нас. Вырашылі пайсьці адной дарогай. Нашыя дзеці, сябры, найбліжэйшыя кроўныя цёпла падтрымалі. І мы 15 сакавіка ў прысутнасьці нашых дзяцей як сьведкаў скромна аформілі нашае сужэнства. Два дні пражылі ў маім Прыпынку*[152]*, каб потым перайсьці да Яе дому, лепшага за мой, а ў маім меў тымчасам жыць Яе сын. 17.03. выбраліся самаходам, які перад 2 тыднямі купілі, які Ірэна сама выбірала й так добра сябе ў ім пачувала, на некалькі дзён у горы. На паўдарогі пасьля 4 гадзін вольнай і асьцярожнай язды спаткала нас катастрофа. Як сталася — да сяньня ня ведаю.*

*Я апынуўся ў шпіталі, а Ірэна, хоць нярушаная, ад шоку хіба, памерла на сэрца й 21.03 была пахаваная побач маёй першай жонкі, Ліды, якой хоць ня знала, моцна палюбіла, магілай Яе апекавалася й калісь, можа й прыпадкова, сказала: Тут будзе й маё месца. Так і сталася.*

---

150 *X-ray* (англ.) — рэнтген.

151 А. К-а. Трагічны выпадак зь сям’ёй Міколы Нікана // Беларус. № 217. Травень 1975. С. 3.

152 Так Мікола Нікан называў сваю хату.

*Пэўна — шмат пражжыў. Сабачы лёс. Калі было ўжо так добра — нагла ўсё зьмянілася. Цяпер трэба пагадзіцца й з гэтым»*[153].

На тры гады раней за Міколу Нікана, у годзе Сядуравага падарожжа ў Святую Зямлю, 4 ліпеня 1966 г., іншы эмігрант, Дыянісій (Дзяніс?) Маркавіч Гарбацэвіч, 1895 года нараджэння[154], узышоў на савецкі карабель «Аляксандр Пушкін». Канцавым прыпынкам была Беларусь, а вынікам падарожжа сталася кніга «Два месяцы ў гасцях у калгаснікаў»[155].

Аднак спачатку троху перадгісторыі, неабходнай для разумення постаці аўтара кнігі і — шырэй — ранейшай, даваеннай эміграцыі, пра якую Станіслаў Станкевіч ва ўласным травелогу выказаўся наступным чынам:

*«Старая ж беларуская эміграцыя, — а яе ў цэлай Амэрыцы некалькі мільёнаў — для беларускае нацыянальнае справы зусім страчаная. Яе твораць людзі, што прыбылі ў Амэрыку яшчэ перад першай сьветавой вайной, у большыні — адзін-два дзесяткі гадоў перад ёю, калі беларуская нацыянальная сьведамасьць яшчэ або не пранікла, а калі дзе й пранікла, дык яшчэ не замацавалася ў шырокіх народных масах. Гэтыя людзі, прыбыўшы ў Амэрыку, вызначалі сваю прыналежнасьць паводле веравызнаньня: праваслаўныя лічылі сябе Расейцамі, каталікі — Палякамі. Трэба з асаблівым націскам падчыркнуць, што расейская й польская эміграцыі ў Амэрыцы разбудавалі тут шырокае й буйнае нацыянальнае жыцьцё ў вельмі вялікай меры на базе дзейнасьці й матэрыяльнай помачы нацыянальна нясьведамай старой беларускай эміграцыі»*[156].

Згодна з падлікамі расійскага гісторыка Э. Нітабурга, з 1860-х гг. да 1914 г. у ЗША прыехалі каля 800 тысяч беларусаў; у 1920 г. у адным штаце Нью-Джэрсі жылі 36 тысяч. Ён таксама прыводзіць словы амерыканскага даследніка Б. Кайпэла, які

---

[153] Ліст да Паўлы Урбана ад 16.5.1975 г. З архіва газеты «Бацькаўшчына», што захоўваецца ў архіве БІНіМу.

[154] Памёр у 1986 г.

[155] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников. (Заметки американского туриста.) С 22 иллюстрациями. Нью-Йорк, 1967. — 160 с.

[156] Бацькаўшчына. № 6 (442). 8 лютага 1959. С. 2.




*Савецкі замежны пашпарт. 1925 г.*

меркаваў, што не менш за 50 адсоткаў эмігрантаў з Расійскай імперыі насамрэч былі беларусамі[157].

Гэтая хваля зрабіла нашмат больш за будаўніцтва цэркваў і касцёлаў для рускіх і палякаў; дастаткова згадаць адзін толькі Свята-Троіцкі манастыр у Джорданвілі (штат Нью-Ёрк), цэнтр рэлігійнага жыцця Рускай Праваслаўнай Царквы за мяжой, заснаваны беларусам архімандрытам Панцеляймонам (Ніжнікам)[158].

Іншым цэнтрам была ды ёсць (бо існуе і сёння) Фарма РОВА[159]. *Русское объединенное общество взаимопомощи в Америке* (скарочана — РООВА) паўстала 9–10 кастрычніка 1926 г. у Філадэльфіі на сходзе рускіх арганізацыяў узаемадапамогі.

---

[157] Нитобург, Э. Русские в США. История и судьбы. 1870–1970. Этноисторический очерк. Москва: Наука, 2005. С. 380.

[158] Л. Ю. Беларускія магілы ў Джарданвіле // Беларус. № 520. Травень 2006. С. 7.

[159] Звесткі пра РООВА і сябраў таварыства ўзятыя з кнігі: Березний, Т. Русский мужик и водородная бомба. Характеристика русского крестьянина и его отношение к войне. Нью-Йорк, 1958. — 255 с.

У яе ўвайшлі таварыствы з Чыкага, царкоўнае брацтва з Нью-Ёрка ды іншыя, пераважна рускія, таварыствы[160], закладзеныя яшчэ ў 1892–1918 гг.

Асноўныя прынцыпы РООВА — аб’яднанне на глебе эканамічнай узаемадапамогі ды культурна-асветніцкая праца (палітычная і рэлігійная дзейнасць выключаліся). У адным з пунктаў статута абумоўлівалася, што сябрамі таварыства могуць быць асобы *«расійска-славянскага паходжання»*, хоць аддзелам на месцах дазвалялася прымаць і неславянаў. А вось у Цэнтральны Камітэт таварыства маглі быць вылучаныя толькі славяне.

У 1934 г. у штаце Нью-Джэрсі, у мястэчку Касвіл[161] (за 60 міляў ад Нью-Ёрка) таварыства набыло зямлю ў 1440 акраў з закінутымі будынкамі — месца будучай Фармы. З цягам часу тут паўсталі дачы, рэстарацыя, моладзевы клуб, танцавальная заля, дом для пенсіянераў, бібліятэка імя Льва Талстога, парк, помнік Аляксандру Пушкіну. Ёсць і могілкі Святога Уладзіміра, дзе пахавана ці мала беларусаў, сярод якіх і такія вядомыя беларускаму эміграцыйнаму грамадству, як Аляксандр Асіпчык[162].

Беларусы адыгрывалі даволі значную ролю ў жыцці таварыства. Вось адзінкі — каго называлі «апірышчам» РООВА.

*Міхась Лазарэвіч* нарадзіўся пад Мінскам, у вёсцы Слабодка. Сын заможных бацькоў, ён атрымаў неблагую адукацыю. У 1913 г. прыехаў у Амерыку, скончыў курсы бухгалтараў, заснаваў уласную фірму вытворчасці і продажу мэблі. Быў старшынём РООВА на працягу 12 гадоў: 1937–1945 і 1952–1954, актыўна друкаваўся ў часопісе «Русский Вестник»[163].

Народжаны пад Слуцкам *Антон Крывулька* падчас руска-японскай вайны і пасля яе працаваў на сібірскай чыгунцы. Прыехаў у ЗША ў 1907 г., а ў 1908 г. стварыў першае братэрства ў Бронксвіле[164], запачаткаваў Славянскае таварыства, заклаў

---

160 Было і карпата-русінскае.

161 *Cassville, NJ.*

162 Сьв. памяці Аляксандар Асіповіч-Асіпчык (01.04.1909, Слонім — 14.03.1990, Нью-Джэрзі) // Беларус. № 369. Красавік 1990. С. 8.

163 Русский Вестник. Общественно-литературный журнал Объединенного Общества взаимопомощи в Америке и Федерации Молодежи. Нью-Йорк, 1934–1937 (№ 57). Працяг выдання: Русский Вестник. Культурно-информационный журнал Русского Объединенного Общества взаимопомощи. Нью-Йорк, 1937–1939 (№ 86).

164 *Bronxville, NY.*

школу рускай мовы для дзяцей і дарослых, арганізаваў набыццё рускага народнага дома. Ніводнае пачынанне ў РООВА не абыходзілася без ягонага ўдзелу.

*Антон Плюта* (нар. 15.02.1888 у вёсцы Курдзякі Вілейскага павета), *Сцяпан Янцэвіч* (нар. 20.10.1893 у вёсцы Жураўцы Альшанскага павета) — гэта толькі тыя, пра якіх льга дакладна сказаць, што яны беларусы.

Сваё, апрычонае бачанне гэтых беларусаў, адрознае ад Станкевічава, было ў Юркі Віцьбіча. Ён пісаў у БІНіМ:

> *«Глыбокапаважаная Ўправа! Перадусім хочацца заўважыць, што мой зварот да нейкае ступені й своеасаблівы, але затое ён шчыры. Вельмі ўдзячны за запросіны на Дыскусійнае Паседжаньне БІНіМ на цікавую тэму: «Спроба навуковага аблічэньня сучаснага ліку беларусаў у Беларусі й на сьвеце».*
>
> *Спадзяюся, што гэты падлік пашыраецца й на беларусаў ЗША з старой эміграцыі, зь якіх цяпер, на жаль, у пераважнай большасьці складаецца РООВА. Усё ж даволі цяжка закінуць ім здраду нашай нацыянальнай справе, бо, па-першае, яны паходзяць з найбольш цьмяных вёскаў і дагэтуль больш чым на 70% непісьменныя, а, па-другое, трэба мець на ўвазе той час, калі яны спакінулі Бацькаўшчыну. Тым ня менш яны захавалі добрую беларускую мову, песьні, прыказкі, паданьні, звычаі й найгалоўнае — замілаваньне, любоў да свае Бацькаўшчыны. Дазвольце прывесьці два красамоўныя прыклады.*
>
> *На тэй фабрыцы, дзе я працую, ёсьць, акрамя беларусаў, таксама ладне казакоў — данскіх, кубанскіх, церскіх, арэнбурскіх і г. д. Характэрна, што гэтыя казакі, якія ў часе Другой Сусьветнай вайны фарміраваліся на Беларусі (Станцыя Лясная пад Баранавічамі), ніколі ня блытаюць беларусаў з расейцамі, ставячыся да апошніх непрыхільна. Паказальна таксама, што адзін зь іх прасіў мяне з нагоды Новага Году перараказаць казацкае павіншаваньне Барысу Рагулі й рагулінцам увогуле. Станіцы й хутары гэтых казакоў знаходзяцца ў ваколіцах фармы РООВА. І вось калі адзін казак пабачыць у другога казака сінякі на твары, дык звычайна запытваецца: Что, белоруссы избили на ферме?*

*А справа ў тым, што калі той ці іншы падпіты казак, жартуючы й з свайго казацкага, паспрабуе ў гутарцы з «расейцамі» пажартаваць зь беларускае мовы, гарадоў, рэкаў, нават глебы, дык справа звычайна й канчаецца сінякамі. Прабачце за асабістае, але ў мяне ёсьць лісты, у якіх беларусы старое эміграцыі выказваюць мне цёплую ўдзячнасьць за мае адказы на старонках «Нового Русского Слова» Баранцэвічам*[165]*. Магчыма, ня менш паказальна, што гэтыя самыя «расейцы» літаральна ў тры шыі выкінулі з фармы агульназнанага Андрэя Дзікага*[166] *пасьля ягонага рэфэрату аб ніжэйшасьці, а ў сувязі з гэтым і падпарадкаванасьці беларусаў і ўкраінцаў расейцам.*

*Слоў няма, старая беларуская эміграцыя зьяўляецца, бадай, згубленай для нашага нацыянальнага вызвольнага змаганьня, але нас яднае зь ёй (ня з РООВА як інстытуцыяй) кроў, мова й настальгія»*[167].

От жа да РООВА належаў і яшчэ адзін беларус — Д. Гарбацэвіч. Як сцвярджаецца[168], прыехаў ён у Амерыку, бадай, без адукацыі і з няведаннем рускай мовы (то трэба думаць, гаварыў напачатку выключна па-беларуску). Паступова вывучыў рускую настолькі, што як намеснік Галоўнага Сакратара РООВА пісаў пратаколы паседжанняў і з’яўляўся карэспандэнтам Рускага Дэмакратычнага Клуба ў Нью-Ёрку. На Фарме выконваў абавязкі бібліятэкара ў рускай грамадскай бібліятэцы[169].

У 1935 г. пад псеўданімам *Мінскі Мужык* выдаў у Чыкага (а пазней перавыдаў у Нью-Ёрку і Рызе) кнігу «Што я бачыў

---

[165] Баранцэвіч — беларускі эмігрант-федэраліст, часты аўтар газеты «Новое Русское Слово».

[166] Сапраўднае прозвішча **Андрэй Занкевіч** (1893–1977). Эмігрант з Украіны, аўтар кніг «Пропавшая грамота. Неизвращенная история Украины — Руси», «Евреи в России и в СССР», «Русско-еврейский диалог».

[167] Ліст Юркі Віцьбіча ў БІНіМ ад 03.06.1956. Захоўваецца ў архіве БІНіМу.

[168] Березний, Т. Русский мужик и водородная бомба. Характеристика русского крестьянина и его отношение к войне. Нью-Йорк, 1958. С. 46.

[169] Займальна, колькі беларусаў-эмігрантаў працавалі і працуюць бібліятэкарамі ў ЗША: Вітаўт і Зора Кіпелі, Леў Акіншэвіч, Васіль Шчэцька, Гіпаліт Паланевіч, Галіна Русак, Лёля Касоўская, Бабі Цупрык, Віталь Зайка ды некаторыя іншыя, улучна з аўтарам гэтых радкоў.

у савецкай Расіі?»[170]. Праз два гады пабачыла свет ягоная наступная праца «Праўда аб Савецкай Расіі»[171]. Так што Гарбацэвіча цалкам магчыма назваць прафесійным пісьменнікам — аўтарам травелогаў.




*Тытульны ліст кнігі Мінскага Мужыка*

Ён, як і іншы пісьменнік-эмігрант з Беларусі, Рамуальд Карнасевіч, памятаў, дзе нарадзіўся, але з беларусам ці нават з заходнерусам сябе не атаесамляў. На Беларусь глядзеў вокам *чужога* і ўсведамляў тое. Калі на першых старонках «Што я бачыў…» Гарбацэвіч адказвае на запытанне пра нацыянальнасць дзяўчыне з Канады, што ён рускі, дык ужо аднаму з раздзелаў у кнізе «Два месяцы…», «У роднай вёсцы», дасылае ў якасці эпіграфа такія радкі Сяргея Ясеніна:

*Ах, родина! Какой я стал…*
*Язык сограждан стал мне как чужой.*
*В своей стране я словно иностранец*[172].

[170] Минский Мужик. Что я видел в советской России. Из моих личных наблюдений. Чикаго, 1935. — 336 с.

[171] Горбацевич, Д. Правда о Советской России (по личным наблюдениям и материалам советской печати и статистики). Нью-Йорк (Printed in Riga), 1937. — 186 с.

[172] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников. Нью-Йорк, 1967. С. 17. Радкі з паэмы «Русь советская». Цытата недакладная: *«Ах, родина! Какой я стал смешной. / На щеки впалые летит сухой румянец. / Язык сограждан стал мне как чужой, / В своей стране я словно иностранец».*

Што ведама пра самога аўтара? Тым часам небагата: толькі тое, што ён сам палічыў патрэбным распавесці пра сябе[173].

Нарадзіўся ў вёсцы за 28 вёрстаў ад Слуцка. Прыехаў у Амерыку ў 1913 г.; праўда, у спісах пасажыраў Эліс-Айленда знайсці ягонае імя не атрымалася[174]. Першы раз наведаў СССР улетку 1934 г. — была нават думка застацца там назаўсёды: Амерыка перажывала цяжкія часы дэпрэсіі. Па вяртанні Гарбацэвіч надрукаваў серыю артыкулаў у газеце «Рассвет»[175] (з верасня 1934 да канца сакавіка 1935 гг.). Гэтыя артыкулы, дапоўненыя пазней інфармацыяй з савецкіх крыніцаў, і склалі кнігу «Што я бачыў…». Аповед пра падарожжа ў Ленінград, Маскву і Беларусь, дзе Гарбацэвіч пісаў пра сябе: *«Я — не профессиональный писатель. Я — рабочий от станка. Писал в досуги, после тяжелого физического труда, по вечерам и даже ночами. 18 лет самообразовательной работы над собой помогли мне выполнить эту трудную и тяжёлую работу»*[176].

Першая кніга Гарбацэвіча менш цікавая: занадта моцны публіцыстычна-абвінаваўчы пачатак, зададзенасць. Дый Беларусі там вобмаль. У адзін шэраг закідаў бальшавізму — збяднення сялянаў, бруд на вуліцах і на вакзалах, занядбанне кірмашоў — ставіць ён і беларусізацыю: *«С целью саморекламы, большевики создали несколько десятков республик в России. Им нужно было показать иностранным государствам, что они за независимость и самоопределение народностей, населяющих Россию. У самого отъявленного мошенника имеется больше совести, чем у этих советских республик независимости и свободы. […] «Независимость» проявляется только в языке*

[173] Паводле Вітаўта Кіпеля, Гарбацэвіч пад псеўданімам Мінскі Мужык друкаваўся ў газеце «Новое Русское Слово» (Нью-Ёрк) з матэрыялам пра «палешукоў», там мае быць і ягоны некралог. На жаль, газета па сёння не мае ўказальніка, як не мае і лічбаванага архіва. Усе нумары газеты — на мікрафільмах, што складае немалыя цяжкасці для даследнікаў. Таму пошук іншых публікацыяў Д. Гарбацэвіча і ўкладання ягонай біяграмы пакінем на пазнейшы час.

[174] http://www.ellisisland.org/; http://www.jewishgen.org/databases/EIDB/ellis.html.

[175] «Рассвет». Орган российских рабочих организаций С. Ш. А. и Канады. 1924–1940. Штодзённая газета. Гарбацэвіч у кнізе піша, што газета выходзіла ў Чыкага, насамрэч жа яна друкавалася ў Нью-Ёрку.

[176] Минский Мужик. Что я видел в советской России. Из моих личных наблюдений. Чикаго, 1935. С. 330.

*и здравоохранении. Нельзя сказать, чтобы всем этим были облагодетельствованы белорусы, особенно русифицированные, которым никак не прививается простое местное наречие. Официально в Белоруссии существуют четыре языка: белорусский, еврейский, польский и русский. Но последний постепенно вытесняется, насаждается белорусский язык. Но он с таким же «успехом» прививается населению, как и сам большевизм. На многих бланках имеются рядом и русские надписи. В разговорной речи везде употребляется русский язык. Даже дети, изучающие никому не нужный язык, говорят легче по-русски, чем по-белорусски»*[177].

Калі ж Гарбацэвіч апісвае не СССР наогул, а сваю вёску, спатканне з бацькамі, родную хату, ён прагаворваецца і кажа больш, як, напэўна, хацеў бы — і пра ўжыванне беларускай мовы, і пра атрыманую ў хаце адукацыю дый пра сябе самога:

*«Я слез с воза и иду во двор. Стоящие крестьяне отступили назад от босого, низкого, с большой бородой и большими белыми глазами старика, в упор смотревшего на меня.*

*— Здравствуй, папаша, не узнаю тебя, но догадываюсь, что ты — мой отец, которого я долго не видел.*

*Отец крепко обнял меня, впился своей большой и мягкой, как лён, седой бородой в мое лицо и долго не отпускал меня. От радости и волнения он силится что-то сказать, но не может. Собравшись с духом, говорит:*

*— Чи это ты, сынок, як же ты это так несподзевано (неожиданно) приехал? [...]*

*Я — в родной хате, в которой родился и вырос. В ней меня зимою обучали грамоте и письму. За это я ей многим обязан. Здесь я получил первый толчок к свету и знанию. Как бедного отца, я не узнал родной избы. Она, как старушка, одряхлела, осунулась, приняла жалкий и убогий вид. Встретила меня холодно и негостеприимно: по-видимому, не узнала и меня. Вместо прежних четырех окон осталось три — ослепла ты, бедная старушка. Обстановка почти прежняя: кровать с толстым соломенным матрацем и двумя большими подушками, покрытая одеялом домашнего изделия; почерневший шкаф, по сторонам — лавки для сидения из толстых досок,*

[177] Минский Мужик. Что я видел в советской России… С. 97–98.

*почерневшая в углу икона, прадедовская глиняная печь, несколько закоптелых горшков, а у порога — кочерга, несколько ухватов.*

*Глядя на эту родную старину, думаю: ни Великая революция, ни пятилетки не могли уничтожить тебя, прадедовская печь, и принести деревне что-либо лучшее. […]*

*Был вечер. В избу продолжали приходить братья, сестры и односельчане. Все поздравляли меня с приездом, но я никого не узнавал. Пришлось, как в какой-нибудь чужой стране, знакомиться со всеми и с трудом вспоминать тех или других. Здесь было много комичного и смешного. Стол уже был покрыт белой скатертью. Стояла пол-литровая бутылка советской «рыковки»*[178]*, на тарелке жареное сало с яйцами, огурцы, мед, молоко и черный, как грязь, хлеб»*[179].

Паводле Гарбацэвіча, па выхадзе першай кнігі яму прапанавалі напісаць пра рэвалюцыю ў Іспаніі. Ён быў паехаў туды, але ў Парыжы яго заспела вестка, што Мусаліні з Гітлерам бамбяць Мадрыд і Барселону. Таму з Парыжа Гарбацэвіч выехаў у Польшчу, дзе напісаў сваю другую кнігу, прысвечаную сталінскай канстытуцыі, — «Праўда аб Савецкай Расіі»[180].

У 1960 г. Гарбацэвіч ізноў наведаў СССР і цягам 28 дзён пабачыў Мінск, Маскву, Кіеў, Крым, Адэсу, Сочы, Каўказ.

---

[178] Напрыканцы 1924 г. Савет Народных Камісараў выдаў дэкрэт, якім дазваляўся продаж гарэлкі. Старшынём Саўнаркама ў той час быў А. Рыкаў (1881–1938). Адсюль і такі «народны» назоў бутэлькі.

[179] Минский Мужик. Что я видел в советской России… С. 123–126.

[180] Паводле цверджання Д. Гарбацэвіча, другая кніга выклікала рэзкую крытыку ў *«Нью-Ёрку ў сталінскім «Новом Мире»»*. У Нью-Ёрку выходзіла некалькі газетаў з такой назвай. Але ўсе яны спынілі сваё існаванне да выхаду кнігі: *«Еженедельная рабочая газета — русский орган Коммунистической партии С. Ш. А, секции Коммунистического Интернационала»* — у 1930 г., *«Ежедневная русская рабочая газета, орган Русской федерации социалистической партии Америки»* — у 1919 г., *«Рабочая газета»* — у 1928 г., як і аднайменны часопіс, *«Официальный орган Федерации русских отделов коммунистической партии Америки»* (да 1920 г.). Магчыма, Гарбацэвіч меў на ўвазе прасавецкі шанхайскі «Новый Мир», што выходзіў да 1938 г. Зрэшты, не выключана, што гаворка ішла пра часопіс «Новый Мир» з СССР.

У родную вёску заехаць не дазволілі[181]. Пра гэтае падарожжа ён таксама выдрукаваў невялікі памерам травелог[182].

Неспатоленае жаданне пабачыць вёску дапамагло дамагчыся бадай нечуванага на тыя часы: Гарбацэвіч дазвол атрымаў.




*Вокладка кнігі Д. Гарбацэвіча*

Кніга «Два месяцы…» (ілюстраваная, дарэчы, аўтарскімі фотаздымкамі), пра якую і пойдзе далей аповед, змайстраваная, як і першая аўтарская: уласныя падарожныя назіранні падаюцца разам з статыстычнымі дадзенымі і звесткамі з беларускіх савецкіх газетаў; усё гэта размяркоўваецца па 43-х раздзелах. Травелог уяўляе сабою не лінейны, паслядоўны выклад падзеяў, а тэматычны, што адбіваецца ў назвах раздзелаў: *«Колхозный быт»; «Колхозные клубы и кино»; «Советские нравы»; «Веселье в деревне»; «Религия, церкви, кладбища»; «Жестокость советской власти»; «Лихоимство»; «Работать стало легче, жить — труднее»* і г. д.

Відаць, найлепшы шлях распавесці пра травелог, прысвечаны, як зазначана на адвароце тытульнай бачыны, памяці маці, закатаванай гітлераўцамі ў 1942 г.[183], — трымацца яго як праваднікa ды ісці след у след.

---

[181] *«Адносна замежных дэлегацый і турыстаў прадугледжвалася абмежаванне і рэгламентацыя іх руху па краіне, недапушчэнне непажаданых кантактаў, прапагандысцкі ўхіл у праграмах іх знаходжаньня. У 1965 г. у спіс аб'ектаў, якія былі дазволены для паказу замежным грамадзянам у Мінску і Мінскай вобласці, уваходзіла 17 прамысловых прадпрыемстваў Мінска, Жодзіна і Салігорска, 6 сталічных вну, 4 сярэднія школы, 6 лячэбных установў, 17 піянерскіх лагераў, 11 калгасаў і саўгасаў»* (Снапкоўскі, У. Гісторыя знешняй палітыкі Беларусі. У 2-х ч. Ч. 2. Ад канца XVIII — да пачатку XXI ст. Мінск, 2004. С. 207).

[182] Дело труда — Пробуждение. Орган объединенной федерации русских рабочих организаций Соединенных Штатов и Канады. № 65. 1962.

[183] Разам з маці загінулі два браты і малодшая сястра Д. Гарбацэвіча.



***Д. Гарбацэвіч у беларускай вёсцы. Ілюстрацыя з кнігі «Два месяцы ў гасцях у калгаснікаў». Арыгінальны подпіс: «Такая кукуруза в родной деревне»***

Турызм у савецкую вёску — так Гарбацэвіч вызначыў адметнасць свайго падарожжа, унікальнасць якога была відавочнаю: калі вялікія гарады дазвалялася наведваць, бо там быў нагляд экскурсаводаў і адмыслова прызначаных супрацоўнікаў, а кантакты з мясцовым насельніцтвам былі зведзеныя да мінімуму, дык у вёсках, дзе турыста абступалі або сваякі, або знаёмыя, абмежаваць і кантраляваць размовы было проста немагчыма: *«Наедине и в небольшой семье мне приходилось говорить правду в беседе с советской интеллигенцией. Когда я говорил, что я, профессиональный обойщик, зарабатывал больше ста долларов в неделю и теперь, будучи на пенсии, получаю 120 долларов в месяц, а рыночные цены на пищу, одежду и обувь (кроме высокой квартирной платы) ниже советских цен, то мои собеседники задумывались и долго не могли ставить мне другие вопросы, связанные с жизнью в капиталистических странах»*[184].

Ад порту прыбыцця, Ленінграда, Гарбацэвіч едзе праз Мінск, што, на ягонае прызнанне, можа спаборнічаць з найлепшымі гарадамі Амерыкі і Еўропы, адбудаваны пасля вайны Слуцк, непазнавальнае Берасце. Змяніўся і знешні выгляд мінакоў: *«Судя по румяным, полным лицам, в Белоруссии хватает жиров для питания; и в этом смысле разве только москвичи могут с ней*

[184] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников. Нью-Йорк, 1967. С. 11.

*состязаться по упитанности, хотя одежда и обувь у белоруса не такие уж фасонистые, как в столице, а в магазинах выбор мануфактуры не особенно велик»*[185].

Усё бачанае Гарбацэвіч цяпер параўноўвае не столькі з часам да ад'езду ў Амерыку, колькі з 1934 г.: па-старому засталіся небрукаванымі вуліцы, дамоў паменшала. Муляе вока адсутнасць нейкай сістэмы забудовы — аўтар называе яе «культурай планавання». Большасць калгаснікаў жыве ў двухпакаёвых дамках з верандамі — яшчэ даваеннай пабудовы, з прадзедаўскімі печамі. Аўтар станоўча пералічвае, што ён бачыць у хатах: металёвыя ложкі, матрацы, круглы стол, зэдлікі, камоды, гаршкі, партрэты знакамітасцяў (няма іконаў, праўда), адсутнасць прусакоў — вёска ўпрыгожваецца, піша ён, цягнецца за горадам.

Зазірнуўшы ў склеп, на падстрэшша, у хлеў, палічыўшы жывёлу і ейны корм, Гарбацэвіч сам сядае за стол: *«Колхозник любит хорошо поесть: на столе у него сало сырое, вареное, жареное, шкварки (излюбленное блюдо белоруса), яйца вареные и сырые (сырые пьет на закуску вместо чая, кофе), супы молочные, мясные, каша гречневая, просяная, кислое молоко, летом помидоры и огурцы в сметане, сыр, творог, компот, белый и черный хлеб. Иногда он балуется и мясными блюдами — курица, колбаса, домашняя ветчина. Он не богач, но и не морит свою душу»*[186].

Наогул, аўтар травелога відавочна аматар падсілкавацца:

*«В закусочных* (на аўтобусных станцыях. — ***Л. Ю.***) *можно получить несколько кусочков селедки, колбасы, жареной печенки, рыбы. И рыба, и печенка хорошо приготовлены, приятный запах. На десерт стакан молока кислого, сладкого, яблочный компот, кофе. И кусок хлеба ржаного или ситного. Салата нигде нет: есть картошка, горошек, и только в больших закусочных — помидоры, огурцы.*

*Свои советские привыкли к такой пище. Для заокеанских гостей — застой в желудке. Приходится без зелени и даже иногда картошки есть хорошую свежую рыбу, телячью печенку с хлебом, запивая мутной водицей, называемой кофе. Но дешево: мясная или рыбная порция, хлеб, стакан компота и кофе — 37 копеек.*

*Сидеть долго в закусочных не полагается, хотя есть место и вы ожидаете автобуса. Особенно тогда, когда тихо и спокой-*

[185] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 14.
[186] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 24.

*но разговариваете с соседом. К вам приходит из кухни в белом фартуке судомойка, молодая комсомолка, наблюдавшая вас в окошечко, и говорит, что вы долго беседуете, освободите место для других, хотя вокруг много свободных мест или, если совсем мало клиентов, она просит освободить помещение — идет уборка»*[187].

Гарбацэвічу сваякі патлумачылі, што ў такіх месцах забараняецца весці размову нават шэптам: улады баяцца антыўрадавых змоваў.

І тут выяўляецца цікавы момант Гарбацэвічавага травелога, над якім нямала давядзецца пасядзець гісторыкам: дзе ў ягоным аповедзе пераказ падзеяў, бачаных на ўласныя вочы, а дзе толькі пераказ показак гарадскога (вясковага) фальклору?

Прыкладам, у раздзеле *«Пьянство-воровство — Пьяниц — Резиновыми палками»* аўтар абвінавачвае савецкую ўладу ў спойванні свайго народа, піша, што нават калі ў краіне не было хлеба, абутку, апраткі, заўсёды можна было знайсці самагон ці «рыкаўку», што пілі вялікімі, у тры чвэрці, шклянкамі. Гэта пры тым, што да Першай сусветнай вайны беларуская вёска п’яніцаў не ведала, хоць выпівалі і на народзіны, і на хрэсьбіны, і на вяселлі ды на паховіны. Злодзеяў не было таксама[188]. А каб змены за савецкім часам былі больш яскравымі, расказвае, што ў жніўні 1966 г. міліцыі выдалі гумовыя палкі і дазвол збіваць мінакоў, якія не адпавядаюць выгляду будаўнікоў сацыялізму. І вось нібы аўтар быў сведкам *«жестокой расправы не только с пьяницами, но и с лицами, шедшими неровно в сопровождении жен, родных. Их брали и на глазах знакомых били до смерти»*[189].

Напэўна, з падобнага шэрагу показак і гісторыя пра злачынца, які парэзаў нажом кабету, не да смерці: *«Милиция допросила грабителя. Он сознался. Составили протокол. Увезли его в район. Утром был суд, присудивший к высшей мере наказания — так всех грабителей судят в Белоруссии. В тюрьму их не посылают: будут мстить после возвращения»*[190].

Іншага ўзроўню, але, відаць, таксама належыць да показкавага жанру аповед пра тое, як былыя беларускія партызаны стралялі ў Мікіту Хрушчова і паранілі яму руку[191].

---

[187] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 26–27.
[188] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 48.
[189] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 47.
[190] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 50.
[191] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 142.



*Д. Гарбацэвіч на малочнай ферме. Ілюстрацыя з кнігі «Два месяцы ў гасцях у калгаснікаў»*

Зрэшты, вернемся да лічбаў, да якіх Гарбацэвіч меў асаблівае замілаванне — кніга літаральна поўніцца імі. Дык што такое для беларуса быў у тыя гады абед у 37 капеек? Параўнаем з іншымі коштамі.

Чорны хлеб — 14 капеек, белы — 15, дзясятак яек — 1 рубель (свежыя на кірмашы; у краме — 70 капеек), за кілаграм свініны — 1 рубель 80, сала — 3 рублі. Кілаграм цукру — 36 капеек, бульбы — 16.

Старая карова каштуе больш-менш 350 рублёў, маладая — 500.

Мужчынскі абутак — 18–30 рублёў, гарнітур — ад 50 да 80, белая кашуля — 5 рублёў, гальштук — 2.

Тэлевізар у тыя часы каштаваў 350, лядоўня — 200–350, аўтамабіль «Волга» — 3 400 рублёў[192].

Заробкі: калгаснік — 2 з паловаю рублі за 8 гадзінаў, старшыня калгаса — 4 з паловаю, брыгадзір — 3; даярка — 70–90 рублёў у месяц, пастух — 50–60, настаўнік — 70, аграном — 85, дворнікі ў раённых гарадах — 45.

Але не хлебам адзіным.

Беларуская мова, як і ў 1934 г., па-ранейшаму атаесамляецца з савецкім ладам; ужо адна назва раздзела выразна сведчыць

[192] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 123–124.

пра імперскія погляды аўтара, што некалі размаўляў толькі пабеларуску: *«Дутые нацреспублики»*:

*«Отличаются эти ленинские создания* (рэспублікі. — ***Л. Ю.***) *одно от другого тем, что им дарованы национальные языки. Язык и культура, например, украинского народа существовали давно. Они имеют историю, литературу. Белорусского же языка никогда не было, народ не знал его, национальной литературы и истории не имеет. Он взят из музеев, на языке этом, вернее, чем-то подобно ему, в провинции, далеко от центра Москвы, балакает деревенский народ. [...] Старшее поколение и окончившая школы молодежь тоже говорят по-русски. Только дети начальных школ употребляют некоторые, подхваченные в школе белорусские слова. В общем, их речь — смесь русских и народных слов, употребляемых в провинции давно.*

*Большие районные и колхозные библиотеки заполнены книгами на русском языке, и имеются только небольшие отделы книг на белорусском языке. Школьные отделы тоже. В них имеются все учебники и специальные пособия, которые школьники берут на дом для чтения, и на белорусском языке. [...]*

*Все — и старшие и младшие — читают газеты на русском языке. Белорусского языка не любят: все предпочитают более культурный и литературный русский язык. Только некоторые дети читают газеты на белорусском языке»*[193].

Але зноў жа, калі Гарбацэвіч апісвае пачутае ці пабачанае, ён забываецца — і прагаворваецца. Напрыклад, калі — у ягоным пераказе — першага сакратара Камуністычнай партыі Беларусі Кірыла Мазурава пляжыць Мікіта Хрушчоў, той думае, каб *«его маланка (молния) спалила и гром забиу»*[194].

Або ў камічнай сцэнцы пра радыё:

*«Но, чтобы подбодрить хлеборобов на тяжелый труд, после сведений о погоде и расписания работ в Белоруской республике начинается трескучая и пискливая музыка пластинок на русском и белорусском языках, режущих, как пилой, нервы хлеборобов, спешащих на работу.*

*Муж одной колхозницы привык завтракать под музыку. Жена его предупреждала много раз, что музыка нервирует ее, — она не может переносить ее, когда спешит на работу.*

[193] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 32–35.
[194] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников… С. 142.

*— Заткни уши и не слушай, — отвечал муж. — А мне интересно слушать все...*

*Нервы среднелетней женщины не выдержали, она схватила аппарат, бросила его о пол, крикнув: «Трасца твоей матери — я лячу на работу, а ты, гультай, будешь грать мне песни»...»*[195].

Разам з тым трэба зазначыць, што Гарбацэвіч, адмаўляючы існаванне нацыянальнай літаратуры, цікавіўся ёю і сачыў за падзеямі:

*«О преследовании советских писателей резко говорит в своем докладе Белорусских писателей (13 мая 1966 г.) молодой талантливый писатель (бывший активный партизан) Василь Быков, автор замечательной повести «Мертвым не болит» («Новый Мир», номер 1–2, 1966 г.): — Увы, плохо нас читают в ЦК, а если и читают... то чтоб в этом тексте найти какую-нибудь крамолу и с детским восторгом выставить ее на собрании: «Смотрите, вот какие мы бдительные».*

*В том докладе, зная повадки цензоров, он говорит, что своей грудью в партизанских рядах в прошлой войне показал, что был лоялен советской власти и таким же остался. Он, например, говорит, что в сельском хозяйстве уже минуло то время, когда председатели колхозов назначались в райкомах и привозились на отчетное собрание в облике знаменитого «кота в мешке». Теперь колхозники голосуют с большим выбором и большим разбором. А мы, писатели, по словам Быкова, до сих пор не имеем права даже на таком форуме, как съезд, выбрать президиум и председателя нашего человека»*[196].

Параўнальна невялікі памерам травелог Гарбацэвіча ахапіў самыя розныя праявы жыцця беларускае вёскі: клубы і кіно, вяселле, цэрквы і могілкі, эканоміка, падрабязна апісаў уклад некалькіх калгасаў. Сёння — гэта важнае гістарычнае сведчанне беларуса-эмігранта, які цудам наведаў родную вёску ў сярэдзіне 1960-х гг.

Палітычныя змены ў Беларусі на пачатку 1990-х гг. дазволілі эмігрантам здзейсніць сваю даўнюю мару — адведаць Бацькаўшчыну. Калі пасля падарожжа Міколы Нікана рызыканты і наважваліся на вандроўкі, галоўным чынам у Польшчу[197], то цяпер

[195] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников... С. 86.
[196] Горбацевич, Д. Два месяца в гостях у колхозников... С. 94.
[197] «Суайчыньнік». Па родных сьцежках і дарожках // Беларус. № 246. Кастрычнік 1977. С. 1, 2; Другі суайчыньнік. Я наведаў родную Беларусь //

жа паваенным эмігрантам не толькі нішто не пагражала: наадварот, яны зрабіліся жаданымі гасцямі. Шэраг травелогаў выдрукавала газета «Беларус»[198], і ацэнка ўбачанага выявілася палярна адрознаю: ад «Адкрыцця Бацькаўшчыны» Масея Сяднёва[199] да «Камок пад горла, альбо Дзе Бацькаўшчына?» Зоры Кіпель[200].

Яны аднолькава цікавыя як поглядам на Беларусь, гэтак і самаідэнтыфікацыяй аўтараў, спробамі суаднесці сябе і свае ўяўленні пра Беларусь з Беларуссю рэальнай, але разгляд гэтых тэкстаў, як і травелогаў аўтараў, што наведалі Амерыку параўнаўча нядаўна[201], выходзіць за межы гэтага артыкула.

Падсумоўваючы сказанае пра травелогі, можна зрабіць некалькі высноваў. Першая: травелог як жанр займае асобнае значнае месца ў паваенным эміграцыйным часапісьменстве і шырэй — літаратуры[202] ды з'яўляецца важнай крыніцай інфармацыі —

Беларус. № 250. Люты 1978. С. 2; Турыстка. Уражаньні з падарожжа ў Польшчу // Беларус. № 259–260. Лістапад-сьнежань 1978. С. 6; Акавіты У. Ліст з Аўстраліі (Адэляйда) // Беларус. № 341. Лістапад 1987. С. 7.

198 Запруднік, Я. Сустрэча з Бацькаўшчынай // Беларус. № 380. Травень-чырвень 1991. С. 5; Кіпель, В. Знаёмства з Бацькаўшчынай пасьля 1958 году // Беларус. № 381. Ліпень-жнівень 1991. С. 4; Кіпель, З. Камок пад горла, альбо Дзе Бацькаўшчына? // Беларус. № 381. Ліпень-жнівень 1991. С. 4; Сурвілла, І. Уражаньні з Бацькаўшчыны // Беларус. № 390. Травень 1992. С. 4; № 391. Чырвень 1992. С. 4; № 392. Ліпень-жнівень 1992. С. 7; № 393. Верасень 1992. С. 6; Каляда-Сьмірнова, І. «Мы кветкі аднаго поля». Уражаньні ад наведаньня Беларусі // Беларус. № 394. Кастрычнік 1992. С. 5; Калоша, К. Наведаньне Бацькаўшчыны — Беларусі // Беларус. № 395. Лістапад 1992. С. 4; № 396. Сьнежань 1992. С. 3; № 397. Студзень 1993. С. 4, 6; № 398. Люты 1993. С. 3; Сяднёў, М. Адкрыцьцё Бацькаўшчыны // Беларус. № 406. Кастрычнік 1993. С. 3; Мерляк, К. Тры тыдні ў Беларусі // Беларус. № 417. Кастрычнік 1994. С. 3; Кіпель, З. Падарожжа на Гомельшчыну // Беларус. № 425. Чырвень-ліпень 1995. С. 6; Матылевіч, К. Уражаньні зь Менску // Беларус. № 426. Жнівень 1995. С. 2; Кіпель, З. Падарожжа на поўнач Беларусі // Беларус. № 428. Кастрычнік 1995. С. 4 ды інш.

199 **Масей Сяднёў** (19.08.1915, в. Мокрае (сёння Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл.) — 05.02.2001, Глен-Коў, Нью-Джэрсі, ЗША), паэт, празаік.

200 **Зора Кіпель** (дзяв. **Савёнак**, 01.07.1927, Мінск — 14.04.2003, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадская дзяячка, бібліёграф, літаратуразнаўца.

201 У першую чаргу неабходна згадаць кнігу Уладзіміра Арлова «Божая кароўка з Пятай Авеню» (Мінск, 1988). Таксама цікавыя для аналізу вобразу Амерыкі, эміграцыі і постацяў саміх аўтараў травелогі Змітра Саўкі «Дранікі з колай» (Наша Ніва. № 17 (174). 24–30 красавіка 2000), Славаміра Адамовіча «Амэрыканскі дзёньнік» (ARCHE. 2002. № 1), Л. Левановіча «Усмешлівая Амерыка» (Мінск, 2005) ды іншыя. Нямала травелогаў друкавалася на старонках газеты «Наша Ніва» цягам 1990-х гг.

202 Хоць, што праўда, ніводзін з даследнікаў дасюль не заўважыў.

а вось гэта ўжо другая выснова! — не столькі пра адведаныя краіны, пабачаныя помнікі, здабытыя веды, пачутыя пахі ды зведаныя смакі, колькі пра самую нацыянальную эміграцыю, умовы яе існавання і працы, апісанне адметнасцяў пачаткаў ды пускання каранёў у краінах рассялення. Вытлумачэннем падобнага факту ёсць яскравы *нарцысізм* беларускіх вандроўнікаў, засяроджаных у першую чаргу на апісанні спатканняў з прадстаўнікамі (асобамі ці арганізацыямі) сваёй хвалі эміграцыі ў іншых краінах.

Немалую ролю тут адыграў нацыянальны друк замежжа — скіраванасцю на выключна ўласнабеларускія праявы існавання дыяспары, на гадавы каляндар «Каляды — 25 Сакавіка — Слуцкае паўстанне», ігнаруючы пры тым палітычны, грамадскі, культурніцкі бакі жыцця не толькі жыхароў краінаў рассялення, але і ўласна эмігрантаў (за асобнымі выняткамі, што падлягалі пэўнай уніфікацыі)[203]. Друк сфармаваў псіхалогію эмігранта, які, вандруючы па свеце, апісваў не тое, што і каго ён бачыў, а выключна тое, што, на думку вандроўніка, будзе цікавым заангажаваным чытачам беларускае прэсы.

Таму выглядае лагічнай — у святле тэзы *нарцысізму* — заключная выснова: травелогі, напісаныя прадстаўнікамі старой хвалі эміграцыі — *чужымі, не-Я* ў сваім стаўленні да Беларусі і беларускага — на сёння ёсць непараўнальна больш каштоўнаю фактураю для мікрагісторыі (у разгледжаным вышэй выпадку — аповедзе Гарбацэвіча — гісторыі беларускага калгаса сярэдзіны 1960-х гг.), для бачання і разумення пабытавага штодзённага жыцця за нарысы аўтараў паваеннай хвалі, якія шукалі ў новых краінах і ў Беларусі перш-наперш *сябедругіх* ды фіксавалі пераважна сведчанні беларускасці ў свеце.

Такім чынам, эміграцыйныя травелогі, напісаныя прадстаўнікамі розных хваляў, у тым ліку пачатку XXI ст.[204], ёсць мо не самаю мастацкі значнаю часткаю нашае літаратуры *з таго берага*, але недахоп гэты яны кампенсуюць каштоўнасцю аповеду пра самога аўтара, ягоную хвалю эміграцыі ды ўрэшце пра беларусаў наогул.

203 Юрэвіч, Лявон. Летапісны звод сусьвету Чалавека Сьведамага: Гісторыя газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус» (1947–2000). Менск, 2006. С. 122–125.

204 Гл., напрыклад, Бабкевіч, С. Дзёньнік адной вандроўкі з экскурсам у жыцьцё // Беларус 2007. Літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа. Нью-Ёрк, 2007. С. 10–16.

# RUSSKOYA CELO,

### *або Падарожжа амерыканца ў мінулым стагоддзі да загадкавых людзей, пераказанае ў нашую мову ларнікам вучоным у стагоддзі цяперашнім*

Гэтая гісторыя не звязаная, як магло б падацца з лацінічнага напісання назвы, з рускім целам. Гэтая гісторыя пра беларускую вёску.

Кніга, поўная назва якой «Russkoya Celo. The Ethnography of Russian-American Community», аўтарства нейкага Станфарда Нэйла Гербера, выйшла ў серыі «Immigrant Communities & Ethnic Minorities in the United States & Canada»[205], не была абыдзена ўвагаю беларусазнаўцаў: яе ўшчэнт спляжыў Вітаўт Кіпель[206] — і, трэба сказаць, абсалютна слушна[207]. Пагадзіцеся, калі антраполаг, этнограф блытае беларусаў з рускімі, а бацькаўшчыну эмігрантаў называе *Bylorussia* — гэта ўжо само па сабе ставіць пад сумнеў навуковасць працы. Тым не менш, кніга заслугоўвае ўвагі.

У Амерыцы і сёння існуюць месцы — кварталы ці нават цэлыя гарадкі — дзе быццам спыніўся час: у Нью-Ёрку жывуць хасіды, што і ўлетку апранаюцца ў шыкоўныя футравыя капелюшы і белыя панчохі — так хадзілі іхныя продкі ў Галандыі стагоддзі таму, а ў Пенсільваніі можна назіраць за жыццём амішэй, якое бадай не змянілася ад XVII стагоддзя.

---

205 Gerber, Stanford Neil. Russkoya celo. The ethnography of Russian-American Community. Immigrant Communities & Ethnic Minorities in the United States & Canada: 11. AMS Press, New York, 1985.

206 **Вітаўт Кіпель** (нар. 30.05.1927, Мінск), грамадскі дзеяч, навуковец, даследчык беларускай эміграцыі.

207 Kipel, Vitaut. Belarusans in the United States. University Press of America, 1999. P. 47–48.

З беларускім селішчам жа праблема яшчэ і геаграфічная: Гербер таямніча піша, што знаходзіцца гэтае *celo*, якое вызначае як селішча вакол царквы, на *Midwest*, у суседстве з іншымі нацыянальнымі грамадамі: харватамі, югаславамі (sic!), украінцамі і славакамі. На поўнач ляжыць гарадок, заселены палякамі, а таксама з невялікай колькасцю мексіканцаў, італьянцаў і ірландцаў. Што замінала аўтару даць больш канкрэтныя каардынаты ці наўпрост падаць назву — невядома. От жа час збору інфармацыі акрэслены дакладна: ад 15 верасня 1965 да жніўня 1966 гг. У гэты прамежак аўтар падпрацоўваў там маляром, кіроўцам, памагатым у краме.

Гербер піша, што існавалі пэўныя праблемы ў камунікацыі: яму, навучанаму *класічнай* рускай мове, няпроста было паразумецца з мінакамі, мова якіх значна адрознівалася. Відаць, размаўлялі з ім па-беларуску ці на трасянцы. А вось англійскую ведалі недастаткова для інтэрв'ю: выключна на побытавым узроўні.

Мястэчка — будзем называць далей *celo* гэтак — было заснаванае ў 1911 г., росквіт прыйшоўся на 1925–1940-я гг. Большасць прыехала з Гародні і ваколіцаў. Іхнае мінулае ў Беларусі, адукацыя, побыт нібыта спісаныя аўтарам з савецкіх падручнікаў: татальнае невуцтва, бульба з хлебам, абыякавая да пакутаў сялянаў праваслаўная царква.

Падставамі эміграцыі называюцца: нежаданне служыць у войску; дапамога сям'і (дасыланне грошай на набыццё зямлі, перш-наперш), такіх было каля 60 адсоткаў. Апошняю прычынаю эміграцыі Гербер называе незадаволенасць урадам.

Найстарэйшыя жыхары мястэчка пакінулі Беларусь паміж 1900 і 1905 гг. Яны ехалі праз Нямеччыну і Польшчу цягнікамі ў купэ трэцяга класу да марскіх партоў — у Францыі або той самай Нямеччыне, адкуль ужо ішлі морам да Нью-Ёрку ці Пенсільваніі. Такое падарожжа трывала блізу 12–14 дзён і каштавала 80–100 даляраў.

Хто менавіта і калі першым пасяліўся у мястэчку, за смугою часу невядома. Далейшы ланцужок працаваў звычайна: сюды пачалі прыязджаць сваякі, знаёмыя, аднавяскоўцы, якія ў сваю чаргу, троху акрыяўшы, у лісты дадому ўкладалі чыгуначныя квіткі Нью-Ёрк — мястэчка. Як сцвярджае Гербер, паміж 1911 і 1912 гг. агулам беларусаў было 150 чалавек: мужчыны, кабеты, дзеці. Дабрабыт мацнеў, і ў 1915 г. было ашчаджана дастат-

кова грошай, каб распачаць будаўніцтва царквы. Да гэтага яны карысталіся паслугамі польскага касцёла, дзе ксёндз згаджаўся вянчаць, хрысціць, спавядаць беларусаў.

У 1930 г. колькасць жыхароў мястэчка складала ўжо 150 сем'яў.

На галоўнай вуліцы размяшчаліся бадай усе бізнесы: крамы, рамонт абутку і машынаў, цырульня, дантыст, лекар, рэстаран. Як піша Гербер, мястэчка было самадастатковым і цалкам магло абысціся без кантактаў са знешнім светам.

Заснаванне ўласнага бізнесу магло ісці двума шляхамі. Першы: праца цягам тыдня на чыгуначнай дарозе, а ўвечары ці па выходных — на сваёй гаспадарцы. Другі: жонка працавала на амерыканскую кампанію, і гэта дазваляла мужу прысвячаць болей часу свайму.

Гербер падае ўспамін «спадара Л.»: *«Калі я прыехаў сюды, дык зусім не гаварыў па-англійску і ведаў толькі адную рэч: працаваць як шалёны. І знайшоў працу: забіваў кароў. Я працаваў па 16–17 гадзінаў у дзень за 20 цэнтаў у гадзіну. І намагаўся заашчадзіць як болей і распачаць уласны бізнес, таму я бадай не выдаткоўваў на сябе нічога. У мяне была адна кашуля, якую я мыў сам, еў пераважна бульбу і хлеб, штодзень пешшу хадзіў на працу. Я жыў яшчэ з пяцццю ў адным пакоі, каб было танней. Я працаваў пяць гадоў як сабака і адклаў колькі змог. Тады я ўзяў грошы і пайшоў у банк і сказаў ім, што я хачу зрабіць. Яны далі мне невялікую пазыку, і я адчыніў сваю крамку. Там я працаваў па вечарах і ў нядзелю. Потым я ажаніўся, і мая жонка працавала ў краме ўдзень. Пасля дзевяці год я пакінуў тую працу і цяпер працую толькі ў краме»*[208].

Пагроза ўтульнаму існаванню мястэчка прыйшла ў 1940-х гг. адразу з некалькіх бакоў.

Па-першае, з'яўленне вялікіх крамаў з большым выбарам і меншымі коштамі вяло да заняпаду маленькіх крамак. Туды хадзілі яшчэ па звычцы, па навіны ды пагутарыць, а яшчэ таму, што кожны меў крэдыт, і неабавязкова было расплачвацца адразу, нават калі і было чым сплаціць. Гаспадар яшчэ намагаўся неяк трымацца — і не толькі з-за грошай: уладальнік крамы лічыўся чалавекам паважным; але па ягонай смерці нашчадкі бізнес прадавалі адразу ж.

[208] Gerber, Stanford Neil. Russkoya cello… P. 26.

Па-другое, народжаныя ў Штатах дзеці, атрымаўшы пачатковую адукацыю, не хацелі заставацца ў мястэчку, праглі вучыцца далей. Яны выязджалі, паступалі ва ўніверсітэты, а вяртацца ўжо не хацелі. Знаёмая гісторыя, незалежна ад краіны.

Сыход з сям'і дзяцей успрымаўся не па-амерыканску балюча. Гербер прыводзіць словы «спадара Ф.»: *«Нашыя дзеці былі сапсаваныя амерыканскімі трацыдыямі. Мы прыехалі з старой краіны і працавалі як сабакі, каб вывучыць дзяцей і даць ім усё неабходнае. Яны ж ажаніліся і з'ехалі. Яны саромеліся нас, бо мы не гаварылі добра па-англійску і не мелі добрых рэчаў. А мы ж не мелі нічога, бо заашчаджалі для іх. Яны з'ехалі ад нас і саромеліся нас»*[209].

Найбольшую зайздрасць у мястэчку выклікаў не самы багаты чалавек, а той, з кім жылі ягоныя сыны і дачка.

Гербер спрабуе рабіць шырэйшыя абагульненні што да традыцый і побыту жыхароў мястэчка, але атрымоўваецца гэта ў яго, мякка кажучы, няўдала. Так, калі расказвае пра хросных бацькоў, якіх называе *Kpesthi Otetz* і *Ktusthaya Matz*, піша, што звычайна імі былі муж і жонка, якія звярталіся адно да аднаго Кум і Кума. Гаворачы пра жанімства, ён згадвае пра ролю *cvatneya*; не адразу здагадваешся, што размова ідзе пра сваццю. Наогул, этнаграфічныя экскурсы выклікаюць падазрэнне, што Гербер піша не сыходзячы з сабраных фактаў, а ад прачытанага пра побыт славянскіх народаў у XIX стагоддзі — неістотна, ідзецца пра Каляды, Новы год, вяселлі ці Вялікдзень. Наўрад ці для гэтага варта было бавіць столькі часу ў мястэчку.

Зрэшты, пошук у бібліятэчных каталогах выявіў, што Гербер большую частку свайго часу прысвячаў не славянам, а насельнікам Карыбаў[210]. Гэтым хіба тлумачыцца аднясенне ім *Zamovlats* да народнай медыцыны, а *Varazenya* — да чорнай магіі, што быццам прадугледжвала адмову ад Бога і прыняццё д'ябла. У мястэчку гэтым займалася *Varozhka*, якая мела адмысловую Чорную Кнігу: людзі, чые імёны туды былі запісаныя,

---

[209] Gerber, Stanford Neil. Russkoya cello… P. 39.

[210] The family in the Caribbean; proceedings. Edited by Stanford N. Gerber. Rio Piedras, Institute of Caribbean Studies, University of Puerto Rico, 1968. — 147 p.; The family in the Caribbean: proceedings of the Second Conference on the Family in the Caribbean, Aruba, Netherlands Antilles, December 1–5, 1969. Edited by Stanford N. Gerber. Rio Piedras: Institute of Caribbean Studies, University of Puerto Rico, 1973. — 167 p.

пачыналі хварэць, іх спатыкалі розныя злыбеды, а па смерці ім адмаўлялася ў выратаванні.

Але гэтыя ды іншыя недарэчнасці кампенсуе апошні раздзел, у пэўнай ступені новы для эміграцыязнаўства. Ён называецца «Сферы канфліктаў» і напісаны відавочна «з натуры».

Перш-наперш — царква. Гербер піша, што ў беларусаў, у адрозненне ад іншых вядомых яму нацыянальнасцяў, святара выбірае (і скідае) грамада — дакладней, Рада. Яна аплочвае ягонае жыццё, службу. Менавіта яна прымае ўсе важныя рашэнні. Таму займанне пазіцыі — адной з 18-ці — у царкоўнай Радзе робіць чалавека вельмі ўплывовым у мястэчку. Выкарыстанне гэтае ўлады і змаганне за яе і складае адную сферу канфліктаў.

Гісторыя мястэчка, як піша Гербер, гэта фактычна гісторыя канфлікту вакол царквы. Але ў 1950-х яна набыла новы характар у супрацьстаянні дзвюх групаў: гаспадароў дзвюх крамаў і іхных сяброў і сваякоў, з аднаго боку, і нядаўна прыбылых *DP* — з другога. Пра *DP*істаў аўтар піша шмат, патлумачыўшы толькі, што яны прыбылі з Еўропы каля 1940 г. (sic!) і не мелі поспеху ў змаганні за ўладу.

Для аўтара кнігі канфлікт незразумелы, як і адрозненне паміж беларускай і рускай мовамі. Але ён канстатуе, што новапрыбылыя не прыжыліся ў мястэчку і фактычна ігнараваліся ў штодзённым жыцці за выняткам тых выпадкаў, калі патрабавалася іхная дапамога. Мінакі, на думку аўтара, атрымоўвалі асаблівае задавальненне ад абмеркавання і крытыкі манераў захоўвання, вопраткі, звычаяў *DP*істаў; у размовах заўсёды ўздымалася тэма гэтых няклікaных гасцей, парушальнікаў спакою, асобаў падазроных, бунтаўнікоў.

З інтэрв'ю з «спадаром К.»: *«Нельга давяраць гэтым DP. Яны адрозныя ад нас. Яны не гэткія разумныя і хочуць адабраць нашую царкву. Яны сапраўдныя захопнікі»*[211].

З інтэрв'ю з «спадарыняй Х.»: *«Яны не ведаюць свайго месца. Яны намагаюцца ўлезці ў чужыя справы — справы, якія іх не датычацца»*[212].

З інтэрв'ю з «спадарыняй Д.»: *«Вы б бачылі гэтую кабету DP, калі яна прыйшла ў царкву на Вялікдзень. Яна прынесла ежу на асвячэнне, загорнутую ў анучу, нават не ў кошыку. Яна*

---

[211] Gerber, Stanford Neil. Russkoya cello… P. 106.
[212] Gerber, Stanford Neil. Russkoya cello… P. 106.

*нават не была завязаная. У царкве было багата народу, і гэтая DP кабета перадала ежу мне. Ежа пасыпалася з анучы (заўвага Гербера: тут спадарыня Д. моцна зарагатала), а кабета вельмі занервавалася. Гэта было так смешна, што яна не завязала ці не паклала ў кошык. Можа, яна такая бедная, што не магла набыць кошык. Ат, гэтыя людзі наогул нічога не вартыя. Яны ўсе такія»*[213].

Самыя *DP*істы, як сцвярджае аўтар, былі свядомыя стаўлення да сябе з боку старажылаў, што да іх звярталіся выключна ў справе патрэбы. Гэта сталася падставаю іхняга адыходу ад грамадскага жыцця мястэчка і падтрымлівання кантактаў толькі з такімі самымі *DP*, як і яны.

На жаль, Гербер на гэтым сюжэт скончвае, а праз колькі старонак — і ўсю кнігу. У пошуках таямнічага і нязнанага ён прамінуў сапраўды істотнае: як эмігранты з Беларусі пачатку стагоддзя абжываліся сярод чужых ім народаў і як не прынялі сваіх землякоў — паваенную эміграцыю.

Або: як чужыя зрабіліся сваімі, і як свае сталіся чужымі.

[213] Gerber, Stanford Neil. Russkoya cello… P. 106–107.

# ЧАЛАВЕК, ЯКІ ТРЫМАЎ У РУКАХ МЕСЯЦ[214]

*The whole object of foreign travel is not to set foot
on foreign land. It is to at last set foot on
one's own country as a foreign land.*
G. K. Chesterton

## Уступ

У амерыканцаў, а мо і не толькі ў іх, ёсць традыцыя: на Каляды замест віншавальнай карткі дасылаць ліст, дзе б распавядалася пра самае важнае, што адбылося ў тае сям'і за мінулы год.

От жа і на Каталіцкія Каляды 1960 г. беларускія сем'і ў Нью-Ёрку і Чыкага, Нью-Джэрсі і Кліўлендзе атрымалі віншавальны ліст наступнага зместу:

*«Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году!*

*З гэтымі сьвяточнымі пажаданьнямі перасылаю таксама некаторыя навасьці з нашага прыватнага жыцьця. Апошні год прайшоў шчасьліва, бязь ніякіх нешчасьлівых выпадкаў і з многімі сваесаблівымі ўражаньнямі.*

*Дачка Вольга-Елізавета пачала трэці год школы, вучыцца добра, знае добра па-нямецку й разумее штораз больш па-беларуску; з восені пачала таксама іграць на раялі, і я надзеюся, што некалі будзе іграць для нас з «Беларускі Песенны Зборнік»[215], што з радасьцю мы*

---

[214] Дзякуй за дапамогу ў зборы звестак пра жыццё героя артыкула спн. Вользе Вярбіцкай, св. пам. сп. Барысу Данілюку, др. Янку Запрудніку, др. Вітаўту Кіпелю.

Тэкст быў упершыню надрукаваны ў: Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. Мінск: Лімарыус, 2010. С. 200–218. Тут публікуецца з абноўленымі каментарамі.

[215] Куліковіч, Мікола. Беларускі песенны зборнік. Выдавецтва Згуртаваньня Беларускай Моладзі. Кліўленд, 1960. — 228 с.

*атрымалі з Cleveland. Сын Аляксандар скончыў 7-мы год і ўжо ходзіць у першую клясу, і думаю, ён вырасьце на добрага Амэрыканца й Беларуса.*

*Бацька й брат зь іх жонкамі ўжо патроху апанавалі нармальны трыб жыцьця й чуюцца, я думаю, шчасьлівымі, як і кожны з нас. Беларуская прэса й кружэлкі, а таксама частыя сустрэчы не дазваляюць нам забыцца таксама краіну нашага паходжаньня — Беларусі. Я асабіста хаця вельмі заняты фахова, знаходжу заўсёды нагоды для папулярызацыі праўды аб Беларусі і яе народзе: частыя гутаркі як сябра Toastmasters International*[216] *ды другія даклады аб Савецкім Саюзе, інфармацыя аб сабе самым і т. д. даюць на гэта добрыя прычыны. Інфармацыі аб Беларусі на ангельскай мове ёсьць вельмі карысным матар'ялам у такой працы, асабліва для тых, хто ставіцца недаверліва да некаторых маіх цьверджаньняў. Дзеля гэтага дзякуй грамадзкае для тых беларускіх арганізацыяў, што стараюцца выдаваць чы перавыдаваць інфармацыі аб Беларусі на ангельскай мове.*

*У даны час іграе калядная музыка, калядныя песьні: амэрыканскія, нямецкія, польскія. Мае калегі й суседзі-амэрыканцы пытаюць, а дзе калядныя песьні краіны, зь якой я паходжу? Думаю, што такія пытаньні маюць другія Беларусы, пражываючыя ў Злучаных Штатах ды Канадзе. Было-б вельмі пажадана мець кружэлкі беларускіх калядных песень! Можа хтось паддзержыць мяне ў гэтым пажаданьні.*

*У гэтым годзе спаткаў мяне вялікі гонар як навукоўца ды, думаю, як эмігранта наагул, а Беларуса асабліва. Department*[217] *Сельскае Гаспадаркі Злучаных Штатаў Амэрыкі прыгласіў мяне быць адным із сямі сяброў, спэцыялістаў па спажыўчай індустрыі і навуцы Злучаных Штатаў для інспэкцыі спажыўчай індустрыі, навуковых установаў і інстытутаў у гэтай галіне ў Савецкім Саюзе. Я быў прадстаўніком мясной індустрыі і навукі ў гэтай галіне. Год часу заняло атрыманьне візы ды*

---

[216] ***Toastmasters International*** — арганізацыя, утвораная ў 1924 г., мэтаю якой ёсць дапамога ў развіцці мастацтва публічных прамоваў.

[217] *Department* (англ.) — аддзел.

*другія фармальнасьці. Але 24-га чэрвеня Pan American*[218] *самалёт забраў нас праз Ісландыю, Нарвэгію, Швэцыю й Фінляндыю ў Маскву, куды мы прыехалі 27 чэрвеня савецкім Ілюшыным-18 з Гэльсінак, дзе мы мусілі чакаць 3 дні на самалёт.*

*Нашым спонсарам у Савецкім Саюзе была арганізацыя пад назовам Государственный Научно-Технический Комитет Союза Министров СССР, некалькі асоб з гэтай арганізацыі былі ўжо мне знаныя із спатканьня ў маёй фірме вясной гэтага года як члены савецкай дэлегацыі ў З. Ш. А. Мы атрымалі сталага праважатага, аднаго савецкага навукоўца, і адну тлумачку, спэцыялістку ангельскае мовы і добра адукаваную партыйна жанчыну. Плян паездак быў так уложаны, што ад 9 рана да позьняга вечара, часамі да 12 часоў ночы мы былі службова заняты і, рэч ясная, пад надзорам гэтых савецкіх урадаўцаў.*

*Мы наведалі некалькі фабрык фруктовых і авашчных (гароднiна) кансэрваў, мясных фабрык, некалькі калхозаў і саўхозаў і таксама пару навукова-дасьледчых інстытутаў і навучальных установ у галіне спажыўной індустрыі і біяхіміі. Усяго за 30 дзён прабываньня ў Савецкім Саюзе мы наведалі 35 аддзельных аб’ектаў у наступных гарадох чы каля гэтых гарадох: Масква, Загорск, Кіеў, Адэса, Хэрсон, Кішынэў, Тэраспаль, Тбілісі, Горы, Баку, Ашхабад і Алма-Ата. Рэч ясная: нам былі паказаныя самыя лепшыя аб’екты, і тыя ў некаторых аспэктах былі прыблізнай якасьці чы індустрыйнай выдайнасьці як падобныя фабрыкі ды інстытуты ў Злучаных Штатах. Аднак мы бачылі й такія фабрыкі, дзе мэханізацыя была вельмі слабая й ручны труд іграе галоўную ролю. У агульным, савецкая спажыўчая індустрыя на 20–30 год адстаўшы ад Злучаных Штатаў Амэрыкі і галоўная цяжкасьць — гэта адсталая, непрадуктыўная выдайнасьць савецкае сельскае гаспадаркі, асабліва жывёлагадоўлі й мясазагатовак.*

*Жыцьцё ў людзей у горадзе настолькі палепшыла, што жонка з мужам, працуючы, могуць зарабіць на*

[218] *Pan American* — назва адной з амерыканскіх авіякампаній

*хлеб і небагатую адзежу для сябе й двое дзяцей. Вопратка і ежа вельмі дарагая. Два-тры месяцы трэба працаваць, каб зарабіць на касьцюм; месяц працы на пару бацінак, прыблізна дзень працы на поўлітра водкі, і г. д. Жыцьцё ў вёсцы настолькі палепшыла, што цяпер няма таго паліцыйнага тэрору, што быў пры Сталіне. Аднак матар'яльна мала што зьмянілася, і калхозьнікі ў аснаўным жывуць з прыгародных участкаў ды мусяць «арганізаваць» грошы па-за калхозам. Гэта арганізацыя палягае на продажы самагонкі або ўцяканьне ў горад на працу, застаўляючы жонку ў калхозе. Аднак уцячы ў горад, трэба мець пашпарт, які цяжка дастаць для калхозьніка, а жыць у калхозе цяпер пашпарта нятрэба.*

*Мушу прызнаць, што савецкія навукоўцы і ўрадоўцы, што былі назначаны нас сустракаць, былі ветлівыя і госьцяпрыімныя. Але па-за рамкі праграмы нам вылезьці было цяжка, і яны былі абмежаваныя ў іх дзеяньні таксама. У дабавак да прафесыянальных ведаў, рэч ясная, назьбіралася матар'ялу й некалькі сот зьнімак з сацыяльнага, культурнага й нацыянальнага жыцьця Расейцаў, Украінцаў, Грузінаў і Азербайджанцаў. За выняткам Грузіі, усюды ў гарадах пануе руская мова й культура, хаця надпісы ўрадаў у аснаўным у мовах даных рэспублік; расейскі шрыфт пануе для малдаўскай, азербайджанскай і казахскай моваў.*

*На доказ свабоды ў Савецкім Саюзе мне было дазволена гасьціць 4 сяброў з вёскі, дзе я нарадзіўся. Яны мелі цяжкасьць дастаць білеты і сесьці на цягнік, але раз у цягніку, яны прыехалі бяз перашкод да мяне ў Маскву. Там я сам імі заняўся, падзякаваўшы за прапанаваную помач мець праважатага з Інстытуту, паколькі я сам мову расейскую ведаю і ўжо Маскву ведаў з першага тыдня побыту ў Савецкім Саюзе.*

*Спатканьне было мілае й поўнае ўражаньняў. Жанчына, адказная за пакоі ў «Гостиница Советская», была ў бядзе найсьці свабодныя пакоі для маіх сяброў, калі іх не хапала для дыпляматаў. Яна была так растроена, як я сказаў, што цэлы калхоз хоча прыехаць мяне бачыць, і каб я меў дастаткова грошы, яшчэ наймені 10 асобаў прыехала-б пабачыць іх амэрыканца.*

*26-га ліпеня, пасьля выдачы 1200 даляраў, я аставіў Маскву і выехаў у Польшчу. Меў пастой і перасадку ў Вільні, але ня было часу наведаць горад. У Польшчы правёў 8 дзён, дзе быў гасьцём Польскага Мяснога Інстытуту. Наведаў Варшаву, Лодзь, Познань, Кракаў, Тарнаў, Закопанэ, Гдыню й Гданьск. Бачыў аднаго калегу са школьнай лавы ў Вільні; іх некальку жыве ў Гданьску й Шчэціне.*

*Пасьля наведаў мясныя інстытуты й фабрыкі Даніі, Нямеччыны, Англіі й Галяндыі. У Утрэхт, Галяндыя прымаў удзел і меў даклад па біяхіміі мяса на 6-м Зьезьдзе Мясных Інстытутаў Эўропы, дзе былі прадстаўнікі з 22 дзяржаў Эўропы, улучна Савецкі Саюз і сатэлітныя дзяржавы. Зьезд адбываўся ў часе ад 28-га верасьня па 2-га кастрычніка.*

*У Нямеччыне быў праездам у Мюнхэне, дзе правёў адну ноч. Мяне сустрэлі на станцыі сябры У. Цьвірка*[219]*, У. Бакуновіч*[220] *і Сп. Сянькоўскі*[221]*. Мелі гутарку аб іх працы ў Мюнхэне, і сапраўды, мы мусім быць ім удзячныя за іх працу і ахвярнасьць на ніве беларускай. Спаць ня было калі. У 12 гадзін ночы сустрэў Сп. Бортніка, зь якім гутарка заняла цэлую ноч. Як нам усім ведама, Сп. Бортнік прадстаўляе БНР на розных імпрэзах у Нямеччыне ў адсутнасьці Прэзыдэнта БНР. Бортнік працуе цяпер тлумачом у нямецкім Чырвоным Крыжы і мае сродкі да жыцьця. Ён мае таксама добрую кватэру, дзе мог бы прымаць прадстаўнікоў другіх нацыянальных арганізацыяў, каб ён мог умэбляваць ягоную рэзыдэнцыю. Аднак на гэта ягоныя даходы не выстарчаюць. Мне прыйшло на думку, што паскольکі Сп. Бортнік ёсьць прадстаўніком БНР на Нямеччыну, магчыма, яго сябры і калегі ў Амэрыцы змаглі-б сабраць адпаведную суму грошы для закупу ўмэбляваньня для Сп. Бортніка, каб зрабіць зь яго кватэры рэзыдэнцыю*

[219] **Уладзімір Цвірка** (да эміграцыі Вадзім Сурко, 02.01.1928, м. Мір (Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 15.03.1992, Мюнхен, Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст, а ў апошнія гады і рэдактар газеты «Бацькаўшчына», супрацоўнік Радыё «Вызваленне»/«Свабода».

[220] Уладзімір Бакуновіч у той час працаваў журналістам газеты «Бацькаўшчына».

[221] Юры Сянькоўскі ў той час быў журналістам Радыё «Вызваленне» / «Свабода».

*прадстаўніка БНР у Нямеччыне, у якой з гонарам можна было-бы прымаць прадстаўнікоў другіх, нам прыязных, нацыянальных арганізацыяў ў Нямеччыне і Эўропе. Я прапаную такую акцыю й прашу адгукнуцца ў гэтай справе. Спадары Бортнік, Цьвірка, Бакуновіч і Сянькоўскі перадаюць прывітаньні ўсім іхным сябрам-Беларусам у Амэрыцы.*

*У Англіі наведаў Беларускі Дом на 52 Penn Road і Marian House на Holden Ave. У Беларускім Доме спаткаў старую знаёмую з UNRAA Univ. Спадарыню Ніну Якубовіч (Якімец) зь яе сынам, 18-гадовым інтэлігентным юнаком. Спн. Якубовіч стараецца выехаць у Амэрыку, але ня мае добрага спонсара. Я прагледаў эміграцыйныя бумагі, і толькі афідавіта на памешканьне й працу ей не хапае, каб прыехаць у Амэрыку. Я гутарыў адносна яе так званай палітычнай справы і думаў, гэта ўся справа ня важная сяньня. Ёй як матцы, ратуючай сына, многа чаго прашчаецца, і я асабіста згадзіўся, каб маё прозьвішча яна ўжывала як сьведку ў гэтай справе. Яе сын прыгожа гутарыць па-беларуску, і Спадарыня Ніна ўлажыла шмат працы выгадаваць яго Беларусам. Я зьвяртаюся да Беларускіх Арганізацыяў у Амэрыцы памагчы Спадарыні Якубовіч праз выстаўленьне патрэбнага афідавіту[222] прыехаць у Амэрыку. Яна і яе сын Юрка памножаць беларускую сям'ю ў Амэрыцы двума актыўнымі сябрамі. Калі будуць цяжкасьці з фармальнага боку (справа палітычная), я абяцаю даць помач. Яе адрас: Nina Jakubowitsch, Byelorussian Home, 52 Penn Road, London, N. 7, England[223].*

---

[222] *Affidavit* (англ.) — пісьмовая заява пад прысягаю. Дакумент, неабходны быў у той час для атрымання амерыканскай візы, — абавязак жыхара ЗША перад уладамі, што новым эмігрантам заапекуюцца.

[223] Пра Ніну Якубовіч вядома надта мала. Барыс Данілюк у адмыслова напісаных для гэтай публікацыі ўспамінах згадвае: *«Якубовічышкаў пры немцах было дзьве сястры: старэйшая Ніна й малодшая Валянтына. Зь першай я быў знаёмы бліжэй, бо з паўгоду працавалі ў той самай установе, а з малодшай было толькі, як кажуць, шапачная знаёмства. Былі яны родам, здаецца, з паўдзённа-заходняе Слонімшчыны, але адкуль дакладна, ня ведаю. Абедзьве былі адукаваныя; Ніна нават вучылася крыху ў Вільні, малодшая мабыць не пасьпела пайсьці вышэй сямігодкі. Да майго знаёмства з Нінай дайшло так: у канцы 1941 ці пачатку 1942 гадоў у Слонім прыехаў доктар Ермачэнка зь ягонай сакратаркаю Нінай Войтанка, і з гэтае прычыны быў склікаены сход, на жаль,*

*У Marian House, Holden Avenue, London, N.12 я сустрэў трох паважаных Айцоў Марыянаў: Льва Гарошку, А. Надсона*[224] *і Язэпа Гэрмановіча*[225]*. Прыемна ўпершыню было пазнаць Айцоў Гэрмановіча і Надсона*

---

*невялікага слонімскага беларускага актыву, на якім госьць абвесьціў, што немцы дазволілі стварыць беларускую дапамогавую арганізацыю «Weissruthenische Selbsthilfe» і што ён прыехаў, каб неадкладна арганізаваць круговую і раённую ўправы ў Слоніме. Адразу-ж адбыліся выбары ў абедзьве ўправы, і на сакратарку акруговае была выбраная Ніна Якубовіч. У раённай управе я, пакінуўшы месца сакратара, стаў скарбнікам, Аўген Кіслы — сакратаром. На старшыню акруговае ўправы Ермачэнка паставіў прывезенага з сабою адукаванага ў Пазнані інжэнэра Рыгора Зыбайлу. Ён быў родам з-пад Косава, у 1939 г. лучыў у нямецкі палон, зь якога яго выпусьцілі заняць месца старшыні беларускага камітэту ў Белай Падляскай. На ейную першую гасподу Самапомач атрымала шыкарны як на тагачасныя ўмовы і даволі вялікі дом выселенага жыдоўскага аптэкара Градзенскага на Магістрацкай вуліцы, дзе пасяліўся і Зыбайла, прыехалы з Гародні сакратар Аляксей Васіленя й Ніна Якубовіч (гэта апошняе магло быць толькі маім уражаньнем ад ейнае, як мне здавалася, бесперапыннае прысутнасьці ў будынку). Крыху пазьней нас перасялілі ў больш сьціплы будынак плябані касьцёлу Сьв. Андрэя на Замосьці, а пад лета Ніна заявіла, што едзе на працу ў Нямеччыну, што неўзабаве й зрабіла. Перад ейным выездам, аднак, паказалася, што яна цяжарная, і нам было незразумела, як у такім стане немцы ўзялі яе на работу. Там у яе нарадзіўся сын. Узноў сустрэў я яе ажно ў пачатку 1946 г. ужо студэнткаю Ўнівэрсытэту UNRRA ў Мюнхэне. Яна не была вялікай актывісткаю ў Беларускім Студэнцкім Згуртаваньні, а пасьля закрыцьця ўнівэрсытэту неяк хутка паехала на працу ў Англію. Ніна Якубовіч расказвала маёй жонцы, што ейнага сына немцы пасьля нараджэньня забралі ў прытулак ці аддалі на адаптацыю, адкуль Ніна пазьней яго нейкім чынам выкрала. Якія палітычныя перашкоды маглі быць у ейным прыезьдзе ў Амэрыку, не магу ўявіць, бо ня думаю, каб хто мог быць нагэтулькі неасьцярожны, каб дапусьціць яе да палітыкі ці ўзяць у які-кольвечы вывед. Здаецца, яна памёрла даволі молада. Чуў, што й сын памёр маладым».* Застаецца дадаць да ўспамінаў Барыса Данілюка, што сын Ніны Якубовіч Юрка быў пазней выкінуты з Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі *«за дзейнасць, шкодную для арганізацыі»*.

[224] **Аляксандр Надсан** (да эміграцыі Бочка, нар. 08.08.1926, Гарадзея (сёння Нясвіжскі р-н Мінскай вобл.)), апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў усходняга абраду ў эміграцыі.

[225] **Язэп Германовіч (**20.02(04.03)1890, в. Гальшаны (сёння Ашмянскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 26.12.1978, Лондан, Вялікабрытанія), рэлігійны дзеяч, літаратар, публіцыст, рэдактар часопіса «Божым Шляхам».

*Падобная сітуацыя захавалася да сёння, хоць і ў меншай ступені; рускія занялі амаль усе ключавыя пасады ў рэспубліцы, аддаўшы нацыяналам найменш значныя — каб прадэманстраваць свету, асабліва маладым нацыям Афрыкі і Азіі, як бліскуча камуністы развязалі нацыянальныя праблемы ў сябе.*

*Мясцовае насельніцтва не надта радуецца такому становішчу. Калгаснікі не любяць сваіх старшыняў, дасланых з Расіі кіраваць імі. Згодна з савецкімі законамі, старшыня калгаса абіраецца самімі калгаснікамі, але ў сапраўднасці такога амаль ніколі не адбываецца.*

*Мясцовая інтэлігенцыя адчувае глыбокае абурэнне з прычыны русіфікацыі, фальсіфікацыі нацыянальнай гісторыі, літаратуры, мастацтва і г. д., што сыходзяць наўпрост з Масквы, ад «старэйшага брата». На самай справе нацыяналы — грамадзяне другой катэгорыі ў нібыта раўнапраўнай дзяржаве, і яны пакутуюць праз адсутнасць роўных магчымасцей у палітычных і адміністрацыйных сферах у сваіх уласных рэспубліках.*

*Гэтая малавядомая праблема ў Злучаных Штатах. Я сутыкнуўся з тым, што мне было вельмі цяжка вытлумачыць маім амерыканскім сябрам, што я беларус, не рускі. Калі ж я працягваў намаганні, яны гублялі цярпенне, пачыналі называць мяне нацыяналістам і казаць, што нацыяналізм у Амерыцы рахуецца нядобраю справаю. Магчыма, шэраг з іх не хоча задумвацца над такой праблемай і лічаць усіх, хто жыве ў СССР, — рускімі. З падобных поглядаў пішуцца і выдаюцца ў ЗША кнігі пра СССР; складваецца ўражанне, што такі афіцыйны погляд амерыканскага ўрада на праблему нацыянальнасцей.*

*З майго асабістага вопыту і ведання рэалій я магу сцвярджаць, што няма ніводнай выключна «рускай» рэспублікі ад пачатку стварэння Савецкай дзяржавы ў 1917–1922 гг. Ёсць Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, дзе кожная рэспубліка мае свае нацыянальныя адрозненні ад Расіі. Сталінская Канстытуцыя 1936 г. падкрэсліла гэтыя адрозненні, сцвярджаючы, што кожная з іх рэпрэзентуе нацыянальную дзяржаву, якая добраахвотна ўвайшла ў СССР і мае права выйсці адтуль у любы час. Гэта ўжо іншае пытанне, наколькі сапраўды магчыма пакінуць той Саюз.*

*Мы можам называць гэта нацыяналізмам, нам гэта можа падабацца ці не, але мы мусім прыняць гэта як факт і прынамсі*

*паспрабаваць вывучаць праблему больш пільна, як мы вывучаем іншыя аспекты савецкай сістэмы. [...]*

*Сыходзячы са стану рэчаў на сёння, я веру, што любая палітыка ў бок СССР будзе неэфектыўнай, калі нацыянальныя праблемы і надалей будуць ігнараваныя. Паводле свайго характару нярускія ёсць патэнцыйнымі сябрамі Захаду, і пры адпаведным разуменні Захад можа выкарыстаць нацыянальную праблему ў халоднай вайне з Расіяй.*

*Наступныя захады могуць быць скарыстаныя ў халоднай вайне з Расіяй:*

*Штогод «Кангрэсавыя Запісы» публікуюць прамовы сенатараў ЗША з нагоды святкавання гадавіны незалежнасці нацыянальных рэспублік (1918–1922). Але амерыканскі народ і замежныя краіны бадай не ведаюць пра тое, бо амерыканская прэса замоўчвае падобныя факты. Інфармацыйныя артыкулы з такой нагоды ў «New York Times», «TIME», «Life Magazine» могуць спрыяць адукацыі амерыканскіх грамадзянаў у справе нацыянальных праблемаў у СССР;*

*6 і 8 ліпеня 1959 г. Сенатам была прынятая пастанова прасіць былога Прэзідэнта Эйзенхаўэра аб прызначэнні трэцяга тыдня ліпеня як Тыдня паняволеных народаў і выдаваць штогод пракламацыю, аж пакуль свабода і незалежнасць не будуць здабытыя ўсімі краінамі ў свеце, уключна з паняволенымі нацыямі Рускай камуністычнай імперыі. Амерыканская прэса амаль не надае ўвагі гэтай падзеі. Тыдзень паняволеных народаў мусіць адзначацца ў ЗША шырока. Паняволеныя народы заўсёды будуць удзячныя Амерыцы за ініцыятыву ў дэманстрацыі спачування да іхняга змагання;*

*Перадачы на Савецкі Саюз мусяць выкарыстоўвацца больш эфектыўна. «Голас Амерыкі» мусіць мець перадачы ў беларускай, украінскай, іншых мовах нярускіх нацыянальнасцей Савецкага Саюза. Прынамсі двойчы на тыдзень у дакладна вызначаны час, каб людзі ў СССР маглі сачыць за імі.*

*«Радыё Свабода» ў Еўропе, фінансаванае Амерыканскім камітэтам за вызваленне [ад бальшавікоў], мусіць даваць больш перадачаў на нерускай мове народам у СССР і не забараняць сваім супрацоўнікам, нерускім паводле нацыянальнасці, гаварыць сваім суайчыннікам пра нацыянальныя праблемы дома. «Радыё Свабода» ў Мюнхене да лета 1960 г. менавалася «Радыё Вызваленне». Перад Парыжскім самітам савецкі ўрад*

*пераканаў урад ЗША пазбавіцца ад слова «Вызваленне» — у імя захавання «сяброўскай атмасферы». Гэта была вялізная памылка, паколькі «Радыё Вызваленне» было адзіным цвёрдым голасам у абароне паняволеных народаў СССР.*

*Я чуў ад беларусаў, што маюць дачыненне да «Радыё Свабода», нібы супрацоўнікі радыё не маюць дазволу перадаваць цалкам прэзідэнцкае вітанне з нагоды Тыдня паняволеных народаў, і толькі са спазненнем у тры тыдні некалькі параграфаў было перададзена. Напэўна, і гэта было зроблена з мэтаю не злаваць Хрушчова перад Парыжскай канферэнцыяй. [...]*

*Мы мусім паглядзець праўдзе ў вочы і вызнаць, што мы знаходзімся ў сапраўднай вайне, і гэтая вайна, «халодная вайна», мусіць быць намі выйграна. Гэта не значыць, што мы мусім уступіць у атамную вайну. Калі мы выйграем халодную вайну, атамная будзе без патрэбы. [...]*

*Вось мае каментары да бачанага, што, спадзяюся, будуць карысныя чытачам гэтага рапарта і ўрада.*

# ПЕРАКЛАД

## ПЕРАКЛАДЫ ЭМІГРАЦЫІ: ІДЭАЛОГІЯ КУЛЬТУРЫ[269]

Пераклад як літаратурны жанр вылучае сярод іншых пэўная безабароннасць, асабліва ва ўмовах таталітарнай краіны. Бо забараніць грамадзянам думаць і пісаць у роднай мове сваё, патаемнае, вольнае, як мы пераканаліся на лёсе беларускае літаратуры, немагчыма. Зусім іншае — адлучыць ад сусветнай культуры праз ненавучанне замежным мовам, праз старанны адбор дазволенага для перакладу дазволенымі перакладчыкамі. Дзяржава магла кантраляваць гэты працэс, робячы аддзелы іншамоўнай літаратуры ў бібліятэках адно па пропусках (чым прыраўноўвала яе да антысавецкай, эміграцыйнай літаратуры, у аддзелы захоўвання якой, каб патрапіць, таксама быў патрэбны адмысловы дазвол). І тут цяжка не пагадзіцца з Андрэем Дынько: *«Савецкі рэжым у Беларусі ставіў задачу поўнага сьціраньня ранейшае культурнае традыцыі з усімі яе формамі і зьместамі і татальнай падмены яе культурай новага, «сацыялістычнага» зьместу. Ад гэтай культуры новага тыпу патрабавалася быць пасьлядоўна прапагандысцкаю, каб гарантаваць нязьменнасьць устаноўленага ладу. Ад яе патрабавалася таксама быць абапертаю на рэфэрэнцыйную культуру, каб прывязаць нацыянальную ўскраіну да мэтраполіі. […] На нацыянальнай мове дазвалялася весьці гуманітарныя навуковыя дасьледаваньні, але ўсе тэхнічныя, дакладныя й прыродныя навукі мусілі быць расейскамоўнымі. Гэтаксама існавала*

---

[269] Тэкст уяўляе сабою даклад, прачытаны на канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю Скарынаўскай бібліятэкі (29–30 верасня 2001 г.) і апублікаваны ў яе зборніку: Роля беларускай дыяспары ў захаваньні і разьвіцьці беларускае культуры. Менск, 2004. С. 48–61. Пазней быў апублікаваны таксама пад назвай «Пераклады эміграцыі» ў: ARCHE-Скарына. № 6. 2001. Тут публікуецца з абноўленымі каментарамі.

*негалоснае вэта на пераклады з сусьветных моваў на беларускую. Кантакт беларускай думкі з сусьветам мусіў адбывацца праз расейскае пасярэдніцтва»*[270].

Што гэта насамрэч так, што фактычна дзяржава перашкаджала развіццю перакладчыцкай дзейнасці, знаёмству праз пераклады з сусветнаю культураю, добра бачна па падзеях новага часу, падзеях 1990-х гг., калі прыйшлі ў літаратуру маладыя людзі, што атрымалі магчымасць вывучэння замежных моваў (Андрэй Хадановіч, Валерка Булгакаў ды інш.) або людзі старэйшага веку, як Васіль Сёмуха, што змог нарэшце перакладаць жаданае (творы Томаса Мана, Ніцшэ, Гесэ).

Эміграцыя атрымала такую магчымасць нашмат раней.

Ролю і значэнне перакладчыцкай дзейнасці нашае эміграцыі адзначыў, ва ўласцівай яму манеры, Сакрат Яновіч, беларус на заходне-ўсходнім памежжы, што з'яўляецца не столькі геаграфічнаю прывязкаю да пэўнага месца, колькі вытлумачэннем комплексаў пісьменніка. У прыватным лісце да сп. Часлава Найдзюка ад 11 сакавіка 1983 г. ён сцвярджаў: *«Выданьне па-ангельску твораў Купалы ці Коласа беспараўнальна болей значыць для справы нашага народу і яго культуры, чымсьці розныя «прошчы» і «маніфэстацыі», — гаворачы нейкім вобразным прыкладам, каб быць правідлова зразуметым у галоўным. Чаму ідуць дзясяткі тысячаў даляраў у тую яму херні, а няма грошай, каб заплаціць перакладчыку Купалавага й выдаўцу Купалавага?! Ёсьць на Флярыдзе Пятроўскі, які сам абеларушчыў і выдаў Плятона, Аўрэлюса. Каб Вы тое бачылі, як ён гэтым падняў нас тут на духу: жартанькі — Плятона можна ўжо чытаць па-беларуску! І Аўрэлюса! Яго гэтыя кніжкі афіцыйна даходзяць да нас тут, за імі ганяецца проста нашая інтэлігэнцыя, як за кніжкай прафэсара МакМіліна з Англіі аб беларускай літаратуры ці бо анталёгіі Вэры Рыч «Як агонь, як вада» (выбар беларускага верша на ангельскай мове, якую ў нас ведае сёньня амаль што другі маладзы інтэлігэнт). Мы прагнем далучыцца да сусьветнае культуры й чакаем помачы ў гэтым так-жа ад эміграцыі, зразуменьня ёю, што праз гэткае далучэньне зробімся бесьсмяротнымі, вечнымі, здольнымі жыць далей, а не гібець у нікому не цікавых сьлёзах-крыўдзе (каму мілы жабрак-неўдалота?). Амэрыканцы*

---

[270] Дынько, А. Resistant Culture // ARCHE. 2001. № 1. С. 73.

*любяць і ўмеюць паказацца з добрага, самага моцнага ім боку. І нам трэба таго, і маем чым. Ня ведаю, ці акурат не памыляюся, але менавіта гэтак я разумею айца Надсана і лічу яго адным зь нямногалікіх, якія ўмеюць думаць цьвяроза, без шалёных фантасмагорый ды дзіцячасьці ў палітыцы. Скарынінская бібліятэка выклікае ў нас самыя добрыя спадзяваньні, ганарымся ёю ды ўсяляк успамагаем яе. Беларускае вакно на Захад! Але аднаго вакна ў хаце мала, трэба больш!»* [271].

Пры неадназначнасці і пэўнай палемічнасці ацэнак сп. Яновіча нельга не пагадзіцца з адным: пераклады, зробленыя эмігрантамі, сапраўды былі вакном на Захад — для беларусаў. Разам з тым, калі развіваць гэтую метафару далей, пераклады сталіся вакном і на Усход, вакном у Беларусь для зацікаўленых на Захадзе, той ці не выключнай праўдзівай інфармацыяй, якую неслі ім беларускія творы, мастацкія і навукова-папулярныя, перакладзеныя ў замежныя мовы.

Пераклады з беларускай мовы і ў беларускую, скіраванасць на Захад і Усход — вось два напрамкі перакладніцкай дзейнасці нашае эміграцыі, два ейныя вектары, што і складаюць змест майго дакладу.

Умоўна кажучы, эміграцыяй перакладаліся рэчы чатырох катэгорый.

Першая — палітычныя. Пераважна гэта былі адозвы, дэкларацыі (у тым ліку і знакамітая Універсальная Дэкларацыя правоў чалавека), адным словам, дакументы, што перакладаліся і пашыраліся ў справе змагання за вызваленне Беларусі, як намаганне растлумачыць таму, амаль міфічнаму *Захаду,* сваю праўду.

Другая катэгорыя — тэксты Святога Пісання, Стары і Новы Запаветы, малітвы, службы. Гэтая дзялянка не проста была занядбаная на Бацькаўшчыне; яна свядома і неаднаразова праполвалася службоўцамі з розных інстанцый — да поўнага вынішчэння. Фактычна, за рэдкім выняткам (а гэта пераклады айца Чарняўскага, Анатоля Клышкі, Васіля Сёмухі), усё, што сёння мае беларус у гэтай галіне, ён мае дзякуючы створанаму на эміграцыі, не ў апошнюю чаргу — створанаму ў сценах Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане. Але гэта настолькі вялікая і значная тэма, што патрабуе асобнай, самастойнай гаворкі.

---

[271] Ліст захоўваецца ў архіве Фундацыі імя П. Крэчэўскага (Нью-Ёрк).

Трэцяя — пераклады, якія сёння ўяўляюць больш гістарычную цікавасць, чым практычную, але адыгралі немалую ролю ў лагерах *DP*. Маю на ўвазе тыя падручнікі для кіроўцаў альбо «Асновы скаўцкай мэтоды» — кніжачкі, што дапамаглі практычна ўваходзіць у новае жыццё, ствараць на эміграцыі сваё школьніцтва, сваю адукацыйную сістэму з адною мэтаю: не згубіць моладзь, даць ёй добрую адукацыю і даць яе ў беларускай мове.

Хацеў бы спыніцца на чацвёртай катэгорыі — перакладах мастацкіх твораў, хоць бы подбегам акрэсліць агульную карціну зробленага эміграцыяй у гэтай галіне, якая да сёння бадай што не рабілася аб’ектам самастойнага даследавання [272]. Зрэшты, такая няўвага ўласціва і гуманітарным навукам у метраполіі; прыкладам, нават у апошняй па часе акадэмічнай гісторыі літаратуры XX ст., два тамы якой ужо пабачылі свет у Мінску, таксама няма раздзела «Пераклады» [273].

Перакладная літаратура ўвайшла ў беларускую культуру ў XV–XVI стст. А вось ці не першым асобным эміграцыйным перакладным выданнем стаўся друк кніжачкі «Про багацтво і бедносць» у 1881 г. у Жэневе. Гэта быў пераклад з украінскай брашуры, напісанай Сяргеем Падалінскім.

Трэба адзначыць, што беларуска-ўкраінскі ўзаемапераклад на эміграцыі мае даўнюю гісторыю. Гэта і зразумела: аб’яднаныя агульным ворагам на радзіме, яны і на выгнанні спатыкалі падобныя перашкоды, таму і намагаліся дапамагаць адно аднаму. Украінская газета *«Новини»* (1946. 6 верасня) пісала: *«Пераглядаючы нумары літаратурна-мастацкага часопісу «Шыпшына» і органа праваслаўных беларусаў «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі», мімаволі даводзіцца паўтараць словы «Жыве Беларусь!», жыве краіна, доля якой у мінулым і сучасным такая падобная да долі нашага народу, а часам проста аднолькавая»*.

[272] Дзеля гістарычнай праўды трэба адзначыць, што адным з першых аб перакладах напісаў Барыс Сачанка. Дзеля той самай праўды трэба і зацытаваць напісанае: *«Пераклады. Іх няшмат, і амаль усе яны, за невялікім выключэннем, не надта высокай якасці»* (Б. Сачанка. Сняцца сны аб Беларусі… Мінск, 1990. С. 62).

Першым сур’ёзным і бадай адзіным даследаваннем на сёння варта лічыць артыкул Вітаўта Кіпеля *Notes on Belarusian-American-English Literary Relations*. Гл.: Запісы БІНіМ. № 20. Нью-Ёрк, 1992. С. 108–118.

[273] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 1–2. Мінск, 1999.

Прыязна складваліся асабістыя адносіны і паміж пісьменнікамі, што таксама спрыяла перакладчыцкай дзейнасці. Перакладалі шмат і ахвотна: Міхась Кавыль[274] — Яра Славуціча, М. Рыльскага, П. Тычыну; Наталля Арсеннева — М. Драй-Хмару; Алесь Салавей — Леаніда Палтаву; Масей Сяднёў — Славуціча і Палтаву; Уладзімір Дудзіцкі[275] — Тараса Шаўчэнку; Янка Золак[276] — Я. Пітруса, А. Навіцкага, Вол. Свідзінськага, Тараса Шаўчэнку, Лесю Украінку[277].



*Яр Славуціч на беларускай канферэнцыі ў Канадзе. 1971 г.*

У 1989 г. у Эдмантане было выдадзена «Выбранае» Яра Славуціча ў перакладах Масея Сяднёва, Міхася Кавыля, В. Бірыча (Антона Адамовіча). У прадмове да кнігі Сяднёў называе аўтара *«вялікім прыяцелем беларусаў»*[278].

---

[274] **Міхась Кавыль** (сапр. **Язэп Лешчанка**, нар. 01.12.1915 г., в. Покаршава (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.), пісьменнік, рэдактар, грамадскі дзеяч.

[275] **Уладзімір Дудзіцкі** (сапр. **Гуцька**, на эміграцыі Гіцкі; 08.01.1911, в. Дудзічы (сёння Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.) — пасля 1976), літаратар, публіцыст, грамадскі дзеяч.

[276] **Антон Даніловіч** (псеўд. **Янка Золак**, **Яз. Дольны** і інш. 01(14).11.1912, в. Лучнікі (сёння Слуцкі р-н Мінскай вобл.) — 30.12.2000, Мілтаўн, Нью-Джэрсі, ЗША), пісьменнік, журналіст, выдавец, грамадскі дзеяч.

[277] Палтава, Л. Пераклады [А. Салаўя, Н. Арсеннеvай] // Конадні. 1955. № 3. С. 47–48; З украінскага: Пераклады [М. Кавыля, В. Бірыча] // Конадні. 1955. № 4. С. 49–50; З украінскае літаратуры: Яр Славуціч, Ігар Кастэцкі, Леанід Палтава, Олэкса Вератэнчанка ў перакладах Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца, Алеся Салаўя // Шыпшына. 1947. № 5. С. 43–48; Золак, Я. Творы. 1981. Т. 2.

[278] Падрабязней пра беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі гл.: Юрэвіч, Л. Да гісторыі беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей // Беларус. № 454. Травень 1998. С. 5.

Ахвотна рабіліся пераклады і з польскай мовы. Найбольш значным дасягненнем, відаць, трэба лічыць зроблены ў 1956 г. айцом Пятром Татарыновічам пераклад рамана Г. Сянкевіча «Quo Vadis» [279]. Калі ж перакладалі творы сучасных польскіх паэтаў, кіраваліся, як і ў выпадку з украінскімі пісьменнікамі, не толькі мастацкімі крытэрыямі, але і ідэалагічнымі: у першую чаргу даць пераклады тых паэтаў, хто з'яўляўся носьбітам нацыянальнай ідэі, уважаў сябе ворагам Савецкага Саюза, расійскай палітыкі. Гэтак, у часопісе да публікацыі вершаў паэта Юзафа Лабадоўскага ў перакладах Наталлі Арсенневай і В. Бірыча падавалася рэдакцыйная ўрэзка: *«Юзэф Лабадоўскі — выдатны сучасны польскі паэта, цяпер жыве на эміграцыі, у Гішпаніі. Нарадзіўся 19 сакавіка 1909 г. у Сувальшчыне. Бацька паходзіў з Украіны, маці зь Беларусі. У 1951 г. у польскім парыскім часапісе «Kultura» апублікаваў «Анталёгію беларускай паэзіі», у якой даў пераклады ў польскую мову вершаў Купалы, Багдановіча, Коласа, Жылкі, Арсеньневай, Танка, Геніюш, Хадыкі, Дудзіцкага, Сяднёва, Салаўя. Для азнаямленьня беларускага чытача з паэтам і зь ягонымі дасканальнымі перакладамі зьмешчаныя тутака ягоныя вершы ў перакладзе ў беларускую мову й верш паэта Ўладзімера Дудзіцкага ў перакладзе ў польскую мову Ю. Лабадоўскага»* [280].

Ідэалогія перакладу ішла побач з культураю перакладу; істотна было не толькі *каго* перакладаць, але і *як*. Патлумачу сказанае на прыкладзе «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага ў перастворы Наталлі Арсенневай.

Праца над перакладам пачалася яшчэ напрыканцы 1970-х гг. з ініцыятывы дырэктара БІНіМу доктара Вітаўта Тумаша. Зробленыя на той час пераклады ён лічыў недасканалымі: Каспровічам — дакладны, але недастаткова паэтычны, са змененым рытмам, да таго ж няскончаны; літоўскі пераклад В. Казлаўскаса — педантычна дакладным, але па памеру набліжаным да Каспровіча. Пераклад на рускую мову мінскага знаўцы лаціны Парэцкага, наадварот, недакладным, бо пераўзыходзіў арыгінал на 72 радкі. Зробленае ж Язэпам Семяжонам ацэньваў

[279] Sienkievič, H. Quo Vadis: U bielaruskim pierakladzie ks. Dr. P. Tatarynowiča. Rym, 1956. — 475 s.

[280] Конадні. № 2. 1954. С. 48–50.



*Наталля Арсеннева. 1971 г.*

як палітычную пераробку паэмы[281].

Таму дырэкцыяй БІНіМу было прапанавана зрабіць з дапамогаю біскупа Часлава Сіповіча новы пераклад, які б адпавядаў арыгіналу паэмы і ў мастацкіх якасцях, і з палітычнага гледзішча. Праца над перакладам была цяжкай, заняла нямала часу, і твор быў надрукаваны адно ў 1996 г.[282].

Захаваліся лісты Наталлі Арсенневай да Вітаўта Тумаша, якія даюць уяўленне не толькі пра сам працэс перакладу, складанасці, што паўставалі перад перакладчыкам, але і пра тую розніцу ў падыходзе да арыгіналу і пераствору паміж эмігранткаю Арсенневай і падсавецкім дзеячам Семяжонам:

*«Даражэнькі спадар Доктар, нарэшце сабралася Вам адпісаць. Матар'ялаў да перакладу ў мяне цяпер, хіба, хапае. Ідэалам, праўда, быў бы так званы падрадкоўнік — даслоўны пераклад прозай кожнага лацінскага радка, але я разумею, што пры нястачы ў нас сапраўдных лацінiстых гэта немагчыма. І таму трэба абысьціся тым, што ёсьць. Каспровічаў пераклад бліжэйшы да арытмэтыкі, чымся да паэзіі, у ім чамусьці шмат чаго няма. Думаю, што пры карацейшым радку яму даводзілася выпушчаць некаторыя падрабязнасьці. Але, ведама, калі «на чорна» перакладу ўсё, буду карыстацца й Каспровічам. Перакладаць, заглядаючы ў кажны радок, я ня ўмею. Бо калі чалавек занурыцца ў пераклад, словы ў сказе неяк самі пачынаюць імкнуць, і перарываць іхны імпэт, штораз заглядаючы ў пераклад чужы,*

[281] Гл.: Песня пра Зубра: [Паэма]: На лацін., бел., рус. мовах / Пер. на бел. мову Я. Семяжона; Пер. на рус. мову Я. Парэцкага, Я. Семяжона. — Мінск: Маст. літ., 1980. — 183 с.

[282] Запісы БІНіМ. № 22. Нью-Ёрк, 1996. С. 4–34.

*спрычыняесься да таго, што перарываецца натхненьне й трэба нанова «разаграваць машыну». Ну, а калі будзе скончана праца, дык «на халодна» можна будзе й пераглядаць, і араўноўваць, і папраўляць. Дагэтуль я пераклала 272 радкі. Ад Калядаў, у студзені, блізу нічога не пераклала, розныя клопаты і іншае не давала часу спакойна ўзяцца за працу. За тыдзень мяркуем ехаць у Флярыду, там — Вялікдзень, шмат за гэты час ня зробіцца. Але тады спадзяюся зноў паймкнуць наперад. Я перакладаю «Зубра» з прыемнасьцяй. Да душы мне й разьмер верша, зусім быццам вецер плыве на вершалінах дрэваў у пушчы. Гусоўскі, відаць, быў сапраўдным паэтам»*[283].

І яшчэ адзін ліст:

*«Даражэнькі спадар Доктар, зь вялікім спазьненьнем адказваю на Вашыя лісты ў справе «Песьні пра зубра». Пераклад Семяжона прачытала пару разоў. Ён добры з аднаго боку, але немагчымы — зь іншых. Першае, ён цалкам супярэчыць асьведчаньням аўтара «Песьні». У адным месцы сам Гусоўскі кажа, што ён стараецца ўжываць толькі гэткія словы й выразы, якія будуць даспадобы ягонаму апекуну й працадаўцу, біскупу Эразму Плоцкаму і «ў згодзе із станам сьвятарскім». А ў Семяжона раз-пораз гэткія выразы, як «нагой у азадак», «дрэйфіў», «адвальваў ня скупа» (гэта Вітаўт — сьвятарству!). Гэтаксама ў яго поўная супярэчнасьць з аўтарам у паглядзе на князя Вітаўта. Для Гусоўскага Вітаўт — ідэал, якім ён захоплены, а ў Семяжона Вітаўт «князь вар’ят», із «шалёнай прыхамацяй», «факельшчык войнаў са слабым, а з дужым — анёлміратворца». Тэндэнцыя тут гэткая выразная, што нават не патрабуе аніякае праверкі з лацінскім тэкстам. Калі я скончыла чытаць, у мяне застаўся вялікі нясмак, ну й пратэст. У расейскім перакладзе нічога гэткага няма. Пераклад гэты спакойны, у меру паэтычны і амаль заўсёды ў згодзе з аўтарам «Песьні». Вітаўта Парэцкі нідзе ня лае. Ды й мова ягоная скрозь «у згодзе із станам сьвятарскім»*[284].

[283] Ліст Наталлі Арсенневай да Вітаўта Тумаша захоўваецца ў архіве БІНіМу.
[284] Ліст Наталлі Арсенневай да Вітаўта Тумаша захоўваецца ў архіве БІНіМу.

Паколькі размова зайшла аб Наталлі Арсенневай, хацелася б згадаць і іншыя творы, перакладзеныя ёю, адзначыўшы шырыню абсягу: Уільям Шэкспір «Рамэа і Джульета. Пралог» [285], Г. фон Кляйст «Разбіты кубак»[286], Герхард Гаўптман «Затонуты звон»[287], вершы Гётэ, Адама Міцкевіча (у тым ліку ўрыўкі знакамітых «Дзядоў» [288]).

Пры параўнальнай нешматлікасці перакладаў мастацкай літаратуры ўсё ж набытак даволі значны. Асобнымі выданнямі выходзілі кнігі Роберта Стывенсана «Чортава бутэлька»[289], Оскара Уальда «Шчасьлівы прынц»[290], Даніэля Дэфо «Рабінзон Крузо»[291], Джонатана Свіфта «Падарожжа Гулівера да волатаў у краіне Бробзынгнаг»[292], «Парсіваль» [293].



***Вокладка кнігі «Парсіваль». 1947 г.***

Друкаваліся цэлыя блокі перакладных твораў; прыкладам, у адным з нумароў часопіса

[285] Наперад (Лювэн). № 25. 1953. С. 51–55.
[286] Пераклад быў зроблены ў 1943 г. у Мінску.
[287] Сакавік. № 1 (2). 1948. С. 26–34; Конадні. № 1. 1954. С. 52–68; Конадні. № 2. 1954. С. 51–67.
[288] Арсеньнева, Н. Між берагамі. Ню Ёрк, 1979. С. 309–317.
[289] Стывэнсан, Р. Л. Чортава бутэлька / Пер. з ангел. Б. Г. [Баляслаў Грабінскі] і В. Т.[Вітаўт Тумаш]. Ватэнштэт, 1947. — 51 с.
[290] Уайльд, О. Шчасьлівы прынц / Пер. з ангел. Л. Хвалько. Ватэнштэт, 1947. — 21 с. Шкода, што пра гэтыя пераклады нічога невядома на Беларусі сёння. Гэта не проста мёртвая спадчына; перавыдадзеныя, творы і зараз могуць працаваць на культуру. І не трэба было б тады, друкуючы пераклад турэмнай споведзі О. Уальда ў час. «Крыніца», згадваць як адзінае выданне «Салавей і Ружа» 1978 г. (Дубянецкая, Г. Пра жэўжыкаў і горкія лекі // Крыніца. № 64. 2001. С. 132).
[291] Дэфо, Д. Рабінзон Крузо / Пер. з ангел. С. Коўш. Ватэнштэт, 1947. — 46 с.
[292] Swift, J. Падарожжа Гулівэра да волатаў у краіне Бробзынгнаг / Пер. В. П. [Вацлаў Пануцэвіч]. Фленсбург, 1949. — 79 с.
[293] Парсіваль: Сярэдневяковая легэнда / Пер. зь ням. Л. Галяка. Ватэнштэт, 1947. — 70 с.

«Сакавік» [294] пад рубрыкаю «З сусветнае скарбніцы» былі надрукаваныя імпрэсія «Выгнанец» Дэ Лем'ен у перакладзе І. Дальняй, «Зварот у далі дзён маленства» Уільяма Сараяна ў перакладзе М. Вольнага, казка Г.-Х. Андэрсэна «Сьвінапас» у перакладзе Ул. Ш-ца, а таксама пачатак казачнай драмы Г. Гаўптмана «Затонуты звон».

Уладзімір Клішэвіч перакладаў рубаі Амара Хаяма[295].

Сваімі перакладамі з Мікеланджэла, Гётэ, Гейнэ, Мерымэ вядомы Масей Сяднёў[296]. Рыльке перакладаў Алесь Салавей.

Міхась Кавыль, акрамя згаданай ужо ўкраінскае мовы, перакладаў з англійскае (Н. Гімбел), польскае (В. Гамуліцкі, Л. Падгорскі-Аколаў), рускае (Б. Пастэрнак).

Але перакладамі займаліся не толькі прызнаныя пісьменнікі, ды друкаваліся яны не толькі ў «Конаднях» ці «Сакавіку», «Бацькаўшчыне» ці «Беларусе». Магчымасць навучання замежным мовам, як сучасным, гэтак і класічным, вольны доступ да карыстання набыткам заходніх культураў вабілі беларусаў розных пакаленняў, рознай адукацыі паспрабаваць сябе ў перакладзе[297].

Адсутнасць мура — як палітычнага, гэтак і моўнага — паміж пісьменнікамі, эмігрантамі з Беларусі, і вольным светам, дазваляла не толькі далучацца да таго, што мы звыкла мянуем здабыткамі сусветнай культуры, але і — што не менш істотна — рабіць гэта своечасова, не запознена — на гады і дзесяцігоддзі.

Прыкладам, калі ў 1950 г. да друку рыхтаваўся чарговы, 10 нумар часопіса «Шыпшына», акрамя апавядання Сараяна

[294] Сакавік. № 1 (2). 1948. С. 26–37.

[295] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Архіўная кніга. Нью-Ёрк, 1997. С. 212–256.

[296] Сяднёў, М. А часу больш, чым вечнасьць. Глен Коў; Нью-Ёрк, 1989. С. 61–91; Ён жа. Масеева кніга. Мінск, 1994. С. 183–192. Дарэчы, цікава параўнаць перакладніцкую дзейнасць Масея Сяднёва з мастацкай літаратуры, разуменне ім важнасці перакладаў для развіцця нацыянальнай культуры — і адначасова непрыманне і неразуменне не меншай важнасці перакладаў рэлігійных тэкстаў (Сяднёў, М. Да пытання перакладаў рэлігійных тэкстаў на беларускую мову // Культура беларускага замежжа: Беларуска-Амэрыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненьні: Беларусіка = Albaruthenica. Кн. 5. Мінск, 1995. С. 71–74).

[297] Напрыклад: Фэдрус. Варона і ліса. Воўк і ягнё. Жаба і вол. Ліса і вінаград / Пер. баек з лац. М. Фабулевіча // У выраі. № 1. 1947. С. 28–29; Два залатыя яблыкі: Калядная зага зь Ніжняе Аўстрыі / Пер. Ал. Крыжаноўскі // Сьветач Хрыстовае навукі. № 12 (60). Сьнежань 1961. С. 7–8.

«Грунт пад нагамі» ў перакладзе Міколы Вольнага[298] і ўрыўка з рамана С. Максімава «Алім Ахтураў у Патокіна» ў перакладзе Юркі Віцьбіча, акрамя перакладаў Уладзіміра Клішэвіча[299] з Сафо і Міхася Кавыля з Гётэ, мелася быць надрукаванай нобелеўская прамова Уільяма Фолкнера 1949 г. — у перакладзе Міколы Вярбы (Сільвановіча)[300]:

*«Я адчуваю, што ўзнагарода гэтая прысуджана ня мне як чалавеку, але маёй працы — працы майго жыцьця, што складаецца з поту й душэўных пакутаў і рабілася ня дзеля славы й меней за ўсё дзеля выгоды, але дзеля таго, каб з матар'ялаў чалавецкага духу стварыць нешта тое, чаго дагэтуль не існавала. Такім чынам, я лічу, што ўзнагарода гэтая мне не даецца, але толькі даручаецца. Няцяжка будзе знайсьці грашоваму ейнаму боку прыстасаваньне. Але я хачу знайсьці ж такое прыстасаваньне й зьвязанай з гэтай узнагародай вядомасьці, карыстаючыся гэтым момантам як вяршыняй, зь якой мяне, магчыма, пачуе мужчынская й жаночая моладзь, што прысьвяціла сябе такой жа пакутнай працы й што ўжо мае ў сваім асяродзьдзі таго, хто калісьці будзе стаяць на тым мейсцы, дзе зараз стаю я.*

*Сучасная нашая трагедыя — усеагульны й паўсюдны фізічны жах. Мы адчуваем яго гэтак доўга, што ён робіцца нязносны. Гэта ўжо не духоўная праблема. Цяпер гэта толькі пытаньне: калі мяне ўзарвуць у паветра. У сувязі з гэтым малады пісьменьнік спакідае без увагі праблемы чалавечага сэрца — адзіныя праблемы, якія з'яўляюцца крыніцай добрае гістарычнае працы, бо гэта адзінае, аб чым варта пісаць, бо толькі яно заслугоўвае працы й пакутаў»*[301].

[298] **Мікола Панькоў** (псеўданім **Мікола Вольны** і інш., 12.06.1911, Люцын (сёння Лудза, Латвія) — 07.01.1995, ЗША), грамадскі дзеяч, бібліёграф, публіцыст.

[299] **Уладзімір Клішэвіч (**12.03.1914, в. Краснадворцы (сёння Салігорскі р-н Мінскай вобл.) — 14.11.1978, Лос-Анджэлес, ЗША), пісьменнік, грамадскі дзеяч.

[300] **Мікола Сільвановіч** (псеўданім **Вярба**, 09.04.1917, в. Вірадова (сёння Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 13.07.1975, Вініпег, Канада), грамадскі дзеяч, літаратар, філатэліст.

[301] Пра нявыдрукаваны нумар часопіса «Шыпшына» і матэрыялы з яго гл.: Літаратурная спадчына: новы ўгляд // Беларус. № 432. Люты 1996. С. 7.

Аўтары перакладаў адгукаліся не толькі на запатрабаванні часу, але і на канкрэтныя патрэбы беларускай справы. Прыкладам, пераклады вершаў Эзры Паўнда ў выкананні Янкі Юхнаўца[302], Зоры Кіпель і Янкі Запрудніка (адцемім — не перакладчыкаў па спецыяльнасці) суправаджаліся наступным тлумачэннем: *«Беларускі інстытут навукі й мастацтва надоечы атрымаў запытальнік аб перакладах твораў Эзры Паўнда на беларускую мову для ўключэньня ў бібліяграфію, якая рыхтуецца ды неўзабаве мае выйсьці ў амэрыканскім выдавецтве. Зь ініцыятывы інстытуту зроблена колькі першых перакладаў вершаў Эзры Паўнда»* [303]. Інакш кажучы, пераклад быў выкарыстаны для зазначэння самой назвы *Беларусь* у амерыканскім бібліяграфічным даведніку сусветнавядомага паэты — вось тое класічнае паяднанне ідэалогіі і культуры ў перакладах эміграцыі.

*Рукапіс перакладу Янкам Юхнаўцом верша Томаса Эліёта*

Янка Юхнавец пазней надрукаваў нізку перакладаў яшчэ аднае культавай постаці заходняй культуры — Томаса Эліёта[304].

Гаварыць аб перакладах на эміграцыі і абмінуць постаць Яна Пятроўскага[305] — наўрад ці магчыма. Хоць ягоная дзейнасць

[302] **Янка Юхнавец** (03.10.1921, в. Забродак (сёння Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) — 06.01.2004, Нью-Ёрк, ЗША), літаратар, мастак.

[303] Запісы БІНіМ. № 19. Нью-Ёрк, 1989. С. 150–157.

[304] T. S. Elliot у перакладах Янкі Юхнаўца // Беларус. № 462. Красавік-травень 1999. С. 7.

[305] **Ян Пятроўскі** (07.01.1905, Слуцк (сёння Мінская вобл.) — 19.01.2001, Гейнсвіл, Фларыда, ЗША), рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, пратэстанцкі прапаведнік, выдавец, літаратар, перакладчык.

добра вядомая, дазвольце, прынамсі пералічыць тыя выданні: Вернер Ёгер «Тэалёгія грэцкіх думаньнікаў» (1980), «Роздумы» (1978) Марка Аўрэліуса (сумесна з М. Кавылём), Вільгельм фон Гумбальт «Унутраная хворма мовы» (1988). І, натуральна, пераклады «Дыялёгаў» Платона. Пры ўсіх магчымых (і часам даволі слушных) закідах[306] аўтару перакладаў трэба прызнаць: нічога падобнага ў Беларусі не зроблена да сёння.



*Ян Пятроўскі. 1985 г.*

[306] З ліста Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 02.04.1967: *«Спадзяюся, што Вы атрымалі мой ліст ад 29.3.67 г., у постскрыптыме якога прыгадаў аб «Абароне Сакрата» Платона ў перакладзе Айца Пятроўскага. Усё-ж, нягледзячы на тое, што час і хвароба перашкаджалі гэтаму, але падрабязна пазнаёміўся з кагадзе адзначаным перакладам, паводля просьбы перакладчыка. А паколькі пра гэты пераклад згадваецца ў № 11 «Абежніку БІНіМ», дык вырашыў за патрэбнае пазнаёміць і Вас з копіяй майго ліста Айцу Др. Пятроўскаму ад 1.4.67 г., які адначасна Вам дасылаю.*

*Каб перакладаць з аднае мовы на іншую, патрабуецца бяззаганнае веданьне й першае й другое. Гэтае патрабаваньне асабліва датычыць выдатных помнікаў культуры, да якіх без сумлеву належыць «Абарона Сакрата» Платона. Па сутнасьці пераклад тут зьяўляецца навуковай працай. Ня ведаю, наколькі добра Айцец Пятроўскі валодае старагрэцкай мовай (прыпушчаю, што ня добра, бо Сакрату зусім не ўласьцівая стылёвая неахайнасьць, як, напрыклад, паўторы аднаго тэрміну па 5–6 разоў у адным-жа сказе), але беларускую літаратурную мову ён, як на мой пагляд, ведае блага. Таму і ягоная праца стаіць, на жаль, на ўзроўні аматарскім, а не навуковым.*

*Слоў няма, нам да гэтага не прызвычайвацца. Хіба-ж Сп. Др. Ян. Станкевіч карыстаўся старажыдоўскай мовай у перакладзе Біблії (Біблі?) на, прабачце, беларускую мову? Сумна, што ён прытрымліваўся пры гэтым не беларускае мовы, а, як той маўляў, Янкінага дыялекту стараліцьвінаўскае. Ня менш сумна, што й пераклады Айца Татарыновіча, засьмечаныя часта-густа барбарызмамі, паветалізмамі й новатворамі».* (Захоўваецца ў архіве БІНіМу).

Вядома, тут згадана далёка не ўсё і не ўсе. Але нават пералічанае — як ацаніць? Багаты ўнёсак? Малы?

Адказ будзе відавочны, калі плён эміграцыі параўнаць з справаздачаю Саюза пісьменнікаў Беларусі (а гэта больш за 500 сяброў) за перыяд паміж XII і XIII з'ездамі (1998–2001 гг.) у галіне мастацкага перакладу (матэрыял «Арганізацыйна-творчая работа Саюза беларускіх пісьменнікаў» надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» ад 25 траўня 2001 г.). Дык вось, *«на працягу міжз'ездаўскіх гадоў друкаваліся ў літаратурных выданнях пераклады на беларускую мову: з балгарскай — 15 перакладчыкаў; з рускай — 11; з польскай — 8; з украінскай — 18; з нямецкай — 7; з латышскай — 3; з літоўскай — 3; са славацкай — 6; з французскай — 4; з сербскай — 1; са шведскай — 1; з кітайскай — 1; з курдскай — 1 перакладчык»*[307].

Дасюль гаварылася аб перакладах у беларускую мову, аб тым самым вакне на Захад. Час сказаць і пра значнасць культурнага вакна на Усход — аб перакладах з беларускае мовы.

У 1948 г. Мікола Вольны (Панькоў) у артыкуле «Сусьветная літаратура й мы» выказаў наступнае: *«Калі найперш папытаемся, што ж гэта гэткае сусьветная літаратура, дык адразу пабачым, што гэтае паймо [паняцце. — Рэд.] вельмі туманнае. [...] Шукаючы паважнага ўяўленьня аб сусьветнай літаратуры, часова можам чыста тэхнічна адзначыць яе гэтак: да сусьветнае літаратуры належаць тыя творы, якія перакладзеныя ў 4–5 вялікіх, г. зв. сусьветных моваў. Найперш успомнім ангельскую, французаскую, нямецкую, пасьля яшчэ італьянскую й гішпанскую*



*Мікола Вольны (Панькоў). 1950 г.*

[307] Літаратура і мастацтва. 25 мая 2001.

*мовы. Маскоўская мова дзеля пашырэньня твораў блізу ня мае ніякага значэньня. [З гэтым палажэннем мы не згодны, бо многія творы беларускай літаратуры перакладаліся на «вялікія» мовы з рускай. — Рэд.] [...] Найперш трэба, каб творы нейкага пісьменьніка пераклалі ў вадну з 4–5 вялікіх моваў»*[308].

І гэтак сталася! Эмігранты самі або сваім уплывам на людзей іншых нацыянальнасцяў спрыялі перакладу ў заходнія мовы класічных твораў нашай літаратуры. Паколькі для ацэнкі зробленага ў адносінах да твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа існуе выдатная бібліяграфія «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе», укладзеная Зораю і Вітаўтам Кіпелямі, дазволю сабе не спыняцца на гэтых перакладах.

Перакладалі і Максіма Багдановіча. Адным з першых, у 1948 г., часопіс «Сакавік» змясціў пераклады двух вершаў пад назвай «Максім Багдановіч па-нямецку» — «Meine Lieder» і «Emigranten», пазначыўшы, што *«вершы гэтыя ўзятыя з падрыхтаванага да друку ў нямецкай мове зборніка вершаў Максіма Багдановіча ў перакладзе Аўгена Энгельгардта»*[309]. У тым самым 1948 г. газета «Бацькаўшчына» выдрукавала некралог А. фон Энгельгарта, напісаны В. Максімовічам (Вітаўтам Тумашам) і змясціла побач верш у перакладзе нябожчыка «Mein Letzter Wunsh». У ягоным жа перакладзе, у 1996 г., быў надрукаваны і «Апокрыф»[310]. Усім вядомыя, стаўшыя ўжо амаль класічнымі, пераклады вершаў Багдановіча ў англійскую мову, зробленыя спадарыняй Верай Рыч[311], чыя анталогія «Як агонь, як вада» і сёння з'яўляецца ўнікальным выданнем; прычым унікальным і ў станоўчым плане — сваёю якасцю, ахопам, гэтак і ў адмоўным — тым, што яна адзіная.

Вельмі істотным уяўляецца той факт, што эмігранты перакладалі не адно класікаў, але і сучасных пісьменнікаў, таксама эмігрантаў. Гэтак, канадская газета «The Winnipieg Tribune» ад 24 снежня 1952 г. змясціла ці не першы ў англійскай мо-

[308] Сакавік. № 1 (2). 1948. С. 38–39.

[309] Сакавік. № 2 (3). 1948. С. 31.

[310] Запісы БІНіМ. № 22. Нью-Ёрк, 1996. С. 35–44.

[311] **Вера Рыч** (*Vera Rich*, 24.04.1936 – 22.12.2009), брытанская паэтка, перакладчыца, журналістка і гісторык.

ве твор эмігранта-беларуса — апавяданне Вольгі Таполі[312] «Orphan of Forest Wept» з пазначэннем «Беларуская народная легенда» ў перакладзе Леон Косар. Нашмат раней, у 1947 г., Юліянаю Вітан-Дубейкаўскаю[313] ў нямецкую мову быў зроблены пераклад кнігі Сяргея Хмары[314] «Аб багох крывіцкіх сказы» — «Ueberlieferungen von den Goettern der Kriwitschen (Weissruthenischer Mythos)». Але пераклад быў адбіты толькі ў некалькіх асобніках у лагеры Ватэнштэт, а таму застаўся невядомым шырокаму колу нямецкамоўных чытачоў і беларускіх даследнікаў.

Ёсць і свае загадкі ў перакладчыцкай дзейнасці нашае эміграцыі. Адна з найбольшых, як для мяне, — пераклады, і шматлікія, вялікай колькасці твораў беларускіх пісьменнікаў у англамоўнай кнізе Антона Адамовіча «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры». Ці сам аўтар рабіў усе пераклады, ці хто дапамагаў яму?

Магчыма, самай перакладанай кнігаю сталіся ўспаміны айца Язэпа Германовіча «Кітай — Сібір — Масква», што былі выдадзеныя ў літоўскай[315], італійскай[316], польскай мовах[317]. Вяліся перамовы аб перакладзе і ў англійскую мову[318].

Сведчаннем узроўню, дасягнутага эміграцыяй у перакладчыцкай дзейнасці, і пэўным сімвалам гэтай дзейнасці, і самой

---

[312] **Вольга Таполя** (сапраўднае **Зубко**, 1902 —?), пісьменніца.

[313] **Юліяна Вітан-Дубейкаўская** (дзяв. Мэнке, 1886, Вільня — 1969, Нюрнберг, Нямеччына), настаўніца, грамадская дзяячка, мастацтвазнаўца.

[314] **Сяргей Хмара** (сапраўднае **Сіняк**, на эміграцыі **Марыян Зіняк**, 25.05.1905, в. Казлоўшчына Слонімскага пав. (сёння Дзятлаўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 04.09.1992, Таронта, Канада), паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч, выдавец.

[315] Hermanovicius, J. Mic Kun. Raudonuju Stovyklose… Londonas, 1969. — 359 s.

[316] Hermanovič, G. Cina — Siberia — Mosca: Marx e Lenin in Ralta. Roma, 1969. — 340 s.

[317] Hermanovicz, J., ks. Chiny — Sybir — Moskwa: Wspomnienia misjonarza z lagrów sowieckich. London, 1966. — 291 s.

[318] Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк: БІНІМ, 1999. С. 65. У архіве а. Язэпа Германовіча ў Скарынаўцы захоўваюцца таксама машынапісы рускамоўнага, нямецкага і англійскага перакладаў успамінаў. Гл.: Гардзіенка, Натальля. Архівы Беларускай бібліятэкі й музэя імя Францішка Скарыны ў Лёндане // Запісы БІНіМ. № 31. Нью-Ёрк — Менск, 2008. С. 73–100.

эміграцыі, урэчаісненай ідэяй яе бачыцца «Беларускі Трыстан», перакладзены Зорай Кіпель у англійскую мову[319]: твор заходняй культуры, перакладзены ў беларускую мову і ўспрыманы як твор нашае культуры, «вярнуўся» на Захад у перакладзе дзеяча дыяспары.

Як напісаў у вершы мінскі перакладчык «Трыстана» ў сучасную беларускую мову, што да гэтага пераклаў працу Янкі Запрудніка «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях»[320], Мікола Раманоўскі:

*Зацъны чытелнику, рачъ ей не гребовати*
*Ани зла на тлумача въ срдцу не ховати,*
*Лечъ што ся знаиде неслоушне выписано,*
*ласкаве тое поправити*[321].

---

319 The Byelorussian Tristan. New York, 1988. — 163 p. Ёсць таксама пераклад нашага «Трыстана» ў італійскую мову: Il Tristano biancorusso / Emanuela Sgambati. Firenze, 1983. — 509 p.

320 Запруднік, Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мінск, 1996. — 326 с.

321 Раманоўскі, М. Епикграмма на законъчене преложеня Трышанова // ARCHE. 2000. № 9. С. 90.

# БІЯГРАФІІ

## ТАНАЛЬНАСЦЬ БІЯГРАФІІ ЯК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ЖАНРУ

*(Да стварэння «Энцыклапедыі беларускага замежжа»)*[322]

Праца над канцэпцыяй ЭБЗ[323] вылучыла перад рэдакцыйнай калегіяй шэраг пытанняў-праблемаў, што тычаць у першую чаргу тэрміналогіі, дакладней, выкліканыя яе адсутнасцю, з якіх геаграфічныя — што адносіць да дыяспары / замежжа, а што не — далёка не самыя складаныя.

Напэўна, найбольш вострае пытанне — гэта праблема персаналіяў. Якім прынцыпам кіравацца, гісторыка-культурным ці гісторыка-палітычным? Каго можна назваць дзеячам эміграцыі / замежжа і ўключыць у слоўнікавы рэестр, а каго абмінуць; паводле якіх фармальных крытэрыяў адасобіць беларусаведаў, беларусазнаўцаў ды «вялікіх замежных сяброў Беларусі» ад проста эмігрантаў, чым вымераць актыўнасць у галіне *беларускай справы*? Ці дастаткова аднае *акцыі* (напрыклад, арганізавання выклікаў з лагераў *DP* у ЗША на стыку 1940-х — 1950-х, удзелу ў пабудове царквы), ці ўсё жыццё мусіць быць звязана з беларускаю дзейнасцю? І як пісаць біяграфію гэтага *непрафесійнага беларуса*: каб беларускі момант быў адно эпізодам у артыкуле ці будаваць біяграфію вакол эпізоду? Тут заўважу, што ў гэтым кантэксце пад *біяграфіяй* маецца на ўвазе не пражытае чалавекам жыццё, а тэкст, біяграфічны артыкул.

---

[322] Тэкст быў упершыню апублікаваны ў: Запісы БІНіМ. № 30. Нью-Ёрк — Менск, 2006. С. 223–230. Тут публікуецца з абноўленымі каментарамі.

[323] Ідэя стварэння Энцыклапедыі беларускай дыяспары / беларускага замежжа, ініцыяваная Лявонам Юрэвічам і падтрыманая Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», была агучаная ў 2005 г. і актыўна абмяркоўвалася на Чацвёртым з’ездзе беларусаў свету 16–17.07.2005. Аднак распачатая праца не была скончаная. — **Рэд.**

Нават болей: расстаноўка акцэнтаў уплывае не толькі на наяўнасць тае ці іншае персаналіі ў ЭБЗ або памеру ейнай біяграфіі, але і акцэнтаў гэтае персаналіі, што ў сваю чаргу паўплывае на ўспрыняцце героем (калі той жывы) ці неабыякавую грамадскасцю біяграфіі. Калі ж герой не жыве, адказнасць яшчэ большая, бо напісанне біяграфіі — гэта, па сутнасці, вяртанне імя да жыцця, ратаванне ад смерці: пакуль імя жыве ў свядомасці людзей, існаванне героя працягваецца.

Панятак «біяграфічны энцыклапедычны (слоўнікавы) артыкул» (БЭА) наўпрост звязаны са словам *агіябіяграфія* — святажыццяпіс, жыццё святога[324]. На думку даследніцы Любові Ляўшун, агіяграфічны жанр быў прадстаўлены дзвюма формамі, варыянты якіх сёння, відаць, можна знайсці ў біяграфічным артыкуле: 1) уласна *жыціе*-«біёс»: шлях ад нараджэння да смерці; 2) *мартырый* (сведчанне): апісанне пакутніцкай смерці з невялічкаю перадгісторыяй (у нашым выпадку месца пакутніцтва зойме якраз беларуская праца)[325]. Адным словам, працягвае Л. Ляўшун са спасылкаю на Дзмітрыя Ліхачова, гэта *«ўрачысты парад ягонага жыцця»*[326].

За прамінулыя часы ўспрыняцце БЭА змянілася, і сёння ён можа ствараецца як *apologia* (абарона) ці нават як *damnatio memoriae* (праклён памяці), але ў масавым разуменні ён усё адно застаецца пераважным чынам як *vita* — жыццё.

Як і сярэднявечныя агіябіяграфіі, сучасныя БЭА грунтуюцца на:

— рэальных дакументах — архіўных матэрыялах;

— сведчаннях сучаснікаў — успамінах;

— пазнейшых аповедах — доследах.

Розніца ў тым, што агіябіяграфіі ніколі не пісаліся на падставе аўтабіяграфіяў, успамінаў саміх герояў, як гэта нярэдка адбываецца з БЭА і, відавочна, не на карысць.

---

[324] Левшун, Л. Очерки истории восточнославянской средневековой книжности: эволюция творческих методов. Минск: Европейский гуманитарный университет, 2000. С. 103.

[325] Левшун, Л. Очерки истории восточнославянской средневековой книжности… С. 103.

[326] Левшун, Л. Очерки истории восточнославянской средневековой книжности… С. 106.

Разгледзім, напрыклад, біяграму Людвіка Зарэчнага (Галубовіча), трымаючы ў галаве пытанні пра:

— быць ці не быць ёй у ЭБЗ,

— акцэнты ў БЭА,

— з якіх крыніцаў яна мусіць складацца.

Дадамо, што аўтар гэтых радкоў аніяк не прэтэндуе на вырашэнне праблемы — адно хоча звярнуць на яе ўвагу.

На сёння мне вядомы толькі адзін БЭА пра Людвіка Зарэчнага — у даведніку Пятра Казака «Беларускі нацыяналізм»[327]:

***Зарэчны Людвіг (Галубовіч****, 17.05.1915 – 15.09.1964), беларускі вайсковы дзеяч, нацыяналіст. Перад вайной удзельнічаў у беларускім антысавецкім падпольлі. Маёр Беларускай Краёвай Абароны. На эміграцыі ў 1950 г. стварыў баявую вайсковую арганізацыю «Беларускі Вызвольны Рух», якая спачатку дзейнічала кансьпіратыўна. Быў арганізаваны вышкал беларускіх вайскоўцаў і адмысловая афіцэрская школа БВР. З дапамогай ангельскіх спэцслужбаў у Беларусь і Польшчу засылаліся сябры БВР. Пасьля канфлікту з прэзыдэнтам БЦР Радаславам Астроўскім яшчэ нейкі час спрабаваў арганізаваць «трэцюю сілу» на эміграцыі, але беспасьпяхова. Адышоў ад палітычнай дзейнасьці, стаў сьвятаром. Памёр пры нявысьветленых абставінах у Заходняй Нямеччыне. Пахаваны ў Глядбаху*[328].

Пры артыкуле няма ніводнай спасылкі на літаратуру, на крыніцу інфармацыі, але заўважым адразу легендарнасць (міфалагічнасць), уласцівую агіябіяграфіі: смерць пры нявысветленых абставінах. (Падобным прыёмам карыстаўся таксама Барыс Сачанка, апісваючы адыход пры міранага з БССР эмігранта Уладзіміра Клішэвіча, які *«марыў вярнуцца на Радзіму, каб зноў тут жыць, аднак нечаканая і ў нейкай ступені загадкавая*

[327] Беларускі нацыяналізм: Даведнік / Укл. Пятро Казак. Менск: Голас Краю, 2001. Укладальнік Пятро Казак. Ад моманту публікацыі гэтага тэксту, біяграфічныя матэрыялы пра Людвіка Зарэчнага (Галубовіча) з'явіліся ў колькіх публікацыях. Напрыклад: Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Вялікабрытаніі. Мінск, 2010. С. 285–308; Гардзіенка, Натальля. Людвік Галубовіч (Зарэчны) і Дзьмітры Касмовіч у лістах 1951–1953 гг. // Запісы БІНіМ. № 34. Нью-Ёрк — Менск, 2011. С. 271–301.

[328] Цытуецца паводле электроннай версіі сайту «Slounik.org» (slounik.org/32056.html).

*смерць 14 лістапада 1978 г. не дазволіла яму зрабіць гэта»*[329].)

Паўтаруся: гэта тым часам адзіная інфармацыя ад даследніка, але не адзіная наогул. У часопісе «Беларуская Хрысціянская Субожня»[330] друкавалася наступная *біяграфічная зацемка*:


Лянгенфельд,дня 29.12.52 г.

Дарагия Сп.Дзима,Надзя и Дзетки!

Вельми удзячны за апошни лист и яшчэ больш – за павиншаваньни.Прымицеж,кали ласка,узаимна,нашыя найлепшыя Калядныя и Навагоднiя пажаданьни як найлепшага здароўя,силаў,и посьпехаў!

Даражэньки Дзима,Вы просице газэты... на вялики жаль,першы и чацьверты нумары маю тольки архиўныя и паслаць з гэтых не маю магчымасьци.Я написаў сваим каб перасылали и як атрымаю,заразжа дашлю Вам.З Инфармацыйным Бюлетэнем тоеж самае.Мы выдаем яго вельми мала – усяго нейких каля 400-500 экз. и як разашлем па усим краинам,то да мяне даходзиць тольки 3-5 экз.,каб было што паслаць па зацикаўленым установам.Надалей,будзем пасылаць рэгулярна.Сорамна,але,на жаль,прыходзицца сьцьвердзиаць,што сеньня у нашым "лагеры" тольки прэса БВР выходзиць рэгулярна.Наша-ж"Трыбуна," якую выдае Русак,дык як дапатопная стральба "адкуси патрон" – бье з интэрвалам,раз у чатыры месяцы!

У нас усе пакуль што па старому.Усе жывы и здаровы.Сынка хрысьциў Архиепискап Филафей и назвали мы яго Паўликам.Адным словам,маю двох сыноў:кали бацьку заб"юць,то два сыны будуць помсьциць!

Пераказ на 10 дм.атрымаў,шчыра дзякую! Асобным пакетам высылаю новую газэту,сьвяточны нумар.

Пакуль што бывайце здаровы.Усяго Вам найлепшага. Шчасьливага Новага Году и Радасных Калядных Сьвятаў.Пацалуйце сваих дзетак и перадайце,што мы им жадаем расьци вялиkими,слаўными и моцными – на радасьць Бацьком и на славу Нацыи!

Ваш Людвик и з прывитаньнем Тоня и Дзетки.

*Ліст Л. Зарэчнага (Галубовіча) да Дзмітрыя Касмовіча. 1952 г.*

*«Яго дастойнасьць Кс. Людвік Галубовіч нарадзіўся на Меншчыне. Кончыў вышэйшую юрыдычную асьвету. За супрацiў саветызацыі ўва Ўсходняй Беларусі быў арыштаваным і сасланым на пакараньне на пяць год у Сібір. У час вайны прайшоў ахвіцэрскі вышкал у Савецкай Арміі. Апынуўшыся ў палоне, бярэ ўдзел у адміністрацыі Ўсходняй Беларусі разам з др. Радаславам Астроўскім і маёрам Дз. Касмовічам і М. Вітушкам. Пасьля вайны працуе дараднікам Брытанскай Кантрольнай Камісіі ў Нямеччыне й ёсьць галоўным арганізатарам Беларускага Вызвольнага Руху. Бярэ ўдзел у працах Бруксэльскага Міжнароднага Трыбуналу. Аўтар некалькіх вартасных працаў па раскрываньні сапраўднага аблічча бальшавіцкага рэжыму з даручэньня прафэсараў Гарвардзкага й Калюмбійскага*

[329] Сачанка, Б. Сняцца сны аб Беларусі. Мінск, 1990. С. 56.

[330] Часопіс меў назву «Biełaruskaja Chryścijanskaja Subožnia (Naślednica Litouskaje Jadnoty)», выдаваўся ў ЗША ў 1960–1961 гг. Выдавец — Уладзіслаў Рыжы-Рыскі. Выйшла 14 нумароў.

*ўнівэрсытэтаў. Ягонаму пяру заўдзячваецца таксама «Маніфэст Беларускага Вызвольнага Руху»*»[331].

Зацемка была змешчаная пасля «Пастарскага Пасланьня да Беларусаў-Каталікоў», якое змяшчае пэўную аўтабіяграфічную інфармацыю, датычную касцельнай палітыкі апалячвання на Беларусі, і падпісана *«Ксёндз Людвік Тытулярны Пастар Копыльскага Рэфармаванага Каталіцкага Кальвінскага Касьцёлу»*.

Паколькі Людвік Галубовіч уваходзіў, разам з Уладзіславам Рыжым-Рыскім[332], Пятром Журавецкім, Вацлавам Мацейчыкам[333], у рэдакцыйную калегію, можна быць пэўным, што напісаная зацемка менавіта ім ці, прынамсі, пры ягоным удзеле.

Гэта пацвярджае знойдзеная ў архіве БІНіМу «Кароткая біяграфія» ксяндза Людвіка Галубовіча, напісаная ў нямецкім Мюнхенгладбаху 23 снежня 1960 г. Насамрэч гэта аўтабіяграфія[334]:



*Уладзіслаў Рыжы-Рыскі*

*«Нарадзіўся ў рыма-каталіцкай сям'і ў пасёлку Ратамка каля гораду Менску. Скончыў вышэйшую юрыдычную асьвету. У юнацкія гады ў часы росквіту так званага НЭПу, калі бальшавізм яшчэ не паказаў свайго сапраўднага аблічча, прымкнуў да Камуністычнага Саюзу Моладзі (Камсамолу) Беларусі — ЛКСМБ. Працаваў у дзяржаўных установах БССР: быў Сакратаром Аддзелу Кадраў трэсту «Лесбел», Сакратаром Народнага Камісара*

[331] Belaruskaja Chryścijanskaja Subožnia (Artadaksalna-Katalickaja). Naślednica «Litoŭskaje Jadnoty». № 2 (14). Princeton, 30 studzienia 1961. S. 2.

[332] **Уладзіслаў Рыжы-Рыскі** (псеўданім У. Сноп, 1925 (?), в. Латыгаль (сёння Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.) — 02.03.1978, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч.

[333] Групоўка стварыла ў ЗША так званы «Беларускі Артадаксальны Каталіцкі Касцёл» — як процідзеянне польскай экспансіі ў Беларусі і адвольна вызначала адзін другога на розныя пасады.

[334] Друкуецца з захаваннем стылістыкі.

*Земляробства БССР, Загадчыкам Асабовага Складу Наркамзема й Сакратаром Калегіі Наркамзема БССР. Працаваў Кіраўнікам Спраў Паўнаважнага Прадстаўніцтва Народнага Камісарыяту Саўгасу СССР пры СНК БССР, быў Сакратаром Спэцыяльнае Калегіі Вярхоўнага Суда БССР.*

*Працуючы ў Вярхоўным Судзе БССР пазнаў сапраўднае аблічча савецка-бальшавіцкае сыстэмы й стаў дапамагаць антысавецкім элемэнтам, караным праз органы Вярхоўнага Суда БССР, за што нарэшце быў і сам арыштаваны й высланы на пяць гадоў у Сібір у БАМляг НКВД. У лягерох прымусовае працы ў БАМлягу НКВД працаваў як вязень на розных работах: ляпіў цэглу, грузіў пясок, капаў канавы, а нарэшце быў і ў лягернай адміністрацыі: быў Інспэктарам Атэстацыйнае Камісіі, Старшым Інспэктарам Аддзелу Прапаганды (КВЧ), быў і заступнікам начальніка гэтага ж аддзелу. З БАМлягу нарэшце перакінулі ў так званы Бурлаг НКВД. У гэтым лягеры пэвен час быў Камэндантам Штабу, а па звальненьню ад кары змушаны быў надалей заставацца на працы ў гэтым жа лягеры й каля двух гадоў займаў становішча Начальніка Адміністрацыйна-гаспадарчае Часьці Штабу Бурлягу НКВД.*

*Ад працы ў лягерох прымусовае працы ў Сібіры канчаткова звольніўся ў чэрвені месяцы 1941 г., але па дарозе да дому захапіла вайна. Дома прабыў толькі адныя суткі й быў змабілізаваны на фронт ваяваць супроць немцаў. У Чырвонай Арміі скончыў кароткатэрміновую афіцэрскую школу і ў ранзе лейтэнанта заняў становішча Заступніка Начальніка ПФС Штабу палка 19-й Арміі, якая дзейнічала на Заходнім Фронце. У адным з баёў быў ранены й захоплены немцамі ў палон.*

*Знаходзячыся ў палоне да вясны 1942 г. працаваў санітарам у нямецкім вайскова-палявым шпіталі № 2/531, які знаходзіўся ў горадзе Вязьма. Нарэшце, як беларус, быў звольнены з палону й накіраваны на працу ў Аддзел Франтавое Прапаганды нямецкае арміі, адкуль у хуткім часе на загад вайсковых уладаў быў перакінуты на службу ў органы мясцовае паліцыі (ОД), дзе быў вызначаны на становішча Начальніка Крымінальнае й Палітычнае Паліцыі гораду Вязьмы, а пазьней і на становішча Начальніка Паліцыі (ОД) Вяземскай Акругі. У часе адступленьня нямецкіх войск з-пад Масквы на загад вайсковага камандаваньня быў пэвен час Цывільным Камэндантам гораду Вязьмы й Вяземскага Гарнізону. Пасьля эвакуацыі з Вязьмы прыбыў*

*на Беларусь і да апошняга часу працаваў у прыфрантавой паласе. Займаў становішча Начальніка Аховы Бясьпекі (ЗІВА) Рослаўскай, Бабруйскай і Старадароскай Акругаў*[335]*, а адначасна й становішча Інспэктара пры 9-й Арміі па нагляду за дзейнасьцяй мясцовых аддзелаў паліцыі.*

*Пасьля эвакуацыі зь Беларусі прыбыў у Нямеччыну і ў горадзе Мюнхэне займаў становішча Начальніка Групы Сакрэтна-Інфармацыйнае Службы ў органах Дзяржаўнае бясьпекі. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны быў захоплены амэрыканцамі ў палон і знаходзіўся ў лягеры палонных Фюрстэнфэльдэк. Апошняя вайсковая ранга — маёр.*

*Ад 1949 да 1953 г. працую ў сыстэме Брытанскай Кантрольнай Камісіі на Нямеччыну на становішчы Дарадчыка па пытаньням савецкае сыстэмы й яе органаў. У гэтым жа часе закладаю арганізацыю былых Беларускіх Вайскоўцаў, ведамую пад назовам «Беларускі Вызвольны Рух — БВР», якую й ачольваў як Начальнік Галоўнага Штабу БВР, а пазьней — як Старшыня Цэнтральнага Камітэту БВР; апрацаваў праграму гэтае ж арганізацыі — «Маніфэст Беларускага Вызвольнага Руху».*

*У міжчасе прымаў удзел у працы ведамага Бруксэльскага Міжнароднага Трыбуналу, арганізаванага з ініцыятывы францускага журналістага Давіда Русэ для барацьбы супроць рэжыму канцэнтрацыйных лягераў і прымусовае працы ў СССР.*

*Мною напісана некалькі вартасных працаў, раскрываючых сапраўднае аблічча савецка-бальшавіцкае сыстэмы з даручэньня відных дзеячаў Гарвардзкага й Калюмбійскага Ўнівэрсытэтаў ЗША. У даным мамэнце працую над тэмай «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» у часе апошняй вайны.*

*У 1955 г. я адышоў ад грамадзка-палітычнае дзейнасьці нашае эміграцыі й заняўся прыватнымі справамі, але жыцьцё й рэчаістасьць пераконваюць мяне ў тым, што заставацца далей пасіўным нельга, а нават і шкодна. І я вырашыў аддацца служэньню Богу — маліцца за свой шматпакутны Народ, а праз малітву — знайсьці шлях да Праўды й Справядлівасьці той, якія накрэсьліў нам усім наш Збаўца Езус Хрыстус. А калі ўваскрэсьне Праўда й Справядлівасьць, я веру — уваскрэсьне й наша гаротная Маці-Беларусь, а Народ наш — стане воль-*

[335] Старыя Дарогі з ваколіцамі ўваходзілі ў склад Бабруйскай акругі.

*ным і незалежным, ды будзе славіць Езуса Хрыста, Якога народ наш ніколі не выракаўся!»*



*Аляксандр Асіпчык*

Шмат якія эпізоды з пададзенай аўтабіяграфіі выклікаюць пэўны недавер: ці ўсе яны насамрэч мелі месца, якія пасады не згаданыя? Пры адсутнасці дакументаў ды архіваў адказаць на гэтыя пытанні не ўяўляецца магчымым, а значыць праблема ўключэння / не ўключэння ў БЭА застаецца нявырашаная ці *невырашальная*.

Існуе яшчэ памфлет Аляксандра Асіпчыка — аўтара, якому таксама нельга цалкам давяраць, але варта звярнуць увагу на назву: «З энкавудзістага на ксяндза»[336].

Застаецца, бадай, апошняя крыніца: сведчанні сучаснікаў, успаміны. Аўтарам гэтых радкоў была зробленая спроба пабудаваць біяграфіі лювенцаў на падставе лістоў, дасланых Барысу Рагулю для кнігі пра студэнтаў на эміграцыі[337], але што добра для папулярнай кнігі, наўрад ці прыдаецца для энцыклапедыі.

І ўсё ж сучаснікі могуць скарэктаваць асобныя моманты.

Гэтак, д-р Вітаўт Кіпель з усіх *«вартасных друкаваных працаў»*, не датычных Беларускага Вызвольнага Руху, у сваёй бібліяграфіі[338] фіксуе толькі адну[339] і дадае адмысловы каментар: *«Сьведчаньне Людвіка Галубовіча, былога супрацоўніка НКВД у БССР, было адбітае ў колькіх асобніках Саюзам*

[336] Асіпчык, А. З энкавудзістага на ксяндза. (Для якой мэты?) На суд грамадзкасьці. ЗША, 10 траўня 1961. — 2 с.

[337] Рагуля, Б. Беларускае студэнцтва на чужыне. Лёндан (Канада) — Нью-Ёрк, 1996. — 206 с.

[338] Кіпель З., Кіпель В. Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе: Асобныя выданьні. Бібліяграфія. Нью-Ёрк: БІНІМ, 2003. — 582 с.

[339] Livre blanc sur les camps de concentration Sovie

*Беларусаў у Бэльгіі й распаўсюджвалася сярод бэльгійскіх урадаўцаў»*[340].

Гісторык д-р Янка Запруднік, не быўшы асабіста знаёмы з Людвікам Галубовічам-Зарэчным, таксама згадвае, што пра яго казалі як пра даваеннага супрацоўніка органаў НКВД і авантурніка, а пададзеныя ім біяграфічныя факты (ад пасадаў у лагерах да супрацоўніцтва з універсітэтамі) абсалютова не адпавядаюць праўдзе[341].

Айцец Аляксандр Надсан піша: *«Пра Зарэчнага ведаем вельмі мала. Сапраўднае прозьвішча, здаецца, Людвік Галубовіч. З Усходняй Беларусі. З каталіцкай сям'і. Вельмі магчыма, што перад вайною служыў у НКВД. У Лёндане зьявіўся нечакана ў пачатку 1950-х. Разам з Радаславам Астроўскім заснавалі Беларускі Вызвольны Рух, намагаліся стварыць беларускую вайсковую адзінку, каб ехаць ваяваць у Карэю. Хутка, аднак, Зарэчны прапаў так, як і зьявіўся. Хадзілі чуткі, што ў Нямеччыне займаўся гандлем гарэлкаю. У пачатку 1960-х зьявіўся зноў, але ўжо як «Апостальскі візытатар» заснаванай Рыжым-Рыскім «артадаксальна-каталіцкай субожні», якая ня мае нічога супольнага з Каталіцкаю Царквою. Праз кароткі час зьнік бязь сьледу. Адным словам, авантурнік. Магчыма, агент КГБ, хоць катэгарычна сьцьвердзіць не магу. Асабіста зь ім ніколі не сустракаўся»*[342].

Ведаючы кола знаёмых Зарэчнага, аналізуючы мову аўтабіяграфіі, «Беларускай Хрысціянскай Субожні» ды прыведзеных у іх фактах, з думкамі Вітаўта Кіпеля і Янкі Запрудніка трэба адназначна пагадзіцца. Але гэта не адказвае на самае першае пытанне: ці трэба біяграфію Людвіка Зарэчнага-Галубовіча ды падобных яму нацыянал-авантурыстаў уводзіць у ЭБЗ?

На думку Юрыя Лотмана, напрыклад, права на біяграфію мае чалавек, які *«рэалізуе не руцінную, сярэднюю норму паводзінаў, звычайную для дадзенага часу і соцыума, а нейкую складаную і незвычайную, «дзіўную» для іншых, якая вымагае ад яго вялікіх высілкаў»*[343].

[340] Напісаныя Галубовічам іншыя тэксты знойдзеныя нядаўна ў Гувераўскім архіве ў фондзе А. Даліна. (Hoover Institution Archives. Stanford University. Collection A. Dallin. Box 6.)

[341] Вуснае паведамленне Янкі Запрудніка аўтару ад 12.12.2005.

[342] Электронны ліст ад 19.12.2005.

[343] Лотман, Ю. Литературная биография в историко-литературном контексте // Лотман, Ю. Избранные статьи. Т. 1. Таллинн, 1992. С. 366.

Згодна з гэтай фармулёўкай, Людвік Зарэчны — якраз найлепшая кандыдатура, а вось «простыя беларусы», успаміны якіх сабраныя, напрыклад, у кнізе Наталлі Гардзіенкі «Беларусы ў Аўстраліі»[344], на біяграфіі (нагадаю: тэкст, а не самое жыццё) не заслугоўваюць, хоць, на маю думку, больш адпавядаюць ролі гісторыі — настаўніцы жыцця (*historia est magistra vitae*).

На жаль, усе тры пытанні, пастаўленыя на пачатку артыкула, застаюцца актуальныя:

— ці трэба ў ЭБЗ улучаць біяграфіі «нацыянал-авантурыстаў»;

— якія акцэнты там маюць быць;

— на базе чаго ствараць біяграфіі пры адсутнасці дакументаў: аддаваць перавагу аўтабіяграфіям ці ўспамінам сучаснікаў?

[344] Гардзіенка, Натальля. Беларусы ў Аўстраліі… С. 197–341.

# УЗНАЎЛЕННЕ БІЯГРАФІІ:

*Да гісторыі беларускае эміграцыі ў ЗША*
*першай чвэрці XX стагоддзя*

## 1. Кніжныя людзі

*І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,*
*Што «кнігу гэтую раб Божы, дзяк Гапон,*
*Дзеля душы сьпісаў у месьце Ваўкавыску*
*У рок сем тысяч сто другі з пачатку дзён».*
Максім Багдановіч

У брашурцы «*Русский Заграничный Исторический Архив при Министерстве Иностранных Дел Чехословацкой Республики в 1936 году*», той самай, дзе ў справаздачы за 1935 г. сярод найбольш прыкметных паступленняў пазначаны *«Архіў Беларускай Народнай Рэспублікі і арыгінальныя часопісы Рады і Сакратарыяту»*[345], чытаем пра нашага земляка: *«Позднее поступило архивное собрание д-ра Н. К. Русселя-Судзиловского[346], состоявшего во главе революционной работы среди русских военнопленных в Японии. Доктор Руссель почти всю свою жизнь провел вне родины и в то же время не прерывал революционной деятельности. Осужденный по известному процессу «193» в 1878 г.[347], он скрылся заграницу, жил сначала на Балка-*

[345] Русский Заграничный Исторический Архив при Министерстве Иностранных Дел Чехословацкой Республики в 1936 году. Прага, 1936. С. 45.

[346] **Мікалай Судзілоўскі-Русель** (1850–1930), народжаны ў Магілёве публіцыст, этнограф, хімік, лекар.

[347] «Вялікі працэс», суд над удзельнікамі «хаджэння ў народ» адбываўся ад 18(30) кастрычніка 1877 да 23 студзеня (4 лютага) 1878 гг. Лічыцца адным з найвялікшых палітычных працэсаў у дарэвалюцыйнай Расіі.

*нах, откуда перебрался в Сев. Америку (Сан-Франциско). Натурализовавшись в Соединенных Штатах, он переселился на Гавайские острова, где сделался сначала сенатором, а потом Президентом Гавайского сената. Правда, его президентство продолжалось, кажется, одно заседание, в котором он выступил с декларацией о независимости островов, и сенат немедленно был распущен. В 1904 году д-р Руссель уехал в Японию по поручению О-ва Друзей Русской Свободы (Дж. Кеннан)[348], где стал во главе просветительной и революционной работы среди русских военнопленных, поддерживая тесную связь с центром С. — Р. в Европе. Умер он в 1931 году в Тянь-Цзине, где практиковал в качестве врача среди китайской бедноты.*

*Р. З. И. Архив обратился к покойному д-ру Русселю о передаче его бумаг в Прагу еще в 1926 г., а он ответил издевательским письмом: «Касательно архивов, вспоминается сцена из самарского голода, когда статистики явились в избу переписывать крестьянский инвентарь. Сидевшая на печи беззубая старуха прошамкала:*

*— А они все пишут, пишут, — Царица Небесная…*

*Не обижайтесь, вся эта архивность вызывает во мне именно эти чувства самарской старухи… Не хотите Вы понять и моего отношения к самой «истории», на которую Вы работаете. Помнится, Бакунин[349] рекомендовал как первый революционный шаг «сжечь все архивы», чтобы прошлое не мешало свободному творчеству будущего».*

*Сам д-р Руссель не следовал заветам Бакунина и тщательно сохранял каждую бумажку. В Прагу его собрание поступило в 1933 г. В нем, между прочим, имеется несколько писем д-ра Сун-Ят-Сена*[350]*»*[351].

---

[348] *Society of Friends of Russian Freedom* — арганізацыя аб’ядноўвала англійскіх і амерыканскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, якія выступалі ў падтрымку рэвалюцыі ў Расіі. Было заснаванае ў Англіі ў 1890, у ЗША паўстала годам пазней.

**Джордж Кенан** (1845–1924), амерыканскі журналіст, пісьменнік, аўтар кніг пра Сібір і катаржнікаў.

[349] **Міхаіл Бакунін** (1814–1876), расійскі рэвалюцыянер, анархіст.

[350] **Сунь Ятсен** (1866–1925), кітайскі рэвалюцыянер, заснавальнік партыі Гаміндан. У 1940 г. быў названы «Бацькам нацыі».

[351] Русский Заграничный Исторический Архив при Министерстве Иностранных Дел Чехословацкой Республики в 1936 году… С. 13.

Гэта рэдкая раскоша — мець архівы, асабліва калі ідзе размова пра эмігрантаў з Беларусі першай паловы XX стагоддзя. Зрэшты, тое былі надта ж розныя людзі.

Да прыкладу, нямала захавалася сведчанняў пра грамадскіх і палітычных дзеячаў, публіцыстаў, гісторыкаў, сацыёлагаў, літаратараў, збольшага габрэяў па нацыянальнасці, выехаўшых з Беларусі. Пра іх цяпер пішацца як пра ўдзельнікаў (а часткова і стваральнікаў) філасофскай думкі рускага замежжа (наогул, далей у тэксце будзе багата цытатаў у рускай мове, дык хай жа шаноўны чытач набярэцца цярпення). Дастаткова назваць імёны Рафаіла Абрамовіча (сапр. Рэйн) (21.07.1880, Дзвінск Віцебскай губ. — 11.04.1963, Нью-Ёрк); Аляксандра Багданава (сапр. Маліноўскі; псеўд. *Н. Вернер, Н. Максимов, Рядовой,* 10.08.1873, Саколка Гарадзенскай губ. — 07.04.1928, Масква); Ганны Бургінай (09.02.1899, Беласток — 24.10.1982, Каліфорнія); Давіда Даліна (сапр. Левін, 24.05.1899, Рагачоў Магілёўскай губ. — 21.02.1962, Нью-Ёрк); Усевалада Іванова (07.11.1888, Ваўкавыск Гарадзенскай губ. — 09.12.1971, Хабараўск); Марка Кефалі (сапр. Мордух Камермахер, 25.10.1881, Віцебск — 06.10.1943, Нью-Ёрк); Мікалая Лоскага (24.11.1870, Крэслаўка Дзвінскага пав. Віцебскай губ. — 24.01.1965, Парыж); Восіпа Мінора (13.11.1861, Мінск — 24.09.1932, Сюрэн пад Парыжам); Маісея Астрагорскага (19.02.1854, Семяцічы Бельскага пав. Гарадзенскай губ. — 12.03.1921, Петраград); Льва Петражыцкага (13.04.1867, спадчынны маёнтак Калантаева Віцебскай губ. — 15.05.1931, Варшава).

Але, выглядае, рускія не могуць самі даць рады з усім багаццем уласнага і запазычанага *замежжа*, адбіраючы адныя вяршкі. От, скажам, і пра пісьменніка Рамуальда Карнасевіча ў энцыклапедыі «Літаратурнае замежжа Расіі»[352] занатаваныя толькі тры з паловай радкі. Дадамо ж пра нашага чалавека болей інфармацыі.

***Рамуальд Карнасевіч*** (*Romuald Kornosevitz* па амерыканскіх паперах) нарадзіўся 18 верасня 1884 г. у Гародні ў сям'і дырыжора мясцовага гарадскога аркестра і выкладчыка музыкі Мартына і Міхаліны (дзявочае прозвішча Пацельчыц). У 1891 г.

[352] Литературное зарубежье России. Энциклопедический справочник. Москва, 2006. С. 332.

пачаў наведваць гарадскую школу, якую паспяхова скончыў у 13 гадоў.

У школе напісаў свой першы верш «Нёман». Пасля заканчэння школы бацькі выправілі Рамуальда ў Пецярбург вучыцца ў інструментальнай майстэрні, адкуль ён збег праз два гады. Наступныя два гады жыў у брата, музыканта аркестра, працаваў на механічным заводзе. Сышоў і ад брата і восем месяцаў жыў фактычна на вуліцы. Звярнуўшыся ў паліцыю, атрымаў новы пашпарт і на запатрабаванне маці, на той час ужо ўдавы, быў этапаваны ў Гародню, у бацькоўскі дом. Неўзабаве пачаў працаваць памочнікам машыніста на параходзе «Русалка».

У 1905 г. Карнасевіч быў прызваны на ваенную службу ў г. Уладзімір-на-Клязьме, у 10-ты грэнадзёрскі маларасійскі полк. Там удзельнічаў у падпольнай арганізацыі сацыялрэвалюцыянераў. Пасля выкрыцця яе быў арыштаваны, але з-за недахопу доказаў вызвалены з-пад арышту. Праз паўгады па стану здароўя быў звольнены са службы і вярнуўся ў Гародню. Яшчэ праз год ажаніўся з удавой мясцовага памешчыка, але незадоўга сям’я распалася.

13 красавіка 1912 г. Рамуальд Карнасевіч прыбыў у Нью-Ёрк. Працаваў грузчыкам, матросам. У 1915 г. ажаніўся другі раз і пасяліўся ў г. Элізабет-порт (штат Нью-Джэрсі), працаваў на заводах. У 1922 г. пазнаёміўся з Давідам Бурлюком.

Пачаў друкавацца ў 1920 г. у газеце *«Новое Русское Слово»*, пісаў пад псеўданімамі *Цяпкін, Ляпкін, Таратайкін, Грамабой, Рамуальд*. Выдаў кнігі *«Звездные бразды. Книга стихов»* (Прадмова Д. Бурлюка. Нью-Ёрк: Русский голос, 1924. — 78 с.), *«Кандальный перезвон»* (Нью-Ёрк: Китоврас, 1925. — 63 с.), *«Вечный зов. Сборник стихов и рассказов»* (Нью-Ёрк: Канорма-пресс, 1927. — 248 с.).

Беларускія матывы, тэмы Гародні, Нёмна займалі немалое месца ў творчасці Карнасевіча — можна згадаць вершы «Радзіма», «Туча», «Нёман», «Туга па Радзіме», «Самазабойца», «Жахі жыцця», «Абуджэнне вясны», «Цуда-цуда, цуды», апавяданні «Смаргонская акадэмія», «Музыка і анёл».

Памёр у ліпені 1963 г. у амерыканскім штаце Мэйн.

Чалавекам кнігі быў яшчэ адзін беларус, які заснаваў і ўласнымі рукамі збудаваў — не больш, не менш — Свята-Траецкі манастыр (Джорданвіл, штат Нью-Ёрк), хіба найбольшую святыню рускага праваслаўя ў Амерыцы.

***Пётра Ніжнік*** нарадзіўся 16 студзеня 1895 г. у Рэчыцы Гарадзенскага пав. у вялікай сялянскай сям'і. Калі яму споўнілася 18 гадоў, бацькі вырашылі ажаніць сына. Будучы святар надта не хацеў заводзіць уласную сям'ю і, каб не быць цяжарам бацькам, адпрасіўся ў Амерыку: нямала ягоных знаёмых выпраўляліся за акіян, адкуль, знайшоўшы працу, дасылалі грошы дахаты. Бацькі згадзіліся, адно маці прасіла: *«Сынку, не згубі Бога»*.

У 1913 г. 18-гадовы юнак ступіў на амерыканскую зямлю. Знайшоў сабе працу — на цукровым заводзе ў прыгарадзе Чыкага. 1918 год стаўся пераломным: 18 красавіка ён паступіў у Ціханаўскі манастыр, заснаваны ў 1905 г. архіепіскапам Паўночна-Амерыканскім і Алеуцкім Ціханам. У 1920 г. Пётра пастрыгся ў манахі з імем Панцеляймон і яго высвяцілі ў іерадыяканы, а 10 красавіка 1921 г. — у сан іераманаха.

Пра той час архімандрыт Панцеляймон пазней згадваў: *«За дзесяць гадоў у Ціханоўскім манастыры я пабачыў, як няпроста жыць сапраўдным манаскім жыццём маладому манаху. І я пачаў задумляцца пра іншае месца. У гэтым мне дапамог айцец Іосіф, тады Іван Андрэевіч Колас, які быў рэгентам-псаломшчыкам у парафіі. Ён прыехаў да нас у манастыр пажыць — гэтак мы пазнаёміліся. Разам мы надумалі зарабіць троху грошай, каб набыць які кавалак зямлі. З гэтай мэтаю я пайшоў працаваць на завод Сікорскага ў Стратфардзе. І ў 1928 годзе набылі зямлю, на якой сёння месціцца наш Свята-Троіцкі манастыр. Але мы працягвалі працаваць на заводзе, пакуль цалкам не выплацілі пазыку. У 1930 годзе вясною пасля Пасхі я пакінуў працу і прыехаў на сваю зямлю. Першым маім набыткам у гаспадарку быў імбрык»*[353].

Сапраўды, з 1926 г. а. Панцеляймон зарабляў грошы на авіяцыйным заводзе Ігара Сікорскага[354]. Прадстаўляць авіяканструктара Сікорскага асаблівай патрэбы няма, а от сказаць два словы пра калонію ў Стратфардзе, дзе месцілася і *Sikorski Corporation*, варта, бо яна нам спатрэбіцца ў другой частцы артыкула.

[353] Успаміны Панцеляймона захоўваюцца ў архіве Свята-Троіцкага манастыра ў Джорданвілі (ЗША).

[354] **Ігар Сікорскі** (1889–1972), авіяканструктар. У 1919 эміграваў у ЗША, у 1923 г. заснаваў уласную авіябудаўнічую фірму.

Далёка не ўсе эмігранты ў Стратфардзе працавалі на фірме Сікорскага, але бадай усе наведвалі мясцовы клуб, аддавалі дзетак у рускую школу, наведвалі створаную тамсама оперу. Раёны называліся Чураевка, Рускі пляж, Дачы; месцічы маглі пражыць-прапрацаваць там усё сваё амерыканскае жыццё і не вывучыць як след англійскае мовы.




*Манастыр Святой Тройцы ў Джорданвілі*

Заснавалі, натуральна, і прыход — Св. Мікалая. Адбылося гэта 15.12.1929 г. Першым настаяцелем тады яшчэ хатняга храма стаўся наш а. Панцеляймон, а дапамагаў яму той самы айцец Іосіф (Колас), які, праўдападобна, таксама быў беларусам.

За зямлю, якую а. Панцеляймон прыгледзеў пад будучы манастыр, трэба было заплаціць адразу палову сумы — 2500$. Уласных было толькі 700$, яшчэ 500$ даў Колас, а рэшту сабралі сярод рабочых завода Сікорскага.

Вясною 1935 г. айцом Панцеляймонам і манахамі, што далучыліся да яго, была збудаваная царква ў гонар Троіцы, нарыхтаваны матэрыял на дом з шаснаццаці келій, набыта карова і коні. Але на асвячэнні царквы адбылося няшчасце: ад свечкі загарэлася царква, і ў лічаныя імгненні на вачах манахаў — згарэла. Трэба было пачынаць усё спачатку.

У сярэдзіне 1940-х гг. манахі цалкам разлічыліся з пазыкаю за зямлю, нават набылі дадатковую; узвялі прыбудовы для кароў, займелі найсучаснейшы лінатып, друкарскі варштат. Айцец Панцеляймон хоць і не меў адукацыі, аднак лічыў

кнігадрукарскую працу вельмі важнаю; што праўда, рабіў гэта своеасабліва: з розных кніг выдзіраў упадабаныя кавалкі і злучаў іх у адну новую. Ягоныя «выданні» і цяпер захоўваюцца ў манастыры.

Архімандрыт Панцеляймон пражыў доўгае жыццё і адышоў у 1984 г.; заснаваны ж ім манастыр, пабагацеўшы на семінарыю, па сёння з'яўляецца цэнтрам Рускай Праваслаўнай Царквы За мяжой[355].

Але якая ж гаворка пра кніжных людзей ды каб без бібліятэкі? Тым больш, што гэта гістарычна засведчаны факт: калі дзверы новага будынка Нью-ёркскай публічнай бібліятэкі[356] на Пятай авеню ўпершыню адчынілі свае дзверы 24 траўня 1911 г., першым чытачом стаўся эмігрант з Беларусі ***Давід Шуб***, які ў 9 гадзінаў 15 хвілінаў замовіў артыкул Мікалая Грота[357] «Нравственные идеалы нашего времени (Фридрих Ницше и Лев Толстой)».



*Магіла архімандрыта Панцеляймона (Ніжніка) у Джорданвілі*

Давід, сын Натана, нарадзіўся 13 верасня 1887 г. (па іншых звестках, 1888 г.) у Паставах. Яшчэ ў сярэдняй школе стаўся сябрам РСДРП, той яе часткі, што пазней атрымала мяно «меншавікі». З-за сваёй палітычнай дзейнасці быў вымушаны пакінуць імперыю і праз Гамбург, Берлін дабраўся да ЗША — спачатку ў Філадэльфію, а адтуль ужо ў Нью-Ёрк, дзе далучыўся да мясцовых таварыстваў: Расійскага сацыял-дэмакратычнага таварыства і клуба анархістаў, быў частым прамоўцам на зборках прафсаюзаў рабочых.

Пасля *кровавого воскресенья* Шуб вырашыў вярнуцца ў родныя мясціны, але, не маючы грошай, наняўся перавезці статак кароў. Дарога ішла праз Англію, Францыю, Швейцарыю. У Жэневе (магчыма — Цюрыху) пазнаёміўся з Леніным.

355 http://www.jordanville.org
356 www.nypl.org
357 **Мікалай Грот** (1852–1899), рускі філосаф і публіцыст.

Не змяншаючы палітычнай актыўнасці ў Паставах, ён за распаўсюд нелегальнай літаратуры зноў апынуўся пад пагрозаю арышту, і, каб пазбегнуць яго, запісаўся ў войска. У 1905 г. яго скіравалі ў гарнізон у Іркуцку. Але і там навязаў лучнасць з мясцовымі рэвалюцыянерамі, пра што дазналася камандаванне. Давід Шуб чарговы раз уцёк: праз Лондан — у Нью-Ёрк.

Ішоў 1908 год. Болей Шуб ужо ніколі не пакідаў ЗША.

Добра валодаючы ідыш, ён пачаў пісаць у мясцовыя газеты, а з 1924 г. далучыўся да аўтараў найбольш уплывовай габрэйскай газеты ў Амерыцы «Forverts».

Заля Славянскага аддзела Нью-ёркскай публічнай бібліятэкі на той час уяўляла сабой невялікі клуб, дзе не толькі чыталі, працавалі, але і знаёміліся, абмяркоўвалі палітычныя і культурніцкія праблемы. Вось там і адбылося знаёмства Шуба з Мікалаем Бухарыным і Львом Троцкім, частымі наведвальнікамі бібліятэкі. Можна было б нямала напісаць пра ягоныя кантакты з іншымі прадстаўнікамі расійскай эміграцыі, як, напрыклад, Барысам Бахмецьевым (1880–1951), чыім імем названы архіў пры Калумбійскім універсітэце, або заснавальнікам часопіса «Новый журнал» Міхалам Карповічам (1888–1959), але абсалютна нельга не згадаць, што менавіта яму, нараджэнцу Паставаў, належыць аўтарства класічнай біяграфіі Леніна, выдрукаванай у 1948 г.[358] і шматкроць перавыдадзенай пазней (апошняе амерыканскае выданне — 1977 г., выдавецтва *Penguin*; а наогул па часе — 2002 г., пераклад у Іране).

Памёр Давід Шуб 27.05.1973 у Маямі, Фларыда.

У даваенны час на амерыканскіх землях існавала не толькі эміграцыя з Беларусі, але і беларуская эміграцыя — у Чыкага. Як вядома, у гэтым горадзе дзеілі сябры Рады БНР Язэп Варонка[359], Антон і Янка Чарапукі[360], тут служыў айцец Ян

---

[358] Shub, David. Lenin. A Biography. Garden City, N. Y., Doubleday, 1948. — 438 p. Гл. таксама: http://www.marxists.org/history/etol/newspape/ni/vol16/no02/shub.htm.

[359] **Язэп Варонка** (04.(17).1891, Сакольскі пав. — 04.06.1952, Чыкага, ЗША), палітычны дзеяч, журналіст, выдавец. Першы старшыня Народнага Сакратарыяту БНР (люты-ліпень 1918).

[360] **Янка Чарапук** (псеўданім **Змагар**, 24.08.1896, Новы Двор (сёння Падляскае ваяв., Польшча) — 16.11.1957, Чыкага, ЗША), палітычны дзеяч. У 1919–1922 гг. працаваў сакратаром Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі, быў сябрам Народнай Рады БНР.



*Язэп Варонка*

Тарасевіч[361], тут была заснаваная першая нацыянальная газета ў ЗША, «Белоруская Трибуна» (1926–1932), тут ставіліся першыя беларускія спектаклі на амерыканскай зямлі.

Напэўна, актыўнасцю гэтых людзей можна вытлумачыць параўнальна часты зварот — як для сярэднестатыстычнай амерыканскай газеты — да беларускае тэмы мясцовае «Chicago Daily Tribune». І асабліва Варонкі, які быў даволі папулярнаю асобаю сярод чыкагскіх расіян. Так, зацемка ад 26 кастрычніка 1929 г. пра савецкіх лётчыкаў, што вырашылі давесці магчымасць пералётаў з Масквы ў Нью-Ёрк, паведамляла, што падчас кароткага спыну ў Чыкага для неабазнаных у англійскай мове перакладаў Язэп Варонка, памылкова прадстаўлены рэдактарам «Russian Review»[362]. У сваім слове перакладчык адзначыў, што 30000 рускіх у Чыкага вітаюць лётчыкаў і ганарацца імі.

Гэтая ж газета праз гады, а дакладней 6 чэрвеня 1952 г., змясціла Варонкаў некралог, у якім паведамлялася: *«Паховіны Язэпа Я. Варонкі (Joseph J. Voronko), 61, які ў 1919 быў абвешчаны прэзідэнтам і прэм'ерам кароткачасовага незалежнага ўрада ў Беларусі (of province of White Russia), адбудзецца заўтра ў 9.30 раніцы ў касцёле Св. Юрыя. Містэр Варонка быў адным з арганізатараў беларускага рэжыму, але пасля таго, як быў абвешчаны прэзідэнтам і прэм'ерам, ён і ягоны ўрад мусіў ратавацца ўцёкамі ад бальшавікоў. Цягам апошніх 19 гадоў ён быў рэдактарам праграмы перадач «Бурлак» у нядзельныя раніцы на станцыі WEDC. Ён пакінуў удаву, Мак, а таксама прыёмную дачку Ірэну Леанард»*[363].

Дык што ж пісала «Chicago Daily Tribune» пра Беларусь? Пераважна гэта былі кароткія весткі кшталту «Беларусы

[361] Кіпель, Вітаўт. Беларусы ў ЗША. Менск, 1993. С. 105–124.
[362] Рэдактарам насамрэч быў Адам Шуйскі.
[363] Chicago Daily Tribune. 06.06.1952.

далучыліся да Савецкай Рэспублікі»: *«З Цюрыха. Беларусы абвясцілі саюз з Рускай савецкай рэспублікай, як перадаюць з Кіева. Значная колькасць беларусаў, каля 5000000, жыве ў Літве, што нядаўна была захопленая бальшавікамі»*[364].

Паступова інфармацыя шырылася: *«Паўстанні ахопліваюць Беларусь; армія пераможана: Чырвоныя камісары забітыя сялянамі. Значнасць цяперашняга паўстання ў Беларусі набывае моц. У Віцебску, Мінску і Смаленску адбываюцца сутычкі, забойствы камісараў, войска нясе страты. Вакол Смаленска адбыліся баі паміж савецкім войскам і паўстанцамі. Сяляне, каля 6000, змаглі перамагчы смаленскі гарнізон. Хоць яны маюць надта малыя шанцы супраць сілаў, якія бальшавікі здольныя супрацьставіць ім, паўстанні засведчваюць настрой сялянаў, якія былі даведзеныя да адчаю, тыя гатовыя на ўсё дзеля нават часовай палёгкі»*[365]. А ў нумары за 29 лістапада 1930 г., ужо па інфармацыі з Латвіі, газета пісала: *«Паўстанне падаўлена. Савецкія войскі падавілі паўстанне сялянаў у Беларусі. Сяляне, што змагаліся супраць савецкага ўрада апошнія пяць тыдняў, каб уратаваць свой ураджай і зямлю, спынілі супраціў. Як паведамляюць з мяжы, сёння не было чутно стрэлаў. Па няпоўнай інфармацыі з месца, было забіта больш за 1000 сялянаў, а каля 4000 іхных сямейнікаў было саслана на поўнач Расіі»*[366].

12 студзеня 1934 г. была надрукаваная калонка за аўтарствам Дональда Дэя, якому належыць пераважная большасць тэкстаў пра Беларусь. У ёй расказвалася пра з'яўленне ў Зілупэ старой кабеты, знясіленай, згаладалай, у рыззі, што ледзь трымалася на ёй. Сваім дзіўным станам, блізкім да шоку, яна звярнула на сябе ўвагу мінакоў і была скіраваная ў пастарунак па аказанне дапамогі. Выявілася, што гэта 72-гадовая ўкраінка Гелена Савейка, жыхарка Магілёва, выправілася ў падарожжа, каб расшукаць сваю дачку, якая вышла замуж і жыла цяпер у гэтым латышскім гарадку. Усю дарогу кабета ішла пешшу (блізу 200 міляў), просячы ў сялянаў хлеба. Яна расказала, што праз усю дарогу сяляне ставіліся да яе вельмі добразычліва. Адна сям'я, што жыла каля самай мяжы, дала ёй прытулак, пакуль пад прыкрыццём моцнай завеі яна не перайшла на другі бок, і тым

364 Chicago Daily Tribune. 21.01.1919.
365 Chicago Daily Tribune. 17.10.1924.
366 Chicago Daily Tribune. 29.11.1930.

выратавала ад ГПУ, якое атрымоўвае грашовыя прэміі за кожнага перахопленага. Кабета распавяла таксама, што ў сялянаў амаль не засталося нічога з ежы — усё забрана арганізатарамі калгасаў, а яна сама на працягу года ела толькі чорны хлеб і вараную бульбу, вельмі рэдка дадаючы алей. Гэта, сказала яна, становішча з харчаваннем сялянаў у Беларусі.

Але падобныя артыкулы былі хутчэй выключэннем. Пераважна пісалася пра расстрэлы, страты, забойствы:

12 снежня 1934 г.: *«Мінск, 11.12. Расстрэльная каманда забрала жыццё ў 9 абвінавачаных у контррэвалюцыі неўзабаве пасля абвінавачання ў тэрарызме. Гэты прысуд вайсковай калегіі савецкага Вярхоўнага Суда давёў лік забітых пасля смерці Сяргея Кірава да 75»*[367].

17 чэрвеня 1937 г.: *«Рускі лідар скончыў жыццё самагубствам. Сталін закратаваў сотні. Самагубства прэзідэнта Беларускай савецкай рэспублікі, сотні арыштаваных і сотні выкінутых з камуністычнай партыі — гэткая інфармацыя прыйшла з Расіі. Урад паведаміў, што Аляксандр Чарвякоў, 45 гадоў, кіраўнік самай заходняй з савецкіх рэспублік, скончыў жыццё самагубствам з-за сямейных праблемаў»*[368]. Далей расказвалася пра пераслед і арышт ягоных 45 калегаў, у тым ліку Галадзеда, Убарэвіча, Гамарніка. Быў ужыты выраз *«паляванне на ведзьмаў»*.

У матэрыяле за 8 жніўня 1937 г. пад назвай «Суседзі прадракаюць Расіі падзел на малыя нацыі» Дональд Дэй піша пра візіт прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага ў Бухарэст, калі падчас сустрэчы на самым высокім узроўні была выказаная думка, што беларуская нацыя будзе існаваць.

6 лістапада 1937 г.: *«У Гомелі (Gombel) 7 чалавек было забіта за супраціў правядзенню калектывізацыі. Пакараныя былі абвінавачаныя ў шпіянажы на карысць Германіі і Польшчы»*[369].

Цікава адзначыць, што ў гэтай самай газеце друкаваўся з працягам дэтэктыўны раман «Чырвоны Стэфан» даволі вядомай брытанскай пісьменніцы Патрысіі Вентворт (*Patricia Wentworth*, 1878–1961) — гісторыя пра англічаніна Стэфана Эндэрбі, вядомага ў Расіі як Сцяпан Іванавіч. Ён бяжыць з Расіі,

[367] Chicago Daily Tribune. 12.12.1934.
[368] Chicago Daily Tribune. 17.06.1937.
[369] Chicago Daily Tribune. 06.11.1937.

па дарозе ратуе ад смерці Элізабэт Радзін і бярэ яе з сабой, бо ёй пагражае камісар Пятроў. Нарэшце ўцекачы знаходзяць прытулак у хаце Акуліны і яе мужа Юрыя. Паміж Стэфанам і хворай Элізабэт адбываецца наступны дыялог:

*— What did I say? — said Elizabeth, her eyes wide and startled. — Did I speak English?*

*— Akulina wouldn't know what it was. Besides, she won't talk. But I don't think you'd better be dumb — it isn't necessary. The talk hero is a good bit mixed up anyhow. We're over the Ukrainian border, you know.*

*— Akulina talks Russian to you…*

*— Yes. She's a Ruthenian from White Russia. She was born and bred on the Darensky estate, and her daughter Katinka went back there when she married. Yuri is Ukrainian*[370].

## 2. Мужыкі

*Што я мужык, усе тут знаюць,*
*І, як ёсць гэты свет вялік,*
*З мяне смяюцца, пагарджаюць, —*
*Бо я мужык, дурны мужык.*
Янка Купала

Справа з маўклівай большасцю, з мужыкамі — асноўнаю масаю эміграцыі з Беларусі — выглядае кардынальна інакш: па іх не засталося не тое што рукапісаў, артыкулаў, успамінаў ці прынамсі асабістых дакументаў; але нават суворая статыстыка — і тая блытаецца ва ўласных падліках і найменнях.

Напрыклад, расійскі даследнік эміграцыі Э. Нітабург прыводзіць меркаванне амерыканскага даследніка Б. Кайпэла (але чамусьці без спасылкі на друкаваную крыніцу), што пяцьдзясят адсоткаў эмігрантаў з Расійскай імперыі былі беларусамі[371].

Калі згадаць словы іншага даследніка, ужо амерыканскага, нябожчыка Марка Раева, што *«среди эмигрантов мы можем обнаружить не только представителей бывшей правящей*

[370] Цытата паводле: Chicago Daily Tribune. 26.12.1934.
[371] Нитобург, Э. Русские в США. Москва, 2005. С. 380.

*элиты — правительственной и придворной — и выдающихся представителей интеллектуальной элиты, но и мелкую буржуазию, людей искусства, ремесленников, рабочих и служащих, а также довольно значительное число крестьян, <u>если причислить к ним казаков</u>*»[372] (вылучана намі — **Л. Ю.**), — ці не можна зрабіць выснову, што тая мужыцкая частка складалася пераважна і ў асноўным з беларусаў?!

Ці выпадкова Д. Гарбацэвіч узяў сабе псеўданім «Мінскі Мужык»? Было ў тым выбары галоўным фіксаванне геаграфічнага месца, падкрэсліванне сацыяльнага — хай і былога — статусу? А мо тут падсвядомая канстатацыя ўласнай інакшасці, якая, пры ўсей дэкларацыі *мужыкамі* сваёй любові да рускага, залічэння сябе да *рускага народа*, была відавочнаю і для іх саміх, і для рускіх?

З думкаю пра гэткую інакшасць двухсэнсоўна прачытваецца тэкст пра — о, дзіва! — дзве душы, выдрукаваны часопісам *«Просвещеніе»*:

*«Лекція М. Л. Моравской*[373]*.*

*«Двойныя души», о которыхъ говорила М. Л. Моравская въ О-ве Просвещеніе, это наши души, души людей, живущих на чужбине, эмигрантовъ. Одна душа въ насъ — это тяготеніе къ своему національному гнезду, замыканіе въ національную скорлупу, нежеланіе сблизиться съ новой средой, это «колонія» и «гетто». Другая душа — это тяга къ новому, неизведанному, стремленіе сжиться съ чуждой культурой и въ любой стране быть своимъ. Всякое «гетто» ужасно — это варка в собственном соку, это близость каторжниковъ, прикованныхъ къ одной тачке.*

*Есть люди, умеющіе разрушить стену, которая отделяетъ ихъ от другого народа и сделать для себя чужбину новой родиной. Это не обходится даромъ. Оставшіеся въ «гетто» укоряютъ ушедшихъ въ отступничестве и измене. Въ душахъ самихъ отступниковъ происходитъ иногда мучительное оживаніе бы-*

---

[372] Раев, Марк. Россия за рубежом. История культуры русской эмиграции 1919–1939. Москва, 1994. С. 15.

[373] **Марыя Мараўская** (1889–1947), пісьменніца, перакладчыца. Сябравала з Максіміліянам Валошыным, Зінаідай Гіпіус, уваходзіла ў *«Цех поэтов»*. У 1917 г. пасля падарожжа ў Японію праз Лацінскую Амерыку трапіла ў ЗША, дзе і засталася жыць.

*лыхъ національныхъ чувствъ, какъ это случилось со многими «обамериканившимися» русскими и поляками при вести о русской революціи.*

*М. Л. Моравская находитъ, что есть путь, хотя и трудный, къ освобожденію отъ душевной двойственности. Путь этотъ «расширеніи души». Не надо отгораживаться отъ чуждой культуры. Надо всеми силами стараться войти въ нее, надо изучать чужой языкъ, жизнь, духъ окружающего народа, надо быть не гостемъ, а участникомъ и деятилемъ везде. Но это погруженіе въ жизнь другого народа не должно покупаться ценою отреченія отъ народа своего. «Могущій вместити да вместитъ». И въ этомъ путь къ психологическому (не касаясь сейчасъ экономической и политической стороны дела) решенію національного вопроса и путь къ единенію человечества. Таковы, въ основныхъ чертахъ, разсужденія М. Л. Моравской.*

*После лекціи М. Л. Моравская прочла свою поэму «Москаль». Поэма эта навеяна разсказомъ объ одномъ (имя его забыто) русскомъ офицере, который въ дни последняго возстанія, въ 63 году подъ впечатленіемъ жестокой расправы съ поляками, перешел на сторону польскихъ повстанцевъ и был разстрелянъ. Его ведутъ на казнь. Народъ, плача, его провожаетъ. Но вотъ засвистали «черныя нагайки», и толпа въ страхе разбегается. Тогда раздается голосъ офицера: «Братья-поляки, я за васъ умираю, а вы не хотите проводить меня до могилы». И бегущая толпа остановилась, и «съ плачемъ кинулся людъ» обратно за шествіемъ*

*Бабушка-полька разсказываетъ эту эпопею детямъ, и, когда она описываетъ свое свиданіе съ москалемъ, она вспоминаетъ съ изумленіемъ,*

*«Что русское слово «справедливость»*

*Звучало совсемъ по нашему справедливосць!»* (менавіта так напісана гэта слова — **Л. Ю.**).

*Поэма М. Л. Моравской проникнута темъ гражданскимъ умиленіемъ, какимъ обвеяны некрасовскіе «Рускія женщины», желаніемъ бережно передать потомкамъ все, что связано съ героическими образами прошлого».*

Змаганне за душы мужыкоў было нежартоўным — праз школкі, царкву, шматлікія таварыствы, лекцыі. Зрэшты, не толькі душы, але і кашалькі. Як бы мала там ні адкладалася даляраў, улічваючы колькасць гэтых мужыкоў, сумы былі вельмі

значнымі. Дастаткова згадаць справу з карпарацыяй Сікорскага: пасля першых няўдачаў з будаўніцтвам самалётаў яна фактычна збанкрутавала. Ва ўсёй літаратуры, прысвечанай Сікорскаму, прыводзіцца факт фінансавай дапамогі ад кампазітара Сяргея Рахманінава[374], але ніхто не піша, што ыратавалі бізнес акурат мужыкі, якія масава, стаўшы ў чэргі, набывалі акцыі *Sikorsky Aero Engineering Corporation*.

Не дзіва, што рускія таварыствы часта засноўваліся беларусамі. Адно з такіх, «Навука», якое таксама мае сваю ролю ў нашай далейшай гісторыі, было заснавана ў Нью-Ёрку ў 1905 г. для пашырэння культуры эмігрантаў з імперыі праз канцэрты ды лекцыі і першапачаткова прымала ў свае шэрагі выключна «чыста рускіх», што і было занатавана ў статуце арганізацыі. Але адным з заснавальнікаў быў беларус Мацвей Драздоў, народжаны на Пятроўскіх хутарах Вілейшчыны. Ён прыехаў у Нью-Ёрк 23 кастрычніка 1907 г., пасяліўся сярод такіх самых, як і ён, у Бранзвілі, быў дзейным сябрам «Славянскага таварыства» і «Расійскага хрысціянскага народнага дома і кааператыва». У 1922 г. падчас голаду ў Расіі стаўся ініцыятарам збірання і перасылкі харчовай дапамогі. Цягам шэрагу гадоў займаў пасаду старшыні РООВА (*Русское Объединенное Общество Взаимопомощи в Америке*).

Змаганне вялося і паміж самімі таварыствамі: хто лепш разумее мужыка, ягоную душу, ягонае жыццё, патрабаванні? На гэтую тэму нават пісаліся вершы — кшталту «Мужик. (А. Браиловский[375] читает лекции о нуждах деревни)»[376]:

*Читатель! Не сомневайтесь напрасно!*
*Это ясно —*
*Что г. Браиловский все знает.*
*Что если он рассуждает*
*О нуждах деревни, о качестве сена…*
*Эта сцена*
*Как раз по нем.*

[374] Чэк быў выпісаны на 5000$, у пераліку на сёння сума складае больш-менш 80000$.

[375] **Аляксандр Браілоўскі** (1896–1975), піяніст. Нарадзіўся ў Кіеве, памёр у Нью-Ёрку, дзе часта выступаў з лекцыямі.

[376] Новое Русское Слово. № 4120.

*Дело в том:*
*Изучение этого вопроса*
*Происходило во время сенокоса.*
*Из окна купэ*
*Его взор приковался к толпе.*
*Она в это время травку косила,*
*Когда его в Америку уносило.*
*Уловив лязг кос острым слухом*
*Он проникся «крестьянским» духом.*
*Затем на одной из станций железной дороги*
*Он видел мужицкие дроги.*
*С мешками.*
*Между нами —*
*Он до сих пор не знает, что лежало в мешках.*
*Просо, конопля или овес.*
*Но не в этом вопрос.*
*С того времени*
*На его плечи легла тяжесть «мужицкого» бремени.*
*С'евши в Нью Иорке порцию грибов,*
*Он еще более узнал быт мужиков.*
*А после десерта — малины*
*Ему окончательно выяснились полевые картины.*
*В музее он видел пару коз,*
*На одной из площадей Лонг-Айланда навоз…*
*Читатель! Не сомневайся напрасно!*
*Это ясно —*
*Он быт «крестьянства» знает.*
*И поэтому… Пусть лекции читает.*
*Уверяю — побудет он разок в Божьем Храме*
*И увидите сами:*
*Он без упрека и страха*
*Появится перед вами в рясе Иеромонаха.*
*Ох, не прав И. Окунцов,*
*Не признающий таких «мужиков».*

Цяпер самы час пазнаёміцца з адным з такіх мужыкоў.

Узімку 2010 г. я працаваў з чарговым архівам у Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы. Паперы належалі нейкаму расіяніну з хвалі белай эміграцыі, выпускніку імператарскага ліцэя, таму я хутчэй адрабляў паншчыну, механічна парадкуючы тэчкі,



ПАСПОРТНАЯ КНИЖКА

[redacted]

Выдана Малечскимъ волостнымъ Старшиной Гродненской губерніи Пружанскаго уезда. Тысяча девятьсотъ одиннадцатаго года Октября мѣсяца 26 дня кр. Гриневичскаго сельскаго общества д. Гриневичи Демьяну Емельяновичу Давидовичу

№

Цѣна книжки 25 копѣекъ.

*Пашпартная кніжка Д. Давідовіча. 1911 г.*

аж пакуль не выцягнуў скрутак папераў выразна іншага, як рэшта архіва, паходжання. Сярод іх у асобнай капэрце знайшоў «Паспортную книжку», выдадзеную *«Малечскимъ волостнымъ Старшиной Гродненской губерніи Пружанского уезда 1911 года октября месяца 26 дня»* на імя Дзям'яна Емяльянавіча Давідовіча, народжанага 5 лістапада 1889 г. У пашпарце адзначалася, што па роду заняткаў Давідовіч *«хлебопашецъ»*, веравызнанне — праваслаўны; замест асобных прыкметаў запісана *«грамотенъ»*.

Зразумела, адсунуўшы ўбок паперы белагвардзейца, заняўся вывучэннем скрутка. Знаходка і ўразіла, і здзівіла. Эмігрант-беларус, сапраўды, належаў да мужыцкай большасці, але маўклівым зусім не быў; у паперах знайшліся не толькі ягоная аўтабіяграфія, лісты — да сваякоў, да Ігара Сікорскага і яшчэ аднаго менеджара *Sikorsky Aero Engineering Corporation*, дзе працаваў Давідовіч (у Амерыцы ён змяніў сваё прозвішча на Давыдаў), ліст-зварот па дапамогу зняволенаму ў Беларусі брату, але і артыкулы: пра канфлікт з Барысавым, кіраўніком таварыства «Навука», сябрам якога быў наш мужык, пра Сікорскага, пра суд, які ледзь не скончыўся дэпартацыяй. Нараканні, што яго паўсюль успрымаюць як нявартаснага мужыка, паляка, і што ва ўсім вінаватыя габрэі.

Антысемітызм Давыдава-Давідовіча, магчыма, вывезены яшчэ з Беларусі, але надта ж паказальныя карэспандэнты нашага мужыка.

Адзін з іх — Іван Акунцоў (1874–1939), імя якога згадваецца ў цытаваным вышэй вершы. Сябра партыі эсэраў, прысуджаны ў 1905 г. да пажыццёвай катаргі, адкуль збег у ЗША. Тут заснаваў газету «Русский голос» (пазней перайменаваная

ў «Русское слово»), рэдагаваў «Новое Русское Слово». Пасля ягонай смерці была выдадзеная кніга «Русская эмиграция в Северной и Южной Америке» (Буэнос-Айрес, 1967), першая падобнага кшталту, але надзвычай суб'ектыўная і антысеміцкая. Трапляюцца ў ёй і цікавыя для нас месцы: *«Рядовой колонист Констанин Кляцко из Минской губернии, живущий в Сиу Сити, Айова, в 1929 году изобрел «автоматические ворота» для переезда на железных дорогах. Эти ворота, при проходе поезда, автоматически закрывают железнодорожный путь для пересекающих его. Изобретателю предложили 25000 долларов за это изобретение, но он запрашивал больше. Ему не дали, и Кляцко остался чернорабочим»*[377].

Другі карэспандэнт — асоба яшчэ больш адыёзная: граф Арцемій (Артур) Чэрап-Спірыдовіч (1868–1926), ідэолаг кансерватыўна-манархічнага панславізму, бізнесмен, выдавец і рэдактар часопіса «Спасем Россию. Орган всех искренне любящих Россию». Але вядомасць здабыў як галоўны кансультант — разам з юрыстам, пісьменнікам і грамадскім дзеячам Барысам Бразолем (1885–1963), імя якога таксама згадваецца ў лісце графа — амерыканскіх выдаўцоў «Сіёнскіх пратаколаў»: у 1921 г. таварыства «Русская самооборона» ў Нью-Ёрку выдала пратаколы пад назвай «Всемирный тайный заговор»[378].

Так ці інакш, але паперы Давыдава-Давідовіча даюць унікальную магчымасць зазірнуць у свет беларускага мужыка ў Амерыцы першай чвэрці XX стагоддзя. Тэксты друкуюцца не ўсе: «Вавилонское столпотворение», хоць і найбольшае па памеры, але праз сваю кампілятыўнасць уяўляе найменшую цікавасць. Зрэшты, мо і на яго прыйдзе час.

Аўтарскія правапіс і сінтаксіс, хоць і ўскладняюць чытанне, захаваныя.

*Моя дорога. 1911.*

*Родился я в бедной крестьянской семье деревни Гришевичи Гродненской губ. В одиннадцать лет я начал пасти овец, пас 2 года. В 14 лет уехал в Астраханскую губ.*

---

[377] Окунцов, Иван. Русская Эммиграция в Северной и Южной Америке. Буэнос-Айрес, 1967. С. 367.

[378] Всемiрный тайный заговор: Протоколы сiонских мудрецов: по Нилусу. Нью-Иорк, 1921. — 64 с.

*на земляные работы по проведению железной дороги. Работал тяжело, от восхода до заката гонил лошадей, и я должен был с гружать землю с грабарки*[379]*, на которой было 1/3 куб. сажена земли. В 15 лет служил в гор. Барановичах, кучером у одного богатого еврея Вольфсона. В 16 лет работал в Перемской губ. на ж. д. 6 месяцев работал в пекарне в помошниках. В вторую половину года на кухне помошником повара и т. д.*

*В 17 лет 1907 года приехал в Америку в Филадельфию на пароходе «Курск», и с тех пор началась моя тяжелая жизень. С первого моего приезда в Америку и первой моей работы была работа в шахтах W. Va.*[380]*. Работал там месяцев 6, а потом уехал в гор. Нью-Иорк, в Нью-Иорке работал за 25 сентов в неделю прасовал женские ковти. Еврей бос любил меня за мою работу, но не так за работу, как за то, что я дешево работал. В начале 8 года я начал странствоват по Америке, с Нью-Иорка отправилис нас партия в шахты Pa. стеит*[381]*, но там я проработал всево 2 дня, т. к. было невозможно работать при тех условиях, котори компанія ставила*[382]*. Да плус к тому уголь был очень низки 3 футы. Нужно было все время работат лежа в шахте*[383]*.*

---

379 **Грабарка** — воз, прызначаны для перавозу зямлі.

380 Маецца на ўвазе штат Заходняя Вірджынія (*West Virginia*).

381 Штат Пенсільванія (*Pennsylvania*).

382 Ён цалкам мог быць аўтарам допісу ў газету «Наша Ніва» за 15 снежня 1911 г. У нумар № 50 за подпісам Т. Г. было выдрукаванае наступнае: *«Прыехаўшы ў Амэрыку, куды мяне загнала доля, пачаў я разглядацца, шукаючы на чужыне сваіх землякоў-беларусаў. У самім горадзе Нью-Ёрку знайсьці іх ня так лёгка, бо найбольш пападаюць яны ў Пэнсыльванію на работы ў шахтах, падзямельных лёхах, каторымі людзі дабіраюцца да вялікага багацьця: каменнага вугалю. Тамака іх чакае непамерная праца, на каторую зыходзіць увесь іх час, трацяцца ўсе іх сілы. Гэтак усюды, яны досьвіткам туды ідуць, вяртаюцца на ноч, а сонца ня бачаць цэлымі тыднямі. Працуюць у шахтах па 12 г.».*

383 Параўнай: *«Русские в шахтах. Во всех каменноугольных шахтах Пеннсильвэнии и Вест Вирджинии большинство шахтеров — славяне: галичане, сербы, хорваты, поляки и русские. В Америке шахтеров выбирают, как солдат на военщину. Шахтер должен быть молодым, сильным, здоровым и смелым. Лентяев и ротозеев не берут. Все*

*И отправились мы пешком в двоем с товарищем Яшкой Валинской губ. Человек уже был пожилой, отслужил военную службу в России, и я думаю, с этим человеком я не пропаду нигде, т. к. я слыхал еще в России, что солдаты были очень храбрые люди, и он может достать и с огня и с воды, что ему нужно.*

*Мне было 18 лет, я не знал англиского язика кроеме yes, no, но надежда на Яшку меня обманула. Яшка был очень скромны, несметливи и трус, и мы странствовали по ж. д. Бог ее знаеть какой 3 месяца ноябр, декабр и январ. Одежда у нас была летная. Питались мы что находили на полотне ж. дороги. пасажири вибрасывают иногда хорошие сенвичи. Спали в лесу, разводили костер, когда были спички. Просит кушать и Яшка нехотел, и я нехотел, т. к. главна причина боялись, что незнали англиского язика. Через 3 месяца в конце января мы пришли в W. V. на старое мое место, где я работал с первого дня моего приезда в Америку. Тут были друзя знакоміе и они нас совершенно не узнали. Мы пришли в 8 часов ве [че] ра, так как боялись днем явится, чтобы не пугать людей, потому мы были совершенно чорными людьми, никто нас не мог признать за белых. Первим долгом нас помили, дали одежду и потом кушать, после этого мы отдохнули пару дней, и пошли работать в шахту. 2 недели мы не могли ни работать, ни кушать, т. к. желудок не мог работать, потом мало по малу мы пришли в себя и работали. Я работал до 1911 года, потом поехал в Россию для отбиванія воинской повинности. В солдати я не пошол, немножко по закону, а немножко против закону. Но в солдатах не служил. ~~В начале 12 года~~*

*Значит в солдаты непошол. Родители говорят нада сынок женится, а девки прямо роем ходят. Это было самое интересное время в моей жизни. В конце 11 и начале 12 года я женился. Пожил 2 недели с женой, поспорили с родителями и я бросил все и уехал в Канаду. При отправке меня на станцію для отезда в Канаду жена моя так плакала, что я и по сіе время не видал и не слыхал,*

---

*старшие проходят специальную школу».* У кн.: Окунцов, Иван. Русская Эммиграция в Северной и Южной Америке… С. 245.

*чтобы было подобне что нибудь. Ей было 21 год, так как и мне, но она была под влиянием своих родителей. Я ей говорил, если ты захочеш, я не уеду сейчас, все разорву, в одну минуту потеряю несколько рублей, и все. Но она не могла еще тогда пересилить влияние родителей и ничево мне не говорила, только плакала что было мочи. На Пасху 12 года я был уже в Sudburax Ont. Canada и гуляли вместе с земляками Пасху. С пустя неделю я стал работать на пивном заводе. Платили мне 3 дол. Но работа очень тяжела была, и я бросил и уехал в лес со шведами. Проводилас новая ж. д. Работал там 3 месяца и в лето стало сильно кусать мошка, так что работать и спать было невозможно.*

*Марта 2, 1925*
*941 Симсон стрит, Бронкс.*

*Дорогой и уважаемый всемы Русскими*
*Игорь Иванович*[384].

*После второго годичного собраніи Вашей корпорации. Я пришол к заключенію, что вы достойны имени великого человека. Но вы дорогой Игорь Иванович еще получите много-кратный плюс, если Вы по прежнему будете продолжать носить оверролиз и желтый жакет*[385]. *В Америке это означает, что в России кресты и медали.*

*Дальше предупреждаем Вас. Старайтесь по возможностий избегать всяких, прямых и косвенных связей с жидами. Т. К. за ними на протяжений всеи истории человчества числится очень много недостатков в социальной жизни. Вы знаете, что они пронырливыи, льстивые, угодливые, лицемерные. Они покоряют нас без боя, «отчасти» ленивых, зевающих, податливых, неустойчивых, легковерных. Окольними путими, всякими закаулками они пробираются к нашим со кровищам и овладевают ими.*

*А наша славянская стихия покорно отступает перед чарами их беса. Ох эти чары, тут подкуп, и разврат, и лесть, и порок, и лож, и гордыня, все чем силен наш*

[384] Сікорскі.

[385] Камбінезон *(overoles)* і жоўтая камізэлька — адзнака працоўнага ў Амерыцы.

*А кажны сам сабе ўладзіць сваё памешканьне паводля собскага жаданьня й магчымасьцяў»*[436].

Справа ладзілася, і ўжо праз год «Беларус» паведаміў, што манастыр набыты[437]. Ён быў высвечаны ўладыкам Васілём 12 лістапада.

Цяпер манастыру патрэбныя былі насельнікі і працаўнікі.

*«Вельмі паважаны Спадар Міцкевіч*[438].

*Чулі ўжо пра ладжаньне беларускага манастыра ў Пассайк павеце Нью-Джэрзі? Пры манастыры ўладжаны Дом Заслужаных, у разуменьні быццам падзелу манастыра на жыхарства беларускіх пэнсіянэраў.*

*Першыя заслужаныя змогуць пасяліцца ўжо ў палавіне наступнага месяца, напэўна, перад Калядамі. Таму зьвяртаюся да Вас з гэтым лістом: можа, зацікаўленыя быць першымі жыхарамі й дзеячамі Дому Заслужаных?*

*Рэч у тым, што пакуль уладзіцца шмат месца ды разбудуюцца магчымасьці, патрэбныя дзеячы, сталыя жыхары ў манастыры, якія дапамаглі б дагледзіць разбудовы, уладжаньня й наагул даць пачатак новай установе.*

*Таму запрашаю Вас не на гатовае, пражованае, толькі ў рот лажыць, але на жыцьцё й працу ўладжаваньня.*

*Ёсьць дом аграваны, і з водаправодам, і сьцёкам. Кухня сямейнага разьмеру, электра, газ. Ёсьць добры даезд вуліцаю, ды да вёскі густа заселенай ледзь цьверць мілі-кілямэтра.*

*Але трэба цяпер самому варыць, ці, лепш кажучы, па чарзе, калі захочацца быць на манастырскім агульным стале, разам ссыпаным у адзін гаршчок. Трэба самому засьцілаць сваю пасьцель ды прыбіраць пакой. Пэўне, па чарзе ці як будзе даглядаць панадворку, парку, возера й лесу ды будынкаў манастыру.*

---

[436] Беларус. № 114. Кастрычнік 1966. С. 6.

[437] Беларус. № 126. Кастрычнік 1967. С. 6.

[438] **Міхась Міцкевіч** (псеўданім Антось Галіна, 13.07.1897, в. Мікалаеўшчына (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 25.10.1991, Нью-Ёрк, ЗША), грамадскі і рэлігійны дзеяч, пісьменнік, педагог, наймалодшы брат Якуба Коласа.

*А яшчэ большай працаю для Вас можа быць рыхтаваньне царквы для пасьвячэньня, рыхтаваньне школы да распачацьця навукі ў чэрвені ды шмат іншых заняткаў ладжаньня манастыра, паводле Вашага асабістага выбару. Пэўне ж адзін усяго зрабіць ніхто ня можа, а Вас, заслужаных беларусаў, там можа памясьціцца выгадна на зіму ня менш 6 асобаў. Такведе можна зрабіць асобных выдзеленых пакояў у тым ацяпляным доме на зіму. Іншыя будынкі мусяць быць спраўджаныя, ці надаюцца на зімовае бытаваньне, дастаткова выгаднае.*

*Зьвяртаюся да Вас асабіста гэтым лістом таму, што знаю Вас як пра [д] прыемлівага беларуса й асобы якой можна верыць ня толькі маёмасьць, але й выкананьне працы. Хаця маю некалькі заяваў ахвотнікаў туды пераехаць, пасяліцца, але, на жаль, ня ўсе яны надзейныя на дзейнасьць і самаўтрыманьне. Набіраць жа сабе на шыю пятлю ці глядзець, як недалужныя морацца, не магу. Такіх манастыр можа мець улетку й на наступную зіму, калі ўжо ўсё будзе больш-менш уладжанае на добрае жыцьцё.*

*Вось чаму замест таго, каб Вы прасіліся перасяліцца ў Дом заслужаных манастыра — я прашу Вас. Таму што гэта пачатак і што трэба яшчэ ўладжваць ды дакладацца розумам і рукамі, каб гняздо зрабілася ўтульным і выгадным.*

*У Вас паўстане пытаньне: а колькі гэта будзе каштаваць? Для тых першых 6 за памешканьне ніякай платы, а толькі дар на царкву з разьліку, каб супольна маглі аплаціць электру, газ, мыцьцё хусьця, еміну й падобныя рэчы, за якія Вы сяньня плаціце з кішэні ў хаце, у якой жывеце, хаця яна можа быць Вашая собская.*

*Якую Вы будзеце мець з гэтага карысьць? А тое, што будзеце жыць у сваім асяродку суродзічаў. Што калі Вам што станецца, будзе каму пазваніць, паклікаць помач. Беларускі лекар амаль як на месцы ў манастыры. Кніжкі, часапісы, калёрная тэлевізія, можаце прывесьці сваё, калі ні ў кога ня будзе, дык тут Вам купіцца чаго ня будзе хапаць, каб «жыць стала лепш, жыць стала весялей».*

*Манастыр мае крыху мэблі, але зусім правільна можаце перавезьці ўсё, да чаго прывыклі ў сваёй хаце*

*даўжэйшага Вашага жыцьця. А перадусім просім, каб забіралі й прывозілі ўсё беларускае, хаця бы й старое, зношанае ці йнакш некарыснае, але памятковае.*

*Калі Вашая сям'я, сваякі ці прыяцелі захочуць Вас адведаць, змогуць гэта рабіць. Змогуць пераехаць да Вас жыць, калі ім гэта будзе выгадна. Адносіцца гэта перадусім да адзіночных асоб.*

*Спадзяюся, будуць магчымасьці зарабляць у самым манастыры. Ёсьць такжы магчымасьць, што ўладзіцца заработак такжа ў ваколіцы ў суседніх прадпрыемствах. Гэта, аднак, нельга прадбачыць, пакуль мы там не паселімся й не разгледзімся як трэба.*

*Ня шмат Вам абяцаю, але й не патрабую ад Вас грошай на куплю манастыра. Потым, як разгледзіцеся, як будзе будавацца галоўны будынак манастыра, захочаце — зможаце далажыцца паводле Вашага жаданьня без аніякага прымусу зь нічыйго боку.*

*Іншая рэч, што прыехаўшы вясною й пазьней, будуць мусялі прасіцца быць прынятымі й будуць плаціць за ўтрыманьне адпаведна як у іншых установах Амэрыкі. Вам ёсьць магчымасьць папасьці раней і гэтым самым прыслужыцца іншым, а й сабе.*

*Калі маеце якія пытаньні — усё, што ведаю, перадам Вам.*

*Калі намервайцеся скарыстаць з гэтых маіх запросін — не загайце з напісаньнем. Маецца толькі 6 добрых пакояў, затым для шасьці асабнячных асоб. Мне будзе цяжка адкінуць кагось з раней падаўшых заяву ды прыняць Вас. Як бы ні было, але мусім трымацца «дэмакрыцый», і я не хацеў бы рабіць сабе ворагаў. Таму, калі ласка, надумвайцеся хутка. Папярэдні ўласьнік манастыра мае выехаць 15 лістапада. Разьлічаю, што прыблізна ў тым часе зможаце пераехаць.*

*Дзе гэта ёсьць? 45 міль ад Нью-Ёрку, ля 30 ад Пасайку-Патарсону, у лясной-вазёрнай, гарыстай ваколіцы. Можна даехаць аўтабусам, але непатрабавацiме, таму што будзеце мець манастырскі самаход ды ўсё патрэбнае да жыцьця ў манастыры.*

*Калі любіце сядзець з вудачкаю над возерам, зможаце гэта рабіць аж пакуль Вам не абрыдне. Любіце праца-*

*ваць у вагародзе? Ля 10 акраў — 3 гектараў, будзе дзе размахнуцца. Лесу тут хапае, вады й каменьня. Не такія, як на Беларусі, але бярэзіны якраз тыя самыя.*

*Яшчэ раз пішу, запрашаю Вас на работу, на ўладжваньне сабе й іншым зацішнага кута на старасьць. І будзе лепш для ўсіх, калі ня будзем патрабаваць бяз Вас абыходзіцца.*

*Дык чакаем Вашага ліста й Дай Божа Вам усяго найлепшага. Ваш ВВВ»*[439].

Лістападаўскі «Беларус» не толькі звяртаўся да грамады ў пошуках працаўнікоў, але і абвяшчаў пра заснаванне Беларускай народнай кніжні, галоўным гаспадаром якой называўся Юрка Віцьбіч, і нават прызначалася дата яе адкрыцця — 1 чэрвеня 1968 г.[440].

Войтанка забягаў наперад. Юрка Віцьбіч адказаў даволі рэзкім з'едлівым лістом — мала таго, што сам ён не меркаваў пераязджаць — да ўласнай бібліятэкі ставіўся вельмі раўніва і дзяліць яе ні з кім не хацеў. Да таго ж, пісаў ён, справа жыцця манастыра выглядае вельмі сумнеўна.

На гэта Войтанка пісаў, спрабуючы вытлумачыць прычыны паразы ідэі пабудовы манастыра:

*«14 лістапада 1968 г.*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Юрка Віцьбіч.*

*[...] Што да Міру, тут у Вас можа не зусім простае думаньне, што, можа, я загневаўся. Не, я не спадзяваўся запрагаць Вас у бібліятэкара, але думаў, што з Вашым пераездам туды знайду больш людзей, якія зацікавіліся б добрым жыцьцём тут. На жаль, Вы былі ў праўдзе, Вы зналі нашых людзей лепш ад мяне. Аказалася, што ніхто не цікавіцца ані бібліятэкаю, ані манастыром, ані нават лецішчам для дзяцей, а вельмі мала хто й адпачынкам, там, дзе няма дзе гуляць і наагул басячыцца. Гэты год паказаў, што амэрыканскія беларусы яшчэ далёка, каб быць палітычнай эміграцыяй, як гэта любяць сябе называць. Гэта эканамічная эміграцыя людзей, што хочуць быць мільянэрамі: «добра есьці, добра спаць, а на рэшту наплюваць». Гэта дэвіз, мотта й лёзунг новых*

[439] Ліст да Міхася Міцкевіча ад 07.10.1967.
[440] Беларус. № 127. Лістапад 1967. С. 6.

*беларускіх эмігрантаў. Нават Белэр-Менск і той ня можа ўтрымацца дзеля якраз гэтай абыякавасьці да ўсяго беларускага. [...] Яшчэ адно лета буду трымаць Мір, хаця мне гэта каштуе з мае собскае кішэні 5000 даляраў у год, і пагляджу, як далей будзе. А як не, прыйдзецца прадаць».*

Кнігі для Войтанкі значылі шмат — нездарма, відаць, Вітаўт Тумаш параўноўваў яго з Скарынам[441]. Ён і сам напісаў няма-ла: «Воды Беларусі. Гаспадарчы нарыс магчымасьцяў асваеньня водных багацьцяў Беларусі», «Сялянства і землеробства Беларусі», «Грамадзкая думка нашай царквы»[442], «Ваенная гісторыя Беларусі», «20 гадоў БАПЦ: 1948–1968»[443]. Выдрукаваў праваслаўны малітоўнік; заснаваў часопіс «Змагар»[444], зазначыўшы ў першым нумары: «*"Змагар" ёсьць часапіс змаганьня, а не хлапцоўскі аб дзяўчатах ці жаночы аб кудзелі. [...] Часалік пачынаецца ад 25 Сакавіка. Гэта 53 год Сакавіка»*[445].

Адзін з ініцыятараў I Сабору БАПЦ у Нямеччыне (20–21.12.1949), ён багата высілкаў укладаў у арганізацыю II Сабору. I сабор адбыўся — праз месяц пасля смерці Віктара Войтанкі (27–29.05.1972).

Ідэя памяці, ідэя ўшанавання — скразная ў ягоных справах. Менавіта яна падштурхнула Віктара Войтанку на падтрыманне ідэі Юркі Віцьбіча ў справе арганізацыі пабудовы помніка «50-годдзю»:

*«Паважаныя Браты.*

*Справа пабудовы помніка ня ёсьць простая, як бліны пячы. Таму разумна пішаце: сьпярша разгледзіць, што й да чаго.*

---

[441] Беларус. № 187. Лістапад 1972. С. 4.

[442] Пад псеўданімам Амсьціслаў Гарыгляд.

[443] З ліста Вітаўта Тумаша да Язэпа Малецкага ад 27.04.1972: *«Як справа пісаньня мэмуараў важная прыгадвае, тымчасам, само жыцьцё. Два дні таму раптоўна, ад атаку сэрца, памёр адзін зь дзеячоў Баранавічаў у часе апошняе вайны, Ваш добры знаёмы, доктар Віктар Войтанка. Ня думаю, каб ён пісаў нейкія ўспаміны. Разам зь ім у магілу адышло й шмат з тых фактаў гісторыі, пра якія ведаў толькі ён. Галоўная прычына перадчаснай сьмерці — у веку 58 гадоў — перапрацаваньне. Браўся, шчыра, за ўсё, сэрца ня вытрымала»* (Архіў БІНіМу).

[444] **Змагар.** Часапіс беларускіх змагароў. Byelorussian Veteran's periodical. Highland Park, N. J. Byelorussian Veterans Association. Выйшла 57 нумароў (1971–1972).

[445] Змагар. № 1 (53). С. 2.

*Памятнікі будуюцца ў сучаснасьці жывымі людзьмі па памёршых людзях ды для жывых людзей. А не як гэта будавалі Агіпцыяне: жывыя людзі для памёршых. Таму іхнія піраміды й сьфінксы ставіліся ў пустыні, куды людзі не заходзілі й не трывожылі памёршых. Сяньнё памятнікі ставяцца ў местах і на магілах, дзе шмат хто ходзіць, аглядае, вучыцца й папраўляе сваё жыцьцё, каб заслужыць на памятнік ды ўспамін па сьмерці.*

*Памятаеце песьню: памёршым не патрэбныя званы, але патрэбны ўспамін! Успамін жа атрымоўваецца, калі людзі чытаюць на памятніку, бачаць памятнік і задумваюцца аб і пра памёршага. Задумваюцца й стараюцца так рабіць, каб і іх паміналі, каб і ім ставілі памятнікі. Ды й зноў не для іх, але дзеля памяці па іх.*

*Таму наш памятнік мусіць стаць у відным і часта наведваным празь беларусаў месцы. Такім месцам ёсьць магільнік. І падбор месца затым добры.*

*Памятнік мусіць узьдзейваць на людзей. А ўзьдзейваць можна прыгаством веліччу, а то й дражненьнем ды ашуканствам, як той лябірынт на Крыце. Прыгаство — не такая лёгкая рэч сёньня стварыць, калі людзі бачаць шмат рэчаў даўно й цяпер збудаваных. Таму трэба думаць аб велічы. Каб было прыгожае й велічнае, а то й проста вялікае. Трэба думаць аб адумыснай будове, каб і адумыснасьцю будовы памятнік рухаў людзей думаць, пакідаў незабыўную памяць.*

*Ёсьць рэчы незабыўныя й танныя. Але хто з Вас такое нешта выдумае? Тагды як бальшыня разумее пад выдатнай рэччу толькі рэч дарагую ў тых жа далярах. А затым, Браты, такі трэба будаваць памятнік велічны й багата-дарагі. Безумоўна, калі хочацця памінаць Вашых выдатных заслужаных.*

*Заслужаным ёсьць той, хто сваім жыцьцём прынёс карысьць Народу, людзям свайго народу, свайго племя, свае сям'і. Гутарка аб заслужаных, тых, што памерлі дзеля Бацькаўшчыны ўжо тысячагодзьдзямі, закінутая як няправільная. Соладка загінуць за Бацькаўшчыну, але яшчэ большая заслуга жыць добра для яе. Таму што з забітага за Бацькаўшчыну ня шмат карысьці для народу, але шмат карысьці з тога, хто жыве й дзее для народу.*

*Якая была бы карысьць для беларускага народу, калі б, скажам, Юрка Віцьбіч пайшоў тагды ў барацьбіты й згінуў разам на кучу з тымі волатамі ў Вяліжы? Ён быў бы героем, якімі ўся нашая зямля ўсыпаная ад часоў тога незабыўнага Барыса з племя Барысаў, што жылі перад славянамі на рацэ Барысьцене-Дняпры, ды да сяньняшніх маладых хлапцоў, пасланых Рагуляю й Астроўскім у БССР на немінучую гібель.*

*Не, Браты, заслуга яшчэ большая зарабляць вялікія даляры й яшчэ больш даваць іх на нашую народную справу»*[446].

Ідэя Віктара Войтанкі палягала ў пабудове кургана-маўзалея ды стварэнні беларускага нацыянальнага некропаля.

Помнік у Саўт-Рыверы быў высвечаны 22 чэрвеня 1974 г., троху больш як праз два гады па смерці Віктара Войтанкі. І па сёння стаіць на кургане крыж з надпісам: *«Слава змагарам за вольную Беларусь»*…

Эпітафія здаўна стаяла побач з біяграфіяй, уяўлялася як бы яе квінтэнсэнцыяй. Гэтак, напрыклад, на рымскіх могілках першых стагоддзяў нашай эры змяшчалі надпіс, дзе называлася імя нябожчыка, ягоны сямейны статус, часам — пасада ці прафесія, узрост, час смерці. Калі-нікалі побач меўся і партрэт нябожчыка. Адным словам, «перажыць» смерць значыла не толькі забяспечыць сябе ў эсхаталагічным плане, але і захаваць па сабе памяць на зямлі, ці ў выглядзе магілы з надпісам або знакам, ці ў выглядзе слова пра сябе[447]. Слова не абавязкова ўхвальнага, але — пра самае важнае з урэчаісненага, слова-ідэнтыфікацыю: сябе для нашчадкаў.

На магіле Віктара Войтанкі выбітыя словы:

*«Войтанка Віктар, сьвятар*[448]*, доктар мэдыцыны, будаўнік Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, працаўнік і змагар за Бацькаўшчыну.*

*6. XI.1912 у Мачульні, Навааградчына — 25. IV.1972.*

---

[446] Ліст да Юркі Віцьбіча і Васіля Стомы ад 09.01.1968.

[447] Арьес, Ф. Человек перед лицом смерти. Москва, 1992. С. 191–192.

[448] Віктар Войтанка быў высвечаны 15 чэрвеня 1969 г., а 20 ліпеня 1969 г. ён адслужыў першую беларускамоўную службу ў саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.




*Магіла Віктара Войтанкі*

*Служыць, служыць жадаў народу,*
*Сваім закаваным братом…*
*І сіл ня стала зь непагодай*
*Вясьці вайну, вясьці з жыцьцём.*
*Час, як крыніца, ідзе, не марудзе…*
*Кіне стары дзень жыцьцём кіраваць,*
*Новы дзень прыйдзе, і новыя людзі*
*Будуць пачатую думку снаваць»*[449].

Эпітафія — яна як біяграфія, яе макрагісторыя.

[449] Словы Янкі Купалы.

# ЖЫЦЦЯПІС СЯРГЕЯ МАЛЕВІЧА Ў ЛІСТАВАННІ ЭМІГРАНТАЎ[450]

Звычайна ў такіх выпадках пішуць: у энцыклапедычных даведніках пра яго звестак няма. Завочныя роспыты этнографаў плёну таксама не далі.

Не было, відаць, ніякай біяграфічнай інфармацыі і ў Вітаўта Тумаша, калі ён распачынаў свае ўласныя пошукі. Адпраўным пунктам яму, цалкам магчыма, паслужыла публікацыя М. Каспяровіча «Матэрыялы да вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва» («Маладняк». 1927. № 6. С. 64), дзе гаворыцца, што мастак Казімір Малевіч, заснавальнік і тэарэтык асобнай плыні ў мастацтве — «супэрматызму», *«паходзіць з с. Малева Менскай ці Віцебскай г.»*.

Згадка пра вёску Малева і вызначыла патрэбнага карэспандэнта.

Тут самы час прадставіць эпісталярных суразмоўнікаў, пра лёс якіх вядома значна больш.

Адзін з іх — добра вядомы Вітаўт Тумаш, старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку (1955–1982).

Другі, Алесь Вініцкі, нарадзіўся 26 снежня 1891 г. у вёсцы Малева. Па заканчэнні Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі выкладаў у школе. Падчас Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны, па заканчэнні Іркуцкага ваеннага вучылішча ваяваў. Скончыў вайну капітанам. У міжваенны час і ў часе Другой сусветнай вайны працаваў па фаху — настаўнікам. Потым — эміграцыя, лагеры *DP*. У 1956 г. прыехаў у Амерыку, працаваў на заводах. Па выхадзе на пенсію пачаў пісаць гісторыю эміграцыі. Памёр 24 лістапада 1972 г. у Лос-Анджэлесе.

[450] Тэкст упершыню быў надрукаваны ў: Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. Мінск, 2010. С. 146–150.

Галоўная праца Алеся Вініцкага (але не адзіная — у лонданскай бібліятэцы імя Скарыны захоўваецца машынапісная копія «Гісторыя беларускага скаўтынгу») — «Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох» (Лос-Анджэлес, 1968)[451] — была няўцямна перадрукаваная ў Беларусі адно першаю часткаю[452]. Нямала да напісання гэтай працы сваімі ўспамінамі, у кнізе — ананімнымі, прыклаўся і Вітаўт Тумаш[453].

---

[451] З ліста Вітаўта Тумаша да Алеся Вініцкага ад 09.05.1972: *«Гэта, бясспрэчна, вельмі каштоўная праца Нестараватага «летапіснага» характару, дакумэнтаванае адлюстраваньне з гадоў пачаткаў нашае новае эміграцыі, яе дзейнасьці, турботаў і лёсу. [...] Праца Вашая вельмі багатая канкрэтным матар'ялам, памерамі вялікая (здаецца разам каля 600 машынопісных бачынаў). Хоць тымчасам яе толькі пераглядаў і прачытаў толькі некаторыя бачыны, ды бачу, што яна грунтоўная, дадаць можна ня шмат, сям-там толькі неахопленыя нейкія драбніцы — бо хто-ж і калі можа знайсьці ўсё, што сяньня раськідана па ўсім сьвеце?».* (Архіў БІНіМу).

[452] Вініцкі, Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадох. Мінск, 1994. — 231 с.

[453] З ліста Вітаўта Тумаша да Алеся Вініцкага ад 27.11.1968: *«Калі пару разоў дасылаў Вам розныя матар'ялы ды інфармацыі да Вашае працы пра беларускую эміграцыю, дык разумеў гэта толькі як дапамогу Вам у Вашай каштоўнай працы, але ня тое, што маю быць нейкім суаўтарам. Дзеля гэтага й пісаныя былі гэтыя «ведамкі» без аніякае апрацоўкі, проста заклаўшы ліст паперы ў машынку, з тым, што Вы як аўтар працы выкарыстаеце тое, што Вам патрэбна й ня ведама, а рэшта адпадзе. З апошняга ліста бачу, што ў Вас ёсьць намер памяшчаць дасланае «ін экстэнзо», дослоўна, і навет хочаце, каб пад напісаным матар'ялам былі прозьвішчы ці хоць бы мянюшкі. Выглядала-б, што Вы толькі складаеце й рэдагуеце дасланае іншымі, а не перапрацоўваеце на свой лад у нешта адно цэлае. Зразумела, можна рабіць гэтак і гэтак, кожны аўтар выбірае сабе мэтад апрацаваньня тэмы. Я аднак-жа з другім спосабам зусім ня лічыўся, калі пісаў Вам свае «ведамкі», дзеля гэтага нічога не падпісваў, тымбольш, што некаторыя рэчы вымагалі-б яшчэ й праверкі — памяць не заўсёды верны сьветка. Дзеля гэтага й прашу насланыя мною інфармацыі трактаваць толькі як дапамогу фактамі, але ніяк не артыкулы нейкага супрацоўніка і ніякага ані прозьвішча, ані мянюшкі, ані ініцыялаў ці крыптонімаў пад імі не ставіць. З дасланага няхай аўтар кнігі выбірае тое, што яму патрэбна, ды памяшчае, а можа і ўсё адкінуць, але не трактаваць іх як нейкія гатовыя артыкулы да друку. Гэтак я разумеў, калі пасылаў Вам прошаныя інфармацыі, гэтага трымаюся й цяпер, і прашу ніякіх матар'ялаў з маім прозьвішчам у кнігу ня пускаць»* (Архіў БІНіМу).

Выдрукаваныя ніжэй лісты нагадваюць матрошку: у рэканструкцыі біяграфіі Сяргея Малевіча — дэталі жыцця Алеся Вініцкага, а там — і звесткі пра невядомую нам Лідзію Філатаву.

Але кім жа быў гэты Сяргей Малевіч, чым менавіта зацікавіў дырэктара Інстытута?

Пра тое — у лістах амерыканскіх беларусаў, якія захоўваюцца ў архіве БІНіМу і публікуюцца з захаваннем моўных і арфаграфічных асаблівасцей.

*«15.1.1968 г.*
*Нью Ёрк*

*Вельмі паважаны Спадар Вініцкі!*

*Калісьці я даставаў ад Вас лісты з запытамі пра розныя пытаньні з гісторыі беларускае эміграцыі, цяпер маю адно цікавячае мяне пытаньне да Вас з крыху ранейшае гісторыі.*

*Прыпадкам даведаўся, што Вы родам ці з самога Малева, ці нейдзе недалёка ад Малева. У сувязі з гэтым і маё пытаньне. У 1907 г. у Пецярбургу ў выданьні Імпэратарскай Акадэміі Навук вышла кніжка С. Малевіча «Белорусские песни»*[454]*. Гэта запіс беларускіх народных песьняў і словаў з Малева і колькі суседніх вёсак, кніжка важна навукова апрацаваная, на бачынаў звыш 200. Ці Вам прыпадкам нешта можа ведама пра гэтага С. Малевіча, хто ён, скуль ён і ці ня з суседняга ад Малева вёскі маёнтку Малева?*

*Другая, зьвязаная з гэтым справа, датычыць Казіміра Сэвэрынавіча Малевіча, выдатнага мастака, аднаго з творцаў т. зв. абстрактнае плыні мадэрнага мастацтва, які паходзіў зь Беларусі. Яго значэньне для гісторыі разьвіцьця абстрактнага мастацтва паважнае і агульна на сьвеце прызнанае. Дакладнае месца нараджэньня Казіміра Сэвэрынавіча Малевіча пакульшто няведамае*[455]*.*

[454] Малевич, Сергей. Белорусские народные песни. Сборник Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. Т. 82. СПБ: Типография Императорской Академии Наук, 1907. — 194 с.

[455] Казімір Малевіч нарадзіўся ў Кіеве або ў яго ваколіцах.

*У мяне паўстае пытаньне, ці Казімір Сэвэрынавіч Малевіч ня будзе часам сынам «С. Малевіча», аўтара вышэй названае кніжкі? Падцьверджаньне гэтага дапушчэньня ўстанавіла-б дакладней і месца паходжаньня мастака Казіміра Малевіча, нейкі час прафэсара Віцебскае мастацкае школы*[456].

*Калі-б у Вас былі ў гэтай справе нейкія весткі, дадзеныя ці хоць-бы меркаваньні, буду за іх удзячны.*

*У глыбокай пашане*

*Ваш Вітаўт Тумаш*

*20.1.1968 г.*

*Лос Анжэлос*

*Высокапаважаны Спадар Доктар!*

*Гэтым перасылаю Вам ведамыя мне весткі аб С. Малевічу.*

*Аўтар зборніка «Белорусскіе песні» Сяргей Малевіч, сын айца Аляксандра Малевіча, сьвятара Праваслаўнай Царквы ў вёсцы Малева Ланьскай воласьці Слуцкага павету Меншчыны, нарадзіўся прыблізна ў 1880 годзе.*

*Па сканчэньні Клясычнай Гімназіі ў Слуцку, Сяргей Малевіч запісаўся на вышэйшыя студыі ў Сан-Пецярбурскім Імпэратарскім Унівэрсытэце на Гісторыка-Філёлёгічным факультэце, які й скончыў прыблізна ў 1902–1903 г. Апрача ўнівэрсытэту, паводля ягоных словаў, скончыў ён і Археалёгічны Інстытут там-жа ў Пецярбургу.*

*Будучы студэнтам, летнія вакацыі С. А. праводзіў у вёсцы Малева. Часта яго наведваў, магчыма, таксама студэнт, Чудоўскі са Случчыны ці з самога Слуцку.*

*Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэцкіх студыяў, Сяргей Малевіч працаваў настаўнікам гімназіі ў г. Рэвеле —*

[456] Цікава, што жаданне павязаць Казіміра Малевіча з Беларуссю праз сваяцтва з аўтарам «Белорусских народных песень» карцела не аднаму Вітаўту Тумашу. Адам Мальдзіс у «Голасе Радзімы» (№ 27, 19 ліпеня 2007 г.) паведаміў: фальклnetwork Арсень Ліс устанавіў, што бацька мастака, Севярын Малевіч, цікавіўся народнай творчасцю і ў 1907 г. апублікаваў у «Вестях Императорской Российской Академии наук» збор беларускіх песень, запісаных на Капыльшчыне. Як сведчыць выдрукаванае тут ліставанне, гэта не адпавядае праўдзе.

*сяньнешняй сталіцы Эстоніі, а пазьней быў пераведзены на становішча Інспэктара Клясаў у Гімназіі ў С.-Пецярбурзе. У часе майго пабыту ў ужо пераіменаваным Петраградзе, у сьнежні 1916 г., я наведаў Сяргея Малевіча на ягонай кватэры, магчыма, пры Гімназіі, на «Большом Проспекте».*

*Пасьля рэвалюцыі, ратуючыся ад галоднай сьмерці, Сяргей Малевіч з Петраграду ў 1919 г. пераехаў у вёску Малева, але не застаў ужо свайго бацьку жывым. Пражыўшы два гады ў Малеве, пераехаў ён у г. Нясьвіж. Там цяжкаю фізычнаю працаю зарабляў колькі мог на пражыцьцё свае сям'і, якая складалася з чатырох асобаў — бацькі, дачка й сын. Але гэтая праца трывала толькі некалькі месяцаў. Пачалі працу гарадзкія школы, і Сяргей Малевіч быў запрошаны на працу настаўніка ў мясцовай Расейскай гімназіі.*

*У 1923 г. С. Малевіч з сям'ёй пераехаў у Кракаў. Паводля чутак, ён там меў працу пры ўнівэрсытэце.*

*Запіс беларускіх песьняў для вышэйназванага зборніка быў зроблены ім у часе зімовых (Калядных) вакацый у Малеве ў 1902 ці 1903 г. Прыехаў С. А. да бацькі ўжо жанаты на жыдоўцы. У пэўным часе заклікаў ён на кватэру старэйшых вучняў мясцовай царкоўна-прыхадзкой школы, у тым ліку быў і я. Даў нам С. А. сшыткі і алавікі, пры гэтым расказаў, як трэба запісваць ад бацькоў песьні й казкі.*

*Кажны вучань, запісаўшы песьнямі ўвесь сшыток, прыносіў яго С. А., атрымліваў за працу 5 капеек і новы сшытак для далейшага запісу. «Лазара» запісаў ён сам са словаў калекі-жабрака, які сядзеў на возе, а зімою на санках з голаю галавою і сьпяваў свае жабрачыя духоўныя песьні, у тым ліку й «Лазара», падыгрываючы сабе самому на старэнькай леры*[457]*.*

*Алесь Вініцкі.*

[457] Малевич, Сяргей. Белорусский нищенский «Лазарь» // Живая старина. Вып. 2. СПб, 1906.

*[н. д.]*

*Высокапаважаны Спадар Доктар!*

*Перасылаю Вам кароткія весткі аб Сяргею Малевічу. Дакладна аб ягоным жыцьці й працы ў Кракаве я нічога ня ведаю. Учора, 19.1, на Вадохрышча, я езьдзіў у расейскую царкву з мэтаю сустрэць там сына пазьнейшага папа ў Малеве — В. Смоліча, які павінен ведаць аб жыцьці Сяргея Малевіча ў Кракаве. На вялікі жаль, у царкву Смоліч не прыехаў, таму наша сустрэча не адбылася. Напішу яму й папрашу ў яго далейшых інфармацыяў аб С. А., па атрыманьні якіх зараз-жа перашлю іх Вам.*

*Што датычыцца Казіміра Сэвэрынавіча Малевіча, дык ён з Сяргеем Малевічам ня мае нічога супольнага. Ужо самыя імёны кажуць, што Сяргей праваслаўны, а Казімір каталік, а да гэтага сын Сяргея ў 1923 годзе меў 10–12 гадоў, а калі й скончыў школы, дык толькі ў Польшчы, дый імя гэтага хлопца было іншае (не памятаю добра, але называлі неяк сьмешна). Прозьвішчы «Малевіч» у нас было даволі пашыранае. Напрыклад у тым самым часе, як запісвалі мы песьні для Сяргея Малевіча, настаўніцаю ў нашай школе была Вера Малевіч, якая неміласэрдна цягала нас за вушы й шлёпала з размаху даланёй па твары ды й так, аж іскры сыпаліся ў ваччу. Яна ня мела ніякага сваяцтва з папом Малевічам.*

*[…]*

*Алесь Вініцкі*

*11.2.1968 г.*
*Лос Анжэлос*

*Высокапаважаны Спадар Доктар!*

*[…]*

*Ад сп. Смоліча ніякіх вестак аб Сяргею Малевічу не атрымаў з тае прычыны, што ён нічога аб ім ня ведае. Сустракаў ён у Вільні дочку С. Малевіча, якая працавала асыстэнткай пры ўнівэрсытэце.*

*У мяне ёсьць знаёмая старэнькая жанчына з суседняга фальварку. Жыве яна цяпер, пасьля павароту з высылкі, у Польшчы ў свайго зяця д-ра Крашэўскага. У тых далёкіх часох яна з маткаю часта бывала ў а. Малевіча, таму павінна добра ведаць аб іх, а ў 20-х гадох яна так-*

*сама жыла ў Нясьвіжы й магчыма сустракалася з Сяргеем Малевічам. Бяручы гэта пад увагу, пару тыдняў таму я напісаў да яе ліст з просьбаю напісаць аб Сяргею Малевічу ўсё, што ёй ведама. Па атрыманьні ад яе ліста напішу Вам аб выніку мае просьбы.*

*[...]*

*З глыбокай пашанай да Вас*

*Алесь Вініцкі.*

*21.2.68 г.*
*Los Angeles*

*Высока Паважаны Спадар Доктар!*

*Пры гэтым перасылаю весткі да жыцьцяпісу Сп. С. Малевіча, напісаныя Сп. Лідаю Філіпавай. Бацькі яе — Паржэцкія, мелі хвальбарак пры вёсцы Аліхоўка (па-расейску Ольховка) прыблізна адзін клм. ад в. Малева.*

*Я хацеў пераслаць Вам лісток, напісаны Лідзіяй Феліксаўнай, але на ім няма яе падпісу. Што да настаўніцкіх курсаў у Кракаве (здаецца, у Lobzowie pod Krakowem), то патрэбных Вам інфармацыяў можа даць сп. Філарэт Родзька*[458]*, які на гэтых курсах, здаецца, быў. Вось ягоны адрас: F. Rodzko, 40 Deerfield Road, Somerset, NJ, 08873.*

*Перапісаў я дакладна і па-расейску з ліста Л. Ф., а Вы можаце скарыстаць з тых вестак, якія Вам патрэбныя. Сардэчна Вітаю Вас і Вашую сямейку й жадаю ўсяго найлепшага.*

*З глыбокай пашанай А. Вініцкі.*

*12.2.1968 г.*
*м. Дрэздэнко, Польша*

*Да жыцьцяпісу Сп. Сяргея Аляксандравіча Малевіча.*

*«Ваші сведенія о Сергее Александровіче почті точные. Добавлю к нім, что знаю. Родílся он пріблізітельно в 1877 іли 1879 году. В всяком случае знаю, что он был много старше меня — лет на 7 іли 9 (я роділась в конце 1886 г.).*

---

[458] **Філарэт Родзька** (27.01.1890, Навагрaдчына — 05.03.1977, Нью-Джэрсі, ЗША), беларускі дзеяч, у 1919–1920 гг. удзельнік вайсковых фармаванняў С. Булак-Балаховіча.

*Ученіе он начал в Мінске, но после какой-то неудачі он перевелся в Слуцк. Окончіл Слуцкую гімназію в 1890 г. По случаю перехода із одной гімназіі в другую он, кажется, потерял одін год, а потому прі окончаніі был довольно веліковозрастным, может, і прі поступленіі был старше другіх. О его возрасте говоріт і тот факт, что на первом, кажется, курсе універсітета он женілся. Жена его — Петербургская еврейка.*

*Детей імелі двое: дочь Антоніна і сын Дуда (настоящего імені не знаю). В 1922 г. Сергей Александровіч учілся в Кракове на двухлетніх (еслі не трехлетніх) курсах, которые былі организованы для подготовкі учітелей польскіх школ с преподаваніем на польском языке. На этіх курсах былі одновременно с мужем моей сестры Мані.*

*По окончаніі этіх курсов он как старый філолог с высшім образованіем преподавал в Краковском універсітете русскій язык.*

*Как відно, то в молодості он пробовал свої сілы в поэзіі. На каком-то патріотіческом юбілее в гімназіі чіталі его проізведенія — оду (еслі так можно назвать) в честь одного із деятелей. Носіла она характер патріотіческій по духу того времені.*

*Будучі студентом, он от этого стіхотворенія отказывался, как от содержанія, так і от формы стіхосложенія. Однажды в одолженной мною от него кнігі для чтенія, я нашла лісток, запісанный стіхамі. Вот его начало:*

*Мне чудятся в сумраке ночі*
*Знакомой усадьбы Ольховкі*
*Весёлые каріе очі*
*Какой то головкі…*

*Дальше не помню.*

*В то время в Ольховке гостіло много молодежі, а потому каждая із Ольховскіх девіц могла прінять это стіхотвореніе на свой адрес.*

*Я помню, как он собірал белорусскіе песні, даже некоторые он запісал со слов сестры Мані. Дочь Антоніна одно время (перед войной) была сотрудніцей радіо в Вільне*

*(конфэрансье). О годе смерті Сергея не знаю, но умер он, кажется, в Кракове. Сын, кажется, был офіцером.*

*Я Сергея віделa в 1922 і 23 г. г. в Ольховке і в Несвіже. Проізвел на меня непріятное впечатленіе. Обьясняю это тем, что состоятельные люді, попадая в нужду, не умеют её мужественно переносіть.*

*Лідія Феліксовна Філатова».*

# ВІТАЎТ ТУМАШ ЯК БІЁГРАФ СУЧАСНІКАЎ

Постаць Вітаўта Тумаша, якой яна паўстае з вядомых нам дакументаў ды ягоных выдрукаваных працаў, падзіўляе сваёй нетыповасцю што да старэйшых векам паваенных эмігрантаў: засяроджанасць на навуковай працы, кнігах[459], падкрэсленае пазбяганне ўдзелу ў палітычных і царкоўных закалотах.

---

[459] Цікава, што Тумаш меў нават патрэбу навукова дыстанцыяваць розныя катэгорыі чытачоў, дзеля чаго напісаў кшталту артыкула для тлумачальнага слоўніка:

«ЧЫТАЧ — той, што чытаючы, сам успрыймае зьмест напісанага, ці скарэй — друкаванага (читатель, czytelnik, reader, Leser). Чытач, гэта консумэнт зьместу кнігаў, часапісаў, гэта беспасярэдні ўспрыйманьнік твораў пісьменьнікаў. Чытач звычайна чытае безгалосна, успрыймае друкаванае толькі вачмі, без карыстаньня голасу. Слова ‘чытач’ зарадзілася ў вядучай нашай нацыянальнай інтэлігенцыі, хіба зарадзілася толькі тады, як паявіліся свае газэты й кнігі, якія й стварылі круг сваіх чытачоў, падпісчыкаў газэт, ды й пакупцоў кніжак. Пісьменьнікі таксама маюць сваіх «чытачоў», якія любяць чытаць іхныя перадусім творы.

ЧЫТАНЬНІК — гэта кажны ўмеючы чытаць, той, што здольны горш ці лепш спаўняць чыннасьць ‘чытаньня’. Малавучаны, той, што мала чытае, які слаба тэхнічна апанаваў тэхніку чытаньня, слабы чытаньнік. Яму чытаньне цяжка даецца. Добры чытаньнік той, што чытае лёгка, хутка й бяз труду разумее прачытанае. Можна пра некага сказаць: «Добры чытаньнік! За дзень цэлую кнігу прачытаў». Дык паймо ‘чытаньнік’ азначае асобу, выконваючую чыннасьць чытаньня, без ніякога зьвязваньня гэтага факту з тым, ці ёсьць адначасна нейкім кансумэнтам-адбіральнікам друкаванай кніжнай ці газэтнай прадукцыі, ці ён ёсьць ‘чытачом’. Розная гэнэза словаў ‘чытач’ і ‘чытаньнік’.

ЧЫТАР — а. Гэта той, што выконвае чыннасьць чытаньня як сталае ці часовае заданьне, або нават прафэсію. У адваротнасьць ‘чытачу’, ‘чытар’ чытае не для сябе ці найменш для сябе, а іншым. Таму ‘чытар’ чытае толькі галасна, і таму ён мусіць быць у першую чаргу добрым ‘чытаньнікам’, каб функцыю чытара выконваць (чтец, читальщик, начетчик, Vorleser). Добры чытар той, што чытае выразна, ясна, зразумела,

Давалася гэта, напэўна, няпроста, бо грамадскай працы Тумаш ані не цураўся; да таго ж, напрыклад, сама арганізацыя БІНіМу хавала ў сабе канфлікты з Крывіцкім навуковым таварыствам, як і заснаванне літаратурнага часопіса «Конадні» непазбежна выклікала нараканні, крытыку і крыўды з боку пісьменнікаў, не запрошаных да стваральнае працы. Канфлікты палягалі не столькі ў розных поглядах на пытанні гісторыі ці мастацкія метады, колькі ў змаганні за ўплывовасць, за аўтараў, падпісчыкаў, а тым самым — і за складкі-ахвяраванні на выданне часопісаў.

Тумаш заўсёды быў вельмі асцярожным у справах «вялікай палітыкі»; пра гэта сведчыць і кароткатэрміновая пасада бургамістра Мінска, добраахвотна пакінутая, — у час, калі пераважная большасць актыву змагалася за ўладу ў створаных немцамі беларускіх структурах, або непрацяглае ўзначальванне Урада БНР, якое саступіў — і таксама з уласнай ініцыятывы — Аўгену Каханоўскаму (Калубовічу).

Выглядала на тое, што Тумаша болей цікавіла праца на дзялянцы культуры, а таксама выкананне сваіх прафесійных абавязкаў: для шмат якіх сем’яў беларусаў ён стаўся фактычна хатнім лекарам — выпісваў рэцэпты, тлумачыў дыягназы, пастаўленыя амерыканскімі калегамі; Ларысе Геніюш і ейнаму мужу перасылаў праз Польшчу лекі.

Для Геніюш Тумаш адыграў ролю, падобную ролі Антона Адамовіча ў жыцці Наталлі Арсенневай: ён быў дарадцам, настаўнікам у версіфікацыі, крытыкам, рэдактарам ейнага пражскага зборніка «Ад родных ніў»[460]. Адносіны — у паваен-

---

з патрэбаю для данай сытуацыі дыкцыяй (напр., малітвы трэба чытаць адпаведным, адмысловым голасам і тонам).

b. Чытар можа быць і іншага характару, як прафэсія ці занятак у вялікіх выдавецкіх прадпрыемствах, дзе могуць існаваць адмысловыя пасады чытароў — асобаў, заданьне якіх прачытваць і ацэньваць дасыланыя для друку матар’ялы. Такія чытачы, зразумела, не патрабуюць ужо чытаць у голас, а чытаюць даны матар’ял-манускрыпт так, як чытае й чытач — праз сябе (reader)». (Архіў БІНіМу).

[460] З ліста Вітаўта Тумаша да Раісы Жук-Грышкевіч ад 04.02.1971: *«Цікавы вельмі апошні ліст Ларысы. Пісаны выразна ў пэсымістычным, прыбітым настроі дзеля нейкіх прыкрасьцяў, якія мае ці мела ў сувязі з нейкай няўдалай пасылкай з Чыкага («пасылка з Чыкага расстроіла мяне зусім...»). Да гэтага — «паслала Юрцы невялікі нарыс, і той не*

ны час, зразумелым чынам, лістоўныя — працягнуліся на доўгія гады, і вынікам іх, сярод іншага, сталіся шматлікія вершы, што Геніюш праз сям'ю Тумашаў дасылала суродзічам — на Каляды, на 25 Сакавіка.

Прысвяціла Геніюш некалькі вершаў і самому Тумашу; кожны з іх, хай мо і саступаючы ў майстэрстве непрынагодным творам паэткі, тым не менш яскрава гаворыць пра асобу навукоўцы — вачыма сябра:

*Мой дружа далёкі, найлепшы зь Сяброў,*
*Па шчырасьці — ў сьвеце адзіны!*
*Са сьветлых пачынаў, нялёгкіх шляхоў..*
*Вітаю Вас з Днём Нарадзінаў!*
*Працягваю сэрца, бы рукі, здалёк:*
*Здароўя Вам, шчасьця заўсёды!*
*Ў задумах, у працы самых перамог!*
*Жыцьця Вам на доўгія годы!*
*Да роднай зямлі хтосьці шчодрай рукой*
*Любоў нам у сэрцы засеяў,*
*Той вечны узьлётны душы неспакой*
*Да парасткі новых надзеяў.*
*І дзе-б мы з Вамі ў жыцьці ня былі,*

---

*дайшоў… нейдзе загінулі мае чарнавікі ўсе…»). Гэта ўсё складаецца на мінорны вельмі тон ліста. У гэткім настроі ня дзіва, што крыўдзіцца й на мяне за тое, што «ніколі не пахваліў у друку» ды што «на 11 вершаў друкаваў толькі адзін». Гэтае апошняе, пэўне-ж, моцна перавялічана. Каб толькі кажны адзіннаццаты друкаваў і з гэтага выйшаў зборнік гэткае вялічыні, як «Ад родных ніў», дык яна за два гады мусела-б напісаць яшчэ дзесяць разоў столькі вершаў, якія я кідаў «у кошык». У запраўднасьці на самых пачатках з дасланага «ў кошык» ішло ня больш трэцяе часткі. Апошнія-ж месяцы нашага супрацоўніцтва (у 1943 г.) адпадалі толькі некаторыя вершы, іншыя-ж, зь невялікімі папраўкамі характару тэхнічнага, ішлі ў друк. Перавялічэньне і ў фразе, што «Месячык вельмі многа зрабіў для таго, каб вышаў зь мяне нарэшце паэт». З душой паэтычнай яна ўжо нарадзілася, і ў гэтым ніякое мае заслугі, што яна паэта. У меру магчымасьці я прыймаў, гладзіў некаторыя тэхнічныя шурпатасьці, якія былі вынікам малога дазнаньня ў правілах і традыцыйных нормах паэтыкі. А пісаць — ня было проста й калі — тэмп гісторыі ня даў на гэта часу. А ўсё-ж крыху, коратка напісаў пра яе ў зборніку «Ля чужых берагоў», пра што яна, зразумела, ня можа знаць. А пісаць цяпер і друкаваць проста немагчыма»* (Архіў БІНіМу).

*Куды-б сьлепа лёс не закінуў,*
*Прывабяць нас песьні радзімай зямлі,*
*Прыклічуць свае каляіны.*
*Пачэсны і трудны мы выбралі шлях,*
*Дзе сілы кладуць да астатку.*
*Скарынаў, Сапегаў мы горды працяг,*
*Лапцюжнага люду нашчадкі!*
*Сьнег пухам кладзецца на струны дарог,*
*Палотнішчам тканым на гоні.*
*Пластом зьлезянелым пад родны парог*
*І інеем белым на скроні.*
*Вятры закружылі, хістаюць камлі,*
*Злавешчае нешта гамоняць…*
*Зьгінаюць аж дрэвы да самай зямлі*
*А некаму-ж трэба устояць…*
*З вачэй мне упала сьляза незнарок…*
*Нялёгка ў дарозе бывае!*
*Працягваю сэрца, як рукі, здалёк,*
*Я Вас усім сэрцам вітаю!*[461]

Толькі пры ўсёй слушнасці і праўдзівасці сказанага ды зацытаванага пра доктара Тумаша вышэй было б наіўным уяўляць яго гэткім тыпам кабінетнага вучонага, архівістам, занураным у паперы XVI стагоддзя. Ён быў таксама і палітыкам, прыхільнікам БНРаўскай групы, інтарэсы якой адстойваў (праўда, у афіцыйных паперах адмаўляў сваю прыналежнасць да якой-кольвечы партыі[462]).

Вось як выклаў Тумаш сваё бачанне канфлікту БНР-БЦР у лісце да прыхільніка БЦР Юрыя Попкі[463], які жыў у Нямеччыне:

*«Што да парадаў, «што трэба», каб быць разам ды моцнымі: «разьвязаць БНР і БАПЦ, рэарганізаваць*

---

[461] Верш датаваны снежнем 1977 г. Архіў Вітаўта Тумаша. Перахоўваецца ў Яры Тумаш.

[462] Юрэвіч, Лявон. Эпісталярыюм як форма аўтабіяграфіі карэспандэнта й біяграфіі ягонага часу. Выпадак Юркі Віцьбіча // Запісы БІНіМ. № 33. Нью-Ёрк — Менск, 2010. С. 14.

[463] **Юры Попка** (псеўданімы **Жывіца, Жубровіч** і інш., 07.10.1912, хут. Высокі Пруд Пружанскага пав. — 29.04.1990, Ляймен, Нямеччына), літаратар, выдавец, грамадскі дзеяч.

*БЦР» ды падобных, дык цікавыя яны найперш тым, што адбіваюць, як вельмі проста выглядае скамплікаваная справа, калі на яе глядзець зь Ільгена. Удзелу ў спрэчках ды сварках БЦР-БНР не бяру, хоць, як кажны з нас, і маю на гэта свой пагляд. Пра выказаныя Вамі думкі — дайсьці да еднасьці, ліквідуючы свайго палітычнага супраціўніка, гэта больш 25 гадовая пазыцыя ўсіх «верных» і бэцээраўцаў, і бэнээраўцаў, бяз кроку назад, ані — наперад. Шмат каму, пакідаючы ўбаку «верных», гэта справа выглядае інакш, калі на яе глядзець ня з Ільгена, а з Амэрыкі, Канады ды іншых краёў.*

*Дам адзін прыклад: нажаль ужо Нябожчык, Юрка Віцьбіч, зь якім апошнімі гадамі шмат перапісваўся ды часам і наведваў яго, зь вялікай якраз пашанай адносіўся да БАПЦ, хоць сам жыў у прыходзе царквы юрысдыкцыі грэцкае, заказваў паніхіды па сваёй матцы ў суседняй царкве БАПЦ, і зусім не ўважаў, што трэба яе разьвязаць, хоць зь дзеда-прадзеда паходзіў зь сьвятарскага роду. Што да БЦР, дык асабліва апошнімі гадамі ставіўся вельмі крытычна да яе дзеячоў і дзейнасьці, і проста адмоўна.*

*Мне здаецца, што ў нацыянальна-грамадзкай, а таксама рэлігійнай галіне сук справы ня ў гэтым, каб усіх, як стада авечак, сагнаць у тую ці іншую загарадку ды пад адну страху, а каб навучыцца паважаць і шанаваць і людзей іншых паглядаў, іншае веры, іншае юрысдыкцыі, і шанаваць ня толькі іх, але і розныя ад нашых іхныя погляды, бо гэта стварае падставу да супольнае дзейнасьці ў справах важных і нацыянальна, і палітычна. Толькі ў гэткай атмасфэры ўзаемапашаны можна ў супольнай дзейнасьці паступова дайсьці да зьбліжэньня, зразуменьня, а ў паасобных выпадках і задзіночаньня фармальнага, шыльдовага»*[464].

А ў лісце да згаданага вышэй Віцьбіча, з якім меў шчырэйшыя адносіны, Тумаш выказаўся больш катэгарычна: *«Калі селянін у сіверны мароз ахутваецца ў цёплы кажух, гэта нармальная самазахаваўчая рэакцыя. Ды ўлетку, пры гарачым сонцы, ён кажух ськідае. Лідэры-ж паваеннага БЦР адзнача-*

[464] Ліст ад 28.04.1975 (Архіў БІНіМу).

*юцца гэтым, што свой «кажух» — гістарычна калісьці неабходныя арганізацыйныя хвормы пары жорсткае гітлераўскае акупацыі нашае зямлі ўперліся нагвалт насіць і тады, калі яны даўно згубілі сваю палітычную мэтазгоднасьць. Заміж здаць іх, з належнай ацэнай і пашанай, у архіў гісторыі, яны сьлепа прыліплі да іх, ад іх узалежніліся ды парадуюць па сьвеце й тады, калі няма ў гэтым ніякае патрэбы, калі яны палітычна не карысьць, але абуза. Было-б куды больш мэтазгодным ствараць новыя, адпаведныя часу й патрэбам, арганізацыйныя хвормы, калі гэта ўжо канечна ім патрэбна»*[465].

Але першаснымі для Вітаўта Тумаша былі ўсё ж інтарэсы БІНіМу.

Вось мы і падыйшлі да гісторыі стварэння яшчэ адной працы скарыназнаўцы.

1955 год. Тумаш, пасля малаэфектыўных спробаў знайсці дырэктара на створаную ім навуковую ўстанову, ачольвае БІНіМ сам. Планы былі велізарныя: выданне навуковых працаў, заснаванне некалькіх перыёдыкаў у беларускай і англійскай мовах, пераклад і выданне Бібліі, збор — зразумела, у копіях, мікрафільмах — усіх выданняў Францыска Скарыны[466]… Адным словам, ідэяў багата, а от фінансаў на іхнае ажыццяўленне, нават з улікам рэгулярных складак тады немалой колькасці сябраў Інстытута, відавочна не ставала.

Грошы звонку знайсці было нібыта рэальна — у дабрачынных ці спансаваных дзяржаўнымі ўстановамі арганізацыях ЗША, якія ў тыя часы, часы пачатку халоднай вайны, досыць шчодра адгукаліся. Аднак праблема палягала ў тым, што і пра-

---

[465] Ліст ад 19.09.1974 (Архіў БІНіМу).

[466] З ліста Вітаўта Тумаша да Яна Пятроўскага ад 04.03.1972: *«Затое, дзякуючы сучаснае тэхніцы — фатастатам ды мікрафільмам — у Нью Ёрку, у БІНіМ, канкрэтна ў мяне сканцэнтравана сяньня на мікрафільмах тэксты прыблізна 66% усіх выданьняў Скарыны, у гэтым віленскія выданьні ў камплекце. Гэта мікрафільмы ўсіх ведамых кнігаў Скарыны, што ў Бібліятэках Захаду, больш дзесяці кнігаў, што цяпер у Бібліятэках Масквы й Ленінграду, адна кніга з Кракаўскае Ягелёнскае Бібліятэкі. Пастаўленая мэта — у хуткім часе ўкамплектаваць гэтую калекцыю мікрафільмамі ўсіх іншых Скарынавых выданьняў. Колькі мікрафільмаў перададзена для скапіяваньня і ў мясцовую Публічную Бібліятэку — ёсьць ужо матар'ял для іх вывучэньня тым, што Скарынаю будуць цікавіцца»* (Архіў БІНіМу).

сіцеляў хапала: адных *DP* колькі прыняла краіна, і кожная нацыянальная група планавала выдаваць, арганізоўваць, закладаць, ствараць.

Канкурыравалі рускія з палякамі, румыны з славакамі.

Канкурэнцыя ішла і ў межах аднае нацыі.

Тут варта прывесці тэкст Тумашава выступлення на адной з зборак Інстытута пачатку 1950-х гг.; выступлення, важнага для разумення тагачасных адносінаў і раскладу сілаў:

*«Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва быў арганізаваны з мэтай аб'яднаньня ўсіх беларускіх навуковых і мастацкіх сілаў для навукова творчай працы. Гэтых заданьняў не магло выканаць Крывіцкае Навуковае Таварыства імя Праньціша Скарыны дзеля пэўных прычынаў, зь якіх падамо тут толькі некаторыя. Старшыня гэтага Таварыства Сп. Др. Я. Станкевіч аставаўся «нязьменным» старшынёю пераважна за кошт галасоў тых сяброў Таварыства, якія на з'езды Таварыства самі ніколі не прыяжджалі і якія даручалі свае галасы самаму Сп. Др. Я. Станкевічу. Нецярплівасьць Сп. Др. Я. Станкевіча да тых, хто крытыкаваў ягоныя погляды (асабліва ў галіне беларускай мовы) перашкаджалі стварэньню навуковай атмасфэры ў Таварыстве. «Веда»*[467] *запаўнялася пераважна артыкуламі самога Сп. Др. Я. Станкевіча і зьвярталася тэматычна пераважна да далёкай мінуўшчыны Беларусі.*

*Ад самага пачатку існаваньня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва Сп. Др. Я. Станкевіч распачаў «зімнюю вайну» супроць Інстытуту, забараняючы сябром Таварыства прыймаць удзел у працы Інстытуту і г. д. Як паказала, аднак, практыка, гэтая «зімняя вайна» не знайшла водгуку сярод сяброў Таварыства за выняткам бліжэйшых «дарадчыкаў» і аднадумцаў Сп. Др. Я. Станкевіча.*

---

[467] **Веда.** Veda. Навукова-літаратурны часапіс. Brooklyn, New York. Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны. 1951–1952. У 1973 г. адноўлена як *«Веда-Vieda (Science)»*. Цікава зазначыць, што Станкевіч для назвы часопіса скарыстаў ідэю, не зрэалізаваную, што праўда, свайго былога апанента ў Празе — Тамаша Грыба.

*Узьнятая Сп. Др. Я. Станкевічам «зімняя вайна» ператварылася зь ягонага боку ў брудную вайну. Так, на апошнім годнім з'езьдзе Таварыства Сп. Др. Я. Станкевіч зрабіў зласьлівы выпад супроць Інстытуту і старшыні Інстытуту Сп. Янкі Ліманоўскага*[468]*. (Сказаў падобнае: Інстытутам кіруе камуністы, і сябры Таварыства павінны адыйсьці ад Інстытуту, каб не набыць сабе клопату).*

*Бязпрынцыповасьць Сп. Др. Я. Станкевіча ў вышэй пададзеным выпадзе выглядае вельмі яскрава, калі ўзяць пад увагу наступныя факты. Сам Сп. Др. Я. Станкевіч запрапанаваў Сп. Я. Ліманоўскаму ўступіць у склад сяброў таварыства (1951 г.). Сп. Я. Ліманоўскі згадзіўся і быў аднагалосна прыняты ў сябры Таварыства. На прадапошнім з'езьдзе Таварыства вясной 1952 году Сп. Я. Ліманоўскі быў завочна (тады ён быў у Чыкага) абраны сябрам Управы Таварыства. Аднак Сп. Я. Ліманоўскі не падтрымаў ідэі бязсэнсоўнай «зімняй вайны». Запрошаны Інстытутам, ён прачытаў рэфэрат, прысьвечаны 10-м угодкам сьмерці Янкі Купалы і надрукаваў артыкул на гэтую тэму ў «Запісах» Інстытуту. Пазьней Сп. Я. Ліманоўскі ў заяве, перасланай Сп. Др. Я. Станкевічу, зрокся свайго сакратарства і сяброўства ў Таварыстве. (Сп. Др. Я. Станкевіч інфармаваў дэлегатаў годняга з'езду Таварыства, што Таварыства змусіла Сп. Я. Ліманоўскага выступіць з Таварыства. Сапраўды, кепска выглядае тактыка «зімняй вайны», калі старшыня Таварыства ня можа сказаць праўду сваім дэлегатам).*

*Сп. Я. Ліманоўскі прысутнічаў у якасьці госьця на годнім з'езьдзе Інстытуту. І хоць Сп. Я. Ліманоўскі адмаўляўся, ён быў абраны старшынёй Інстытуту*[469]*.*

---

[468] **Янка Ліманоўскі** (09.03.1896 — 30.05.1989, Рыхтан Парк, Ілінойс, ЗША), пісьменнік, літаратуразнаўца.

[469] З ліста Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 28.05.1953: *«Мне хочацца думаць, што пытаньне, якое я цяпер парушу, застанецца паміж намі, але маю свой асабісты погляд наконт сучаснага складу Ўраду Інстытуту. Мы, бязумоўна, ня можам заглядацца на сваіх суродзічаў праз акуляры МэкКарана, але… Ліманоўскі добры чалавек і ўсё-ж ён былы камуністы, а не нацыянал-камуністы, як, напрыклад, Ігнатоўскі, Язэп Адамовіч, Міхась Чарот, Чарвякоў, Галадзед, Баліцкі, Прышчэпаў,*

*Каб не паўтараць шкадлівай практыкі Таварыства, на прапанову Сп. Я. Ліманоўскага Ўправа Інстытуту прыняла папраўку да адпаведнага пункту Статуту такога зьместу, што ніводзін сябра Інстытуту ня можа мець на годнім з'езьдзе Інстытуту больш, чымся пяць давераных яму іншымі сябрамі Інстытуту галасоў. Сп. Я. Ліманоўскі, адчуваючы шкоднасьць «зімняй вайны», заклікаў на першым паседжаньні Ўправы Інстытуту да супрацоўніцтва з сябрамі Таварыства, сам асабіста зьвярнуўся да некаторых зь іх атрымаў іхнюю згоду. Дык можа гэта вывела з роўнавагі аўтара «зімняй вайны» Сп. Др. Я. Станкевіча?*

*Ня цяжка здагадацца, што гэтая «зімняя вайна» Сп. Др. Я. Станкевіча супроць Інстытуту мае ў сваёй падставе матар'яльныя прычыны. Сп. Др. Я. Станкевіч непакоіцца, што няспынны ўзрост Інстытуту можа выклікаць уплывы на амэрыканскую ўстанову ў тым кірунку, што гэтая ўстанова палічыць за патрэбнае перадаць Інстытуту значную частку тэй датацыі, якую дагэтуль атрымлівала Крывіцкае Таварыства і якая (датацыя) забясьпечвала Сп. Др. Я. Станкевічу спагадныя мажлівасьці да самарэклямы праз «Веду».*

*Можна адзначыць тут, што меркаваньні матар'яльнага парадку ўплываюць вельмі адчувальна на палітыку (ці, праўдзіва кажучы, палітыканства) Сп. Др. Я. Станкевіча. На пачатку мінулага году ў Радзе БНР стварыўся гэтак званы блёк «непадзельнасьці і незалежнасьці Беларусі». Асноўным пунктам актыўнасьці гэтага блёку было апратэставаньне ўдзелу беларускіх арганізацыяў у перагаворах з расейскімі арганізацыямі ў справе стварэньня супольнага антыбальшавіцкага фронту. Калі прыйшоў час разгляду новага бюджэту ва ўспамянёнай амэрыканскай установе ды ў іншай амэрыканскай установе, якая прызначае навуко-*

---

*Цішка Гартны і г. д. Уся літаратарская творчасьць Ліманоўскага наскрозь камуністычная, а таму калі яго (не па нацыянальных прычынах) выкінулі з партыі, дык і творчасьць гэная назаўсёды скончылася. У сувязі з гэтым Ліманоўскі меў рацыю, калі адмаўляўся ад старшыянаваньня ў Інстытуце».* (Архіў БІНіМу).

*вую стыпэндыю Сп. Др. Я. Станкевічу, і паколькі гэтым установам рабіліся закіды, што быццам яны больш спачуваюць расейцам, — Сп. Др. Я. Станкевіч пасьпяшаўся адмежавацца ад вышэй спамянёнага блёку. Бюджэты былі зацьверджаныя, і Сп. Др. Я. Станкевіч ізноў пачаў востра выступаць супраць БАФ'у за ягоны ўдзел у перагаворах з тымі самымі расейскімі арганізацыямі ў справе стварэньня г. зв. каардынацыйнага фронту. Ізноў лінія таго-ж самага «блёку», ад якога Сп. Др. Я. Станкевіч толькі так нядаўна адмежаваўся. Можна, ня будучы прарокам, прадказаць, што «лінія» Сп. Др. Я. Станкевіча ў гэтай справе грунтоўна зьменіцца, калі наблізіцца час разгляду новых бюджэтаў у вышэй спамянёных амэрыканскіх установах. А тымчасам аб'ектам гэткага манэўраваньня Сп. Др. Я. Станкевіча і ягонай брыдкай «зімняй вайны» зьяўляецца Інстытут.*

*У сваім часе Сп. Др. Я. Станкевіч напісаў прэзыдэнту аднаго з амэрыканскіх унівэрсытэтаў брудны данос на беларускую дзяўчыну-студэнтку, што паводле ягоных меркаваньняў павінна было прычыніцца да выключэньня яе з унівэрсытэту. Аднак прэзыдэнт унівэрсытэту ня толькі зігнараваў данос, але абурана запытаўся ў дзяўчыны, ці не камуністы той, хто пісаў гэты данос.*

*Напады на Інстытут з боку Сп. Др. Я. Станкевіча і ягоная «зімняя вайна» як сродак змаганьня з нібыта «канкурэнтам», заўсёды, пэўна-ж, падтрыманая Сп. А. Адамовічам*[470]*, гэта толькі частка тэй актыў-*

[470] З ліста Юркі Віцьбіча да Вітаўта Тумаша ад 25.03.1955: *«Надысь атрымаў ліст з Нью-Ёрку, дзе Ікса абураецца з тае прычыны, што Сп. Адамовіч трапіў у склад Ураду Інстытуцыі, да якое некалі вельмі няпрыхільна ставіўся. Між тым цалкам разумею Сп. Адамовіча і вітаю яго ў складзе Ўраду БелНІіМ. Запраўды, гэта яшчэ адзін доказ таму, што ніхто ня ў стане доўгі час супрацоўнічаць з Сп. Др. Ян. Станкевічам. Сп. Адамовіч зьяўляўся абраным старшынёй Таварыства, і падпарадкаваны яму, паводля перш-лепшага статуту, рэдактар «Веды» зьбэсьціў яго перад усёй эміграцыяй. Наш добры Юхнавец паспрабаваў надрукаваць у «Ведзе» свой верш і дастаў: «Дзень ёмка ходзіць па зялезных сторах». Высокашаноўны рэдактар з уласьцівым яму мастацкім густам надаў гэтаму вобразу бадай што клясычнае гучэньне. Аднак ня ўсім мець арганізацыйныя здольнасьці ды мастацкі густ — з самай шчырай па-*

*насьці, якая мае ўсе адзнакі разбуральнасьці. Асабістыя інтарэсы, матар’яльныя фактары і некантраляваная амбіцыя пераважаюць над агульнымі нацыянальнымі заданьнямі»*[471].

На тле фінансавай канкурэнцыі і паўстала англамоўная праца Вітаўта Тумаша «Whiteruthenian (Byelorussian) National Group in the United States: Origin. Charasteristics. Organizations. Personalities»[472], большасць з 124 старонак якой сёння не выклікае асаблівай цікавасці. Яно і зразумела: амерыканцам трэба было растлумачыць, што такое *Byelorussia*, дзе яна знаходзіцца і чым розніцца ад Расіі і Польшчы, што такое паваенная эміграцыя — у дачыненні да СССР і Нямеччыны; паказаць, колькі беларусаў (патэнцыйных спажыўцоў беларускага прадукту) знаходзіцца ў краіне, якія арганізацыі існуюць. Не абмінуў аўтар і супрацьстаянне БЦР і БНР.

А вось раздзел «Біяграфічныя партрэты найбольш актыўных асобаў на беларускай палітычнай сцэне» варты і перакладу, і публікацыі. І не толькі таму, што гэта першая спроба стварэння біяграфічнай энцыклапедыі нашае эміграцыі — хай сабе і з не зусім навуковымі мэтамі.

Гэты раздзел Тумаш, часам памыляючыся ў біяграфічных звестках, часам шчыра не хаваючы ўласнага няведання (года нараджэння або адрэсы — так, і гэтая інфармацыя з’яўлялася часткаю біяграмаў), пісаў нязвыкла як на гісторыка: з пераказам чутак, «агульнай апініі», выкрыццём небяспечных фактаў (напрыклад, пра сяброўства ў Камуністычнай партыі або змену прозвішча, што само па сабе лёгка магло стацца падставаю дэпартацыі), уражаннем ад асабістых сустрэчаў (ведаў жа ён усіх фігурантаў), не цураўся рэзкіх крытычных (нехта б мо палічыў іх абразлівымі) ацэнак здольнасцей таго ці іншага сябры БЦР або БНР.

Так, так, і БНР, бо хоць Тумаш у сваёй працы выразна аддаваў перавагу Радзе БНР, з самімі сябрамі не надта далікатнічаў: урэшце, і яны былі канкурэнтамі. Амерыканцам праз тыя біяграмы даводзілася, з кім і чаму не варта мець справы — фінансавай, арганізацыйнай, палітычнай.

---

*шанай стаўлюся да навуковых працаў Сп. Др. Ян. Станкевіча і лічу яго добрым беларусам».*(Архіў БІНіМу).

[471] Архіў БІНіМу.

[472] Архіў БІНіМу.

Невядома, ці дасылалася куды праца. Машынапіс жа застаўся ў архіве Інстытута, а біяграфіі, напісаныя на сумежжы з іншым літаратурным жанрам — інтэлігентным даносам — нявыкарыстанымі.

На сёння даследнікамі эміграцыі складзеная дастаткова вялікая база біяграфічнай інфармацыі, куды больш дакладнай і падрабязнай за зробленае Тумашам. Але створаныя гісторыкам *Personalities* цікавыя якраз іншым: менавіта тымі фактамі, «апініямі», сведчаннем адносінаў ды нораваў, не зафіксаванымі Гісторыяй; рэха іх льга знайсці хіба ва ўлётках, зорны час якіх прыйшоўся на часы лагераў *DP* у Нямеччыне ды Аўстрыі.



*Вітаўт Тумаш. 1969 г.*

Спіс найбольш актыўных у палітычным і грамадскім жыцці беларусаў на амерыканскай зямлі выглядаў бы недарэчна без біяграфіі самога Тумаша (сябе ён не падаў ва ўласную працу), то з яе і пачнем:

**Вітаўт Тумаш** нарадзіўся 20.12.1910 г. у вёсцы Спягліца, Вілейскага пав. Віленскай губ. (сёння в. Свяцілавічы Смаргонскага раёна Гарадзенскай вобл.) у сям'і Яна і Петранэлы з Канапелькаў. Пасля заканчэння пачатковай школы ад верасня 1924 да чэрвеня 1930 гг. навучаўся ў Беларускай гімназіі ў Вільні. Ад восені 1930 г. студыяваў на медычным факультэце Віленскага ўніверсітэта імя С. Баторыя. Дыплом аб заканчэнні навукі выпісаны 30 траўня 1939 г.

Ад ліпеня 1939 г. да пачатку Другой сусветнай вайны працаваў лекарам у шпіталі ў Беластоцкім *Choroszcz*, пасля, ад 1940 г., меў прыватную медыцынскую практыку ў Лодзі.

19 кастрычніка 1940 г. пабраўся шлюбам з Ксеніяй Грыгарчук, з якой меў трое дзетак.

Актыўны ў беларускім нацыянальным руху: адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза, старшыня Таварыства прыцеляў беларусаведы, віцэ-старшыня Таварыства беларускай школы; ад верасня 1939 г. працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце ў Варшаве, у 1940–1941 гг. быў старшынём Беларускага камітэта ў Лодзі.

З пачаткам нямецкай акупацыі Беларусі ў ліпені-лістападзе 1941 г. выконваў абавязкі бургаміcтра Мінска. Напрыканцы 1941 г. выехаў у Нямеччыну, дапамагаў з рэдагаваннем газетаў «Раніца» і «Беларускі Работнік», працаваў у берлінскім аддзеле Самапомачы.

У 1943–1945 гг. на пасадзе лекара ў лагерах — Мэкленбург, ад 1945 — у Заходняй Нямеччыне, у шпіталі лагера Лунэбург, ад 1946 — у лагеры *DP* Ватэнштэт, ад 1947 — у лагерах Госляр, Унтэрлюс, Зеедорф.

Заснаваў Згуртаванне беларускіх лекараў на чужыне, выдаваў часопіс «Мэдычная Думка» (1946–1950), рабіў захады па перакладу Бібліі ў беларускую мову, запрасіўшы ў адмыслова створаны ім Камітэт Леаніда Галяка, Яна Пятроўскага, Уладзіміра Тамашчыка ды іншых.

У ЗША прыехаў 25 лістапада 1950 г. Амерыканскае грамадзянства атрымаў 20 жніўня 1956 г. Жыў у Нью-Ёрку, працаваў

у шпіталях (Фордхам, Бронкс, 1952–1976, у аддзяленні хуткай дапамогі, ад 1976 — у шпіталі Сейдэнхам на Манхэтане).

Фактычны заснавальнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва і ягоны старшыня ў 1955–1982 гг. Рэдактар і выдавец «Запісаў БІНіМ», ініцыятар выдання часопіса «Конадні». Аўтар значнай колькасці артыкулаў, пераважна скарыназнаўчай тэматыкі, і асобных выданняў: «Скарына ў Падуі» (1970, 1983), «Пяць стагоддзяў Скарыніяны» (1989).

Кароткі час ачольваў Урад БНР, быў старшынёй Фундацыі імя П. Крэчэўскага (1979–1982).

Памёр 27 красавіка 1998 г.

**Вітаўт Тумаш**

## Біяграфічныя партрэты найбольш актыўных асобаў на беларускай палітычнай сцэне ў ЗША (1955)[473]

***Адамовіч, Антон*** *— нарадзіўся 26 чэрвеня 1909 г. у Менску, літаратурны крытык, пісьменнік і публіцыст. Каталік. Нежанаты (вельмі старыя бацькі). Адрас: 323 E 100th St., Кватэра 7, New York, N. Y. Піша пад псеўданімамі Р. Склют, В. Бірыч, Н. Недасек, С. Юстапчык і шмат якімі іншымі. Неблагі публіцыст, але нашмат больш здольны як аўтар крытычных нарысаў і апавяданняў. Найбольш здольны крытык і гісторык беларускай літаратуры на эміграцыі. Гэтаксама, калі не самы выбітны, дык адзін з найлепшых прамоўцаў на эміграцыі.*

*Вывучаў літаратуру ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Менску. Быў адным з сябраў беларускай патрыятычнай літаратурнай асацыяцыі «Узвышша», якая была ліквідавана бальшавіцкім рэжымам на пачатку 1930-х з-за «нацыянальнага дэмакратызму». Разам з некалькімі іншымі сябрамі асацыяцыі быў арыштаваны і пазней без суду сасланы на 5 гадоў. Пасля вярнуўся ў Менск і працаваў выкладчыкам беларускай літаратуры ў Педагагічным інстытуце ў Менску да пачатку Другой сусветнай вайны.*

*У часе нямецкай акупацыі працаваў галоўным публіцыстам і сапраўдным (але не афіцыйным) рэдактарам цэнтральнай*

[473] Пераклад Віялеты Кавалёвай.



Антон Адамовіч

*беларускай газеты ў Менску «Беларуская газета». З 1943 г. у Нямеччыне, у Фрайбургу (Freiburg). Пасля заканчэння вайны ён у лагерах DP Амерыканскай зоны Нямеччыны (Regensburg, Michelsdorf, Osterhofen, Rosenheim). Палітычна вельмі актыўны ў першыя гады барацьбы паміж БНР і БЦР, пераважна як галоўны прамоўца і публіцыст Рады БНР. Некалькі гадоў (1947–1949) галоўны рэдактар тыднёвіка «Бацькаўшчына» ў Мюнхене, галоўным палітычным органе Рады БНР. Адначасна рэдактар літаратурнага часопіса «Сакавік» (1947–1948). Адзін з галоўных і найбольш палкіх змагароў за перайменаванне Беларусі ў Крывію, пытанне, якое адыграла значную ролю ў супрацьстаянні БНР-БЦР некалькі гадоў таму назад у Нямеччыне. Асабісты палітычны антаганіст Юрыя Стукаліча (Юркі Віцьбіча) цягам першых пяці паваенных гадоў; пазней, у ЗША, асабістая варожасць паменшала.*

*У ЗША ад 1950 г., займаецца больш літаратураю і навукаю як палітыкай. У Радзе БНР ад кіраўнічых пазіцый болей ссунуўся ў апазіцыю. Ад 1951 г. працуе на Research Program of East European Fund на тэмы, звязаныя з апазіцыйнасцю ў беларускай літаратуры ў БССР. Зараз працуе над гісторыяй Камуністычнай партыі ў Беларусі для Інстытуту па вывучэнню гісторыі і культуры СССР у Мюнхене (арганізаваны Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму). Цягам некалькіх апошніх гадоў намінальны прэзідэнт Крывіцкага навуковага таварыства ў Нью-Ёрку (сапраўдны кіраўнік др. Янка Станкевіч). Пасля сваркі з Др. Я. Станкевічам пакінуў Крывіцкае таварыства і далучыўся да Беларускага інстытуту навукі і мастацтва. У сакавіку 1955 г. абраны віцэ-прэзідэнтам гэтага Інстытуту.*

*Па характары вядомы як чалавек без строгіх маральных прынцыпаў што ў палітычным жыцці, што ў літаратурнай крытыцы. Надзвычай суб'ектыўны ў сваіх меркаваннях, у асабістым стаўленні да пытанняў і людзей. У палітычных спрэчках вядомы сваёй нетактоўнай, выбуховай рэакцыяй, часта звінавачаны ў крывадушнасці. Сярод шырокіх масаў непапулярны за эгаізм і амбіцыйнасць. З свайго боку часта паўтарае, што «ненавідзіць масы». З-за гэта не надта надаецца на палітычную працу сярод масаў, хоць валодае талентам прамоўцы.*

*З-за боязі быць дэпартаваным з лагераў DP у Нямеччыне ў СССР, падаў у сваю біяграфію для UNRRA і IRO, што нарадзіўся ў заходняй, польскай, а не ўсходняй, Савецкай, часткі Беларусі. У 1946 г. стала вядома, што яго адведваў у лагеры DP у Рэгенсбургу савецкі беларускі пісьменнік Максім Лужанін, доўгагадовы супрацоўнік НКВД. Хутчэй за ўсё, Лужанін наведаў Адамовіча ад імя савецкай рэпатрыяцыйнай камісіі з прапановаю вярнуцца ў Савецкі Саюз і БССР. Пасля таго, як гэты факт зрабіўся вядомым, Адамовіч быў звінавачаны ў сакрэтных кантактах з бальшавікамі. Абвінавачанні сыходзілі ад ягоных асабістых і палітычных ворагаў. Але пашыраны погляд, што да падобных абвінавачанняў няма ніякай падставы.*

***Акіншэвіч, Леў** — нарадзіўся 25 студзеня 1898 г. у Пецярбургу, Расія. Праваслаўны, жанаты. Адрас: 1628 Columbia Road, N. W. Кватэра 416, Вашынгтон 9, тэл. DU-7-8980. Студыяваў права ў Кіеўскім універсітэце, закончыў у 1921. У 1930-х працаваў прафесарам юрыспрудэнцыі. Выдрукававаў навуковыя працы па юрыспрудэнцыі, гісторыі права і гісторыі. Жыў і працаваў пераважна на Украіне і кароткі час у Беларусі (БССР). Падчас праследу бальшавікамі «украінскага нацыяналдэмакратызму» (1930-я) быў прымушаны бальшавікамі да публічнага асуджэння выбітнага ўкраінскага гісторыка Міхайлы Грушэўскага (высланага пазней у Маскву).*

*У Нямеччыне ў зоне ЗША працаваў прафесарам ва Украінскім універсітэце на эміграцыі. У ЗША з 1949 (?). Пэўны час працаваў на Research Program of East European Fund. Выдрукаваў у Амерыцы кнігу па бібліяграфіі Вялікага Княства*

*Літоўскага і некалькі артыкулаў у беларускай і ўкраінскай перыёдыцы*[474].

*З сакавіка 1954 г. працуе ў Аддзеле каталагізацыі Кангрэсавай бібліятэкі ў Вашынгтоне. Пазбягае любой палітычнай дзейнасці, магчыма таму, што ягоны сын і зараз жыве ў СССР. Звінавачаны некаторымі беларусамі ў русафільстве за ягоныя погляды і навуковыя працы. Сябра БІНіМу.*

*У палітычным змаганні БЦР-БНР падкрэслівае сваю нейтральнасць, але на практыцы супрацоўнічае з сябрамі БНР, пераважна на навуковай дзялянцы.*

***Арэхва, Аркадзь** — нарадзіўся 1 траўня 1910 г. на Браслаўшчыне (Заходняя Беларусь). Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 80 Hawthorne Street, Stamford, Conn. Па прафесіі лекар. Перад апошняй вайной студыяваў права ў Варшаўскім універсітэце. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Менску суддзём, быў чальцом Менскага акруговага суду. Адзін з сябраў камісіі, якая ў 1942 г. сарганізавала ў Менску Раду Беларускай праваслаўнай царквы.*

*Пасля вайны студыяваў медыцыну ў Марбургу (Нямеччына) у 1947 г., у Лювене (Бельгія) у 1948–1949 гг. і зноў у Нямеччыне, у Мюнхене, дзе і атрымаў дыплом у 1952 г. Ад 1953 г. жыве ў ЗША, працуючы ў шпіталях — спярша як інтэрн, а цяпер як лекар-рэзідэнт у адным з прыватных шпіталяў Нью-Ёрка.*

*У Нямеччыне спачатку падтрымліваў Раду БНР. У Лювене вёў палітычныя дэбаты з іншымі студэнтамі і змяніў сваю думку, перайшоўшы на пазіцыі БЦР. У 1954 г. прэзідэнт БЦР прызначыў яго ў Выканаўчы камітэт БЦР на пасаду віцэпрэзідэнта і дырэктара «аддзела ўнутраных справаў і праваcуддзя».*

*Не валодае талентам арганізатара. Мітуслівы ў палітычнай кар'еры. Перад вайной, падчас вучобы ў Варшаве, быў вядомы сваімі камуністычнымі поглядамі. Пасля таго, як Савецкі Саюз акупаваў Заходнюю Беларусь у 1939 г, Арэхва хутка змяніў сваю пазіцыю і стаўленне да камунізму, і ў 1940 г. перабег да «Усеагульнага польскага кангрэсу» (General Goverтment Poland) у Варшаве.*

[474] Okinshevych, Lev. The law of the Grand Duchy of Lithuania: background and bibliography. New York, research Program on the USSR. 1953. — 53 p.

***Вярбіцкі, Аўген*** *— нарадзіўся 4 студзеня 1922 г. у Татарычызне (Заходняя Беларусь). У 1940 г. скончыў універсітэт у Нямеччыне, атрымаўшы дыплом інжынера-агранома. У 1949 г. атрымаў ступень доктара аграноміі. З 1950 (?) г. жыве ў Злучаных Штатах, выкладае ўва ўніверсітэце Калумбус (штат Агаё), дзе ў снежні 1953 г. яму была нададзена ступень доктара біяхіміі. Грамадзянін ЗША ад пачатку 1955 г.*



*Аўген Вярбіцкі*

*Адораны навуковы працаўнік. Таксама выяўляе актыўнасць як публіцыст і палітык, галоўным чынам у беларускіх студэнцкіх арганізацыях — спярша ў Нямеччыне, цяпер у ЗША. Сябра Беларускага інстытуту навукі і мастацтва, супрацоўнік «Запісаў» (навуковага выдання гэтага інстытуту). Добра надаецца як да навукі, так і да палітыкі. У цяперашні час з’яўляецца віцэ-прэзідэнтам Саюзу беларускіх акадэмічных арганізацый, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Лювене (Бельгія). Вярбіцкі ёсць таксама прадстаўніком гэтай арганізацыі ў Амерыцы.*

***Галяк, Леанід*** *— за 40 гадоў*[475]*, праваслаўны, жанаты. Нарадзіўся ў Вільні. Адрас: 334 State St., Stamford, Conn. Сярэдняя адукацыя — Беларуская гімназія ў Вільні, травень 1930 г. Пасля студыяваў права на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Закончыў перад пачаткам вайны.*

*У Нямеччыне ў брытанскай зоне ў беларускім лагеры Ватэнштэт, дзе быў адным з асноўных антаганістаў (разам з В. Пануцэвічам*[476] *з Чыкага) у змаганні паміж БНР і БЦР ды-*

[475] Леанід Галяк нарадзіўся 31 кастрычніка 1910 г.

[476] **Вацлаў Пануцэвіч** (да эміграцыі **Папуцэвіч**, псеўданім **Мікола Волацiч**, 1910, в. Малая Альшанка Гарадзенскага пав. (сёння Гарадзенскі р-н) — 25.08.1991, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог.



*Леанід Галяк*

*рэкатара лагеру С. Каўша*[477]. *Пазней пераехаў у лагер Фленсбург, дзе выдаваў даволі вострыя антыбэцээраўскі перыёдык «Летапіс».*

*У ЗША ад 1950 (?) г., спачатку ў Нью-Ёрку, потым у Стамфардзе. Першы рэдактар газеты Беларуска-амерыканскага задзіночання «Беларус» (1950–1952), адкуль быў выгнаны генералам Кушалем*[478]*, тагачасным старшынём БАЗА (1952) і ад тых часоў асабісты вораг генерала Кушаля. З-за гэтай варажнечы сапсаваў адносіны з Радаю БНР і на пачатку 1954 г. выйшаў з Рады.*

*У цяпершані час спрабуе навязаць кантакты з групаю Др. Шчорса*[479] *(БЦР). Не вельмі папулярная постаць у масах і палітычных спрэчках. Заўсёды пры галасаванні прайграе свайму апаненту. Сярэдняга таленту публіцыст.*

***Гарошка, Мікола** — нарадзіўся 5 красавіка 1902 г.*[480] *у Трашчыцы, Заходняя Беларусь, Наваградскага павету. Праваслаўны, жанаты, мае двое дзяцей. Адрас: 60-17, 56 Rd., Maspeth, L. I., N. Y. Тэлефон: TW-4-9333. Студыяваў лесаводства і меліярацыю ў Празе, дзе атрымаў ступеню інжынера лесаводства. DP у амерыканскай зоне Нямеччыны.*

477 **Святаслаў Коўш** (07.01.1917, Вільня (паводле іншых звестак — мястэчка Ілья (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 05.11.1997, Саўт-Рывер, ЗША), рэлігійны і грамадскі дзеяч, праваслаўны святар.

478 **Францішак Кушаль** (16.02.1895, Пяршаі (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.) — 25.05.1968, Рочэстар, штат Нью-Ёрк, ЗША), вайсковы і грамадскі дзеяч, муж Н. Арсенневай.

479 Маецца на ўвазе **Мікалай Шчорс** (1913, Новы Свержань (сёння Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.) — 22.12.1995, Даўнт-Мора, Фларыда, ЗША), грамадскі дзеяч, лекар.

480 Мікола Гарошка нарадзіўся 5 траўня 1902 г.

*У ЗША ад 1949 г. Арганізатар і першы прэзідэнт Беларуска-амерыканскага задзіночання, галоўнай арганізацыі БНРаўскага напрамку ў Амерыцы. Не паказаў вялікага таленту ў арганізацыйнай працы. Цяпер адзін з заснавальнікаў і прэзідэнт будаўнічай карпарацыі «Нёман» — першай гаспадарчай арганізацыі новых эмігрантаў. Антаганіст Др. Янкі Станкевіча. Апошнім часам болей цікавіцца справамі будаўнічай карпарацыі, як грамадскім ці палітычным жыццём беларускае эміграцыі.*

***Дзямідаў, Мікалай** — каля 60 гадоў*[481]*, зараз жыве ў Чыкага. Адрас:? Палкоўнік войскаў БНР пасля Першай сусветнай вайны. Пазней школьны настаўнік беларускай школы ў Латвіі. Пасля акупацыі Латвіі савецкімі вайскамі ў 1940 г., быў арыштаваны НКВД, вывезены ў Маскву і ўкратаваны на Лубянцы, дзе сядзеў разам з генералам Францішкам Кушалем і польскім генералам Андэрсам. З таго часу генерал Андэрс падазрае Дзямідава ў сакрэтнай працы на НКВД.*

*У DP у Нямеччыне падтрымліваў Раду БНР. У ЗША увайшоў у Беларускую нацыянальную раду ў Чыкага, дзе неўзабаве быў уцягнуты ў сваркі лідараў (галоўным чынам з Пануцэвічам) і быў пазбаўлены сяброўства ў арганізацыі. Цяпер, афіцыйна абвясціўшы сваю нейтральнасць, хутчэй з'яўляецца прыхільнікам БЦР. Уважаюць яго за непаслядоўную асобу без цвёрдых палітычных перакананняў і поглядаў. Вельмі рэлігійны, любіць жанчын і алкаголь.*

***Ермачэнка, Іван (Джон) —** за 60 гадоў*[482]*, праваслаўны, жанаты. Адрас:? Народжаны ва Усходняй Беларусі, каля Барысава. Пасля Першай сусветнай вайны кароткі час быў у Істамбуле, Турцыя. Як сцвярджае, быў там з дыпламатычнай місіяй ад Ураду БНР, але праз ягоны малады на той час век справа выглядае надта сумніўнаю. Пазней жыў у Чэхаславакіі, дзе студыяваў медыцыну, напэўна, у Празе. Пасля заканчэння адкрыў у Празе прыватную практыку як спецыяліст па венерычных захворваннях (але без афіцыйнай спецыялізацыі). Шыракавядомы ў тыя часы праз сваё несумленнае, беспрынцыповае рэкламаванне, забароненае медыцынскімі ўладамі*

[481] Мікола Дзямідаў нарадзіўся 10 снежня 1888 г.
[482] Іван Ермачэнка нарадзіўся 1 траўня 1894 г.

*ў Чэхаславакіі. З-за гэтага часта меў праблемы з Медыцынскаю радаю і неаднаразова штрафаваўся ёю.*

*Восенню 1941 г., пасля акупавання Беларусі немцамі, быў прывезены Ost-Ministerium у Менск і прызначаны на кіраўніка Беларускай Народнай Самапомачы — найвышэйшую палітычную пасаду, створаную для беларусаў Генеральным Камісарыятам у Беларусі ў 1941–1943 гг.*



**Іван Ермачэнка**

*21 чэрвеня 1942 г. Генеральны Камісар Кубэ стварыў дарадчую ўстанову — інстытут «мужоў даверу» і прызначыў др. Ермачэнку галоўным дарадцам і «мужам даверу». За гэты перыяд у Менску Ермачэнка выявіў сябе чалавекам без адміністрацыйных ці якіх-колечы здольнасцей, з адсутнасцю характару, і быў славуты сваім нізкапаклонніцтвам перад немцамі. Агульнаю пашыранаю думкаю было, што менавіта за гэтыя якасці ён быў і абраны на найвышэйшыя пазіцыі ў беларускіх арганізацыях, створаных немцамі ў першыя гады акупацыі.*

*Але ў 1943 г. ён быў дэпартаваны з Менску ў Прагу, дзе пэўны час быў зняволены за скарыстанне сваёй пасады ў Самапомачы для ўласнага ўзбагачэння і ашукальніцтва супрацоўнікаў БНС.*

*Па нямецкай капітуляцыі апынуўся ў лагерах DP амерыканскай зоны Нямеччыны ў якасці лекара для DPістаў, а ўрадоўцам з UNRRA і IRO прадставіў сваё зняволенне немцамі як палітычны перaслед. У ЗША ён паўтарыў гэтую хлусню. У выданні «Communist takeover and occupation of Byelorussia», Special report № 9 of the Select Committee on Communist Aggression of House of Representative (1955)*[483] *можна прачы-*

[483] Communist takeover and occupation of Byelorussia. Select Committee on Communist Aggression, House of Representatives, Eighty-third Congress, Second session; under authority of H. Res. 346 and H. Res. 438; [submitted by Mr. Kersten]. Special report; no. 9. Washington, D. C.: US Govt. Print. Office, 1955.

*таць, што Др. Ермачэнка быў высланы з Менску з-за сваёй абароны беларускіх інтарэсаў і змагання сураць пераследу немцамі беларусаў. Падобнае скажэнне праўды сталася магчымым таму, што матэрыялы, скарыстаныя Камісіяй, былі падрыхтаваныя блізкім сябрам і памагатым Др. Ермачэнкі ў Менску — Іванам Касяком[484]. Пра абарону беларускага насельніцтва Др. Ермачэнка перад немцамі ніхто ніколі ў Менску не чуў.*

*З-за ягонага пранямецкага сервілізму ў Менску і крымінальных падставаў выгнання з БНС лідары БНР у Нямеччыне адмовіліся ад усялякіх кантактаў з Др. Ермачэнка. Таму ў яго было толькі адное выйсце: далучыцца да апазіцыйнай групы БЦР, дзе яго прынялі, але без вялікага энтузіязму.*

*У ЗША ад 1948 г., працаваў у розных шпіталях тэрапеўтам. Напачатку свайго амерыканскага жыцця спрабаваў зноў граць нейкую ролю ў справах беларускай эміграцыі, але падтрымкі не атрымаў. Абмежаваны інтэлектуальна, без палітычных прынцыпаў і пазіцый, з заўсёды непадробнай зацікаўленасцю ў матэрыяльных выгодах, ён ніколі не карыстаўся папулярнасцю сярод беларусаў і мог трапіць на высокія пазіцыі ў беларускай іерархіі выключна праз нямецкую падтрымку.*

***Кажан, Віталь** — нарадзіўся ў 1916 г.[485] у Заходняй Беларусі. Праваслаўны, жанаты. Па прафесіі школьны настаўнік. Адрас: 56 Lockwood Avenue, Stamford, Conn. У часе нямецкай акупацыі быў афіцэрам беларускага вайсковага аддзелу. У DP у амерыканскай зоне Нямеччыны.*

*Працяглы час займае пасаду скарбніка Рады БНР і засведчыў сябе здольным працаўніком. Уся ягоная ўвага скіраваная на фінансавыя праблемы Рады, намагаецца трымацца ўбаку ад нутраных канфліктаў.*

***Касяк, Іван (Джон)** — за 45 гадоў[486], нарадзіўся ў Вілейскім раёне ў Заходняй Беларусі. Праваслаўны, нежанаты, жыве ў Нью-Ёрку. Адрас:? Сярэднюю адукацыю атрымаў у Беларускай гімназіі ў Вільні. Студыяваў спачатку ў Віленскім*

---

[484] **Іван Касяк** (01.11.1909, в. Гіры (сёння Вілейскі р-н Мінскай вобл.) — 13.03.1989, Рывер-Форэст, ЗША), грамадскі дзеяч.

[485] Віталь Кажан нарадзіўся 9 кастрычніка 1916 г.

[486] Іван Касяк нарадзіўся 1 лістапада 1909 г.

*універсітэце, пасля ў Львоўскім політэхнічным — архітэктуру. У Вільні быў сябрам Беларускага студэнцкага саюзу і быў вядомы сваімі прасавецкімі поглядамі, магчыма, быў сябрам падпольнай камуністычнай арганізацыі. Пасля акупацыі Саветамі Заходняй Беларусі ў 1939 г. натуральна змяніў свае палітычныя прэферэнцыі.*

*У часе нямецкай акупацыі працаваў у Беларускай Народнай Самапомачы, быў адным з арганізатараў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Менску ў 1942 г. Пазней займаў становішча прадстаўніка БЦР у Глыбокім.*

*У Менску вядомы як галоўны прыхільнік і «правая рука» Др. Ермачэнкі, а таксама як тайны супрацоўнік і даносчык немцаў. Пашыранаю думкаю ў Менску было, што менавіта праз ягонае данасіцельства былі зліквідаваныя каталіцкія святары Гадлеўскі і Глякоўскі за іхную рэзкую крытыку нямецкай палітыкі ў Беларусі. За гэта быў рэзка крытыкаваны, часта і ў друку, прыхільнікамі Рады БНР.*

*Па сваёй ідэалогіі русафіл, антыкаталік.*

*Інтэлектуальна адзін з мацнейшых у БЦР, але па сваім характары крывадушны і без якіх маральных прынцыпаў, за што непапулярны і не надаецца да масавай арганізацыйнай працы. Цяпер адзін з галоўных прыхільнікаў Др. Шчорса ў апазіцыі да БЦР.*

***Каханоўскі, Аўген** — сапраўднае прозвішча Калубовіч. Імя змяніў у Нямеччыне з-за боязі дэпартацыі ў Савецкі Саюз. Праваслаўны, разведзены. Адрас: 2910 W 16th Street, Cleveland 13, Ohio. Студыяваў гісторыю літаратуры ў Менску. Перад пачаткам вайны займаў даволі высокую пасаду ў Міністэрстве адукацыі БССР, хутчэй за ўсё быў сябрам Камуністычнай партыі.*

*У часе нямецкай акупацыі сябра БЦР. Па заканчэнні вайны — у лагерах DP аме-*



*Аўген Калубовіч (Каханоўскі)*

*рыканскай зоны Нямеччыны. У ЗША ад 1950 (?), спачатку ў Нью-Ёрку, пасля ў Кліўлендзе, Агаё, дзе ўзначаліў аддзел Беларуска-амерыканскага задзіночання. Адначасна прэзідэнт Аб'яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якое ён на працягу трох гадоў спрабуе рэарганізаваць і актывізаваць.*

*Пасля таго, як М. Абрамчык ад імя Рады БНР разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей пагадзіўся на прапанову Амерыканскага камітэту вызваленьня ад бальшавізму аб стварэнні адзінага палітычнага цэнтру ў справе змагання супраць бальшавізму, Каханоўскі скрытыкаваў Абрамчыка і ягоную палітыку і пачаў ствараць апазіцыю ў Радзе БНР. Ягоная пазіцыя была наступнаю: ніякіх пагаджэнняў з Амерыканскім камітэтам, бо Камітэт відавочна прарасійскі, русафільскі ў дачыненні да праблемаў іншых народаў СССР. Галоўныя аргументы Каханоўскага супраць супрацоўніцтва з Камітэтам былі вельмі блізкімі да аргументаў украінскай палітычнай групы «Бендэраўцы» ў іхных нападах на Украінскую Нацыянальную Раду. Праз гэта шмат хто выказаваў здагадку, што Каханоўскі дзейнічае ў каардынацыі і з падтрымкаю гэтае групы.*

*На нутраным фронце Каханоўскі запатрабаваў рэарганізацыю Рады БНР, каб ягоная партыя мела болей прадстаўнікоў у Радзе. Ягоныя прапановы былі адкінутыя большасцю сяброў Рады на апошняй сесіі зімой 1953–1954 гг., а палітыка М. Абрамчыка ўхваленая.*

*Напрыканцы 1954 г. Каханоўскі выйшаў з Рады і заклікаў сябраў свае партыі зрабіць тое самае. Гэта прывяло да закалоту ў самой партыі, бо значная колькасць пакінула яе, а не Раду. На сённяшні момант складана сказаць, колькі сябраў засталося ў партыі Каханоўскага, але відавочна, што ўплыву яна бадай што не мае па-за межамі Кліўленду.*

*Сярод сябраў Рады БНР пашыраная думка, што ранейшая апазіцыя і пазнейшы закалот выкліканы не столькі ідэалагічнымі пытаннямі, колькі змаганнем за лідарства ў Радзе паміж Каханоўскім і Абрамчыкам.*

*Як чалавек Каханоўскі вельмі працавіты, здольны грамадскі дзеяч з пэўным ухілам да бюракратыі і адсутнасцю шырэйшага палітычнага бачання. Схільны да палітычнай дэмагогіі ў змаганні з сваймі апанентамі (тыповая рыса ў шматлікіх беларусах, што ўзгадаваліся пад савецкім рэжымам). Інтэлектуальна павярхоўны.*



*Яўхім Кіпель*

***Кіпель, Яўхім** — векам каля 60 гадоў[487]. Жыве па адрасе: 163 Fourth St., Passaic, N. J. Быў дацэнтам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту ў Менску, выкладаў сацыялогію. У 1930 г. бальшавікі арыштавалі яго як «нацдэма» і дэпартавалі ў высылку на 5 гадоў. Пазней Кіпеля кінулі ў канцлагер яшчэ на пяць гадоў. Падчас нямецкай акупацыі прэзідэнт БЦР Астроўскі прызначыў Кіпеля часова выконваючым абавязкі старшыні Усебеларускага кангрэсу, які быў скліканы з дазволу нямецкіх уладаў у апошнія дні перад тым, як Савецкая Армія заняла Менск і ўсю тэрыторыю Беларусі (канец чэрвеня 1944 г.).*

*У апошнія месяцы вайны ў Нямеччыне Кіпель выказваў свае «федэралісцкія» погляды і падтрымліваў палітычную дзейнасць рускага генерала Уласава. У эміграцыі ад пачатку належаў да прыхільнікаў лагеру БЦР, але заўсёды быў «праблемным дзіцяткам» БЦР, бо быў дзівачным і асацыяльным па характары, не ўмеў супрацоўнічаць з іншымі людзьмі. У БЦР у яго няшмат сяброў, а да лідараў БЦР ён знаходзіцца ў апазіцыі, таму і стварыў сабе «Беларускую народную партыю», якая фактычна ёсць партыяй аднаго сябра. У Нямеччыне ён друкаваў (памнажаў) перыядычны орган сваёй партыі — газету «Беларуская воля»[488], у якой горача абараняў свае прарасійскія і праўласаўскія погляды.*

*У ЗША Кіпель паспеў выдаць брашуру «Прынцыпы маралі» (1954). Яго не вельмі любяць ні ў адной арганізацыі, бо дзе ён — там спрэчкі і звадкі. У БЦР ён цэлы час быў самотнікам, не меў*

---

487 Яўхім Кіпель нарадзіўся 7 студзеня 1896 г.

488 **«Беларуская воля»** як орган Беларускай народнай партыі выходзіла ў Гарміш-Партэнкірхене ў 1947–1949 гг.

*сяброў, і толькі нядаўна (паколькі ў выніку разладу паміж Зарэчным[489] і д-рам Шчорсам Астроўскі згубіў шмат паслядоўнікаў) Кіпель ізноў пачаў прасоўвацца па кар'ернай лесвіцы БЦР.*

***Коўш, Святаслаў** — каля 40 гадоў[490], праваслаўны, жанаты, зараз жыве ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі. Сын праваслаўнага святара. Сярэднюю адукацыю атрымаў у Беларускай гімназіі ў Вільні. Пазней, на працягу аднаго году, наведваў заняткі на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэту. У часе нямецкай акупацыі займаў пасаду бургамістра невялічкага раённага гарадка Клецк. Пасля вайны — у брытанскай зоне Нямеччыны на пасадзе дырэктара беларускага лагеру Ватэнштэт.*



*Святаслаў Коўш*

*Ад самага пачатку сябра БЦР і прадстаўнік БЦР на брытанскую зону. У ЗША ад 1949 г. На апошняй сесіі БЦР восенню 1955 г. абраны сакратаром Прэзідыуму БЦР. У цяперашні час галоўны палітычны антаганіст і асабісты вораг Др. М. Шчорса. Па сваіх поглядах антыкаталік, мае русафільскія тэндэнцыі.*

***Куліковіч, Мікола** — сапраўднае імя Шчаглоў (Щеглов), змяніў прозвішча ў лагерах DP у Нямеччыне. Нарадзіўся пад Смаленскам, непадалёк ад усходняй этнаграфічнай беларускай мяжы. Каля 55 гадоў[491]. Адрас: 2925 W 15th St., Cleveland, Ohio. Праваслаўны, разведзены.*

---

489 **Людвік Зарэчны** (сапр. **Галубовіч,** 17.05.1915, Ратамка (сёння Мінскі р-н) — 15.09.1964, Мюнхен-Гладбах, Нямеччына), вайсковы і грамадскі дзеяч.

490 Святаслаў Коўш нарадзіўся 7 студзеня 1917 г.

491 Мікола Куліковіч нарадзіўся 4 красавіка 1893 г.

*Вядомы кампазітар, аўтар шматлікіх твораў, у тым ліку некалькіх операў і аперэтаў. Перад пачаткам апошняй вайны за музычную дзейнасць і працу ў БССР быў узнагароджаны ордэнам Леніна і іншымі медалямі.*

*Ягоныя лепшыя творы былі напісаныя і пастаўленыя на сцэне ў часе нямецкай акупацыі. У лагерах DP у Нямеччыне арганізаваў вельмі папулярную групу — Беларускі тэатр эстрады. У ЗША ад 1950 г. Спачатку жыў у Нью-Ёрку, ад 1953 г. у Кліўлендзе. Ужо ў ЗША выдаў кароткую гісторыю беларускай музыкі[492] і кнігу беларускіх песень[493].*

*Вельмі таленавіты кампазітар, найбольш вядомы сярод беларускіх эмігрантаў. Палітыкай не займаецца і ўсяляк яе пазбягае, але на практыцы падтрымлівае Раду БНР. Мае схільнасць да алкагалізму.*

***Кушаль, Наталля** — паэтка, больш вядомая сярод беларусаў і ў беларускай літаратуры пад сваім дзявочым прозвішчам — Арсеннева. Пад гэтым прозвішчам яна друкуе свае вершы. Нарадзілася 20 верасня 1903 г. Жонка генерала Кушаля, праваслаўная. Сярэднюю адукацыю атрымала ў Беларускай гімназіі ў Вільні. Пазней вывучала літаратуру ў Віленскім універсітэце.*

*Друкуецца з 1921 г. Выйшла 4 зборнікі яе вершаў: «Пад сінім небам» (1927), «Жоўтая восень» (1937), «Сягоньня» (1944), «Не астыць нам» (1948). Увесну 1940 г. НКВД дэпартавала яе разам з двума дзецьмі ў Казахстан. Прычынай дэпартацыі, магчыма, паслужыў факт, што ў гэты час яе муж знаходзіўся ў маскоўскай турме на Лубянцы як афіцэр польскай арміі і ваеннапалонны.*



*Наталля Арсеннева (Кушаль)*

[492] Куліковіч, М. Беларуская музыка: кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва. NY, 1953.

[493] Byelorussian songs & dances. Cleveland, 1960.

*Увесну 1941 г. Арсеннева была вызвалена з высылкі і вярнулася дадому. Падчас нямецкай акупацыі супрацоўнічала ў «Беларускай газеце», якая выдавалася ў Менску. Таксама была актыўнай супрацоўніцай Гарадскога тэатру ў Менску — пісала лібрэта операў на музыку кампазітара М. Куліковіча, а таксама перакладала драматычныя творы сусветнай літаратуры на беларускую мову.*

*Пасля заканчэння вайны знаходзілася ў лагерах DP у амерыканскай зоне Нямеччыны. Эміґравала ў ЗША ў 1950 г. У 1952–1953 гг. — рэдактар газеты «Беларус», якая выдавалася ў ЗША штодватыдні. Сакратар Беларускага інстытута навукі і мастацтваў (БІНіМ). Сурэдактар беларускага часопіса «Конадні», прысвечанага пытанням навукі і мастацтва і выдаванага БІНіМ. Адна з найстарэйшых беларускіх пісьменніц эміґрацыі. Заўсёды бярэ актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку.*

***Кушаль, Францішак** — генерал. Нарадзіўся 16 лютага 1895 г. у мястэчку Доры (Заходняя Беларусь). Вайсковую службу пачаў у якасці добраахвотніка, змагаючыся ў складзе войскаў БНР з бальшавікамі ў 1920-х гг. У міжваенныя часы служыў у польскім войску, быў афіцэрам. Перад пачаткам Другой сусветнай вайны атрымаў чын капітана. Падчас усёй службы ў польскім войску выкладаў у вайсковых вучэльнях, быў спецыялістам у галіне аўтаматычнай зброі.*



*Францішак Кушаль*

*Пасля паразы польскай арміі ў 1939 г. трапіў у савецкі палон. З лагеру ваеннапалонных яго перавезлі ў Маскву і кінулі ў турму на Лубянцы, дзе ён сядзеў разам з польскім генералам Андэрсам і іншымі афіцэрамі польскага войска. Вызвалены з Лубянкі ўвесну 1941 г., незадоўга да пачатку нямецка-савецкай вайны, Кушаль вярнуўся дадому. Падчас нямецкай акупацыі Беларусі знаходзіўся ў Менску (з восені 1941 г.), займаўся арганізацыяй першых аддзелаў беларускай паліцыі. Пазней, у 1943 г., калі нямецкія ўлады дазволілі арганізаваць беларускія вайсковыя адзінкі (аддзелы Беларускай краёвай абароны), Кушаль, тады ў чыне палкоўніка, узначаліў гэтае вайсковае ўтварэнне. У канцы вайны, пасля выезду з Беларусі, генерал Кушаль камандаваў некаторымі аддзеламі БКА на заходнім*

*нямецкім фронце ў паўднёвай Нямеччыне, дзе гэтыя аддзелы ў 1945 г. здаліся войскам саюзнікаў. У 1943–1944 гг. быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады ў Менску, адказным за вайсковыя пытанні.*

*На эміграцыі займаў пасаду старшыні Беларускай арганізацыі ветэранаў. У 1952–1953 гг. быў старшынём Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА). Да палітычнай і арганізацыйнай працы выявіў хутчэй абмежаваныя здольнасці. Быў больш таленавітым як выкладчык вайсковай справы і меў вялікі досвед у гэтай галіне, у той час як на пасадзе камандзіра вайсковага злучэння дэманстраваў больш сціплыя поспехі.*

*Падчас ягонага старшынёўства ў БАЗА гэтая арганізацыя атрымала ад Амерыканскага камітэту вызвалення ад бальшавізму фінансавую дапамогу на выданне газеты «Беларус» (тысячу даляраў у месяц, на тэрмін 17 месяцаў). Паколькі фінансавая падтрымка была канфідэнцыйнай, пазней асабістыя ворагі генерала Кушаля ў Радзе БНР распачалі кампанію супраць яго, высунуўшы абвінавачанне, што частку грошай ён прысабечыў (асноўнымі абвінаваўцамі выступілі др. Я. Станкевіч і др. А. Орса). На іхнае запатрабаванне была створаная адмысловая камісія Рады БНР для праверкі фінансавай дзейнасці БАЗА. Камісія не знайшла ніводнага факту, які б пацвярджаў абвінавачанне ў фінансавых махінацыях. Тым не менш, палітычныя канкурэнты генерала Кушаля працягваюць выкарыстоўваць такія абвінавачанні ў дэмагагічных мэтах — каб дыскрэдытаваць і выдаліць яго з грамадскага жыцця.*

*Асабістыя ворагі генерала Кушаля (большай часткай з ліку сяброў БЦР) любяць таксама перыядычна выцягваць на свет факт ягонага вызвалення з маскоўскай турмы ў 1941 г. — уздымаючы падазрэнні, што перад вызваленнем Кушаль быў завербаваны НКВД у якасці сакрэтнага агента. Гэтыя закіды не пацвярджаюцца ніводным фактам з біяграфіі генерала Кушаля за апошнія 14 гадоў. Яго дзейнасць на працягу ўсяго гэтага часу яскрава сведчыць супраць такіх абвінавачанняў.*

***Лапіцкі, Мікалай** — праваслаўны святар. Векам каля 50 гадоў[494]. Нарадзіўся ў Вілейскім павеце (Заходняя Беларусь). Атрымаў адукацыю ў праваслаўнай семінарыі ў Вільні.*

---

494 Мікалай Лапіцкі нарадзіўся 31 снежня 1907 г.

*Пазней студыяваў тэалогію ў Варшаўскім універсітэце. Падчас нямецкай акупацыі пераехаў у Менск і працаваў у адміністрацыі мітрапаліта Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1942 г. уваходзіў у Раду Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Менску. У паваеннай Нямеччыне знаходзіўся ў амерыканскай зоне.*



*Мікалай Лапіцкі*

*Пераехаў у ЗША ў 1950 г. Цяпер — парафіяльны святар беларускай праваслаўнай царквы ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі), цытадэлі БЦР. Адміністрацыйна а. Мікалай і ягоная царква знаходзяцца ў юрысдыкцыі Грэцкай праваслаўнай царквы ў ЗША на чале з архіепіскапам Міхаілам. Як святар адзінай праваслаўнай парафіі ў ЗША, якая падтрымлівае БЦР, а. Мікалай мае цяпер значна большы ўплыў на палітыку БЦР, чым ён меў калісьці ў Еўропе. Ужо сёння ён да пэўнай ступені кантралюе шэрагі прыхільнікаў БЦР у Саўт-Рыверы.*

*Палітычныя ворагі ў Нямеччыне закідалі а. Мікалаю, што ён больш цікавіцца грашовымі махінацыямі, чым багаслужбамі. У тыя дні ён нават меў непрыемнасці з нямецкай паліцыяй за спекуляцыю і ўдзел у нелегальных гандлёвых аперацыях — вельмі распаўсюджаны занятак у паваеннай Нямеччыне.*

***Ліманоўскі, Янка** — нарадзіўся ў 1896 г., каталік, нежанаты. Па прафесіі пісьменнік, журналіст і тэатральны работнік. Першы раман надрукаваў у 1925 г. у БССР, пазней выдаў яшчэ шмат кніг. Як празаік ён пісьменнік сярэдняй рукі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у адміністрацыі Гарадскога тэатру ў Менску. Пасля вайны знаходзіўся ў лагеры DP у амерыканскай зоне Нямеччыны. Эміграваў у ЗША ў 1949 (?) г., спачатку жыў*

*у Чыкага, ад 1952 г. — у Нью-Ёрку. У красавіку 1954 г. падпісаў з Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму кантракт на адзін год на працу ў Беларускай рэдакцыі радыё «Вызваленьне» (Мюнхен), і з таго часу жыве ў Нямеччыне. На думку амерыканскіх супрацоўнікаў радыё «Вызваленне», Ліманоўскага нельга залічыць да лепшых працаўнікоў: ён не вельмі пладавіты, а ў дадатак пачаў змагацца за пасаду дырэктара Беларускай рэдакцыі. З гэтых прычынаў Ліманоўскаму не працягнулі працоўнае пагадненне — пасля таго, як ягоны кантракт скончыўся першага красавіка гэтага году, Ліманоўскі быў вызвалены ад сваіх абавязкаў і, хутчэй за ўсё, ён неўзабаве вернецца ў ЗША.*

*У выдадзенай у Маскве ў 1932 г. «Литературной энциклопедии», т. 4, на старонках 373–374 друкуецца біяграфія Ліманоўскага. Там, у прыватнасці, гаворыцца: «…паходжаннем з сялянаў… член Камуністычнай партыі (РСДРП) з 1918 г.… сябра Камітэту рэвалюцыйнай бяспекі ў Пецярбургу… служыў у Чырвонай Арміі… на пасадзе ваенкама дывізіі…. стваральнік Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП)…»*

*Вядома, што пазней Ліманоўскі быў «вычышчаны» з Камуністычнай партыі, бо НКВД выкрыла, што ён утойваў некаторыя звесткі з сваёй біяграфіі. На эміграцыі вядзе спакойнае, выключна прыватнае жыццё. Іншыя пісьменнікі з БССР не вельмі любяць Ліманоўскага за ягоную былую дзейнасць, асабліва за ўдзел у стварэнні «БелАПП», якая паставіла пісьменнікаў пад суровы камуністычны кантроль. З пачатку Другой сусветнай вайны Ліманоўскі не выяўляў актыўнасці як пісьменнік і вельмі рэдка друкаваў штосьці як журналіст. Магчымая прычына — апатыя, выкліканая векам (цяпер яму каля 60 гадоў).*

***Ляшчынскі, Міхась** — векам каля 40 гадоў[495]. Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 64 Armstrong Ave., South River, N. J. Паэт, па прафесіі — школьны настаўнік. Больш вядомы сярод беларускай эміграцыі пад сваім літаратурным псеўданімам Кавыль.*

*Вучыўся ў педагагічным тэхнікуме ў Менску. У 1933 арыштаваны як «нацдэм», атрымаў тры гады лагераў. Падчас нямецка-савецкай вайны быў салдатам Чырвонай Арміі,*

[495] Міхась Ляшчынскі (Кавыль) нарадзіўся 1 снежня 1915 г.

*пазней — ваеннапалонным у лагеры ў Нямеччыне. Быў вызвалены немцамі як таленавіты прапагандыст і накіраваны ў Менск, каб весці там пранямецкую прапагандысцкую працу сярод беларускай моладзі.*

*На эміграцыі надрукаваў дзве кніжачкі вершаў: «Ростань» (Рэгенсбург, 1947) і «Пад зорамі белымі» (Нью-Ёрк, 1954). У паэзіі не вылучаецца вялікім талентам. Паводле палітычных перакананняў — сталы прыхільнік БЦР, у апошнія гады ў ЗША трохі адышоў ад палітыкі.*



*Міхась Ляшчынскі (Кавыль)*

***Манькоўскі, Пётра** — нарадзіўся 8 ліпеня 1916 г. у вёсцы Тарапец. Праваслаўны, нежанаты. Жыве па адрасе: 567 New Jersey Avenue, Brooklyn 7, N. Y. Тэл. HY-5-3254. Вывучаў права ў Віленскім універсітэце, а пазней — у Мюнхенскім універсітэце, у Нямеччыне. Цяпер працягвае студыяваць права ў Нью-Ёрку. Быў палітычна актыўным у студэнцкіх арганізацыях Нямеччыны, а потым у ЗША, дзе на працягу некалькіх гадоў, пачынаючы з 1954, узначальваў Беларускае студэнцкае таварыства ў ЗША. Здольнасці да публіцыстыкі і палітычнай працы абмежаваныя. Сёлетняй вясной плануе закончыць універсітэт.*

***Махноўскі, Аляксандр** — векам старэйшы за 60 год. Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 106 Wyckoff St., Brooklyn 2, N. Y. Перад апошняй вайной працаваў школьным настаўнікам у беларускіх раёнах Латвіі. Меў латышскае грамадзянства. Не вылучаўся вялікімі здольнасцямі да палітыкі або асаблівымі талентамі. На працягу некалькіх гадоў быў старшынём прэзідыуму Рады БНР — не столькі з прычыны свайго асабістага аўтарытэту ці здольнасцяў, а хутчэй як кампрамісная фігура, якая магла задаволіць усе палітычныя*

*і персанальныя групоўкі ў Радзе. З 1953 г. адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў Радзе БНР. Асабісты вораг генерала Кушаля.*

*Калі практычна ўсе навукоўцы пакінулі Крывіцкае навуковае таварыства д-ра Янкі Станкевіча, у лютым 1955 г. той узяў Махноўскага на пасаду старшыні свайго таварыства. Насамрэч Махноўскі з'яўляецца «першай асобай» толькі намінальна, бо ў рэальнасці дзейнасцю таварыства кіруе ягоны сапраўдны бос — др. Я. Станкевіч. Сам Махноўскі ніколі не напісаў і не надрукаваў ні радка на навуковыя ці калянавуковыя тэмы і не мае нічога супольнага ні з навукай, ні з літаратурай, ні з публіцыстыкай.*



Канстанцін Мерляк

***Мерляк, Канстанцін*** *— векам каля 40 гадоў*[496]*. Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 118 South 3rd. Street, Brooklyn 11, N. Y. Тэл.: EV-76845. У цяперашні час займае пасаду старшыні Нью-ёркскага аддзелу БАЗА (пададдзелы Manhattan, Brooklyn, Maspeth). Таксама з'яўляецца старшынём амерыканскага сектару ў Радзе БНР ад снежня 1954 г.*

*У ЗША жыве ад ліпеня 1954 г. Да гэтага часу знаходзіўся ў Аргенціне, дзе таксама займаў пасаду старшыні аргенцінскага сектару ў Радзе БНР. Шмат гадоў быў галоўным арганізатарам і старшынём Згуртавання беларусаў Аргенціны. Эміграваў у Аргенціну з Італіі пасля Другой сусветнай вайны.*

*Паводле прафесіі — бухгальтар. Вельмі здольны да арганізацыйнай працы сярод беларускіх эмігрантаў, што пацвярджаецца ягонай дзейнасцю ў Аргенціне і ЗША. Працавіты ў грамадскай працы, са схільнасцямі да бюракратычнага парадку; калі займаў кіроўчыя пасады ў некаторых арганізацыях, часам абвінавачваўся ў «дыктатарскіх» замашках.*

*Цяпер заняты пераважна пошукам сродкаў на пакупку Беларускага дому ў Нью-Ёрку. Мерляк з'яўляецца старшынём камітэту, арганізаванага адмыслова для гэтай мэты.*

***Міцкевіч, Міхась*** *— нарадзіўся ў 1897 г. у Мікалаеўшчыне (Заходняя Беларусь). Праваслаўны, нежанаты. Прафесія —*

[496] Канстанцін Мерляк нарадзіўся 25 снежня 1919 г.

*школьны настаўнік. Таксама актыўны як публіцыст. Жыве па адрасе: 106 Herzle St., Brooklyn 12, N. Y.*

*У бягучы момант — намеснік старшыні Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА) і рэдактар перыядычнага выдання БАЗА — газеты «Беларус». Добры, працавіты арганізацыйны работнік з сярэднімі здольнасцямі. Асабісты вораг сп. Каханоўскага. Ягоны брат, які цяпер жыве ў БССР, — славуты пісьменнік, пераважна вядомы пад сваім літаратурным псеўданімам Якуб Колас.*



Аляксандр Орса

***Орса, Аляксандр*** *— нарадзіўся ў 1896 г.*[497] *у Заходняй Беларусі. Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 17-19 Pennsylvania Ave., Apt. 20. Brooklyn 7, N. Y. Вывучаў геаграфію ў Празе (Чэхаславакія), атрымаў ступень доктара навук. Пазней настаўнічаў у беларускай гімназіі ў Наваградку. Падчас нямецкай акупацыі — інспектар пачатковых школ.*

*У лагеры DP у амерыканскай зоне Нямеччыны быў дырэктарам беларускай гімназіі. У ЗША ад 1949 г. Сябра Беларускай нацыянал-дэмакратычнай партыі сп. Каханоўскага. Да 1954 г. быў старшынём амерыканскага сектару Рады БНР. На гэтай пасадзе не выявіў ні арганізатарскіх здольнасцяў, ні актыўнасці. Асабісты вораг генерала Кушаля. Характарам надаецца больш на школьнага настаўніка, чым на палітычнага дзеяча.*

[497] Аляксандр Орса нарадзіўся 24 ліпеня 1896 г.

***Орса, Пётра*** *— векам каля 50 гадоў*[498]*. Нарадзіўся на Наваградчыне, у Заходняй Беларусі. Праваслаўны, жанаты, цяпер жыве ў Саўт-Рыверы. Вывучаў сельскую гаспадарку ў Празе (Чэхаславакія). Пасля атрымання дыплому вярнуўся дадому і арганізаваў каапературыўную ферму ў Наваградскім павеце.*

*Падчас нямецкай акупацыі быў прызначаны кіраўніком дэпартаменту сельскай гаспадаркі пры Беларускай Цэнтральнай Радзе (1943–1944). Пазней у Нямеччыне знаходзіўся ў шэрагах абаронцаў БЦР (у той час як ягоны брат Аляксандр заўсёды быў палкім прыхільнікам Рады БНР).*


*Мікола Панькоў*

***Панькоў, Мікола*** *— нарадзіўся 12 чэрвеня 1911 г. у Люцыне, што знаходзіўся ў беларускім раёне пазнейшай Рэспублікі Латвія. Каталік, жанаты. Жыве па адрасе: 56-49, 59th Place, Maspeth 78, L. I., N. Y. Адукацыя — няскончаная сярэдняя (гімназія). Пасля вайны знаходзіўся ў лагеры DP у Ольдэнбургу, у брытанскай зоне Нямеччыны. Заснаваў там Беларускую бібліяграфічную службу — установу, якая складалася з аднаго чалавека. Таксама запачаткаваў Асацыяцыю беларускіх журналістаў. Гэтая арганізацыя фактычна не дзейнічала, існавала толькі на паперы. Было агульнавядома, што Панькоў супрацоўнічаў з брытанскай выведкай у Заходняй Нямеччыне.*

*У палітычных поглядах Панькоў вядомы як прыхільнік і безаглядны паслядоўнік Сяргея Хмары (Таронта, Канада), якога некалькі гадоў таму выкінулі з Рады БНР. Панькоў — «таемны інфарматар» Хмары ў Радзе БНР, і на замову Хмары Панькоў публікуе палітычныя памфлеты, нярэдка ананімныя.*

*Панькоў — вельмі працавіты чалавек, але слабы характарам і з абмежаванымі інтэлектуальнымі здольнасцямі. Не маючы цвёрдых перакананняў, заўсёды шукае якога-небудзь*

[498] Пётра Орса нарадзіўся 21 чэрвеня 1898 г.

*ідэалагічнага «лідара», да якога ён мог бы прыхінуцца. Мае паталагічную схільнасць да «стварэння» навінаў і фактаў. Ніколі не вядома, колькі ў ягоных словах праўды, а колькі выдумкі альбо жаданага, што выдаецца за сапраўднае. Гэтыя слабасці характару вытлумачваюць, чаму сярод беларускіх эмігрантаў, якія ведаюць яго, Панькоў не карыстаецца аўтарытэтам і чаму яму не давяраюць. Ён зусім не ўмее піць — пасля некалькіх чарак не здольны адказваць за свае словы ці ўчынкі. З гэтых прычынаў Панькоў не можа быць карысным для сур'ёзнай палітычнай працы і пагатоў для сакрэтных палітычных заданняў.*

*Калі Панькоў спрабаваў свае сілы як журналіст, пісьменнік і навуковы работнік, ува ўсіх гэтых галінах ён дэманстраваў больш чым сціплыя вынікі. Валодае несумненным талентам збіральніка і здольнасцямі да бібліяграфічнай працы. Выдаў брашуру «Бібліяграфія беларускіх уцекачоў» (Нью-Ёрк, 1958).*

***Пануцэвіч, Вацлаў** — векам звыш 40 гадоў[499]. Жыве па адрасе: 2042 W. St. Paul Avenue, Chicago, Ill. Каталік, жанаты. Падчас палітычных праверак у лагерах DP памяняў сваё прозвішча. Ягонае сапраўднае прозвішча — не Пануцэвіч, але Папуцэвіч. Атрымаў сярэднюю адукацыю ў Горадні (Заходняя Беларусь). Пазней некалькі гадоў вучыўся на святара ў каталіцкай семінарыі ў Вільні. Быў адлічаны з семінарыі за беларускія патрыятычныя погляды, якія раздражнялі шавіністычны польскі клір. Пасля выключэння з семінарыі студыяваў права ў Віленскім універсітэце і атрымаў ступень магістра права незадоўга да Другой сусветнай вайны.*

*Падчас савецкай акупацыі Заходняй Беларусі ў 1939–1941 гг. працаваў настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі спачатку быў старшынём Беларускага камітэту ў Горадні, пазней займаў розныя пасады ў Баранавічах. Апошняя пасада — адміністрацыйны працаўнік у нямецкім SD (Sicherheits-Dienst).*

*Знаходзіўся ў лагерах DP брытанскай зоны Нямеччыны (спачатку ў Ватэнштэце, потым у Фленсбургу). У гэты час быў вельмі актыўны як арганізатар беларускага скаўтынгу*

[499] Вацлаў Пануцэвіч нарадзіўся ў 1910 г.

*і галоўны магістар беларускіх скаўтаў. Галоўны рэдактар бюлетэню беларускіх скаўтаў «Скаўцкая служба»*[500].

*Эміграваў у ЗША ў 1949(?) г. Цяпер — старшыня Беларускай асацыяцыі штату Ілінойс. Апроч таго, вядзе навуковую працу, даследуючы праблемы беларускай гісторыі. У 1953 г. выдаў кнігу «Жамойць і Літва — розныя краіны і народы» (памерам каля 400 бачынаў).*

*У цэлым Пануцэвіч не вельмі папулярны як палітычны актывіст. Ён больш кабінетны работнік. У цяперашні час валодае ў беларускім жыцці Чыкага палітычнай значнасцю мясцовае вагі як старшыня тамтэйшай беларускай арганізацыі і як галоўны прадстаўнік Рады БНР на месцы.*

***Русак, Аляксандр** — нарадзіўся ў 1907 г. у Баранавіцкай акрузе (Заходняя Беларусь). Праваслаўны, жанаты. Жыве ў Саўт-Рыверы, штат Нью-Джэрсі. Скончыў політэхнікум у Познані (Польшча). Называе сябе інжынерам, хаця насамрэч не мае дыплому аб інжынернай адукацыі*[501]*. У 1939–1941 гг. быў старшынём Беларускага нацыянальнага камітэту ў Познані. Пазней, падчас нямецкай акупацыі, працаваў у Беларускай нацыянальнай самапомачы, быў кіраўніком адміністрацыі політэхнічнай школы ў Баранавічах. Ад 1943 г. — бургамістр гораду Баранавічы.*

*У 1944 г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Празе (Чэхславакія). У 1945 г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэту ў Рэгенсбургу (Нямеччына, амерыканская зона). Ад 1948 г. знаходзіцца на кіраўнічых пасадах у БЦР. У апошнія два гады — старшыня калегіуму БЦР. Ад 15 кастрычніка 1954 г. прызначаны ў БЦР на пасады старшыні выканаўчага камітэту і адказным за «замежныя справы».*

*Не валодае бліскучымі інтэлектуальнымі здольнасцямі, але выяўляе актыўнасць у розных галінах палітычнай дзейнасці БЦР у Саўт-Рыверы.*

---

[500] Маецца на ўвазе перыёдык Skauckaja Infarmacyjnaja Služba, які выходзіў у Ватэнштэце ў 1946–1950 гг.

[501] Паводле іншых звестак, Аляксандр Русак скончыў універсітэт у Познані і меў дыплом інжынера.

***Сабалеўскі, Юры*** *— векам старэйшы за 60 гадоў[502]. Праваслаўны, нежанаты. Па прафесіі землямер. Жыве цяпер у Нью-Ёрку. Нарадзіўся ў Заходняй Беларусі. У 1923–1928 гг. быў выбраны ў польскі Сойм і належаў да прасавецкай фракцыі заходнебеларускіх кангрэсменаў, якая называлася «Грамада». Быў таксама чальцом цэнтральнага камітэту палітычнай партыі з такой самай назвай — «Грамада» (Беларуская сялянска-работніцкая грамада). На пасадзе кангрэсмена асаблівай актыўнасцю не вылучаўся. Пасля таго, як польская адміністрацыя забараніла партыю «Грамада» ў 1927 г. за камуністычную прапаганду, Сабалеўскі быў арыштаваны і некалькі гадоў прасядзеў у турме.*



***Юры Сабалеўскі***

*Падчас нямецкай акупацыі спачатку быў бургамістрам Баранавічаў. Потым заняў пасаду старшыні Беларускай народнай самапомачы. Калі ў снежні 1943 г. немцы ўтварылі Беларускую Цэнтральную Раду, Сабалеўскі стаў другім намеснікам прэзідэнта, адказным за сацыяльнае забеспячэнне і кантроль.*

*На эміграцыі — адзін з лідараў аднаўленай БЦР, калі не сказаць — заўсёды галоўны яе кіраўнік. У апошнія гады знаходзіцца ў моцнай асабістай апазіцыі да прэзідэнта БЦР Астроўскага. Адзін з галоўных паплечнікаў доктара Шчорса ў змаганні таго з аўтакратыяй Р. Астроўскага ў БЦР. Чалавек з сярэднімі здольнасцямі, з пэўным талентам адміністратара.*

***Савёнак, Лявон*** *— публіцыст. Нарадзіўся ў 1897 г. Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 52 Box 182, Odessa Avenue, R. I. Egg Harbor City, N. Y. У 1932 г. быў арыштаваны ў Менску па абвінавачанні ў прыналежнасці да беларускай нацыяналістычнай падпольнай арганізацыі «Беларускі нацы-*

---

[502] Юры Сабалеўскі нарадзіўся 24 красавіка 1889 г.



*Лявон Савёнак*

*янальны цэнтр», атрымаў 5 (?) гадоў высылкі.*

*Падчас нямецкай акупацыі — супрацоўнік «Беларускай газеты» ў Менску. Знаходзіўся ў лагерах DP у амерыканскай зоне Нямеччыны. Непрацяглы час быў рэдактарам штотыднёвіка «Бацькаўшчына» ў Мюнхене. Эміграваў у ЗША ў 1949 (?) г. Старшыня палітычнай арганізацыі «Беларускі нацыянальны цэнтр», якую з 1952 г. ён спрабуе адрадзіць без якога-небудзь відавочнага поспеху. Гэтую арганізацыю сёння падтрымлівае Беларуская нацыянал-дэмакратычная партыя на чале з сп. Каха624ўскім (Савёнак і сам належыць да гэтай партыі) і некаторыя іншыя асобы.*

*У апошнія гады не быў плённым публіцыстам, магчыма, з увагі на век (каля 60 гадоў) ці на алкагалізм. Увесну 1955 набыў ферму ў Эг-Харбар Сіці, у штаце Нью-Джэрсі, і перабраўся туды з Нью-Ёрку.*

***Станкевіч, Янка** — векам каля 65 гадоў*[503]*. Філолаг, фактычны і адзіны кіраўнік Крывіцкага навуковага таварыства. Рэдактар навуковага часопіса «Vieda», у якім каля 90% артыкулаў напісаныя ім самім. «Праблемнае дзіцё» беларускага палітычнага і грамадскага жыцця на працягу многіх дзесяцігоддзяў — бо характар ён мае арыгінальны, дзівачны і капрызны, а ў дадатак не падпарадкоўваецца ніводнай арганізацыйнай структуры, ніводнаму рашэнню большыні,*



*Янка Станкевіч*

[503] Янка Станкевіч нарадзіўся 26 лістапада 1891 г.

*ніводнаму прынцыпу. Жыве па адрасе: 6 Vandervoort Place, Brooklyn 6, N. Y.*

*Станкевіч нарадзіўся ў вёсцы Арляняты Ашмянскага павету, у Заходняй Беларусі. Вывучаў філалогію ў Празе (Чэхаславакія), дзе атрымаў ступень доктара навук (1926? г.). Вярнуўся ў Вільню і распачаў сваю палітычную кар'еру ў часе выбараў у польскі Сойм 1928 г. Будучы вельмі слабым аратарам і агітатарам, не маючы сяброў-палітыкаў і не карыстаючыся падтрымкай масаў, ён тым не менш здолеў апынуцца ў Сойме. Камуністычная партыя ў Польшчы была тады забароненая, знаходзілася на нелегальным становішчы, і таму, каб правесці сваіх прадстаўнікоў у польскі Сойм, Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ) шукала некамуністаў, згодных пад сваім імем легалізаваць для выбараў камуністычны выбарчы спіс. Доктар Я. Станкевіч згадзіўся стаць легальным імем для такога камуністычнага спісу па Вілейскай выбарчай акрузе. Узамен камуністычная партыя дала д-ру Станкевічу матэрыяльную дапамогу для правядзення агітацыі сярод выбаршчыкаў.*

*У выніку гэтай таемнай дамовы спіс д-ра Станкевіча правёў у польскі Сойм двух прадстаўнікоў — першым быў сам Станкевіч, бо ягонае імя стаяла ў самым версе, каб замаскаваць камуністычную сутнасць спісу, а другім — камуніст Валынец.*

*Нягледзячы на гэтую палітычную «гандлёвую аперацыю», у сваіх поглядах д-р Станкевіч ніколі не быў ні камуністам, ні прыхільнікам камуністаў. Але памянёны эпізод красамоўна характарызуе асобу д-ра Станкевіча: ён заўсёды быў гатовы пераступіць цераз палітычныя альбо маральныя прынцыпы, калі гэта прыносіла яму матэрыяльныя выгоды альбо ішло на карысць ягонай кар'еры.*

*Пасля двух гадоў у польскім Сойме д-р Станкевіч завалодаў невялікай крамай канцылярскіх тавараў у Вільні і ў той самы час выкладаў беларускую мову ў Віленскім універсітэце. Пасля таго, як у 1939 г. Польшча атрымала паразу, а савецкая армія акупавала Заходнюю Беларусь, д-р Станкевіч уцёк у Нямеччыну (Усходняя Прусія), а пазней пераехаў да сям'і сваёй жонкі ў Прагу.*

*Падчас нямецкай акупацыі Беларусі ён прыехаў у Менск і працаваў у адукацыйным аддзеле Генеральнага Камісарыяту.*

*Пасля заканчэння вайны знаходзіўся ў амерыканскай зоне Нямеччыны, у Рэгенсбургу. Нярэдка гучалі абвінавачанні, што менавіта на падставе ягонага даносу нямецкія ўлады закатавалі каталіцкага святара Вінцэнта Гадлеўскага, выбітнага беларускага нацыянальнага дзеяча, які быў асабістым ворагам д-ра Станкевіча.*

*У першыя гады эміграцыі ў лагерах DP д-р Станкевіч быў адным з лідараў у Радзе БНР, але з цягам часу ён усё больш і больш сварыўся з астатнімі і пазней апынуўся ў малой апазіцыйнай меншыні на задворках Рады. Гэтая трансфармацыя была выклікана не нейкімі ідэалагічнымі ці палітычнымі прычынамі, але больш адлюстроўвала той факт, што д-р Станкевіч паступова губляў свой аўтарытэт сярод чальцоў Рады БНР. У 1954 г. падчас аднаго са сходаў амерыканскага аддзелу Рады БНР была высунутая і падтрыманая прапанова прасіць наступную сесію Рады БНР выключыць д-ра Станкевіча з яе шэрагаў. Падставамі для выключэння было шантажаванне Станкевічам некаторых сяброў Рады і ягоныя дзеянні, што падрывалі палітычны аўтарытэт Рады БНР.*

*Сквапны на грошы, Станкевіч неаднаразова быў ублытаны ў грашовыя махінацыі. Як шырока вядома ў Нью-Ёрку, з 8 тысячаў даляраў, якія Усходнееўрапейскі фонд выдзеліў Крывіцкаму навуковаму таварыству для публікацыі навуковых матэрыялаў, больш чым палову забраў сабе д-р Станкевіч для сваіх асабістых мэтаў (купля дома). У Нью-Ёрку д-р Станкевіч арганізаваў выдавецкую суполку. Гэтая фірма праіснавала вельмі нядоўга, бо не мела заказаў, і ўсе сябры выдавецкай суполкі страцілі свае грошы, якія перацяклі да сапраўднага гаспадара фірмы, д-ра Станкевіча. Як навуковец ён нямоцны ў філалогіі, але на эміграцыі ён адзіны актыўны беларускі філолаг.*

***Стукаліч, Юры** — сапраўднае імя — Серафім Шчарбакоў. Памяняў прозвішча на Стукаліч падчас палітычных праверак у лагерах DP у Нямеччыне. Сярод беларускіх эмігрантаў і ў Беларусі вядомы пераважна пад сваім псеўданімам Юрка Віцьбіч. Жыве па адрасе: 8 Mageira Str., South River, N. J. Нарадзіўся 2 чэрвеня 1905 г. ува Усходняй Беларусі, у сям'і праваслаўнага святара. Адукацыя — педтэхнікум. Пісьменнік і публіцыст. У Беларусі, пачынаючы з 1929 г., надрукаваў*



Юрка Стукаліч (Віцьбіч)

*некалькі раманаў. Напачатку 30-х гадоў камуністычныя крытыкі цкавалі яго за «нацдэмаўскія» адхіленні ў раманах, аднак яму пашчасціла пазбегнуць турмы і высылкі.*

*Падчас нямецкай акупацыі выяўляў актыўнасць як пісьменнік, журналіст і супрацоўнік некалькіх беларускіх газет. Пасля вайны знаходзіўся ў амерыканскай зоне Нямеччыны (лагеры DP у Рэгенсбургу і Міхельсдорфе). Быў асноўным публіцыстам і палітычным лідарам апазіцыі ў Радзе БНР. Менавіта Стукаліч быў тым чалавекам, хто закладаў палітычны і ідэалагічны падмурак апазіцыі ў Радзе. Гэта ён задумаў адрадзіць БЦР як контрарганізацыю для Рады БНР. У той час Стукаліч быў асабістым ворагам Антона Адамовіча, галоўнага публіцыста і спікера Рады БНР у 1946–1949 гг. Палітычныя спрэчкі і суперніцтва паміж імі былі першымі прычынамі палітычнага расколу паваеннай беларускай эміграцыі на два супрацьлеглыя палітычныя лагеры.*

*Але яшчэ перад тым, як Стукаліч пераехаў у Злучаныя Штаты, ён увайшоў у глыбокія супярэчнасці з астатнімі лідарамі лагеру БЦР і з цягам часу быў адштурхнуты сваёй палітычнай групоўкай, моц якой ён у значнай ступені збудаваў уласнаручна. Ужо ў ЗША, 9 ліпеня 1951 г., ён афіцыйна сышоў з БЦР і абвясціў свой палітычны «нейтралітэт» да абедзвюх груповак — БНР і БЦР. Але неафіцыйна цяпер ён хутчэй падтрымлівае Раду БНР, ён у добрых стасунках з многімі яе лідарамі, уключна з М. Абрамчыкам і сваім былым галоўным антаганістам А. Адамовічам. Свае артыкулы ён цяпер друкуе пераважна ў выданнях прыхільнікаў Рады БНР.*

*Падчас перабывання ў Нямеччыне Стукаліч утварыў літаратурнае аб’яднанне «Шыпшына» і выдаваў літаратурны часопіс пад гэтай самай назвай. Апошнія нумары часопіса выйшлі ў 1950 г. ужо ў ЗША. З таго часу арганізацыя прак-*

*тычна не дзейнічае з прычыны ўнутраных спрэчах і браку адзінства.*

*Усеагульна прызнана, што Стукаліч — вельмі здольны публіцыст, хаця і схільны да дэмагогіі. У грамадскім і палітычным жыцці ён няпэўны ў сваіх словах і абяцаннях, часцяком ужывае метады банальных інтрыгаў у барацьбе з сваімі палітычнымі альбо асабістымі ворагамі. Верагодна, таму ў яго няшмат сяброў ці аднадумцаў у абодвух палітычных лагерах — БНР і БЦР.*

*Стукаліч моцна залежны ад алкаголю, і гэтая хвароба прагрэсуе ў апошнія гады. Цалкам магчыма, што алкагалізм — галоўная прычына, чаму за апошнія дзесяць год Стукаліч амаль нічога не напісаў. Ягонае апошняе апавяданне было надрукавана ў 1946 г. Цяпер ён працуе пераважна як журналіст, публікуючы свае артыкулы і эсэ ў беларускіх перыёдыках, а таксама ў расійскай газеце «Новое русское слово», што выдаецца ў Нью-Ёрку (трэба заўважыць, што і туды ён піша выключна на беларускія тэмы).*


Масей Сяднёў

***Сяднёў, Масей*** *— нарадзіўся 1 верасня 1915 г. у вёсцы Мокрае пад Менскам, у сялянскай сям'і. Праваслаўны, жанаты. Жыве па адрасе: 35 Obert Street, South River, N. J. Паэт. Па прысуду НКВД адсядзеў 5 гадоў у канцэнтрацыйным лагеры ў Сібіры, на Калыме. Падчас нямецкай акупацыі быў публіцыстам газеты «Новая дарога», якая выдавалася ў Беластоку.*

*У Нямеччыне пасля вайны надрукаваў два зборнічкі вершаў — «У акіяне ночы» (1947) і «Спадзяваньні» (1948). У Злучаных Штатах выйшаў яшчэ адзін зборнік вершаў — «Ля Тваёй Брамы» (Нью-Ёрк, 1955). Вершы Сяднёва друкуюцца таксама ў газеце «Бацькаўшчына» ў Мюнхене, у літаратурным часопісе*

*«Конадні» ў Нью-Ёрку. Сяднёў — адзін з наймацнейшых паэтаў беларускай эміграцыі.*

*У палітычным жыцці ён даволі актыўны ў лагеры БЦР. Цяпер аддае свой час, апроч працы на фабрыцы, пераважна літаратурнай творчасці. Вядомы сваімі русафільскімі поглядамі і непрыхільным стаўленнем да каталікоў.*


*Уладзімір Сядура*

***Сядура, Уладзімір** — нарадзіўся 24 снежня 1910 г. у Менску. Атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю ў Педагагічным тэхнікуме ў Менску. У 1930 г. студыяваў літаратуру ўва ўніверсітэце ў Менску. Сябра маладзёвага літаратурнага аб'яднання «Маладняк», пазней — літаратурнай асацыяцыі БелАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў). У тыя гады востра крытыкаваў некаторых беларускіх пісьменнікаў за іхныя «нацдэмаўскія» і «трацкісцкія» адхіленні ад лініі Камуністычнай партыі (магчыма, па заданні НКВД). Многія з гэтых абвінавачаных пісьменнікаў пазней былі арыштаваныя і зніклі. У студзені 1933 г. Сядуру таксама арыштавалі, і ён адсядзеў тры гады ў канцэнтрацыйных лагерох ў азіяцкіх рэспубліках СССР.*

*Падчас нямецкай акупацыі займаўся актыўнай журналісцкай дзейнасцю. Пазней прызначаны рэдактарам часопіса «Новы шлях», які друкаваўся ў Рызе. Пасля вайны знаходзіўся ў амерыканскай зоне Нямеччыны.*

*Эгаістычны, схільны да самаўпэўненасці і самаўсхвалення. Таму яго не вельмі любяць і ў яго няшмат сяброў. Факт, які добра яго характарызуе: яшчэ ў Нямеччыне Сядура абвясціў сябе «доктарам літаратурных навук» і часта падпісваў гэтым тытулам свае артыкулы. Але ніхто з універсітэту ў Менску альбо проста з менчукоў ніколі не чуў, каб Сядура атрымаў ступень «доктара навук» там альбо дзесьці яшчэ. Наадварот, усе былыя менчукі адмаўляюць такую магчымасць. Апублікаваныя Сядурам эсэ вельмі павярхоўныя, публіцыстычныя і не адпавядаюць узроўню «доктара навук».*


Васіль (Тамашчык)

***Тамашчык (Васіль)*** *— нарадзіўся 4 красавіка 1900 г. у вёсцы Азяраны на Гарадзеншчыне (Заходняя Беларусь). Жыве па адрасе: 108 Wyckoff Street, Brooklyn 2, N. Y. Тэл.: UL-2-7552. Вывучаў аграномію ў Празе (Чэхаславакія), атрымаў дыплом інжынера-агранома. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Беларускім камітэце ў Беластоку. Пасля вайны знаходзіўся ў лагерах DP у амерыканскай зоне Нямеччыны.*

*Пасля таго, як у траўні 1946 г. епіскапы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы пакінулі гэтую царкву і перайшлі пад апеку Расійскай Зарубежнай Праваслаўнай Царквы, Тамашчык пачаў студыяваць тэалогію, быў высвечаны на праваслаўнага святара, а 19 снежня 1949 г. епіскапы Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы хіратанізавалі яго ў епіскапы. У 1954 г. Уладыка Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы архіепіскап Сяргей (які цяпер жыве ў Аўстраліі) надаў епіскапу Васілю годнасць архіепіскапа.*

*Пасля хіратоніі епіскапа Васіля з усіх бакоў пачалі атакаваць прыхільнікі БЦР, абвінавачваючы яго ў тым, што ягоная хіратанізацыя адбывалася «некананічна». Сапраўднай прычынай гэтых нападак былі чыста палітычныя матывы. У гэты час БЦР прызнавала Расійскую Зарубежную Праваслаўную Царкву, і кіраўнікі БЦР баяліся, што новы епіскап можа перацягнуць да сябе праваслаўных паслядоўнікаў БЦР. Епіскапу Васілю закідалі таксама супрацоўніцтва з камуністамі ў гады ягонай маладосці і абвінавачвалі яго ў радыкальных, «левых» поглядах.*

*У арганізацыйнай структуры Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы архіепіскап Васіль цяпер займае пасаду сакратара царкоўнага Сіноду. Узначальвае Сінод архіепіскап Сяргей з Аўстраліі. Архіепіскап Васіль з'яўляецца таксама рэдактарам праваслаўнай газеты «Голас Царквы»*[504]*. У характа-*

[504] Перыёдык «Голас царквы» выдаваўся ў Нью-Ёрку ў 1955–1993 гг.

*ры і поглядах ён выяўляе рысы хутчэй царкоўнага палітыка, чым тыповага святара.*

***Тулейка, Міхась*** *— нарадзіўся ў 1915 г. у Заходняй Беларусі. Праваслаўны, сямейны. Па прафесіі — школьны настаўнік. Жыве па адрасе: 656 Hopkins Ave., Apt. 6. Brooklyt 12, N. Y. Тэл.: HY-5-4165. Вельмі каштоўны і таленавіты масавы арганізатар, і ў першую чаргу — сярод моладзі. У першыя гады пасля эміграцыі ў Злучаныя Штаты (1949?) ён займаўся арганізацыяй звязаў беларускіх скаўтаў. На працягу некалькіх гадоў ён таксама займаў пасаду старшыні БАЗА. Ад лютага 1954 г. — старшыня Беларуска-амерыканскага задзіночання.*

*Вельмі працавіты ў грамадскай і палітычнай дзейнасці, мае роўны характар, тактоўны і цярпімы да людзей, якія выказваюць адрозныя ад ягоных палітычныя погляды. З гэтай прычыны ў Тулейкі няма, ці, прынамсі, няшмат, асабістых ворагаў. Абмежаваная адукацыя і не вельмі шырокія інтэлектуальныя далягляды перашкаджаюць яму выйсці на больш важныя ролі ў Радзе БНР і іншай палітычнай працы. Але ягоны аўтарытэт увесь час расце.*

***Чабатарэвіч, Віктар*** *— 49 гадоў*[505]*. Праваслаўны, жанаты. Па прафесіі школьны настаўнік. Адрас: 133-47, 37 Avenue, Flushing, L. I., N. Y. Нарадзіўся ў Стаўбцах (або каля Стаўбцоў). Падчас нямецкай акупацыі дзейнічаў у Беларускай Самапомачы ў Менску. Пазней служыў у Беларускай Самаахове ў чыне капітана. Выкладаў у ваеннай школе ў Менску перад самым адыходам немцаў з Беларусі.*


*Віктар Чабатарэвіч*

*Асабісты сябра др. М. Шчорса і ягоны прыхільнік у сварцы паміж сябрамі БЦР. Цяпер*

[505] Нарадзіўся ў 1907.

*працуе агентам Украінскай рабочай асацыяцыі, арганізоўвае беларускія групы для гэтай арганізацыі. Здольны да практычнай або адміністрацыйнай працы, мае схільнасць да бюракратызму. Меней надаецца да палітычнай дзейнасці.*

***Чарапук-Змагар, Янка*** *— прыкладна 60 гадоў*[506]*, жыве ў Чыкага, 12755 Lincoln St., Blue Island, Ill. Каталік, разведзены. Былы міністр без партфелю ў адным з кабінетаў Ураду БНР. Эміграваў у ЗША пасля паразы БНР на пачатку 1920-х. Ад другой паловы 1920-х актыўна супрацоўнічае з Беларускаамерыканскім нацыянальным аб'яднаннем у Чыкага.*



*Янка Чарапук-Змагар*

*Адзін з заснавальнікаў Беларуска-амерыканскай рады ў Чыкага ў 1941 г.*

*У 1952, разам з Язэпам Варонкам, былым прэм'ерам першага Ураду БНР, Чарапук-Змагар выдаў зварот да беларускай эміграцыі ў свеце, прысягнуўшы ў вернасці БНР і заклікаючы да гэтага астатніх.*

*У сучасны момант ужо не надаецца да палітычнай і грамадскай працы з-за алкагалізму. Праз гэтую хваробу выкарыстоўваецца беларускімі арганізацыямі БНР-аўскага кірунку выключна як вясельны генерал з мэтаю падкрэсліць пераемнасць сённяшніх беларускіх арганізацыяў з адным з даваенных лідараў БНР.*

***Шукелойць, Антон*** *— векам каля 40 гадоў*[507]*. Каталік, нежанаты, нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, на Ашмяншчыне. Жыве па адрасе: 339 E 14th Street, Apt. 1. New York 3, N. Y. Скончыў польскую гімназію ў Ашмянах. Пазней вывучаў этнаграфію ў Віленскім універсітэце. Падчас савецкай акупацыі Заход-*

[506] Нарадзіўся 12 жніўня 1896 г.
[507] Антон Шукелойць нарадзіўся 19 ліпеня 1915 г.



*Антон Шукелойць*

*няй Беларусі ў 1939–1941 гг. працаваў школьным настаўнікам. Падчас нямецкай акупацыі — дырэктар музею ў Менску. Знаходзіўся ў лагерах DP у амерыканскай зоне Нямеччыны. У ЗША ад 1950 (?) г.*

*Перад вайной у палітычным жыцці належаў да радыкальнай Беларускай партыі сацыял-рэвалюцыянераў (паўсюдна званых «эсэрамі»). У апошнія гады — беларускі прадстаўнік у АБН (Антыбальшавіцкі блок народаў). Добры сацыяльны работнік-практык з сярэднімі, не выбітнымі здольнасцямі і без трывалых уласных перакананняў. Імкнецца пераважна да лідарства. Асабісты адданы сябра Антона Адамовіча. Вельмі рэлігійны чалавек.*

***Шчорс, Мікалай** — нарадзіўся 19 ліпеня 1913 г. у мястэчку Новы Свержань (Заходняя Беларусь). Праваслаўны, жанаты, па прафесіі лекар. Жыве па адрасе: 37-26, 97th Street, Jackson Heights, L. I., N. Y. Тэл.: IL-8-2317. Сярэднюю адукацыю атрымаў у польскай гімназіі ў Стоўбцах, якую скончыў 24 траўня 1932 г. Увосень 1933 г. пачаў студыяваць медыцыну ў Віленскім універсітэце. Атрымаў дыплом лекара ў 1939 г.*

*Увосень 1939 г., напярэдадні таго, як Савецкая Армія акупавала Заходнюю Беларусь, уцёк у Польшчу; працаваў лекарам у нямецкім шпіталі ў Варшаве ў 1940–1944 г. У гэты ж час быў старшынём Беларускага камітэту ў Варшаве. Увесну 1941 г. супрацоўнічаў з нямецкай арміяй у праекце, паводле якога 20 беларускіх юнакоў, што прайшлі падрыхтоўку ў Вермахце, незадоўга да пачатку нямецка-савецкай вайны 1941 г. былі закінутыя за першыя лініі савецкіх умацаванняў для дыверсійнай працы. Улетку 1944 г., калі наступ Савецкай Арміі дакаціўся да Варшавы, доктар Шчорс уцёк у Нямеччыну. Пасля вайны ён знаходзіўся ў амерыканскай зоне Нямеччыны, у Вурсбургу.*

*Калі сярод беларускіх эмігрантаў пачаўся палітычны падзел па лініі БНР-БЦР, доктар Шчорс не адразу вырашыў, на чый бок стаць. Потым ён далучыўся да БЦР і з цягам часу зрабіўся*



*Мікола Шчорс*

*адным з яе кіраўнікоў. У ЗША жыве ад 1 лютага 1950 г. Ад лютага 1951 г. — старшыня Беларускага кангрэсавага камітэту, галоўнай арганізацыі БЦР у ЗША.*

*У апошнія два гады востра канфліктуе з Р. Астроўскім у змаганні за лідарства ў БЦР і за пасаду прэзідэнта гэтай арганізацыі. Увосень 1953 г. апублікаваў адкрыты ліст з заявай, што ўзначальваны ім Беларускі кангрэсавы камітэт арганізацыйна і палітычна не падпарадкоўваецца БЦР. З прычыны варажнечы з Астроўскім Шчорс, разам з сваімі асабістымі сябрамі (Ю. Сабалеўскім, І. Касяком і некаторымі іншымі) байкатаваў апошнюю сесію БЦР у Саўт-Рыверы ўвосені 1954 г.*

*Прагны да ўлады, любіць займаць кіраўнічыя пасады ў арганізацыях. Добра надаецца для выканання прадстаўнічых абавязкаў, але не для сацыяльна-масавай працы, бо яго ніколі не любілі ў народзе за ягоную амбіцыйнасць і ганарлівасць. Ягоная палітычная групоўка ў БЦР знаходзіцца ў абсалютнай меншыні. У ЗША доктар Шчорс прадэманстраваў талент у навязванні палітычных сувязяў з некаторымі амерыканцамі, якія пачалі падтрымліваць ягоны Беларускі кангрэсавы камітэт.*

*Ягоныя палітычныя погляды досыць характэрныя для сяброў БЦР: ухваляе супрацоўніцтва з немцамі, палымяны адэпт праваслаўя і ў той самы час выразны антыкаталік. Часта адмаўляе беларусам-каталікам у правах рэпрэзентаваць беларусаў у палітычным жыцці, таму што каталікі знаходзяцца ў меншыні ў Беларусі.*

*У апошнія гады губляе палітычную вагу ў шэрагах БЦР і з гэтай прычыны шукае палітычныя сувязі з асобнымі групоўкамі ў Радзе БНР, якія, як ён спадзяецца, падтрымаюць яго на пасадзе старшыні Беларускага кангрэсавага камітэту. У прыватных гутарках заяўляе, што неўзабаве абарве ўсе стасункі з Астроўскім і БЦР, але афіцыйна дагэтуль з’яўляецца чальцом БЦР.*

# ФЕЛЬЕТОНЫ

## АЎТАПАРТРЭТ У СТЫЛІ GROTESQUE:

*Сатырычныя друкі і творы паваеннай эміграцыі ў Канадзе*

*Матэматык:*
*Скажы мне… Пра што б тут запытацца?*
*Пра смешнае не варта мабыць сёння.*
*Ізноў ты пусціш нешта з падкавыркай.*
*Скажы ты лепш пра слёзы. Плакаць можна*
*і смеючыся нават.*

Уладзімір Дубоўка

Каб даведацца пра настроі, узаемаадносіны эмігрантаў, трэба доўга корпацца ў перыёдыках таго часу, вышукваючы па драбнятках патрэбнае, схаванае паміж артыкуламі пра БНР і БССР; старонка за старонкаю гартаць зберажоныя лісты; распытваць штогод меншую паваенную хвалю. А ўсё таму, што сама пра сябе яна бадай нічога не напісала: у мемуарах — надта ж рэдкія, малалікія старонкі, з мастацкай літаратуры — хіба фантазійны (каб не сказаць — утапічны) раман Кастуся Акулы «За волю» (рахаваць апавяданні Уладзіміра Сядуры тут нагул не выпадае; нездарма ж яго за плячыма іранічна клікалі «рыверсайдскім мрыйнікам»[508]).

Адметным месцам, дзе жыццёвы побыт знайшоў свой адбітак, куды эмігранты адзін пра аднаго пісалі ахвотна (акрамя некралогаў), з задавальненнем, былі гумарыстычна-сатырычныя часопісы. На фенамен гэтай катэгорыі друкаў звярнула ўвагу яшчэ Зора Кіпель: *«Мусім зазначыць, што, на вялікае здзіўленне, часопісаў такіх было даволі шмат — 15 па-*

[508] Па назве ягонага апавядання, змешчанага ў кнізе: Глыбінны, Уладзімір. На берагох пад сонцам. Нью-Ёрк — Трой, 1964.

*водле апошняга падліку. Гэта каля 5 працэнтаў усіх выданняў»*[509].

Да гэтага трэба дадаць шматлікія фельетоны ў іншых — неспецыяльных — выданнях, найперш у газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус»[510], дзе асабліва шчыравалі Кастусь Акула, Юрка Віцьбіч, Уладзімір Цвірка і Пётра Сыч.




*Вокладка кнігі гумарэсак Янкі Золака «За чужы грэх». 1958 г.*

Увогуле на эміграцыі было створана нямала вершаваных (Янка Золак, Міхась Кавыль) і малых празаічных гумарыстычных і сатырычных твораў, і троху дзіўна, што даследчыкі неяк абмінаюць гэтыя жанры, а разам з імі часам і саміх аўтараў. Да прыкладу, у найбольш поўнай на сёння гісторыі эміграцыйнай літаратуры — у працы Арнольда Макміліна[511] — коратка закранаецца выключна даваенная творчасць Вінцука Адважнага (а. Язэпа Германовіча), а з эміграцыйнай адно згадваюцца ягоныя ўспаміны. І гэта пры тым, што ў Лондане былі выдадзеныя двутамовік «Байкі і іншыя вершы» (1973) і «сучасная казка» «Князь і Лапаць» (1964), а ўспаміны «Кітай — Сібір — Масква» сталіся, напэўна, найбольш перакладаемай беларускаю кнігаю, напісанай на выгнанні. Ды і самое даследаванне пісалася ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны, дзе працаваў Язэп Германовіч і дзе захоўваюцца ягоныя рукапісы.

---

509 Кіпелі, Зора і Вітаўт. Беларускі друк на Захадзе // Беларусіка. Albaruthenica. Кн. 5. Культура беларускага замежжа: Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні. Мінск, 1995. С. 48.

510 Гл. бібліяграфію напрыканцы артыкула.

511 McMillin, Arnold B. Belarusian literature of the diaspora. Birmingham, 2002.

Але вернемся да фельетонаў. Тэматычна яны былі двух кшталтаў: першыя — датычныя падзей, асобаў і рэалій БССР, і другія, прысвечаныя эміграцыі. Апошнія і будуць закранутыя ў гэтым артыкуле.

Зразумела, аўтапартрэт атрымаецца гратэскавы, але, як пісаў Юры Лотман, *«в индивидуальности отдельной человеческой особи как в микрокосме выражалась уникальная специфика, индивидуальность человеческого макрокосма, общества и культуры в целом»*[512]. І далей, важнае: *«Всякий текст (в особенности, художественный) содержит в себе то, что мы предпочли бы называть **образом аудитории**»*[513]. Вось гэты аўтавобраз аўдыторыі (фельетаністы, напэўна, напісалі б «пыса эміграцыі»), адбіты ў гумарыстычных творах саміх эмігрантаў, і паспрабуем убачыць.

У 1930 г., з нагоды тысячагоддзя Каралеўства Харватыя, у Заграбе быў выдрукаваны «Усеславянскі зборнік», дзе сярод іншага быў змешчаны артыкул Яўхіма Карскага пра сатырыка-камічныя творы беларускай літаратуры[514]. Артыкул быў напісаны Карскім у Ленінградзе напрыканцы 1926 г.; ад 1917 г., калі знаны навуковец расчараваўся ў савецкім рэжыме, да смерці ў 1931 г. ім было напісана вельмі мала. Тым цікавей, што адзін з лічоных артыкулаў прысвячаўся гумарыстычным творам, з якіх, як напісаў у гэтай працы Карскі, *«пачалася і ўваскрасаючая беларуская літаратура ў самым пачатку XIX стагоддзя»*:

*«Сумуючая муза беларускіх пісьменнікаў эпохі адраджэння літаратуры адпіхнула такія творы*[515] *на другі план, але не магла зусім выкасаваць іх з народнай памяці, бо здаровая гумарыстыка таксама падходзіць да беларускага характару, як напрыклад, і да ўкраінскага, хоць і не ў такой меры. А смех скрозь слёзы і дагэтуль адбіваецца ў характэрных творах А. Р. Пшчолкі; да сатырычна-камічных апавяданняў пасвячае свой вольны час і А. Паўловіч. Не абыходзяцца без камічнага*

[512] Лотман, Ю. Текст и структура аудитории // Труды по знаковым системам. Вып. 9. Тарту, 1977. С. 4.

[513] Лотман, Ю. Текст и структура аудитории… С. 55.

[514] Карскі, Яўхім. Сатырыко-камичные творы беларускай литэратуры // Sveslavenski zbornik: spomenica o tisućugodišnjici hrvatskoga kraljevstva. Zagreb: Zajednica slavenskih društava, 1930. С. 109.

[515] Карскі мае на ўвазе «Энэіду», «Тарас на Парнасе» і «Панскае ігрышчо».

*элементу і апавяданні з народнага быту, выходзячыя з-пад пяра іншых многалічных аўтараў»*[516].

На час напісання артыкула не жыў Ядвігін Ш.[517], толькі гэтым хіба магчыма вытлумачыць нязгадку Карскім ягонага імя, з якім у беларускай літаратуры асацыююца *маска* і *сказ* (дастаткова назваць адную «Важную хвігу»). Заўчасная смерць Ядвігіна Ш. ад сухотаў, магчыма, пазбавіла нас лепшых твораў пісьменніка, бо тэндэнцыя была відавочнаю: у рускай літаратуры ў 1921–1922 г. г. з’явіліся «Рассказы Назара Ильича господина Синебрюхова» Міхаіла Зошчанкі, а ў 1924 — «Записи некоторых эпизодов, сделанных в городе Гогулеве Андреем Петровичем Ковякиным» Леаніда Леонава (каб згадаць толькі найбольш яскравыя). А ў нашай літаратуры такі твор быў напісаны ў 1929 г. — Мрыеўскія «Запіскі Самсона Самасуя».

Што аб’ядноўвала ўсе гэтыя творы? Як слушна заўважыў Віктар Вінаградаў, літаратура 1920-х гг. бы адмаўлялася ад выбудовы характараў і замяняла іх адлюстраваннем сацыяльных тыпаў пры дапамозе іх жа ўласных галасоў[518]. Гэтае збліжэнне мовы аўтара з моваю героя-апавядальніка не толькі спрыяла росквіту *масці* і *сказу*, але і паступова рабілася немалою праблемаю, бо чытач, новы чытач, з тых самых сацыяльных колаў, што і героі твораў (выхадцы з сялянаў, мяшчане, нядаўнія вайскоўцы, пралетарыят), часта атаесамляў аўтара і ягоную маску[519].

У год напісання «Запісак Самсона Самасуя» выйшла кніга Міхаіла Бахціна «Проблемы поэтики Достоевского», дзе галоўным у *сказе* вызначалася не ўстаноўка на размоўную гутарку, прастамоўе, але выкарыстанне моўнага стылю, манеры іншага, чужога, за якім хаваецца чужое бачанне апавядальніка — чалавека, па словах М. Бахціна, не літаратурнага, пераважна з ніжэйшых сацыяльных колаў, з народа[520].

---

516 Карскі, Яўхім. Сатырыко-камичные творы беларускай литэратуры…

517 Ядвігін Ш. памёр у 1922 г.

518 Виноградов, В. О языке художественной литературы. М., 1959. С. 475–476.

519 Зрэшты, Максім Гарэцкі таксама не ўспрыняў сказавасці твораў Ядвігіна Ш., напісаўшы: *«Самае важнае ў аўтара «Важнай фігі» і «Суда», аднак, ня столькі тое, каб абсьмяяць заганы жыцьця, сколькі тое, каб пасьмяшыць чытаньніка; гэта ёсьць адгалос шляхецкага сьветагляду ў літаратуры»*. (Гарэцкі, Максім. Гісторыя беларускае літэратуры. Вільня, 1921. С. 145).

520 Бахтин, М. Проблемы поэтики Достоевского. Л., 1929. С. 112–115.

У беларускай ваеннай, ці *падакупацыйнай* літаратуры (тэрмін мо і не самы мілагучны, але ён выйграе ў дакладнасці) працягам мрыеўскай традыцыі стаўся твор Лявона Крывічаніна (Савёнка) «Зь дзёньніка Ів. Ів. Чужанінава» (другая, пазнейшая назва — «Запіскі эмігранта») — лепшае, што было зроблена ў сатырычным жанры таго часу — па абодва бакі лініі фронту.

Зроблены таксама ў нібыта аўтабіяграфічным жанры, і таксама ад імя апавядальніка-маскі, «Дзёньнік» непазбежна выклікаў у памяці скруткі Самасуя; герояў гэтых твораў збліжала і іхная няўтомная, часам стамляючая астатніх, актыўнасць, здольнасць мімікрыраваць і ўменне любую сітуацыю — рэвалюцыя, вайна, акупацыя — максімальна скіроўваць на ўласную карысць.

Смех ёсць сродкам змагання супраць анармальных умоваў існавання. Гегель у свой час заўважыў, што насамрэч камедыя стаіць вышэй за трагедыю, што гумар розуму вышэй за ягоны пафас. Трагедыя прымае пакуты як дадзенае, камедыя ж не мірыцца з імі, намагаецца іх пераадолець.

Таму натуральна, што ва ўмовах эміграцыі — таксама ў пэўным плане анармальных — была ўдзячная глеба для з’яўлення гумарыстычных і сатырычных літаратурных спробаў. Бо камічнае — сацыякультурная рэчаіснасць, і смех адыгрывае ролю эмацыйнай эстэтычнай формы крытыкі. І, мабыць, лагічна, што цэнтральным эміграцыйным сатырычным творам варта назваць «Запіскі Яўхіма Крайняга» Кастуся Акулы, дзе спадкаемнасць Мрыя — Савёнка відавочная.

Пра сваю задуму аўтар пісаў да рэдактара газеты «Бацькаўшчына» Станіслава Станкевіча:

*«Вельмі паважаны Спадару,*

*[...] «Запіскі Яўхіма Крайняга» не праектаваны як навэля. Гэта спасьцярогі ці нарысы канадыйскага й беларускага жыцьця з гумарыстычным адценьнем. Думаю, што на такі матар’ял ёсьць добры попыт між чытачоў. Зрэшты, гэта скора пакажацца. Хачу ведаць рэакцыю амэрыканскіх чытачоў на яго, ды буду прыслухоўвацца да сваіх тут. Калі людзям будзе неўспадоб, дык заўсёды можна спыніць. Што-ж да таго, каб кажны разьдзел быў закончаным цэласьцяй, то гэта няцяжка зрабіць, паколькі там будуць разглядацца розныя бакі нашага*

*й канадыйскага грамадзкага жыцьця, норавы людзей на гэтым баку акіяну і інш.»*[521]

У «Запісках» і жанр, і спроба *сказу* былі аўтарам захаваныя, але маска Яўхіма рознілася ад масак Самасуя і Чужанінава; апавядальнік у Акулы стаіць як бы збоку ад падзей, толькі назірае ды выслухоўвае станоўчага і свядомага кума Максіма Яўтуха, але чытач не можа не адчуваць, што і ён — суддзя.

«Запіскі» падаюцца як занатоўкі да гісторыі эміграцыі, на напісанне якой Яўхіма папіхае Максім:

«*Увайшоў. Прывіталіся. Слова за слова, а тады ён і кажа:*

*— Яўхім, пішы гісторыю ды мне ў працы памагай.*

*— Ты пра што гэта? — пытаюся.*

*— Пра сваё-ж, а ня чужое. Глянь, вунь увесь наш беларускі рух варушыцца, а ты збоку гніеш, толькі зарабляеш ды кішку напіхаеш. Ты зломак які, ці што? Падпрагайся, разам цягнуць будзем, бо моташна нам. Дый апісвай што робіцца, некалі прыдасца. Кацялок твой добра варыць.* [...]

*Сказаць вам праўду, кум Яўтух проста ў мэту папаў. Ведаў ён як найкарацейшы шлях да чалавека знайсьці. Даўно разгадаў маю слабасьць, што часам люблю зь пяром пацацкацца.*

*— Пра што-ж пісаць? Якую гісторыю? — пытаюся.*

*— Што ў нашым беларускім жыцьці робіцца, от якую. Усё чысьценька запісвай, а калі дзе можна, дык і падмалюй. Знаеш? Няхай будзе, каб некалі народ ведаў, як мы тутака за яго вызваленьне змагаемся.*

*— Дык я-ж і сам усяго ня ведаю.*



*Кастусь Акула. Таронта. 1998 г.*

[521] Ліст Кастуся Акулы да Станіслава Станкевіча ад 09.12.1963. Гэты і наступныя цытаваныя лісты захоўваюцца ў прыватным архіве Л. Юрэвіча.

*— Толькі вушы настаўляй, распытвайся людзей. Скажу я, дакінуць іншыя. Дый пара табе было-б у наш грамадзкі сьвет часьцей паказвацца, дапамагаць»*[522].

Акулаў герой пагаджаецца на прапанову і з месца апісвае, як набыў сваю першую машыну ў кума, потым — якія Каляды ў канадыйцаў няправільныя, не так, як на Беларусі. Прычым, хоць спрабуе апісаць гумарыстычна, вычуваецца, што аўтар насамрэч гэтак лічыць: няма той набожнасці, няма пастоў.

Тут цікава адцеміць, што Акулавы тэксты — аматара ненармаванай лексікі, слова прастамоўнага, на мяжы, а калі-некалі і па-за мяжою грубага, што часта выклікала нараканні з боку чытачоў газет, — Станіслаў Станкевіч рэдагаваў няшмат: правіў русізмы, «акулізмы». І адзінае адцэнзураванае месца, наколькі гэта дазваляюць сцвердзіць рукапісы, акурат і датычыцца рэлігіі, што вельмі красамоўна сведчыць пра межы дазволенага ў беларускай эміграцыйнай перыёдыцы, нават у раздзеле «Гумар» (адкінутае рэдактарам вылучана тлустым):

*«Перш за ўсё скажу вам, што я — чалавек адно ў меру рэлігійны. У царкву ўсяго пару разоў на год нос усаджу. Можа-б ён, гэты мой нос, паказваўся там калі й часьцей, калі-б яму не даводзілася чырванець за свайго гаспадара. Справа такая: як толькі пакажуся ў сьвятыні, дык сьвятар паказеліць на мяне вочы й насядзе (у множным ліку для прыліку): — Вы, малаверуючыя, посту ня трымаецеся; грэшнікі вы нявылячальныя, у царкву ня ходзіце, а калі й заглянеце рады ў гады дык да канца выстаяць на службе ня можаце, а зараз шмык за дзьверы. І так далей…*

*Шчыры служка Божы нагрувасьціць такое бярэмя грахоў на твае плечы, што хоцькі-няхоцькі пад іх уяўным цяжарам прыгінацца пачнеш. Дый слухаць, лагодна гаворачы, Ніякавата. Некаторыя людзі нашто ўжо цярплівыя, веруючыя й талерантныя, дый тыя адназгодна прызнаюць, што мерку духоўнік перабірае. Але гэта я толькі між іншага. Не хачу ў яго каменьнямі кідаць, бо я — чалавек, як вышэй сказаў, толькі ў меру рэлігійны. Тутака не шукаю дзіркі ў цэлым. Калі поп так гаворыць, дык гэта мусіць таму, што ён у такі спосаб зарабляе на свой папоўскі хлеб. Стараецца чалавек, памажы яму Бог.*

---

[522] Акула, Кастусь. Усякая ўсячына: проза, паэзія, п’еса. Таронта, 1984. С. 7–8.

*Тутака я сваю «ў меру рэлігійнасьць» згадаў таму, каб вы бачылі, што мае пагляды на сьвяткаваньне Калядаў дома і ў гэтай Канадзе — пагляды чалавека нармальнага, як — прабачце за параўнаньне, — скажам, і вы самі, дый многа з вас»*[523].

Гісторыя беларусаў у Канадзе, на напісанне якой намаўляў Яўхіма ягоны кум, пачалася не ад паваеннай эміграцыі, не ад тых, хто прыехаў у краіну кляновага ліста з лагераў *DP* або з Брытаніі. Сітуацыя з эміграцыяй даваеннай нагадвала становішча ў Аргенціне: выехала значная колькасць беларусаў, дакладны падлік якой яшчэ чакае даследнікаў, але прыехаўшыя засноўвалі рускія клубы, стваралі рускія арганізацыі, запачаткоўвалі рускія газеты.

Цэнтральнай постаццю рускага эміграцыйнага жыцця ў Таронта быў беларус Рыгор Акулевіч[524]. Сугучча ягонага прозвішча з прозвішчам Кастуся Акулы, аднаго з арганізатараў беларускага жыцця ў Канадзе і першага старшыні Згуртавання беларусаў Канады, рэдактара і выдаўца шэрагу перыёдыкаў, само па сабе вартае фельетона.

---

[523] Рукапіс. Захоўваецца ў прыватным архіве Л. Юрэвіча.

[524] Укладанне біяграфіі Рыгора Акулевіча — справа будучыні. Пра сябе ён піша мала, але некаторыя факты ўсё ж занатаваць можна. У іншай сваёй кнізе, «50 лет Белорусской Республики» («Вестник». Торонто, 1968) Акулевіч гаворыць пра сваё сяброўства ў Грамадзе: *«Помню одно собрание нашего кружка Громады в хате, где помещалась наша библиотека им. Янки Купалы. Было условлено, что на этом собрании выступит с докладом Павел Тавлай — отец поэта Валентина Тавлая. Тавлаи в это время жили в соседней деревне Рудавке, мать Валентина Тавлая нелегально под страхом жандармской облавы по вечерам обучала в своём доме группу детей белорусской грамоте»* (С. 44). Тамсама даведваемся і пра родную вёску аўтара: *«Даже частные кружки для изучения белорусского языка преследовались полицией и закрывались. Белорусские библиотеки закрывались, книги упаковывались в мешки и вывозились полицией на костры. Народные дома и кооперативы закрывались. Так было и в нашей Б. Крокотке. Библиотека им. Янки Купалы была закрыта, книги сожжены, народный дом был закрыт, построенное за собранные молодежью средства здание народного дома было передано фашистской организации «кулко стжелецке» (кружок стрельцов»)*. (С. 47). Цікава, што Акулевіч неаднойчы наведваў Беларусь: у кнізе ён расказвае пра свае ўражанні ад Мінска ў 1947 г., а на старонцы 54 змешчаны здымак, пазначаны *«травень 1955 г.»*: за адным сталом сядзяць аўтар кнігі, Максім Лужанін і Якуб Колас.

Рыгора Акулевіча таксама можна назваць пісьменнікам: рэдактарства ў заснаваных ім газетах «Канадский гудок» і «Вестник», тры кнігі, адна з якіх ёсць важнаю крыніцаю да гісторыі эміграцыі: «Русские в Канаде. История русских рабоче-фермерских клубов имени М. Горького (1930–1940) и Федерации Русских Канадцев (1941–1952). Первые исследователи северо-запада Америки; духоборцы; ранняя русская иммиграция в различных частях Канады; Православная церковь; русские общества» (Таронта, 1952)[525].

Менавіта гэтай кнізе мы абавязаны звесткамі пра тое, што, напрыклад, руская калонія ў Вініпегу пачала павялічвацца ад 1927 г. — дзякуючы эмігрантам з Заходняй Беларусі і Валыні (С. 25), што найстарэйшым каланістам у Віндзары быў Аляксей Маслаў з вёскі Масевічы пад Пінскам (С. 29), а ў Новай Скошыі — Рыгор Трацюк з-пад Гародні (С. 36), што заснавальнікамі рускай калоніі ў мястэчках Тымманс і Какрэйн былі беларусы з Гарадзеншчыны (С. 32–34).

Рыгор Акулевіч таксама піша, што пачатак Клуба рускіх рабочых імя Максіма Горкага ў Канадзе быў закладзены вясной 1930 г. у Таронта дзякуючы спрыяльным умовам: масавай міграцыі з Заходняй Беларусі і Валыні ў 1926–1930 гг. (С. 69).

Зрэшты, было б несправядлівым сказаць, што Акулевіч цалкам выракся беларускасці: у першых трох нумарах «Канадского гудка» друкаваўся «Беларускі куток», дзе змяшчаліся артыкулы па-беларуску (галоўным чынам пра жыццё беларусаў пад Польшчаю). Але на гэтыя публікацыі не было атрымана ніводнага водгуку, на рэдакцыйны зварот да чытачоў у справе патрэбы такіх публікацый — таксама. «Беларускі куток» сваё існаванне спыніў (С. 88–89).

Толькі нават не мова развяла па розныя бакі дзве хвалі беларускае эміграцыі: Акулевіч з іншымі сябрамі Клуба імя М. Горкага ўхваліў захоп Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны Савецкім Саюзам, а калі пачалася Другая сусветная вайна, адназначна стаў на бок СССР (С. 187–192), адозвы ў падтрымку палітыкі якога неаднакроць змяшчаліся на старонках газеты, што ўрэшце і прывяло да яе закрыцця канадскімі ўладамі.

---

[525] Прынагодна хачу падзякаваць Віялеце Кавалёвай за магчымасць пазнаёміцца з кнігаю, якая адсутнічае ў амерыканскіх бібліятэках.

июль 1931 №4 Июль 1931 г.

**БЕЛАРУСКІ КУТОК**

**Наш шлях**

**Сьвядоцтва ворага**

*«Беларускі куток» на старонках «Канадскага гудка». 1931 г.*

Таму новапрыбылым эмігрантам не тое што не было падтрымкі ад папярэдняй хвалі — іх наўпрост клікалі «фашыстамі». От жа ў «Запісках Яўхіма Крайняга» і падаецца абразок пра знаёмства з сябрамі Клуба:

«[…] *кум закінуў вуду зводдаль, ад самых пачаткаў «беларускага руху».*

*— Трапіў, братка ты мой, я сюды, — кажа ён, — як нікагуткі з нашых яшчэ ня было. Упякалі, каб іх немач, на фарму, вілы мне ў рукі ды заіванівай. Дух зь цябе вон! Як сьвет завязалі. А ты-ж знаеш: як чалавек гэтулькі пабадзяўся па сьвеце, дык дзе-ж тут уседзіш? Цягне мяне ад тога гною ў людзі. Хоць ты гвалт крычы, мужык ня пускаіць. Ну але пасьля трох месяцаў я ўсё такі вырваўся й трапіў у Таронта. Думаю-ж сабе так: Таронта — вялікі горад і калі дзе ў Канадзе нашы ёсьціка, дык напэўна тут.*

*— На першага «земляка» ў гатэлі наткнуўся. Гляджу, сядзіць за сталомураднік, расейскую газэтку чытае. Пытаю-*

*ся яго: тут ёсьць дзе-небудзь нашыя Беларусы? А ён паказеліў на мяне, як цыган на каня, бельмы, дый кажа: — Да есьць зьдзесь многа беларусоф: і закарпацкіх, і валынскіх, і віленскіх, і гродзенскіх, і прочых сколька ўгодна.*

*Як жыву, ніколі ня чуў, каб Закарпацьце ці Валынь да Беларусі належалі. Думаю сабе, што гэта за такія новыя землякі тутака напладзіліся. От і еду туды, куды мяне той «зямляк» накіраваў. Прыяжджаю. Дом той як дом, трохпавярховы, на рагу вуліцы стаіць. На нізе крама малая, дзе ўсякая дробязь на продаж. Уваходжу. Дзядзькоў, старэйшых ужо гадамі, штук ці ня пяць на лавах бачу. Сядзяць і рассасуліваюць. А сьцены — Божа мой! жахнуўся я, — гляджу: проста ад краю да краю бальшавіцкай прапагандовай поскудзяй абклееныя. Даўно-ж я гэтага «роднага» ня бачыў, дык аж скалатнула мяне. Сталінава мардаха на самым пачэсным месцы красуецца, а тут з бакоў і іншыя тучныя рашкі, што, як казаў той добры чалавек, цагліны просяць.*

*Кажу ім «добры дзень», а яны мне на гэта «здрасьце» адказваюць. Як толькі пранюхалі, адкуль я й хто, дык такая завязалася гаворка, што мяне часта аж у пот кідала. Знаеш, пачалі мне ў вочы асой назаляць, насядаць з усіх бакоў ды таксама бальшавікоў хваліць, як некалі ў трыццаць дзявятым у нас дома палітрук. Братка ты мой! Ня мог-жа я гэтым «земляком» спуску ў языку даць. А дзе-ж ты раду дасі: у цябе адзін язык, а тутака дваццаць. Думаю, што возьмуць яшчэ морду наб'юць ды як жабу на вуліцу выкінуць. Ня ведаю, адкуль іх гэтулькі набралася. Не агледзіўся, як каля мяне, мусіць, чалавек ці не паўсотні. Адны гавораць, а другія кепікі строяць, навет фашыстам мяне называюць. Каторыя, што воддаль, ажно на лаўкі ўскарабкаліся, каб гэтага «фашыста» пабачыць. Каб вас немач, як успомню цяперака, дык дальбог страшнавата было. Але цэлы выйшаў…*

*— Дык, кажаш, пазнаў закарпацкіх, валынскіх і гродзенскіх?*

*— Самы зброд, ядроні іх палку. Ня чуў, каб хто пабеларуску гаварыў. У іх ці Беларус ці Расеец, дык гэта «ўсёраўно рускі». От і гавары ты зь імі. Такое-ж гэта ўсё завэдзганае бальшавіцкай заразай, такое цёмнае, што языка добраму чалавеку шкада зь імі мазоліць. Асінавым калом праўды ім у галаву ня ўб'еш.*

*Але ведаеш, кумішча, добра, што паехаў і заглянуў у гэта асінае гняздо. Даведаўся, што тут наагул нічога беларускага*




*Беларускія ўдзельнікі дэманстрацыі ў Таронта. 1968 г.*

*няма. Тады, як толькі жменя нашых дзяцюкоў прыехала, адразу ўзяліся сваё будаваць. Пачаткі цяжкія былі»*[526].

Працяг быў не лягчэйшы. Закалоты паміж прыхільнікамі БЦР і БНР разам з былымі *DP*істамі разыходзіліся па свеце. Дасягнулі яны і Канады, дзе атрымалі свой мясцовы каларыт: да двух варажнечых лагераў дадаўся трэці, які так і саманазваўся — Трэцяя сіла.

28 лістапада 1948 г. у Канадзе паўстала першая нацыянальная арганізацыя — Згуртаванне беларусаў Канады (ЗБК), а ў 1952 г. ад ЗБК адкалолася група на чале з Сяргеем Хмарам (Зіняком), якая заснавала ўласную арганізацыю — Беларускае нацыянальнае аб’яднанне (БНА). Праўда, характар Сяргея Хмары, пра які сучаснікі нічога добрага не расказалі, не дазволіў яму ўтрымацца і ў БНА. Вось тады паўстала так званая Трэцяя сіла.

[526] Акула, Кастусь. Усякая ўсячына: проза, паэзія, п’еса… С. 22–23.

У асобе Акулы Хмара займеў аднаго з найбольшых сваіх непрыяцеляў, а таму натуральна, што ягоную постаць таксама сустракаем у «Запісках»:

*«Ёсьць тут у нас дзьве грамадскія арганізацыі. Адна завецца Згуртаванне, а другая — Аб'еднаньне. Хоць яны, — прыспор ім, Божа, як найбольш сяброў, — гадоў ці не па дзесяць гуртавалі й аб'ядноўвалі ўсіх Беларусаў, апроч ліхіх бальшавікоў-камуністаў, ды самі ніяк не маглі дасьпець і злучыцца. Перашкодай стаяла дробнае палітыканства, а ў памяці людзей сьвежай яшчэ была калішняя перастрэлка за ўладу.*

*Народ, нарэшце, паразумнеў і дамогся ад лідараў, каб спынілі шпурляньне каменьня ды зьядналіся.*

*Хоцькі-няхоцькі (воля народу — воля Бога!) зыйшліся згуртаванцы й аб'еднанцы на перамовы. Клёк мелі ў галовах, бо адразу пастанавілі, што найлепш пачынаць з малых рэчаў, такіх вось як агульнае сьвята Дня Незалежнасьці — 25-га Сакавіка.* […]

*На сьвяткаваньне паехаў я з усей сям'ёй. Таму, што народу была ўжо біткам поўная вялікая заля набіта, прымасьціўся я ў заднім куточку, а жонку й дзетак маіх пасадзіў воддаль, дзе было месца, заўсёды рухавы кум Яўтух.*

*Ня ўсьпеў я палюдзку расьсесьціся ды толькі наставіў вушы, каб пачуць, што там гавораць, і пабачыць, што робяць, як тутака шыліп да мяне нейкі мізэрненькага росту сівенькі дзядзька гадоў так вышэй пяцідзесяці.*

*— Завуся, — кажа, — Затычка, — ды суне мне на прывітаньне сваю лапу, вялічынёй з малы пранік. Што-ж. Будзь ты сабе затычкай, думаю. Павіталіся.*

*Сусед аказаўся вельмі-ж мулкім. Ашчаперыў сваімі шчопцямі маю правую руку ды давай так пасяброўску распытвацца: а хто ты, а як доўга тут, а чаму збоку быў і іншае. А тады-ж як пачаў усіх тых лідараў, што ў залі былі, ледзь не па костачках перабіраць. Дый так пабальшавіцку ён гэта, амаль што ад прадзедаў і сацыяльнага паходжаньня пачынаючы. Гудзіць мне, як шаршэнь, на вуха, хоць ты ратунку кліч! А што слова ні скажа, дык з роту ў маё вуха сьлінькі пырскаюць. От, — думаю, — затычка зь цябе, каб табе заткнула. А слоўцы ў яго якія адборныя: проста з жаргона сельскага бальшавіцкага агітатара.*

*Перабраў, думаю, ты, чалавек, мерку. Я яго нахабна адпіхнуў, выцягнуў зь кішэні насатку й зусім дэманстрацыйна пачаў*

*з правага вуха ягоныя сьлінькі выціраць. Здагадаецца, думаю, адчэпіцца. Дык не, каб ты спарахнеў. Я вуха выцер, а ён зноў за мяне ўчапіўся. Я тады тыц — за дзьверы выйсьці, а ён за мною. А во, каб на цябе гаручка, — думаю, — дзе-ж ты такі на маю галаву ўзяўся. Каб гэта я тады знаў, хто ён такі гэты Затычка, дык хоць і ня біток зь мяне, але-ж чмыхнуў-бы яму кулаком туды, у што закаханыя людзі цалуюць.*

*Як скончылася сьвяткаваньне, адсьпявалі нацыянальны гімн, тады адліп. Пытаюся кума Яўтуха:*

*— Што гэта за сьлюнявая гніда, што мне ўсё вуха там у кутку запляваў? Затычкай сябе назваў...*

*— Каторы, гэты камлюкаваты, дохлы з выгляду?*

*— Ага.*

*— Гэта ханжа! Дык гэта-ж і ёсьць той, што ўсіх тут мясцовых калісьці пасварыў. Трымайся ад гэтай брыды здалёк.*

*Тады я зразумеў. Але, дзякаваць Богу, першы крок на супольнай дарозе быў зроблены. Нашы людзі пачалі гаварыць мовай дружбы й адкінулі ханжу набок.*

*Гэткім чынам я быў сьветкай пачатку важнага працэсу»*[527].


Сяргей Хмара

Паколькі чытачы «Беларуса», дзе друкаваліся раздзелы «Запісак», падзялялі погляды аўтара і на перадваенную эміграцыю, і на Трэцюю сілу, публікацыя ішла спакойна. Аж да «Кірпача».

Абразок гэты (як і адзінай Акулавай п’есы, камедыі «Тараканы ў саладусе») прысвечаны важнай для пісьменніка тэме: абыякавасці эмігрантаў, лянотнасці да грамадскай працы, занураннасці ў свае ўласныя фінансава-жыццёвыя справы. Галоўны герой — гэта *«свой, братка Беларус, ды яшчэ й заслужаны. Кірпач завецца. Цяпер ён нічагусенькі ня робіць, каб табе палец аб палец. Кажа, што ён ужо на пэнсіі ад грамадзкай працы.*

*— Часу ў яго на рыбу, мусіць, хапае?*

---

527 Акула, Кастусь. Усякая ўсячына: проза, паэзія, п’еса… С. 17–18.

*— Хоць ты яго скараці. Жонка сястрой у шпіталі, а ён ля дому. Бязьдзетныя. Дык і чаму-ж ня выдумляць?»*[528].

Да гэтага Кірпача Яўхім з кумам і паехалі на зімовую рыбалку:

*«Былі й іншыя госьці — Украінцы Маныўськія з Радфарду. Гэта былі Кірпачовы сябры па сабачых справах, і таму цэлы вечар гамонка йшла пра сабак.*

*Спадар Кірпач меў вялікага ваўчара, а пан Маныўські такога самага. Спаткаліся й зьнюхаліся некалі гэтыя сабакі на дарозе, а пасьля пазналіся й гаспадары іхныя. Кірпач назваў свайго Гіль (Hill), каб адмыслова пабеларуску й паканадыйску пасавала. Калі Кірпачу захацелася калі паказацца ў людзі, а Гілю ў сабакі, дык абое выбіраліся да пана Маныўськага. Іншым-жа разам — тыя да іх.*

*У гэны вечар абмяркоўвалі сабачыя харчы, дыеты, колькі разоў на тыдзень шампом сваіх гадунцоў мыць, як іх часаць, калі й якія ўколы даваць, як часта да вэтэрынара вадзіць, на якой пасьцельцы класьці спаць. Бедавалі, што навокал сучак няма. Не забыліся абмяркаваць норавы й капрызы Гіля й гадунца пана Маныўськага — Боба.*

*Ніколі ў жыцьці сваім ня чуў я такой займальнай і павучальнай гамонкі пра сабак. Перада мной адкрыўся цікавы й каляровы сьвет. Спачатку зь цікавасьці я рот разявіў, пасьля зяваў, а пад канец пляваць хацелася. Рэшту даказаў мне кум Яўтух, калі назаўтра ехалі дадому:*

*— Каб ты ведаў, кумішча, што за камэдыя! Задумалі Кірпач зь Кірпачыхай із свайго ваўка Беларуса зрабіць. От павёў, значыцца, Кірпач Гіля ў сабачую акадэмію. Гэта такая школа, дзе сабак на розныя штукі муштруюць. І кажа тады ён цэламу прэзыдэнту гэнай акадэміі:*

*— Ты глядзі, каб мой сабака Беларусам, а не Канадыйцам быў.*

*Той кажа:*

*— Ес, сэр. Чаму-ж не. Абы грошы.*

*А Кірпач далей навучае:*

*— Як будзеш вучыць яго скакаць, дык крычы — гоп! — чуеш?*

*А той кажа:*

[528] Акула, Кастусь. Усякая ўсячына: проза, паэзія, п’еса… С. 14.

*— I hope, I hope*[529]*.*

*Скончылася тым, што Кірпачовага Гіля падвучылі, але зьбеларушчыць так і не змаглі. Давялося самому гаспадару на чужы лад язык крывіць, каб із сабакам паразумецца. Так і выдурняецца вось, то із сабакам, то із рыбай. Каб трохі, дык чорт з табой, а то цэлы час, — закончыў кум.*

*Як усталі мы назаўтра, Кірпач ужо быў на возеры. Пасьля сьнеданьня пасьпяшылі туды й мы… У рыбаковай хатцы перад нашымі вачмі зьявілася такое: ляжыць сабе на ложку, пакурвае люльку Кірпач. Збоку куча рыбы ў корабе, на століку жыўчыкі ў слоіку хадыром ходзяць, а рыбак адно закідае кручкі пад лёд і цягае.*

*Мы пабылі нядоўга. Ужо едучы дадому, думаў я пра тое, што бачыў. Кум мой быў нейкі маўклівы, як усядно злосны.*

*— Чаго ты надзьмуўся, як індык? — пытаюся.*

*— Знаеш, кумішча, чаго цябе да Кірпача вазіў?*

*— Рыбы палавіць, зь людзьмі пазнаёміцца.*

*— Гэта ня ўсё, братка. От хацеў, каб ты пабачыў, што чалавек здуру вырабляіць. Я калі пагляджу на ўсё гэта, дык такі злосны, што трахнуў-бы. Іншыя вунь пры грамадзкай ці якой працы для народу душацца. На хлеб мусяць зарабляць, ды бальшыню свайго вольнага часу для беларускай справы пасьвячаць, а гэты во сабаку ў акадэмію вядзе, беларускага патрыёта зь яго робіць, рыбкі цягае. Чую, што апошнім часам і за паляўніцтва мецицца. Гэта во каб хоць палову энэргіі, што ўкладае ў гэтыя дурноты ды аддаў на нацыянальную працу, дык глянь, якая вялікая падпора была-бы… А ці-ж у нас гэта толькі адзін такі, як ён!*

*Кум змоўк. Я бачу, што кіпеў ад злосьці, дык збыў яго маўчаньнем. Ды й што мне казаць? Мне раней апавядалі, што калісьці Кірпач нямала працаваў для народу. Ня ведаю, ці гэта праўда. Гадоў яму, як я чуў, яшчэ шасьцідзесяці няма. Чалавечак крэпенькі й шустранькі з выгляду, дык пры працы папанатужыцца мог-бы, каб хацеў.*

*Мая-ж хата да нядаўнага часу таксама была з краю. Узяўся, відаць, кум Яўтух і мяне падвучыць. Калі гэтак, то першая наглядная лекцыя яму вельмі ўдалася»*[530]*.*

---

[529] *I hope* (англ.) — Я спадзяюся.

[530] Акула, Кастусь. Усякая ўсячына: проза, паэзія, п’еса… С. 15–16.



*Вінцэнт Жук-Грышкевіч. 1971 г.*

Як бачыць чытач, тэкст і стылёва, і лексічна нічым не адрозніваецца ад цытаваных вышэй, але скандал разгарэўся менавіта з-за яго. Справа ў тым, што хоць Акула ў лісце да Станіслава Станкевіча і пісаў, *«прызнацца, я сам-бы хацеў пагаварыць зь Кірпачом. Але-ж яго няма. Ёсьць адно чалавек, які рэклямуе сябе, што ён Кірпач. Праўда, у мяне-ж быў прататып. Але патрэбны былі і згушчаныя хварбы, каб асягнуць той «шак трытмэнт»*[531], для беларускае грамады не было сакрэту, з каго намаляваны партрэт.

Усе пазналі Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Розгалас — і, як выглядае, малапрыемны для аўтара — быў гэтакі, што Акула мусіў выдрукаваць у «Беларусе» адмысловае «Асьветчаньне»[532]. Там ён апраўдваўся, што раздзел прысвячаўся людзям, якія цалкам або часткова ігнаруюць беларускую справу, не бяруць у ёй удзелу; што некаторыя чытачы памылкова думаюць, быццам маецца на ўвазе канкрэтная асоба, і праз гэта чуюцца пакрыўджанымі, а насамрэч гэта не так. Але ж аўтар, зачапіўшы чыёсьці прыватнае жыццё, перад гэтымі людзьмі выбачаецца.

На гэтым справа, аднак, не скончылася.

[531] Ліст недатаваны.

[532] Козыр, М. Асьветчаньне. Да публікацыі разьдзелу трэцяга «Запісак Яўхіма Крайняга» // Беларус. № 85–86. Травень 1964. С. 7.

*«Таронта, 22.10.64*
*Рэдактару «Беларуса»*
*Д-ру Ст. Станкевічу*
*Ў Нью-Ёрку.*

*Вельмі Паважаны Сп-р Д-р Станкевіч,*

*Учора атрымаў Ваш ліст, а ў ім копію Рагулявага «Ліста ў рэдакцыю», дый Ваш адказ яму.*

*Некалі разьдзел «Запісак Яўхіма Крайняга», зьмешчаны ў № 83-м «Беларуса», падняў на ногі масу бязьдзейнікаў, дэзэртыраў з нашага нацыянальнага жыцьця на эміграцыі, дый і людзей, што хоць і мітусяцца пры нашых асяродках, адылі іхны засяг працы і амбіцыяў можна характарызаваць выразам Чорнага «вераб'іным размахам». Кажу — «падняў на ногі». Ведама, падняў не да працы, а для нападу на аўтара «Запісак». Д-р Рагуля ў сваім лісьце кажа, што гэтыя людзі, якія войстра зарэгавалі, гэта — «бальшыня нашага грамадзтва». Калі пагадзіцца з гэтым, дык трэба таксама тады пагадзіцца з тым, што ў нашым грамадзтве бальшыня бязьдзейнікаў...*

*Добразычлівыя нашы родзічы, ціснучы мне руку, віншавалі за адвагу і ўдачу. Гэткіх, вядома, была большасьць. Адылі адзін чалавек захацеў зрабіць на маей папулярызацыі сабакавода й клясычнага бязьдзейніка Кірпача капітал і неадвалочна пачаў шукаць дарог. Коратка гаворачы, Вам ведама, што ў вадным з наступных нумароў «Беларуса» (здаецца, 85-м) зьмешчана маё «Асьветчаньне», дзе перапрашаецца людзей, што МАГЛІ-Б чуцца пакрыўджанымі вышэйпрыгаданым разьдзелам з «Запісак».*

*Здавалася, справе канец. Таму вось я быў так няміла зьдзіўлены ўчора, атрымаўшы копію Рагулевага «ліста ў рэдакцыю», дзе ён ганіць мой разьдзел «Запісак» як «неэтычны», дый сваімі «дзевяцера дзевяцярыма» намагаецца спатоліць нейкую пакрыўджаную асобу.*

*Пытаньне: дзе прычына таго, што старшыня ЗБК зноў наважыў (дый так спозьнена) яшчэ раз рэагаваць на той разьдзел «Запісак», дый гэтым разам афіцыяльна ў прэсе? Каму і якая з гэтага карысьць?*

*У вадказ на першае пытаньне можна адно дагадвацца, што тутака не абыйшлося бяз прэсыі й спануканьня з пэўнага боку.*

*Каб адказаць на другое пытаньне, варта шырэй разгледзецца вакол сябе.*

*Д-р Рагуля, з прычыны характару заработнай працы, ня можа браць у нацыянальнай працы большага ўдзелу, чымся бярэ цяперака. Адылі каму прыйдзе ў галаву, каб яго залічыць да бязьдзейных? Ягоная шырака ведамая ахвярнасьць даволі рэкамэнсуе недахоп часу для асабістага ўдзелу ў нацыянальнай працы. Варта было-б адно, каб некаторыя «пакрыўджаныя», што бібікі абіваюць ды матар’яльна маюцца ня горш за Рагулю, прыкінуліся грашмі хоць напалавіну так, як ён... Д-р Рагуля, на маю думку, ведае цану адным і другім, значыцца, тым, што працуюць, і тым, што бязьдзейнічаюць.*

*Дык чаму-ж у сваім «лісьце ў рэдакцыю» ён ужывае дзьве маралі «этыкі»? няма сумлеву, што ня толькі найбольш няэтычнай, але проста злачыннай перад нашым народам ёсьць бязьдзейнасьць у вольным сьвеце людзей, што маюць інтэлект, эрудыцыю, матар’яльную базу і — галоўнае — ЧАС, каб падтрымаць нашу нацыянальную справу ў пэрыяд найбольшай трагедыі беларускага народу. Ды вось дзе сук: людцы некаторыя мяркуюць, што рыбалоўля, паляваньне, сабакагадоўля, а то навет і ўмеранае п’янства — усё гэта добрая этыка. Папробуйжа хто, барані Божа, із працуючых высьцебаць іх — гэта дрэнная этыка.*

*Гэтта вось, як шыла зь мяшка, вылазіць наверх лёгіка Сянькевічавага Нэгры. У прыватнасьці, наш Старшыня ЗБК думае мусіць, што лепш высьцябаць цяглавітага каня, чымся лянівую падлу. Мо яно й так. Цяглавіты конь, калі ён перамучаны, скарэй гужы напяліць, чымся лянівы. Ды адно да пары. Наша-ж эміграцыйнае заданьне, адно са шматлікіх, у рацыяналізацыі працы і якраз ляжыць у тым, каб ня толькі цяглавітых падганяць, але й лянівых ці зусім бязьдзейных збоку падпрагаць.*

*Яшчэ раней перадумаў я шуміху, якую бязьдзейнікі й дэзэртыры паднялі былі вакол «Запісак», дзе дасталося Кірпачу. Справу кірпачоў, здаецца мне, няма як на гэтым пакінуць. Таму знайду іншыя сродкі, магчымасьці й нагоды, каб бязьдзейнікаў-банкротаў у самых характэрных іхных колерах вывесьці на вочы працавітых людзей.*

*Выглядае, што нямэтазгодна гэта рабіць у прэсе. Некаторыя людзі «із вераб'іным размахам» стараюцца пасьля помсьціцца на прэсе за ўсё тое зьмешчанае, што ім не да смаку.*

*Д-р Рагуля ня раіўся са мной адносна свайго «ліста ў рэдакцыю». Як Старшыня ЗБК ён ня мусіў, і тутака ён у парадку.*

*Калі-ж Вы, Сп-р Рэдактар, пераслалі мне копію Рагулявага ліста й цікавіцеся маймі меркаваньнямі, дык за гэта Вам вельмі ўдзячны. Да вышэй выказанага хіба-ж дадаць апошнюю й найважнейшую засьцярогу: зьмяшчэньне Рагулявага «ліста ў рэдакцыю» прынясе больш шкоды, чымся карысьці. Людзі ўявяць, што д-р Б. Рагуля, гэтым разам афіцыяльна й публічна, сьцёбае працуючых, а абараняе бязьдзейнікаў і дээртыраў. Да гэтага, вядома, зацікаўленыя будуць мець розныя варыянты меркаваньняў собскага характару, як прыкладна паводля прычынаў, што прывялі да напісаньня Рагулям такога ліста... [...]*

*Жадаю добрага здароўя й посьпехаў у працы.*

*Ваш К. Акула».*

Ліст Барыса Рагулі рэдактар «Беларуса» ўсё ж выдрукаваў[533]. У ім «Запіскі» характарызаваліся *«ніто жартам, ніто пашквілем»*. Акула вінаваціўся ў выкарыстанні інтымнай інфармацыі пра аднаго заслужанага на палітычнай і грамадскай ніве чалавека, які — паколькі выведзены пад прыдуманым імем, а тэкст падпісаны псеўданімам — нават бараніцца не можа.

Натуральна, аўтара не каралі, ніякіх санкцыяў не было, от толькі працягу «Запісак Яўхіма Крайняга» не было таксама.

Гумар у часопісах быў іншы. Тут ішло наследаванне традыцый «Тараса на Парнасе», хоць, што праўда, ад бурлеску, травесційнасці захаваўся бадай толькі бахцінскі матэрыяльна-цялесны ніз.

У Канадзе існавалі два асобныя выданні: хмараўскія «Puha» (1950–1951) і «Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару» (1952–1953). Таксама да газеты «Беларускі голас» выходзіў дадатак «Ма-

533 Рагуля, Б. Ліст у Рэдакцыю // Беларус. № 92–93. Лістапад-сьнежань 1964. С. 6.

ланка — Смаліць на Чужыне» (першы нумар выдадзены яшчэ ў Гамбургу ў 1948 г.).

Той, хто возьме ў рукі камплект з чатырох нумароў «Puhi», доўга будзе чухаць у патыліцы, разважаючы, які ж менавіта лагер яго выдаваў. А справа ў тым, што другі, кірылічны, выпуск ёсць падробкаю, зробленаю Кастусём Акулам і Валерам Навіцкім[534] (хмараўскія нумары надрукаваныя лацінкаю)[535]. Для

---

[534] **Валер Навіцкі** (12.11.1920, в. Дубейкі (сёння Капыльскі р-н Мінскай вобл.) — 15.06.2001, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч.

[535] У гісторыі эміграцыйнай перыёдыкі быў вось яшчэ які выпадак. У 1947 г. надрукавалі (магчыма, што ў 3–5 экзэмплярах, на 2 аркушах, пад капірку) «Бабскі язычок» — *«орган сяброваак БЗТ у Марбургу, рыцарак змаганьня за праўду і вольнасьць думкі і слова»*. Гумарыстычнае студэнцкае выданне паведамляла ад Рэдакцыі: *«Дзякуючы свабодным дэмакратычным умовам, якія насталі пасьля разгрому гвалту і тэрору, ажыла і беларуская. На прэсавым рынку паяўляюцца вартасныя выданьні «Вызваленьне», «Беларуская Воля», «БІС» і т. п. паскудства. Марбург ня можа аставацца бяз свае прэсы, і вось таму ініцыятыўная група, маючая вартасныя кантакты з выбітнымі жаночымі асабовасьцямі марбургскага асяродзьдзя, пастанавіла выдацьвышэй успамінаны орган. Пры гэтай нагодзе галоўны рэдактар «Бабскага Язычка» просіць прабачэньня, што ня можа быць пры выхадзе першага нумару. Зь ім здарыўся непрадбачаны выпадак: пасьля адной са скромных брыджовых разгрывак, якая нібыта кончылася вельмі рана, бо а другой гадзіне раніцы (раней трудна), пры якой галоўны рэдактар дастаў атаку, вярнуўшыся дахаты. У рэзультаце гэтага быў зараз-жа дастаўлены ў ДП-шпіталь у Матэнбэргу, дзе сьцьверджаныя зраненьні тупым і заакругленым аружжам —— экспэрты прыпушчаюць, што гэта магло быць або качалка, або апалоўнік. Надзеі аднак не трацім на паправу здароўя галоўнага рэдактара»*. У рубрыцы «Шукаюць. Пошукі», напрыклад, падаваліся наступныя «абвесткі», што даволі яскрава і сёння характарызуюць студэнтаў, іхнае тагачаснае жыццё і адносіны: *«Сяброўка Жукоўская добрага рашпілю, неабходнага для яе дэнтыстычнай практыкі. Калега Жылік збыту на закупленую перад рэформай гарэлку. Арэхва — лектара, які чытаў-бы яму газэты, асабліва апошнюю балонку на час падрыхтоўкі да экзамінаў. Арэшка — добра платнай працы ў ляжачай пазыцыі. Трусэвіч — пацяшэньня пасьля страты сваёй дамы сэрца. Жэлезоўская — згубленых у мінулым годзе дакумэнтаў. Набагез — чорнага касьцюму, як некаторыя кажуць, нібы для шлюбу. Юрэвіч — кухоннага начыньня: апалоўнік, кацялкі і т. п. Рагуля Б. у сувязі са зьменай функцыяў спадніцу і кухонны хвартух. Таня Мазуро: сакратара з ведай мовай: ангельскай, францускай, італьянскай, украінскай ды*






*Вокладкі часопіса «Пуга» (1950–1951)*

нас гэта асабліва ўдала, бо дае магчымасць зірнуць на гумар абодвух лагераў.

Пачнем з падробкі: Puha. Год I. Сьнежань, 1959. № 2. Адказны рэдактар Сяргей Хмара. Тэхнічны рэдактар Васіль Хамут. Друкар Язэп Халуй-Даўбешкін. Тыраж 250 экз.

У сувязі з гэтым нумарам Акула пісаў у сваёй «Паўгодняй справаздачы з дзейнасьці Прадстаўніцтва Ўраду БНР у Канадзе»: *«Дэструктыўная дзейнасьць. Сябры Рады БНР ср. Сп. Хма-*

---

*іншых дзеля ўпарадкаваньня карэспандэнцыі, прыходзячай ад натоўпу жанічоў, раскіданых па розных кутках сьвету. Сабалеўскі: кантакту з БСЗ у Марбургу. Бразоўскі: чацьвёртага да брыджу. Арцюх: флірту на літоўскай мове. Галіна Родзько: спосабу паеднаньня Стагановіча з Русаком. Люда Рагуля: калыскі для двайнятаў. Сп. Каптуровіч: спосабу разагнаньня калхозу. Оля Левановіч: газовай хустачкі, разьмеру 1м х 1м для свайго спульніка дзеля асушэньня мініятурнага і вечна мокрага носіка. Смаршчок: добрага спосабу для выгаднага сядзеньня на двух крэслах. Жытко: безнадзейна этэрычнага аб'екту для закаханьня. Стагановіч: дарогаў для здабыцьця ласкі ў Галіны. Гайдзель: дамовай гаспадыні. Сажыч: сяброў Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў, каб зрабіць хоць раз сход».*

*ра й Камароўскі (Вярбіна) ад пэўнага часу заангажаваліся ў шкоднай дзейнасьці для ЗБК і Ўраду БНР. Яны распачалі выдаваньне г. зв. часапісу «Пуга», які мае на мэце ўтварэньне «трэцяй сілы». Гэта спрычыніла выданьне 2-га нумару таго-ж часапісу іншымі асобамі, але пад адрысам запраўдных выдаўцоў, што прывяло да пэўных непаразуменьняў. Іменна сп. Камароўскі абазваў сп-ра Навіцкага савецкім шпіёнам. Справа наладжваецца, бо, як даведваюся, сп-р Камароўскі мае ў наступную нядзелю перапрасіць сп-ра Навіцкага й вярнуць свае словы. Аднак шкоднасьць дзейнасьці сп. Сп. Хмары й Камароўскага зарысоўваецца ад даўжэйшага часу й да пэўнай меры мае ўплыў на палітыку ЗБК. Адносна сп-ра Навіцкага маю найлепшае ўражаньне і лічу закіды сп-ра Камароўскага цалком безпадстаўныя. Абодва нумары вышэйуспомненага часапісу былі Вам своечасова перасланы сп-ром Навіцкім»*[536].

У нумары адразу прыцягваюць увагу «Загадка-рэбус» і «Загадкі да рытму» (С. 8). Першая — тым, што пералічваюцца псеўданімы Сяргея Хмары, якія далёка не ўсе зафіксаваныя (напрыклад, Я. Сыманчук[537], якім падпісваліся рэцэнзіі і артыкулы на літаратуразнаўчыя тэмы — вельмі цікавыя, дарэчы[538]). Рыфмаваныя — вызначэннем галоўных фігурантаў Трэцяе сілы.

*«Загадка-рэбус*

*У пакоі новааб’яўленага лідэра народніцкае партыі сабраліся на нараду: Хмара, Ліпчанскі, Пугаўё, Янка Пярун, Язэп*

---

536 Ліст да Аўгена Каханоўскага ад 21.12.1950 г. Захоўваецца ў архіве NYPL.

537 У сваёй кнізе «Літаратурны рух на эміграцыі» (Мінск, 2002) я памылкова прыпісаў псеўданім Сыманчук Антону Адамовічу, у прыватнасці аўтарства рэцэнзіі на зборнік Масея Сяднёва «Ля ціхай брамы» за такім подпісам. Напэўна, гэта ўвяло ў зман укладальнікаў тома Антона Адамовіча «Да гісторыі беларускай літаратуры» (Мінск, 2005), куды ўвайшоў гэты тэкст. *Mea culpa.*

538 Як узор, падамо невялікую рэцэнзію на зборнік Янкі Юхнаўца «Шорах моўкнасці», выдрукаваную ў газеце «Беларускі голас» (№ 16. Лістапад 1955):

*«Прымусовая эміграцыя — цяжкія часы для паэзыі. Прыгнёт выклікае з аднаго боку гостры, аж да хваравлівасьці часам, — патрыятызм і ўтылізатарскія тэндэнцыі, прытарнаваць паэзыю выключна мэтам барацьбы за вызваленьне свайго паняволенага народу, з другога перадусім у часы, калі далягляд вызваленьня штораз больш губляецца ў туманох невядомага, — імкненьне вызваліць паэзыю ад турботаў «сяньняшняга дня» ў карысьць г. зв. «чыстага мастацтва». Зыркія прыклады*

*Брадзяка, Гісторык, Сымон Зацята, Кастусь Плотка, Сыманчук, Сыманёнак і Сьвітка. Пытаньне: колькі асоб у пакоі? Адказ: (раз)».*

---

*дае нам пэрыяд Дэкадэнсу ў расейскай літэратуры, часоў царскага парэвалюцыйнага тэрору 1907–1911 гадоў.*

*Калі адныя з іх, закрыўшыся у сваёй прыватнай шкаралюпіне эгаізму цынічна асьпеўваюць свае прыватныя «кветнікі» і заклікаюць землячкоў «пра братоў і сясьцёр расьпяцьце» не ўспамінаць, дык іншыя згубіўшы — адарваныя ад народу — ягоны шлях змаганьня, прабуюць аднак замяніць яго «змаганьнем» «за новыя дарогі» ў паэзыі. Адзін з гэтых апошніх і ёсьцека Я. Юхнавец, які шукае гэтых дарог у музыцы слоўнага наватворства і свайго роду футырыстычным мэтафорстве. Я. Юхнавец сваёй творчасьцю часам нагадвае расейскага паэту Хлебнікава, які ў сваёй пагоні за музыкай слова губляў ягоны сэнс і верш нарэшце абяртаўся ў нейкую бязсэнсовую шараду.*

*Бяспрэчна некаторыя вершы Я. Юхнаўца зьмешчаныя ў зборніку сваёй прыгажосьцю нагадваюць часам творы ягоных сваёкоў па творчасьці: бельгійскіх і францускіх паэтаў пасьля першай сусьветнай вайны, але бальшыня з іх дзякуючы іхнаму гіпэрмэтафарызму, ды залішняй пагоні за новатворамі і дыялектызмамі (амаль што мова «Веды») ўпрост застаецца незразумелай нават для чытача інтэлігэнтна, не гаворачы ўжо аб звычайнай масе эміграцыі.*

*Патрэбу новатвораў мы не адкідваем, наадварот гэта трэ' прывітаць. Ужываньне ў меру дыялектызмаў, якія ўзбагачаюць нашу літэратурную мову, так сама трэба вітаць, але горш, калі часам цэлы верш складаецца з такіх новатвораў і дыялектызмаў, як: утула, уздонь, ухопіна, узронь, скрушна, вусціш, суздром, порсткі, кунега, друзгі, пешчы, нашчыя, завіхі, барзьдзіць, ціхаць, вокмень, усточная, дзьмува, карцівасьць, лёць, звах, сьціж і г. д А гэта толькі частка слоў спатыканых у зборніку. Слоўны фэтышызм, якому спрыяе паэта цераз меру, робіць ягоную паэзыю чужою для нас, для народу, бо незразумелаю.*

*Як бальшыня ягоных вершаў у зборніку незразумелыя для народу, гэтак яму самому не зразумелыя шляхі змаганьня за вызваленьне:*

*«Усё ў вобмацку сьляпым*
*і конь з разгону перад прорвай*
*і голас наш*
*нямы…»*

*і калі ён хоча «намаляваць» сваю душу як: «прыгнуты дуб у завіруху», дык яму адразу прыходзіць рэфлекс: «мо' галубу у клетцы лепей»? А гэты словафэтышызм і пераборшчаная мэтафарычнасьць і зьяўляюцца той, хоць і залатой, але клеткай паэты, з якой з усяго сэрца пажадаем яму выбрацца на волю, бліжэй да народу. А варта, бо Юхнавец узапраўды паэта з ласкі Божае!».*

*«Загадкі да рытму.*

*Адгадайце, хто гэта?*

*1. Дваццацііменны пашквіліста і новаяўлены палітрук, тварэц трэцяй сілы, а з ім халуёў пара? (Хмара).*

*2. Дзеяч і паэта з вышэйшай анальфабэтычнай асьветай, міністра пры ўрадзе цара Гароха, секлятэт «трэцяй сілы», недалужны друкар і трэцяпартыйны мопсік дварнюжка? (Пітушка[539]).*

*3. Дзеяч над дзеячы ад мамінай калыскі, падмятацель у міністэрстве калоніяў, усюды быў, усіх і ўсё ведае, не ляік у беларускім руху, рычаг «трэцяй сілы», вырас на пасьмешышча, як дубіна? (Вярбіна)».*

Зь іншых матэрыялаў варта згадаць верш «Помнік» (С. 2). Вершу папярэднічае эпіграф: *«Адна высокапаважаная асоба з «трэцяй сілы», буйны паэта Мацей Мяцеліца сказаў: За маю вялікую грамадзкую й палітычную дзейнасьць беларускі народ павінен мне паставіць помнік хаця бы за 50 дал. (паводле агенцтва АБС[540])».*

*Эх, Мяцеліца ты ў шклянцы,*
*Бедны змызганы Мацей,*
*Ня відаць табе Парнасу,*
*Як ні дзяўкай, ні пацей!*
*Не паставяць дома помнік*
*Ні ў далярах, ні ў рублёх;*
*Будзеш вечна ты, Мацейка,*
*Парабком ды ў халуёх.*

З эпіграмаў, жанру, пачынальнікам якога лічыцца Сімяон Полацкі, вершаў-прысвячэнняў, аўтарства якіх, здаецца, належыць Акулу, вымалёўваюцца галоўныя ворагі-мішэні для выдаўцоў падробкі: Сяргей Хмара, што зразумела, і Язэп Пітушка — відаць, таму, што напачатку быў прыхільнікам БНР і супрацоўнікам выдаванага Акулам часопіса «Беларускі эмігрант»:

*Палез Сяргей у журналісты,*
*Ды забыў хлапчына,*
*Што заслужаных імён*

---

[539] **Язэп Пітушка** (07.04.1912, Браслаўшчына — 25.02.1984, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч.

[540] АБС — Адна баба сказала.

*Паскудзіць непавінен.*
*Відаць, сьняцца небараку*
*Мілыя прывычкі,*
*Як ён польскіх паліцаяў*
*Бэсьціў у Лукішках.*
*БНР мы разаб'ем,*
*БЦР мы згладзім,*
*Не інакш як у важджы*
*Сяргейка наш пападзе.*
*Лезь ды пніся у важджы,*
*Ці у журналісты,*
*Ды далей ты не заедзеш,*
*Як у пашквілісты.*

*Цяжкі твой лёс, Язэп Халуй,*
*Уроджаны калека,*
*Уявіў сябе няйнакш вялікім чалавекам.*
*У «Трыбуну» й «Эмігрант»*
*Пісаць хацеў-бы лісты,*
*Ды ня трапіў шчэ Халуй*
*Ніколі ў журналісты.*
*Ты забыўся, што ня пішуць*
*Халуі газэтаў,*
*Бо заборнае мастацтва*
*Для анальфабэтаў.*
*Марны лёс твой халуёўскі,*
*Вечны ты калека,*
*Як ня пніся, ды ня вырас*
*Ты на чалавека.*

Скіраванасць сатыры хмараўскага лагеру мела куды шырэйшы абсяг: усё ж з трох канадскіх гумарыстычных выданняў усе тры належалі ім. (Як тут не згадаць выслоўе Эміля Чорана, што гумар — доля пераможаных).

Мішэні ўвогуле лёгка прагназуемыя: БНР, БЦР, асобна — ЗБК, беларусы ў Канадзе. Але, як кажуць, Бог не роўна дзеліць. Таму калі пра Вінцэнта Жук-Грышкевіча малявалі комікс «Прафесар займаецца грамадскай працай» — пра рыбную лоўлю (згадайма Акулавага Кірпача)[541], а на Міколу Абрамчыка была змешчаная

[541] Puha. Listapad, 1950. № 1. S. 7.




*Карыкатура з архіву Сяргея Хмары*

карыкатура, дзе Прэзідэнт Рады БНР прыпадабняўся да рускага цара, з подпісам: *«Мікалай І Самазванец. Баец, жрэц, даносаў спэц, палітычны дзялец, гародні інжынярэц»*[542], то Радаславу Астроўскаму прысвячаўся верш «Едзе» — у сувязі з прапановаю Прэзідэнта БЦР даслаць беларускіх эмігрантаў у дапамогу амерыканскім войскам у Карэю змагацца з камунізмам. У вершы адлюстравана і ўспрыняцце хмараўцамі БЦР як прарасійскай палітычнай сілы ў адрозненне ад БНР-«крывіцкай»:

*Едзе, едзе пан Гастроўскі*
*Ваяваць і біць,*
*У далёкай у Карэі*
*Беларусь здабыць.*
*Ўзяўшы коніка худога,*
*Клічуць: «Ванька, крой!»*
*Замест шабелькі, пагнута*

[542] Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару. № 1. Сьнежань 1952. С. 4.

*Юркіна[543] пяро.*
*А за конікам жаўнеры*
*Шэрагам у рад.*
*Коўш[544], нахлостаўшысь бязь меры,*
*І Юркі два у лад[545].*
*А за імі Перпетуйка[546]*
*Прутка ставіць крок.*
*Касячок[547], Масей[548], Халуйка*
*І Кавыль[549] нябог.*
*А ўсё воінства сьвятое*
*Хрысьціць Багадысь.*
*Завязі там беларусаў*
*І адзін вярнісь.*
*А тады ўжо на радзіму*
*Прыйдзе ехаць час.*
*«Крывічы» ў Карэі зьгінуць,*
*Будзе край для нас.*
*Сабяром мы войска многа*
*Рускія палкі*
*І насеньня рэшту злога*
*Выб'ем ад рукі.*
*Зноў Расея тагды будзе,*
*Рускім ўвесь народ,*
*Беларусь забудуць людзі..*
*Гура!*
*Кроў!*
*Вперёд![550]*

Прыхільнікам БЦР, пералічаным у вершы, або сябрам БНР прысвячаліся і асобныя, персанальныя эпіграмы. Што цікава, найбольш — пісьменнікам: Юрку Віцьбічу, Міколу Вярбе (Сільвановічу), Масею Сяднёву:

[543] Маецца на ўвазе Юркі Віцьбіч.
[544] Маецца на ўвазе Святаслаў Коўш.
[545] Маюцца на ўвазе Юры Сабалеўскі і Юрка Віцьбіч.
[546] Маецца на ўвазе Яўхім Кіпель.
[547] Маецца на ўвазе Іван Касяк.
[548] Маецца на ўвазе Масей Сяднёў.
[549] Маецца на ўвазе Міхась Кавыль.
[550] Puha. № 1. Listapad 1950. S. 3.

***Узвышэнец***

*На ўзвыш, ўзвышша рваўся, бедны,*
*А скончыў — «Бацькаўшчыны» дном.*
*Усё грашак вось гэты медны*
*Той кут пад Стасявым[551] ярмом!*
*Званіў ў «званы Сьвятой Сафіі»,*
*І громы ціскаў ён на Рым.*
*А сяньня славіць ўжо віція,*
*Што ўчора гэтак йшчэ карыў.*

***Вярба***

*Не кладзіся вярба ніцам,*
*Ня пі ты з чужых крыніцаў.*
*Чужа вада горыч з сьвету зводзіць.*
*А лепш стань ты як стаяла,*
*Зашумі Ты як бывала*
*Аб жыровіцкіх крыніцах,*
*Не аб тых, што леглі ніцам.*

***Масей***

*Масей, Масей!*
*Ня будзь і Ты з роду гусей!*
*Куды адная, туды і ўсе.*
*А Стась папасе![552]*

Ну і пра найбліжэйшага геаграфічна апанента — Кастуся Акулу, з абыгрываннем іншага псеўданіма, якім той падпісваў свае фельетоны:

*Назваўся Козыр, хоць валет*
*Ён быў і ёсьць бубновы,*
*Радактар брудаў туалет,*
*І пісар безгаловы[553].*

Але палітычныя прыхільнасці, сяброўства ў той ці іншай арганізацыі былі далёка не адзінымі тэмамі для сатыры; мішэнню эпіграмы рабіліся не толькі асобы, але і грамадскія з’явы.

---

551 Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.
552 Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару. № 1. Сьнежань 1952. С. 3.
553 Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару. № 2. Люты 1953. С. 6.




Лісток сатыры і гумару.

№ 1. 1 верасьня 1948 г. Год выд. I

ЦІ НЕ ПАРА І ПАСЬМЯЯЦЦА?

Выходзіць адно, другое, пятае, дзесятае ротаторнае выданьне, а так сама і друкаваныя выданьні беларускай эміграцыі, бачым... Усе яны займаюцца вырашэньнем "сур'ёзных" праблемаў: як спрытней і больш выліць на галаву свайго "ворага" памыяў. Усе яны яшчэ тужэй нацягваюць і без таго напягнутыя нэрвы нашай эміграцыі. І ні адно з гэтых выданьняў не ставіць перад сабой заданьня: даць нашаму беларускаму эмігранту магчымасьць крыху пасьмяяцца, аслабіць напружаньне нэрваў.

Ці-ж не пара нам і пасьмяяцца? Вось гэтую задачу: сьмяяцца вясёлым, бясклопатным сьмехам, а часам ужаліць сяго-таго і едкаю сатырай -- і ставіць перад сабою "Дзіда".

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Калістрат Жмых.

БЕЛАРУСЫ ГРЫЗУЦЦА.

Толькі я ў газэты гляну --
Чую гвалт з-за акіяну.
Як хто ўмее, як хто можа
Пабрылі у раздарожжа.
Крыж нам цяжкі нясучы,
Беларусы-"крывічы"
Творыць парты, урады,
Выдрукоўваюць загады,
Уціскаюць шчыльна ў формы
І праграмы, і платформы.
Натварылі надта многа,
Загаралася трывога,
Крык ляціць на ўсе бакі.
Тупацяць каталікі,
Голас зычны і зацяты
Падымаюць вуніяты,
Праваслаўе узьнялося --
Усе крычаць, усе галосяць...

І пайшоў хрысьціць усякі:
Маскалі там, тут палякі,
Тут нацысты, там фашысты
/Усе скланяюцца на "істы"/;
Льлюць на млын вады багата
Для "праўдзівых дэмакратаў".
[illegible]
Сваім "ворагам" на шкі...
А за тым пайшлі даносы,
За даносамі допросы.../
І працуюць не абы --
Аж трашчаць у іх чубы.
Чуе Лёндан і Парыж,
Дык ад сораму гарыш.

Хай красуе раздарожжа.
Памагай нам сьвяты Божа.

28 сакавіка 1948 г., Аўстралія.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Выгнаньне нам -- пакутай чорнай,
Хоць можа мы й бяз граху.
Ці-ж нам заўсёды плакаць горна,
Ня мець хвіліны сьмеху?

Усім абрыдлі сваркі-звадкі,
Дзе іх усе з агідай.
Высьмейваць тыя непаладкі
Выходзіць наша "Дзіда".

- - - - - - - - -

*Лісток сатыры і гумару «Дзіда». 1948 г.*

Часопіс «Веда», а разам з ім Янка Станкевіч і Антон Адамовіч у самых розных эміграцыйных групоўках выклікалі крытыку як за свае крывіцка-ліцвінскія тэорыі, гэтак і за мову (зноў жа згадайма фельетон Кастуся Акулы «Сходзіны», дзе парадыравалася Станкевічава мова, і сатырычны верш Алеся Салаўя, ад якога, што праўда, аўтар усяляк пазней адхрышчваўся). Прайшоўся па іх і Хмара:

***Веда і радахтары***

*Радакцыя бач радахтароў*
*Сабе на час здабыла.*
*Адзін з вучоных дахтароў,*
*Другі ў мастацтве сіла.*
*Адзін Крывіч, Ліцьвін другі.*
*Валоў дабраных пара,*
*Хвасты задраўшы, ўзьнялі гіль*
*На ведаўскіх папарах.*
*Адзін крутне на свой капыл,*
*Другі на свой іначыць.*
*З чужых твораў — толькі пыл,*
*Так ўсё там перайначаць.*
*Замест навэлы — крыжазгад,*
*Раман — галаваломка.*
*Сядуніцай дахторскі зад*
*Спраўляе мову ёмка!*[554]

Паказальна развівалася крытыка Пятра Сыча, супрацоўніка газеты «Бацькаўшчына» і Радыё «Вызваленне» і адначасна рэдактара часопіса «Шарсьцень. Незалежны месячнік гумару і сатыры» (Мюнхен, 1952–1954).




***Паштоўка з карыкатурай часопіса «Шарсьцень». 1953 г.***

[554] Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару. № 1. Сьнежань 1952. С. 4.

У першым нумары «Puhi» была змешчаная даволі нейтральная эпіграма «Сыч і гумар»:

*Ну, браткі, і ўрадзіла*
*У паэзыі на дзіва:*
*Былі Танкі, Пяюны,*
*Вольхі, Вербы, Сьвістуны,*
*Салаўі н’ат завяліся,*
*Хмары гойдалі у высях.*
*А цяпер даюць пачын*
*У паэзыі Сычы.*
*Ды каб толькі яшчэ там!*
*Гэта-б з горам папалам!*
*А то вунь за гумар ўзяў!*
*Сыч і Гумар!*
*Божа збаў!*[555]




***Вокладка часопіса Шарсьцень». 1952 г.***

555 Puha. № 1. Listapad, 1950. S. 5.

А ў студзеньскім нумары «Дзятла» ў сатырычным вершы «пад Багушэвіча» ўжо агучваліся канкрэтныя закіды:

***«Вождж»[556] ня роўна абдзяляе***

*Пасварыўся з Стасем псыч,*
*У «Шарсьні» ён ўжо крычыць:*
*Стась усе грошы загартае,*
*Ганарары прапівае!*
*Там «Крушыніч», там ён «Крыга»,*
*«Каранеўскі», псэўдаў выга.*
*Мае, кажа, цэлу горбу,*
*І ўсе фонды сабе ў торбу.*
*Застаўляючы псычу*
*Толькі зьедкі на лычу.*
*А псыч сам «губа ня дура»,*
*Ўмее ён гарэлку дуліць!*
*А тут крыўда вось якая!*
*«Вождж» ня роўна абдзяляе!*
*Аднаму дае вядром,*
*А другому ледзь каўшом.*
*Як-бы псычаў брудны лыч*
*Мала рые і віжджыць*[557].

Знаходжанне фондаў для выдання перыёдыкаў было балючаю тэмаю: хто знайшоў, дзе ды колькі. Згадваюцца яны і ў паэме «Тарас на эміграцыі»[558].

Паэме, якая друкавалася з працягам у некалькіх нумарах «Дзятла», вядома, не ставала дасціпнасці і гумару свайго пратаганіста, ды і ананімны аўтар не меў таленту, блізкага Вераніцынскаму, але без вобраза Тараса карціна эміграцыйнай сатыры была б няпоўнаю. У прыведзеным ніжэй урыўку даецца характарыстыка нью-ёркаўскае беларускае грамады і таронцкага «авангарду» — групоўкі Міколы Ганько[559], Алеся Грыцука[560], Кастуся Акулы, з якой паўстала ЗБК, і хмараўскае Аб’яднанне:

---

556 Маецца на ўвазе Мікола Абрамчык.
557 Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару. № 1. Студзень 1953. С. 4.
558 Дзяцел. Месячнік сатыры і гумару. № 1. Студзень 1953. С. 5–6.
559 **Мікола Ганько** (23.05.1924, хут. Каледзіна (сёньня Маладзечанскі р-н Мінскай вобл.) — 18.05.1999, Таронта, Канада), грамадскі дзеяч.
560 **Алесь Грыцук** (03.07.1910, в. Міхнаўка (сёньня Падляскае ваяв. Польшчы) — 30.05.1976, Кінгстан, Антарыа, Канада), грамадскі дзеяч.

*Ты іх сам бы папытаў,*
*Людзі ўсё вучоныя.*
*Дахтароў там шмат,*
*Копы ня лічоныя.*
*А нат людзі мне казалі,*
*Іх на рынку прадавалі*
*На дзясяткі ці пучкі.*
*Не дачуў я, бо глухавы.*
*А да гэтага кульгавы,*
*На кірмаш я не пасьпеў.*
*Бо купіў-бы хоць са двух,*
*Каб запрэгчы у мой плуг.*
*Кажуць, цягнуць надта добра,*
*Як пакажаш ім пяцёрку*
*Ці капральскую аборку.*
*Тут Тарас зноў аглянуўся*
*І за кій ён хапануўся.*
*Хочаш праўды? Вось яна:*
*Сабіраецца «шпана»*
*Навакол якогась пана,*
*Што дзе фондзіка дастане.*
*«Мудракоў» зьбярэцца тузін,*
*І палітыкаў валтузаць.*
*Людзі стогнуць, людзі плачаць,*
*І ня чуюць, і ня бачаць,*
*Што гніе народ ў калхозах*
*Ці дэпісаўскіх абозах.*
*Ім-жа гэта усё роўна,*
*Бы карыта было поўна.*
*І гуляюць у мандаты,*
*Дэлегаты, дэпутаты,*
*Прэзыдэнты*
*На пасад: два прэтэндэнты..*
*І забылі праз адно:*
*Што мы ім нагой дамо!*
*Тарас надта радаваўся,*
*Што ён праўды вось дазнаўся.*
*Ён мяне аж абнімаў,*
*Нат мяне пацалаваў.*
*Ня вер, браток ты, адному,*

*Да Украінскага Дому*
*Пайдзі праўды запытаць,*
*Каб усё лепш было відаць.*
*Тарас са мной разьвітаўся,*
*У Торонто ён папхаўся. […]*
*Ёсьць там нат і авангард,*
*Кажуць — Беларусі!?*
*Я аднак іх пасылаю —*
*Далей пасьвіць гусі.*
*Бо хто гусі пасьвіць,*
*Цягла над вадою:*
*Ці асьцямі, ці нат сподкам,*
*Хоць і малу зловіць плотку.*
*Мо акулка над паддасца,*
*Усё зажыць вось ад шчасьця…*
*Аднак чорт нагнаў вось хмары,*
*Бура ўзрухнула гушчары,*
*Білі пугай, пярунамі,*
*Ў цемры страшыла маланка,*
*Усе сябры паўцякалі,*
*І астаўся толькі ганька.*
*Разбурылі Згуртаваньне,*
*Нарадзілі — Аб'еднаньне.*
*Кухара яны нанялі,*
*На хрысьціны ўсіх пазвалі.*
*Частавалі пятушкамі,*
*Беразьнячком, навічкамі,*
*Хлебка, грэчкі, сала далі…*
*Наварылі кісялю*
*І занесьлі Мігаю*[561]*.*
*Чалавек ён сьвятаносны,*
*Ня есьць мяса у час постны.*
*Ахрысьцілі і араньчаць,*
*Дзіцё няньчаць.*
*Гаварыць ужо навучылі,*
*Нат і «Голас»*[562] *ужо здабыла..*
*А хто-ж бачыў, каб дзяціна*

---

[561] Маецца на ўвазе айцец Міхась Мігай.
[562] Маецца на ўвазе газета «Беларускі голас».




*Вокладкі часопіса «Ёрш». Аўстралія*

*Ды так рана гаварыла?*
*Мабыць, за ўсім гэтым дзівам*
*Ёсьць чартова нека сіла!*
*Так, браток, тож тая сіла,*
*Што народ не апусьціла,*
*Ні пад панскім пад прыгонам,*
*Ні пад бальшавіцкім гонам.*

Вось такім, пры першым набліжэнні, вымалёўваецца гратэскавы аўтапартрэт эміграцыі. Мараль тут непатрэбная: жанр іншы, не байка.

# ЛІТАРАТУРНЫ ЖАЎНЕР ЮРКА ВІЦЬБІЧ

*Урэшце-рэштаў, што датычыць мяне асабіста,*
*дык я ня гэтулькі амбасадар (дыплёмат-палітык),*
*колькі проста жаўнер.*
Юрка Віцьбіч — Антону Адамовічу

Найдаўжэйшай вайною ў свеце, здаецца, лічыцца серыя баталій паміж Англіяй і Францыяй у 1337–1453 гадах. Можна згадаць Пелапанэскую вайну ў антычнай Грэцыі (27 год), Трыццацігадовую на землях сучаснай Нямеччыны, В'етнамскую вайну (18), Невядомую вайну (Сагановіч) у 1654–1667 гг.

Халодная вайна, пачатак якой дакладна вядомы (яе адлічваюць ад прамовы Уінстана Чэрчыля 5 сакавіка 1946 г. у амерыканскім Фултане), цягнулася, праз адлігі і *перестройки,* аж да пачатку 1990-х гг. І хоць тэрмін «вайна» тут ужыты ў пераносным значэнні, у тым змаганні былі свае войскі, свае генералы і жаўнеры, свая зброя, ахвяры і палонныя, паразы і перамогі.

Беларускі фронт тае вайны быў актыўным не менш за іншыя, ягоная лінія выразна праходзіла па нацыянальным пытанні. Вось баявы ўспамін прафесіянала: *«Кожны крок нацыяналістычных пісак не заставаўся не заўважаным беларускімі літаратарамі. Яны ці вершам, жартам, або нават трапнымі перафразамі імкнуліся выкрыць здраднікаў, іх брахню. Для гэтага ў арсенале пісьменьнікаў былі ўсе жанры публіцыстыкі. […] Як і фэльетоны ці памфлеты, гэтыя жарты насілі таксама востры палітычны зьмест»*[563].

Аўтар цытаты, Іван Сачанка, пералічвае тых пісьменнікаў: Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Максім Танк, Анатоль

---

[563] Сачанка, Іван. Хто такія беларускія «патрыёты». Мінск, 1975. С. 28. (Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы»).

Астрэйка, Антон Бялевіч, Пятро Глебка, Аркадзь Куляшоў. Але не яны рабілі надвор'е.

Тут адразу хочацца прадставіць генеральскі трыумвірат з боку *завяртанцаў* (па назве газеты «За вяртанне на Радзіму», пазнейшага «Голасу Радзімы»), важны для Віцьбічавых тэкстаў і агульнага кантэксту.

Першы — Лаўрэнці Абэцэдарскі (1916–1975), доктар гістарычных навук, прафесар, належная ацэнка працаў якога паспела яшчэ трапіць у «Энцыклапедыю гісторыі Беларусі»[564].

Другі — Леанід Прокша (1912–1994), рэдактар газеты «За вяртанне на Радзіму» ад 1958 да 1969 гг.[565]

Трэці — Уладзімір Бягун (1929–1989), найбольш адыёзная асоба з усёй тройцы, аўтар працаў па іудаізму, сіянізму, масонству[566]; існавала показка, быццам грамадзяне СССР, атрымаўшы дазвол на эміграцыю, бралі, пры вельмі абмежаваным багажы, асобнікі ягоных кніг — змагацца з настальгіяй.

На баку ж *бебурнацаў* (скарот ад «беларускіх буржуазных нацыяналістаў») падобных знакамітасцяў не было, але арсенал карысталі той самы — фельетоны (і памфлеты; розніца тут прыкладна як паміж прыказкамі і прымаўкамі).

У 1800 г. у парыжскай газеце «Journal des Débats» нарадзіўся новы жанр — фельетон. Гэтыя падвалы (адначасна і месца ў газеце і сам матэрыял) маглі ўяўляць з сябе крытычныя артыкулы на палітычныя, літаратурныя, тэатральныя тэмы, травелогі, развагі аб эканоміцы ці культуры, нават апавяданні.

Фельетоны Лявона Савёнка, Антона Адамовіча, Юркі Віцьбіча, гэткія розныя і пра рознае, — спадчыннасць французскага продка.

У СССР зорны час фельетона прыйшоўся на 1950–1970-я гг., і тады ж былі зробленыя спробы тэарэтычнага асэнсавання жанру, сёння гэтыя працы ні карыстаць, ні нават перачытваць нельга. Затое даўняя праца Віктара Шклоўскага не проста актуальная: складваецца ўражанне, што Віцьбіч быў знаёмы з ёю і вучыўся па ёй, настолькі фельетоны ўзвышэнца збудаваны па тэзах апаязаўца:

[564] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Том 1. Мінск, 1993. С. 24–25.

[565] Беларускія пісьменнікі. Бібліяграфічны слоўнік. Том 5. Мінск, 1995. С. 52.

[566] Беларуская энцыклапедыя ў 18 тамах. Том 3. Мінск, 1996. С. 392.

«*Понятие фельетона чрезвычайно широко и создавалось исторически, а не явилось результатом анализа. Говорят о «маленьком фельетоне», о «фельетоне-романе». Но, с точки зрения техники писания, главной чертой фельетона нужно признать: 1) связанность его с газетой сегодняшней темой, 2) введение в него еще нескольких умышленно издалека взятых тем.*

*Это введение новых тем дается или с самого начала неожиданным названием, между которым и первой строкой текста читатель ощущает резкий переход. Такое название обычно разъясняется только в последних строках фельетона, разрешая его. Часто фельетон состоит из двух или трех фактов, рассказываемых параллельно, или же начинается с одного случайного и странного факта, откуда внезапно переходит на тему дня. […]*

*Современный фельетон состоит обычно из двух-трех тем.*

*Одна целевая — программная. Фельетон называется не по ней, а по теме дополнительной, отстраняющей. Эта тема вводится для изменения ключа, в котором обычно воспринимается целевая тема.*

*Искусство фельетониста состоит, таким образом, в неожиданности и обязательности (ненатянутости) расшифровки главной темы при помощи дополнительной. […]*

*Фельетонность приема — в остранении темы способом изложения.*

*Как будто бы введением неупомянутого сказчика. […]*

*Появился тип фельетона с эпиграфом — темой, которая потом зафельетонивается. […]».*[567]

Фельетоны Віцьбіча друкаваліся падваламі ў газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус» (як у эпіграме: *«На ўзвыш, узвышша рваўся, бедны/ А скончыў — «Бацькаўшчыны» дном»*) і ўважліва прачытваліся не толькі *бебурнацамі*, але і *завяртанцамі*, якія пісалі ў адказ свае. Тое быў не проста абмен досціпамі, сарказмам, а сапраўдная вайна, і пашкоджанні былі сапраўднымі. У фельетонах і памфлетах аўтараў з БССР часта прыводзіліся рэальныя факты біяграфій, якія хоць і не маглі спрычыніцца да сур'ёзных праблемаў героям у іхным

[567] Шкловский, В. Гамбурский счет: Статьи — воспоминания — эссе (1914–1933). Москва, 1990. С. 358–362.

новым, эміграцыйным жыцці, але вымушалі ўсё ж вытлумачвацца перад паплечнікамі. Паказальны ў гэтым плане ліст Віцьбіча да Антона Адамовіча з паспешлівай рэакцыяй на «Камедыянтаў» Леаніда Прокшы і хай іранічным, але тым не менш апраўдваннем перад намёкамі на ягоную сувязь з Наталлей Арсенневай. Або дастаткова было таму ж Прокшы ў фельетоне «Пад вэлюмам аб'ектыўнасці» напісаць пра паэта К., як эмігранты, наогул схільныя да пошукаў шпіёнаў і засланцаў, кідаліся высвятляць, хто гэта: Клішэвіч? Крушына? Кавыль?

Таму зразумела, што ў гэткай вайне ўчынак Уладзіміра Клішэвіча — публікацыя вершаў у газеце «Голас Радзімы» — не мог успрымацца інакш, як дэзерцірства, здрада.

Рэакцыя на творы і падзеі, час і настроі, натуральным чынам, заставаліся па-за фельетонамі Віцьбіча. Тут застаецца толькі пагадзіцца з думкаю Шклоўскага з кагадзе цытаванай працы, што лепшы фельетон той, які нельга выцягнуць з газеты, а калі і друкаваць, дык у атачэнні газетных выцінак, эпіграфаў, цытатаў[568]. Таму Віцьбічавы творы (метад *кантэкстуалізавання*) змяшчаюцца ніжэй разам з ягонымі лістамі (асобныя з якіх — бы фельетоны самі па сабе; згадаць хоць бы выпадак з а. Янам Пятроўскім), а таксама — для параўнання — з двума характэрнымі фельетонамі *завяртанцаў* — Леаніда Прокшы і Уладзіміра Бягуна (у апошнім вельмі красамоўна беларускі пісьменнік пакідаецца безыменным).



*Юрка Віцьбіч*

Напрыканцы хочацца звярнуць увагу на тое, што фельетоны Юркі Віцьбіча з скрупулёзнымі датамі, бібліяграфічнымі спасылкамі, сёння пры чытанні

[568] Шкловский, В. Гамбурский счет: Статьи — воспоминания — эссе (1914–1933)…

ўспрымаюцца ўжо не проста як рэха той халоднай вайны, а як яе гістарычнае удакументаванне. Адбылося, як і пісаў Шклоўскі, пашырэнне жанру[569].

---

*29.10.61 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Сябру!*[570]

*Не дастаў яшчэ ад Вас адказу на свой апошні ліст, але ня ў гэтым справа — хочацца на разе перагукнуцца з Вамі без увагі на бухгальтэрыю.*

*Ці не давялося Вам бачыць кніжыцу літфузорыі рэдактара «Голасу радзімы» Леаніда Прокшы/або Лявона Верашчакі — «Камедыянты»?*[571] *Адным з галоўных гэрояў гэтага «памфлету» зьяўляецца пісьменьнік Юрка Вырвіч, і каб падкрэсьліць, што гэта — Юрка Віцьбіч, аўтар у сувязі зь ім згадвае ягонага бацьку — папа зь Вяліжу, артыкулы аб паўстаньнях, пачатак партызанскае песьні — «У Вяліжы дождж ідзе, а ў Віцебску сьлізка», і г. д. Ну дык што-ж — да плявузганьня завяртанцаў мне не прызвычайвацца.*

*Паводля новага абвінавачваньня, высунутага Прокшай Віцьбічу, ён зьяўляўся да вайны злодзеям і фальшываманетчыкам, або падрабляў грошы і дакумэнты. А хіба не? Гэта я падробіў, ужываючы розныя «характа-*

---

[569] Больш-менш пра тое самае пісаў у зборніку, прысвечаным акурат фельетону, Юры Тынянаў: *«Литературный факт — от эпохи к эпохе — понятие переменное: то, что является «литературой» для одной эпохи, то не было ею для предыдущей и может снова не быть ею для следующей. С другой стороны, собственная инерция художественной литературы — также от эпохи к эпохе — иссякает, и тогда она ищет источников со стороны. Таким образом, чисто бытовое или научное отношение к факту порождает новое в литературе явление»*. (Фельетон. Сборник статей под редакцией Ю. Тынянова, Б. Казанского. Ленинград, 1927. С. 6.)

[570] Ліст Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча.

[571] Прокша, Леанід. Камедыянты. Мінск, 1961. — 78 с. (Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы».)

*ры», «Ліст Зіноўева»*[572] *і «Тэстамэнт Леніна»*[573]*. Гэта я таксама скраў кабылу Будзёнага і люльку Сталіна. Што праўда, дык праўда. Але затое зьдзівіла мяне ў гэтым опусе іншае абвінавачваньне.*

*Леанід Прокша падгледзіў, нібы ў Віцьбіча меліся інтымныя ўзаемаадносіны з… Натальляй Арсеньневай. На працягу свайго твору ён гэтую недарэчнасьць некалькі раз згадвае ды зь нейкім сьмердзякоўскім спрытам смакуе. Вось ужо і ні целам і ні душой не вінаваты — зусім я не ў гусьце Арсеньнявае, як і яна не ў маім. А ўвогуле, абстрагуючыся ад нашае глыбокапаважанае Арсеньнявае, я з юнацтва вельмі далікатны ў дачыненьні да кабетаў і ў сваім жыцьці сьвядома амінуў ладне зь іх, якія шчыра кахалі мяне або нават спрабавалі гвалтам накінуць мне сваё каханьне. Але ня ў гэтым вузка асабістым справа.*

*Мне хочацца яшчэ раз выказаць сваю глыбокую пашану да Натальлі Арсеньневае як да паэткі і чалавека. Яна, як бадай і ўсе нашыя паэткі, больш мужная, ваяўнічая ў сваёй творчасьці, чым нашыя эміграцыйныя паэты — ціхабрамшчыкі*[574]*, напоўжывыя шкапы, румзы і г. д. Калі, напрыклад, маё асабістае жыцьцё і асабліва астатнім часам зусім невясёлае, дык якое значаньне мае гэтая прыкрая акалічнасьць у параўнаньні з пакутамі нашага народу. Вызнаю толькі тыя сьлёзы, якія выпальваюць дзюры на каменьнях, але ня тыя жабрацкія сьлёзы (пашкадуйце, маўляў, мяне), што робяць з чалавека анучу. Вось таму і паважаю нашую Натальлю Арсеньняву, зь якое сьвядома распачаў свой «Плыве з-пад Сьвятое Гары Нёман»*[575]*.*

*Не амінулі мяне завяртанцы і ў двох апошніх № № «Голасу Радзімы». Калі ў адным зь іх яны згадваюць*

---

572 Ліст-фальшыўка «Адчынены ліст да ўзброеных сілаў» быў выдрукаваны 25 ліпеня 1924 г. у брытанскай газеце «Workers Weekly». Намеснік рэдактара Дж. Р. Кэмбэл быў арыштаваны, але неўзабаве вызвалены (так званы *Campbell Case*).

573 Дакумент, які складаецца з 13 запісаў, надыктаваным хворым Леніным за год да смерці, часам яшчэ называюць «Лістом да З’езду».

574 Намёк на зборнік Масея Сяднёва «Ля ціхай брамы» (1955).

575 Нарыс Віцьбіча пачынаецца эпіграфам з верша Наталлі Арсенневай *«Магутны Божа, Уладар сусветаў»*.

*Юрку Віцьбіча бадай у акадэмічным (у бэсэсэраўскім сэньсе) пляне, дык у другім нейкі Э. Беленькі (калярытнае прозьвішча) прысьвячае яму адмысловы артыкул «Прадажная скура». Аўтар падкрэсьлівае, што Віцьбіч гэта безнадзейны вар'ят, маўляў, не аднойчы ляжаў у віцебскае псыхіятрычнае больніцы як алькаголік. Адпавядае праўдзе, што яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя ў Вяліжы сьпявалі песеньку:*

*Адчыняйцесь, кабакі,*
*Разгуляліць Шчарбакі,*

*але, аднак, спадкаемца сваіх продкаў ніколі не ляжаў у псыхіятрычнае больніцы, і ўсё-ж ня ў гэтым сэнс доўгае прамовы. Цяпер, як паведамляе далей Э. Беленькі, у Віцебску няма гэтае больніцы, як няма й турмы. Запраўды, каб існавала гэтая больніца, дык няма каму было пісаць у «Голас Радзімы» артыкулы пра Віцьбіча. А навошта тая турма, калі ўся краіна ёю зьяўляецца, і нават Усходні Бэрлін адгарадзілі ад Заходняга мурам.*

*Зьдзівіла мяне таксама сьцьверджаньне Э. Беленькага, нібы Віцьбіч існаваў за кошт газэты «Віцебскі Рабочы» і паляваў у ейнай рэдакцыі па авансы. А ў запраўднасьці віцебскія недалужныя газэтчыкі прасілі Віцьбіча, каб ён напісаў што-небудзь для іхнае газэты. Ня менш зьдзівіла мяне ягоная забарона цяперашняму Віцьбічу «вылазіць са скуры за акіянам» як прадстаўніку беларускага народу, бо пэўне-ж гэткімі прадстаўнікамі зьяўляюцца Э. Беленькі ды Фэйгізон, на якога першы спасылаецца. Ці ня хопіць зь іх — з тых самых — што яны зрабілі Кастрычнік на Беларусі?*

*Аднак асабліва расчулілі мяне ў гэтым артыкуле гэткія выразы, як «савецкі лад вельмі гуманны» або «новая праграма КПСС ускалыхнула ўвесь сьвет». Наконт першага распаўсюджвацца не выпадае — няма патрэбы, а што датычыць другога, дык запраўды, які «шутильник» з Малдаванкі, кажучы мовай гэрояў Бабэля[576], гэты Э. Беленькі. Ой, трымай мяне мама, бо я паваллюся — гэтак ускалыхнула ўвесь сьвет і мяне асабіста тая «гістарычная» праграма. Проста — выбух Крака-*

[576] **Ісаак Бабель** (1894–1940), пісьменнік, аўтар «Адэскіх апавяданняў».

*тау[577]. Ведаем мы і самую «дэмакратычную» ў сьвеце «Сталінскую канстытуцыю» і самы «мудры» ў сьвеце «Кароткі курс гісторыі партыі».*

*Але-ж досыць злоўжываць Вашым часам.*

*Найлепшыя пажаданьні Вам і Старому[578] ад мяне і маіх.*

*Пішэце.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Коратка аб розным.*

** Мінула ўжо два месяцы, як наведаў мяне прадстаўнік Дэпартамэнту Іміграцыі і Натуралізацыі, і чамусьці не выклікаюць туды, хоць меліся паклікаць праз тыдзень пасьля візыты. Спадзяюся, што ўсё скончыцца добра.*

** Нечакана завітаў да мяне — «правадыра мёртвых душаў»[579] — Міхась Кавыль і прэзэнтаваў два сваіх зборнікі. Можа гэта таму, што Леанід Прокша накінуў мне ў «Камедыянтах» ягонага Будду[580].*

** Добра зрабіла «Бацькаўшчына», прысьвяціўшы свой апошні падвойны № Усеваладу Краўчанку[581]. Ніштто сабе напісаў аб ім і Ваш асабісты сябра Мікола Цэлеш[582], але, на жаль, ён дагэтуль ня ведае, што беларусы кахаюць толькі кабетаў[583].*

** Э. Беленькі згадвае пра тыя падсавецкія творы Віцьбіча, ад якіх саветчыкі не адмаўляюцца. Усе мы часам вымушаны былі там цытаваць «клясыкаў» марксызму-ленінізму, але кожны, хто ўважліва чытаў нашыя творы, вычуваў зьдзеклівасьць, штучнасьць гэтага цытаваньня. Што датычыць Юркі Віцьбіча, дык ня ў пры-*

[577] **Кракатау** — вулкан у Інданэзіі.

[578] Маецца на ўвазе бацька Антона Адамовіча.

[579] Маецца на ўвазе Згуртаванне «Шыпшына», якое на той час фактычна спыніла існаванне.

[580] Маецца на ўвазе верш Міхася Кавыля «Нірвана» (*«Я ніколі ня буду Буддам»*).

[581] **Усевалад Краўчанка** (1915–1961), пісьменнік, скончыў жыццё самагубствам падчас камандзіроўкі ў Францыю.

[582] **Мікола Целеш** (25.06.1900, в. Зазер’е (сёння в. Заазер’е Лепельскага р-на Віцебскай вобл.) — пасля 1976 г.), літаратар, перакладчык.

[583] Цэлеш, Мікола. Каханьне — мацней за сьмерць // Бацькаўшчына. № 42–43 (577–578). 22 кастрычніка 1961. С. 3.

*клад Эдуарду Самуйлёнку*[584]*, пераважная бальшыня ягоных падсавецкіх твораў зьяўляліся не савецкімі — не дарма ад іх лезьлі на сьценку Клімковіч*[585] *(«государево око»*[586]*) з Бэндай*[587]*, Александровіч*[588] *(«Вырви глаз» — Хадыка) з Броўкай*[589] *ды іншыя. А паміж гэтымі творамі адно з першых мейсцаў займае «Сьмерць Ірмы Лаймінг»,*

584 **Эдуард Самуйлёнак** (1907–1939), празаік, драматург, аўтар твораў пра змаганне польскіх працоўных з фашызмам («Тэорыя Каленбрун»), станаўленне савецкай улады (раман «Будучыня»). У фельетоне «Цьвілікае шэранькі верабейчык» («Беларус». № 116. Сьнежань 1966. С. 2) Віцьбіч пісаў: *«Паасобку стаіць Эдуард Самуйлёнак. Усю сваю творчасьць ён прысьвяціў, прабачце, шчасьцю й радасьці савецкіх і падсавецкіх людзей, за што адным з першых паміж літаратарамі атрымаў дзяржаўную ўзнагароду — ордэн «Знак пашаны». Але жывыя адпомсьцілі яму, памёрламу. У наступную-ж ноч пасьля ягонага пахаваньня ў лютым 1939 г. яны, раскапаўшы магілку, сьцягнулі зь яго гарнітур. Іх знайшлі, і пад час сьледзтва выявілася, што гарнітур яны прадалі на рынку ў Бабруйску, каб накарміць сваіх галодных дзяцей. Ці-ж ня сьветчыць гэтае аб «шчасьці й радасьці» савецкіх грамадзянаў і аб пасьмяротным банкруцтве Эдуарда Самуйлёнка як чалавека й пісьменьніка?»*. З ліста да Станіслава Станкевіча ад 10.07.1965: *«Мой дэманстрацыйны ўваход у падбітае тагды бальшавікамі «Ўзвышша» мне пазьней ніколі не даруваўся ды пры ўсякай нагодзе падкрэсьліваўся. Асаблівая роля тут належыць Лукашу Бэндэ, Алесю Кучару і Эдуарду Самуйлёнку. Аднак апошняму я ўсё дарую — ён, усімі ў часе свае страшнае хваробы занядбаны, памёр літаральна ў мяне на руках у санаторыі «Сасноўка» пад Віцебскам. Дарэчы, я прылучыўся да роднага «Ўзвышша» наўсуперак ранейшым запрашэньням мяне з боку Маскоўскае АПП, беларускую сэкцыю якое ачольвала Зіна Бандарына, як і беспасярэдне з боку БелАПП'у — праз Хвядоса Шынклера. Нейкі час належыў перад тым да забароненае потым бальшавікамі нацыянальнае сэкцыі вядомага згуртаваньня «Кузница», на чале якоае (сэкцыі) стаяў знаны Паўлюк Шукайла»*.

585 **Міхась Клімковіч** (1899–1954), пісьменнік, літаратурны крытык, аўтар Дзяржаўнага гімна БССР (1944).

586 Гэткімі словамі прадставіў Пётра I Сенату генерал-пракурора Паўла Ягужынскага. З цягам часу так пачалі называць звязанага з пракуратураю чалавека.

587 **Лукаш Бендэ** (1903–1961), крытык, літаратуразнаўца.

588 **Андрэй Александровіч** (1906–1963), паэт, адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

589 **Пятрусь Броўка** (1905–1980), паэт, празаік, лаўрэат Дзяржаўных прэмій БССР і СССР.

*якая існавала ў жыцьці і якую я гэтак кахаў, як ніякую потым ніколі.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*П. П. С. Чуў, што ў Ню Ёрку на Асамблеі АН знаходзіцца цяпер Аркаша Куляшоў*[590]*. Можа, ён увачавідкі пераканаецца, што ягоныя колішнія радкі, якія маю толькі ў перакладзе на ўкраінскую, а ўласьне*

*Падають каземати*
*Вітрини дрижать на Бродвеі…*
*Ви чуете, делегати*
*Шановноі Асамблеі!*

*зьяўляюцца проста недарэчнымі, дзіцячымі. Але, ці наўрад. І адразу згадваецца самы таленавіты з гэтак званае амсьціслаўскае плеяды Юлі Таўбін*[591]*. Ён, затыхаючыся ў савецкай шэрай абыдзёншчыне, пісаў:*

*Шолах шын і шум машын*
*Вашынгтон і Віскансін —*
*Злучаныя Штаты.*

*або:*

*Сьцяг палос і зор,*
*Сьцяг Пяці Вазёр,*
*Сіні сьцяг Палаты…*

*ці*

*Штандар рыс і зор,*
*сьцяг скалістых гор —*
*сіні і стракаты.*

*Неяк Клішэвіч з Сяднёвым заўважылі мне, што гэта дрындушкі. Не дараслі яны яшчэ абодва да іх*[592]*.*

---

590 **Аркадзь Куляшоў** (1914–1978), паэт, лаўрэат Дзяржаўных прэмій БССР і СССР.

591 **Юлі (Юдаль) Таўбін** (1911–1937), паэт. Пад амсціслаўскаю плеядаю Віцьбіч мае на ўвазе творчы саюз Юлія Таўбіна, Аркадзя Куляшова і Змітра Астапенкі.

592 Аўтар даваеннага бадай разгромнага артыкула пра Таўбіна Уладзімір Сядура (Глыбінны) пісаў у лісце да Вітаўта Тумаша ад 20.01.1969: *«Дзякуй […] за зробленую фотакопію балонкі з кнігі У. М. Конана «Разьвіцьцё эстэтычнай думкі ў Беларусі». […] Што да згаданага майго імя ў кнізе У. Конана, дык мяне гэта крыху зьдзівіла, бо, прыкладам, у адным з восеньскіх нумароў «Полымя» крытык Бярозкін шырака палемізуе з маім артыкулам пра Юлія Таўбіна, цытуе малыя*

*і вялікія кавалкі, але, падаючы ў двукосьсі, маўчыць, каго ён цытуе, адкуль ды з якога артыкулу. А Конан нават у пералік прозьвішчаў у канцы кнігі ўвёў маё імя. Праўда, нясумленнасьць абыходжаньня з крытыкаваным аўтарам мяжуе з сьведамым шальмоўствам. Маё веданьне гегелеўскай дыялектыкі і імкненьне навярнуць пісьменьніка да сьведамасьці і разуменьня таго, што адно раздваеньне адзінага на ўзаемнапрацілеглыя часткі можа забясьпечыць яму багаты спэктар настрояў, больш глыбака адлюстраваць пачуцьці і думкі чалавека, што адно ў супярэчнасьцях духовых пошукаў рашчыняюцца да дна кажная душа і чалавечая натура, выдаецца цяпер за нешта шкоднае для савецкай літаратуры. А якраз, аднак, на гэтым шляху адыходу ад казённага аптымізму беларуская літаратура ў асобе Язэпа Пушчы і ягоных «Лістоў да сабакі» давяла плённасьць такога «раздваеньня». У тых умовах я, ясная рэч, ня меў магчымасьць прапагандаваць адчынена гегелеўскую дыялектыку, я вымушаны быў ставіць яе з галавы на ногі, як выказаўся Маркс, называў яе дыялектыкай матэрыялістычнай. А ў тыя гады, 1929–1931, яшчэ ня было гаворкі пра гэтак званы і прымусовы цяпер «сацыялістычны рэалізм». Апошні Горкі з Сталіным увялі пазьней, у 1934 г. Мой-жа мэтад псыхалягічнага пранікненьня ў супярэчлівую душу гэроя, у тым ліку і г. зв. «лірычнага гэроя», г. зн. у паэзіі, мог саслужыць добрую службу. Тут дыялектыка душы чалавека вяла-б беларускую паэзію і прозу да тых узвышшаў, да якіх імкнуліся йсьці лепшыя майстры беларускага мастацкага слова — Дубоўка, Пушча, Жылка, Чорны, Зарэцкі, Калюга і іншыя. Пэўна-ж, пісаў я тое, калі мне было адно 18, 19, 20 гадоў. Гэта былі адно першыя крокі пачаткоўца ў галіне эстэтыкі, шмат што зьмянілася з тых часоў. А Конан галаслоўна абвяшчае мяне «ваяўнічым нігілістам» у дачыненьні да мастацтва мінулага. Вось гэта ўжо сапраўды сьведамая фальсіфікацыя, бо ў тыя часы я спадчыны не кранаўся. Нігілістам я быў адно ў дачыненьні да вымогаў савецкае ўлады і партыі, каб літаратура служыла палітыцы. Дзеля гэтага яны прымалі адно голы аптымізм, а я, наўсуперак, заклікаў да спалучэньня яго з пэсымізмам, роздумам, сумнівам, якія на справе нівэліравалі яго і зводзілі на нішто. Аб'ектыўны аналіз будучыні, а ён няўнікнёны, пакажа, ці я меў рацыю з маім мэтадам «раздваеньня адзінага на ўзаемнапрацілеглыя часткі», ці бюракратычны, накінены зьверху і ўжо 35 гадоў вымаганы ад усіх пісьменьнікаў, абавязкова аптымістычны ў адпаведнасьці з партыйнай палітыкай мэтад «сацыялістычнага рэалізму», які спарадзіў горы халтурнай літаратуры, якая адно толькі і робіць, што хавае ад чытача супярэчнасьці савецкай рэчаіснасьці. Нездарма і яцпер пад Саветамі ніхто яшчэ не ўяўляе ясна, што такое той злашчасны «соцрэалізм». Але праўда некалі скажа сваё слова. Я ў гэтым не сумняюся».* (Архіў БІНіМу).

*30.7.64 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Грукаўся я па гэтай самай справе ў розныя дзьверы, але без жаданага выснаву. Паспрабую цяпер пагрукацца да Вас. А справа гэтая палягае ў наступным.*

*На працягу значнага часу на старонках нашага друку (пераважна ў «Бацькаўшчыне») мне даводзілася змагацца з маймі «сябрамі» — завяртанцамі, якіх, між іншым, уласьне я гэтак і ахрысьціў. Пэўне-ж мае творы траплялі проста ў найбольш балючыя бальшавіцкія й калябаранцкія мейсцы, бо выклікалі адказнае выцьцё на старонках «Голасу Радзімы», як і ў розных смуродных дадатках да яго*[593]*. Я тут ня зьбіраюся ні ў якім разе перабольшваць, але разам з тым не хачу й пераменшваць значаньне майго змаганьня із завяртанцамі.*

*На вялікі жаль, пачынаючы ад № 739 я не дастаю «Голасу Радзімы», што пазбаўляе мяне кагадзе адназначанае магчымасьці. Засталіся бяз скутку і адмысловыя інтэрвэнцыі БАЗА ў Ньюеркскую паштовую ўстанову, якая затрымала дасылку гэтае газэціны да мяне, як і да іншых. А між тым яна існуе й надалей, працягваючы сваю прапаганду паміж нашае старое й новае эміграцыі паза ЗША.*

*Ці ня дапаможаце Вы мне, Сападар Запруднік, дастаць гэтую газэціну, пачынаючы ад № 739? Яшчэ летась мне абяцаў прывезьці яе Спадар Вітаўт Кіпель, але… абяцанкі цацанкі. І мне згадалася, як раней Вы з вылучнай апэратыўнасьцю й стараннасьцю дасылалі мне радыёскрыпты, каталёгі й г. д. Таму спадзяюся і ў гэтай галіне на Вас.*

*Можа, хто-небудзь з суродзічаў адразу-ж або праз колькі хвілінаў, дастаўшы дармовы паасобнік «Голасу Радзімы» ці дадатак да яго, выкідвае іх на сьметнік. Ну, што-ж, гэтае трэба толькі вітаць, але-ж гэты самы паасобнік ці дадатак, трапіўшы ў мае рукі, станецца для завяртанцаў бумэрангам.*

---

[593] Маецца на ўвазе «Бібліятэчка «Голасу Радзімы».

*Дзякуй Богу, я заўжды чуюся ў стане творчага ўздыму — мне не бракуе матар'ялаў для іншых тэмаў. Аднак і змаганьне із завяртанцамі лічу сваёй і патрэбнай для нашае эміграцыі справай.*

*Адсюль і мая вялізная прозьба, якую ветліва прашу зразумець.*

*Даруйце за клопаты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*1.5.66 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадар Запруднік!*

*Дзякую за ветліва дасланы Вамі № 3 «Беларусі». Хоць у сваім лісьце ад 13.4.66 г. Вы зазначылі: «Разьлічымся, бадай, пры чароднай сустрэчы», але хто ведае, калі гэтая прыемная для мяне асабіста сустрэча адбудзецца. Таму наразе адначасна з падзякай дасылаю 2 даляры. І дазвольце зьвярнуцца да Вас з аднэй просьбай. Калі ў часе набыцьця часапісаў Вам трапяць на вочы й БССР-аўскія газэты, дык вельмі прашу набыць для мяне і іх. Прабачце за клопаты.*

*З прачытанага мяне найбольш уразіла апавяданьне Якуба Ермаловіча*[594] *«Антон Знак» («Беларусь», № 1, 1966 г.) — у ім зусім ня ў пляне сацыялістычнага рэалізму шчыра пададзеная сучасная калгасная нэндза. Характэрна таксама зацемка — «Скарына ў Зале Сарака», дзе Скарына ёсьць Францішак, а ня «Георгій».*

*Што датычыць «памфлетаў» Ляваніда Прокшы, дык у яго, відаць, няма ніякага ўяўленьня аб тым, што такое памфлет як жанр. Не кажу ўжо пра тое, што з прычыны сваіх вельмі сьціплых літаратарскіх магчымасьцяў ён і ня ў стане тварыць іх. Гэта нішто іншае, як фэльетоны, і пры гэтым даволі плыткія, чаму доказам у першую чаргу зьяўляецца «Генерал ад ліфтфантэрыі» («Вожык», № 24, 1965 г.), пад якім бракуе толькі адпаведнага подпісу — Дзяньшчык ад дызэнтэрыі.*

[594] **Якуб Ермаловіч** (1910–1987), пісьменнік, быў рэпрэсаваны ў 1936 г.

*Прыемна, што ўласьне зь Віцебшчыны (лёкальны патрыятызм) паходзіць Васіль Быкаў. На мой сорам, бадай незнаёмы зь ім. Упершыню даведаўся пра яго з Вашых добрых ды патрэбных «Навінаў зь Беларусі»*[595] *і з «НРСлова». Дае пэўнае ўяўленьне аб ім фотаадбітак артыкулу з «Праўды». А вось сёньня зноў у «НРСлове» зьмешчаны цікавы артыкул аб ім В. Аляксандравай. Між іншым, Віцебск ня ў пашане ў гаспадароў БССР. Аб гэтым сьведчыць і зьніжэньне колькасьці ягонага насельніцтва і адсутнасьці ў ім новабудоўляў, паводля чарговага сямілетняга пляну.*

*Яшчэ раз дзякую за ўсё.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прашу пераказаць мае прывітаньні Сп. Арсеньнявае й Сп. Адамовічу.*

*Пішэце, калі ласка.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*8.2.67 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадар Акула!*

*Уразіў мяне, старога (аж 1905 г. нараджэньня) Ваш ліст ад 26.1.67 г., за які ўдзячны. Дакладней тое мейсца ў ім, дзе Вы згадваеце, як у часе 7-ае сустрэчы ў Кліўлендзе*[596]*, Уладзімер Клішэвіч гутарыў пра сваю працу над паэмай «Васіль Каліна». Між іншым, мне, грэшнаму, здаецца, што Клішэвіч зусім не працуе над сваймі творамі, і гэтая ягоная літаратарская сномасьць найбольш адбілася на кагадзе згаданае паэмы.*

*Каб паэма «Васіль Каліна» зьявілася-б у пачатку нашага стагодзьдзя або ў канцы мінулага, дык яна, магчыма, увайшла-б сяк-так у нашую літаратуру. Карацей кажучы — яна спазьнілася на 60–70 год з гакам і стаіць на ўзроўні пасярэдніх папярэднікаў першых нашаніўцаў. Уласьне з гэтае прычыны Васіль Каліна*

[595] Навіны зь Беларусі. Агляд савецкага друку. New York, 1963–1969.

[596] Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі адбываюцца раз на два гады ў Кліўлендзе, Нью-Ёрку і Нью-Джэрсі (па чарзе).

*эміграваў з «Бацькаўшчыны» ў «Аб’еднаньне»*[597] *(а можа дэпартавалі?)*[598]*, дзе яго ўзяў пад абарону знаны «мецэнат» Астроўскі, выдаўшы асобным выданьнем.*

*Не захаваю ад Вас, што ў мяне даўнія разьбежнасьці з Клішэвічам. Яны асабліва загойстрыліся тады, калі я рашуча адмовіўся зьмясьціць у «Шыпшыне» ягоную паэму «Цень сьмерці»* [599]*, што зьяўлялася зьдзекам са Злучаных Штатаў Амэрыкі. Па-першае, ён у дадзеным выпадку нагадваў сьвіньню пад дубам, а па-другое, пэўна, лічыў «Шыпшыну» не за згуртаваньне, а за супалку, што друкуе ўсе без вылучэньня творы сваіх сябраў.*

*У адказ Клішэвіч даслаў мне (захоўваю дагэтуль) ліст*[600]*, што складаецца з самае бруднае лаянкі, якой пазайздросьцяць вандроўныя каты з блёку нацыяналаў і завяртанцы. Як даволі загартаваны ў гэтай галіне, я зусім не праняўся ягоным лістом, але затое ён абурыў Міхася Кавыля, зь якім перад тым разам вырашылі, што «Цень сьмерці» не для «Шыпшыны»*[601]*. У выснаве Кавыль напісаў эпіграму:*

*Не па Слуцку, па Брукліну,*
*Узяўшы музу за чупрыну,*
*Ходзіць ценямі падперты*
*Уладзімер наш Чацьверты.*

*— і ветліва пазнаёміў зь ёю Клішэвіча.*

---

597 **Аб’еднаньне.** Chryscjanskae Abjednannie Bielaruskich Rabotnikau u W. Brytanii. London. United Christian Whiteruthenian Workers in Gr. Britain. 1948–1966. Калі газета «Бацькаўшчына» выдавалася сябрамі БНР, дык «Аб’еднанне» — прыхільнікамі БЦР.

598 Напачатку паэма друкавалася ў газеце «Бацькаўшчына» (Клішэвіч, Ул. Васіль Каліна // Бацькаўшчына. № 28–29 (210–211). 25 ліпеня 1954. Літаратурны дадатак. С. 3–4; № 30–31 (212–213). 15 жнівеня 1954. С. 4; № 36–37 (218–219). 10 кастрычніка 1954. С. 5; № 39–40 (221–222). 31 кастрычніка 1954. Літаратурны дадатак. С. 4; № 30–31 (260–261). 21 ліпеня 1955. Літаратурны дадатак. С. 5). Заканчэнне ішло ў часопісе «Аб’еднанне».

599 Прыйсьце. Літаратурна-мастацкі часапіс. № 1. South Ryver, 1958. С. 28–30.

600 Ліст у архіве Юркі Віцьбіча не выяўлены.

601 Цікава, што часопіс «Прыйсьце», дзе пазней была выдрукавана паэма, што праўда, перапрацаваная, рэдагаваўся Янкам Золакам і — Міхасём Кавылём.

*Праз тыдзень зьявілася гнеўная «эпіграма» Клішэвіча:*

*Эх, пародыя якая!*
*У Скарыньнікаў ёсьць дзюрка,*
*Яе пальцам затыкае*
*Наш вядомы Віцьбіч Юрка.*

*Як на мой погляд, дык гэтая дзюркавая эпіграма як па зьместу, гэтак і па форме цалкам адпавядае літаратарскім магчымасьцям Уладзімера Клішэвіча*[602]*.*

*Пэўне-ж гэтыя магчымасьці не выпадковыя, бо паэта тут адпавядае сабе як чалавеку. У ліпені 1944 г. на чыгуначнай станцыі Місвальдэ (Усходнія Прусы, крэйс Морунгэн) баур абіраў сабе наймітаў. Перад ім стаялі — Уладзімер Клішэвіч, Тодар Лебяда і Юрка Віцьбіч. Першы «належным» чынам падрыхтаваўся да гэтае нарады, а менавіта жонка прымацавала яму да вопраткі зялёную істужку*[603]*. Меў апошнюю і с. п. незабытны Тодар Лебяда (Пятрок Шырокаў)*[604]*, але не захоўваў свае абыякавасьці да яе, перад тым нават недзе згубіўшы. Што датычыць Юркі Віцьбіча, дык ніякі ўрад яго нічым не ўзнагароджваў. Баур толькі ўважліва памацаў нашыя рукі і ўзяў усіх трох да сябе.*

*А чаму-ж Уладзімер Клішэвіч, паводля Кавылёвае эпіграмы, Чацьверты? Калісьці ў «Шыпшыне» (№ 2) меўся добры артыкул Глеба Альгердзіча*[605] *«Нашчадкі і спадкаемцы»*[606]*, у якім аўтар, дайшоўшы да Ўладзімера Клішэвіча, згадаў папярэдніх Уладзімераў — Дубоўку, Жылку й Хадыку. На жаль, Клішэвіч не зразумеў гіроніі.*

---

[602] Уладзіміру Клішэвічу належыць яшчэ адна эпіграма на Віцьбіча: *«Яшчэ, як кажуць, ні сьвет, ні зара / А ўжо строчыць разбойнік пяра».*

[603] У часе Другой сусветнай вайны існавалі ордэны для добраахвотнікаў вермахта з ліку жыхароў усходнееўрапейскіх краінаў. Знакі былі I і II класаў у «золаце», «срэбры», «бронзе», «з мячамі». Знакі мацаваліся пры дапамозе істужкі; для II класы «ў бронзе» і была цёмна-зялёнага колеру.

[604] На час напісання ліста Тодар Лебяда (1914–1970) быў жывы, але ніякай інфармацыі пра яго не мелася нават у метраполіі бадай да пачатку 1990-х.

[605] Псеўданім Антона Адамовіча.

[606] Альгердзіч, Глеб. Нашчадкі і спадкаемцы. Крыху думак каля «Слуцкіх песьняроў» і нашае літаратурнае сучаснасьці // Шыпшына. Літаратурна-мастацкі часапіс. Орган літаратурнага згуртаваньня «Шыпшына». № 2. [1946]. С. 30–40.

*Яму забракне насаткаў, каб хоць наблізіцца да ўзроўню вялікіх трох Уладзімераў.*

*Ці не зашмат я тут пішу пра Клішэвіча? Ці не нагадваю я ўвогуле гогалеўскага Сабакевіча, які заўважыў, што ў горадзе Эн толькі адзін пракурор добры чалавек, дый то сьвіньня? Крый Божа, не. Ладне каго з беларускіх літаратараў на чужыне я ад шчырага сэрца шаную. Перадусім, Натальлю Арсеньневу, якая ачольвае нашую мастацкую літаратуру на чужыне. Хіба не характэрна, што яшчэ ў канчатку 20-х гадоў у часапісу «Полымя» (БССР) меўся вялікі артыкул, прысьвечаны агляду ейнае замежнае / Зах. Беларускай творчасьці?*[607] *Шкадую, што паміж намі няма Хведара Ільляшэвіча*[608]*, Ларысы Геніюш і Тодара Лебяды. Сумую, што чамусьці змоўкнуў цудоўны Алесь Салавей. Цешуся зь некаторых добрых твораў Масея Сяднёва, Міхася Кавыля й Рыгора Крушыны. Падабаецца мне і Янка Юхнавец. Вітаю Вас з «Дзярлівай птушкай», хоць з сім-тым у ёй не згаджаюся. І чакаю «адраджэньня» тутэйшых крытыкаў, якія па-сяброўску дапаможуць усім нам. На жаль, нашыя «пракуроры»*[609] *іх цікавяць больш.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*30.8.68 г.*

*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаная Спадарыня Каханоўская*[610]*!*

*Кагадзе дастаў з паштовае скрынкі Ваш добры ліст ад 27.8.68 г. ды фотаадбітак артыкулу С. Клімковіча і Т. Рэўтовіча «Соловки вы, Соловки» («Голас Радзімы», № 1040) — вельмі ўдзячны. Адразу-ж і адказваю Вам, бо,*

---

[607] Байкоў, М. Аб творчасьці Натальлі Арсеньневай // Полымя. 1927. № 8.

[608] **Хведар Ілляшэвіч** (псеўданім **Святаслаў Залужны**, 17.02.1910, Вільня — 07.11.1948, Ватэнштэт, Нямеччына), грамадскі дзеяч, журналіст, пісьменнік.

[609] Пісьменнікі ў БССР.

[610] **Яніна Каханоўская** (дзяв. **Шабуня**, 26.11.1905, Мінск — 16.07.2005, Нью-Ёрк, ЗША), грамадская дзеячка, пляменніца Івана і Антона Луцкевічаў, першая жонка А. Калубовіча (Каханоўскага).

*па-першае, крануты Вашай увагай, а па-другое, учора даслаў у НРСлова артыкул «Горбатюки в поход собрались»*[611]*, прысьвечаны сёлетняшняму Пленуму ЦК КПБ, а значыцца больш-менш вольны.*

*Мае дарагія завяртанцы стала дасылаюць мне — свайму хроснаму бацьку — свой недалужны «Голас Радзімы». Таму я ўжо чытаў «Соловки вы, Соловки» ды, падобна Вам, абураўся. Акурат наконт гэтага й прыгадаў у сваім лісьце да Сп. Запрудніка, які напісаў за пару гадзінаў да атрыманьня Вашага лісту. Але вельмі й вельмі прашу Вас практыкаваць дасылку мне гэткіх фотаадбіткаў у будучыні, каб на падставе іх, праз Вашую ветлівасьць, я-б здолеў адказаць і ад імя закатаваных і ад усіх нас — іхніх недабіткаў. Мае вокна ў тамтэйшае — «Полымя», «Беларусь», «Голас Радзімы», паасобныя № № «Зьвязды» ды кніжкі праз Камкіна*[612]*. Аднак шмат чаго адмысловага, годнага ўвагі літаратара, сустракаецца па-за імі. Вось таму й прашу Вас, пры наяве часу і ахвоты, дасылаць мне адбіткі сяготага, што на Вашую думку заслугоўвае нашага адказу. Дазвольце спадзявацца на Вас у гэтай галіне ды загадзя падзякаваць.*

*Калі варты пагарды расейскі царызм закатаваў на Салаўках усё-ж лічаныя адзінкі (маю іхныя імёны), дык расейскі бальшавізм дзясяткі тысячаў гаротнікаў. Паміж імі ладне беларусаў — нацдэмы, грамадоўцы, нацыянал-камуністыя. На Салаўках загінула чало Грамады: Рак-Міхайлоўскі, Дварчанін, Мятла й Гаўрылік. Там загінуў Алесь Адамовіч, былы старшыня СНК БССР, пра якога цяпер «Беларусь» зьмяшчае прачулыя нарысы. Там-жа загінуў этнограф Грыневіч — жывая энцыкляпэдыя Беларусі. І шмат іншых беларусаў.*

*Лічу як літаратар сваім абавязкам напісаць адпаведны артыкул у абарону тых беларусаў, што там загінулі, ад плявузганьня ўбогіх вульгарызатараў. Свой твор спадзяюся зьмясьціць у «Беларусе», бо для НРСлова гэтая тэма мае ўскосны характар, а потым, што галоўнае, —*

[611] Новое русское слово. 8 сентября 1968.
[612] Кнігарня рускай і савецкай кнігі ў Нью-Ёрку.

*самая спэцыфіка апошняе газэты не дазволіць мне называць некаторыя рэчы іхнімі ўласнымі імёнамі, паставіць пункты над І.*

*Аб Салаўках у мяне не бракуе матар'ялаў. Перадусім — успаміны суродзічаў, зь якімі давялося сустрэцца на чужыне. Потым добрая кніжка Бориса Шыряева[613] «Неугасимая лампада» — Ню Ёрк, Чэхаўскае выдавецтва — ейныя 405 старонкаў прысьвечаныя савецкай катарзе на Салаўках[614]. Маю таксама паміж маймі шматлікімі папкамі з выразкамі з пэрыядычнага друку адмысловую папку «Салаўкі». А галоўнае, што маю — любоў да суродзічаў, якія загінулі на Салаўках, і нянавісьць да іхніх катаў.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Агульнае прывітаньне.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*9.9.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Спадар Запруднік!*

*Спадзяюся, што Вы атрымалі мой ліст ад 30.8.68 г. і паштовую бандэролю з двомя паасобнікамі «Советской Белоруссии» ды з пачаткам артыкулу Вадзіма Круталевіча. А гэты самы ліст пішу, каб пазнаёміць Вас з копіяй майго адказу на апошні ліст Сп. Др. Тумаша.*

*Можа я й памыляюся, але мне здаецца, што Сп. Др. Тумаш аж занадта праняўся некаторымі маймі колішнімі заўвагамі (магчыма, часам зьедлівымі — каюся) наконт леташніх абыходзінаў 450-годзьдзя беларускага друку. Цяжка ўвогуле абвінаваціць мяне ў нейкіх антыскарынаўскіх настроях — я толькі супраць перабіраньня меркі ў гэтай галіне. Мы ганарымся тым, што адзначылі аж 450-годзьдзе нашага друку, але ня менш, калі ня больш, маем гана-*

613 **Барыс Шыраеў** (1887–1959), расійскі пісьменнік. Адсядзеў 10 гадоў у Салавецкім лагеры. У час вайны супрацоўнічаў з Рускай вызваленчай арміяй Уласава. Напісаў таксама кнігу «ДП у Італіі» (1952). Блізкі сябра Б. Саланевіча.

614 Кніга выдадзеная ў 1954 г.

*рыцца з 50-годзьдзя Акту 25 Сакавіка. Між тым апошні апынуўся ў цяньку ад першага. Карацей кажучы — Сп. Др. Тумаш заслугоўвае з нашага боку падзякі й пашаны як выдатны скарыназнаўца, аднак не абавязкова, каб з гэтае прычыны ўсе іншыя сталіся вылучна скарынаведамі.*

*Працую над артыкулам «Салаўкі вы, Салаўкі» (назоў умоўны) для «Беларуса». Каб удакладніць імя грамадоўца Гаўрыліка (у Панькова — Павал, у а. Льва Гарошкі — Язэп) нарэшце пазнаёміўся па тэлефону з нашым добрым Паслом Стагановічам, ад якога дазнаўся й пра шмат што іншае з гісторыі Грамады. Паводля некаторых дадзеных, у Салаўках загінуў Зьмітро Прышчэпаў і канчаткова ўдакладніў, што там загінуў ягоны заступнік у Наркамземе — Алесь Адамовіч. Некаторы час на Салаўках пакутваў Гаўрыла Гарэцкі — родны брат Максіма Гарэцкага, але надысь чытаў у тамтэйшым друку ягоны артыкул. А можа гэта аднапрозьвішчнік?*

*Чыталі ў НРСлове мой артыкул «Горбатюки в поход собрались»? Мяне цешыць, што, паводля маіх дадзеных, туды*[615] *трапляе значная колькасьць паасобнікаў пашыранае й тут газэты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Агульнае прывітаньне.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

## *«Салаўкі вы, Салаўкі»*[616]

*Ходзім мы пад месяцам высокім,*
*А яшчэ пад ГПУ.*

*Тодар Кляшторны*

*Мы ўжо досыць прызвычаеныя да сталай завяртанскай хлусьні, і таму іхняя газэтка з падробленым назовам «Голас Радзімы» ня выклікае ў нас нічога, акрамя агіды. Аднак пакуль яшчэ жывыя, уважаем за свой аба-*

615 У СССР.

616 Друкуецца паводле аўтарскага рукапісу. Газетная публікацыя: Віцьбіч, Юрка. «Салаўкі вы, Салаўкі!» // Беларус. № 138. Кастрычнік 1968. С. 2.

*вязак стаць на абарону ад ганебнае маны нашых сьвятой памяці шматлікіх суродзічаў, закатаваных бальшавізмам.*

*У № 1041 кагадзе згаданага «Голасу Радзімы» зьмешчаны, відаць, наўмысьля на расейскай мове, артыкул «Соловки вы, Соловки», два аўтары якога — С. Клімковіч ды Т. Рэўтовіч, захапляючыся салавецкімі краявідамі й сучаснымі тамтэйшымі выгодамі для турыстых, пішуць: «І было радасным, што гэты поўны ласкі край пасьля стагодзьдзяў цемрашалу й няміласэрнасьці абдарвае людзей сваёй цудоўнай прыгажосьцю».*

*А далей растлумачваюць ды абураюцца: «Здаўна па Расеі йшла панурая слава аб Салаўках як аб турме, зь якой ня можна ўцячы. У сутарэньнях сабораў, казэматах крэпасных муроў і вежах нудзіліся сотні вязьняў, што ня даспадобы прыйшліся царкве й царам. Сакрэтныя ізалятары, у якіх увязьнены ня ў стане быў выпрастацца, адчыняліся толькі тады, калі на мейсца памёрлага паступала чарговая ахвяра. І цяпер ужо даўно забытыя словы старой песьні:*

*Салаўкі вы, Салаўкі,*
*Дальняя дарога…*
*Сэрца ные ад нуды,*
*На душы трывога».*

*Ну, навошта, «таварышы», гэтак брахаць чытачам проста ў вочы? Ці вы спадзяецеся на тое, што ў народа благая памяць? І няўжо менавіта за часы годнага пагарды расейскага царызму нарадзілася гэтая песьня, шырака пашыраная па гарадах і вёсках, паняволеных куды горшым ад яго расейскім бальшавізмам?*

*Адпавядае праўдзе, што некалі пры царох тут зазналі гора асабліва нянавісныя ім змагары за народную волю, але… Астатнім тутэйшым вязьнем быў апошні кашавы атаман Запароскай Сечы Пётра Кальнішэўскі. Калі імпэратар Мікалай Першы яго, ужо 101-гадовага дзеда, памілаваў, дык ён адмовіўся ад царскай ласкі дый пахаваны тут, аб чым сьведчыць цяжкі каменны надгробак з паўсьцёртым напісам[617]. А ў тысячаў*

[617] **Пётра Кальнішэўскі** — удзельнік руска-турэцкай вайны 1768–1774, сябра князя Пацёмкіна, пасля паразы Сечы ад царскіх войскаў на загад

*паломнікаў, якія пазьней і ўзімку, і ўлетку, і чыгункай, і пяхотай сьцякаліся з усіх бакоў былой Расеі сюды ў вядомы Салавецкі манастыр ня мелася з прычыны гэтага багамольля ні нуды на сэрцы, ні трывогі на душы. Нічога акрамя радасьці не вычувалі яны, пабачыўшы нарэшце ўвенчаныя крыжамі прыгожыя кумпалы ягоных старых старавечных сабораў, толькі пабожна чуліся, ушаноўваючы з глыбокай верай астанкі Салавецкіх сьвяціцеляў вялебных Савація, Засімы й Гэрмана*[618]*. Не, усё-ж ня ў царскай Расеі нарадзілася гэтая сумная песьня.*

*Улетку 1922 г. часткова выгарэў галоўны ў Салавецкім манастыры Спаса-Прэабражэнскі сабор, прычым загінула шмат каштоўных летапісаў і старадаўніх фрэскаў. Гэты выключны помнік рэлігіі, гісторыі й мастацтва сьвядома падпаліў першы савецкі гаспадар паруганых Салаўкоў — Архангельскі Губвыканком, каб у часе перадачы іх другому гаспадару — «ОГПУ» — прыхаваць сьляды свайго рабунку тут золата й срэбра. А гэты іншы гаспадар адразу стварыў на Салаўках найбольш страшэнны ў СССР канцлягер, вядомы пад назовам «СЛОН», што бяз скарачэньня і ў перакладзе з мовы «старэйшага брата» азначае — Салавецкія лягеры асобнага прызначэньня. Сюды, у сутарэньні й казэматы, траплялі бяз усялякага суду — паводле пастановаў вярхоўнай калегіі «ОГПУ» або ейных мясцовых тройкаў па барацьбе з так*

---

Пацёмкіна быў сасланы навечна ў Салавецкі манастыр. Указам імператара Аляксандра Паўлавіча ад 2 красавіка 1801 г. быў памілаваны. Магіла не захавалася, але існуе пліта з наступным надпісам: *«Здесь погребено тело в Бозе почившего кошевого бывшей некогда Запорожской грозной Сечи казаков атамана Петра Кальнишевского, сосланного в сию обитель по Высочайшему повелению в 1776 году на смирение. Он в 1801 году по Высочайшему повелению снова был освобожден, но уже сам не пожелал оставить обитель, в коей обрел душевное спокойствие смиренного христианина, искренно познавшего свои вины. Скончался 1803 года, октября 31 дня, в субботу 112 лет от роду смертию благочестивою, доброю».*

[618] Заснавальнікі Салавецкага Спаса-Прэабражэнскага манастыра Савацій (†1435), Засіма (†1478) і Герман (†1479) Салавецкія. Агульнацаркоўная кананізацыя Савація і Засімы адбылася ў 1547 г. Памяць Германа ад 1992 г. адзначаецца на роўні з іхнаю памяццю.

*званай контр-рэвалюцыяй. І ў тым-жа 1922 г. першых тутэйшых вязьняў, каля тысячы афіцэраў Белых арміяў, чакістыя загналі на дзьве трухлявыя баржы, вывялі потым на буксіры ў мора ды разам з баржамі патапілі…*

*Аднак праўда, як кажа народ, ні ў полымі не згарыць, ні ў вадзе ня патоне — рана ці позна, але ўрэшцерэштаў выйдзе яна навонкі. Хоць штогод узімку каля паловы салавецкіх катаржнікаў, якіх агульная колькасьць увесь час, папаўняючыся новымі ахвярамі, хісталася паміж 10 і 25 тысячаў, гінулі ад шкарбункі*[619]*, сухотаў і зьнясільваньня, хоць у 1926 г. тры чвэрткі іх вымерлі ад сыпнога тыфусу, хоць іх сотнямі растрэльвалі на Анзэрскім абтоку або ў Абакумавай шчыліне манастырскага муру ды ў ізалятарах гары Сякіркі — увесь сьвет дазнаўся й ведае пра жахі Салаўкоў. Цудам ацалелыя ад бальшавіцкіх катаў напісалі пра тутэйшыя людзкія пакуты дзясяткі кніжкаў. А паміж імі варта ў першую чаргу прыгадаць перакладзеную на шэсьць эўрапейскіх моваў кніжку колішняга мясцовага гаротніка, слыннага Францішка Аляхновіча «Ў кіпцюрах ГПУ».*

*Былы палітычны вязень царскіх вастрогаў, выдатны наш драматург, перасьледуемы ўрадам Польшчы за нацыянальную справу, Францішак Аляхновіч даў веру савецкай прапагандзе, што ў БССР будуецца «Беларускі дом». Таму ў 1926 г. ён з адкрытай душой пераяжджае ў гэты самы «дом», дзе спачатку дастае разам з кветкамі пасаду дырэктара Віцебскага Дзяржаўнага тэатра, але праз месяц Маскоўская Лубянка абвінавяціла яго ў польскім шпіянажы і засудзіла на 10 год зьняволеньня на Салаўках. Аж праз сем год Аляхновіча як польскага грамадзяніна гэпэўшнікі вызваляюць ад катаргі, каб усё роўна ў 1944 г. застрэліць яго праз сваіх агэнтаў у Вільні. Гэта была бальшавіцкая помста за праўдзівую кніжку, што абыйшла ўсю Эўропу, вытрымаўшы ў паасобных ейных краінах па некалькі выданьняў.*

*У чэрвені 1925 г. у Польшчы дазволеная ўрадам Пяста ўзьнікла, а потым моцна яе ўскаланула славутая Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Зьяўляючыся*

---

[619] Скарбут, цынга (?).

*натуральным працягам Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якая паўстала ў 1903 г., яна ачоліла нацыянальна-вызвольны рух і змаганьне з польскім прыгнётам, што зьмяніў ранейшы расейскі. На працягу кароткага часу БСРГ займела блізу 120 тысячаў сяброў, згуртаваных амаль у 2000 гуртках. Спалоханы ейным ростам урад Пілсудзкага толькі ў пачатку 1927 г. з дапамогай камуністычных правакацыяў здолеў разграміць Грамаду. Працэс у Вільні над 56 галоўнымі абвінавачванцамі па справе БСРГ цягнуўся ад 22 лютага да 22 травеня 1928 г. і асудзіў ейнае чало — былых паслоў польскага сойму — ад 8 да 12 год суворага турэмнага рэжыму. Аднак неўзабаве й паступова яны бадай усе, ідучы сьледам Францішка Аляхновіча і як ён зпадманутыя байкай аб ленінскім самавызначэньні нацыянальнасьцяў, трапілі ў СССР — адныя, вызваленыя па амністыі з турмаў, самыя патаемна перайшлі дзяржаўную мяжу, другія ў парадку абмену польскага ўраду з савецкімі вязьнямі. Але-ж іх, як таго Аляхновіча, спаткаў ягоны сумны лёс.*

*У 1949 г. зьявілася ў вольным сьвеце кніжка былога савецкага катаржніка, вядомага ўкраінскага літаратара С. Підгайнага «Нядастраляныя», у якой ёсьць адмысловы разьдзел «Беларусы на Салаўках»*[620]*, што бадай цалкам прысьвечаны грамадаўцам. Асабліва прачула прыгадвае аўтар Рак-Міхайлоўскага, Мятлу, Дварчаніна й Гаўрыліка.*

*Пра Сымона Рак-Міхайлоўскага ён піша: «На Салаўках ён трымаў сябе незалежна, працаваў на цяжкіх фізычных працах, скрозь і заўсёды падкрэсьліваў сваю нянавісьць да бальшавізму, да Масквы і ўрэшце неяк у 1936 г. трапіў у вадзін з салавецкіх ізалятараў, дзе й загінуў».*

*Аб Пятру Мятле С. Підгайны згадвае: «Ён быў хворы на сухоты, кашляў, а рабіў на цяжкай ня пад сілу для яго працы. У выніку трапіў у Салавецкі шпіталь для так званых «дахадзягаў», адкуль увясну 1936 г. патаемна вынясьлі ягоны труп, а дзе пахавалі — ніхто ня ведае».*

---

[620] Гл.: Юрэвіч, Лявон. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. Нью-Ёрк, 1999. С. 121–132.

*Вялікае ўражаньне на аўтара зрабіў Ігнат Дварчанін: «Бледны, з чорнай барадою, крыху згорблены, ён сваёю манэраю нагадываў прафэсара. Хоць і ня меў асаблівых сутычкаў зь лягерным ГПУ, тым ня менш ён таксама ў 1936 годзе трапіў у ізалятар, а пасьля пра яго больш нічога ня было чуваць».*

*Узрушваюць радкі С. Підгайнага, прызначаныя Язэпу Гаўрыліку: «Ён быў тыповым сялянскім настаўнікам. Высокі, русы, з рыжанькаю бародкаю на круглявым адкрытым твары з крыху кірпатым носам. Ад яго так і тхнула моцным беларускім дзядзькам. Але-ж у канцы 1935 г., калі я спаткаў яго на абтоку Малыя Зайчыкі, ён выглядаў дужа змучаным, ні з кім не размаўляў, штовечар выходзіў з бараку і, укленчыўшы за дзікаю заімшэлаю скалою, доўга маліўся. Адсюль, з Малых Зайчыкаў, яго й забралі ў ізалятар, адкуль ён так і ня выйшаў».*

*Тысячы беларусаў загінулі ў страшэнных пакутах на Салавецкай бальшавіцкай катарзе. Адныя зь іх, паміраючы, згадвалі Дзьвіну, другія Белавежу, трэція Нарач, чацьвёртыя Нёман, а ўсе разам — Беларусь. У сваёй пераважнай бальшыні гэта былі звычайныя сяляне й работнікі, аб якіх з сардэчнай цяплынёй згадвае Францішак Аляхновіч: «…сустрэў двох землякоў, родам зь Вільні, работнікаў шкляноў гуты, былых грамадаўцаў. Зачараваныя міражам «сацыялістычнага будаўніцтва», яны перайшлі мяжу, перакананыя, што знойдуць тут сваю другую — «работніцкую бацькаўшчыну», а знайшлі катаргу… Цяпер вочы іх расчыніліся, яны шкадавалі свайго кроку, клялі агітатараў, тужліва ўспаміналі родную Вільню».*

*Пад’яжджаючы да Салаўкоў, завяртанскія пісакі сьпявалі пад гітару «Падмаскоўныя вечары», рыхтуючыся таньчыць трапака на касьцёх нашых братоў і бацькоў. А мы пры ўспаміне аб тых незабытных Салаўках ськінем з галоваў шапкі ды, сашчаміўшы кулакі, памолімся аб усіх пакутніках за Маці Беларусь, што палеглі тут у невядомых могілках, парослых быльнёгам. Не, ня за царскія, а за бальшавіцкія часы нарадзілася гаротная народная песьня:*

*Салаўкі вы, Салаўкі,*
*Дальняя дарога…*
*Сэрца ные ад нуды,*
*На душы трывога.*

*Юрка Віцьбіч.*
*19.9.68 г.*

*12.10.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаная Спадарыня Каханоўская!*

*Вельмі ўдзячны за Ваш добры ліст ад 7.10.68 г, як і за ветліва дасланыя Вамі фотастаты: «Прыкры твор» са «Зьвязды» ад 28.9.68 г. і «Ансамбль на плошчы Свабоды» зь «ЛіМ»'у ад 2.7.68 г. Даруйце, што крыху позьнюся з адказам — чарговая праца, асабістыя нядужасьці (хварэла жонка) зпрычыніліся да гэтага — прашу разуменьня й прабачэньня.*

*Мне хочацца на падставе артыкулу І. Элентуха з хлусьлівым назовам «Ансамбль на плошчы Свабоды» напісаць маленькі фэльетон «Гульня з падробленымі картамі». Запраўдны ансамбль на плошчы «Свабоды» (Высокае Места, Саборная плошча), які складаўся з трох помнікаў: Марыінская каталіцкая катэдра, Пятрапаўлаўская праваслаўная катэдра, ратуша — разбураны бальшавікамі. Сучасная катэдра (Сьвята-Духаўская царква), якую мае, паводля фотаздымку, на ўвазе І. Элентух, папершае, знаходзіцца ня ўласьне на плошчы «Свабоды», а на вуліцы Бакуніна, што йдзе ад яе да Сьвіслачы, падругое, катэдрай яна сталася толькі таму, што папярэдняя катэдра была падарваная ў 1936 г. аманалам, па-трэцяе, напярэдадні вайны цяперашняя катэдра была паруганая, і набажэнствы ў ёй аднавілі «бебурнацы» за часы вайны, па-чацьвёртае, яна, між іншым, не зьяўляецца аж занадта выдатным барокавым помнікам у параўнаньні з разбуранымі бальшавікамі. І г. д. і г. д. А ўвогуле — І. Элентуху трэба падпісвацца не — вучоным сакратаром Дзяржбуда БССР, а — шулерам.*

*«Прыкры твор» І. Агеіва яшчэ раз сьветчыць аб мужнасьці Васіля Быкава. Пэўне-ж каб Быкаў ня быў*

*пісьменьнікам вялікага таленту, дык на ягоныя «памылкі» не зьвярталася гэтулькі ўвагі. Ягоныя праўдзівыя вобразы сьмяртэльныя для савецкіх стандартных штампаў. І хоць аднойчы Васіль Быкаў пад відавочным прымусам вылаяў і мяне грэшнага*[621]*, але ад шчырага сэрца паважаю яго.*

*Дзякую за добрую думку аб маім артыкуле «Салаўкі вы, Салаўкі», які, паводля словаў Сп. Др. Ст. Станкевіча, ідзе ў наступным нумары «Беларуса». Мне прыемна, што ў ім я ўшанаваў выдатных беларусаў, якія пакутвалі або загінулі на Салаўках. Вось і наразе мне згадваюцца радкі з характэрнага твору Францішка Аляхновіча:*

> *Як я памру, прабейце сэрца мне калом…*
> *і закапайце мой глыбока ў зямлю труп,*
> *ды камень, як гару, узваліце мне на гроб,*
> *каб устаць я ня мог!..*
> *бо лёс быў наш — мук доўгі, вечны шлях!*

*Кагадзе я зьвярнуўся да хаты з пошты, дзе паветранай поштай даслаў у «Божым Шляхам» нарыс «Бог і Бацькаўшчына», прысьвечаны 90-м угодкам ад нараджэньня Андрэя Зязюлі, што прыпадае на сёлеташні лістапад. У творы гэтым сьветлы вобраз вялебнага айца Аляксандра Астрамовіча я спалучыў з старажытным касьцёлам Унебаўзяцьця Богамаці ў Абольцах на Аршаншчыне, які дасьледаваў у верасьні 1939 г. Дадаў адначасна і фотаздымкі з гэтага касьцёлу, у якім ён нейкі час сьвятарыў.*

*Каб ня сурочыць, але, дзякуй Богу, працую ды, наўсуперак старасьці, не згубіў яшчэ юнацкае ўспрымальнасьці й чульлівасьці да вакольнага. Дазвольце яшчэ раз падзякаваць Вам за ўсё дасланае і адначасна выказаць надзею на Вашую ветлівасьць у далейшым. Спадзяюся таксама ў часе чарговае тэлефоннае гутаркі пачуць Ваш жывы голас, які здаўна ведаю.*

[621] Маецца на ўвазе ліст «Не вам беларусамі звацца», падпісаны Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Васілём Быкавым, Анатолем Вярцінскім, Нілам Гілевічам, Іванам Пташнікавым, Барысам Сачанкам, Іванам Чыгрынавым. Гл. таксама: Юрэвіч, Лявон. Літаратурны рух на эміграцыі… С. 117–126.

*Прашу, калі толькі лістуецеся, пераказаць маё найлепшае прывітаньне Спадарыні Арсеньневае, да якой заўсёды як да паэткі й чалавека стаўлюся з прыязьню й пашанаю.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Я маю кніжку сьв. пам. П. Палягошкі, аб якой Вы прыгадваеце*[622] *—— яна не благая, але вычуваецца, што ейная «апрацоўка» належыць Янку Золаку. Таксама зьдзекам і з пэўнага Боскага запавету, як і з сьв. пам. Палягошкі, ёсьць спасылка на тое, што яна выдадзена парафіяй сьв. Ефрасіньні-Прадславы ў Саўт Рыверы, г. зн. а. Лапіцкім. У запраўднасьці яна выдадзена на грошы самога сьв. пам. Палягошкі, што засталіся па ягонае сьмерці. Але Бог зь ім — з а. Лапіцкім.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*Юр. Віцьбіч.*

*20.10.68 г.*
*Саўт Рывер*

*Глыбокапаважаная Спадарыня КахаЕоўская!*

*Перадусім — ці не апрыкрыў я ўжо Вам сваймі лістамі? Даруйце, але мушу скласьці вялікую падзяку за ласкава дасланы Вамі фотастат артыкулу В. Шытава «Один из пятнадцати» — з № 7 «Неману» за 1968 г. Ён для мяне вельмі й вельмі каштоўны ды бяз сумлеву зпатрэбіцца ў бліжэйшай будучыні.*

*Па-першае, ведаў і Кацярынінскую катэдру й Францішканскі касьцёл у Сянно, па-другое, у апошнім у канцы свайго кароткага жыцьця правіў Божую Службу а. Аляксандр Астрамовіч — Андрэй Зязюля, па-трэцяе, цешыць, што аўтар артыкулу зьняважліва падае на суд чытачоў ганебнае імя тамтэйшага Гэрастрата, разбуральніка гэтага цікавага касьцёлу — «бывшего первого секретаря райкома партии Журавкова», па-чацьвёртае, мне прыем-*

[622] Палягошка, Пятро. Успаміны з жыцьця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу. Нью-Ёрк, 1968. — 91 с.

*на, што галоўнае пытаньне, парушанае ў гэтым артыкуле — супадае з маймі адпаведнымі творамі накшталт «Чаму ацалеў Новы касьцёл»*[623] *і «Горбатюки в поход собрались». Яшчэ раз дзякую.*

*Атрымаў заўчора ліст ад а. Язэпа Гэрмановіча, што мой нарыс «Бог і Бацькаўшчына», прысьвечаны 90-м угодкам ад нараджэньня Андрэя Зязюлі, мае друкавацца ў № 6 «Божым Шляхам». Дасылаю для ветлівага азнаямленьня копію майго ліста «Прощальная песня», які сёньня кінуў у паштовую скрынку. А ўсё-ж гэта наш лось — у нас зь ім агульная Бацькаўшчына. Дарэчы, люблю лісты — яны мне нагадываюць музычныя шкатулкі, якія з прычыны свайго невялічкага памеру патрабуюць, магчыма, ня менш працы, чым вытворчасьць арганаў. На чарзе, як пісаў Вам раней, фэльетон «Гульня з падробленымі картамі». Увогуле, каб ня сурочыць, знаходжуся ў стане творчага ўздыму. Таму, між іншым, і задавольнены, што з 1.1.69 г. «Беларус» мае выходзіць двойчы на месяц. Калі дазволіць Бог, ладне яшчэ пра што хочацца дый трэба напісаць.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашае сям'і ад мяне й мае сям'і.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*12.11.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаная Спадарыня Каханоўская!*

*Загадзя прабачце за турботы, якія Вам заўжды зпрычыняю. Вось і наразе маю да Вас вялікую просьбу ды спадзяюся на Вашую ветлівую дапамогу.*

*Сёньня напісаў фэльетон «Як махлюе «товарищ» І. Элентух», што зроблены на падставе ягонага артыкулу «Ансамбль на плошчы Свабоды» ў «ЛіМ»'е ад 2.7.68 г., фатастат якога Вы мне ласкава даслалі. Спадзяюся, калі буду жывы й здаровы, праз тыдзень-другі даслаць яго, паводле ранейшай ўмоўленасьці, Сп. Др. Ст. Станкевічу для сьнежаньскага, каляднага нумару «Беларуса». Дзя-*

[623] Божым шляхам. № 3 (108). Травень-чэрвень 1968. С. 7–9.

*кую за Вашую каштоўную дапамогу, што дазваляе, занядбаўшы пра сьціпласьць, спадзявацца й на наступную падтрымку. Калі ласка?*

*У часе апрацоўкі фэльетона вычуў патрэбу ў прозьвішчы рэдактара «Літаратуры і Мастацтва». І ўласьне таго ейнага нумару, дзе зьмешчаны артыкул І. Элентуха. А можа таксама Вам вядомыя прозьвішчы некаторых з тых суродзічаў, што пакутвалі ў будынку Сьвята-Духаўскае царквы (б. Бэрнардынскага кляштару), які за часы яжоўшчыны быў скарыстаны бальшавікамі пад турму. Пэўне-ж іхнія імёны можна будзе ўжыць толькі ў тым выпадку, калі іхнія носьбіты адсутнічаюць цяпер, на жаль, паміж жывымі або апынуліся па-за СССР.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага ад мяне й маіх.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Шкада мне Лявона Прокшу-Шэксьпірэнку — сумуе ў сваім чарговым артыкуле «Пад вэлюмам аб’ектыўнасьці» («Голас Радзімы», № 1051), што Юрку Віцьбіча не пашанцавала загадзя ўзяць за каўнер. А што датычыць К (лішэвіча), дык як трэба душэўна заламацца, каб з прачулымі аўтографамі даравацьсвае кніжкі бібліятэцы Ільліча.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*Юр. Віцьбіч.*

*20.11.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаная Спадарыня Каханоўская!*

*Вельмі ўдзячны за ветліва дасланую Вамі мне, паводле мае просьбы, інфармацыю аб бальшавіцкіх вязьнях у будынку Менскае Сьвята-Духаўскае царквы (былы Бэрнардынскі кляштар) ды аб складзе рэдакцыйнае калегіі сучаснага «ЛіМ»‘у, што знатрэбілася мне для чарговае працы. Таксама шчыра дзякую за адбітак добрага вершу нашае Натальлі Арсеньневае.*

*І вялікадушна даруйце, што дарэмна турбаваў Вас. Мой фэльетон «Гульня з падробленымі картамі», які Сп. Др. Ст. Станкевіч прасіў мяне даслаць бяз адкла-*

*ду, ужо ляжаў у паштовае скрынцы, калі дастаў ліст ад Вас. І можа гэтак лепш, бо прыгадваньнем імёнаў ня хочацца, крый Божа, пашкодзіць тым, што засталіся там. А пра бадай незнаёмага «Н. Е.» Пашкевіча[624] і ўвогуле ня варта згадваць, бо ён яшчэ на гэтым пачне нажываць палітычны капітал — «вось, бачыце, як мяне «бебурнацы» лаюць».*

*Вы маеце рацыю, што ў мяне ёсьць, як той маўляў, сантымэнт да творчасьці Натальлі Арсеньневае. Праўда, я не падзяляю тую сэнтэнцыю, што адбілася ў трох апошніх радкох ейнага вершу, але зусім не абавязкова ў нашым вольным дэмакратычным сьвеце, каб сьветапогляды паасобных людзей паміж сабой супадалі, а тым балей у творчасьці літаратараў, паэтаў. Супроцьлеглы погляд на жыцьцё й на сьмерць аніяк не замінаюць мне ўважаць дасланы Вамі верш адным з найлепшых у творчасьці Натальлі Арсеньневае. Дзякую за гэты каштоўны падарунак[625].*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашае сям'і ад мяне і ад маіх.*

*Агульнае прывітаньне.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

## *Гульня з падробленымі картамі*[626]

*Раман пусьціў туман,*
*а людзям здалося, што месяц узыходзіць.*
Народная прыказка

*Крый мяне Божа, дарагія суродзічы, ад таго, каб сумнявацца ў тым, што глянсавальнік савецкай рэчаіснасьці І. Элентух не зьяўляецца запраўды «ву-*

[624] **Нічыпар Пашкевіч** (1924–2003), паэт, крытык, журналіст, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і Мастацтва» ў 1961–1969 гг.

[625] Гл. пра верш у лісце да Рыгора Казака ад 22.11.68 г.

[626] Друкуецца па аўтарскім рукапісе. Газетная публікацыя: Віцьбіч, Юрка. Гульня з падробленымі картамі. Фэльетон // Беларус. № 142. Люты 1969. С. 6.

*чоным сакратаром Дзяржбуда БССР», як чорным па беламу падкрэсьліў ён пад сваім творам «Ансамбль на плошчы Свабоды», зьмешчаным у газэце «Літаратура і Мастацтва» ад 2.7.68 г. Пэўне-ж кагадзе адзначаны «вучоны» ў стане адрозьніць, напрыклад, гадзіньнік ад патэльні, а хрушча ад зязюлі. Аднак усё-ж ягоны загаловак нас спачатку, шчыра кажучы, зьбіў зпанталыку. Які гэта ансамбль на Менскай плошчы Свабоды мае ён на ўвазе. Ці ня гастралюе цяпер на ёй чырвонасьцяжны ймя генэрал-маёра Аляксандрава ансамбль песьняў Савецкай Арміі або ансамбль скокаў цывільнага грамадзяніна Ігара Майсеява? Ажна не. І паслухайце зараз, як той маўляў, сюды.*

*Здаўна ў Менску ягонае Высокае Места, вядомае пазьней пад назовам Саборнай плошчы, а цяпер зьіначанае на плошчу, даруйце, Свабоды, упрыгожваў архітэктурны ансамбль, надаючы ўсяму старажытнаму гораду ўтульны характар і беларускі калярыт. Ён складаўся з ратушы й катэдраў — Марыінскай каталіцкай і Пятрапаўлаўскай праваслаўнай. Пабудаваная ў 1635 г. ды перапробленая ў 1850 г. катэдра йmя апосталаў Пятра й Паўла была бальшавікамі ў 1936 г. падарваная аманалам. Катэдра ва йmя Ўнебаўзяцьця Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, пабудаваная ў 1710 г., у 30-х гадох нашага стагодзьдзя ператварылася ў аўтагараж Белдзяржтранса, за часу Другой сусьветнай вайны яна цудам ацалела паміж суцэльнымі крушэньнямі, але ў 1953 г. Дзяржбуд БССР перарабіў яе ў Дом фізкультуры «Спартак», пасьля чаго гэты барокавы помнік рэлігіі й мастацтва адразу «прыняў пачварныя формы», як зусім слушна адзначыла тады «Літаратура і Мастацтва». Адноўленая ў 1851 г. зграбная мураваная ратуша з гадзіньнікам выгарэла ў выніку слыннага сталінскага загаду аб голай зямлі, і па вайне яе не адбудавалі, а зруйнавалі дарэшты. Зразумела адсюль, што ніякага архітэктурнага ансамблю на сучаснай плошчы Свабоды ў Менску больш ня існуе.*

*У сваім артыкуле «Ансамбль на плошчы Свабоды» І. Элентух вылучна й падрабязна затрымліваецца на выпадкова ацалелай Сьвята-Духаўскай царкве,*

*што сталася цяпер праваслаўнай катэдрай з прычыны разбурэньня ранейшай, як і на будынках бэрнардынскага жаночага кляштару насупраць яе. Дарэчы, не заслугоўваюць асаблівай увагі даволі плыткія разважаньні аўтара аб мастацкай вартасьці гэтых помнікаў, бо як архітэктурныя помнікі яны ўсё-ж значна ніжэйшыя ў параўнаньні зь бязьлітасна зьнішчанымі бальшавікамі царквой Дабравешчаньня 12 ст. і шэдэўрам драўлянага царкоўнага дойлідзтва 17 ст. Чорнай Тройцай у Віцебску, Барысаглебскай царквой 12 ст. і велічнай рэнэсансавай Мікалаеўскай катэдрай 16 ст. у Полацку, драўлянай з каштоўным сьценапісам сынагогай 17 ст. і створанай у канцы 17 ст. дойлідамі Хвеськай і Ігнатам цудоўнай ратушай у Магілёве і г. д. і г. д. Зразумела, аўтар не згадвае аб тым, што за часы яжоўшчыны Сьвята-Духаўская царква ў Менску скарыстоўвалася пад турму, дзе, у дадатак пералюдненым «Пішчалінскаму замку» і сутарэньням ДПУ, гібелі найлепшыя сыны народу, якія потым бальшавікамі былі бяз жалю замардаваныя, а пазьней імі-ж пасьмяротна рэгабілітаваныя. Бракуе яму таксама мужнасьці прыгадаць, што Божую Службу ў гэтай урадам гвалтам закрытай сьвятыні аднавілі за часы вайны вернікі, знайшоўшы тамсама й старадаўні абраз Менскай Богамаці, які савецкімі «вучонымі» перахоўваўся ў дрывотніку пры музэю, хоць як патрон Менску ён адбіўся на ягоным колішнім гэрбу. Пасьля ўсяго гэткага круцельства няма нічога дзіўнага ў тым, калі «товарищ» І. Элентух дакаціўся да ўрэшцерэштаў і да голага фальшу.*

*Сьвята-Духаўская царква й будынкі бэрнардынскага жаночага кляштару знаходзяцца не на плошчы Свабоды, як спрабуе пераканаць чытачоў І. Элентух, а на вуліцы імя Бакуніна, ці колішняй Кузьмадзем'янскай, што ідзе ад гэтай плошчы да зьнішчанага Дзяржбудам БССР гістарычнага Замчышча на ўзьбярэжжы Сьвіслачы. Таму той назоў, які І. Элентух абраў для свайго артыкулу, нагадвае нам вылучна гульню з падробленымі картамі.*

*Юрка Віцьбіч.*
*18.11.68 г.*

*22.11.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Рыгор Казак!*

*Удзячны за Ваш ветлівы ліст ад 30.10.68 г., а таксама за добрыя зычэньні. Даруйце за спазьненьне з адказам — замінаюць у гэтай галіне нядужасьці ды праца, але цешуся, што наразе яшчэ, дзякуй Богу, у стане спалучаць іх.*

*Пад працай у дадзеным выпадку разумею вылучна толькі сваю, літаратарскую. Ужо два гады, як не працую на фабрыцы дый не шкадую аб гэтым — Вы таксама дазналіся некалі аб смаку фабрычнага хлебу. А можа я й ня маю рацыі — прынамсі, у душу ніхто мне тут ня лез, як калісьці на маскоўскіх заводах. Таму й ня згадваю злым словам тутэйшыя фабрыкі, якія далі мейсца й чужынцам.*

*Аднак усё-ж ад усяе душы спачуваю Міколы Цэлешу, зь якім маю сталае ліставаньне. Ад 5-ае раньні да 6-ае ўвечары ён па-за сваёй сьціплай ньюёркзкай кватэрай, працуючы ў 45 мілях ад Нью Ёрку ды зарабляючы … 60 даляраў на тыдзень. Да гэтага трэба дадаць, што за плячыма ў яго 68 год і дзьве складаныя апэрацыі на працягу аднаго леташняга году, што ён самотны, што жыве паміж партарыканамі, якія ўжо абрабавалі яго на 100 дал., і г. д., а я ўсё-ж у сваёй сям'і, у неблагой кватэры, не бракуе мне на пражыцьцё, чуюся душэўна задавольненым ад свае літаратарскае працы. Дзякую Богу за Ягоную ласку да мяне.*

*Дазвольце перайсьці цяпер да справы, якая тут некаторых зьбіла зпанталыку. Маю на ўвазе артыкул Л. Прокшы «Пад вэлюмам аб'ектыўнасьці», зьмешчаны ў № 1051 «Голасу Радзімы». Пэўне для, як той маўляў, кваліфікаваных чытачоў адразу зразумела, што гутарка ў Шаксьпірэнкі-Прокшы ідзе пра К (лішэвіча), які з прачулымі аўтографамі, дзе прыгадвае «дарагога» Ільліча, даслаў Менскае Кніжніцы сваю кульгавую «Каліну», а гэтым увогуле паставіў пад вялікі сумнеў свой статус палітычнага эмігранта і амэрыканскага грамадзяніна. Але 2–3 тутэйшыя чытачы спрабавалі пераканаць мяне ды іншых, што Л. Прокша меў на ўвазе…*

*К (рушыну). Ці ня йдзе гэтая гульня са зьменай адрасоў ад Клішэвіча, што трапіў як у нерат? А можа й сам Л. Прокша з правакацыйнай мэтай падаў толькі адну літару, пад якую можа трапіць і Кавыль? Ня ведаю, але вырашыў пазнаёміць Вас з гэтым.*

*Атрымаў надысь верш Натальлі Арсеньневае, прысьвечаны сьв. памяці Б. Вержбаловіч. Хоць і не падзяляю апошнія радкі гэтага твору, а ўласьне*

*Жыцьцё — нішто, як сьмерць,*
*а сьмерць — жыцьцё!*
*І годзе.*

*але ў нашым вольным сьвеце зусім не абавязкова, каб паасобныя сьветапогляды паміж сабой супадалі, а тым балей у творчасьці літаратараў, паэтаў. Гэтая разьбежнасьць аніяк не перашкаджае мне ўважаць гэты верш адным з найбольш моцных у творчасьці Натальлі Арсеньневае, да паэзіі якой здаўна маю, як той маўляў, сантымэнт. Прыемна, што асабістае гора*[627] *не заламала ейныя цудоўныя магчымасьці, і дашлі ёй Божа ўсяго добрага.*

*Шчыра зычу Вам і Вашай Спадарыні ўсяго найлепшага ад мяне й маёй сям'і.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*9.12.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Спадар Доктар Станкевіч!*

*Дасылаю адначасна фэльетон «Пайшоў Пятрок бяз парток», які, у тым выпадку, калі ён увогуле Вам спадабаецца, мае друкавацца ў студзеньскім нумары «Беларуса». Ёсьць у мяне некаторыя заўвагі, што датычуць ягонага зьместу.*

*А можа хто-небудзь з пурытанаў запытаецца — ну навошта згадваць пра жонку Лявона Прокшы-Шаксьпірэнкі — «пісаціліху»? Калі ён, плявузгаючы на сьв. пам. генэрала Францішка Кушаля, спрабуе забрудзіць*

[627] 23 сакавіка 1967 г. памерла нявестка Н. Арсенневай, Наталля Кушаль (Шчаглова).



*Рыгор Казак і Уладзімір Сядура*

*нашую Натальлю Арсеньневу, дык няхай паспрабуе свае-ж зброі. Зь імі, на мой погляд, трэба гаварыць на іхнай-жа мове. Чапаў ён таксама ня аднойчы й майго бацьку.*

*Далей — хоць пленум праўленьня ССП БССР адбыўся ў сёлетнім кастрычніку, але я наўмысьля паставіў — у леташнім кастрычніку — бо твор прызначаецца для нумара «Беларуса», датаванага ўжо 1969 г.*

*А ўвогуле сьпяшаюся жыць — ужо ў 1969 год залез. Дзякуй Богу за ўсё. Прашу Вас напісаць мне аб атрыманьні Вамі гэтага фэльетону.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

## *Пайшоў Пятрок бяз парток*[628]

*Ня меў Саўка клопату, жонку ўзяў.*
Народная прыказка

*— А ўсё-ж мне дужа шкада яго, небараку.*

*— Гэта каго менавіта? — зацікавіцеся вы.*

*— І ці ня сорамна вам, ягамосьці? — адкажу пытаньнем на пытаньне. — Хіба-ж вы пра яго дагэтуль нічога ня чулі? Ён-жа пісьменьнік інтэрнацыянальнага значэньня, проста Байрану кум, Бальзаку сват, а Беднаму Дзем'яну аж кроўны швагер. Яго неўзабаве, далібог-жа, узнагародзяць прэміяй братоў Ганкураў, Нобеляўскай, Сталінскай, Ленінскай і нават той, якую аздабляе знакамітае імя несьмяротнага Лукаша Бэндэ. Ягонае гучнае прозьвішча нададуць гарадам і млынам, лазьням і гацям. А ўрэшце-рэштаў ужо будуецца да 50-годзьдзя БССР трохпавярховы параплаў, што мае рэйсаваць па Сьвіслаччы, паміж Ляхаўкай і Пярэспай, нясучы з гонарам свой пышны назоў: «Лявон Прокша-Шаксьпірэнка».*

*— Дык зь якое рацыі нам яго тагды шкадаваць? — зноў сумняваецеся вы.*

*— А каб вас, даруйце на слове, вераб'і ўбрыкнулі. Як у хату трапіш толькі праз сенцы, гэтак і фэльетон ня існуе без запеўкі. Вось цяпер і дазвольце, калі ласка, перайсьці да самае бягучае справы.*

*У № 1040 «Голасу Радзімы» ягоны галоўны і адказны рэдактар Лявон Прокша-Шаксьпірэнка ў сваім сацыялістычна-рэалістычным артыкуле «Рамантыкі будуць заўсёды», прысьвечаны калгасу «Расея», што на … Случчыне, сам аб сабе піша гэтак:*

*«На разьвітаньне я рашыў падарыць дзяўчатам экзэмпляр сваёй новай аповесьці. Валя зірнула на вокладку:*

*— А ў мяне такая кніжка ўжо ёсьць.*

*— Нічога, — адказаў я крыху зьбянтэжана. — Усё-ж я вам яе падару.*

---

[628] Друкуецца паводле аўтарскага рукапіса. Газетная публікацыя: Віцьбіч, Юрка. Пайшоў Пятрок без парток. Фэльетон // Беларус. № 141. Студзень 1969. С. 6.

*І толькі калі Валя ўбачыла подпіс, зразумела, што яна гаворыць з аўтарам.*

*— О, дзякую, — адказала, — я ўпершыню бачу пісьменьніка.*

*Я быў ня менш усхваляваны, што ўбачыў свайго чытача і пачуў ад яго добрае слова. Герой маёй аповесьці «Ці варта было жаніцца»*[629] *таксама рамантык, які паехаў на вёску ў трыццатыя гады. І вось у наш час такія-ж рамантыкі ідуць у жыцьцё, уносяць новыя адносіны да працы, пашыраюць пасяўныя плошчы, каб больш было хлеба і каб быў ён дзешавейшым. Веру, рамантыкі будуць заўсёды».*

*Прашу прабачэньня за гэтую даўжэйшую за старэцкую пугу самарэкляму, але затое яна цалкам характарызуе аўтара, які праз акуляры падробленае сарамяжлівасьці сам зь сябе не нацешыцца, што наўсуперак сваім літаратарскім магчымасьцям належыць да саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. Праўду кажучы, мне асабіста ён сваю кніжку «Ці варта было жаніцца» з каштоўным аўтографам чамусьці не даслаў, хоць, дарэчы, і нашым эміграцыйным сталом загадвае. Таму прыпушчаю, што яна аўтабіяграфічная і, магчыма, ягоная жонка («пісаціліха») нагадвае не Лявоніху — душу ласкавую, а Ксантыпу*[630]*. Аднак Маркс-Энгельс зь ім — няхай ужо марцовыя кавалеры цешацца з таго трагічнага загалоўку. Вось затое нешта іншае — ну навошта аж у 1968 г. гэтак захапляцца з тых «дваццаціпяцітысячнікаў» 30-х гадоў*[631]*, што гвалтам, нібы быдла, заганялі сялянаў у калгасы? Дзеля чаго блытаць гайдукоў з рамантыкамі? Нават сам Сталін, дык і той спачатку нацкаваў іх на працоўны народ, а потым ад іх-жа адмовіўся ў сваім артыкуле з крывадушным назовам «Замарока ад посьпехаў»*[632].

---

[629] Прокша, Леанід. Ці варта было жаніцца. Мінск, 1968. — 258 с.

[630] **Ксантыпа** — жонка Сакрата, сінонім жонкі з благім характарам.

[631] Рабочыя, скіраваныя ў вёску на гаспадарча-арганізацыйную працу ў час калектывізацыі і раскулачвання. У лістападзе 1929 г. Пленум ЦК ВКП(б) прыняў пастанову пра накіраванне для працы ў вёсках 25 тысяч рабочых.

[632] Артыкул Сталіна «Головокружение от успехов» быў надрукаваны ў газеце «Правда» 2 сакавіка 1930 г. У ім, у прыватнасці, крытыкаваліся «перегибы на местах», дапушчаныя пры гвалтоўнай калектывізацыі

*Але найбольш мяне ўразіў лёзунг, калі даць веры аўтару, сучасных тамтэйшых хлебаробаў: «Праз пашырэньне пасяўных плошчаў да дзешавейшага хлебу!» Сьпярша здалося мне — згаладаўся, відаць, нябог з прычыны 51-годзьдзя Кастрычніка. Потым думаю — ці не займеў ён, крый Божа, які-небудзь ухіл ад генэральнае лініі партыі і ўраду? Слоў няма, з дапамогай Канады, ЗША, Аўстраліі, Францыі, Аргэнтыны і г. д. у СССР цяпер пазбавіліся чэргаў на хлеб, але разам з тым жабрацкія авоські*[633] *заўжды трымаюць напагатове. І дзе-ж той, гадаю, Салігорск зь ягонымі камбінатамі па здабычы калійных соляў? Бо хіба-ж вылучна праз пашырэньне, а не праз угнаеньне палёў ляжыць шлях да таннага хлебу? Каюся, людцы добрыя, не прасачыў я за ім сваячасова, пусьціў яго самапасам.*

*І што-ж вы думаеце, дарагія суродзічы? Не пасьпеў яшчэ наш Лявон Прокша-Шэксьпірэнка спажыць калгасныя лаўры са свайго запаветнага скарбу «Ці варта было жаніцца?», у Менску адбыўся пленум праўленьня ССП БССР, на якім, між іншага, склаў справаздачу Янка Брыль. І вось замест таго, каб, засланіўшыся далоняй ад суседзяў, шапнуць на вуха завяртанскаму правадыру Лявону сёе-тое пра ягоныя памылкі, гэта значыцца, каб ён без адкладу подбегам пабег у ЗАГС ды разжаніўся, дык той нястрымны, як Мао маўляў, рэвізіяністы Брыль з высокае трыбуны ды пры ўсіх бязпартыйных грамадзянах зьмяшаў кагадзе згаданы выраб з балотам, залічыў яго да макулятуры ды бадай параіў выкінуць яго на сьметнік. А яшчэ ў дадатак газэта «Літаратура і Мастацтва» ад 6.11.68 г. падала тую контррэвалюцыйную прамову да ведама шырокіх чытацкіх колаў. Ня йнакш, як у шапку сьпіць Галоўлітбел, згубіў бальшавіцкую пільнасьць.*

*Авохці-ж мне! А што-ж цяпер майму гаротнаму Лявону ды рабіць? А дайце-ж рады, дабрадзеі! Толькі й засталося яму тае радасьці, што ён не самотны,*

[633] Цікава, што ўжо напрыканцы 1960-х, калі Віцьбіч пісаў гэты тэкст, авоська атаесамлялася з дэфіцытам і лічылася неадменным атрыбутам савецкага побыту.

*бо балазе той-жа самы неспагадлівы Янка Брыль адначасна на горкі яблык зьбіў «роман» ягонага першага дружбака дажывотнага сялькора Паўлы Кавалёва*[634] *«Падзеньне Хвядоса Струка»*[635]*. А няўжо-ж запраўды не паданьне, але замест таго высмактанага з гэпэушнага пальца «бебурнацы» Хвядоса ды Паўлюка зь Лявонам? Га?! А як-жа цяпер нашаму рамантыку Лявону зірнуць у даверлівыя вочы сьціплае Валі, якой ён, паводля ягоных словаў, гвалтам навязаў сваю матрыманіяльную кніжку, ламаючыся пры тым быццам той блін гарохавы*[636]*? Вось праз тое самае мне й дужа шкада яго, небараку. Э-эх, трапна адзначыў наш народ у сваёй прыказцы — Пайшоў Пятрок бяз парток — каб, дадам, напісаць нам усім на пацеху новую аповесьць «Ці варта было нарадзіцца», дзе ён зноў давядзе, што няма ў БССР зводу на рамантыкаў.*

*Юрка Віцьбіч*
*9.12.68 г.*

*15.12.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Рыгор Казак!*

*Вельмі ўдзячны за Вашыя ветлівыя лісты ад 8 і 11.12.68 г. Добра, што своечасова атрымаў апошні, бо меўся, паводле Вашае просьбы ў першым, даслаць Вам выразку артыкулу Л. Прокшы «Пад вэлюмам аб'ектыўнасьці», зьмешчанага ў № 1051 «Голасу Радзімы». Між тым сам рыхтуюся на падставе яго напісаць для «Беларуса» фэльетон «Не цяляці ды ваўка спаймаці», дзе хачу выказаць сваё спачуваньне Лявону Прокшы-Шаксьпірэнку, што яму не пашанцавала, аб чым ён сумуе, узяць да вайны Юрку Віцьбіча за каўнер. Ад усяе душы шкада яго, небараку. Вось чаму мне й самому патрэбны гэты ягоны опус.*

---

634 **Павел Кавалёў** (1912–1995), пісьменнік, журналіст, ад 1955 — галоўны рэдактар «Вожыка», з 1967 да 1972 — галоўны рэдактар «Полымя».

635 Кавалёў, Павел. Падзенне Хвядоса Струка. Мінск, 1967. — 232 с.

636 З гароху нібыта бліны не атрымоўваюцца, таму выраз азначае — штосьці няўцямнае, незразумелае, недарэчнае.

*Брудныя плёткі аб тым, што К. з кагадзе прыгаданага артыкулу гэта, маўляў, не Клішэвіч, а Крушына, выходзяць з тутэйшых БЦРаўскіх колаў, на сродкі якіх Клішэвіч і выдаў тыя дзьве кніжкі*[637]*, што пазьней з прачулымі аўтографамі даслаў Менскае кніжніцы імя «незабытнага» Ільліча. Гэтыя-ж самыя мэцэнаты з прычыны свае местачковае тупаватасьці ня ў стане зразумець, што Клішэвіч іх таксама ладне забрудзіў самым фактам свайго флірту з катамі, а таму любым коштам спрабуюць абараніць яго ад цалкам ім заслужанае ганьбы.*

*А цяпер дазвольце перайсьці да Вашае заўвагі: «Тры тыдні я прабыў у Тэнэрыфе*[638]*. Дзякаваць Богу, я маю яшчэ магчымасьць бачыць сьвет і адпачываць пад паўдзённым сонцам. Магчыма, хто і пазайздросьціць гэтаму. Але, ці варта?».*

*Ад душы цешуся за Вас як за свайго добрага старага знаёмага, што Вы ўжо ладне год як маеце адмысловую для інтэлігэнтнага працу ў Радыё Свабода, а таму магчымасьць «бачыць сьвет і адпачываць пад сонцам». Але, бачыць Бог, ні на каліва не зайздрошчу Вам, бо цалкам задаволены і ўдзячны Богу за тое, што маю. Перакананы я таксама ў тым, што Мікола Цэлеш, аб цяжкіх жыцьцёвых варунках якога я пісаў Вам у сваім лісьце ад 22.11.68 г., толькі пакрыўдзіцца, калі з гэтае прычыны Вы або хто-небудзь іншы выкажа яму сваё спачуваньне.*

*Хочацца думаць, што гэтыя Вашыя адпачынкі ў найлепшых для гэтага ўмовах бадай кампэнсуюць тыя прыкрыя страты, калі, як Вы пішаце: «У напружанай атмасфэры губляецца здароўе і псуецца добрае стаўленьне да людзей». Ад сэрца жадаю Вам пазбавіцца й пэсэмістычных настрояў, якія, даруйце, пры параўнаньні зь цяперашнім жыцьцём таго-ж самага Міколы Цэлеша для мяне не зусім зразумелыя.*

*Ня злуйцеся за шчырасьць.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

---

[637] Клішэвіч, У. Далячынь. Саўт Рывер, 1964. — 71 с.; Клішэвіч, У. Васіль Каліна: паэма. Лёндан, 1965. — 166 с.

[638] **Тэнэрыфэ** — папулярная турыстычная выспа ў Канарскім архіпелагу.

*26.12.68 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаная Спадарыня Каханоўская!*

*Вельмі й вельмі ўдзячны за дасланы Вамі мне адбітак артыкулу У. Чантурыі «Рэшткі замка ў Смальянах» з «ЛіМ»'у ад 5.12.68 г. Ужо паклаў яго ў падмурак, спадзяюся, добрага нарысу, прызначанага «Божым Шляхам». Дасылаю адначасна для ветлівага азнаямленьня копію майго ліста да Сп. В. Пануцэвіча, у якім акурат парушаецца пытаньне з гэтым цікавым помнікам нашае старадаўнасьці.*

*Таксама ўдзячны за адбітак артыкулу А. Стука «Гаворыць Мінск!» з № 11 «Нёман»'у за 1968 г. Паводля «товарища» Стука я разам зь іншымі «огнем и мечем» упарадкаваў фашыстоўскі лад на Беларусі. Між тым, за часы вайны я ніколі ня меў пры сабе нават і рэвальверу, хоць часам, магчыма, ён не зьяўляўся залішнім. Але ўсё-ж прыемна, што я даўся ім у знакі, іхняя нянавісьць мяне маральна падтрымлівае ў старасьці.*

*Усе раней за розныя часы Вамі дасланыя адбіткі таксама больш чым патрэбныя й цяпер толькі чакаюць адпаведнае, фігуральна кажучы, іскры, каб трапіць у «вытворчасьць». Асабліва мяне абурае наданьне там годнасьці «вялікага сына беларускага народа» Канстантыну Заслонаву, што пэўна тлумачыцца «рвением» калябарантаў, і гэта ў той час, калі самыя гаспадары — расейцы (Г. Линьков «Война в тылу врага»[639]) мянуюць яго «коренным москвичом».*

*Таму даруйце, што зьвяртаюся да Вас з чарговай просьбай ды спадзяючыся на Вашую ветлівасьць, калі толькі час ды ахвота дазволяць Вам ейнае выканацьне. Зь лісту Рыгора Казака ад 11.12.1968 г. ведаю, што «Зьвязда» (на жаль, ён не падае дату) у сёлеташнім кастрычніку зьмясьціла артыкул Лявона Прокшы «Пад вэлюмам аб'ектыўнасьці», у якім, між іншым, згадваецца й маё імя. За тыя-ж часы той-жа артыкул перадала ў эфір Стукава рэдакцыя. Ці не трапляўся Вам гэты артыкул і ці ня зможаце Вы даслаць мне агоны адбітак?*

[639] Линьков, Г. Война в тылу врага. Москва, 1948. — 455 с.

*А можа Вам таксама вядомая й дата перадачы яго менскім радыё? Калі ласка. Не захаваю ад Вас, што з гэтай просьбай я 16.12.68 г. зьвяртаўся да Сп. Запрудніка, але прыпушчаю, што яму бракуе часу.*

*Прабачце за клопаты.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Спадабаўся мне малюнак нашае цудоўнае Ст. Тамары*[640]*, рэпрадукаваны на атрыманае мной ейнае павіншавальнае карткі. Гэта запраўднае і вялікае мастацтва. Прашу Вас пры нагодзе пераказаць ёй маё найлепшае пажаданьне на шляху далейшых пошукаў і посьпехаў.*

*Яшчэ раз зычу ўсяго добрага.*

*Юрка Віцьбіч.*

*4.1.69 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаная Спадарыня Каханоўская!*

*Удзячны за Вашыя два лісты, адбіткі артыкулаў «Пад вэлюмам аб’ектыўнасьці» з «Голасу Радзімы» і «Народны скарб» з «ЛіМ»‘у, а таксама № 11 «Беларусі». Вы пытаецеся — ці маю я № 11 «Полымя» — на жаль, не, спадзяюся на Вашую ветлівасьць.*

*Даруйце, што зьбіты зпанталыку Рыгорам Казаком, прымусіў Вас перагледзіць «Зьвязду» за кастрычнік. Я ўвогуле астатнім часам пачаў ставіцца да сяго-таго зь ягонае інфармацыі аб жыцьці мюнхэнскіх беларусаў зь некаторым недаверам, але вось тут памыліўся. Прыпушчаю, што нехта з тамтэйшых беларусаў «пажартаваў» зь яго, бо, як на мой погляд, усё-ж сяброўская атмасфэра ў мюнхэнскай сэкцыі Радыё Свабода адсутнічае. А можа ў апошнім і ўся гісторыя яе палягае, але Бог зь імі. Увогуле — прабачце.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашай сям’і.*

---

[640] Мастачка Тамара Стагановіч-Кольба, прафесійны псеўданім — Ст. Тамара.

*Агульнае прывітаньне.*
*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*
*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Прыкра пра гэтае асабістае пісаць, але да маіх хворых з прычыны благое цыркуляцыі крыві ног далучылася яшчэ левая рука. Ногі, праўда, баляць толькі ў часе хадзьбы, а рука ўвесь час. Дзякуй Богу, хоць фізычны боль благі хаўрусьнік у творчасьці, аднак канчаю для «Беларуса» артыкул «Замест помніку асінавы кол», прысьвечаны сёлетняшняму 60-годзьдзю ад нараджэньня Канстанціна Заслонава. Тут мне прыдаўся і адбітак з «БСЭ»[641] аб ім, які Вы ветліва даслалі.*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*Юр. Віцьбіч.*

## *Канстанцін Заслонаў — заміж Кастуся Каліноўскага*[642]

*«Бо я Табе спад шыбеніцы кажу, Народзе,*
*што толькі тады зажывеш шчасьліва,*
*калі над Табой ужо маскаля ня будзе».*
Яська Гаспадар спад Вільні

*Паміж савецкіх сьвятых, абразы якіх аздабляюць сабой покуці бээсэсэраўскіх калябарантаў, адно з найбольш пачэсных месцаў займае Канстанцін Заслонаў, кананізаваны Сталіным яшчэ за часоў вайны. Дарма, што ягонае, значна перабольшанае «змаганьне» ў глыбокім заплеччы ня ўплывала на агульны рух франтоў ды ў лістападзе 1942 году, каля вёскі Купавацъ на Сеньеншчыне, скончылася ад цалком ім заслужанае кулі Беларуса. Цяпер яно там усяляк разьдзьмухваецца, у гонар яго складаюцца псальмы і акахвісты, перад ім кураць фіміям.*

641 Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мінск, 1969–1976.
642 Віцьбіч, Юрка. Канстанцін Заслонаў — заміж Кастуся Каліноўскага // Беларус. № 142. Люты 1969. С. 2.

*Гэтак Заслонаў пры жыцьці ўзнагароджаны прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету СССР ордэнам Леніна й пасьмяротна санам гэроя Савецкага Саюзу. Яму прысьвечаны алілуйныя кінафільм «Канстанцін Заслонаў»*[643] *ды пад тым-жа загалоўкам п'еса*[644]*, шматлікія творы мастацкае літаратуры, музыкі, малярства й скульптуры. Ягонае ймя старымі вэтэранамі ў галіне стварэньня культаў накінутае вуліцам і калгасам, школам і клюбам, перадусім — чыгуначнаму дэпо ў Воршы. Створаны адмысловы дом-музэй Заслонава. А ўрэшцерэштаў, на моцы пастановы ўраду БССР, у тэй-жа нашай старадаўняй Воршы, каля станцыі, пастаўлены яму памятнік, на якім ён, увачавідкі для тубыльцаў і турыстых, суздром увасабляе тыповага камуністычнага ідала. Аднак усяго гэтага тамашнім хвальшыўнікам гісторыі здалося замала, і яны імкнуцца да таго, каб байкай аб ягоным паходжаньні зьняважыць нацыянальнае пачуцьцё годнасьці беларускага народу.*

*Засакрэчаныя ўкладальнікі кніжкі «Беларуская ССР» (Масква, 1957), на ейнай 335-й бачыне, між рознага іншага, сьветчаць: «Загінуў легэндарны беларускі гэрой*[645] *Канстанцін Заслонаў». У нагу з кагадзе згаданымі ананімамі крочаць І. Краўчанка, М. Раманоўскі й Т. Хадкевіч, паведамляючы на бачынцы 143-яй свайго зборніку «Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка» (Менск, выданьне Акадэміі Навукаў БССР, 1958) пра нейкіх «партызанаў, якімі кіраваў гэрой беларускага народу Канстанцін Заслонаў». Ім у кніжцы «Непакорная Беларусь» (Масква, 1963), на ейнай 72-ой бачынцы, падтаквае таксама гэрой Савецкага Саюзу У. Лабанок: «У гэтым баю загінуў верны сын беларускага народу адважны Канстанцін Сяргеевіч Заслонаў». І гэтак далей, і гэтак далей. А пра завяртанцаў на чале зь іхным правадыром Лявонам Прокшам-Шаксьпірэнкам ужо й га-*

---

643 «Канстанцін Заслонаў» — кінастужка 1949 г.

644 П'еса Аркадзя Маўзона «Канстанцін Заслонаў», у 1949 г. спектакль атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР. Пастаўлены па ягоным сцэнары фільм атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР 1950 г.

645 Тут і далей вылучэнні Ю. Віцьбіча.

*варыць няма чаго. У № № 890, 972 і 985 свае газэціны «Голас Радзімы» залічаюць Заслонава да Беларусаў, хоць адначасна, відаць, наўмысьля й не падаюць, які ўласьне куточак Беларусі ён, як той маўляў, ашчасьлівіў сваім зьяўленьнем на сьвет.*

*Каб дапамагчы лабанком і прокшам удакладніць месца нараджэньня Заслонава, — хай ведаюць маю ласку! — я зьвярнуўся сьпярша да «Вялікай Савецкай Энцыкляпэдыі», у 16-м томе якой, на бачыне 482-й і знайшоў зацемку аб ім, але ў ёй няма ніводнага слова аб ягоным быццам беларускім паходжаньні дый наагул, пэўне дыпляматычна, зусім ня згадваецца, скуль ён родам. Затое вельмі шчыра разьвязвае гэтае пытаньне, дражлівае для патрыётаў з былога Сталінскага прашпэкту, энкэвэдэшнік з маскоўскае Лубянкі Г. Лінькоў, ськінуты з парашуту ў пачатку вайны ля возера Палік у Бярэзінскім запаведніку, каб правакацыямі й тэрорам прымусіць беларускі народ змагацца за зьмену фашыстаўскага хамута на бальшавіцкі. У сваёй кніжцы «Вайна ў тыле ворага» (Масква, 1956), на ейнай 546-й бачынце, ён чорным па белым адзначае: «<u>Заслонаў</u>, Андрэеў, Дубаў, Якушаў, Воранаў, Чорны, Гарасімаў, Цьвяткоў, Аляксейчык, Топкін і іншыя партызанскія камандзеры былі карэннымі масквічамі».*

*І хай сабе завяртанка Ала Сямёнава*[646] *ў сваёй кульгавай на ўсе чатыры нагі кніжыцы «Ішлі ў паход партызаны…» (Бібліятэчка газэціны «Голас Радзімы»), Менск, 1958) спрабуе на бачынцы 18-ай даводзіць, што — «гэта былі не агенты Масквы». Той-жа пасьлядоўны расеяц і абаронца крамлёўскае праўды Лінькоў выяўляе ейную нязграбную хлусьню, калі прыгадвае ніжэй на тэй-жа 546-ай бачынцы:*

*«Маскоўскія камуністыя былі ня толькі ў нашых аддзелах. Сотні дэсантных групаў, сфармаваных з масквічоў, дзейнічалі ў іншых месцах: на Беларусі і Ўкраіне, у Ленінградзе й Калінінскай вобласьцях. У тыле ворага маскоўскія камуністыя камандавалі аддзеламі й брыгадамі, арганізаванымі зь мясцовага жыхарства».*

---

[646] **Ала (Альбіна) Сямёнава** (нар. 1938), пісьменніца.

*А каб тая камсамолка Ала, што, дарэчы, усе капелькі падабрала ад свайго настаўніка самога Васіля Піліпавіча Раманоўскага[647], канчаткова зразумела, якім парадкам камандзеры заслонавы прымушалі Беларусаў стацца ім падпарадкаванымі партызанамі, раю ёй перагарнуць 290–291-ыя бачынкі тае кніжкі Г. Ліньковa. Паводле ягоных словаў, калі масквічы падарвалі на чыгунцы ля аднае вёскі, паблізу Налібоцкае пушчы, нямецкі эшалён, ейныя жыхары запыталіся ў іх, куды-ж ім падацца, бо:*

*«Тут на прадвесьні парашутыстыя з Масквы некалькі эшалёнаў перакулілі. Ну, а Немцы пасьля таго шмат якія вёскі разам зь людзьмі папалілі, калі толькі хто схавацца не пасьпеў. Адзіную нашую вёску пакінулі, таму што паблізу крушэньня ня было. А цяпер-жа што нам рабіць?*

*— Вы ўжо самі паклапаціцеся, што вам рабіць — ці ў лес пайсьці, ці ў вёсцы застацца», — адказалі ім зьдзекліва масквічы й пачулі горкі адказ:*

*— Э-эх, кажаце, самі паклапаціцеся… А як клапаціцца, калі мы самі даўно ўжо вырашылі, як нам жыць ды што рабіць, а вы нашую сялянскую пастанову крыж-накрыж перакрэсьлілі ды на сьметнік шпурнулі».*

*Дык нашто нам, Беларусам, ушаноўваць памяць маскаля Канстанціна Заслонава[648]? Змагаўся ён не за нашую волю, а вылучна за тое, каб мы ўзноў трапілі пад прыгон Расеі. Таму й заслугоўвае ён ад Беларусаў, і тым больш з прычыны свайго сёлетняга 60-годзьдзя, толькі асінавага кала на магілу. Няма дагэтуль на Беларусі памятніка славутаму Кастусю Каліноўскаму, а затое рукамі запраданцаў будуе Масква памятнік сваім кроўным сыном — розным суворавым ды заслонавым.*

*Юрка Віцьбіч*

---

[647] **Васіль Раманоўскі** (1918–1992), доктар гістарычных навук, аўтар кніг «Супраць фальсіфікацыі гісторыі савецкага партызанскага руху» (Мінск, 1962) і «Саўдзельнікі ў злачынствах» (Мінск, 1964).

[648] Насамрэч Канстанцін Заслонаў нарадзіўся ў в. Асташкаў Цвярской губерні Расіі.

*8.7.69 г*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Доктар Станкевіч!*

*Заўчора давялося мець прыемную гутарку з нашым Спадаром Запруднікам, які ў часе сваіх адведзінаў Саўт Рыверу ветліва завітаў да мяне. Ад яго дазнаўся пра г. зв. фэльетон «Сон у руку», фотаадбітак якога ён мне спакінуў. Пасьля азнаямленьня з гэтым «творам» дазвольце моцна паціснуць Вам руку ў адзнаку свае вялікае пашаны да Вас і пагарды да нашых агульных ворагаў. Шчыра зычу далейшых посьпехаў у змаганьні з прыгнятальнікамі нашае Бацькаўшчыны.*

*А мяне на гэты раз ня амінуў Л. Абэцэдарскі ў завяртанскай кніжцы «У святле неабвержных фактаў»*[649]*. Як заўжды, чуюся вельмі ўсьцешаным ад іхнае чарговае ўвагі. Дасылаю адначасна вытрымкі з маіх ранейшых твораў, якія сьветчаць, што Юрка Віцьбіч ненавідзіць ня людзтва, як запэўнівае чытачоў Абэцэдарскі, а бальшавікоў — ворагаў людзтва. Штыхом і крывёю, а не пяром і чарнілам меўся я пісаць пра змагароў Вяліскага паўстаньня, а зусім не гісторыю Беларусі, як сьцьвярджае ў наўмысьля перакручанай цытаце Абэцэдарскі. Нават мову цытаты ён падрабіў гэтак няўдала, што ўжыў зусім неўласьцівыя нашай мове й мне формы — «чарнілэмі» і «кроўю». Ведаю, што Спадар Запруднік рыхтуе яму адказ, што датычыць усяе кніжыцы, у якой ад гістарычнага круцельства аж мроіцца ў вачох. Хочацца й мне адказаць яму на старонках добрага «Беларуса».*

*Ня ў стане таксама амінуць тут артыкул «Яшчэ адна прадажная душа..», прысьвечаны Масею Сяднёву. Грэшны чалавек — ня вычуў я да пакрыўджанага ў ім ані спачуваньня, ані даверу, ані, тым больш, пашаны. Вельмі магчыма, што аўтарам — «Платон Ліпскі» — зьяўляецца Ўладзімер Клішэвіч. Па-першае, ён зарабляе сабе такім чынам права на зварот у БССР, аб чым ужо склаў раней заяўку завяртанцам у цыклю вершаў «Трымайцеся вы роднае зямлі». Па-другое, аж занадта «азна-*

649 Абецадарскі, Лаўрэнці. У святле неабвержных фактаў. Мінск, 1969. — 110 с. (Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы»).

*ёмлены» з жыцьцём мюнхэнскіх радыёбеларусаў праз жонку Дудзіцкага, якую прыгарнуў да сябе, калі тая ў Блумінгтоне пратурыла Ўладзіка з хаты. Па-трэцяе, варожа ставіцца да Сяднёва пасьля таго, як той (зь лісту П. Манькова) публічна зьмяшаў з балотам ягоную паэму «Васіль Каліна». Па-чацьвёртае, вельмі характэрнае параўнаньне носа Сяднёва з кубкам Дыяніса*[650] *для паэты, які спэцыялізаваўся на перакладах з антычнагрэцкае паэзіі. Па-пятае, выраз «Божа ты мой, як гэта страшна!» зьяўляецца ўлюбёным для Клішэвіча яшчэ з тых часоў, калі давялося разам зь ім працаваць у баураў ва Ўсходніх Прусах. І г. д., і г. д.*

*Аднак, шануючы Ваш час, трэба й пра кропку ведаць.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашым ад мяне і маіх.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты. Спадзяюся таксама, што Ваш намер разам зь сям’ёй наведаць мяне не згубіў сваёй актуальнасьці — мару аб ягоным ажыцьцяўленьні.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*8.7.69 г.*

*Саўт Рывер.*

*Дарагі Спадар Запруднік!*

*Калі толькі добра Вас зразумеў, дык Вы маецеся пісаць скрыпт, прысьвечаны кніжцы Л. Абэцэдарскага — вельмі прашу Вас пазнаёміць мяне зь ім. Дарэчы, зьдзіўляе, чаму гэты бальшавіцкі папіхач ня зьмачыў сваё нацдэмаўскае, ці нават бебурнацаўскае прозьвішча, што паходзіць ад «абэцэды», на — Абэвэгэдараў. Хачу ад душы параіць яму гэтае. На Азбукіна — слоў няма, ня можна, бо Аз і Букі выразна засьветчаць аб ягонае сымпатыі да царкоўнікаў. Але Маркс-Ленін зь ім!*

*Шчыра зычу ўсёго найлепшага.*

*Прашу перадаць мае прывітаньні Сп. Сп. Каханоўскай і Адамовічу.*

*Дасылаю для ветлівага азнаямленьня копіі некаторых маіх лістоў.*

---

[650] **Дыяніс** — у старажытнагрэцкай міфалогіі бог віна.

*Пішэце, калі ласка пры наяве часу і ахвоты.*
*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Дык збанкрутавала ў часе візыты да мяне філязафічная канцэпцыя а. Януса Пятроўскага з апэляцыяй «а табе ня сорамна?» да сумленьня ката, і асабліва пасьля таго, як тутэйшы Домінус Хама Брут*[651]*, а ўласьне Гаспадар Нікандра Мядзейка, маючы на ўвазе заўтрашніх замахаўцаў, яго суцешыў і загнаў апошні цьвік: «Будзьце спакойны. Па сто даляраў кожнаму як прыпаяюць, дык нішто сабе»*[652]*.*

*А ў дадатак ён яшчэ дакладна падрахаваў, колькі аплявухаў за апошні месяц ахвяравалі тутэйшыя зарубежнікі адзін аднаму ў залях «Шака»*[653]*. Ды прыгадаў таксама, як гістарычная Люба (адна з колішніх нявестаў Палікарпа Манькова й Міхася Сенькі) у часе царкоўнага пікніку крычэла а. Сьвятаславу Каўшу: «Ты маё дзявоцтва зглуміў».*

*Таму а. Янус адразу накіраваўся простым маршрутам да сваіх Сіракузаў, ня гледзячы нават у той бок, дзе шырака разьлегся «Белэр-Менск»*[654]*. І я ад усяе душы ўсьцешыўся, бо думаў ня пра яго, а пра нашага тэрарыстага Кастуся Акулу, які акрамя штрафу (у лепшым выпадку) атрымаў бы забарону на нявызначаны тэрмін уезду ў ЗША. Ёсьць-жа вялікая розьніца паміж дэманстрацыяй на ЭКСПО 67*[655]* і плянаванай дэманстрацыяй на «Белэр-Менск».*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*Юрка Віцьбіч.*

[651] **Бурсак Хама Брут** — герой аповесці М. Гогаля «Вій».

[652] Гл. тлумачэнне гісторыі ў лісце да Кастуся Акулы ад 23.07.1969 г.

[653] **Заля «Шакаў»** — месца спатканняў, правядзення мерапрыемстваў беларусаў у Саўт-Рыверы.

[654] **«Белэр-Менск»** — беларускі грамадскі адпачынковы цэнтр у ЗША.

[655] Маецца на ўвазе Сусветная выстава 1967 г. у Манрэалі, падчас якой Кастусь Акула раскідваў улёткі з антысавецкім і прабеларускім зместам. Быў арыштаваны канадскай паліцыяй. Гл.: Сьветка. Беларускія антысавецкія брашуры на ЭКСПО–67 // Беларус. № 125. Верасень 1967. С. 6.

*22.7.69 г.*

*Глыбокапаважаны Доктар Станкевіч!*

*Дасылаю на дзень раней, чым умовіліся па тэлефону, артыкул «Выкрунтасы фельчара Абэвэгадарава» і спадзяюся бачыць яго на старонках наступнага, падвойнага № добрага «Беларуса». Можа тоё-сёе ў ім і не пазбаўленае пернасьцяў, але, па-першае, сьвядома ўжываю іх заўсёды ў часе сутычкаў зь імі, а, па-другое, яны — абэвэгэдаравы — ня заслугоўваюць далікатнага падыходу з нашага боку, бо, акрамя рознага іншага, вешаюць на нас усіх сабакаў. Калі не памыляюся, дык Лойд-Джордж*[656] *зусім, як на мой пагляд, слушна заўважыў: «З канібаламі трэба гаварыць на мове канібалаў».*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага Вам і Вашай сям'і ад мяне і маіх.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Па-расейску — «Солоухин»*[657] *— а таму я й не скараціў «у» пры перакладзе. Хочацца думаць таксама, што ў цытаце Абэцэдарскага, унікнуўшы аўтаматычнае праўкі, застануцца расейскія формы «чарнілами» і «кроўю», бо йнакш зьнікае сэнс майго далейшага.*

*Яшчэ раз усяго добрага Юр. Віцьбіч.*

[656] **Дэвід Лойд Джордж** (1863–1945), прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1916–1922 гг. Дарэчы, у даваенны час у савецкіх фельетонах быў папулярным героем — не менш за Чэмберлена.

[657] **Уладзімір Салаухін** (1924–1997), расійскі празаік і паэт.

## *Выкрунтасы фельчара Абэвэгэдарава*[658]

*Замест рэцэнзіі*
*Дрыжэце ў падклецьці*
*Калі на уловы мы выйдзем!*
*Усіх болей на сьвеце*
*Сабак ваўкі нянавідзяць.*
Ул. Салаухін

*«У сьвятле неабвержных фактаў» — гэтакая безапэляцыйная шыльда пышна аздабляе сабой кволую кніжыцу Л. Абэцэдарскага, выдадзеную сёлета завяртанскай газэцінай «Голас Радзімы» ў колькасьці аж 30 тыс. паасобнікаў. Паводля запэўняньняў аўтара, яна, прысьвечаная, нібы, аб'ектыўнаму агляду гісторыі Беларусі ды накіраваная супраць ейных, быццам, фальсіфікатараў, пад якімі ён мае наўвеце нацдэмаў і «бебурнацы», бо яны, як на ягоны погляд, — «звычайна для «доказу» сваіх выдумак ужываюць махлярскі прыём». Адсюль падсавецкім чытачам застаецца толькі права на выснаў, што сам Лаўрэн Сямёнавіч Абэцэдарскі ў сваёй навуковай працы больш сумленны за Пампею — жонку Юлія Цэзара, таму што тая, ня ў прыклад аўтару, ня была падкутая марксізмам-ленінізмам, а з гэтае прычыны й ня выявіла сваячасова клясавага ворага Публія Клодыя Пульхэра*[659]*. Аднак пачакайце, калі ласка, з дачаснымі высновамі.*

*Акурат на старонцы 5-ае свае кніжыцы Лаўрэн Сямёнавіч, як той маўляў, уласнаручна падкрэсьлівае:*

*«Адзін з такіх наймітаў амэрыканскіх і заходнягэрманскіх імпэрыялістаў якісьці Шчарбакоў, ён-жа Віцьбіч, ён-жа Стукаліч, аднойчы выбалтаў у эміграцкай газэтцы сваё чалавеканенавісьніцкае жаданьне пісаць «гісторыю Беларусі не пяром і чарніламі, а штыхом і кроўю».*

---

[658] Друкуецца паводле аўтарскага рукапісу. Газетная публікацыя: Віцьбіч, Юрка. Выкрунтасы фэльчара Абэвэгэдарава. Заміж рэцэньзіі // Беларус. № 147–148. Ліпень-жнівень 1969. С. 8.

[659] **Публій Клодый Пульхер** (*Publius Clodius Pulcher*) — рымскі дэмагог, быў выратаваны ў свой час ад перасьледу жонкаю Цэзара, сваёй каханкай, але пазней стаўся ворагам Цэзараў.

*Перадусім, бадай ня ведаў дагэтуль Юрка Віцьбіч, што ён, даруй, Божа, хоць і адзіны, але траісты ў асобах. Потым справа тут нават і ня ў тым, што «наймiт амэрыканскіх і заходнягэрманскіх імпэрыялістаў» Юрка Віцьбіч дзевятнаццаць год, аж пакуль ня дастаў пэнсію па веку, адпрацаваў дзеля кавалку хлеба штадзённага як звычайны работнік на амэрыканскіх заводах, бо, дарэчы, яму да гэтага й ня прызвычайвацца — гараваў ён калісьці дзесяць год на маскоўскіх заводах, пазьней досыць часу ў баўраў і на тартаках Нямеччыны, а ўвогуле ягоны работніцкі стаж ні да параўнаньня з працоўным стажам перш-лепшага, тамтэйшага, з крывавымі мазалямі ў сваім жыцьці незнаёмага сакратара райкома партыі. Далей, сутнасьць таксама ня ў тым, што Юрка Віцьбіч адразу насьцярожыўся, пабачыўшы ў кагадзе згаданай цытаце зусім не ўласьцівыя беларускай мове, а значыцца і яму, расейскія формы «чарнiламі» і «кроўю» ды прыгадаў палымяныя радкі Янкі Купалы, прызначаныя Маскве:*

Чужак, дзікун, крывёю ўпішысь сьвежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі,
І тваю маці-бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часьці, на кускі[660].

*Справа палягае вылучна ў тым, што ня толькі мова цытаты накінутая Юрку Віцьбічу, але і ейны зьмест падробляны Лаўрэнам Сямёнавічам, які скарыстаў тут, гаворачы ягонымі-ж словамі, «махлярскі прыём».*

*У № 49–50 (435–436) за 1958 год вядомае ўсім беларусам на чужыне добрае й каштоўнае газэты «Бацькаўшчына» зьявіўся вялікі артыкул Юркі Віцьбіча «Сорак год таму паўсталі Вяліжане», які канчаецца так:*

*«Прыйдзе той час, калі ня чарнілам, а крывёю, ня пяром, а штыхом мы напішам гісторыю Вяліскага паўстаньня і ўзжвялічым ягоных змагароў».*

*А задоўга перад тым, у сваёй кніжцы «Вяліскія паўстанцы»[661] ён-жа больш дакладна абгрунтаваў тую самую запаведную надзею:*

---

[660] Верш «Свайму народу».

[661] Віцьбіч, Юрка. Вяліскія паўстанцы. Гендзікаўскія змагары. Бэрлін, 1944. — 31 с.

*«У маёй памяці, якая ніколі ня забывае нявыказных пакутаў нашага вялікага беларускага народу, устаюць побач з Паўлюком Нілёнкам і Маркай Сінічанскім, Грамабоям і Зацерыным сьветлыя вобразы трох братоў-афіцэраў Жыгалавых, «барона Кіша», Воранава, Абэрона, Музыкантава, Асташэнкі і многіх іншых камандзіраў вяліскіх паўстанцаў*[662]*. Ня чарнілам, а крывёю, не пяром, а штыхом трэба пісаць аб іхніх гэраічных учынках. Усе яны загінулі ў змаганьні. І мы ня заплачам над імі. Няма ў нас сьлёз. Мы ўшануем іх памяць тым, што, працягваючы іхняе змаганьне, насыплем над іхнім прахам курганы з бальшавіцкіх касьцей».*

*На крыві беларускага народу ператварылі бальшавікі абуджаную Актам 25 Сакавіка Беларусь у дзяржаўны эрзац — БССР. Прыгадайце зь любоўю й пашанай да іхніх змагароў Вяліскае паўстаньне 1918 г., Парэцкае 1918 г., Расонскае 1918 г., Невяльскі мяцеж 1918 г., Мірскае паўстаньне 1919 г., Нясьвіскае 1919 г., Дабранскае 1919 г., Кармянскае 1919 г., Слуцкае 1919 г., Гомельскі мяцеж 1919 г. на чале з Стракапытавым, Рэчыцкі мяцеж 1919 г. на чале з Саладухіным, «Койданскую Народную Рэспубліку» 1920 г. на чале з Паўлюком Калечыцам, Слуцкі Фронт БНР 1920 г., Мсьціслаўскую сялянскую дэманстрацыю 1921 г., Панькоўскабудзкае паўстаньне 1929 г., Бяшанковіцкае 1930 г., Барысаўскі работніцкі галодны бунт 1933 г. і шмат, шмат іншых. Памятайце таксама вечнае славы найбольш вядомых антысавецкіх партызанаў, як — Юрка Моніч, Лукаш Семянюк (Барысаўшчына), палкоўнік Дзяркач-Адамовіч («Зялёны Дуб», Палесьсе), Фульгур-Ільлін, Анушчанка, Ардын, Волкаў, браты Сялязьнёвы (Віцебшчына), «князь Сярэбраны» (Смаленшчына), Чырвонец, Прымачок (Магілёўшчына), Жылінскі (Меншчына), Папёнак (Полаччына) і бяз ліку другіх. Ня забывайма тож ніколі пра сьмерць зацкаваных і замардаваных чэкістамі*

[662] Па каментары да імёнаў і назваў, звязаных з паўстаннямі, адашлем да смаленскага, 2007 г., выдання кнігі Юркі Віцьбіча «Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі», грунтоўна пракаментаванай гісторыкам Алесем Пашкевічам.

*Цішкі Гартнага, Усевалада Ігнатоўскага, Алеся Чарвякова, Міколы Галадзеда, Зьмітро Прышчэпава, Юркі Лістапада, Язэпа Лёсіка, Вацлава Ластоўскага, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Ігната Дварчаніна, Міхася Чарота, Уладыслава Галубка, Міхася Зарэцкага, Уладзімера Жылкі, Алеся Дудара, Уладзімера Хадыкі, Максіма Гарэцкага, Платона Галавача, Васіля Каваля, Сымона Баранавых ды яшчэ сотняў, тысячаў сыноў нашага паняволенага народу, што зьяўляліся ягонай адзобай. І гэтак скрозь праз усё панаваньне бальшавікоў на Беларусі — кроў, кроў, кроў.*

*А цяпер маю гонар зьвярнуцца да высокашаноўных суродзічаў з просьбай самым зрабіць на падставе кагадзе пададзеных мной цытатаў ветлівы выснаў. Ці запраўды Юрку Віцьбічу, як сьцьвярджае ў перакручанай вытрымцы Л. Абэцэдарскі, уласьціва чалавеканянавісьніцтва, і таму менавіта ён, быццам, заклікаў пісаць гісторыю Беларусі беларускай крывёю? Ні ў якім разе не — чую ваш аднамысны адказ. Няма на сьвеце больш ворагаў людзтва, а перадусім нашага беларускага народу, як маскоўскія бальшавікі, і таму мой шляхетны намер пісаць гісторыю беларускіх змагароў крывёю іхніх катаў — маскоўскіх бальшавікоў — сьветчыць толькі й вылучна аб вялікае любові да людзтва й Маці-Беларусі.*

*Адсюль зусім для яго як для зпрактыкаванага вульгарызатара, натуральна, калі ўсё наступнае ў сваёй кніжцы Лаўрэн Сямёнавіч, злоўлены ў самым пачатку яе за руку на гарачым учынку, наўмысьля перакруціў. Пры гэтым ён нават ня ўзяў пад увагу, што паводля пададзеных ім спасылкаў на крыніцы чытач потым у стане сам увачавідкі пераканацца, як, напрыклад, зьінačаны аўтарам на расейскі капыл годны бязьмежнае пашаны Ўладзімер Пічэта — вытрымкі зь ягонае капітальнае манаграфіі «Белоруссия и Литва 15–16 вв.»*[663] *(стар. 656 і 715), выхапленыя з агульнага кантэксту гэтак, каб прыхаваць ад шырокага кола чытачоў, што высновы*

[663] Пичета, В. Белоруссия и Литва XV–XVI вв.; исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития. Москва, 1961. — 812 с.

*акадэміка Пічэты аб ролі беларусаў у Вялікім Княстве Літоўскім супрацьлеглыя поглядам Л. Абэцэдарскага ў ягонай прапагандовай кніжыцы.*

*Тое-ж круцельства датычыць і спасылкі на 9-ы том «России» Сямёнава*[664] *— «Верхнее Приднепровье и Белоруссия» — дзе на староцы 537-ае прыгадваецца каля вёскі Прыбыткі на Гомельшчыне векавая хвоя «Шыбеніца», вядомая ў народзе пад гэткім назовам з тае прычыны, што яе «паны калісьці выкарыстоўвалі для пакараньняў». А чаму-ж ня згадаць, спаслаўшыся на 395-ю старонку таго-ж тома тае-ж «России», што дагэтуль на Беларусі існуе мянушка «мсьціслаўскія недасекі», бо ў 1654 г. «Всея Великия, Малыя и Белыя Руси царь и самодержец» Аляксей Міхайлавіч у часе «Трубецкае рэзьні»*[665] *вымардаваў бяз малага ўсіх мсьціслаўцаў? І калі жывое сумленьне беларускага народу, наш Нацыянальны Прарок з уласьцівай яму сілай гнеўна пісаў:*

*Адзін з захаду груган,*
*А другі з усходу*
*Прыляцелі на сяло*
*На чужую шкоду*[666]*,*

*дык папіхачу Масквы Л. Абэцэдарскаму гэткая аб'ектыўная гістарычная праўда невядомая.*

*Увогуле аж мроіцца ў вачох ад нязьлічоных памылак, падрахаваць якія ня дасьць рады ня толькі рэцэнзэнт, але й кампютэр*[667]*. Нават ня чарнілам, а памыямі пісаная гэтая кніжыца, якой больш адпавядае назоў «У цемры падробляных фактаў». Пэўне-ж не карыстаецца яна там пашанай і даверам з боку шматпакутных чытачоў ды відавочна супярэчыць урачыстай заяве самога Л. Абэ-*

[664] Живописная Россия: отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Под общей редакцией П. П. Семенова. С-Петербург, 1881–1901.

[665] Маецца на ўвазе аблога Мсціслаўля ў 1654 г.

[666] Пачатак верша Янкі Купалы «Груганы».

[667] Адно з нешматлікіх сведчанняў зацікаўленасці Віцьбіча навакольным светам, не датычным беларусікі. Першы электронны камп'ютар у Амерыцы, Eniac, з'явіўся ў 1946 г. У 1951 г. Урад ЗША ўзяў на ўзбраенне камп'ютар Univac. А ў 1969 г., калі Віцьбіч пісаў гэты тэкст, Дэпартамент абароны пачаў распрацоўку інтэрнэту (Arpanet).

*цэдарскага: «Гістарычная навука ня церпіць хлусьні» (стар. 110), калі зпатрэбіўся аж занадта алілуйны артыкул В. Маскаленкі «Достойная отповедь» у «Советской Белоруссии» ад 12.7.69 г., але дапаможа ён аўтару ня больш, чым мыліцы кульгаваму.*

*І нарэшце мне застаецца выказаць Лаўрэну Сямёнавічу сваё шчырае спачуваньне з прычыны ўжыцьця ім пагарджальнага займеньніка «якісьці» ды зьняважальнага дзеяслову «выбалбатаў» у дачыненьні да мяне — шараговага работніка й пісьменьніка, недабітага бальшавікамі нацдэма і ўзвышэнца. Гэтыя зьмяншальныя тэрміны, падмацаваныя ім яшчэ спасылкамі на розныя свае ганарлівыя тытулы й высокія годнасьці, накшталт — загадчык кафедры гісторыі БССР БДУ імя Ул. Леніна, доктар гістарычных навукаў, прафэсар, член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навукаў СССР і г. д. і г. д., сьветчыць толькі аб вельмі хваравітым комплексу вышэйшасьці, пашыраным, як нідзе больш на зямлі, у дзяржаўна капіталістычным, клясавым СССР. І пэўне-ж аніякае зайздрасьці ніхто ў вольным сьвеце да гэтых балесных адзнакаў ня вычуе. Яны, па-першае, зусім не супадаюць з навуковым коштам кніжыцы, а па-другое, ахвяраваныя, бяз сумлеву, адвеку й дагэтуль імпэрыялістычнай Масквой за ўгодніцтва перад ёй. І таму нас зусім ня зьдзівіць, калі ў гонар 100-годзьдзя ад дню нараджэньня Леніна Лаўрэн Сямёнавіч як вернападданы гайдук чырвонае матухны-Расеі зьменіць урэшце-рэштаў сваё нацдэмаўскае, а можа й зусім «бебурнацаўскае» прозьвішча — Абэцэдарскі — што паходзіць ад гэрэтычнае ў савецкіх умовах добрае беларускае «абэцэды», на цалкам сугучную ягонаму калябаранцкаму становішчу «фамилию» — Абэвэгэдараў.*

*Юрка Віцьбіч.*
*22.7.69 г.*

*23.7.1969 г.*
*Саўт Рывер*

*Дарагі Спадар Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за дасланы Вамі цікавы скрыпт аб кніжцы Л. Абэцэдарскага, а таксама за фотаадбітак з «Советской Белоруссии» артыкулу В. Маскаленкі «До-*

*стойная отповедь», прысьвечанага ўхваленьню тае-ж самае кніжыцы, якую, між іншым, ён вельмі трапна называе брашурай.*

*У сваю чаргу дасылаю для ветлівага азнаямленьня копію майго артыкулу «Выкрунтасы фельчара Абэвэгэдарава», які сёньня кінуў у паштовую скрынку для «Беларуса» паводля просьбы Сп. Др. Ст. Станкевіча. Пэўна-ж Вы ведаеце, што Сяднёў у Саўт Рыверы, дзе затрымаўся ў а. М. Лапіцкага, а гэта вельмі характэрна. Цяпер для ўсіх зразумела, з чаго благаславенства ён ператварае белсэкцыю «Свабоды» ў Мюнхэне ў зарубежніцкую партыйную пляцоўку. Да мяне, з чаго цешуся, Мося не завітае — ужо ладне часу таму паміж намі паўсталі вялікія разьбежнасьці.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Прашу пераказаць маё прывітаньне агульным знаёмым.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*П. С. Даруйце за клопаты — спадзяюся атрымаць № 5 «Беларусі».*

*А якая цудоўная рэч — паэма Міколы Гусоўскага «Песьня пра зубра» — нават чымсьці нагадвае яна й «Гаявату»[668] і «Калевалу»[669].*

*Яшчэ раз усяго добрага.*

*Юрка Віцьбіч.*

*23.7.1969 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Кастусь Акула!*

*Дзякую за Ваш ліст ад 9.7.69 г. ды цешуся, што пасьля замежнага падарожжа ды больш-менш шчасьліва дасталіся Таронта. А тымчасам да мяне даплылі розныя навіны, зь якімі хочацца Вас пазнаёміць.*

---

[668] Маецца на ўвазе «Песня пра Гаявату» Генры Лангфела (1855), якую па-беларуску перастварыў Аркадзь Куляшоў.

[669] «Калевала» — карэла-фінскі народны паэтычны эпас. Існуе некалькі перакладаў у беларускую мову, апошні па часе ды найбольш поўны належыць Якубу Лапатку.

*Перадусім, адсутнасьць а. Януса 5-га ліпеня на рэсорце «Белэр-Менск» ня выпадковая. Напярэдадні ён разам з Сп. Мядзейкам[670] завітаў да мяне і ў часе гутаркі выказаў сваё палкае прыпушчэньне, што паводле ягоных дадзеных на яго рыхтуецца заўтра замах з боку канадыйцаў. Сп. Мядзейка адразу яго «суцешыў»: «Будзьце спакойныя. Як прыпаяюць кожнаму па 100 дал., дык больш ня захочуць глуміцца зь цішыні».*

*На гэтае а. Янус даволі слушна адказаў прыблізна ў тым пляне, што ягоная морда яму даражэйшая за наступныя штрафы, а потым нечакана зьвярнуўся да мяне з бадай загадам: «Бяз адкладу тэлефануйце ў «Белэр-Менск», каб мяне загадзя ўзялі там пад абарону».*

*І той-жа Гаспадар/Спадар Нікандра Мядзейка загнаў свой чарговы цьвік: «Калі Юрцэвіч там дазнаецца, што за Вас просіць крывіч Віцьбіч, дык адразу сам далучыцца да тых няўгамаваных канадыйцаў».*

*І адразу пекнула філязафічная канцэпцыя а. Януса. Перад тым ён доўга й сумна даводзіў, што цяперашняе людзтва мае жыць паводля запаветаў Сакратуса й Плятонуса. Нават прыгадаў пра нейкую задрыпаную авечку, якая за хвіліну да кары на гільятыне заўважыла кату: «А табе ня сорамна?». Гэта значыцца, апэлявала да сумленьня ката. А тут сутыкнуўшыся з даволі дробязнай жыцьцёвай прозай (патрабаваньне назад прысабечаных грошай) ды проста зьбялеўшы пасьля суцяшэньняў Сп. Мядзейкі, а. Янус вырашыў падацца зь Ню Бранзьвіку проста да сваіх Сіракузаў[671].*

*Праз маіх «агэнтаў» ведаю й пра абыходзіны Дню Жаўнера на рэсорце, які, здаецца, адбыўся гэтак нудна, што нават і сьцяг наш не хацеў уздымацца. Сп. Золак, а пазьней Сп. Цярпіцкі[672] адмовіліся прыгадаць маёра Мікулу, і за гэтае ўзяўся а. М. Лапіцкі, які раней*

[670] **Нікандр Мядзейка** (28.08.1914, в. Панькі (сёння Іўеўскі р-н Гарадзенскай вобл.) — 06.12.1987, Нью-Джэрсі, ЗША), грамадскі дзеяч.

[671] Гэта не Віцьбічава іронія: перакладчык Платона Ян Пятроўскі сапраўды жыў у Сіракузах, штат Нью-Ёрк.

[672] **Цярпіцкі Віталь** (нар. 03.02.1923, м. Івянец (сёння Валожынскі р-н Мінскай вобл.), грамадскі дзеяч.

*сустракаўся зь ім, а ў дадатак дастаў яшчэ ад мяне дастатковыя адпаведныя матар'ялы. Ведаю таксама, што ў часе свайго слова ён колькі раз назваў Мікулу Акулай ды Віктарам замест Віталі, але ён увогуле менш за ўсё нагадвае Дэмасфэна[673]. Чуў і пра Ваш добры выступ ды пашкадаваў, што Сп. Мярляк ня даў Вам слова для дадатковага ўспаміну. Што датычыць рэферата пра генэрала Езавітава, дык Мядзейка яго падрыхтаваў, але «тробал з карай»[674] ня дазволіў яму, «наўсуперак жаданьню», прыехаць у «Белэр-Менск».*

*Аднак найгалоўнае палягае ў наступным. Ужо месяц таму я пісаў Ст. Ст.[675] пра патрэбу адзначыць 25-годзьдзе ад дню сьмерці маёра Мікулы на старонках «Беларуса», учора ён зазваніў да мяне з Ню Ёрку з просьбай напісаць адпаведны твор, але я параіў яму зьвярнуцца да Вас, бо Вы асабіста добра ведалі маёра Мікулу, што і адбілася ў Вашых «Змагарных дарогах». Вам тут і пёрка ў рукі. Пэўне-ж Вы напішаце аб ім лепш за мяне. Га?*

*З тутэйшых навінаў заслугоўвае ўвагі хіба тое, што Масей Сяднёў прыехаў на адпачынак у Саўт Рывер, спыніўшыся ў а. М. Лапіцкага. Такім чынам ён перад усімі ўвачавідкі падкрэсьліў, ад каго дастае дырэктывы ў сваім апанаваньні белсэкцыі «Свабоды» ў Мюнхэне як зарубежніцкае пляцоўкі. Характэрна, што тут усе яго сустракаюць як «своего в доску парня», а на розных тутэйшых адмысловых імпрэзах ён мае лаўры чэхаўскага вясельнага генэрала. Толькі да мяне Мося ня завітае, з чаго ад усяе душы цешуся.*

*Аднак досыць злоўжываць Вашым часам.*

*Дасылаю некаторыя свае копіі для ветлівага азнаямленьня.*

*Прашу пераказаць маё прывітаньне Сп. Маркевічу[676].*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу й ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

---

673 **Дэмасфен** — адзін з найбольш вядомых у Старажытнай Грэцыі прамоўцаў.

674 *Car trouble* (англ.) — праблемы з аўтамабілем.

675 Станіслаў Станкевіч.

676 Маецца на ўвазе **Антон Маркевіч** (14.10.1925, Гродна — 09.11.2009, Ашава, Антарыа, Канада), грамадскі дзеяч.

*22.5.70 г.*
*Саўт Рывер.*

*Дарагі Спадар Пануцэвіч!*

*Удзячны за Ваш ветлівы ліст ад 13.5.70 г. Дзякую за Вашую добрую думку аб маіх творах і магчымасьцях. Цешуся, што Вы ўважаеце мяне за найбольш здатнага, каб «скампрамітаваць (падкрэсьлена Вамі) маскоўскага агента Прокшу». Увогуле ён здаўна зьяўляецца адным з галоўных пэрсанажаў маіх фэльетонаў, і я проста з вылучнай насалодай ды з вычуваньнем свайго сьвятога абавязку ашэльмую яго яшчэ раз, але толькі, даруйце, ня пад тым кутом, які Вы мне прапануеце, ды які мяне, не захаваю ад Вас, зьдзівіў.*

*Перадусім мушу адзначыць, што пададзеная Вамі інфармацыя чыкагзкага беларуса, які летась наведаў Менск, нібы Л. Прокша ў 30-х гадох супрацоўнічаў у польскай газэце ў Койданаве (цяпершані Дзяржынск) ці наўрад адпавядае праўдзе. Прынамсі, паводля беластоцкае «Нівы» ад 16 лютага 1969 г., дзе зьмешчана зацемка аб ім разам з партрэтам: «Дарогі вайны прывялі Леаніда Прокшу — афіцэра Савецкай Арміі — у Польшчу. Да 1953 года працаваў ён у газэце «Вольносьць», якую выдавала Савецкая Армія для насельніцтва братняй Польшчы».*

*Што датычыць 30-х гадоў, дык ён, калі даць веры той-жа зацемкі: «Друкавацца пачаў у 1937 годзе, працуючы ў рэдакцыі газэты «Віцебскі рабочы».*

*Вось тут ёсьць нешта даволі сумніўнае. Хоць я й ня працаваў у рэдакцыі «Віцебскага рабочага», але ведаў ейных працаўнікоў і ніколі не сустракаў паміж імі Л. Прокшу. Між іншым, і ён у сваіх шматлікіх плявузганьнях на мой адрыс ніколі не прыгадаў пра мяне як аўтара нарысаў у «Віцебскім рабочым», што датычылі старадаўніны, або як рэцэнзэнта твораў пачынаючых пісьменьнікаў Віцебшчыны, а значыцца і яго, каб ён там быў. Аб маіх тагачасных кантактах з «Віцебскім рабочым» пісалі ў пляне лаянкі ў завяртанскіх «фэльетонах» Сіпка, Беляནькі й Фэйгінзон, якія запраўды працавалі ў гэтай газэце, але ня Л. Прокша. Аднак усё гэта другараднае ў параўнаньні з наступным.*

*Вы прапануеце мне ашэльмаваць на старонках «Беларуса» Л. Прокшу, з прычыны ягонага... жыдоўскага паходжаньня. Я ня зусім упэўнены ў тым, што ён жыд, але каб ён і запраўды гэткім зьяўляўся, дык менавіта ў тым яшчэ ня бачу нічога ганебнага для яго асабіста, як і шкоднага для нашае нацыянальнае справы. Калі жыды ў мінулым, як Вам вядома, зпрычыніліся з польскае ласкі да пагібелі на Беларусі 3-га сацыяльнага стану, пры наяве якога мы-б займелі нацыянальнае адраджэньне на 200–300 год раней, яшчэ за часы Мамонічаў і Вашчылаў, дык продкі[677] тых жыдоў за гэтае не адказныя. Калі пазьней жыды дапамаглі «Ивану» гвалтам накінуць нам «Кастрычнік», дык потым яны-ж найбольш ад яго й папакутвалі. Як кажа Слова Божае — Хто сее вецер, той пажынае навалу[678]. І ўрэшце рэштаў згадваецца таксама нязбытны й цудоўны Дзядзька Зьмітрок Бядуля — Самуіл Плаўнік — зь якім меў гонар сябраваць і належыць разам да згуртаваньня «Ўзвышша».*

*Справа тут ня толькі ў тым, што Сталін сваёй палітыкай дапамог Гітлеру зьнішчыць на Беларусі мільёны жыдоў, але і ў тым, што сёньня найбольшымі антысемітамі ў сьвеце зьяўляюцца бальшавікі як унутры СССР, гэтак і ў дачыненьні да Ізраіля. Сталася так, што сёньня агульны фронт вольнага чалавецтва й паняволеных народаў у збройным змаганьні з камунізмам пралягае ня толькі па Меконгу, але й па Нілу.*

*Карацей кажучы, шэльмаваньне каго-небудзь з прычыны ягонага жыдоўскага паходжаньня зьявілася-б вадой на бальшавіцкі млын і дручком у нашыя собскія колы. Гэткі твор дызкрэдытаваў бы ня Л. Прокшу, а Юрку Віцьбіча, «Беларуса» і нашую беларускую палітычную эміграцыю. Іншая справа, што я, як і раней, прысьвячу гайдуку Масквы, подламу чакістаму, бяздарнаму паперапсую — Лявону Прокшы-Шэксьпірэнку — свой чарговы*

[677] Мусіла б быць: нашчадкі.

[678] Кніга Асіі, 8:7: Як што яны сеялі вецер, дык і пажнуць буру: хлеба на корані не будзе ў яго, зерне не дасць мукі, а калі і дасць, дык чужыя праглынуць яе.

*фэльетон, але толькі ня з прычыны ягонага жыдоўскага паходжаньня, каб нават ён належыў да гэтага народу.*

*Прашу разуменьня й прабачэньня.*

*Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

*[1972 г.]*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Запруднік!*

*Дасылаю адначасна 3 даляры і спадзяюся на Вашую ветлівасьць у далейшым. Апошнія № №, якія маю: «Беларусь», № 11, 1971 г., «Полымя», № 1, 1972 г. Спадзяюся таксама, што ня амінеце з набыцьцём і дасылкай 3-га тому БелСЭ.*

*Дзякую таксама Вам і Сп. Каханоўскай за сталую дасылку «ксэрагсаў». Між іншым, даўся, відаць, я ім у знакі, калі дадаткова і ў тэй хай сабе і ўбогі «Вожык» трапіў. А вось затое я згубіў асаблівую зацікаўленасьць да Прокшы ды ягонае брахні, каб беспасярэдне яму ды завяртанцам што-небудзь адрысаваць. Лепш ужо пісаць творы накшалт «Хатынь і Катынь»*[679]*, чым марнаваць час на лаянку зь імі, хоць, шчыра кажучы, і рукі часам сьвярбяць.*

*Дзякую. Прабачце за клопаты.*

*Прашу пераказаць маё прывітаньне Сп. Каханоўскай.*

*Зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

## ***Сервіс па-амерыканску***[680]

*Гэта было раніцай, магчыма апоўдні, толькі не вечарам, бо ў Нью-Ёрку ў змроку жыхары не рызыкуюць выходзіць на вуліцу.*

*Ну, дык вось. У дзверы офіса, або, па-нашаму, канторы, пастукаў чалавек. Калі за дзвярыма пачулася «О'кэй!», чалавек папраівіў гальштук і пераступіў парог.*

[679] Віцьбіч, Юрка. Хатынь і Катынь // Беларус. № 170. Чырвень 1971. С. 3.
[680] Вожык. № 23. Снежань 1971.

*— О, містэр Віцьбіч, — з прыязнай усмешкай прывітаў госця гаспадар кабінета.*

*— Дзень добры, містэр Вейнбаўм, — не менш прыязна павітаўся наведвальнік.*

*— Не памылюся, калі скажу: вы прынеслі добры артыкул.*

*— Адгадалі! І, спадзяюся, вы змесціце яго на старонках вашай паважанай газеты, шаноўны рэдактар.*

*— Старонкі «Нового русского слова» — да вашых паслуг..*

*Мёд на языку яшчэ не сведчыў аб іх шчырасці.*

*Містэр Вейнбаўм добра ведае, як «любіць» і «паважае» містэр Віцьбіч людзей яго нацыянальнасці. Ведае ён і пра антысеміцкія артыкулы, надрукаваныя ў гітлераўскай акупацыйнай газетцы.*

*Містэр, тады гер Юрка Віцьбіч, апраўдваў і ўхваляў знішчэнне яўрэяў. Магчыма, містэр Вейнбаўм, выхадзец з гэтага народа, з прыемнасцю даў бы заядламу антысеміту па ягоных устаўных зубах і выкінуў з кабінета? Але містэр Вейнбаўм палітык і не можа даць волю сваім пачуццям са шкодай для бізнесу. Містэр Віцьбіч прапануе яму якраз тое, што трэба. Апрача таго, ён ненавідзеў і партызан, заклікаў у артыкуле «Шакалы блукаюць па лясах» да знішчэння савецкіх патрыётаў. Ён працягвае антысавецкую дзейнасць у новых умовах, з карысцю для містэра Вейнбаўма. А яўрэі? Што там містэру Вейнбаўму да тых яўрэяў, якія загінулі ў нейкім там Віцебску…*

*Містэр Віцьбіч, ліслівa зазіраючы ў вочы містэру Вейнбаўму, падае артыкул, а сам думае: «О, калі б ты мне трапіў у Віцебску ў час вайны, з якой прыемнасцю я выдаў бы цябе гестапаўцам, шаноўны містэр Вейнбаўм. Як бы ты там выкручваўся. Не з павагі да мяне ты ветліва ўсміхаешся. Паслуга за паслугу. Як кажуць амерыканцы — сервіс».*

*— Хатынь… — узнімае бровы містэр Вейнбаўм, прачытаўшы першае слова загалоўка артыкула.*

*— Чытайце далей, містэр Вейнбаўм, чытайце…*

*Галоўны рэдактар чытае далей і пад вэлюмам дэмагогіі адчувае тое, дзеля чаго ветліва ўсміхаецца гэтаму тыпу. Хатынь… Там загінулі невінаватыя людзі.*

*Малыя і старыя. Цяпер там узвышаецца ў памяць аб загінуўшых велічны мемарыяльны комплекс. Сумна звоняць званы над комінамі згарэўшых хат. Вейнбаўм вымае хусцінку і выцірае вочы — так гэта ўсё трагічна.. Але хто вінаваты ў такім здзеку з людзей? Гітлераўцы? Не, аказваецца… савецкія партызаны.*

*Іншага містэр Вейнбаўм і не чакаў ад містэра Віцьбіча. Ён жа служыў тым самым гітлераўцам. Каб не Савецкая Армія, не партызаны, яму б не давялося бадзяцца за мяжой, кланяцца нейкаму Марку Вейнбаўму.*

*Містэр Вейнбаўм падымае на містэра Віцьбіча поўныя ўдзячнасці вочы.*

*— Веры найс. Тое, што трэба.*

*А сам думае: «Подласці табе не пазычаць, містэр Віцьбіч. Табе і на святое плюнуць язык павернецца».*

*— Чытайце далей, паважаны рэдактар, — падагрэты пахвалой, кажа Віцьбіч.*

*А далей пра Хатынь ідуць «неабвержныя» факты, узятыя… з гітлераўскага друку, з кніжкі Святланы Алілуевай і, зразумела, уласныя выдумкі…*

*— Вы былі ў Хатыні?*

*— Быў. Немцы ўключылі мяне ў склад дэлегацыі па расследаванню гэтай справы.*

*Гітлераўцы ведалі, каго ўключаць у склад дэлегацыі «аб'ектыўных» назіральнікаў. Містэр Віцьбіч, тады гер Віцьбіч, сумленна выконваў свой абавязак перад акупантамі, стараўся. І містэру Вейнбаўму цяпер прыдаўся такі «сведка».*

*— О'кэй, — сказаў містэр Вейнбаўм, скончыўшы чытаць. — Толькі…*

*— Што? — устрывожыўся аўтар паклёпу.*

*— Прозвішча ваша… Вы ж беларускі нацыяналіст. І, я ведаю, ненавідзіце ўсё рускае. «Новое русское слово» скампраметуе вас у гэтым сенсе.*

*«І ты, сіяніст, ненавідзіш рускую мову, — адказвае яму ў думках містэр Віцьбіч. — Але табе патрэбны «великий русский язык» для вялікага бізнесу. А ўголас ветліва, са здавальненнем:*

*— Так, так. Гэта вельмі разумна, шаноўны містэр Вейнбаўм. Падпішыце псеўданімам — Стукалевіч.*

*— О’кэй!*

*Шаноўныя містэры чула, лезь не расцалаваўшыся, развітваюцца. А неўзабаве артыкул за подпісам Юркі Стукалевіча быў надрукаваны ў «Новом русском слове», і паклёпнік атрымаў належныя сярэбранікі.*

*Вось што значыць сервіс па-амерыканску.*

*Леанід Прокша.*

*28.7.72 г.*

*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Запруднік!*

*Надысь я атрымаў ліст ад Марка Шагала*[681]*, копію якога тут дакладаю. Ці ня варта аб ім прыгадаць у наступным № 184 «Беларуса», у ягоным разьдзеле «Што чуваць?», які, здаецца, складаеце Вы? Прывёўшы словы гэтага нашага сусьветнае вядомасьці земляка: «Ваша преданность к нашей бывшей родине сердечно трогает», выкліканыя маёй зацемкай «Она была в Могилеве» (НРСлово, 29.6.72 г.), можна падкрэсьліць, што яна зьяўляецца варыянтам майго нарысу «Чаму плакаў Зьмітрок Бядуля», зьмешчаным у № 182 «Беларуса». Увогуле — Вам лепш відаць, як у выпадку патрэбы гэтае аформіць*[682]*.*

*Прашу мець мяне на ўвазе пры набыцьці Вамі чарговых № № «Полымя» і «Беларуса». Спадзяюся таксама й на ветлівую дасылку «ксерогсаў», якія мне дапамагаюць у нашай агульнай нацыянальнай справе. Ці атрымалі Вы мoні ордэр*[683] *на 4 д. 50 ц., які даслаў адсюль сёлетняшняга 20.6?*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанаю да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*

---

[681] **Марк Шагал** (1887–1985), мастак, нарадзіўся ў Беларусі.

[682] Гл.: Беларус. № 184. Жнівень 1972. С. 6.

[683] *Money order* (англ.) — разлік праз адмысловы дакумент, які можна набыць на пошце.

### *Навошта Юрку сінагога?*[684]

*Была ў Магілёве сінагога. І сінагогі не стала.*

*Была яна таму, што даўней тут жыло многа іудзеяў, якія верылі ў бога Яхве і хадзілі ў сінагогу маліцца, прасіць боскае міласці, а то і абмяркоўваць свае кагальныя справы. А не стала сінагогі па той прычыне, што магілёўскія яўрэі адракліся ад веры, перасталі чакаць боскае ласкі, бо ўзялі ўласны лёс у свае рукі. Сінагогу, такім чынам, магіляўчане ліквідавалі з-за непатрэбнасці. І хоць веруючых яўрэяў у горадзе засталіся лічаныя адзінкі, сінагога не перастала б існаваць, каб яна ўяўляла нейкую каштоўнасць, з'яўлялася, напрыклад, помнікам архітэктуры. Рэстаўрыруюцца жа ў нас, хоць бы і ў тым жа Магілёве, старажытныя цэрквы. Але сінагога падобнай каштоўнасці не мела. Да таго ж для веруючых беларусаў яна спрадвеку заставалася незразумелай і чужой, а для яўрэяў з'яўлялася асяродкам рабінскага прыгнёту, шавінізму і цемрашальства. Так што не мелася ніякіх прычын, каб зберагаць яе.*

*Дагэтуль не чуваць было, каб хто-небудзь шкадаваў тую сінагогу — тутэйшае насельніцтва яе адсутнасць непакоіць не больш, чым леташні снег. Пра яе ў Магілёве даўно забыліся. Але ў Злучаных Штатах знайшоўся чалавек, які ўспомніў сінагогу, цяжка ўздыхнуў і ледзь не заплакаў.*

*Хто ж гэта такі? Можа які рабін ці рош-ешыва — кіраўнік ешыбота? Калі б хто з іх, то сум такі можна было б зразумець: верыць, маўляў, чалавек, тужыць па сховішчы для «святой Торы». Засумаваў, аднак, не рабін, а беларус, які лічыць сябе праваслаўным хрысціянінам і…*

*Вось у гэтым «і», як кажуць, уся загвоздка. Затужыў па сінагозе люты антысеміт — той, хто пры іншай пагодзе агідліва моршчыўся ад аднаго толькі слова «яўрэй» і заклікаў знішчаць усё, што мела хоць найменшае дачыненне да яўрэйства.*

*Неверагодна? Дзіўна? Што ж, дзіўна, але факт.*

---

[684] Голас Радзімы. № 17 (1279). Красавік 1973.

*У гады мінулай вайны Юрка Віцьбіч (Стукаліч) верай і праўдай служыў гітлераўскім акупантам. А служба ім азначала ўдзел у антысемітызме. І Юрка ўдзельнічаў у гэтым фашысцкім людаедстве не абы-як, не папіхніпавалюся, а надзвычай услужліва і шчыра. У архівах захаваліся сляды яго пагромнай антысеміцкай дзейнасці, пра што цяпер варта напомніць.*

*Газета «Новый путь», якую фашысты выдавалі ў Віцебску, 19 мая 1942 года надрукавала артыкул Юркі Віцьбіча пад назвай «Жыды ў Віцебску». Там ён пісаў такое, што і зараз цытаваць няёмка. Але трэба.*

*Юрка называў яўрэйскае насельніцтва «страшнай чорнай воспай». Ён гаварыў, што «самы горшы з усіх народаў — іудзейскі. Народ крывадушны, хітры, шкодны»; «жыд — паразіт, які не грэбуе рашуча ніякімі ганебнымі сродкамі, каб толькі атрымаць вялікі гешэфт»; «жыд захапіў цэнтр Віцебска»; «нацыянальная подласць і нарабаванае золата рабілі для жыдоў немагчымае магчымым»... І гэтак далей: што ні радок, то самы чорны антысемітызм.*

*За гэта Юрку ўпадабалі фашысты. Яны забралі яго ў Мінск і далі пасаду — ён стаў членам так званага цэнтральнага ўрада беларускага культурнага згуртавання. Тут Юрка актыўна супрацоўнічаў у фашысцкай «Беларускай газэце».*

*Што ён пісаў? Тое самае.*

*Вось нумар «Беларускай газэты» за 2 лютага 1944 года. Першая старонка. Перадавіца «У канцы прыйдзе вялікая перамога Нямеччыны», якая пераказвае змест выступлення Гітлера. Ніжэй загаловак: «25 гадоў сядзелі жыды на карку беларусаў». А на трэцяй старонцы выступае Юрка Віцьбіч.*

*15 студзеня 1944 года. У карэспандэнцыі «Шапацяць дубы і ліпы» Юрка Віцьбіч піша, што яму «нечакана кроў прылівае да твару і жорсткі камяк сціскае горла». Ад чаго? Ад таго, што Беларусь «камуністы прадаюць жыдам».*

*8 сакавіка. Юрка ў істэрыцы. Беларускаму народу дасталіся, піша ён, «гістарычныя пакуты», бо «над нашай краінай заззяла мадэрнізованая жыдоўская могендовід». І таму заклікае: «Да зброі!».*

*6 мая. У чарговай Юркавай карэспандэнцыі чытаем, што «жыдоўскае гарматнае мяса хоча канчаткова знішчыць нашы нацыянальныя святыні»...*

*Аднак хопіць. Са сказанага ясна, што Юрка Віцьбіч ненавідзеў яўрэяў не менш, чым Эйхман.*

*І вось прайшло трыццаць гадоў. Змяніліся абставіны, змяніліся гаспадары. Зусім інакш загаварыў і Юрка. Раней ён служыў фашыстам — быў антысемітам, цяпер служыць сіяністам — прыкідваецца юдафілам.*

*У газеце «Новое русское слово» за 29 чэрвеня 1972 года ён змясціў артыкул «Яна была ў Магілёве», у якім аплаквае былую сінагогу. Маючы на ўвазе, што газета належыць сіяністам і рэдагуецца такім заклятым антысаветчыкам, як Марк Вейнбаўм, Юрка лісліва і хітра імкнецца ўбіцца ў ласку сваіх новых гаспадароў.*

*Ён піша, што, будучы да вайны ў Магілёве, доўга шукаў сінагогу, пабываў у ёй разам з беларускім пісьменнікам — яўрэем (прымецце, маўляў, з кім я сябраваў). А сінагога была распісана прадзедам Марка Шагала, і роспіс быў гэткі цудоўны... Ён нагадвае, што на святы Ём-Кіпур яўрэі радасна ўсклікалі ў ёй: «На будучы год у Іерусаліме!». Юрку хочацца, каб Вейнбаўму здалося, як яму прыемна чуць гэты покліч. Потым ён адзначае, што і праз два гады хацеў наведаць сінагогу, але яе, на Юркаў вялікі жаль, ужо не было — у 1938 годзе яе разабралі. І нарэшце хлусліва сцвярджае, нібыта той пісьменнік па сінагозе заплакаў. Апошні радок літаральна выбівае слязу: «А магчыма гэта быў і не плач, а сінагальная малітва, падобная на стогн, але ж слёзы беглі адна за другой па яго старэчым твары». Пасля гэтага подпіс: «З найвялікшай пашанай — Юрый Стукаліч».*

*Дык навошта спатрэбілася антысеміту сінагога? Каб падлізацца да сіяністаў, бо яны, як і ён, — антыкамуністы. Каб кінуць цень на Савецкую краіну — сіяністы за гэта добра плацяць. Каб схаваць сваё мінулае — тыя пагромныя артыкулы, якія ён пісаў у фашысцкіх газетах, што заклікалі знішчаць яўрэяў. Толькі хаваць свой антысемітызм яму, бадай, і не трэба — сіяністы, у тым ліку і Вейнбаўм, цяпер заключаюць антысавецкія хаўрусы нават з качагарамі гітлераўскіх крэматорыяў.*

*У. Бягун.*

*21.9.74 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Сп. Др. Запруднік!*

*Вельмі ўдзячны за ветліва надасланы Вамі мне адбітак артыкулу Н. Жалязоўскай «Памяць сьвятасьці патрабуе» («Чырвоная Зьмена», 10.9.74), прысьвечаны сумнаму становішчу дома-музэю А. Суворава й помніку 1812 г. у Кобрыне. Надзвычай добры матар'ял для фэльетону.*

*Запраўды, трэба толькі цешыцца, што дом Суворава паступова разбураецца. А каб хто яго падпаліў, дык было-б яшчэ лепей. Хацелася-б таксама, каб благія адносіны да гэтага дому пашырыліся-б і на кобрынскі помнік Леніну, бо розьніца паміж Суворавым і Леніным для нас, беларусаў, невялічкая.*

*Што датычыць помніку гэроям 1812 г., дык добра было-б, каб яго падкапалі й павалілі сьвіньні, перад тым грунтоўна з усіх бакоў апэцкаўшы.*

*Навошта нам гэтыя чужыя помнікі на нашай зямлі, калі ня маем помніку гэраічным дзяцюкам Кастуся Каліноўскага ў Мілавідах, а яму самому ў Менску?*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*З пашанай да Вас Ваш Юрка Віцьбіч.*



## ГУМАРЫСТЫЧНА-САТЫРЫЧНЫЯ ТВОРЫ

*на старонках газет «Бацькаўшчына» і «Беларус»*

**А. Г. Сумны лёс пэнсіянэрскае каровы. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 2 (635). Чырвень 1966. С. 8.

**Акула, К. Адказ цівуну** // Беларус. № 311. Чырвень-ліпень 1983. С. 4.

*Эпіграма на Алеся Бажко.*

**Акула, К. Аднаўляем… Фэльетон** // Беларус. № 80. Лістапад 1963. С. 3.

**Акула, К. «Забыліся асаблівасьці…». Заміж фэльетону** // Беларус. № 277. Травень 1980. С. 6.

**Акула, К. Знайшлі варвары тапор пад лавай. Заміж фэльетону** // Беларус. № 274. Люты 1980. С. 5–6.

**Акула, К. Калі зладзеі пры ўладзе. Заміж фэльетону** // Беларус. № 278. Чырвень 1980. С. 6.

**Акула, К. Якое яно, Глыбокае… Заміж фэльетону** // Беларус. № 246. Кастрычнік 1977. С. 6.

**Апейка, Казік. Утолім смагу. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 15–16 (197–198). Вялікдзень 1954. С. 8.

**Апенка, Казік. Аб «непрадрашэнстве», траянскім кані і бабскай спадніцы. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 36 (167). 13 верасьня 1953. С. 3.

**Апенка, Казік. Блёк «бадзячых катоў». Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 45 (176). 17 лістапада 1953. С. 4.

**Апенка, Казік. Не па адрасу… Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 7 (189). 14 лютага 1954. С. 4.

**Апенка, Казік. «Time — money» — наадварот… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 39 (170). 4 кастрычніка 1953. С. 4.

**Апенька, Казік, доктар, прафэсар, інжынер. Кароткія хвалі. (Радыёўяўленьне). Гумарэска** // Беларус. № 8 (14). 9 жніввеня 1952. С. 4.

**Апенька, Казік. Пераафарбоўка. Маленькі фэльетон** // Беларус. № 17 (23). 13 сьнежаня 1952. С. 4.

**[Арсеньнева, Н.] «Важная хвіга» Ядвігіна Ш. у наш час у Амэрыцы. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 16 (500). Вялікдзень 1960. С. 12.

*Перапрацавала Наталля Арсеннева.*

**Ахрып Кілішак. Беларуска-Амэрыканскае Абядненьне. Фэльетон** // Беларус. № 107. Люты 1966. С. 6.

**Браты Нестаўпецкія. «Дымакраты» з-пад дымавое заслоны. Можа й фэльетон** // Бацькаўшчына. № 21 (24). 20 чырвеня 1948. С. 2–3.

**Былі ў бацькі тры сыны… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 36 (571). 3 верасьня 1961. С. 4.

**Бярозка, Астап. Ля гаманкіх брамаў** // Бацькаўшчына. № 51–52 (281–282). Каталіцкія Каляды 1955. С. 4.

*Пародыя на Масея Сяднёва і Янку Юхнаўца.*

**Валасэвіч, Эдуард. Байкі аб савецкай запраўднасьці: 1. Янот і Крот, 2. Заяц і Вярблюд** // Бацькаўшчына. № 6–7 (288–289). 11 лютага 1956. С. 7–8.

**Валюсік, А. Ліст да Суродзічаў. Гумарэска** // Бацькаўшчына. № 51–52 (385–386). Каталіцкія Каляды 1957. С. 6–7.

*Беларускія эмігранты ў амерыканскіх умовах жыцця.*

**Васілеўскі, Алесь. Як я ў Менску купляў «Амарэта». Фэльетон** // Беларус. № 396. Сьнежань 1992. С. 8.

**Верасень, В. Як у казцы… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948. С. 3.

**Віцьбіч, Юрка. Гульня з падробленымі картамі. Фэльетон** // Беларус. № 142. Люты 1969. С. 6.

**Віцьбіч, Юрка. Дэманстрацыя адбылася на яць. Фэльетон** // Беларус. № 144. Красавік 1969. С. 6.

**Віцьбіч, Юрка. Завяртанскі бумэранг. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 18 (553). 30 красавіка 1961. С. 4.

**Віцьбіч, Юрка. Завяртанскія малпы з племя Бондар-Логаў. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 1–2 (585–586). Праваслаўныя Каляды 1962. С. 7.

**Віцьбіч, Юрка. Завяртанскія підокі. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 6 (633). Кастрычнік-сьнежань 1965. С. 8.

**Віцьбіч, Юрка. Мая падзяка завяртанцам. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 2 (629). Сакавік 1965. С. 4.

**Віцьбіч, Юрка. Пайшоў Пятрок без парток. Фэльетон** // Беларус. № 141. Студзень 1969. С. 6.

**Віцьбіч, Юрка. Прысабечваюць славу ўнтэр-афіцэрскае ўдавы. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 4 (539). 22 студзеня 1961. С. 4.

**Віцьбіч, Юрка. Шлеце, калі ласка, ключы. Фэльетон** // Беларус. № 127. Лістапад 1967. С. 6.

**Вожык, Алесь. Задумаўся просты савецкі чалавек. Фэльетон** // Беларус. № 191. Сакавік 1973. С. 6.

**Вядзьмак Лысагорскі. Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт (урывак)** // Беларус. № 420. Студзень 1995. С. 3.

*Перадрук з: Свабода. № 40. Снежань 1994.*

**Вядзьмак Менскі. Указ менскай Вандэі. Пасьля правалу на выбарах** // Беларус. № 359. Травень-чырвень 1989. С. 5.

**Галубіцкі, А. Аб суседавых сьвіньнях, жонках ды грамадзкай працы. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 7 (237). 13 лютага 1955. С. 4.

**Галубіцкі, А. Думкі ў космасе й на зямлі. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 8.

**Гаўрыла з Полацку. Гутарка з польскім дацэнтам. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 4 (48). 30 студзеня 1949. С. 3.

**Гумар** // Бацькаўшчына. № 40 (43). 19 сьнежаня 1948. С. 4.

**Дзядзька з «Пагоні». Фармар на фэсьце ў Тароньце** // Беларус. № 123–124. Ліпень-жнівень 1967. С. 5.

**Дудзіцкі, Ул. Падумайце самі. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 19 (353). 12 травеня 1957. С. 4.

**Ёсьць аб чым пашаптаць… Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Свабоды»]** // Бацькаўшчына. № 44 (579). 29 кастрычніка 1961. С. 4.

**З чарнавых накідаў Ведзьмака Лысагорскага** // Беларус. № 422. Сакавік 1995. С. 2.

**Задзірысты Паўлюк. Нарабілася бяды ў нядзельку на Дзяды, альбо Як я быў на сапраўднай вайне каля свайго дому ў Менску 30.10.88** // Беларус. № 357а. Сакавік 1989. С. 3–4.

**Залеская, Тамара. Маналёг сабакі. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 20–21 (202–203). 30 травеня 1954. С. 8.

**Заміж фэльетону. [Прыпеўкі]** // Беларус. № 2 (52). 30 чырвеня 1955. С. 7.

**Здрок, А. Першае ўражаньне ад выбараў першага прэзыдэнта Беларусі** // Беларус. № 415. Верасень 1994. С. 8.

**Змагарны, Зьмітрок. Літаратурныя пароды: 1. Гімн змаганьню, 2. Салавейка шчабеча ў гаёчку** // Бацькаўшчына. № 5–6 (136–137). 8 лютага 1953. Літаратурны дадатак. С. 6.

**Золак, Янка. Дзедавіч. (Гумарэска — аскепак жыцьця). Прысьвячаю 70-годзьдзю свайго колішняга сябры, паэта С.** // Беларус. № 323. Лістапад 1984. С. 3.
**Кавалеўскі, Аўген. Дзіўныя рэчы… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 5 (391). 2 лютага 1958. С. 4.
**Кавалеўскі, Аўген. Дыялектыка. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 8 (394). 23 лютага 1958. С. 4.
**Козыр, Міхась. Аб юбілеі, падзяках, падпішчыках і іншым… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 46 (380). 17 лістапада 1957. С. 4.
**Козыр, Міхась. Быў я ў Менску… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 7 (607). 15 чырвеня 1963. С. 4.
**Козыр, Міхась. Варта было-б плаціць пэнсію. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 14 (296). 1 красавіка 1956. С. 4.
**Козыр, Міхась. Гастролі «мірных галубоў», або Гоцкі ў гэтак званых Аб'яднаных Нацыях. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 40–41 (524–525). 16 кастрычніка 1960. С. 4.
**Козыр, Міхась. Дзе-ж вы, ах, дзе?! Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 25–26 (359–360). 30 чырвеня 1957. С. 8.
**Козыр, Міхась. За Вашае здароўе, рабацягі! Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 3 (487). 17 студзеня 1960. С. 4.
**Козыр, М. Запіскі Яўхіма Крайняга** // Беларус. № 81. Сьнежань 1963. С. 4–5; № 82. Студзень 1964. С. 5; № 83. Люты 1964. С. 4–5; № 84. Сакавік 1964. С. 4; № 87. Чырвень 1964. С. 3; № 88. Ліпень 1964. С. 4.
**Козыр, Міхась. Каб не зьвяліся. Фэльетон** // Беларус. № 100. Ліпень 1965. С. 4.
**Козыр, Міхась. Красуля адстае ў перагонах. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 12–13 (547–548). 26 сакавіка 1961. С. 4.
**Козыр, Міхась. На гэтым і на другім баку. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 5 (540). 29 студзеня 1961. С. 4.
**Козыр, Міхась. Народнае веча. Фэльетон** // Беларус. № 90. Верасень 1964. С. 4.
**Козыр, Міхась. Пазыцыі: перадавыя й сярэднія. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 18 (352). 15 травеня 1957. С. 4.
**Козыр, Міхась. Партыйны Лыска. [Кандрат Крапіва]. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 24–25 (559–560). 25 чырвеня 1961. С. 8.
**Козыр, Міхась. У крывым люстэрку. Фэльетон** // Беларус. № 137. Верасень 1968. С. 6.
**Козыр, Міхась. У нас нічога новага. Фэльетон** // Беларус. № 117. Студзень 1967. С. 6.

**Козыр, Міхась. Хрушчоўскі вымпел і амэрыканскі «hot dog». Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 38–39 (474–475). 18 кастрычніка 1959. С. 8.
**Козыр, Міхась. Цягаў воўк, пацягнулі й воўка. Фэльетон** // Беларус. № 91. Кастрычнік 1964. С. 6.
**Козыр, Міхась. Чарговая дэзынфэкцыя… Быццам фэльетон** // Бацькаўшчына. № 33 (419). 13 жніўня 1958. С. 4.
**Козыр, Міхась. Чые-б цяляты мычалі, а вашыя-б маўчалі. Фэльетон** // Беларус. № 110. Травень 1966. С. 6.
**Козыр, Міхась. Эй, ды ў нашай вёсцы! Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 12 (596). 22 жніўня 1962. С. 4.
**Крывічанін, Л. Дзе лепш? Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 31 (34). 10 кастрычніка 1948. С. 4.
**Крывічанін, Л. Ліст у рэдакцыю. Пра кансалідацыю. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 38 (41). 28 лістапада 1948. С. 2–3.
**Крывічанін, Л. Што рабіць?.. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 29 (32). 26 верасьня 1948. С. 4.
**Кур'ёзы. Сатыра. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 33 (367). 18 жніўня 1957. С. 4.
**Лазука, В. Пс… ды ў чамадан. Хіба фэльетон** // Бацькаўшчына. № 8 (238). 20 лютага 1955. С. 4.
**Лата, Нічыпар. Пэгас возіць гной. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 19 (455). 10 травеня 1959. С. 4.
**Лягерны, В. Карытны патрыятызм, або Як Янка перамяніўся на Івана. Таксама фэльетон** // Бацькаўшчына. № 19 (150). 10 травеня 1953. С. 4.
**М. К. Аб тым, як «родная партыя» даганяе й пераганяе. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 8 (543). 19 лютага 1961. С. 4.
**М. Х. З гумару беластоцкай «Нівы»** // Бацькаўшчына. № 9 (395). 2 сакавіка 1958. С. 4.
**Марэк, Іры. Цар зьвяроў і крытыка. Байка** // Бацькаўшчына. № 24 (306). 10 чырвеня 1956. С. 4.
**Мірза Кіш-Міш. Сьвяткуем наш юбілей. (Юбілей «Бацькаўшчыны» ў васьвятленьні нашых гумарыстых)** // Бацькаўшчына. № 17–18 (299–300). 29 красавіка 1956. С. 4.
**Нью-Літ-Ва. Асамблея. Палітычная сатыра** // Бацькаўшчына. № 6 (541). 5 лютага 1961. С. 4.
**Нью-Літ-Ва. Саюз. (З Маскоўскай нарады). Палітычная сатыра** // Бацькаўшчына. № 3 (538). 15 студзеня 1961. С. 3.

**Нью-Літ-Ва. Тронная мова Нікіты Хрушчова. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 10 (594). 1 ліпеня 1962. С. 4.
**Ня ў службу, а ў дружбу, або Сяброўская парада таварышу Хрушчову. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьня»]** // Бацькаўшчына. № 50 (280). 11 сьнежаня 1955. С. 4.
**Няленін. Трэба мецць базу. (З размовы трох зарубежнікаў). Маленькі фэльетон** // Бацькаўшчына. № 13 (57). 1 чырвеня 1949. С. 4.
**Падарожны. «Без шавінізму»… Заміж фэльетону** // Бацькаўшчына. № 17 (20). 23 травеня 1948. С. 4.
**Папліска, Архіп. А можа лепш маўчаць? Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 4–5 (234–235). 30 студзеня 1955. С. 6.
**Папліска, Архіп. Авечкі й камунізм. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 27 (361). 7 ліпеня 1957. С. 4.
**Папліска, Архіп. БССР унезалежніваецца. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 1–2 (387–388). Праваслаўныя Каляды. 7 студзеня 1958. С. 7.
**Папліска, Архіп. Геніяльны вынаход. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 10 (292). 4 сакавіка 1956. С. 4.
**Папліска, Архіп. Дадатковая нагрузка. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 8 (290). 19 лютага 1956. С. 4.
**Папліска, Архіп. Дзе канкрэтны «віноўнік». Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 34 (470). 13 верасьня 1959. С. 4.
**Папліска, Архіп. Дзеяч № 1, або Лягерная палітыка. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 1–2 (231–232). 7 студзеня 1955. С. 8.
**Папліска, Архіп. Зь дзёньніка Рэдактара. (Юбілей «Бацькаўшчыны» ў васьвятленьні нашых гумарыстых)** // Бацькаўшчына. № 17–18 (299–300). 29 красавіка 1956. С. 4, 7.
**Папліска, Архіп. Недахоп мясьнікоў і як зь ім змагацца. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 29 (363). 21 ліпеня 1957. С. 4.
**Папліска, Архіп. Ня мела баба клопату…. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 51–52 (281–282). Каталіцкія Каляды 1955. С. 8.
**Папліска, Архіп. Ой, ды ў Канадзе… ці Пярун зь бясхмарнага неба. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 42–43 (376–377). 31 кастрычніка 1957. С. 12.

**Папліска, Архіп. Песьня на тэму дня. Сатыра** // Бацькаўшчына. № 29 (363). 21 ліпеня 1957. С. 4.

**Папліска, Архіп. Пра байкі, байкароў і муху з абухам. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 42 (478). 15 лістапада 1959. С. 4.

**Папліска, Архіп. Рэвізор у калгасе. Гумарыстычны абразок. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 30–31 (260–261). 21 ліпеня 1955. С. 5.

**Папліска, Архіп. Сацыялістычны кнігагандаль. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 40 (474). 6 кастрычніка 1957. С. 4.

**Папліска, Архіп. Сацыяльны заказ. (Рэдактару «Бацькаўшчыны» прысьвячае Выканальнік). Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 45 (227). 5 сьнежаня 1954. С. 4.

**Папліска, Архіп. Сон Архіпа. (Нашы гумарыстыя аб «Бацькаўшчыне»)** // Бацькаўшчына. № 42–43 (376–377). 31 кастрычніка 1957. С. 9, 12.

**Папліска, Архіп. Ст. Ст. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 8 (342). 24 лютага 1957. С. 3.

**Папліска, Архіп. Цуды на Выстаўцы. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 19 (405). 11 травеня 1958. С. 4.

**Папліска, Архіп. Часовая цяжкасьць. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 41 (375). 13 кастрычніка 1957. С. 4.

**Папярэчка, Міхась. Адкрыты ліст да карэспандэнтаў «Бацькаўшчыны» ў Эўропе. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 43 (527). 30 кастрычніка 1960. С. 4.

**Папярэчка, М. Адкрыты ліст да лёнданскага карэспандэнта газэты «Бацькаўшчына». Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 36–37 (520–521). 18 верасьня 1960. С. 7–8.

**Папярэчка, Міхась. Адкрыты ліст да ньюёркскага карэспандэнта газэты «Бацькаўшчына». Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 28 (512). 17 ліпеня 1960. С. 4.

**Папярэчка, Міхась. Ізноў старшыня. Можа быць і фэльетон** // Бацькаўшчына. № 20 (250). 15 травеня 1955. С. 4.

**Папярэчка, Міхась. Шукаем старшыні. Можа быць і фэльетон** // Бацькаўшчына. № 19 (150). 10 травеня 1953. С. 4.

**Перапечка, Міхась. Адкрыты ліст да карэспандэнта «Бацькаўшчына» ў Бэльгіі. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 11 (546). 12 сакавіка 1961. С. 4.

**Просты артылерысты. (Толькі ня Яшка). Зь пярэдняе пазыцыі. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 24 (358). 16 чырвеня 1957. С. 4.
**пс. Аб прыказках, сьвіньнях і да гэтага падобным. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 27 (309). 1 ліпеня 1956. С. 4.
**пс. Армія дармаедаў. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 46 (228). 12 сьнежаня 1954. С. 4.
**пс. Бяз нас вырашаюць аб нас. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 6 (340). 10 лютага 1957. С. 2–3.
**пс. Вада. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 37 (371). 15 верасьня 1957. С. 4.
**пс. Варта. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 41 (223). 7 лістапада 1954. С. 4.
**пс. Гусі, качкі й трусы. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 7 (393). 16 лютага 1958. С. 4.
**пс. Дзіўныя пратэсты. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 21 (100). 25 травеня 1952. С. 8.
**пс. Дэманстрацыя ў калгасе «Пустацьвет». Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 31 (417). 17 жніўеня 1958. С. 4.
**пс. Загноеныя выбары. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 14 (348). 7 красавіка 1957. С. 4.
**пс. Заднім ходам на выстаўку. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 34 (216). 12 верасьня 1954. С. 4.
**пс. Здані мінуўшчыны. [Васіль Шаранговіч, Мікалай Галадзед]** // Бацькаўшчына. № 45 (580). 12 лістапада 1961. С. 2–4.
**пс. Ізноў на радзіме № 2. Фэльетон можа крыху зашмат інтымны, але з маралямі** // Бацькаўшчына. № 29–30 (564–565). 23 ліпеня 1961. С. 7–8.
*З уражанняў падарожжа па Італіі.*
**пс. Інтэрвію з акадэмікам. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 32 (418). 24 жніўеня 1958. С. 4.
**пс. Казка для дарослых. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 3 (389). 19 студзеня 1958. С. 4.
**пс. «Калгас імя Савецкай Улады». Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Свабода»]** // Бацькаўшчына. № 14–15 (549–550). Вялікдзень 1961. С. 8.
**пс. Калі экспэрты не заблытаюць. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 38 (220). 17 кастрычніка 1954. С. 3.

**пс. «Лісты да сабакі». Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 15–16 (349–350). Вялікдзень 1957. С. 8.
**пс. Лучынка Сяргеевіча. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 7 (341). 17 лютага 1957. С. 2.
**пс. Мікіта ў сяло — Грамыка ў горад. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 45 (379). 10 лістапада 1957. С. 4.
**пс. Мэдалі, мэдалі… Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 4 (390). 26 студзеня 1958. С. 4.
**пс. Не пішыце — не паможа! Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 35 (217). 26 верасьня 1954. С. 4.
**пс. Ня буду распакоўвавацца!.. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 12–13 (242–243). 25 сакавіка 1955. С. 8.
**пс. Пасадзім бульбу ў квадратах. Верш-пародыя. (З нагоды выхаду 25 нумару «Наперад!»)** // Бацькаўшчына. № 39 (170). 4 кастрычніка 1953. С. 3.
**пс. Пасьля балю. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 46 (380). 17 лістапада 1957. С. 4.
**пс. Пры нагодзе аб сім-тым… Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957. С. 6, 8.
**пс. Прыкрасьць знатнай сьвінаркі Ягнешы. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 50 (384). 15 сьнежаня 1957. С. 4.
**пс. Соль на скулу. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 14 (93). 6 красавіка 1952. С. 4.
**пс. Сумлевы** // Бацькаўшчына. № 43–44 (225–226). 28 лістапада 1954. С. 6.
**пс. Сумны гонар Б. Пастарнака** // Бацькаўшчына. № 41–42 (427–428). 2 лістапада 1958. С. 5.
**пс. Сьпячка й гарачка. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Свабода»]** // Бацькаўшчына. № 46 (482). 13 сьнежаня 1959. С. 4.
**пс. Сэнс бязглузьдзіцы. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 47–48 (229–230). Каталіцкія Каляды 1954. С. 6.
**пс. Трасянка і ўсхліпы душы. Да выхаду 25-га нумару часапісу «Наперад». Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 40 (171). 11 кастрычніка 1953. С. 4.
**пс. Хрушчоў і музы. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 35–36 (369–370). 8 верасьня 1957. С. 8.

**пс. Хрушчоў наступае на хвост. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 29–30 (415–416). 10 жнівеня 1958. С. 8.

**пс. Якой шырыні шыць нагавіцы. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 40 (426). 19 кастрычніка 1958. С. 4.

**пс. Яшчэ аб коэгзыстэнцыі** // Бацькаўшчына. № 45 (227). 5 сьнежаня 1954. С. 1, 4.

**псссс… Немагчымая рэцэньзія. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 7–8 (86–87). 24 лютага 1952. С. 8.

**Рамановіч, Кастусь. Літаратурны смоўж. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 48 (532). 4 сьнежаня 1960. С. 4.

*Алесь Кучар.*

**Рэстон, Джэймс. Дыпляматыя пад мікраскопам. Фэльетон. [Пераклад з ангельскай мовы]** // Бацькаўшчына. № 9 (395). 2 сакавіка 1958. С. 4.

**Смурод на нашым панадворку. Памфлет** // Беларус. № 350. Жнівень 1988. С. 8.

*Памфлет пра Алеся Бажко, перадрукаваны поўнасцю з «Бурачка» (самвыдат).*

**Сон перамяшчэнца. [Гумарэска]** // Бацькаўшчына. № 1 (45). 2 студзеня 1949. С. 4.

**Супрановіч, А., стары беларускі эміґрант у ЗША. Адкрыты ліст да Міністра Замежных Дачыньненяў Беларускай ССР К. В. Кісялёва. Менск. Заміж фэльетону** // Беларус. № 98. Травень 1965. С. 6.

**Сусед № 2. Мікітаў жарт палохае суседзяў. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 11–12 (447–448). 25 сакавіка 1959. С. 8.

**Сыч, П. Пісьмо ў Рэдакцыю. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 45–46 (124–125). 16 лістапада 1952. С. 6.

**Сыч, П. Савецкі Бабілён. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 43–44 (225–226). 28 лістапада 1954. С. 5.

**Тр. Начальства банкетуе. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 23 (357). 9 чырвеня 1957. С. 4.

**Травень. Кур’ёзы. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 28 (362). 14 ліпеня 1957. С. 4.

**Травень, М. Кур’ёзы. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 26 (412). 13 ліпеня 1958. С. 4.

**Травень, М. Ня казка, а праўда. Сатырычная гутарка. [З радыёвай хвалі «Свабода»]** // Бацькаўшчына. № 32 (468). 30 жніveня 1959. С. 4.

**Трэска, Сымон. Зуб. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 6–7 (288–289). 11 лютага 1956. С. 8.

**У. Д. [Дудзіцкі]. Ня казка, а праўда. Фэльетон** // Бацькаўшчына. № 13 (347). 31 сакавіка 1957. С. 4.

**У. Д-і. [Дудзіцкі]. Сон Мікіты Хрушчова. Фэльетон. [З радыёвай хвалі «Свабода»]** // Бацькаўшчына. № 36 (472). 27 верасьня 1959. С. 4.

**У часіну адпачынку. [Гумар]** // Беларус. № 3 (49). 1 жнівеня 1954. С. 8.

**Ч. З. Замест фэльетону** // Бацькаўшчына. № 20–21 (456–457). 24 травеня 1959. С. 8.

**Шарсьцень, Алесь. Дзівосы й сьмяхосы. Заміж фэльетону** // Беларус. № 237. Студзень 1977. С. 6.

**Ювенал. [Віцьбіч, Юрка]. Дзякуй тым завяртанцам. Фэльетон** // Беларус. № 211. Лістапад 1974. С. 6.

*Водгук на фельетон В. Мацкевіча «Сляза шыбеніка» («Голас Радзімы». Жнівень 1974).*

**Янка З. Яшчэ адзін анэкдот пра Пушкіна. Або: Аляксандар Сяргеевіч — беларускі незалежнік** // Бацькаўшчына. № 32 (262). 7 жнівеня 1955. С. 1.

# КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

## НУТРАНОЕ

Як заўважыў у адным са сваіх лістоў Віцьбіч, увага эміграцыйных крытыкаў, якіх льга на пальцах аднае рукі палічыць, была скіраваная найперш на падсавецкіх пісьменнікаў. Гэта насамрэч так і мае свае вытлумачэнні, але галоўнае іншае: адсутнасць рэакцый у друку зусім не азначае і адсутнасць зацікаўлення.

З абшырнага ліставання Вітаўта Тумаша выбраныя лісты, што датычацца толькі двух эпізодаў літаратурнага жыцця пачатку 1970-х гг. і двух літаратараў — Юркі Віцьбіча і Уладзіміра Сядуры (Глыбіннага) — але яны даволі яскрава характарызуюць нутраны бок, прыватны, след якога можна знайсці адно ў самім факце выдрукаваных працаў (зборнік «Мы дойдем»[685]) або іхнай якасці (артыкул Сядуры).

Віцьбічавы адказы тым часам выяўлены не ўсе, але прагалы ў ліставанні вялікае шкоды для агульнага разумення не робяць.

### Ліставанне Вітаўта Тумаша з Юркам Віцьбічам

*26.1.72 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Удзячны за Ваш ветлівы ліст ад 22.1.72 г., які дастаў учора. Цікава, што акурат за дзень перад тым я бадай натхніўся, каб напісаць Вам ліст па справе, да якой цяпер і пераходжу.*

*Працую для НРСлова над вялікім артыкулам «Огненный поход Булак-Балаховича в 1920м году», які бяз мала-*

[685] Стукалич, Ю. Мы дойдем: очерки, статьи, фельетоны. NY: Фонд им. П. Кречевского, 1975. — 154 с.

*га ўжо скончыў. Хоць я меў і ладне іншых матар'ялаў, але ў часе працы над ім мне значна прыдаўся таксама артыкул Вадз. Круталевіча «От войны к миру» («Неман», 1968 г.). І на дасланым мне калісьці з Радыё Свабода ягоным «ксерогсе» ёсьць наступная дапіска: «Прыгадаў мне Др. Тумаш, што Вы зьбіраеце матар'ял пра Булах-Балаховіча. Дык на ягоную прапанову пасылаю Вам і гэта з найлепшымі зычэньнямі. З глыбокай пашанай Янка Запруднік».*

*Дык вось у тым лісьце, што пазаўчора меўся напісаць Вам, і хацелася шчыра падзякаваць Вам за дапамогу. У гэтым артыкуле ёсьць тое, чаго мне бракавала — сьпіс усіх вайсковых часткаў, зь якіх складалася армія Булак-Балаховіча. Дзякую!*

*І маеце рацыю, што я здаўна зьбіраю матар'ялы пра Булак-Балаховіча, да якога яшчэ 14-гадовым хлапцом уцякаў зь Вяліжу. Гэтыя матар'ялы ўжо часткова рэалізаваныя, а менавіта: «Это было в незабываемом 1919-ом..» (НРС от 5.7.64, артыкул), «Не Батька лё Булак идет?» (НРС от 7.6.64, нарыс), «Где Крым, а где Нарым» (НРС от 1.8.64, ліст у рэдакцыю), «Белорусские партизаны» (НРС от 22.6.52, ліст у рэдакцыю), «Не наступай на шлейф» (НРС от 21.8.64, ліст у рэдакцыю).*

*Такім чынам атрымаўся цыкль твораў пра Булак-Балаховіча, які, пасьля цяперашняга артыкулу пра паход 1920 г., скончу нарысам «Смерть Булак-Балаховича» — яна, між іншага, памылкова датуецца ў Белсавэнцыкляпэдыі. Тут, апроч тых матар'ялаў, што маю, вельмі прыдадуцца мне матар'ялы, ветліва дасланыя некалі Сп. Ч. Будзькам[686]. Аднак, на жаль, ня ў стане нічога ўзяць з раней запісаных мной успамінаў сьв. пам. генэрала Дзямідава — яны аж занадта суб'ектыўныя, набываючы сям-там характар кузьмакручкоўшчыны[687], калі ня тхне ад іх баронам Мюнхаўзэнам.*

686 **Часлаў Будзька** (29.06.1913, Вільня — 15.08.1985, Чыкага, ЗША), грамадскі дзеяч, гісторык, педагог.

687 **Козьма Прутков** — літаратурная маска, прыдуманая Аляксеем К. Таўстым і братамі Жамчужнікавымі ў 1850–1860-х гг.

*Дазвольце перайсьці цяпер да артыкулу А. Іванова «Белоруссия и белорусы» ў НРСлове, на які Вы, на вялікі жаль, ня ў стане адгукнуцца, а між тым Вам у тэй галіне й кніжкі ў рукі. Большасьць Вашых заўвагаў, акрамя палякаў з роднай беларускай мовай, мной, напрыклад, ня былі заўважаныя. Затое мяне ладне абыйшло адкрыцьцё аўтара: «Белорусы как национальность во все исторические времена находились под воздействием четырех соседних народов — поляков, литовцев, частично украинцев, но особенно русских».*

*«Литовцев»? «Частично украинцев»? Лухта! Слоў няма — у нашых жылах цячэ кроў ня толькі славянаў, але й балтаў, але толькі ня лятувісаў, якія, каб не дзяржаўны хаўрус Литвы з Польшчай, даўно зьніклі-б у беларускім моры. Між іншым надзвычай добра гэтае пытаньне разгледжана ў цікавай кніжцы М. Грынблята «Белоруссы»*[688]*, якая таму не спадабалася ейным рэцэнзэнтам.*

*З вылучнай пашанай стаўлюся да Вашых асабістых навуковых высілкаў у галіне Скарыніяны. Шмат што гаворыць Вашая радасьць з прычыны каштоўнае знаходкі*



***Вітаўт Тумаш і Лявон Савёнак. 1962 г.***

[688] Гринблат, Михал. Белорусы. Очерки происхождения и этнической истории. Минск, 1968. — 287 с.

*ў Каралеўскае Бібліятэцы Капенгагена. Разумею й падзяляю яе. І ні на каліва не сумляваюся ў тым, што прыйдзе час, калі Вашае ймя на Бацькаўшчыне стане побач з найбольшымі дасьледнікамі жыцьця й творчасьці Францішка Скарыны.*

*Шчыра зычу ўсяго найлепшага.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш Юрка Віцьбіч.*

*29.2.1972*

*Вельмі Паважаны Спадар Віцьбіч!*

*Да закранутае Вамі ў апошнім лісьце тэмы — Булак-Балаховіча — чуюся ў абавязку пераказаць тут колькі розных — гістарычнага й фальклёрна-легэндарнага характару — фактаў. Пісаць пра яго ніколі ня думаў, але за час жыцьця сёе-тое пра яго давялося пачуць, а пра іншае натрапіць прыпадкам. І хачу тут усё гэта перадаць — можа нешта калі-небудзь прыдасцца.*

*1. Калі Булак-Балаховіч у Варшаве рыхтаваўся да Мазырскага паходу, дык, між іншым, ён выдаў для гэтага адмысловую паштоўку з сваім партрэтам, пад якім быў чатырырадковы вершык ягонага пяра. З памяці вершу гэтага ня помню (пераказаў яго мне нябожчык ген. Ф. Кушаль), маю ў сваіх архівах нейдзе навет і запісаны — але калі яго ўдасцца знайсьці, сам ня ведаю, бо забыўся, дзе паклаў. Ведаю, аднак, сэнс гэтага вершу — ідэя тая самая, што і ў двух пачатковых радкох вершу Анатоля Грачанікава*[689] *(«Полымя», Нр. 11, 1971, б. 34): «Перад вамі — зямля продкаў маіх і дзяцей. Ня любіць яна чужынцаў, любіць яна гасьцей»).*

*2. Паводле расказу Р. Астроўскага, калі ён перад Мазырскім паходам зьвярнуў увагу Булак-Балаховіча на тое, што сілы ягоныя не вялікія, той яму быццам жартам адказаў, што з сваімі сіламі ён можа дайсьці да Масквы ды гэткаю тактыкай: у першым занятым месьце выража ўсіх жыдоў; як пра гэта дачуюцца жыды суседніх местаў — пусьцяцца ўсе на ўцёкі да Масквы гэ-*

[689] **Анатоль Грачанікаў** (1938–1991), паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

*так запрудзяць усе дарогі й чыгуначныя лініі, што з Масквы ня зможа прабрацца на фронт ніводзін бальшавіцкі полк. Ён-жа за жыдамі ззаду дабярэцца аж да Масквы.*

*3. Расказ таксама Р. Астроўскага: у часе ўжо паходу, калі Астроўскі дачуўся, што разам з войскам Балаховіча едзе й «беларускі ўрад», хацеў пабачыць гэты «ўрад» ды пагаварыць асабіста (было гэта ці ня ў Пінску?). Калі падышоў да будынку, дзе меўся быць гэты ўрад, і запытаўся ў вартавых перад домам, ці можна зайсьці, тыя, пераглянуўшыся, матнулі галавой, што можна. Увайшоўшы, урад гэты ён знайшоў — Мамоньку, Шылу, ды пару яшчэ чалавек, прозьвішчы якіх забыўся, — усе яны валяліся п'яныя на падлозе. У патрэбе прозьвішчы асобаў Балаховічавага ўраду можна было-б хіба даведацца ў Р. Астроўскага.*

*4. Паводле расказу ізноў-жа ген. Ф. Кушаля: колькі гадоў перад сваёй сьмерцяй ген. Кушаль у Нью Ёрку сустрэўся з адным з былых ад'ютантаў Пілсудскага (прозьвішча, на жаль, яго ня помню), і гэты вось што расказваў: Пілсудскага, які даў дапамогу аружжам Балаховічу на Мазырскі паход, паведамілі, што пасьля заняцьця Мазыра балахоўцы пасадзілі на беразе нейкага там ставу, навокал ўсяго ставу, забітых жыдоў (ці ня нейкіх бальшавіцкіх камісараў) ды ў рукі ім паўкладалі вуды. Гэты факт вельмі не спадабаўся Пілсудскаму, бо ён лічыў, што вестка пра гэта сярод жыдоў Захаду выкліча абурэньне й будзе прычынай варожай прапаганды.*

*5. Як ведама, адначасна з Мазырскім паходам Балаховіча адбываўся й падобны паход расейскіх эсэраў, у падрыхтове якога браў актыўны ўдзел ведамы эсэр Барыс Савінкаў[690]. Савінкаў быў і ў Мазыры. Пазьней, калі ён трапіў у рукі савецкага ГПУ, на сваім працэсе ён даў бальшавіком і ўсе свае інфармацыі аб гэтым паходзе.*

[690] **Барыс Савінкаў** (1879–1925), адзін з кіраўнікоў расійскай партыі эсэраў, пісьменнік. Сябра Пілсудскага з часоў гімназіі. Браў удзел у падрыхтоўцы паходаў Булак-Балаховіча. У жніўні 1924 г. арыштаваны ў Мінску супрацоўнікамі АГПУ. Загінуў пры нявысветленых абставінах: па афіцыйнай версіі, скончыўшы жыццё самагубствам, як Купала, выкінуўшыся ў лесвічны пралёт; па неафіцыйнай — забіты чэкістамі.

*У скарачэньні яны былі ці ня ў 1926 годзе надрукаваныя бальшавікамі*[691]*. Кніжыцу гэтую калісьці пераглядаў. Там каля нейкіх трох бачынаў адведзена й ген. Булак-Балаховічу. З паказаньняў Савінкава відаць, што ён Балаховіча проста ненавідзеў ды аб розных ягоных быццам «недарэчнасьцях» увесь час дакладаў Пілсудскаму, але той нейк мала зьвяртаў увагі на даносы Савінкава. З паказаньняў вынікае, што ўся віна Балаховіча, за што Савінкаў яго зьненавідзеў, гэта тое, што Балаховіч быў «сэпаратыстам» ды думаў пра нейкі беларускі ўрад!!! Кніжыца з справаздачай працэсу Савінкава ёсьць у Ню Ёркскай Публічнай Бібліятэцы*[692]*. У патрэбе можна яе расшукаць ды зрабіць фатастаты з адпаведных бачынаў. Найлягчэй хіба мог-бы гэта зрабіць др. Кіпель.*

*6. Давялося калісьці гаварыць з адным жыхаром Белавежы, што ў Белавескай пушчы. Паводле яго, балахоўцы пасьля іх расфармаваньня былі накіраваныя польскімі ўладамі ў Белавескую пушчу для працы пры сьсяканьні лесу, чым тады займалася ангельская фірма «Сэнтуры». Польшчы былі на гвалт патрэбныя грошы на стабілізацыю свае валюты, і гэта рабілася, між іншым, коштам і Белавескай пушчы. Жыў тады ў Белавежы і ген. Булак-Балаховіч.*

*7. Хіба Вам ведама, што Булак-Балаховіч быў ня толькі «паэта», пісаў вершы, але пісаў і прозай. У дваццатых гадох у Вільні быў выдадзены друкам цэлы зборнічак — 40–50 бачынаў друку — ягоных патрыятычных імпрэсыяў пад псэўданімам «Дзяргач» (імя, на жаль, ані назову кніжыцы ня помню). Кніжыцу гэтую калісьці чытаў сам, але ўжо нічога ня помню больш дакладнага пра яе зьмест. Цікава было-б яе расшукаць ды прачытаць нанава — у ёй усё-ж думкі генэрала. Мне ведама, што ніводная з большых бібліятэк Амэрыкі кніжыцы гэтай ня мае. Ня мае яе й Брытанскі Музэй.*

[691] Дело Савинкова. Ленинград, 1924. — 112 с.

[692] Існуе яшчэ адна кніжка: Der Prozess gegen Sawinkow: die Anklage, Verteidigund, das Urteil und die Begnadigung / mit Kommentar von Karl Radek; nebst einem Vorwort von Syrkin. Berlin: Neuer Deutscher Verlag, [1925]. — 25 s.

*8. І, наапошку, матар’ял ужо чыста фальклёрнага характару, пачуты мною асабіста. У дваццатых гадох, калі як вучань Віленскай Беларускай Гімназіі прыяжджаў на летнія вакацыі да хаты (у Вялейшчыне), пайшоў раз у суботу вечарам у нашую вясковую лазьню, каб памыцца. Спачатку апрача мяне было толькі яшчэ двух вяскоўцаў. Па нейкім часе адчыняюцца дзьверы ды ўваходзіць чародны аматар лазьні, малады мужчына. Калі пабачыў, што ў лазьні толькі нас трох, ён кінуў гэткую рэпліку: «Але-ж і многа тут вас — як у Балаховіча войска: у дзень па два, па тры, а ўсё ідуць ды ідуць!». Чаму ды скуль прывандравала ў нашую Вялейшчыну гэткая якраз пагаворка пра Балаховіча, я ня пробываў тады выясьніць.*

*Гэта й будзе ўсё, што я мог «вытрасьці» з мае памяці пра Балаховіча — добрае й благое, праўду і, хіба, у некаторых выпадках, і выдумку.*

*[…] Што да Грынблята і ягонага разгляду «балцкага» пытаньня. Куды салідней ды грунтаўней яна разгледжаная ў адмысловай кніжцы (200 бач.) маскоўскага дасьледніка В. В. Седова: Славяне верхнего Поднепровья и Подвинья. Москва, 1970. Гэта манаграфія, што падсумоўвае ўсе факты да пытаньня й дадае шмат новых. Грынблят у шмат чым мыляецца.*

*Прывітаньні!*

*Ваш В. Тумаш.*

*5.3.72 г.*
*Саўт Рывер.*

*Глыбокапаважаны Спадар Доктар Тумаш!*

*Пакуль яшчэ цёплы Ваш ветлівы ліст ад 29.2.72 г., за які ўдзячны, хочацца адказаць на некаторыя парушаныя ў ім пытаньні, што датычуць Булака-Балаховіча.*

*Перадусім, Б.-Б. быў усё-ж паэтай без ужытых Вамі двукосьсяў. Мне асабіста вядомы, праўда, толькі адзін ягоны верш «Покліч Бацькі», зьмешчаны пад псэўданімам «Бацька» ў часапісу «На Чужыне» (Рыга, № 1, 1920), які ёсьць у мяне. Пра гэты, акурат, верш прыгадвае й Е. Карскі ў сваіх «Беларусах»*[693]*, што ня вы-*

693 Карский, Е. Белорусы. Том III. Петроград, 1922. С. 379.

*падкова. Па форме ён ня ніжэйшы за вершы некаторых кананізаваных нашаніўцаў, а па свайму зьместу (ваяўнічы, заклікальны да змаганьня) вышэйшы ад іх. Аднак Вы, на жаль, памыляецеся, калі пішаце, што Б.-Б. пісаў яшчэ прозай пад псэўданімам — Дзяргач.*

*У бліжэйшым атачэньні Б.-Б. меліся два Адамовічы — бацька й сын, зь якіх апошні вядомы ў літаратуры як Адамовіч-Дзяргач. Гэты дадатак ён дастаў і ад свае вайсковае мянушкі — Атаман Дзяргач — набытае ім яшчэ ў вядомай фармацыі «Зялёны Дуб», як і ад літаратурнага псэўданіму — Дзяргач, пад якім ён выдаў некалькі кніжкаў. Між іншым, запомняная Вамі назва ягонае кніжкі, што мелася ў Вас, — «Тыпы Палесься. Абразкі і лягенды». У мяне тут ёсьць ягоная кніжка на расейскай мове «Там, где еще бьются» (Бэрлін, 1929)*[694] *і, паводля маіх дадзеных, яе таксама няма ў пералічаных Вамі бібліятэках. Дарэчы, і ў бяз сумлеву вартым даверу часапіс «Крывіч» (№ 1 за 1923) у ягоным разьдзеле «Агляд прэсы» чытаем: «… Адамовіч з сынам «Дзяргачом»).*

*На жаль, я ня ў стане пагадзіцца з Вамі, што акрамя паходу Б.-Б. на Мазыр меўся нейкі яшчэ туды-ж паход Б. Савінкава. Што яны йшлі разам, сьветчыць сам Савінкаў у сваіх паказаньнях на судзе, апублікаваных Саветамі асобнай кніжкай у выданьні «Кубуч» (Ленінград, 1924), якую меў у Віцебску ў сваёй бібліятэцы, а тут карыстаўся зь яе ў Ньюеркзкай. Дарэчы, ня толькі, паводля Вашых слоў, Р. Астроўскі, але й Б. Савінкаў гаварыў пра «беларускіх падпітых міністраў», толькі апошні ня згадвае пра сьвятое памяці Мамоньку й Шылу, якіх там тады ўвогуле ня было. Што-ж датычыць «падпітых», дык імі ў часе паходу была прароблена вялікая нацыянальная праца, на якую, напрыклад, зусім не надаюцца дзеячы тыпу заўжды цьвярозых кахаlistоўскіх.*

[694] Там, где еще бьются; повести-были из жизни русскаго повстанчества. Берлин. Тип. Бр. Гиршбаум, 1929. — 247 с. Перад назвай напісана: *«Коммунизм умрет. Россия не умрет»*. Асобнік кнігі захоўваецца ў бібліятэцы Вашынгтонскага ўніверсітэта.

*Прабачце, але пачуты Вамі ў лазьні зьдзеклівы анэкдот аб нібы мізэрным колькасным складзе арміі Б.-Б. не адпавядае праўдзе. Паводля нават савецкіх крыніцаў (Вадз. Круталевіч, «Неман», 3/68), армія Б.-Б. налічвала 7860 штыхоў, 3500 сабель, 154 кулямёта, 36 гарматаў. Характэрна, што Паўночна-Заходняя армія Юдзеніча ў часе свайго наступу на Петраград налічвала 5800 штыхоў, 30 кулямётаў і 11 гармат (Совинов. Очерки истории ВЧК. Москва, 1960 г., с. 156).*

*Даруйце, але не падзяляю Ваш пагляд на каштоўную кніжку М. Грынблята «Беларусы», якая зусім не выпадкова была сустрэчаная ў штыхі афіцыйнай камуністычнай крытыкай, бо аўтар, акрамя рознага іншага дадатнага, адважыўся ў ёй яшчэ адкінуць савецкія межы беларускага народу і прыгадаць, што далёка на ўсход ад іх жывуць таксама тыя-ж беларусы.*

*Аднак я пачынаю злоўжываць Вашым часам.*

*Пішэце, калі ласка, пры наяве часу і ахвоты.*

*З пашанай да Вас*

*Ваш Юрка Віцьбіч.*

*5 красавіка 1972 г.*

*Ваш апошні ліст пацьвердзіў, што калі ход пра факты жыцьцяпісу генэрала Булак-Балаховіча — генэральскія шліфы належаць Вам! Я-ж з маймі, пачутымі пра яго, анэкдотамі ды лягендамі, што й называецца, «выбраўся ў Афіны з совамі». Скарыстаў усё-ж пры гэтай нагодзе я тое, што прыгадалі мне забыты «на сьмерць» загаловак кніжкі «Тыпы Палесься» ды раскрылі прозьвішча яе аўтара. Чамусьці яшчэ з часоў віленскіх у мяне склалася хвальшывае ўражаньне, што імпрэсыі пісаў Балаховіч.*

*Іншая справа не зь генэралам, а з «товарищем» Грынблятам ды ягонай, паводле Вас, «каштоўнай кніжкай». Гэта праўда, што ён у ёй — ня першы й не адзіны ў БССР — прызнаў Смаленшчыну беларускай. Істотная розьніца між імі аднак тая, што калі іншыя падсавецкія аўтары пішуць пра беларускасьць <u>сучаснае</u> Смаленшчыны, дык «адважны» Грынблят прызнаў беларускасьць адно Смаленшчыны заходняй ды й то толькі ў… XIV–XVI ст.ст.!!! (б. 142–143). Ягоная «каштоўная» кніжка,*

*гэта, у істоце, падтасаваньне гісторыі й фактаў пад у СССР абавязваючыя «марксысцкія» догмы ды партыйныя «тэзісы». Усю «навуковасьць» выданьня характарызуюць найлепш гэткія звароты пра беларускіх замежных аўтараў, што займалі голас у пытаньнях этнагенэзу беларускага народу, як: «фашистские прихвостни, военные преступники и их пособники»! Што й казаць — пэрліна стократнае каштоўнасьці акадэмічнае эрудыцыі аўтара!*

*Для «акадэміка» Грынблята характэрна й тое, што ў кнізе, сама тэма якое вымагае даць у ёй якнайбольш поўную характарыстыку беларусаў як народу й дзеля гэтага выяўляць ды акцэнтаваць найперш ягоныя найбольш яскравыя нацыянальныя прыкметы, аўтар нацiск паклаў на зусім адваротнае — на тое, чым беларусы падобныя зь «вялікім рускім народам». Бадай у кажным разьдзеле кніжкі Грынблят не забываецца, ды разоў па колькі, паўтарыць ведамую вялікадзяржаўную канцэпцыю Масквы аб «спрадвечным адзінстве» народу беларускага з народам «рускім». Для гэтага дадзены ў кніжцы навет і адмысловы разьдзел пра «некоторые черты общности», разважаньні ў якім вядуцца гэткім дасужым спосабам: продкі беларусаў, расейцаў, украінцаў калісьці сахой аралі, бараной баранавалі, сярпом жалі, касой касілі, вудамі ды невадам рыбу лавілі, на паляваньне з сабакамі хадзілі, а на ваўкоў ямы капалі — з гэтага ясна, што «общерусское единство» беларусаў з расейцамі было!*

*Грынблята як навукоўца й чалавека характарызуе добра вось гэткі выпадак: гадоў колькі таму ў часапісе «Советская этнография» ён востра заатакаваў маскоўскага археалёга Сядова за ягоныя сьмелыя пагляды ў пытаньнях балцкага субстракту ды пры гэтым намагаўся свайго праціўніка «палажыць на лапаткі» ўдарам, у савецкіх умовах, «ніжэй жывата». Ён абрушыўся, чаму Сядоў у літаратуры да свайго артыкулу прывёў і публікацыі гэткага заядлага «буржуазнага нацыяналісты», як Янка Станкевіч! Адказ Сядоў даў яму ў гэткім тоне: разглядаем, хіба-ж, навуковую праблему субстрату, дык пры чым тут палітычныя пагляды таго ці іншага аўтара, якія мяне зусім не цікавяць?*

*Карысьць кніжыцы Грынблята вельмі абмежаваная. Яна галоўна ў тым, што ў ёй з канечнасьці сканцэнтраваны, раськіданы па розных выданьнях розных аўтараў, адпаведны фактаграфічны матар'ял. Але й гэты матар'ял далёка ня поўны, аднабокі, бо пададзены Грынблятам у праўкруставым падборы фактаў з аглядкай на афіцыйныя «тэзісы». Нейкіх важных самастойных думак у кніжыцы не знайсьці. Пагляды Грынблята на важнейшыя пытаньні этнагенэзу беларускага народу можна ведаць, ягонае кніжкі й не чытаючы. Хопіць для гэтага пазнаёміцца з адпаведнымі партыйнымі «тэзісамі», што, як сам аўтар падае, «одобрены ЦК КПСС». Вось іх, як дагматычную сьвятую «праўду», Грынблят паўтарае, «абгрунтоўвае», «даводзіць», паклікаючыся пры гэтым ізноў-жа на тыя самыя «тэзісы».*

*Прывітаньні зь Вялікоднымі Сьвятамі!*

*У глыбокай пашане Ваш В. Тумаш.*

*18.5.1973*

*Вельмі Паважаны Спадар Віцьбіч!*

*Выбачайце за спазьненьне з адказам. Вашыя «хросьнікі» загаўкалі, заскуголілі, бо-ж ім ані не па смаку Вашыя дасканалыя фэльетоны ды артыкулы. Ды хай шумяць — хоць і зьвягаюць, ды не зьядуць. Як казаў мне др. Запруднік, ксэроксы ўсяго таго, што ён мог знайсьці, Вам накіраваў. У гэтым нічога не дадам, бо за зьвягаю партыйных брахункоў мала сачу ды й «ксэрокса» ня маю. Сам галас «Голасу» гэта толькі прызнаньне дамэтнасьці Вашых артыкулаў.*

*Цікавіць мяне затое Ваш будучы артыкул пра Пётру Мсьціслаўца, бо ў пытаньні, хто павінен стаяць на памятніку ў Маскве, я такую-ж думку выказаў гады чатыры таму ў сваім рэфэраце пра заблудаўскую друкарню гэтмана Рыгора Хадкевіча. Дасылаю тут чатыры бачыны гэтага рэфэрату, на якіх справа гэтая разглядаецца.*

*Што да ліста «У кого учился»*[695] *— там тая праўда, якую яшчэ ад мінулага стагодзьдзя блізу ўсё расейскія*

[695] Стукалич, Ю. Кто у кого учился // Новое русское слово. 7 мая 1973.

*аўтары морам публікацыяў і артыкулаў хочуць затушаваць, затапіць. Можна спрачацца толькі з словамі, што «ў афармленьні першае расейскае кнігі яскравы адбітак беларускага скарынаўскага стылю кнігадрукаваньня». Ньюёрская Публічная Бібліятэка мае арыгінал маскоўскага Апостала. У мяне-ж мікрафільмы больш палавіны ўсіх скарынінскіх выданьняў, і дзеля гэтага ў гэтым пытаньні мушу згадзіцца з дасьледніцай А. С. Зярновай, што графічна гэтыя выданьні вельмі розныя*[696].

*Гэта праўда — ды гонар Івану Федаровічу — што пазьней, ужо ў Астрове, калі пры ім Мсьціслаўца ня было, у вучні Скарыны ён пайшоў: ягоны 1580 году Новы Запавет з Псалтыром і фарматам, і графічна копія Скарынавае Малое Падарожнае Кніжкі. Усе заставіцы й буквіцы толькі Скарынавы. Гонар таму, бо гэта сьветчыць аб ягоным добрым адчуцьці высокага друкарскага Скарынавага майстроўства і яшчэ таму, што калі пабачыў нешта больш дасканальнае, не пабаяўся й не пастыдаўся гэтага павучыцца, гэта пераняць. У выданьнях-жа маскоўскіх сапраўды цяжка знайсьці нешта Скарынінскае.*

*Буду чытаць з цікавасьцяй Ваш артыкул пра таго першадрукара Масквы, якога гадоў колькісот пазьней «удзячныя» масквічы на памятнік не дапусьцілі.*

*У глыбокай пашане Ваш В. Тумаш.*

*П. С. Гэтымі днямі прыпадкова натрапіў на маю колішнюю нататку з расказу нябошчыка генэрала Кушаля пра ген. Булак-Балаховіча. Зьмест запіскі перасылаю Вам, як вернаму «балахоўцу», да ведама:*

*Паводле расказу нябошчыка генэрала Кушаля, генэрала Булак-Балаховіча наведаў ён у 1920 годзе ў Варшаве перад мазырскім паходам. У штабной кватэры Балаховіча бачыў ён тады сьцірты розных, падрыхтаваных для паходу адозваў, а між імі й паштоўку з партрэтам «Бацькі Булак-Балаховіча». Пад партрэтам надрукаваны быў гэткі вершык:*

[696] Магчыма, маецца на ўвазе выданне: Орнаментика книг московской печати XVI–XVII веков. Под ред. А. С. Зерновой. Москва, 1952. — 28 с.

*Ці паляк ты, ці ты рускі,*
*Будзеш мёд піць беларускі,*
*Але сілай — дык ніколі: —*
*Хіба па нашых касьцях!*
Бацька Булак-Балаховіч, 1920

*20.12.1973 г.*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Віцьбіч!*

*Удзячны за апошні Ваш ліст, у якім так шмат цікавага пра Вашую плодную працу гэтага часу, пра Вашыя апошнія сустрэчы. З усімі блізу Вашымі наведвальнікамі давялося сустракацца й мне. Ня бачыў толькі спадароў Акулу й Маркевіча. Акулу адведваў пару гадоў таму ў ягонай кватэры ў Тароньце й на свае вочы бачыў, што Вашае азначэньне ягоных сямейных ды хатніх абставінаў як «страшэнныя» ніякая гіпэрбаля. Гэтае самае думаў, калі сядзеў у яго за сталом як госьць. Дзівіўся ці раз таксама зь ягонае працавітасьці ды стойкасьці ў гэткіх абставінах, калі адначасна дзясяткі нашых суродзічаў, што маглі-б зрабіць шмат карыснага для справы свайго народу, усё сваё існаваньне зьвялі да даляраў ды тых ці іншых матэрыяльных выгадаў. Памруць — застанецца толькі пустое месца.*

*Былы-ж катаржнік Калымы (відавочна праз памылку — «своя своіх не познаша») Клішэвіч з сваймі друкаванымі ў БССР вершыкамі, добры прыклад ведамае прыказкі беларускага народу (запісаў яе нябожчык Я. Гладкі ў Лагойшчыне) — «Абсьліненая ваўком авечка ў лес глядзіць». Інтэлектуальна марноту гэтага паэціка яскрава паказвае тое, што ў часы, калі былы катаржнік савецкіх канцлягероў Салжаніцын*[697] *падымае тытанічны высілак, каб перад гісторыяй і сьветам узьняць справу й памяць тысячаў нявінна замучаных сяброў па пяры ды міліёнаў іншых нявінных ахвяраў партыі, ён стае па боку не замучаных нявінна, у гэтым ліку ня менш 80% паэтаў і пісьменьнікаў беларускага народу, а па боку катаў-забойцаў, ды сяньня іх апраўдвае,*

[697] **Аляксандр Салжаніцын** (1918–2008), рускі пісьменнік, аўтар працы «Архіпелаг ГУЛАГ».

*ліжа ім боты. Гэта раскрывае ўсю маральную мізэрноту ды інтэлектуальную абмежаванасьць гэтага марнага чалавечка.*

*Шлю Вам як суаўтару мой нарыс пра год сьмерці сьвятое Афрасіні Полацкае. «Суаўтару», бо Вы калісь паставілі перада мной гэтае пытаньне, на якое я раней не зьвяртаў увагі. Калі апірацца строга на існуючых ведамых фактах, год гэты можа быць толькі 1168. Нарыс напісаны не для друку, бо-ж падымаць гэткую справу ўчас, калі якраз адзначаецца, хай сабе й памылкова, 800-годзьдзе сьмерці сьвятое Афрасіні, гэта было-б выскакваньнем «Піліпа з канапель».*

*У друк ужо здадзеная чародная кніга «Запісаў». Калі-б нешта мелі да друку — калі ласка.*

*Прывітаньні Вам і Вашай слаўнай Спадарыні пры нагодзе Калядных ды навагодніх сьвятаў!*

*У глыбокай пашане Ваш В. Тумаш.*

*26.3.1974*

*Дарагі Спадар Віцьбіч!*

*Удзячны за ліст да мяне й за копіі цікавых лістоў іншых Вашага шырокага ліставаньня. Атрымаў і я ад аўтара, з аўтографам, аповесьць «Закрываўленае сонца». Уражаньне падобнае: твор моцны й мастацка, і яскравы дакумэнт гістарычнае пары, часу пачаткаў брутальнае саветызацыі занятых чырвонай арміяй вёсак Заходняе Беларусі. У нас пра гэта вельм мала пісалася, усяго колькі было выдрукавана артыкулаў-успамінаў, і была пагроза, што гэта застанецца ў хвальшаваным сьвятле прапаганднае пісаніны казённых савецкіх палітрукоў. Аповесьць гэты недастатак у вялікай меры ліквідуе, перадае нашчадкам жывы, сапраўдны вобраз падзеі.*

*Не вялікая была-б бяда, калі ў важнай для жыцьця беларускае вёскі гістарычнай падзеі сям-там грубавата, няўклюдна ўплятаюцца й сцэнкі «сэксу» на вясковы лад. Сэкс цяпер у модзе. Тое, што тысячагодзьдзямі, за прыкладам Адама ды Евы, стыдліва прыкрывалася фігавымі лісткамі, цяпер публічна дэманструецца. Бяда аднак-жа тут тая, што для добрай, гістарычнага*

*зьместу, аповесьці таленавіты аўтар не знайшоў сугучнага яе зьместу завяршальнага акцэнту — абарваў яе сцэнаю, калі рука маладога, падрастаючага героя, першы раз у ягоным жыцьці трапляе на крыніцы «сэксавых» роскашаў, між дзявочых ног. Абрываньне аповесьці на гэтым мамэньце ня толькі кампазыцыйна калоціцца з мастацкім высокага ідэйнага напружаньня творам, але й паважна падсякае добрую цэласьць.*

*Ды нічога тут не парадзіш, бо-ж «што напісана пяром...». Можна мець адно надзею, што аўтар будзе мець нагоду перавыдаць з часам сваю трылёгію, усе тры часткі разм у вадным томе, другім дапраўленым выданьнем.*

*З прывітаньнямі ды паклонамі Вам і Вашай Паважанай Спадарыні!*

*Адданы Вам В. Тумаш.*

*ПС. Надовячы, лістаючы свае розныя старыя выпіскі, натрапіў на адну, што можа Вас зацікавіць (калі яна яшчэ ня трапіла ў поле Вашае ўвагі). Гэта пачатковая зваротка вершу Артура Вольскага*[698] *«Даўняй славы адгалосак» («Маладосьць», Нр. 1, 1972, б. 7).*

*Хай жыве ў пластох гадоў*
*Славы даўняй*
*Адгалосак —*
*Назвы нашых litаradоў,*
*Нашых вуліц,*
*Нашых вёсак.*

*Зваротка можа служыць дасканальным уводным мотто да якога небудзь Вашага чароднага мастацкага нарысу пра вёскі, селішчы, месты й мястэчкі Беларусі.*

*16.06.1974*

*Вельмі Паважаны й Дарагі Спадар Віцьбіч!*

*Дзякую за ласкавы ліст ды копіі цікавых як заўсёды лістоў іншых, асабліва ліста-артыкулу пра тое, як на касьцях «інародцаў» будавалася імпэрыя «вялікага пера-*

[698] **Артур Вольскі** (сапр. Зэйдэль-Вольскі, 1924–2002), пісьменнік, перакладчык.

*давога рускага народу». Добра, што з болем левай рукі зьвярнуліся да свайго лекара — напэўна, будзе старацца выясьніць прычыну ды спробу іх пастараніць, каб не заміналі ў творчай працы.*

*Думка выданьня зборніка палемічных твораў, у каго-б яна ні зарадзілася, добрая ды вельмі на часе. Што да мовы — думаю, што патрэбная кніга ў мове расейскай і беларускай, ці бо — дзьве кнігі. Па-расейску магло-бісьці ўсё лепшае й сяньня актуальнае, што па-расейску друкавалася. У кароткай прадмове можна было-б даць і колькі важнейшых аўтарытэтных водгукаў на артыкулы — прыкладам, адпаведную цытату зь ліста М. Шагала. Кніжку з надрукаваньнем трэ было-б і рэклямаваць найперш у НРС.*

*У зборнік беларускі ўлучыць трэба ўсё друкаванае па-беларуску, ды даць у беларускім перакладзе й важнейшае, трывалае актуальнасьці з публікаванага па-расейску.*

*Складаць зборнік трэба ўжо, не адкладаючы ды не чакаючы на выясьненьне хто, калі ды за колькі кнігу зможа выдаць. Важна, каб кнігі былі складзеныя, адрэдагаваныя, гатовыя, а там і «Бог бацька!» — нейк будзе.*

*Мае прывітаньні Вам і Паважанай Спадарыні!*

*З пашанаю, В. Тумаш.*

*3.11.1974*

*Дарагі й Вельмі Паважаны Спадар Віцьбіч!*

*Цешуся і я, што набор Вашае кнігі ідзе шпаркімі тэмпамі. Калі за тэрмін яе выхаду браць на прыцэл Вашыя будучыя ўгодкі, дык тэмпы мо й зашпаркія. Ды гэта з другога боку й добра, бо пры сучасных ня менш шпаркіх тэмпах інфляцыі за ўжо паўгоду кошты друку будуць куды большыя, як цяпер. Магу зрадзіць Вам і сакрэт, хто да паскарэньняў памагае: праф. Адамовіч адрэдагоўвае для друку кнігу паэзіі Н. Арсеньневай, і гэта ідзе ў яго гэтак паволі, што кніга, якая мела быць набраная да Калядаў, сумлеўна, ці гатовая будзе й да лета. Стуль вось у сп. Акулы вялікі запас часу*[699]*.*

[699] Кастусь Акула паралельна набіраў кнігу Віцьбіча і Арсенневай «Між берагамі», якая выйдзе толькі ў 1979 г.

*«Ці наборшчык зможа выправіць памылкі карэктурныя перад друкам?». Напэўна, накш ня было-б сэнсу рабіць карэкту. З набраных ужо вершаў Арсеньневай ведаю, што ў сп. Акулы памылак сапраўды няшмат. Ці ня ён сам спачатку яе робіць? Калі, аднак-жа, на 48 бачынах, ужо ня вершаў, але прозы, знайшлося толькі 8 памылак, я ўсё-ж радзіў-бы праверыць і карэктара — можа ён іх проста ня бачыць. Дык варта «пракарэктаваць» і карэктара, папрасіўшы сп. Акулу, каб перад друкам адбіткі скарэктаванага набору ён пераслаў-бы ўсё-ж для апошняга перагляду і аўтару.*

*Ведама, адна-другая памылка ў большай кнізе не бяда. Ды бываюць памылкі й вельмі паганыя, што псуюць цэлую кнігу, як, прыкладам, калісьці ў Вільні пры перадруку Коласавай паэмы «Сымон Музыка» ў словах «цябе, цябе адну» выпала пры друку другое «ц». Гэткую памылку і ў «белым сьцяжку» пры канцы кнігі папраўляць няёмка. Яны няпрыемныя ня толькі аўтару, але й выдавецтву, бо часам вымагаюць перадруку цэлых аркушоў. Таму мая рада, каб аўтар перад тым, як набор даваць у друк, усё-ж зрабіў свой апошні аўтарскі перагляд кнігі, каб ня было няпрыемных неспадзяванак. Пазьней, калі запозна, ськідаць віну на карэктара — нічога не памагае.*

*[...]*

*Прыймеце мае шчырыя прывітаньні Вам і Вашае Паважанай Спадарыні.*

*У глыбокай пашане В. Тумаш.*

*19 студзеня 1974 г.*

*Вельмі Паважаны Сп. Віцьбіч!*

*Вінаваты Вам ліст-адказ у закранутых Вамі справах, датычных да нашага добрага знаёмага доктара й прафэсара, Ул. Сядуры.*

*Па тэксты напісаных на чужыне драматычных твораў да мяне ён зьвярнуўся яшчэ 29 кастрычніка. Дасылаючы яму сёе-тое, зьвярнуў яму тады ўвагу й на «Здрады» П. Зьніча ў «Замежнай Беларусі», а пазьней выслаў яму фатастаты й «Здрады» й паэмы «Глінскі» Рылеева*[700]*, на якой яна*

[700] **Кандраці Рылееў** (1795–1826), расійскі паэт, дзекабрыст.

*абапертая. Хоць пад загалоўкам драмы й напісана, што яна «інсцэніроўка» паэмы Рылеева, ды ў сапраўднасьці яна самстойны, абаперты толькі вельмі агульна на паэме, твор. Гэта відаць ужо й з таго, што драма чатыры разы даўжэйшая за паэму — мае 563 радкі, паэма-ж толькі 144.*

*П. Зьніч гэта П. Крэчэўскі*[701]*, палітычны дзеяч, а не паэта. Таму й драма ягоная слабая вершаваньнем ды моваю, але моцная ідэйна. І яе публікацыя мела бясспрэчна й палітычную мэту, на што паказвае тое, што друкавалася яна колькі ўсяго месяцаў пасьля таго, як здрадзілі БНР ды пераехалі БССР (на сваю пазьнейшую згубу) прэм'ер ураду БНР Цьвікевіч*[702] *ды сябры Л. Заяц*[703] *і У. Пракулевіч*[704]*.*

*А Прафэсару-Доктару гэтымі днямі выслаў і яшчэ цэлую гурбу тэкстаў ды матарыялаў пра драматычную творчасьць на чужыне. Хай піша, можа з гэтага што карысане й выйдзе, хоць напэўна не адбудзецца й бяз шкоды — мала застанецца часу на ладжаньне юбілеяў...*

*А Ваш дыягназ пра хісткасьць хрыбта нашага Вялікага Рэдактара*[705] *напэўна правільны. Хопіць прыпомніць і леташнюю перадавіцу пра «залаты» юбілей беларусізацыі з фразаю «дзякуючы пастановам Расейскае Камуністычнае Партыі бальшавікоў». Уражвае, што гэта самае думаў, чытаючы газэту, яшчэ перад атрыманьнем Вашага ліста з Саўт Рывэру, і я ў Бронксе. Гэта падцьвярджае правільнасьць Вашага дыягназу рэдактаравага недугу.*

*Перадайце мае прывітаньні Вашай Паважанай Спадарыні.*

*У глыбокай пашане Ваш В. Тумаш*

---

[701] **Пётра Крэчэўскі** (1879–1928), палітычны дзеяч, гісторык. У снежні 1919 г. абраны прэзідэнтам Рады БНР. Альманах «Замежная Беларусь» уклаў і выдаў у 1926 г.

[702] **Аляксандр Цвікевіч** (1888–1937), палітычны дзеяч, гісторык. На ІІ Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне прыняў рашэнне аб спыненні дзейнасці Рады БНР і прызнанні БССР.

[703] **Леанард Заяц** (1890–1935), палітычны дзеяч, публіцыст, сябра Рады БНР.

[704] **Уладзімір Пракулевіч** (1887–1938), палітычны дзеяч, публіцыст. Удзельнік Слуцкага паўстання, ад 1923 г. — сакратар Урада БНР.

[705] Маецца на ўвазе Станіслаў Станкевіч.



*Юрка Віцьбіч, Уладзімір Сядура і Міхась Кавыль*

### *Ліставанне Вітаўта Тумаша з Уладзімірам Сядурам*

*29 кастрычніка 1973 г.*

*Яго Міласьці*
*Д-ру Вітаўту Тумашу*
*Ў Нью Ёрку.*

*Вельмі Шаноўны Доктару!*

*Зьвяртаюся да вас з просьбай дапамагчы мне разшукаць матар'ялы пра беларускую драму (драматургію) на выгнаньні. Дзеля нашае беднасьці ў гэтай галіне я лічу магчымым улучыць агляд творчасьці Францішка Аляхновіча, бо пісаў ён за межамі БССР, дарма, што фактычна на Бацькаўшчыне. Але дзе дастаць ягоныя драмы і камэдыі? Ці няма чаго-небудзь у Вас? Калі ёсьць, пазычце на кароткі час. Таксама хацеў-бы перачытаць твор Н. Арсеньневай «Усяслаў Чарадзей», напісаны ў драматургічнай форме. Спадзяюся, у Вас ёсьць тэкст яго.*

*Шукаю таксама драматычныя творы Аўгена Кавалеўскага, бо маю адно тое, што было выдрукавана*

*ў часапісе «Сакавік». Магчыма, Вы маеце Ватэнштацкія выданьні маленькіх п’есак С. Залужнага «Навагоднія запросіны», «Шапка-няўгледка» А. Кавалеўскага, «У Калядную ноч» С. Каўша і магчыма якія іншыя, выдадзеныя на выгнаньні ў Нямеччыне, Амэрыцы, Польшчы і г. д.*

*Ці няма ў Вас якіх-небудзь матар’ялаў пра дзейнасьць Ватэнштацкага беларускага тэатру, тэатральнай эстраднай групы Шчаглова ў Нямеччыне і ў ЗША і г. д.? Усе гэтыя матар’ялы мне патрэбныя дзеля таго, што мусіў згадзіцца падрыхтаваць даклад на тэму: Беларуская драма на выгнаньні, а пазьней надрукаваць яго ў унівэрсытэцкім выданьні. Трэба зрабіць гэтак, каб нас добра рэпрэзэнтавала ў сьвеце. Спадзяюся таксама, што нехта іншы зробіць тое самае на тэму: Беларуская мастацкая проза на выгнаньні. Магчыма, Антось Адамовіч?*

*Абяцаю дасланыя Вамі матар’ялы выслаць пасьля выкарыстаньня назад без адклада і заказной поштай, або, па дамоўленасьці, перадаць асабіста пры сустрэчы.*

*Шчырае дзякуй. З глыбокай удзячнасьцю і пашанай, Ваш У. Глыбінны.*

*4 лістапада 1973 г.*

*Вельмі Паважаны Прафэсару!*

*У вадказ на Ваш ліст з 29.10.73:*

*На скорую руку перагляную свае зборы ў пошуках прошаных Вамі драматычных твораў і знайшоў толькі дзьве рэчы: Аляхновічаў апошні перадсьмертны твор — «Круці ня круці, трэба памярці» і — А. Змагар «Рэпка. Казачны абразок» (Лінц, 1946, 19 б.) — дзіцячая сцэнка.*

*Што да Аляхновіча: ён варты адмысловае грунтоўнае й паважнае манаграфіі, бо «там», у БССР, апрача лаянкі пра яго нічога не напішуць. Ён-жа наш найбольшы драматург, што вырас яшчэ беспасярэдне з нашаніўскае пары. Напісаў усіх 20 ці мо й больш драматычных твораў. Гадоў 15 таму я даў навет заклік у газэце, каб паведамілі, хто што зь ягоных п’есаў мае. Меў ідэю сабраць ды выдаць у вадным вялікім томе ўсяго Аляхновіча. Ды ніхто на заклік не адазваўся — відаць, ніхто нічога й ня мае. У большым ліку ягоныя творы павінны быць*

*у бібліятэках Польшчы. Магчыма сёе-тое мае беларуская бібліятэка Лёндану.*

*Аднак-жа сумлеваюся, каб было мэтазгодна ў драматычную творчасьць аўтараў на выгнаньні ўлучаць і Аляхновіча, які на выгнаньні, за выняткам гадоў на Салаўкох, ніколі ня быў. Гэта было-б вельмі яскраваю нацяжкай. З другога боку, паўстануць і закіды, што аўтар, які залічвае Аляхновіча да эмігрантаў, відаць, не ўважае і Вільню за беларускае, але чужое, места, бо ў Вільні паўсталі й друкаваліся блізу ўсе творы Аляхновіча. І апошняя засьцярога: як і што паважнае можна напісаць пра творчасьць драматурга, маючы пад рукой адзін-два творы з усіх 20?*

*Хопіць напэўна даволі матарыялу, калі абмежавацца аглядам тае драматургіі, якая сапраўды паўстала на эміграцыі. Яе па лягерох было даволі шмат лікам, хоць і былі гэта пераважна рэчы меншыя — розныя скэчы, абразкі, дзіцячыя сцэнкі. Дзеіў-жа гадамі й Тэатар Беларускае Эстрады, які ў сваёй праграме меў і драматычныя рэчы.*

*Найбольш камплектны збор выданьняў нашае «рататарнае эры» мае бадай М. Панькоў. Да яго трэба й зьвяртацца ў пошуках патрэбных драматычных твораў. Прасачыць-жа дзейнасьць розных тэатральных гурткоў можна ў вялікай меры пералістаўшы ўважна пэрыядычныя выданьні, у першую чаргу «Бацькаўшчыну», а таксама й некаторыя рататарныя часапісы. Там пераважна даваліся кароткія зацемкі, ці навет і рэцэнзыі паасобных імпрэзаў.*

*Шмат з тых твораў, што й ставіліся на сцэне, засталося ў аўтараў у рукапісах. Хіба нешта павінна мець у сябе з падобных твораў, прыкладам, Н. Арсеньнева, якая часта пісала прынагодныя сцэнічныя абразкі для лягерных пастановак, пераважна дзіцячых ці моладзі. Ейнага «Ўсяслава Чарадзея» я ня маю. Я ня пэўны, ці мае яго і яна сама. Што да Ватэнштацкіх пастановак, блізу ўсе яны рэгістраваліся ў часапісе лягеру «Шляхам жыцьця». Камплект яго мае М. Панькоў.*

*Пры нагодзе таксама паведамляю: Інстытутам падпісаная ўмова з друкарняй у Ню Ёрку пра друк чароднае*

*кнігі «Запісаў». Кніжка мае быць надрукаваная да пачатку лютага, вялічыня — 160 б., фармат «Конадняў». Калі маеце нешта да друку, прысылайце, яшчэ ня позна. Але друкавацца могуць толькі рэчы кароткія — артыкулы на бач. 10, шмат карацейшыя зацемкі, рэцэнзыі.*

*З пашанай Ваш В. Тумаш.*

*9 лістапада 1972 г.*

*Д-ру Тумашу*
*Ў Нью-Ёрку*

*Вельмі Шаноўны Доктару!*

*Дзякуй за ліст ад 4 лістапада г. г. Я з Вамі згодзен, што Ф. Аляхновіч заслугоўвае адмысловае грунтоўнае манаграфіі і што ён наш найбольшы драматург, што вырас з нашаніўскае пары. Але дзеля таго, што наразе я абмежаваны памерам 10–12 бачынаў, я не магу аб ім гаварыць вычэрпна. Але як усялякая гаворка аб беларускай драматургіі ня можа абыйсьціся бяз згадваньня ейнага бацькі — старэйшага і найбольш плённага драматычнага пісьменьніка — Францішкі Аляхновіча, ня можа бяз ягонага імя абыйсьціся і гаворка пра беларускую драматургію ў выгнаньні. Гэта, аднак, ня будзе беспасярэднім залікам ягонага творчага чыну да дасягненьняў выгнаньніцкае драмы, а тым больш пасьляваеннай. З Вашымі перасьцярогамі я лічуся.*

*Прыемна было даведацца, што ў Вас захаваўся паасобнік п’есы «Круці ня круці, трэба памярці», да выданьня якое я прычыніўся беспасярэдна, удала абыйшоўшы забарону з боку менскіх нямецкіх камісараў. Вось-жа буду Вам удзячны, калі Вы мне пазычыце на нейкі час згаданыя Вамі п’есы, а ў дадатак прыкладзеце й «Хрэстаматыю Бел. Літ» Дварчаніна, у якой, як я памятаю, ёсьць урыўкі з Аляхновічавых твораў. Усё зьвярну Вам заказной поштай або, калі ўважаеце неабходным, асабіста з рук у рукі. Шчырае дзякуй згары. З глыбокай пашанай, Ваш У. Глыбінны.*

*17 лістапада 1973 г.*

*Паважаны Прафэсару!*

*З Вашага апошняга ліста бачу, што за тэатральна-дррамачычную творчасьць эміграцыі маеце замер узяцца не жартуючы. Дзеля гэтага пакапаўся я яшчэ ў сваіх старых архівах ды там знайшоў колькі нумароў ватэнштэцкага часапісу «Шляхам жыцьця», у якіх ёсьць тэксты дзвюх п’есак, што ставіліся ў лягеры. У выніку магу Вам выслаць: А. Змагар. Рэпка. Казачны абразок. Лінц, 1946, 19 б.; С. З. (Сьвятаслаў Залужны). У Купальскую ноч. Літаратурна-мастацкі мантаж для дзіцячага тэатру. «Шляхам жыцьця», Ватэнштэт, Нр. 6, 24 чэрвеня, б. 11–17; Коўш. У Калядную ноч. Сцэнічны мантаж для дзяцей. «Шляхам жыцьця», Ватэнштэт, 25 сьнежня 1946 г., б. 15–23; Францішак Аляхновіч. Круці не круці, трэба памярці. Сцэнічны гротэск. Менск, Выд. «Новы шлях», 1944, 80 б.*

*Фатастатычныя копіі трох першых п’есак высланыя асобным капэртам як «друк». Як Вам ведама, нашыя выданьні «рататарнае эры» друкаваліся на гэткай мізэрнай паваеннай паперы, што перасылаць іх поштаю немагчыма — сатруцца на порах. Таму шлю фатастаты. Адсылаць іх ня трэба — хай застаюцца ў Вас. Затое апошні перадсьмяротны шэдэўр Аляхновіча, які ў тут канвэрце, высылаю з застрахаваньнем, і пасьля выкарыстаньня прашу адаслаць заказною ці страхованаю поштаю.*

*Пры нагодзе зраблю яшчэ Вам і дашлю фатастаты тых бачынаў хрэстаматыі Дварчаніна, у якіх пра Аляхновіча. Калі патрэбна, магу Вам зрабіць і фатастаты зь цікавых заўвагаў М. Гарэцкага пра творчасьць Ф. Аляхновіча, што ёсьць у ягонай «Гісторыі беларускае літаратуры» 1922 году.*

*Зьвяртаю ўвагу на факт, што драматычныя творы пісаць пачалі на эміграцыі найперш бадай у пачатку 1920-х гадоў у Коўні. Там Ластоўскі, здаецца, напісаў ды ці не ў сваім «Крывічы» першы раз і надрукаваў свой драматычны абразок «Адзінокі — Эпізод з жыцьця Францішка Скарыны» (Перадрукаваны ў выдадзеных у 1956 г. у Мюнхэне «Творах» В. Ластоўскага,*

*б. 107–111). У Коўні ўжо напэўна была напісана драма П. Зьніча: Здрада. Гістарычная драма канца XV і пачатку XVI сталецьця, у 3 актах, з пралогам (Інсцэніроўка паэмы Рылеева «Глинский»). Пад ёю ёсьць датаваньне: Коўня, 23.11.1923. Тэкст драмы надрукаваны ў: «Замежная Беларусь». Зборнік гісторыі, культуры і эканомікі. Пад рэдакцыяй П. А. Крэчэўскага. Кніжка першая. Прага, Выдавецтва ім. Ф. Скарыны, 1926 г., б. 79–98. Драма цікавая зьместам, хоць слабаватая беларускаю моваю ды тэхнікай вершаваньня. П. Зьніч — гэта паэтычны псэўдонім Пётры Крэчэўскага. Ідэйна рэч вельмі моцная. Пралёг, прыкладам, канчаецца сцэнаю, у якой, калі князь Глінскі сам у начы абыходзіць засланае трупамі Смаленскае пабоішча, у галюцыянацыі перад ім устаюць тысячы паўшых ягоных суродзічаў з крыкам:*

*На суд іх, на суд ваявод!..*
*Хто здрадзіў свой край і народ!*

*У апошнім трэцім акце князь Глінскі, асьлеплены, сядзіць у падзямельным склепе Масквы ды памірае на руках сваё вернае дачкі.*

*Дык драматычная творчасьць пачалася ў нас на эміграцыі не ад нашых толькі часоў і не пасьля апошняе толькі вайны, але, найменш, ад эміграцыі БНР.*

*Прывітаньні!*

*Ваш В. Тумаш.*

*28 лістапада 1973 г.*

*Д-ру В. Тумашу*
*Ў Нью-Ёрку.*

*Вельмішаноўны Доктару!*

*Дзякуй за высылку Аляхновічавай п’есы «Круці, ня круці, трэба памярці», якую атрымаў у канцы мінулага тыдня, а сёньня і адбіткі іншых рэчаў, за якія гэтак сама шчыра дзякую.*

*З гэтым высылаю Вам і адбітак Аляхновічавай п’есы для таго, каб Вы перадалі яе ў Славянскі адзьдзел Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэкі, каб хоць гэтая п’еса была даступная магчымым дасьледнікам беларускае драматургіі. Арыгінальнае выданьне вышлю пазьней адмысловай поштай.*

*У канцы тыдня я наведваў Нью-Ёркскую Бібліятэку і сярод іншых рэчаў рабіў спробу атрымаць «Гісторыю Беларускай літаратуры» Гарэцкага, але аж тры дні мне заўсёды адказвалі, што няма на паліцы. Такім чынам, мушу прасіць Вас зрабіць мне адбітак з Вашага паасобніка таго разьдзела пра Ф. Аляхновіча, пра які Вы згадвалі ў Вашым лісьце ад 17 лістапада г. г., за што з гару дзякую. А каб да гэтага далучылі адбітак Аляхновічавага твору з Хрэстаматыі Дварчаніна, ды яшчэ адбітак «Здрады» П. Зьніча з «Замежнае Беларусі», дык разам з іншымі рэчамі, якія маю (Кавылёвы п'есы, «Загубленае жыцьцё» Лебяду ды іншыя), гэта ўжо будзе ладны матар'ял для задуманае працы, якую, дарэчы, мушу скончыць да канца году.*

*Карыстаюся нагодай запытацца, ці не Адамовіч зьяўляецца аўтарам літаратурна-сцэнічнага мантажу з Багдановічавых вершаў пад назвай «У Месячных сецях», які быў выдрукаваны ў часапісу «Сакавік» Нр. 2 (2), 1948, што выдаваўся ў Остэргофэне, Нямеччына? «Змантаваў С. Смутніца» — сказана там. І ці не ягоны твор «Васілёк і Незабудка» пад псэўданімам В. Аганька зьмешчаны ў першым нумары таго-ж «Сакавіка»? (Нр. 1, 1947)? Ці ведаеце што-небудзь пра тое, у каго захаваўся рукапіс твору К. Каганца «Сын Даніла», гістарычная драма ў трох дзеях, што была выдрукавана ў тым-жа «Сакавіку» нр. 1 за 1947? І апошняе пытаньне: ці няма ў вашэці біяграфічных вестак пра Кавалеўскага Аўгена[706] і ў якім дакладна годзе ён памёр у Парыжы?*

*Дзякуй. Ваш У. Глыбінны.*

*1.12.1973*

*Вельмі Паважаны Спадару Прафэсару!*

*Учора прыйшлі Ваш ліст і адбітка Аляхновічавага «гротэску» ды і сам арыгінал яе. Згодна з Вашым зычэньнем фатакопію перадам у славянскі аддзел бібліятэкі. Сяньня, разам з гэтым лістом, здаю на пошце й канвэрт з фатастатамі матарыялаў пра Аляхновіча ў М. Га-*

[706] **Аўген Кавалеўскі** (07.01.1921, Масква — 1963, Парыж, Францыя), грамадска-культурны дзеяч, драматург.

*рэцкага ды І. Дварчаніна. Што да «Здрады», вышлю як толькі фатастат будзе гатовы. Між іншым, хоць пад загалоўкам гэтае драмы напісана «інсцэнізацыя» паэмы Рылеева, ды гэта шмат больш, чым інсцэнізацыя, а хутчэй шырокае разьвіцьцё галоўнае ідэйнае тэмы гэтае паэмы, з зусім самастойнымі дадаткамі. Гэта паказвае й тое, што тэкст інсцэнізацыі разы тры большы за тэкст паэмы Рылеева. Калі-б у Вас пад рукою ня было-б тэксту паэмы Рылеева, мог-бы прыдбаць Вам яе фатакопію.*

*Што да «Здрады», цікавы гістарычны фон і час публікацыі драмы гэтакага зьместу й гэтакага назову. Яна апублікаваная ў выданьні Крэчэўскага, вялікая частка якога адведзеная публікацыі матарыялаў пра «здраду» трох сяброў ураду БНР ды пераезду ў БССР — Старшыні Рады Міністраў ды Міністра Замежных справаў А. Цьвікевіча, Дзяржаўнага Кантралёра Л. Зайца ды Дзяржаўнага Пісара У. Перакулевіча. Гэтае здрады дайшло на канфэрэнцыі ў Бэрліне 12–15 кастрычніка 1925 году, на якой галоўным прадстаўнікам з боку савецкага быў Зьмітро Жылуновіч. Вось таму ў выданьні колькі месяцаў пасьля гэтага «Замежнай Беларусі», П. Крэчэўскі, ён-жа П. Зьніч, і надрукаваў сваю інсцэнізацыю «Здрада», зьмест якой накіраваны галоўна на асуджэньне здрады найбліжэйшае, нядаўнае. І словы ў драме «На суд іх, на суд, ваявод... што здрадзілі край і народ..» накіраваныя ў дадзеных гістарычных абставінах найперш супроць трох «ваявод» Глінскіх часу публікацыі. Падобных словаў у паэме Рылеева няма.*

*Вашыя пытаньні пра аўтара літаратурна-сцэнічных мантажоў, што былі надрукаваныя ў «Сакавіку», пастараюся выясьніць, ды аб гэтым адразу напішу. Тоесамае й пра рукапіс «Сына Данілы».*

*Высылаю разам і запросіны на нашую тут мастацкую выстаўку, якая будзе адкрытая ў нядзелю 9 сьнежаня а 1-й гадзіне дня. Варта было-б пад'ехаць, паглядзець ды напісаць артыкул-уражаньні. Калісьці Вы далі добрыя артыкулы з галіны мастацкае, варта вярнуцца да гэтае тэмы, каб не марнаваць сваіх здольнасьцяў у гэтай галіне.*

*Прывітаньні!*

*Ваш В. Тумаш.*

*7 сьнежня 1973 г.*

*Д-ру В. Тумашу*
*Ў Бронксе, Н. Ё.*

*Высокашаноўны Доктару!*

*Дзякуй за высылку балонак з Дварчаніна і Гарэцкага. Атрымаў сваечасова. Буду ўдзячны і за магчымую высылку мне і тэксту «Здрады» і «Глінскі» Рылеева.*

*На вялікі жаль, абставіны не дазволілі мне прыехаць на адчыненьне мастацкае выстаўкі, на якую Вы былі ласкавы запрасіць мяне. Магчыма, прыеду ў якую іншую нядзелю, пакуль адчынена. Але ня думаю, што з мяне будзе карысьць якая: я ўжо даўно страціў пачуцьцё да пісаньня пра малярства. Іншыя зацікаўленьні выціснулі ўсё іншае да рэшты. Яшчэ зьдзіўлены, як не забываецца родная мова.*

*Прагледзіў Анталёгію беларускай паэзіі па-ангельску ў перакладзе Веры Рыч*[707]*. Бязумоўна, выдатная падзея ў жыцьці беларусаў у сьвеце. Адно шкада, што зусім няма выдатнага паэты Ўладзімера Жылкі, паэты-імажыністага Ўладзімера Хадыкі, выдатнага паэты Юлія Таўбіна, ягонага пабраціма Зьмітрака Астапенкі, ды дзе-каго іншага. Слаба рэпрэзантаваны Язэп Пушча і Ў. Дубоўка. Ёсьць недакладнасьці ў анатацыях пра паэтаў. Аднак увогуле ўражаньне дадатнае. Дзякуй Богу, што ўдалося абдурыць саветчыкаў адносна вокладкі: от недзе цяпер яны плююцца ды ганяць нейкага ёлупня за тое, што не дагледзіў*[708]*.*

*З глыбокай пашанай, Ваш У. Глыбінны.*

*16.12.1972*

*Вельмі Паважаны Спадару Прафэсару!*

*На Вашую просьбу высылаю фатастаты «Здрады» П. Зьніча ды паэмы «Глінскі» Рылеева. Як падлічыў, дра-*

---

707 Like water, like fire: an anthology of Byelorussian poetry from 1828 to the present day. Selected and translated by Vera Rich. London, Allen & Unwin, 1971. На вокладцы была змешчана выява Пагоні, праз што ўзнік скандал з савецкімі прадстаўнікамі.

708 Пра сітуацыю з вокладкай анталогіі можна прачытаць у: Анталёгія беларускае паэзіі па-ангельску. Пераклад Веры Рыч // Беларус. № 172. Жнівень 1971. С. 2.

*ма Зьніча мае 563 радкі, а паэма Рылеева — 144, ці бо драма чатыры разы даўжэйшая. Хоць у ёй і ёсьць некаторыя радкі, якія зьяўляюцца перакладам з Рылеева, ды яна ў запраўднасьці самастойны твор, шырака разьвіты, драматызаваны на аснове кароткае паэмы Рылеева, а ня проста «інсцэнізацыя». Рылееў, які першы раз сваю паэму друкаваў у 1822 годзе, пра Глінскага пісаў: «Измена его отечеству и погибельный конец весьма поучительны».*

*Выясьніў і Вашыя пытаньні з папярэдняга ліста: дагадкі Вашыя правільныя, што й Смутніца, і Аганёк гэта тойсамы Бірыч, або — А. Адамовіч. Рукапіс твору каганца «Сын Даніла» на амэрыканскім кантынэньце, хоць дакладна ўстанавіць дзе ён цяпер мне й не ўдалося.*

*Што да анталёгіі Веры Рыч, дык там ня толькі справа ў вокладцы ды Пагоні, або некаторых ейных камэнтарох. Ня ведаю, ці Вы зьвярнулі ўвагу на тое, што ейны даўжэйшы артыкул датаваны: 25 сакавіка 1968 г., што значыць ня што іншае, як тое, што сваю ўсю працу над анталёгіяй яна прысьвяціла адзначэньню 50-годзьдзя акту 25 Сакавіка. Не маглі не заўважыць гэтага і ў Маскве, хоць па часе. Масква й працуе над тым, каб недагляд свае замежнае цэнзуры паправіць, а наймен — часткова знэўтралізаваць. Колькі гадоў таму з Англіі ў Маскву перавязьлі нейкага камуніста-паэціка, якому дадзена даручэньне падрыхтаваць новую анталёгію беларускае паэзіі ў ангельскім перакладзе. Яна ўжо друкуецца ў Маскве. Дык будуць выбіваць клін-клінам, ды ў выніку будзе дзьве анталёгіі.*

*Выстаўка нашых мастакоў Амэрыкі і Эўропы ўжо адчыненая. Заўтра-ж адчыняецца выстаўка другая — у Славянскім аддзеле Публічнае Бібліятэкі пра Літоўскі Статут.*

*Прывітаньні зь Нью Ёрку!*

*З Калядныме Сьвятамі!*

*У глыбокай пашане, Ваш В. Тумаш.*

*8 студзеня 1974 г.*

*Вельмі Паважаны Спадару Прафэсару!*

*Гэтымі днямі дастаў пару скрынак архіўных матарыялаў, што перасланыя для Інстытуту, і ў іх натрапіў на тэксты трох драматычных твораў, што ставіліся калісьці ў Рэгензбургскім ДП лягеры. Гэта сцэнічны абразок для дзяцей Н. Арсеньневай «У гасьцёх у Каляды» і два другія, абодва таксама здаецца Арсеньневай, творы: «Кастусь Каліноўскі», мантаж у 3-х абразках, і «Бацькаўшчына» — вершаваны мантаж.*

*Калі яшчэ не запозна й гэтыя матарыялы Вам яшчэ патрэбныя, магу заказаць фатастаты ды іх Вам даслаць.*

*У папярэдніх лістох забыўся успомніць Вам аб тым, што хоць у Аргентыне здаецца ніхто драматычных твораў і ня пісаў, але беларускія пастаноўкі былі. У 1934 годзе ў Буэнос Айрэс адбылася першая беларуская пастаноўка. Ставілі «Мікітаў лапаць» Чарота. У Вільні меў у руках выдадзеную з гэтае нагоды адмысловую прапагадную лістоўку, якая пачыналася гордымі словамі: «Першы раз у Аргентыне ў беларускай мове». На лістоўцы была памешчаная й фатаграфічная зьнімка сцэны з гэтае п’есы. Пісаў я пра гэта калісьці ў апошнім нумары віленскага «Беларускага летапісу»*[709]*, дзе зьмясьціў і фатаграфію. Каб былі нейкія сцэнічныя пастаноўкі ў міжваенную пару ў ЗША, пра гэта ня ведаю. Але беларускія канцэрты ладзіліся ў сярэдзіне дваццатых гадоў напэўна ў Чыкага, галоўны арганізатар былы прэм’ер ураду БНР Варонка. Прыпадкам маю ў сваім архіве праграмы двух гэткіх канцэртаў.*

*Нешта здаецца ставілася й першыя гады пасьля першае сусьветнае вайны ў Коўні ды, крыху пазьней, у Рызе, дзе існавала беларуская сярэдняя школа. Дык уважней разглянуўшыся, мы ня першыя эміграмты, што выказвалі актыўнасьць у сцэнічнай галіне.*

*Зычу ўдачы ў заплянаванай працы!*

*З прывітаньнем В. Тумаш.*

---

[709] **«Беларускі летапіс»** — штомесячны культурна-грамадскі і літаратурны часопіс дэмакратычнага кірунку, заснаваны як орган Таварыства беларускай школы. Выдаваўся ў 1933–1939 гг.

*14 студзеня 1974 г.*

*Д-ру В. Тумашу*
*Ў Нью-Ёрку*

*Вельмі шаноўны Доктару!*

*Усе высланыя Вамі матар'ялы дастаў і шчыра дзякую за вялікую дапамогу ў маёй працы. Вашае паведамленьне аб знойдзеных сцэнічных абразках «У гасьцёх у Каляды», «Кастусь Каліноўскі», «Бацькаўшчына» мяне вельмі ўзрадавала. Бясспрэчна, буду Вам вельмі ўдзячны за магчымую высылку фатастатаў і тых адшуканых твораў. А заадно і Вашу зацемку ў «Беларускім Летапісу» аб беларускім паказе ў Аргентыне.*

*Маю яшчэ, спадзяюся, апошняе пытаньне да Вас адносна драматычных твораў на выгнаньні. Кастусь Акула друкаваў у «Бацькаўшчыне» сваю камэдыю «Тараканы ў саладусе» (недзе ў сярэдзіне пяцідзясятых гадоў). Я ня маю «Бацькаўшчыны» за тыя гады, але спадзяюся, што яна ёсьць у Вас. Ці не маглі-б Вы зазірнуць туды і даслаць мне калі ня фота, дык прынамсі дакладныя бібліяграфічныя дадзеныя пра Акулаў твор. З гары дзякую. З найлепшымі зычэньнямі і, хоць спозьненым, Калядным і Навагоднім павіншаваньнем. Ваш У. Глыбінны.*

*17 студзеня 1974 г.*

*Вельмі Паважаны Прафэсару!*

*Згодна з вашаю просьбаю перасылаю тут фатастаты машынапісных тэкстаў драматычных твораў: абразкоў «У гасьцёх у Каляды», «Кастусь Каліноўскі», «Бацькаўшчына». Першая зь іх напэўна Арсеньневай, на апошняй бачыне ейнаю рукою ёсьць пададзенае месца й дата напісаньня й навет сьпіс «артыстых» — дзяцей, якія ігралі паасобныя ролі ў часе пастаноўкі на Каляды 1947 г. І другі твор напэўна ейны, хоць на машынапісе гэта й не напісана, думаю, таксама й трэці.*

*Прошаная Вамі бібліяграфічная анатацыя пра камэдыю К. Акулы: «Тараканы ў саладусе». Камэдыя ў 3-х дзеях. «Бацькаўшчына», Нр. 22–26, Мюнхэн, 1957. Лістаючы гадавікі «Бацькаўшчыны» заўважыў і іншы драматычны твор: Я. Юхнавец. Узгоркі й пячоры. Драматычны нарыс. «Бацькаўшчына», Нр. 23–30. Мюнхэн, 1959 г.*

*Фатастату з «Беларускага летапісу» на жаль пераслаць не магу, бо яго ня маю. Была гэта не зацемка, але большы арыкул пра жыцьцё беларусаў у Аргентыне, ня помню якім псэўданімам маім падпісаны (у Польшчы мы рэдка пісалі пад сваім прозьвішчам). Не магу падаць і нумару часапісу, але гэта быў апошні нумар перад выбухам вайны, значыцца году 1939, і з друку паказаўся ў першыя дні верасьня гэтага году, ня было ўжо магчымасьці разаслаць яго поштай.*

*У сваім папярэднім лісьце пісаў Вам аб тым, што ў ЗША, паколькі мне ведама, ладзіліся ў дваццатых гадох гэтага стагодзьдзя толькі беларускія канцэрты. Расшукаў цяпер праграмы гэтых канцэртаў і пераканаўся, што мыляюся. Гэта былі канцэрты, але й з драматычнымі пастаноўкамі, хоць не беларускімі, але ўкраінскімі (як «Запарожац за Дунаем»). Фатастаты загалоўных бачынаў праграмаў 2-х гэтых вечароў Вам тут перасылаю разам і з бачынамі з пералікам паасобных нумароў на вечарох. Цікава тое, што ладзячы гэтыя вечары, Варонка выдаваў іх праграмы ў форме «журналу-праграмы». У праграме вечару 1930 г. ён памясьціў і пяць сваіх артыкулаў пра беларускае жыцьцё ў Амэрыцы й на бацькаўшчыне (артыкулы пісаныя па-расейску). Між іншага, артыкул «Нашы задачы» ён заканчвае так: «А там может быть удастся организовать первый в Америке белорусский театр, белорусский хор, белорусские школы… Все придет… все придет… Колесо истории вертится в нашу сторону… Нужно только не унывать, а работать, работать и работать на благо нашего народа…».*

*Дык чым далей — тым больш матарыялу! А калі ўсё сабраць акуратна — можна было-б напісаць працу й на цэлы том. І тэкстаў твораў таксама сабралося-б на том. І шмат рэчаў ёсьць недрукаваных. Вышэй згаданыя творы Арсеньневай, здаецца, таксама ня былі друкаваныя. У мяне пад рукой вось ляжыць недрукаваны яшчэ драматычны твор Я. Юхнаўца «Урачыстасьць у садзе» — твор у 5-ці дзеях.*

*Пішачы пра драматычную творчасьць на чужыне ня трэба забывацца, што пачалася яна яшчэ нашаніўскімі*

*часамі ў Пецярбургу. У міжваенныя гады адбываліся беларускія пастаноўкі ў Варшаве, у Рызе, і, здаецца, у Коўні.*

*Прывітаньні!*

*Ваш В. Тумаш.*

*4 лютага 1974 г.*

*Д-ру Тумашу*
*Ў Нью-Ёрку*

*Вельмі Паважаны Доктару!*

*Усё высланае Вамі атрымаў і скарыстаў для маёй працы, якую ўжо закончыў. Пра Салаўёву спробу ў драме таксама згадаю ў канцы працы і падам месца знаходжаньня ў БІНІМ, як згадана і пра спробу Юхнаўца і дзекаторых іншых аўтараў.*

*Ваша дапамога мне вельмі, вельмі прыдалася, бо іначай бы мусіў езьдзіць у Нью-Ёрк колькі разоў, а на тое няма часу: ёсьць шмат іншых абавязкаў і зацікаўленьняў. Дык шчыра Вам дзякую за ўсё тое, чым Вы прычыніліся да мае працы на нашую агульную нацыянальную карысьць. З найлепшымі зычэньнямі, пашанай і прывітаньнямі Вашай сямейцы, У. Глыбінны.*

*ПС. Антось Адамовіч абяцаў мне перафатаграфаваць з «Крывіча» артыкул-успамін Вацлава Ластоўскага пра Максіма Багдановіча. Ён гэта можа зрабіць дарма ў Камітэце Радыя «Свабода», пакуль яшчэ там да лета. Быў бы Вам удзячны, каб яму прыгадалі пры нагодзе сустрэчы аб ягоным абяцаньні. Дзякую з гары. У. Г.*

*27 красавіка 1974 г.*

*Вельмі Паважаны Прафэсару!*

*У мае рукі днямі трапіла вельмі рэдкае — «белы крук» — беларускае выданьне міжваеннае пары: праскі часапіс «Іскры Скарыны»*[710]*. У ім надрукаваны другі драматычны твор Пётры Крэчэўскага «Рагнеда». Чуюся ў абавязку пераслаць Вам хоць-бы бібліяграфічную аб*

[710] Iskry Skaryny. Praha. Belaruskaje (Kryvickaje) Kulturnae T-va im. F. Skaryny. № 1–5. 1931–1935.

*ёй выпіску. «Рагнеда» паказвае, што «Здрада» была не адзіным ды прыпадковым у драматычнай галіне творам П. Крэчэўскага. Выяўляецца, што гэтаю галіною творчасаьці ён цікавіўся, тэатр любіў, сам пробываў сваіх сілаў як драматург.*

*Твор займае ў часапісе 15 бачынаў друку. Гэта вершаваная інсцэніроўка ведамае летапіснае лягенды пра наезд на Полацак кіеўскага князя Валадзімера, пра забойства князя Рагвалода ды захоп сілаю сабе ў жонкі ягонае дачкі Рагнеды, пра спробу пазьней Рагнеды ў Кіеве забіць сьпячага Валадзімера. Дата напісаньня твору падазеная пры канцы — «Коўня, 6.1.1923 г.».*

*Рэдакцыйная даведка інфармуе, што твор друкуецца з пасьмертнае спадчыны Пётры Крэчэўскага, «былога старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі», ды што гістарычная драма «першая спроба» «апрацаваньня гістарычнае мінуўшчыны нашага народу» з пары змаганьня Кіева з Полацкам «за вялікі водны шлях з Варагаў у Грэкі».*

*Перасылаю ніжэй выпіску назову твору лацініцай — часапіс друкаваўся лацініцай — каб, у патрэбе, маглі пры друку Вашае працы пра беларускую драматычную творчасьць на чужыне падаць хоць бібліяграфічную даведку пра гэты цікавы твор «Старшыні Рады БНР».*

*З пашанай Ваш В. Тумаш.*

# ШТО ХАВАЕ «ТАБАКЕРКА»

*Чую шорхат лапат…*
*Гэта бібліятэкары-далакопы*
*хаваюць мае кнігі на спецыяльных паліцах-могілках.*
Змітрок Бядуля «Сярэбраная табакерка»

Як часам цікава складваецца ў нашай гісторыі літаратуры з асобнымі творамі. І як незаўважна гэта паўз нас мінае.

Апошні твор Змітрака Бядулі «Сярэбраная табакерка» (далей — СТ) быў напісаны, ці, дакладней, скончаны, калі верыць датаванню пад рукапісам, што захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у 1940 г. Урыўкі з казкі друкаваліся ў газетах таго ж 1940 г., але цалкам яна была апублікаваная адно ў 1953 г.[711] Аўтар гэтага не пабачыў, бо памёр у лістападзе 1941 г.

Апошні свой драматургічны твор, *«сцэнічны гратэск у шасці абразках з пралогам»* «Круці не круці — трэба памярці», Францішак Аляхновіч змясціў на старонках «Новага шляху» ў 1943 г.[712]; налетась выйшла асобнае выданне, якое ён мог і не патрымаць у руках: пра брашурку з тэкстам п'есы «Беларуская газета» паведаміла 31 траўня 1944 г, а 3 сакавіка драматург быў забіты ў сябе на кватэры.

От жа калі Бядуля дакладна не мог прачытаць п'еску Аляхновіча, дык віленчук — тэарэтычна — абсалютна быў у стане пазнаёміцца з урыўкамі казкі, бо савецкія газеты ў беларускую Мекку дастаўляліся больш-менш спраўна. Шкада толькі, што праз неўкамплектаванасць беларускіх перыёдыкаў таго часу ў амерыканскіх бібліятэках немагчыма спраўдзіць, якія менавіта кавалкі былі выдрукаваныя.

[711] Полымя. № 10. 1953.
[712] Новы шлях. 1943. № 17–24.

Што яднае згаданыя творы, за выняткам трагічнага падабенства ў лёсе аўтараў, ды які іхны змест, пераказваць не буду: і так забагата ў нашым літаратуразнаўстве шматстаронкавага пераказу. То лепш паглядзім, што было сказана пра казку і п’есу прафесіяналамі.

Мой калега па аспірантуры ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі Уладзімір Ковель пісаў пра п’есу свайго паддаследуемага — Аляхновіча: «*Драматург нібы размывае водападзел паміж дабром і злом, фіксуе тую каштоўную нявызначанасць, якая ўзнікае са стратай чалавекам маральных арыенціраў. П’янства — адна з пастаянных адмоўных велічынь, характарызуючых жыццё народа. Нездарма адну са сваіх п’ес на гэтую тэму М. Гарэцкі назваў «Атрута». Ад «атручанага» мужыка нячыстая сіла дазнаецца, што той запрадаў Смерць алхімікудоктару, які і хавае яе. Нячысцікі падымаюць людзей на бунт супраць жыцця ўвогуле, але за жыццё ўласнае, меркантыльнае. У сваёй антычалавечай салідарнасці аб’ядноўваюцца далакоп і сталяр, шляхціцы, поп і ксёндз і г. д. Драматург праводзіць думку, што ў жыцці людзі часта кіруюцца не розумам (што можа быць больш неразумным, чым вызваленне Смерці?!), а мімалётнымі парываннямі, жаданнямі, безгрунтоўнымі мроямі*»[713].

Пакінем убаку нечаканае антыалкагольнае прачытанне ды «антычалавечы» бунт фактычна ўсіх герояў п’есы (хто ж тады тое чалавецтва, супраць якога ўзняліся? адзін Алхімік?[714]) і паглядзім, што пісаў старэйшы калега, прафесіяналтэатразнаўца Анатоль Сабалеўскі… Зрэшты, зацытаваць

[713] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Т. 1. 1901–1920. Мінск, 1999. С. 356–357.

[714] Хоць гэта стаіць трохі ўбаку ад схаванага ў табакерцы, не магу прамінуць і не даць чытачу на параўнанне два перадсмяротныя дыялогі. Першы — Алхіміка з гратэску: *«Чакайце!.. Дайце сказаць!.. Людзі! Чакайце, паслухайце мяне! Я шчасьце вам хачу даць, я Сьмерць трымаю ў няволі, яна ня вырвецца ніколі!..*

*Чартоўская сяброўка, Люцыпарава сваячка, наш вораг найвялікшы, праклятая душагубка — Сьмерць — у маіх руках!.. Яе ня выпушчу на сьвет праз тысячу гадоў і болей!.. Ужо ня вырвецца ніколі з маіх рук!..*

*Я — ваш друг, я — ваш брат, даю вам вечнае жыцьцё… Я несьмяротнасьць вам даю!.. Ці разумееце вы гэта? Ці можаце вы ўцяміць гэта?! Маёй перш-наперш было мэтай, каб эліксір знайсьці жыцьця…*

асабліва няма чаго, акром, хіба, наступнага: «*Асноўная праблема п’есы — жыццё і смерць — пераважна вырашаецца*

---

*Гадоў шмат гэтак мучыўся… Навукі ўсе як сьлед пазнаў… Сваіх я сіл не шкадаваў, каб ашчасьлівіць род людскі…*

*Пашанцавала мне ў жыцьці, бо Сьмерць лёс добры ў рукі даў, дык крэпка я яе схаваў, каб вам даць вечнае жыцьцё, каб несьмяротнымі зрабіць…*

*За гэта славы не шукаў і непатрэбны грошы мне, даволі сьведамасьці гэтай, што думкі зьдзейсьніліся мае!*

*Чаго вам трэба ад мяне? Ці ашалелі вы тут усе? Чаму праклёны на маю, маю сівую галаву так кідаеце легкадумна?.. Эх, людзі неразумныя! Вы самі ня ведаеце, што робіце!».*

*І дыялог іншага доктара, што вывучыў і філасофію, і права, і тэалогію, і медыцыну:*

*«Ня скорана пагібельная багна,*
*На плён, здабыты мною, зеўрыць прагна,*
*Ды я падступную стыхію змушу*
*Аддаць захопленую сушу*
*Мільёнам рупных пасялян.*
*Няхай пагрозай вечнай калыхацца*
*Ля дамбы будзе грозны акіян,*
*Свабодны люд і радасная праца*
*Шчасьлівым зробяць гэты ўбогі край,*
*І на зямлі яны здабудуць рай.*
*Няхай раз’юшаны марскі прыбой*
*Аб дамбу хвошча, люта б’е —*
*Народ з’яднанаю сям’ёй*
*Стыхію грозную скуе.*
*На запавет мой гэты скіраваны*
*Усе мае зямныя справы, пляны,*
*Увесь цялесны і духоўны гарт.*
*Дык вось канечны вынік мудрасьці людской,*
*Што толькі той жыцьця і волі варт,*
*Хто кожны дзень за іх ідзе на бой.*
*Хай так жыве стары і малады.*
*Калі-б у працы ўбачыў я заўсёднай*
*Народ свабодны на зямлі свабоднай,*
*Імгненна-б я сказаў тады:*
*«Цудоўнае, спыніся! — панясу*
*З сабой у вечнасьць я тваю красу».*
*Ня можа ў вечнасьці прапасьці*
*Усё, што я пасьпеў зрабіць для шчасьця.*
*Я, прадчуваючы трыумф надзей маіх,*
*Жыцьця перажываю лепшы міг».*

*ў філасофскім плане, без асаблівай канкрэтызацыі побыту і каларытных рэальных дэталяў, якія ўласцівы большасці твораў Ф. Аляхновіча*»[715].

Дзеля аб'ектыўнасці трэба нагадаць, што творчасць Францішка Аляхновіча — параўнальна новая тэма для беларускага літаратуразнаўства — была вернутая і дазволеная да разгляду і ацэнак усяго толькі ў 1990-х гг., і ад таго часу займела нават манаграфічны дослед, які, што праўда, цытаваць не хочацца[716].

Зусім іншая справа — Змітрок Бядуля, класік, чыё імя заўсёды стаіць у адным шэрагу з імёнамі Купалы, Коласа, Багдановіча, а пасля прабачэння і даравання — і Гарэцкага ды Гаруна. Праўда, размова пра Бядулю рэдка самастойна выходзіць за межы гэтага пераліку, і складана сказаць, што менавіта замінае больш зацікаўленаму погляду на ягоную творчасць ці на творчасць — назаву першае імя, што прыйшло ў галаву, — Юлія Таўбіна, таксама паэта «з шэрагу», але далёка не шараговага паэта; застаецца тым часам толькі канстатаваць сам факт.

Падобнае незразумелае стаўленне да твораў ці постаці Бядулі характэрна не толькі для метраполіі, але і для дыяспары. На эміграцыі былі зробленыя шыкоўныя салідныя выданні Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, выдадзеныя важныя і важкія творы Вацлава Ластоўскага, Максіма Гарэцкага, Уладзіміра Жылкі, Андрэя Мрыя, Лукаша Калюгі. Перадрукоўвалі і памнажалі не ў самыя спрыяльныя часы ў лагерах *DP* зборнікі Уладзіміра Дубоўкі і Язэпа Пушчы.

Публікацыі ж Бядулевых твораў, як і пра яго, льга пералічыць на пальцах абедзвюх рук. З спадчыны пісьменніка былі надрукаваныя — у газетах, не кнігаю: «Малітва малога Габрусіка»[717]; «Салавей»[718]; «Волат»[719]. З публікацыяў пра яго можна толькі назваць успамін Коласавага брата Міхася Міцкевіча «Вольная

---

[715] Сабалеўскі, Анатоль. Драма жыцця // Францішак Аляхновіч. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 19.

[716] Няфёд, Уладзімір. Францішак Аляхновіч: тэатральная і грамадска-палітычная дзейнасць. Мінск, 1996. — 144 с.

[717] Бацькаўшчына. № 6–7 (288–289). 11 лютага 1956. С. 3.

[718] Бацькаўшчына. № 47–48 (329–330). 25 лістапада 1956. С. 4–6; № 49 (331). 2 сьнежаня 1956. С. 2–3; № 51–52 (333–334). Каталіцкія Каляды 1956. С. 5–7; № 1–2 (335–336). 7 студзеня 1957. С. 3–6; № 3 (337). 20 студзеня 1957. С. 2–3; № 4 (338). 27 студзеня 1957. С. 2–3.

[719] Беларус. № 71. Лістапад 1961. С. 3.

Беларусь» і ейныя супрацоўнікі»[720]; М. Гайніча (нерасшыфраваны псеўданім) «Зьмітрок Бядуля (23.04.1886–3.11.1941)»[721]; непадпісаны, але, без сумневу, аўтарства Антона Адамовіча «Ясакар-Бядуля на пазыцыях «нутраное эміграцыі. [З радыёвай хвалі «Свабоды»]»[722] ды Станіслава Станкевіча «Зьмітрок Бядуля-Ясакар»[723].

(Праўда, на календары 1953 г., выдадзеным у Кліўлендзе, партрэт Зм. Бядулі прысутнічае — побач з партрэтамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Францішка Багушэвіча, Цёткі, Максіма Багдановіча, Язэпа Пушчы і Уладзіміра Дубоўкі).

Шмат зрабіла Вера Рыч, пераклаўшы нізку Бядулевых вершаў[724] ды прысвяціўшы ягонай прозе колькі старонак у кнізе пра вобраз габрэя ў беларускай літаратуры[725].

Калі б той Станіслаў Станкевіч рыхтаваў Бядулевы творы ў сваёй «Бацькаўшчыне», ён бы прымусіў напісаць добры ўступны артыкул-успамін Антона Адамовіча, і шмат якія б сакрэты ды таямніцы прыадчыніліся.

Праўда, Вітаўт Кіпель згадвае[726], што творчасцю Бядулі быў захоплены Вітаўт Тумаш; ён збіраў матэрыялы, марыў выдаць кнігу[727]. Але гэтаму супрацівіўся акурат Адамовіч, які адмоўна ставіўся і да Тумашавай ідэі, і наогул да Бядулевых твораў, а мо і да самога пісьменніка. Магчыма, прычынаю было нешта

---

720 Беларус. № 59. 10 сакавіка 1957. С. 4–6.

721 Беларус. № 71. Лістапад 1961. С. 3.

722 Бацькаўшчына. № 3 (603). 25 сакавіка 1963. С. 4.

723 Беларус. № 110. Травень 1966. С. 3.

724 Like Water, Like Fire: An Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day. London, 1971. — 347 p.; The images swarm free: bi-lingual selection of poetry by Maksim Bahdanovič, Aleś Harun and Źmitrok Biadula. London: The Anglo-Byelorussian Society, 1982. — 135 p.

725 Blum, Jakub. Rich, Vera. The Image of the Jew in Soviet Literature. London—New York, 1984. — 256 p.

726 Вуснае паведамленне Вітаўта Кіпеля ад 23.07.2011.

727 З ліста Вітаўта Тумаша да Аўгена Каханоўскага ад 07.12.1954: *«Зьмітрок Бядуля — у мяне асабіста ёсьць «Збор твораў» у 4 тамох выданьня 1951–1953 гадоў. Гэта фактычна ня «збор» твораў, а толькі выбар, і выбар вельмі няпоўны. Там перадрукаваныя раманы «Салавей» і «Язэп Крыушынскі». Ёсьць ягоныя кнігі і ў тутэйшай Ляйбрары: і абодва раманы, і «Апавяданьні», «На зачараваных гонях», «Дэлегатка», «Буралом», «Нязвычайная гісторыя», «Паэмы» (1927), «Выбраныя творы» і інш.».*

асабістае, з часоў «Узвышша»; цяперака папытаць ужо няма ў каго.

З разглядам СТ Бядулевай спадчыне пашанцавала найменш: жанр, пазначаны аўтарам як казка, вывеў яе з-пад увагі літаразнаўцаў як штосьці нядольнае стаяць побач з «Язэпам Крушынскім», «Салаўём», «Пяццю лыжкамі заціркі» ці хоць бы аўтабіяграфічнай аповесцю «У дрымучых лясах».

У СТ губляецца мяжа тропу і жанру — метафары і казкі, — не адрозніваеш чалавека ад зайцаў, сарок, іншых жывёлаў, не заўважаеш пераход ад звыклай нам рэчаіснасці да фантастычнага свету казкі. І от атрымоўваецца, што зайцу ўласцівыя рысы чалавека, а чалавеку — характар зайца. Адным словам, «*на прыкладзе аб козах і розных стракозах яны паказваюць жыццё. Яны паказваюць жыццё дзе хочаш і як хочаш*»[728].

Казцы ў прысвечаных творчасці Бядулі аддаецца апошняе месца: не толькі як апошняму твору пісьменніка, але і па колькасці прысвечаных ёй старонак і думак[729].

Міхась Клімковіч лічыць, што СТ «*накіравана супраць «памоцнікаў смерці» — капіталістаў, папоў»*[730].

Міхась Смолкін пачынае быццам ісці ў шматабяцальным напрамку (*«Казка Бядулі паставіла пытанне інакш: а што, калі паспрабаваць схапіць смерць і схаваць яе ад чалавека? Што будзе, калі людзі адчуюць сябе неўміручымі?»*[731]), але не можа адказаць, чаму ж людзі і без смерці не пачуваліся шчаслівымі, і піша: *«Пісьменьнік напоўніў казку грамадскім, сацыяльным зместам. У ёй, побач са звярамі і птахамі, дзейнічаюць людзі (скамарохі, аптэкар Савіцкі, каваль Ксаверый, Люсенька, кардынал Баніфацый, папа Пій X і інш.). Усе яны дзеляцца на два варожыя лагеры: прадстаўнікі народа, простыя людзі (да іх адносіцца і заяц па прозвішчу Дзіда-дзе), якія затыкаюць смерць у цёмную табакерку; ворагі народа — яны хочуць выпусціць смерць, бо без смерці няма войнаў, а без войнаў няма жыцця пануючым класам*»[732].

---

[728] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5. Мінск, 1989. С. 339.
[729] У том з «залатой бібліятэкі», выдаванай Кнігазборам, казка нават не была ўключаная (Бядуля, Змітрок. Выбраныя творы. Мінск, 2006. — 496 с.).
[730] Клімковіч, Міхась. Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мінск, 1962. С. 115.
[731] Смолкін, М. Змітрок Бядуля. Мінск, 1961. С. 205.
[732] Смолкін, М. Змітрок Бядуля… С. 205.

Для В. Лашкевіч СТ — *«гэта твор пра гуманізм і інтэрнацыяналізм»*[733], а таксама «*пра заўтрашні дзень навукі»*[734].

Вось Івану Навуменку *«думаецца, у аповесці ў завуаліраванай форме адлюстраваны сталінскі дэспатызм, жорсткія, бесчалавечныя рэпрэсіі 1937–1938 гг.»*[735]. Гэтым ён тлумачыць факт, што пры жыцці аўтара твор не быў выдрукаваны цалкам.

Акадэмічны аўтар не паразважаў добра ці хоць бы пашкалярску не падрахаваў, што казка, скончаная ў 1940 г., не мела шанцаў пабачыць свет да лістапада 1941 г.: ніякі тагачасны Логвінаў не паспеў бы, нават каб не замінаў яму такі малазначны побытавы факт, як Другая сусветная вайна.

І забыўся таксама Навуменка, а мо хутчэй за ўсё і не ведаў, што тры перадваенныя гады, калі замена Яжова на Берыю ў 1938 г. (так званая *малая адліга*) і вяртанне двух мільёнаў з «сталінскай акадэміі», былі параўнальна спрыяльным часам у літаратурным ды і наогул культурным жыцці СССР.

Да таго ж, як сведчыць выяўлены архівістам Віталём Скалабанам дакумент, СТ была аддадзеная на рэцэнзію і выклікала закіды і нараканні зусім іншага плану[736].

Не згадваў зусім СТ Антон Адамовіч, але менавіта яму належаць самыя цікавыя ў нашым літаратуразнаўстве звесткі і думкі пра Бядулю.

У сваёй працы «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры» Адамовіч піша, што Бядуля «*ішоў тым самым шляхам літаратурнай нутраной эміграцыі», што і Янка Купала, і Якуб Колас*»[737], а творчы метад пісьменніка акрэсліў як «*мэтад «гістарычнага пераапрананьня» ўлучэньнем партрэтаў сваіх сучасьнікаў пад выглядам гістарычных асобаў (як у roman á clef — «рамане з ключом»*)*»*[738] і Бядуля называе — распранае — прататыпаў[739].

---

[733] Лашкевіч, В. Змітрок Бядуля — дзецям. Мінск, 1986. С. 60.

[734] Лашкевіч, В. Змітрок Бядуля — дзецям… С. 61.

[735] Навуменка, Іван. Змітрок Бядуля. Мінск, 1995. С. 129. Гэтую думку ён паўторыць праз чатыры гады ў «Гісторыі беларускай літаратуры» ў раздзеле пра Бядулю, напісаным пры дапамозе нажніц і клею.

[736] Рублевская, Людмила. Скалабан, Виталь. Время и бремя архивов и имен. Минск, 2009. С. 96–101.

[737] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускай літаратуры. Менск, 2005. С. 820.

[738] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускай літаратуры… С. 881.

[739] Адамовіч, Антон. Да гісторыі беларускай літаратуры… С. 881.

Той самы метад скарыстаны Бядулем і ў другой кнізе «Язэпа Крушынскага», дзе ён гратэскава малюе Шчылу (М. Шылу), Гамоньку (Мамоньку), Саколіча (А. Смоліча), Гарунову (П. Бадунову), Кахарку (В. Захарку), *«лейб-крытыка»* Максіма Гайдача (М. Гарэцкага), *«худую, сінявокую, юрлівую»* княгіню Радзівіл. Пра Л. Зайца, сябру Рады Першага Усебеларускага кангрэсу, дзяржаўнага кантралёра ва Урадзе БНР, казаў вуснамі пані Марыі: *«А Лявончыка ведаеце? Спрытненькі, чорненькі, у маршчынках»*.

Відаць, у 1950-х, калі выдаваўся чатырохтамовы збор твораў Бядулі, усё было яшчэ настолькі пазнавальным для дасведчаных[740], што рэдакцыйная калегія мусіла зазначыць: *«Пісьменнік імкнуўся як мага дакладней выкрыць злачынствы зусім канкрэтных ворагаў. Адсюль наяўнасць у кнізе публіцыстычных мясцін, якія мелі цікавасць на той момант, калі адбывалася само выкрыццё таго ці іншага нацыянальнага дзеяча, злоўленага з палічным. Такая публіцыстычнасць не магла доўга жыць у мастацкім творы. [...] Рэдакцыйная калегія палічыла неабходным апусціць некаторыя месцы з падобнай публіцыстыкай, са спасылкамі на творы і дакументы, якія на сённяшні дзень не прадстаўляюць ніякай цікавасці чытачам і будуць толькі псаваць уражанне ад мастацкага твора»*[741].

Лагічна дапусціць, што і ў СТ скарыстаны такі самы метад, і слушна піша З. Мельнікава, што гэта твор-загадка, своесаблівы твор-код[742]. Але замест разгадкі: *«Многія эпізоды твора надзвычай сугучны эпосе масавых рэпрэсій. Яны — не проста вольнае фантазіраванне аб спосабах масавага ўсыплення чалавецтва і духоўнага знішчэння людзей. Яны — трапнае мастацкае люстэрка беларускага жыцця канца 30-х гадоў»*[743]. Цалкам верагодна, што яно сапраўды так, але якраз гэты пласт — навідавоку і не патрабуе дэшыфрацыі.

Дык як расшыфроўваць СТ, калі код невядомы?

Патлумачу, што маю на ўвазе.

---

[740] Верагодна, гэта быў Міхась Клімковіч. Ягоныя калегі па рэдкалегіі, А. Семяновіч і Ул. Карпаў, былі значна маладзейшыя.

[741] Бядуля, З. Збор твораў у чатырох тамах. Мінск, 1951–1953.

[742] Мельнікава, З. Беларускае гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства. Брэст, 2003. С. 239.

[743] Мельнікава, З. Беларускае гісторыка-функцыянальнае літаратуразнаўства… С. 239.

Напрыклад, адна з варагінь Дзіды-дзеда — пані Сарачынская. Чаму менавіта так назваў яе Бядуля? Проста па сугуччы з сарокаю? А можа аўтар меў на ўвазе сарачынскі капялюш[744], як часам называлі шапку Манамаха — сімвал расійскай улады? І тады вобраз сарокі ўспрымаецца зусім па-іншаму, ці не так?

Хутчэй за ўсё, былі рэальныя прататыпы і ў кардынала Баніфацыя (*«худы даўганосы чалавек»*[745]), хірурга (*«высокі чарнявы заіка»*[746]), ды шмат у каго, але вылічыць іх на сёння ўяўляецца малаверагодным, хіба — з прыпадковым шанцаваннем.

Затое бадай не выклікае сумненняў прататып вобразу кучаравага паэты, цара скамарохаў — на маю думку, адзін з цэнтральных, а мо і найгалоўнейшых герояў у СТ, — гэта сам Бядуля: *«У маладога чалавека была густая кучма валос, мройныя вочы незвычайнага колеру, далікатныя рукі з доўгімі пальцамі»*[747].

Менавіта такім паўстае аўтар ва ўспамінах: *«З пышнай густой шавялюрай, яго кучаравыя валасы былі быццам толькі што пасля завіўкі»*[748], *«валасы ў Бядулі былі цёмныя, кучаравыя, па іх плылі то дробныя, то буйныя хвалі, і гэта дадавала яго абліччу паэтычнай натхнёнасці»*[749], *«штосьці дэманічнае было ў яго абліччы з кучаравымі валасамі, вялікімі вачыма і губамі»*[750].

Віктар Антонавіч Каваленка лічыў СТ алегарычнаю казкаю з выразнаю фальклорна-вобразнаю сістэмаю[751]. Мне ж думаецца, што СТ — не казка, а апокрыф; жанр, падказаны, магчыма, назвай твора заўчасна памершага блізкага сябры Бядулі,

---

[744] Гл. пушкінскае з поўнай версіі «Казкі пра рыбака і рыбку»:

*«Перед ним вавилонская башня.*
*На самой на верхней на макушке*
*Сидит его старая старуха.*
*На старухе сарачинская шапка,*
*На шапке венец латынский,*
*На венце тонкая спица,*
*На спице Строфилус птица».*

[745] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5. Мінск, 1989. С. 313.
[746] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 321.
[747] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 332.
[748] Успаміны пра Змітрака Бядулю. Мінск, 1988. С. 15.
[749] Успаміны пра Змітрака Бядулю… С. 41.
[750] Успаміны пра Змітрака Бядулю… С. 128.
[751] Каваленка, В. Пошукі і здзяйсненні. Творчасць Змітрака Бядулі. Мінск, 1963. С. 206.

твора, дзе ёсць наступныя радкі: *«3. І хадзіў Ён па Забраным Краі: і па Занёманшчыне, і па Задзьвіншчыне, і па Бярэзінскай зямлі. 4. І разам зь ім сьвяты Пётра й сьвяты Юр'я. Але ніхто зь людзей не пазнаваў Яго»*[752].

У СТ пайшоў вандраваць па свеце і Дзіда-дзед, а *«Саўка і Юрка таксама далі згоду не пакідаць яго»*[753], і кучаравы паэт, супляменнік Ісусавы, цар скамарохаў з сваім народам — *«назіраць, як неўміручыя людзі будуць шыць свой вечны бот жыцця»*[754].

У гэткім вандраванні, па начах, калі падданыя клаліся спаць, кучаравы паэт пісаў скамарошныя п'есы. І напісаў п'есу, лёгкую ды маленькую, пра паланенне смерці, бо *«прыходзілася напамінаць пра Смерць, каб больш шанаваць жыццё»*[755].

Тэксту самой п'есы ў СТ, як вядома, няма, але ці не напісаў яе замест Бядулі Аляхновіч, які ўжо меў у нечым падобны вопыт — з Купалаваю «Паўлінкаю»? «Круці не круці…» па сваім жанры якраз надаецца да скамарошнага відовішча. І там сапраўды прысутнічаюць непрыхаваныя намёкі на Сталіна:

*«Люцыпар: Усе нячысцікі сюды! Ведзьмы! Чэрці! Упыры!*

*Я — Люцыпар, — я ваш пан, ваш вучыцель, ваш вялікі, наймудрэйшы, найяснейшы, геніяльны, найсвяцейшы, усемагутны, неабмыльны, гаспадар ваш, старшыня — адчыняю гэты сход. […]*

*1-шы Чорт: Наш вучыцель! Наш вялікі! Родны бацька наймілейшы! Наймудрэйшы. Найсвяцейшы! Геніяльны! Незраўнальны! Правадыр наш! Наша сонца! К свету яснаму аконца! Усемагутны! Неабмыльны! Над чартамі найвышэйшы! Найдужэйшы гаспадар! Прашу слова, наш ўладар!»*[756].

І ставіў сваю п'есу кучаравы паэт, цар скамарохаў, і ішлі ўсе далей. І ўся казка-апокрыф натуральна падводзіць падрыхтаванага чытача да паэтавае прапановы самому зрабіцца богам, а ўсім астатнім — анёламі (якая спакуса тут правесці паралель з «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»!). І не гэтулькі істотныя прычыны падобнае пастановы, колькі неабходнасць сур'ёзнага

[752] Багдановіч, Максім. Вянок паэтычнай спадчыны. Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1960. С. 234.
[753] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 312.
[754] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 336.
[755] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 339.
[756] Аляхновіч, Францішак. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 179.

стаўлення да яе, бо, як кажа Дзіда-дзед, *«хто плюе ў сваю вясну, будзе мець неўраджайную восень»*[757].

Прататып яшчэ аднаго героя, аптэкара Савіцкага, наўрад ці варта шукаць па падабенству: той *«мае два гарбы, адзін спераду, другі — ззаду. Рукі і ногі ў яго доўгія. На носе ў яго барадаўка. Барада і вусы чорныя. Вочы чорныя»*[758]. А вось аўтаравая спагада да чалавека, які ўсімі сіламі намагаўся рабіць добрае для чалавека — расціць мясныя буракі, прыдумваць парашкі, але, тым не менш, насуперак уласным інтэнцыям стаўся фактычна здраднікам, гаворыць сама за сябе. Як і зусім не казачныя словы дзеда-апавядальніка пра аптэкара: *«Справа ў тым, што не кожны чалавек можа быць героем»*[759]. Аўтар ліста *«Патрабую самых суровых мер для прыхвасняў польскага фашызму»*[760] ведаў тое не па чутках.

Калі казаць пра адлюстраванне ў СТ рэалій Беларусі часу напісання твора, то найбольш красамоўным будзе ўкладзенае ў вусны Савіцкага неразуменне: «*Я цяпер нібы Смерць у табакерцы, — падумаў аптэкар. — Але ж я нікога не крыўдзіў. А калі я прыдумаў сонны парашок на людзей, дык не для таго, каб яго ўжываць. Я ж не думаў ім карыстацца… У чым жа справа*?»[761].

Зрэшты, пры ўсіх намаганнях выявіць прататыпы герояў СТ і нават паспяховым вырашэнні гэтай сапраўды важнай праблемы, наўрад ці тое дэшыфруе сам твор, калі не разберамося з тэмаю, падазрона замоўчанаю ўсімі даследчыкамі Бядулевай творчасці.

Ідзецца пра тэму смерці. І адпіскі, што, маўляў, у СТ уздымаюцца праблемы жыцця і смерці, не працуюць, бо нічога не тлумачаць.

Можна шмат напісаць пра барацьбу дабра і зла, але якое гэта мае дачыненне да ўкратавання смерці ў Бядулевай СТ і абразку Аляхновіча? Дзе там дабро і дзе зло, ды, нарэшце, што гэта за казка, дзе зло перамагае?

Надзвычай дасціпна заўважыў акадэмік Навуменка: *«Беларускай літаратуры пашанцавала ў тым сэнсе, што Змітрок Бядуля вучыўся ў хедэры, ешыбоце і добра ведаў Біблію, рэлігію, няхай сабе юдаісцкую»*[762]. Сапраўды, няхай.

[757] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 376.
[758] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 347.
[759] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 360.
[760] Звязда. 6 снежня 1930.
[761] Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 353.
[762] Навуменка, Іван. Змітрок Бядуля. Мінск, 1995. С. 130.

Бядуля наогул чытаў багата: *«Калісьці ў маленстве ён чытаў у нейкай смешнай кніжцы аб тым, як акамянела на дарозе жонка вядомага на ўсім свеце п'яніцы Лота»*[763]. Тою вясёлаю кніжкаю быў Талмуд.

Хутчэй за ўсё быў знаёмы Бядуля і з міфамі — не толькі іудаісцкімі, але і старажытнагрэцкімі.

Альберт Камю ў «Міфе пра Сізіфа» піша, што пакаралі небараку, згодна з Гамерам, за разбойніцтва, выдаванне сакрэтаў багоў ды іншае штукарства, кшталту выпрабавання вернасці сваёй жонкі.

Прабачце, але, далібог, вось гэта смешна, я б нават дазволіў сабе сказаць — абсурдна. У гамераўскай Грэцыі было столькі герояў і разбойнікаў (часта-густа аддзяліць першых ад другіх наўпрост немажліва), што ніякай фантазіі багам бы не хапіла на прыдумванне адмысловых, персанальных пакаранняў. Ды і што ім, алімпійцам, да дробных людскіх міжсабойных звягаў?! Не, тут было нешта іншае, асабістае; за штосьці, скіраванае не супраць чалавека, але бога.

І мінімальна абазнаны ў старажытнагрэцкіх міфах лёгка адкажа, што менавіта. Так, увязненне Сізіфам бога Таната найбольш раззлавала Зеўса: перасталі паміраць людзі. Парушыўся заснаваны вярхоўным алімпійцам парадак на зямлі. За гэта ён быў пакараны настолькі езуіцкі, што стаўся крылатым выразам.

Тэмаю смерці Бядуля цікавіўся здаўна. Яшчэ ў 1920-х гг. ён напісаў артыкул «Народная імправізацыя» пра пахавальныя галашэнні, дзе назваў іх *«адной з першых форм у паэзіі»*, бо *«галашэньне творыцца ня штучна, а ліецца з набалелай душы, з гаротнага сэрца проста, не задумваючыся аб тым, як сказаць свае словы, каб яны выходзілі прыгажэйшымі»*[764].

Вобраз смерці, стаўленне да яе — адзін з найбольш кансерватыўных элементаў культуры любое нацыі. І гэта яскрава бачна ў такіх разнапланавых творах, як Бядулева СТ[765], абразок Аляхновіча, камедыя Кандрата Крапівы «Брама неўміручасці» і Караткевічава «Ладдзя Роспачы».

---

763 Бядуля, З. Збор твораў у пяці тамах. Т. 5… С. 362.

764 Беларускі каляндар на 1922 год. Вільня, 1921. С. 26.

765 Пра сувязь смерці з табаком гл.: Волкова, Т. Повести и легенды о табаке в контексте мифопоэтических представлений о смерти // Смерть как феномен культуры. Сыктывкар, 1994. С. 75–95.

*«Няхай жыве смерць»* — кажа герой п’есы Крапівы вучоны Абадоўскі.

*«Людзі!.. Вы не ведаеце, што робіце! Шалёныя! Вы сцягнеце праклён на свае галовы!.. Няшчасныя!.. Смерць павінна жыць, бо без мяне жыццё людзям будзе неўмагату!»*[766] — адгукаецца яму Смерць з Аляхновічавага твора.

Справа не ў тым, што смерць неперαможная, а ў тым, што яна неабходная.

І Бядуля, які чытаў не толькі Стары Запавет, але і Новы, напэўна, ведаў словы з Святога Дабравесця паводле Лукаша:

*«Кажу ж бо вам, сябрам Маім: не бойцеся тых, што забіваюць цела і потым не могуць нічога болей зрабіць.*

*А скажу вам, каго баяцца: бойцеся таго, хто пасля забойства можа ўкінуць у геену; праўда, кажу вам, таго бойцеся»* (12, 4–5).

У гэтым заключаецца парадокс: хвароба і смерць мусяць існаваць, каб чалавек мог прыняць рашэнне жыць. Яна напаўняе жыццё сэнсам і глыбінёю; яна не руйнуе, а стварае. Для несмяротнага такія паняткі, як небяспека, мужнасць не існуюць, яму невядома самаахвярнасць.

Гэта цвердзіць хрысціянства: смерць ёсць апошняе пераканаўчае сведчанне любові. Неўміручасць — пакаранне, што спазнаў на сабе Агасфер, Вечны Жыд, адмовіўшы Ісусу ў спагадзе.

Вось у гэтым я бачу нутраны супраціў Бядулі ў СТ: не ў стварэнні алегорый на сталінскія рэпрэсіі, якія б імгненна вылічылі рэцэнзенты-цэнзары ды знішчылі — рукапіс казкі ці жыццё аўтара, а ў сцверджанні евангельскай ісціны: баяцца Бога, а не злога, ды не ісці супраць свайго сумлення.

*«І не бойцеся тых, што забіваюць цела, але ж душы забіць не могуць; а бойцеся болей Таго, Хто можа і душу, і цела загубіць у геене»*. (Мацв., 10, 28).

Мо і невялікая знаходка ў табакерцы, але ж добрую табаку трэба браць ашчадна — на адзін нюх.

---

[766] Аляхновіч, Францішак. Выбраныя творы. Мінск, 2005. С. 163.

ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА, КРЫТЫКА

*на старонках газет «Бацькаўшчына» і «Беларус»*

**А. А. Прызналіся** // Бацькаўшчына. № 27 (309). 1 ліпеня 1956. С. 2–3.

*Водгук на артыкул В. Барысенкі і Ю. Пшыркова «Неадкладныя задачы нашага літаратуразнаўства».*

**А. Б. Адступнікі** // Бацькаўшчына. № 12 (596). 22 жніўня 1962. С. 2.

*Раман Алеся Адамовіча «Война под крышами».*

**А. Б. Замест паэзіі — прапагандовы «шырспажыў»** // Бацькаўшчына. № 32 (418). 24 жніўня 1958. С. 4.

**А. Б-к. Не дагадзілі** // Бацькаўшчына. № 29–30 (415–416). 10 жніўня 1958. С. 1.

*Гісторыя п'есы Андрэя Макаёнка «Каб людзі не журыліся».*

**А. Г. Бібліяграфія твораў Янкі Купалы** // Бацькаўшчына. № 23 (409). 22 чырвеня 1958. С. 3.

*Рэцэнзія на «Бібліяграфію твораў Янкі Купалы», складзеную Ул. Луцэвіч, Н. Кудраўцавай, Я. Прыбытковай, І. Жыдовічам.*

**Аглядальнік. Насуперак творчаму сумленьню. Нататкі чытача** // Бацькаўшчына. № 12–13 (496–497). 25 сакавіка 1960. С. 5.

*Водгук на апавяданне Антона Бялевіча «Дзве долі».*

**Аглядальнік. Прапагандовая тандэта** // Бацькаўшчына. № 28–29 (210–211). 25 ліпеня 1954. С. 3–4.

*Крытыка кнігі Макара Паслядовіча «Святло над Ліпскам».*

**Аглядальнік. Сьвет вымушаных штампаў. Нататкі чытача** // Бацькаўшчына. № 14 (498). 3 красавіка 1960. С. 4.

*Водгук на аповесць Макара Паслядовіча «З табою побач».*

**Адамовіч, Антон. Алесь Гарун. Жыцьцё й творы** // Бацькаўшчына. № 33 (568). 13 жніўня 1961. С. 3; № 34 (569).

20 жнівеня 1961. С. 2–3; № 35 (570). 27 жнівеня 1961. С. 2–3; № 36 (571). 3 верасьня 1961. С. 2–3; № 37 (572). 10 верасьня 1961. С. 2–3; № 38–39 (573–574). 24 верасьня 1961. С. 3–7; № 40 (575). 1 кастрычніка 1961. С. 2–3.

**Адамовіч, Антон. На нівах і ўзвышшах беларускага слова** // Бацькаўшчына. № 21 (303). 20 травеня 1956. С. 2; № 22 (304). 27 травеня 1956. С. 2–3; № 25–26 (307–308). 24 чырвеня 1956. С. 6–7; № 27 (309). 1 ліпеня 1956. С. 2–3; № 28–29 (310–311). 15 ліпеня 1956. С. 3–4; № 30 (312). 22 ліпеня 1956. С. 2; № 31 (313). 29 ліпеня 1956. С. 2–3; № 32 (314). 5 ліпеня 1956. С. 2; № 33 (315). 12 жнівеня 1956. С. 2–3; № 34 (316). 19 жнівеня 1956. С. 3; № 35–36 (317–318). 2 верасьня 1956. С. 2–3; № 37 (319). 9 верасьня 1956. С. 2; № 38 (320). 16 верасьня 1956. С. 2–3; № 39 (321). 23 верасьня 1956. С. 2–3; № 41 (323). 7 кастрычніка 1956. С. 2–3; № 44 (326). 28 кастрычніка 1956. С. 2–3; № 46 (328). 11 лістапада 1956. С. 3; № 50 (332). 9 сьнежаня 1956. С. 2–3; № 51–52 (333–334). Каталіцкія Каляды 1956. С. 3–4; № 5 (339). 3 лютага 1957. С. 2–3; № 10 (344). 10 сакавіка 1957. С. 2.

**Адамовіч, Ант. Наш Багдановіч** // Бацькаўшчына. № 31 (467). 9 жнівеня 1959. С. 2–3; № 32 (468). 30 жнівеня 1959. С. 2–3; № 33 (469). 6 верасьня 1959. С. 2–3; № 34 (470). 13 верасьня 1959. С. 2–3.

**Адамовіч, Антон. Пяцьдзясят год таму** // Беларус. № 283–284. Лістапад-сьнежань 1980. С. 6.

*Пераклад старонак кнігі А. Адамовіча «Opposition to Sovietization in Belorussian Literature», дапоўненых некаторымі дэталямі.*

**Адамовіч, Ант. «Як дух змаганьня Беларусі». Да 100-х угодкаў нараджэньня Івана Луцкевіча** // Беларус. № 294–295. Лістапад-сьнежань 1981. С. 2; № 296. Студзень 1982. С. 1–2; № 297. Люты 1982. С. 1–2; № 298. Сакавік 1982. С. 1–2; № 299. Красавік 1982. С. 1; № 300. Травень 1982. С.1, 4; № 301–302. Чырвень-ліпень 1982; № 303–304. Жнівень-верасень 1982. С. 3.

**Адамовіч, Антон. Якуб Колас (8.11.1882–13. 8. 1956)** // Беларус. № 305. Кастрычнік 1982. С. 1.

*Фота, падараванае Якубам Коласам Яўхіму Кіпелю ў 1929 г.*

**А. Дз-ка. Пэрыяд чырвоных буслоў** // Бацькаўшчына. № 9 (239). 27 лютага 1955. С. 1.

*Аналіз газеты «Літаратура і мастацтва».*

**Адказ Рэдакцыі. Аўтару верша «Тэзей»** // Беларус. № 3 (5). 20 верасьня 1951. С. 4.

**А. З. Аб аднэй дыскусіі ў «Полымі»** // Бацькаўшчына. № 11 (495). 13 сакавіка 1960. С. 1, 4.

*Літаратурная дзейнасць Якуба Коласа.*

**А. З. Канфлікт навукоўцаў з дыктатурай** // Бацькаўшчына. № 1–2 (536–537). Праваслаўныя Каляды. 7 студзеня 1961. С. 6.

*Да стварэння шматтамовай гісторыі беларускай літаратуры ў АН БССР.*

**А. З. Партыйная эквілібрыстыка ў літаратурнай крытыцы БССР** // Бацькаўшчына. № 14–15 (549–550). Вялікдзень 1961. С. 5–6.

**А. К-а. Даклад паэты Алеся Салаўя** // Беларус. № 247. Лістапад 1977. С. 4.

*Даклад «Паэзія, строфіка, элемэнты тэорыі літаратуры і стылістыкі».*

**Акінэр, Шырын. Сучасныя маладыя беларускія паэты. 1967–1975** // Беларус. № 248. Сьнежань 1977. С. 4–7; № 249. Студзень 1978. С. 4–5; № 256. Люты 1978. С. 4–5.

*Пераклад артыкула з «The Journal of Byelorussion Studies» (1976). Аўтарка — Шырын Акінэр, бацька якой пакістанец, маці — валійка.*

**Акула, К. Кастусь Цьвірка шляхам Сыракомлі** // Беларус. № 222. Кастрычнік 1975. С. 3–4.

*Водгук на кнігу К. Цвіркі «Дарога ў сто год» (Мінск, 1974).*

**Акула, К. Ліст у рэдакцыю** // Беларус. № 205. Травень 1974. С. 4.

*Адказ на рэцэнзію Станіслава Станкевіча («Беларус». № 204. Красавік 1974) на кнігу Кастуся Акулы «Закрываўленае сонца».*

**Акула, К. Пасьля першых адгалоскаў** // Бацькаўшчына. № 2 (602). 24 лютага 1963. С. 1–2.

*Новыя, удакладненыя факты да кнігі «Змагарныя дарогі».*

**Акула, К. Праблема выдаваньня літаратуры** // Беларус. № 289. Травень 1981. С. 4.

*Водгук на кнігу Арнольда Макміліна «Літаратура Беларусаў» (1977).*

**Акула, К. Як паказаліся ў людзі…** // Беларус. № 144. Красавік 1969. С. 4–5.

*Водгук на публікацыі Л. Прокшы, Г. Акулевіча, Я. Семяжона.*

**Аўсянік, З. Эмілія Плятэр — беларуская паэтка** // Беларус. № 280–281. Жнівень-верасень 1980. С. 6.

*Водгук на кнігу Адама Мальдзіса «Таямніцы старажытных сховішчаў» (Мінск, 1974).*

**Бабарэка, А. Паэма «Сымон Музыка» Якуба Коласа** // Бацькаўшчына. № 36–37 (218–219). 10 кастрычніка 1954. С. 6–7;

№ 38 (220). 17 кастрычніка 1954. С. 4; № 39–40 (221–222). 31 кастрычніка 1954. С. 3.

*Перадрук з: «Узвышша». № 3. 1927.*

**Багдановіч, Максім. Забыты шлях. Літаратурна-крытычны артыкул** // Бацькаўшчына. № 20–21 (354–355). 26 травеня 1957. С. 6–7.

**Бакуновіч, Уладзімер. Вершы Рыгора Данілеўскага** // Беларус. № 247. Лістапад 1977. С. 5.

**Барычэўскі, А. «Матчын Дар» Алеся Гаруна** // Бацькаўшчына. № 26 (561). 2 ліпеня 1961. С. 2–3; № 27 (561). 9 ліпеня 1961. С. 2–3; № 28 (563). 16 ліпеня 1961. С. 2–3; № 29–30 (564–565). 23 ліпеня 1961. С. 6–7.

**Беларус. Стральба па мерцьвякох нічога ня дасьць** // Беларус. № 357а. Сакавік 1989. С. 8.

*Сучасная публіцыстыка БССР.*

***Белы, Анатоль. Скарынаведная кніга «Запісаў». «Запісы» № 18. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк, 1988*** // Беларус. № 366. Студзень 1990. С. 3, 6.

**Беразьняк, Алесь. Крыніцы ды ня тыя** // Бацькаўшчына. № 28 (362). 14 ліпеня 1957. С. 3.

*Водгук на раман Івана Шамякіна «Крыніцы».*

**Брага, Сымон. Ліст у Рэдакцыю** // Бацькаўшчына. № 3 (47). 23 студзеня 1949. С. 4.

*С. Брага даводзіць, што апавяданне «У Сьвяты Калядны Вечар» напісаў ён, а не Хв. Ільляшэвіч (гл. «Беларускае Слова». № 2. 1 студзеня 1949; «Шляхам Жыцьця». № 12. 25 сьнежаня 1946).*

**Брат Уладзімер Першы. Аб паэзіі й паэтах** // Бацькаўшчына. № 6 (442). 8 лютага 1959. С. 3–4.

**Брылеўскі, Уладзімер. Вершы Аляксандра Гідоні** // Беларус. № 269. Верасень 1979. С. 6.

**Будзіч, А. Гаруноўскія Ўзвышшы. (Па сьлядох Краўчанкавага апавяданьня «Незвычайная знаходка»)** // Бацькаўшчына. № 44 (579). 29 кастрычніка 1961. С. 4.

**Васілеўскі, Алесь. «Астравы на далёкіх азёрах»** // Беларус. № 294–295. Лістапад-сьнежань 1981. С. 4.

*Водгук на аднайменную аповесць В. Гігевіча.*

**Васілеўскі, Алесь. «Дзе мой дом?»** // Беларус. № 331. Кастрычнік-лістапад 1986. С. 3.

*Рэцэнзія на аповесць беларускага пісьменніка Артура Цяжкага.*

**Васілеўскі, Алесь. «Пераклады» твораў Васіля Быкава** // Беларус. № 283–284. Лістапад-сьнежань 1980. С. 4, 7.

**Васілеўскі, Алесь. Пра жанатых донжуанаў** // Беларус. № 290–291. Чырвень-ліпень 1981. С. 7.

*Мараль і этыка ў творах Н. Гілевіча, Ул. Саламахі, М. Барэйшы.*

**Васілеўскі, Алесь. «Старая хата»** // Беларус. № 319. Травень 1984. С. 1.

*Крытычны аналіз аднайменнай аповесці Алеся Кажадуба («Нёман». 1983).*

**Васілеўскі, Алесь. «Хворае (і бязьдзейнае) сумленьне». Праблематыка апавяданьняў Вольгі Іпатавай** // Беларус. № 301–302. Чырвень-ліпень 1982. С. 4, 6.

**Васілеўскі, Алесь. Эротыка ў беларускай прозе** // Беларус. № 324. Сьнежань 1984. С. 5.

**В. Г. Адсутнасьць «дадатных герояў» у савецкай літаратуры** // Бацькаўшчына. № 45 (227). 5 сьнежаня 1954. С. 2.

*«Векапомныя дні» Міхася Лынькова. Гутарка зь беларускім літаратурным крытыкам Алесем Беразьняком // Бацькаўшчына. № 29–30 (415–416). 10 жнівеня 1958. С. 5.*

**Вельмі прыхільны водгук Андрэя Дружыніна на кнігу нарысаў Юрыя Стукаліча «Мы дойдзем» зьмешчаны ў кнізе 33–34 «Современника» (Таронта, Канада). [Што чуваць?]** // Беларус. № 245. Верасень 1977. С. 6.

**Вехавы верш. «Прыстасаванцы» Пімена Панчанкі** // Беларус. № 348. Чырвень 1988. С. 7.

**Віцьбіч, Юрка. Бахрым ці «Багрым»? (Друкуецца як артыкул дыскусійны)** // Бацькаўшчына. № 35 (265). 28 жнівеня 1955. С. 3–4.

**Віцьбіч, Юрка. Трубадур віцебскіх падпольных пацукоў** // Бацькаўшчына. № 1 (634). Сакавік 1966. С. 4.

*Водгук на пашквільную кнігу Рыгора Няхая «Героі не адступаюць» (Мінск, 1965).*

**Вобраз гэбрая ў беларускай літаратуры. (Якуб Блюм і Вера Рыч. «Вобраз гэбрая ў савецкай літаратуры», 276 с.)** // Беларус. № 326. Люты 1985. С. 4.

**Водгукі на кніжку С. Яновіча «Беларусь, Беларусь»** // Беларус. № 349. Ліпень 1988. С. 6.

**Вожык, Алесь. Сёмы член мясцкому** // Беларус. № 230–231. Чырвень-ліпень 1976. С. 6–7.

*Водгук на аднайменнае апавяданне Паўла Кавалёва («Полымя». № 6. 1976).*

**Выданьне, якога ў нас яшчэ не было** // Бацькаўшчына. № 8–9 (190–191). 28 лютага 1954. С. 1.

*Да выхаду ў свет выбраных твораў Янкі Купалы «Спадчына».*

**Высокая ацэна «Спадчыны» Янкі Купалы** // Бацькаўшчына. № 47–48 (277–278). 27 лістапада 1955. С. 4.

**Вярба, М. Прамень будучыні — ці сутункі сучаснасьці?** // Беларус. № 4 (28). 21 лютага 1953. С. 2.

*Водгук на п’есу Васіля Віткі «Прамень будучыні».*

**Вярба, Мікола. Моцныя духам** // Бацькаўшчына. № 23 (357). 9 чырвеня 1957. С. 1.

*Лёс перакладу на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэуш».*

**Вярба, Мікола. Перавяршылі барона Мільгаўзэна** // Бацькаўшчына. № 51–52 (281–282). Каталіцкія Каляды 1955. С. 3.

*Водгук на падручнік «Беларуская літаратура для VIII клясы» пад рэд. В. В. Барысенкі і М. Ц. Лынькова.*

**Вярба, Мікола. Спадчына Янкі Купалы ў савецкім выданьні** // Бацькаўшчына. № 14 (244). 3 красавіка 1955. С. 2.

**Галубіцкі, А. Кніжка аб Бацькаўшчыне. (Юрка Віцьбіч. «Плыве з-пад Сьвятой Гары Нёман», Мюнхэн, 1956, 94 с.)** // Бацькаўшчына. № 4 (338). 27 студзеня 1957. С. 2.

**Галубіцкі, А. Крыху аб адным аглядзе** // Бацькаўшчына. № 22 (356). 2 чырвеня 1957. С. 1, 4.

*Водгук на артыкул Ул. Калесніка «Усебакова асвятляць гісторыю літаратуры».*

**Галубіцкі, А. Перагортваючы бачынкі** // Бацькаўшчына. № 12–13 (394–295). 25 сакавіка 1956. С. 3.

*Агляд газеты «Літаратура і мастацтва».*

**Галубіцкі, А. Шукайце, паэты! Колькі заўвагаў не-паэты да «Думак аб паэзіі»** // Бацькаўшчына. № 35 (421). 14 верасьня 1958. С. 3.

**Гісторыя «Дабрасельцаў» ня скончылася** // Бацькаўшчына. № 38 (424). 5 кастрычніка 1958. С. 3–4.

**Гіцкі, У. «Курган» Янкі Купалы** // Бацькаўшчына. № 25–26 (307–308). 24 чырвеня 1956. С. 3–4.

**Глыбінны, Уладзімер. «Гараватка», кніга трэйцяя: «Беларусы, вас чакае зямля»** // Беларус. № 292. Жнівень-верасень 1981. С. 4–5.

**Два вершы а. Я. Тарасэвіча ў часапісе «Сяўбіт» (№ 92, ліпень-жнівень 1973). [Што чуваць?]** // Беларус. № 195. Ліпень 1973. С. 6.

**Дзівасіл. «Буржуазныя нацыяналістыя» не даюць спакою** // Беларус. № 211. Лістапад 1974. С. 6.

*Водгук на артыкул Івана Сачанкі «Беларускія пісьменнікі супраць буржуазных нацыяналістаў» («Полымя». Кастрычнік 1974).*

**Дзівасіл. Словы нацыянальнае ганьбы** // Беларус. № 191. Сакавік 1973. С. 3.

*Канцэпцыя дружбы народаў у сучаснай беларускай літаратуры.*

**Драчульскі, А. «Мы дойдзем»** // Беларус. № 219. Ліпень 1975. С. 6.

*Перадрук з: «Новое Русское Слово». 1 чырвеня 1975. Дазвол аўтара. Рэцэнзія на кніжку Юркі Віцьбіча.*

**Дубовік, Ю. Некалькі пытаньняў і заўвагаў Янку Брылю** // Бацькаўшчына. № 6 (392). 9 лютага 1958. С. 4.

*Водгук на дарожныя нататкі Янкі Брыля «Слова па шчырасці» («Маладосць». 1958).*

**Дубяйкоўская, Юльяна. Алёйза Пашкевічанка-Цётка** // Беларус. № 223–224. Лістапад-сьнежань 1975. С. 6–7.

**Жук, В. Самабытнасьць творчасьці Янкі Купалы** // Бацькаўшчына. № 30–31 (260–261). 21 ліпеня 1955. Літаратурны дадатак. С. 4–5.

**З. Фільм «Раскіданае гняздо»** // Беларус. № 301–302. Чырвень-ліпень 1982. С. 6.

*Інтэрпрэтацыя Купалавай драмы Р. Склютам.*

**Загорны, А. Пра рэалізм Талстога й сацрэалізм Шамякіна** // Беларус. № 258. Кастрычнік 1978. С. 5.

*Беларуская «вясковая проза».*

**Загорны, А. Як прафэсар Лойка «цытуе» Каліноўскага** // Беларус. № 255–256. Ліпень-жнівень 1978. С. 1.

**Загорны, Арсень. Пра вершы Пушкіна й Купалы** // Беларус. № 327. Сакавік-ліпень 1985. С. 6.

**Загорны, Арсень. Пра «пекла» Сяргея Грахоўскага** // Беларус. № 314. Лістапад-сьнежань 1983. С. 4, 7.

**Загорны, Арсень. «Скарына і наш (зрусыфікаваны) час»** // Беларус. № 276. Красавік 1980. С. 5.

*Водгук на кніжку Вячаслава Шалькевіча «Скарына і наш час» (Мінск, 1979).*

**Загорны, Арсень. Супраць каго паўстаньне? (Адказ Міхасю Мушынскаму)** // Беларус. № 344. Люты 1988. С. 3.

*Палеміка вакол Дубоўкавай паэмы «Плач навальніцы».*
*Антон Адамовіч, Уладзімір Дубоўка, Арнольд Макмілін.*

**Залескі, А. «Джамалумгма» Аляксея Карпюка** // Бацькаўшчына. № 4 (631). Травень-ліпень 1965. С. 6.

**Залужны, П. Абаронца расейскага імпэрыялізму** // Бацькаўшчына. № 12 (612). Лістапад 1963. С. 2–3.
*Да публікацыі артыкула С. Майхровіча «Выдатны помнік сусветнай літаратуры. Да 775-годдзя «Слова аб палку Ігаравым«.*

**Залужны, П. «Сацрэалізм» ці нявольніцкае выслужваньне?** // Бацькаўшчына. № 8 (608). 15 ліпеня 1963. С. 3–4.
*Водгук на раман І. Гурскага «Улада Саветам».*

**Залужны, П. Сьлядамі «Дабрасельцаў» Кулакоўскага** // Бацькаўшчына. № 11 (495). 13 сакавіка 1960. С. 3–4.

**Залужны, П. Хоць-бы крыху аб’ектыўнасьці!..** // Бацькаўшчына. № 36–37 (520–521). 18 верасьня 1960. С. 4–5.
*Водгук на на рэцэнзію Вас. Бурносава на кнігу вершаў Пімена Панчанкі «Нью-ёркскія малюнкі».*

**«Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва. Кніга 20-я** // Беларус. № 394. Кастрычнік 1992. С. 7.

**Запруднік, Я. «Апошняя трыбуна» Толі Сербантовіча** // Беларус. № 255–256. Ліпень-жнівень 1978. С. 1.

**Запруднік, Я. «Архіпелаг ГУЛАГ» Аляксандра Салжаніцына** // Беларус. № 202. Люты 1974. С. 1.

**Запруднік, Я. «Вянок» Максіма Багдановіча** // Бацькаўшчына. № 1–2 (536–537). Праваслаўныя Каляды. 7 студзеня 1961. С. 5.
*Антон Адамовіч, Б. Даніловіч, Сяргей Палуян, Станіслаў Станкевіч.*

**Запруднік, Я. «Дарогі» Рыгора Крушыны** // Беларус. № 209. Верасень 1974. С. 6.

**Запруднік, Я. «Інтэрнацыянал» Янкі Купалы** // Беларус. № 235. Лістапад 1976. С. 4.
*Да гісторыі Купалавага перакладу.*

**Запруднік, Янка. Антон Луцкевіч. На 100-годзьдзе ад нараджэньня** // Беларус. № 315. Студзень 1984. С. 1, 2.

**Запруднік, Янка. «Крыжовая дарога» Аўген Калубовіч. (Агляд кнігі)** // Беларус. № 345. Сакавік 1988. С. 3.

**Запруднік, Янка. «Мёртвым не баліць» В. Быкава. Новае выданьне** // Беларус. № 321. Ліпень-жнівень 1984. С. 6.

**Запруднік, Янка. М. Мушынскі і ягоная «мэтадалёгія». Адказ менскаму крытыку** // Беларус. № 350. Жнівень 1988. С. 6.

**Запруднік, Янка. Паэтычнае заглыбленьне ў мінуўшчыну. Па старонках зборніка Сяргея Панізьніка «А пісар земскі…»** // Беларус. № 424. Травень 1995. С. 5.

*Дагмара Волкат, Іван Чыгрынаў.*

**Зубкоўскі, В. Найбольш і найменш папулярны. (Пра В. Быкава і А. Адамовіча)** // Беларус. № 319. Травень 1984. С. 4.

**Кавыль, Міхась. Мой адказ Рамановічу [Рыгору Крушыне]** // Бацькаўшчына. № 1–2 (437–438). Праваслаўныя Каляды 1959. С. 7.

*Адказ на артыкул К. Рамановіча «Думкі аб паэзіі».*

*К. Акула, Галубіцкі, Ул. Дубоўка, Ул. Дудзіцкі, Ул. Жылка, Золак, У. Клішэвіч, Янка Купала, М. Нікановіч, А. Салавей, Ул. Сцяблевіч.*

**Казека, І. Самавольнае абыходжаньне зь літаратурнай спадчынай** // Бацькаўшчына. № 12–13 (294–295). 25 сакавіка 1956. С. 3.

*Зм. Бядуля, Кузьма Чорны, Янка Купала.*

**Калодка, А. Украінская рэцэньзія на кнігу др. Я. Малецкага «Пад знакам Пагоні»** // Беларус. № 258. Кастрычнік 1978. С. 5.

**Кіпель, Вітаўт. Улік спадчыны Коласа й Купалы** // Беларус. № 310. Сакавік-травень 1983. С. 4–5.

**Клёнаў, Андрэй. Вершы й проза Васіля Макарэвіча** // Беларус. № 268. Жнівень 1979. С. 5.

**Кніга Аркадзя Львова. («Утоление печалью»)** // Беларус. № 312. Жнівень-верасень 1983. С. 8.

*Спроба даследаваць гебрайскую ментальнасць на прыкладзе рускамоўных пісьменнікаў.*

**Козыр, М. Спадчына Адама Бабарэкі** // Беларус. № 106. Студзень 1966. С. 3.

**Козыр, Міхась. Да публікацыі артыкулу Ул. Дубоўкі «Смачны жабе арэх…» [Сёе-тое]** // Бацькаўшчына. № 29–30 (564–565). 23 ліпеня 1961. С. 2.

**Козыр, Міхась. Масква, твайму хвальшу няма межаў!** // Бацькаўшчына. № 10 (545). 5 сакавіка 1961. С. 3.

*Да перакладу паэмы Байрана Ул. Дубоўкам («Голас Радзімы». № 94).*

**Козыр, Міхась. Прабачэньне за перадчасны камэнтар верша «Грэх на сэрцы цяжкі» за подпісам «М. Кавыль» («Голас Радзімы», № 70). [Сёе-тое]** // Бацькаўшчына. № 8 (543). 19 лютага 1961. С. 1, 4.

**Крушына, Рыгор. Байкі Вінцука Адважнага. (Вінцук Адважны: «Байкі і іншыя вершы». Часткі 1 і 2. Лёндан. 1973, бачынаў 362)** // Беларус. № 200. Сьнежань 1973. С. 3.

**Крушыніч, Ст. Алёйза Пашкевічанка-Цётка** // Беларус. № 107. Люты 1966. С. 3.
**Крушыніч, Ст. Беларуская мастацкая проза 1967 году** // Беларус. № 131. Сакавік 1968. С. 6.
**Крушыніч, Ст. Беларуская падсавецкая паэзія 1967 году** // Беларус. № 130. Люты 1968. С. 6.
**Крушыніч, Ст. Вера Вярба — маладая беларуская паэтка** // Беларус. № 119. Сакавік 1967. С. 6.
**Крушыніч, Ст. Зьмітрок Бядуля-Ясакар** // Беларус. № 110. Травень 1966. С. 3.
**Крушыніч, Ст. Карыкатура на савецкую рэчаіснасьць. [Камэдыя А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце»]** // Беларус. № 81. Сьнежань 1963. С. 2–3.
**Крушыніч, Ст. Літаратурнае ўбоства ў БССР** // Бацькаўшчына. № 5–6 (136–137). 8 лютага 1953. Літаратурны дадатак. С. 5.
**Крушыніч, Ст. Не адзін Кулакоўскі. «Каб людзі не журыліся» Андрэя Макаёнка** // Бацькаўшчына. № 9 (445). 1 сакавіка 1959. С. 3, 4.
**Крушыніч, Ст. Паэзія Максіма Танка 1965 году** // Беларус. № 106. Студзень 1960. С. 3.
**Крушыніч, Ст. Песьні пра «лугі з рамонкамі». (Рыгор Крушына: «Выбраныя творы». Выд. «Бацькаўшчыны», Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1957, 178 с.)** // Бацькаўшчына. № 11–12 (345–346). 25 сакавіка 1957. Літаратурны дадатак. С. 5–6.
*Фота Рыгора Крушыны.*
**Крушыніч, Ст. Праблема чалавека й чалавечнасьці ў сучаснай беларускай літаратуры** // Беларус. № 101–102. Жнівень-верасень 1965. С. 4.
**Крушыніч, Ст. Сяргей Панізьнік** // Беларус. № 120. Красавік 1967. С. 5.
**Крушыніч, Ст. У праўдзівым люстры. На маргінэсе аповесьці Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы»** // Бацькаўшчына. № 27 (413). 20 ліпеня 1958. С. 2–3.
**Крушыніч, Ст. Цяжкае асуджэньне сталінізму** // Беларус. № 99. Чырвень 1965. С. 2.
*Адлюстраванне сталінскага тэрору ў беларускай прозе.*
**Крушыніч, Ст. Якуб Колас у новым сьвятле** // Беларус. № 127. Лістапад 1967. С. 1.
**Крыніца, А. Магутная сіла-краса [Максім Багдановіч]** // Беларус. № 3 (9). 30 травеня 1952. С. 3.

**Куліковіч, М. Аб беларускай савецкай паэзіі. Артыкул першы** // Бацькаўшчына. № 40 (374). 6 кастрычніка 1957. С. 4; **Артыкул другі** // Бацькаўшчына. № 42–43 (376–377). 31 кастрычніка 1957. С. 11; **Артыкул трэйці** // Бацькаўшчына. № 48 (382). 1 сьнежаня 1957. С. 3; **Артыкул апошні** // Бацькаўшчына. № 49 (383). 8 сьнежаня 1957. С. 3.

**Куліковіч, Мікола. Нацыянальныя вызвольна-адраджэнскія ідэі ў савецкай беларускай літаратуры й мастацтве** // Бацькаўшчына. № 6–7 (288–289). 11 лютага 1956. С. 5–6; № 8 (290). 19 лютага 1956. С. 2–3; № 9 (291). 26 лютага 1956. С. 3; № 10 (292). 4 сакавіка 1956. С. 3; № 11 (293). 11 сакавіка 1956. С. 3; № 12–13 (294–295). 25 сакавіка 1956. С. 7–8.

**Куліковіч, Мікола. Паэзія душы й розуму. [Натальля Арсеньнева]** // Бацькаўшчына. № 11–12 (90–91). 25 сакавіка 1952. С. 6.

**Куліковіч, Мікола. Рэлігійныя матывы ў паэтычнай творчасьці Янкі Купалы** // Бацькаўшчына. № 28 (512). 17 ліпеня 1960. С. 2–3.

**Куліковіч, Мікола. Талент і партыйнасьць** // Бацькаўшчына. № 40–41 (524–525). 16 кастрычніка 1960. С. 1.

*Творчасьць Антона Бялевіча ў ацэнцы крытыка Рыгора Бярозкіна.*

**Кушаль, Ф. «Змагарныя дарогі»** // Беларус. № 75. Сакавік 1962. С. 3; Бацькаўшчына. № 9 (593). 20 травеня 1962. С. 4.

*Станоўчы водгук на кнігу Кастуся Акулы.*

**М. С. Палітыка літаратурных уплываў** // Бацькаўшчына. № 20–21 (456–457). 24 травеня 1959. С. 6.

*Працэс адмірання нацыянальнага ў беларускай літаратуры.*

**М. С. Сацыялістычны псэўдарэалізм. [З радыёвай хвалі «Свабоды»]** // Бацькаўшчына. № 39 (523). 9 кастрычніка 1960. С. 2.

*Фальшаванне рэчаіснасці ў падсавецкай беларускай літаратуры.*

**Майхровіч, С. Малавядомыя творы Янкі Лучыны** // Бацькаўшчына. № 46 (246). 13 лістапада 1955. С. 3.

**Макмілін, Арнольд. Вайна й мір Васіля Быкава** // Беларус. № 320. Чырвень 1984. С. 3.

*Перадрукавана з часапісу «Die Welt der Slawik», 1982.*

**Мальдзіс, Адам. Пошукі, пошукі…** // Бацькаўшчына. № 9 (609). 1 жнівеня 1963. С. 3.

*Перадрук з: Літаратура і мастацтва. 12.07.1963.*

*Пошукі беларускай літаратурнай спадчыны XIX стагоддзя.*

**Мацкевіч, К. «Віцік Жывіца»** // Бацькаўшчына. № 21–22 (152–153). 31 травеня 1953. Літаратурны дадатак. С. 6–7.
*Водгук на аповесць Фларыяна Чарнышэвіча, выдадзеную ў Аргенціне Аб'яднаннем польскіх літаратараў і журналістаў.*
**Месца Праньціша Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры** // Беларус. № 100. Ліпень 1965. С. 6.
**Н. Пад цяжарам афіцыйнае догмы** // Бацькаўшчына. № 24–25 (410–411). 29 чырвеня 1958. С. 5.
*Рэцэнзія на п'есу Пятра Глебкі «Святло з усходу».*
**Н. А. Савецкія сьляды нашаніўскага верша. [Гальяша Леўчыка]** // Беларус. № 116. Сьнежань 1966. С. 2.
**Надсон, Аляксандар, а. Ліст у Рэдакцыю** // Беларус. № 317. Сакавік 1984. С. 4.
*Каментар да «Англійскага дзённіка» Адама Мальдзіса («Голас Радзімы»).*
**Наш вялікі здабытак. Да выхаду зборніка паэзіі Янкі Купалы «Спадчына»** // Бацькаўшчына. № 17 (247). 24 красавіка 1955. С. 1.
**Нашыя чытачы аб спадчыне Янкі Купалы. «Ёсьць што самому прачытаць і другім паказаць»** // Бацькаўшчына. № 49 (279). 4 сьнежаня 1955. С. 4.
*К. Мерляк, М. Наўмовіч, а. Ч. Сіповіч.*
**П. С. Броўка піша камсамольцам** // Бацькаўшчына. № 43 (429). 9 лістапада 1958. С. 4.
**П. С. «Лекцыя Стэндаля»** // Бацькаўшчына. № 37 (371). 15 верасьня 1957. С. 3–4.
*Водгук на аднайменны артыкул Іллі Эрэнбурга.*
**П. У. «Забытыя імёны»** // Бацькаўшчына. № 44 (326). 28 кастрычніка 1956. С. 1–2.
*Водгук на артыкул І. Баса пра забытую літаратурную спадчыну беларускага народа XIX ст. («Літаратура і мастацтва». 13 кастрычніка 1956).*
**Пакажам сьвету запраўднага Купалу. Да выданьня вялікага зборніка твораў Янкі Купалы** // Бацькаўшчына. № 3 (185). 17 студзеня 1954. С. 1.
**Палякі аб Янку Купале** // Бацькаўшчына. № 25–26 (307–308). 24 чырвеня 1956. С. 2.
*Тут жа: верш Купалы «Перад будучыняй» у перакладзе на польскую мову З. Багдановіч і верш польскага паэта Ежы Аўдыскага (Jerzy Awdyski) «Ваша будучыня», напісаны ім пад уплывам верша Купалы.*

**Памажыце зрабіць карысную справу! Да справы выданьня твораў Максіма Багдановіча** // Бацькаўшчына. № 6 (392) 9 лютага 1958. С. 2; № 11–13 (397–399). 25 сакавіка 1958. С. 12.

**Папулярызацыя «Змагарных Дарог» К. Акулы. [Сёе-тое]** // Беларус. № 84. Сакавік 1964. С. 5.

*Ацэнка твора ў бальшавіцкім друку.*

**Паўночнае зьзяньне. [З радыёвай хвалі «Вызваленьне»]** // Бацькаўшчына. № 45 (379). 10 лістапада 1957. С. 2–3.

*«Поўнач» і «Запаляр'е» ў беларускай паэзіі.*

*Андрэй Александровіч, Алесь Звонак, Мікола Хведаровіч.*

**Першы пераклад твораў Адама Міцкевіча на беларускую мову** // Бацькаўшчына. № 47–48 (277–278). 27 лістапада 1955. С. 8.

*Перакладчык В. Дунін-Марцінкевіч.*

**«Пісьменьнікі Савецкай Беларусі». Бібліяграфічны даведнік** // Бацькаўшчына. № 41 (477). 8 лістапада 1959. С. 4.

**Плач «раба» У. Клішэвіча. [Што чуваць?]** // Беларус. № 154. Люты 1970. С. 6.

**«Польскія дасьледнікі беларускага фальклёру»** // Беларус. № 342. Сьнежань 1987. С. 5.

*Пад такой назвай змешчана рэцэнзія Міхала Шахновіча («Кантрасты». № 3. Сакавік 1987) на кнігу Мсціслава Аляхновіча «Польскія даследнікі беларускага фальклёру і мовы ў XIX ст.», Лодзь, 300 с. Упершыню тут даецца шырокі агляд пытання.*

**Прапануем набыць біяграфічна-літаратурнае дасьледваньне Леаніда Зубарава «Максім Багдановіч»** // Беларус. № 362. Верасень 1989. С. 5.

**Прынскі, Максім. Да «Кургана» Я. Купалы** // Бацькаўшчына. № 33 (315). 12 жнівеня 1956. С. 2.

**пс. Дзясятая Муза** // Бацькаўшчына. № 23 (558). 4 чырвеня 1961. С. 4.

*Да публікацыі артыкула Ул. Дубоўкі «Смачны жабе арэх, ды зубоў богня даў» («Голас Радзімы». № 35).*

**пс. Сакрэт папулярнасьці кнігі** // Бацькаўшчына. № 6 (340). 10 лютага 1957. С. 1.

*Ул. Дудзінцаў «Не хлебом единым».*

**Härмановіч, К. Вее вецер поўначы** // Бацькаўшчына. № 28–29 (310–311). 15 ліпеня 1956. С. 6.

*Матывы поўначы ў вершах беларускіх паэтаў, што вярнуліся з высылкі.*

**Рамановіч, К. Дапісаны верш** // Бацькаўшчына. № 24 (460). 14 чырвеня 1959. С. 4.
*Верш П. Броўкі «Вясновая кніга».*
**Рамановіч, К. Думкі аб паэзіі** // Бацькаўшчына. № 32 (418). 24 жнівеня 1958. С. 2–3.
**Рамановіч, К. Кніга пра савецкіх Палешукоў** // Бацькаўшчына. № 9 (343). 3 сакавіка 1957. С. 1, 4.
*Аповесць Юрыя Памозава «Моё Полесье» («Звезда». Лістапад 1956).*
**Рамановіч, К. «Ля ціхай брамы» — «Шорах моўкнасьці». [Рэцэнзія]** // Бацькаўшчына. № 30–31 (260–261). 21 ліпеня 1955. С. 7.
*Ул. Пеляса, Масей Сяднёў, Янка Юхнавец.*
**Рамановіч, К. «Маладняк»** // Бацькаўшчына. № 12–13 (294–295). 25 сакавіка 1956. С. 8.
*Да гісторыі часопіса.*
**Рамановіч, К. Маці кліча сына** // Бацькаўшчына. № 36–37 (520–521). 18 верасьня 1960. С. 4.
*Верш Кастуся Кірэенкі «Кліч».*
**Рамановіч, К. Паэзія «геалёгаў». [З радыёвай хвалі «Вызваленьня»]** // Бацькаўшчына. № 23 (409). 22 чырвеня 1958. С. 3.
*Андрэй Александровіч, Сяргей Грахоўскі, Алесь Звонак, Мікола Хведаровіч, Станіслаў Шушкевіч.*
**Рамановіч, Кастусь. Зьдзек зь беларускае літаратуры** // Бацькаўшчына. № 10 (594). 1 ліпеня 1962. С. 3.
*Пятрусь Броўка.*
**Раманы Масея Сяднёва. Водгукі з Аўстраліі** // Беларус. № 346. Красавік 1988. С. 6.
**Р. С. Савецкі пяты том твораў Купалы** // Бацькаўшчына. № 1–2 (615–616). Студзень-люты 1964. С. 6.
**Р. С. «Чорныя рабы» й белы хлеб** // Бацькаўшчына. № 17 (501). 24 красавіка 1960. С. 1.
*Вершы П. Броўкі, напісаныя падчас побыту ў Амерыцы.*
**Рэцэньзія на аповесьць К. Акулы «Tomorrow is Yesterday» у «Таронта Сан» (12 ліпеня 1973). [Што чуваць?]** // Беларус. № 196. Жнівень 1973. С. 6.
**Рэцэньзія праф. Ант. Адамовіча на анталёгію беларускае паэзіі па-ангельску ў перакладзе Веры Рыч (выд. ЮНЭСКО), зьмешчаная ў часапісе «Славік Рэв'ю», № 4, сьнежань 1973** // Беларус. № 202. Люты 1974. С. 6.
**С. «Беларуская літаратура за мяжой»** // Бацькаўшчына. № 38–39 (474–475). 18 кастрычніка 1959. С. 5, 7.

